КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА
ВЫПУСК 10

Ала Сямёнава

# У святой краіне выгнання

## Імпрэсіі, адлюстраванні

Мінск
«Кнігазбор»
2011

# *Раздзел I.*
# СВЯТЛО ЗАГАДКІ

*Маім землякам,*
*людзям Навааградчыны,*
*прысвячаю*

## ДРЭВА ЖЫЦЦЯ

Раней гэта быў горад рыцараў і паэтаў. У пару сваіх ружовых мрояў і белых бантаў яна адчувала іх прысутнасць не толькі ў памяці чытаных кніг. І нават не толькі ў гэтым, спракаветным: «Дзве вежы вякі тут збіраюць на веча...» Ёй здавалася — у самім паветры ёсць нешта куды больш адчувальнае, як сама рэальнасць атачэння. Водгук, водбліск ідэалаў мінулага, ідэалаў вечнага. Аблічча ж зямлі нібыта давала расшыфроўку душы гэтых мясцін.

Ёй пашанцавала. Яна мела магчымасць зведаць гэты эліксір, бальзам, канцэнтрат духу. Глытала не разбаўленае бензінавым чадам і мітуслівым галёканнем натоўпу паветра, а зведала чысты, натуральны экстракт нябёс, настоены на паэзіі быцця, водары эпох, рамантычных марах, практыкаваннях інтэлекту і на непахісным кодэксе местачковых суадносін.

Ёй пашанцавала. Тут — яе пачатак...

Яна кожнага года вяртаецца сюды...

Дзеля чаго? Каб закансерваваць надзейна ўспаміны? Пахі, колеры, адчуванні маленства? Сустрэць людзей юнацтва? Большасць з іх далёка адсюль. Ці ўвогуле па той бок добрага і злога. Не, яна едзе не толькі таму, каб пакласці кветкі на іх магілы. Хаця на могілкі абавязкова ідзе...

...Можа, яна вяртаецца сюды таму, што толькі тут і было сапраўднае? Бо толькі чаканне — існае? У спраў-

джаным канкрэтыка руйнуе наслойванне шматлікіх сэнсаў. Гармонія першапачатковая, harmonia praestabilitata, раскідваецца, распадаецца на відавочнае, веды трушчаць непахіснасць таямніц. Цуд быцця блякне ад нудоты штодзённага, рэчаіснасць запіхвае індывідуума ў натоўп, у выпадковыя соцыумы — суседзяў, супрацоўнікаў, сустрэчных, пляжыць асобу ў чарговых гістарычных сутаргах.

...Яна ўвесь час збіраецца ехаць. А дні бяруць у палон. Мінае зіма, ідзе вясна, пракручваецца, як у калейдаскопе, лета, надыходзіць восень. І толькі недзе прыземкам, як у палонку, яна кідаецца ў вандроўку. І, прыехаўшы, разумее, чаму нікому не дала званка. Не напісала. І не будзе спяшацца тэлефанаваць.

Яна павінна быць тут сам-насам. Любая прысутнасць канфіскуе яе галоўны скарб. Прывідны? Мабыць. Рэальны? Таксама магчыма. Але ў кожным выпадку бясспрэчна — калі нехта побач, знікае адчуванне сябе адзіным суб'ектам сярод мноства існасцяў, якія так доўга і пэўна займаюць сваё месца — у Космасе, Сусвеце, на планеце Зямля, на гэтай геаграфічнай прасторы, з пэўнымі гістарычнымі адзнакамі.

Замкавая гара... Касцёл... Цэрквы... Парк... Пагоркі...

Горад увесь на пагорках. Скрутак вуліц, што стройным рэзрухам, ладным бязладдзем колькі ўжо стагоддзяў імчаць уніз з цэнтральнага пляца стромымі зломамі.

Гэты пейзаж пракручваецца ў яе ўяўленні як часткі святога ружанца. Sanctum Sanctorum. Святая святых.

Яна магла б прамовіць, як Сальвадор Далі: пейзаж майго дзяцінства, юнацтва і ўсяго жыцця.

...Людзі яе жыцця. Знаёмыя...

Абавязковыя візіты...

Ці блізкія ёй людзі, якім яна абавязкова надае ўвагі? Блізкія. На аддаленасці. І аддаленасць тая не залежыць ад прасторавай дыстанцыі, што паміж імі. На суседняй вуліцы, у недалёкім горадзе, побач... Аддаленасць, дыстанцыя — як неабходны і бясспрэчны гарант суадносін.

Гэта для яе мела надзвычайную прыцягальнасць. Не інакш. Аддаленасць рабілася абсалютам, ператваралася ў самамэту, у нешта выразна эйдэтычнае.

Гукі званоў плывуць — як некалі. І так, як тады, галгочуць вароны ў восеньскі, халаднавата-адчужаны дзень. І водар гэтае пары — даўні, памятны. І сённяшні — недалёкія кастрышчы, спелы яблычны дух... Дадаецца яшчэ нешта — раней не было... Смурод ад машын... Нешта няўлоўнае... Пах часу?

І яна спадзяецца... І выракаецца ўсяго... Як тады. І як сёння. Нават смерць, што падціснулася бліжэй, на велічыню збытых гадоў, — на аддаленасці непрыняцця. На нейкі час. Не in aeternum — не назаўсёды.

Яна едзе ў гэты горад, каб адчуць свой сённяшні стан як інерцыю папярэдняга руху.

Бяжыць ад будзённага жыцця? Так. Але не толькі таму. Хоча наноў адчуць хараство свету? Пазнаць, дзе ж там, у высокай Натуры, месціцца яе мястэчковае ego?

Вярэдзіць пытанне — у якіх усё ж суадносінах яно з еўрапейскай свядомасцю? З сусветным вопытам? Які спектр мае для яе святло Загадкі? Загадкі Быцця. Дзе найвялікшая таямніца вымагае маўчання. І самае Высокае Імя не вымаўляецца наўслыш...

Горад пачатку... Частка яе істоты. Яе існасці. Горад, у якім спрасаваліся Вечнасць і Гісторыя. І імгненні рэальнага сённяшняга жыцця. Горад, што ніколі не знікаў у яе ўсведамленні.

Менавіта тут ім згадвалі некалі — урачыста, пафасна, з націскам: уваходзіце ў жыццё. Адным з іх жыццё здавалася простым арыфметычным дзеяннем: дадаць, падзяліць, вылічыць. Другім — складаным рэбусам. Трэцім — рызыкоўнай гульнёй. Чацвёртым — абавязкам. Пятым... Вялікай Таямніцай, загадкай, калі магчыма «пабачыць тое, пра што не было сказана ім, і даведацца таго, чаго не чулі...».

Яна вяртаецца сюды. Да пейзажу жыцця. Пейзажу душы. «У кожнай справе май давер да душы сваёй...»

І хаця знаёмая тут амаль кожная цагліна і кожнае дрэва, гэта яе orbis terrarum[1] і terra incognita[2].

## IN RERUM NATURA[3]

Тую частку магістралі, што па Брэсцкай шашы, Дана прамінае, быццам похапкам перагортвае старонкі кнігі, дзе важна хутчэй патрапіць на патрэбныя радкі. Аўтобус збочвае да Міра. І тут яна ўглядаецца ледзь не ў кожную сцежку і кожную травінку.

Пачынаюць тоўпіцца ўспаміны.

І недзе за Сяльцом, калі, па сутнасці, пачынаецца ўжо яе горад, віднеюцца вежы. Як сімвал. Як аблічча жыццёвай інерцыі.

Прыгожыя. Можа, асабліва прыгожыя таму, што гэта рэшты вежаў. Рэшты былой велічы. Былой славы. Адзнакі былой красы.

Калі толькі адзнакі — можна заўсёды намысліць Бог ведае які цуд, што некалі меўся быць. Яна так сабе і ўяўляла. Трансфармуючы абрысы. То маючы ў думках вытанчаную тэктоніку і дэкор, як у Ішкальдзі і Сынкавічах. Маці неяк вазіла Дану паглядзець славутыя святыні, едучы ў Баранавічы і Зэльву, — на тую пару вялікае падарожжа. Пурпуровы спакой цэглы і белая цнота аздобы. А то можна было ўявіць сабе непахісныя змрочныя муры, як дзе-небудзь у Шатландыі. Або — ганарліва-надзейны данжон і бакавыя вежы, нібыта ў Каркасоне. А ўсё можа быць — высілася тут гарэзлівая ці то вежа, ці то званіца, накшталт Сэн-Мішэль д'Эгіль — наўпрост выйшла на размову з небам.

---

[1] Зямны круг, зямля, свет (*лац.*).

[2] Невядомая зямля (*лац.*).

[3] У прыродзе рэчаў (*лац.*).

(Тут і далей цытаты, за выключэннем выпадкаў, калі ёсць друкаваны беларускі варыянт, падаюцца ў перакладзе аўтара. Там, дзе перастварэнне на беларускую мову змяняе стылістыку і рытміку тэксту, пакінуты выразы на мове арыгінала.)

Фантазія Даны рэальна сыцілася скарбам на гарышчы суседскай бабулі — Варвары Мікалаеўны. Побач з Дзюма-бацькам і Стывенсанам там былі Сянкевіч, кнігі па гісторыі архітэктуры: Рандэлье, Факільён, Обэр, Забжыцкі. Кнігі на польскай, рускай, французскай. Асобныя нумары «Нашай Нівы» — лацінкай. Французскай Дана не ведала, але школьная англійская давала нейкі ключык, і муры ў аўры незнаёмых, загадкавых слоў, сэнс якіх часам можна было ўгадаць, былі яшчэ больш вабліва-таямнічымі. І мелі сувязь з крушняй камення і цэглы на гары перад яе вокнамі.

Неяк пазней Дана пабачыла зроблены паводле ўсіх навуковых высноў малюнак-рэканструкцыю замка і была не тое каб расчараваная, але гэтая зусім пэўная, застылая ў сваёй відавочнай завершанасці форма пярэчыла мройлівай перманентнасці яе рухомых вобразаў.

Вежы тыя бясконца малявалі, фатаграфавалі, здымалі ў кіно, апісвалі — і ў яе было адчуванне гонару: маё. І адчуванне крыўды, нібыта ў чалавека, якога рабуюць белым днём. Маё! Ракурс, у якім найбольш падавалі вежы, быў відам з іх вокнаў. Хаця ў картатэцы яе памяці было некалькі вобразаў-краябразаў горада. Калі глядзець на горад з прабоіны бакавой вежы — касцёл, дахі дамоў, зялёныя купы дрэў, воданапорная вышка, белыя калоны яе дома, ускраек лесу каля Сяльца. Калі ісці абарончым валам замка: панарама горада, ваколіц, вуліцы, вулкі, зялёная пестрадзь парку, пагоркі, жыты, хмызнякі... І яшчэ — яе горад, які мала хто паказваў і ведаў, — не з усходняга, а з паўночна-заходняга боку. Падобны на ўсе старажытныя, сярэднявечнай забудовы, гарады. Горад — на ўзгорку, увесь бела-зялёны, з высакароднымі бела-чырвонымі адзнакамі. Шаравата-чырвоныя цагляныя вежы замка, белы касцёл пад чырвонай дахоўкай. Бела-зялёны — таму, што Дана бачыла горад адсюль улетку і ўвосень — класа з чацвёртага яны хадзілі ў калгас каля возера Літоўка. Летам — палоць лён, восенню — капаць бульбу. Пешшу — хто ж то ездзіў за чатыры кіламетры

на тую пару! У Літоўку ісці было лёгка — раніца, свежа, ненатомлена. З Літоўкі — прыемна: дахаты.

Гасцінец быў стары, «кацярынінскі» — не такія нікчэмныя былі тыя «пацёмкінскія вёскі» — абсаджаны дрэвамі. Брукаванка. Ісці было зручна — усе спрэс дзеці і падлеткі, з вясны да восені, шыбавалі ў «балетках», тапках-гумавіках. Ісці было звычна — радыус кіламетраў з дзесяць, а то і дваццаць, пераадольвалі больш пехатою. Ці на фурманцы. Машынэрыя прыйшла пазней. І хаця ад вайны было ўжо гадоў сем–дзесяць, аўто лічыліся нармальнай з'явай, але звычайным сродкам перасоўвання не сталі.

Горад нейкі час вабліва захоўваў выгляд старадаўняй гравюры, што набыла колер. Потым паволі набліжаўся — нібыта наязджала на яго кінакамера. І ўрэшце набягаў знаёмымі вулкамі — яны спяшаліся ад цэнтральнага пляца на шляхі: Гродзенская, Слонімская, Мінская.

Тое даўняе жыццё ішло пэўным, зададзеным нібыта самой натурай рытмам. Лета доўжылася некалькі месяцаў, не праскоквала гарачым бензінавым пеклам. Былі канікулы: бясконцыя, бесклапотныя. Можна было рабіць усё, што зажадаецца. Сноўдацца бясконца па парку і ваколіцах, чытаць кніжкі, сядзець на ўлюбёнай лаўцы пад касцёлам, хадзіць да касцёла, ляцець стрымгалоў на Замкавую гару. Стаяць доўга-доўга ў праёме вежы і адчуваць вецер, які ляцеў здалёк і тут увачавідкі даводзіў, што ён — рух паветра. Рух быў заўсёды імклівы, свавольны і нібыта даказваў няўмольна, што жыццё — таксама рух. І яна адчувала тое фізічна, усёй істотай. Нібыта існаванне вось у гэтыя хвіліны набывала свой сутнасны сэнс, а сутнасць кандэнсавалася ў моманце.

Пасля таго бязмежна доўгага лета надыходзіла восень — непаспешлівая, спакваля. І шкаленне здавалася разумнай зменай, натуральнай, патрэбнай. Пачыналі выбіраць бульбу, лістота спакойна ўбіралася ў вераснёва-кастрычніцкі цвет, на гарышчы пахла штрыфелем і грабштэйнам, над печчу падвісалі вязкі цыбулі. Ваколле поўнілася злагадай, паспакайнелым сонечным свят-

лом. Ставілі другія рамы, мылі аконныя шыбы, варылі журавіны з ігрушамі, сушылі грыбы. Журавы зацягвалі сваю шчымліва-развітальную коду. Ва ўсім было адчуванне законапарадку прыроды. Дзень не драбніўся мітуснёй, поўніўся зменшанай даўжынёй сваёй. Саступаў месца доўгай ночы. А спакойная цеплыня — ліставею. Прымаразкам.

Зіма таксама не абрыналася знянацку, а прыходзіла — чаканая, светлая, снежная. Снег полуднем на гасцінцы заўсёды падтаваў, але горы, пагоркі меліся быць густа заснежанымі, парк стаяў нечапана-белы, а клёны, што звісалі насупраць іх дома над студняй і дарогай, набывалі суцэльна казачны выгляд. Каляды і Новы год, а вясной — Вялікдзень, надыходзілі пад канец чвэрці, кантрольныя зазвычай ужо адбыліся, адзнакі выстаўленыя, усе рыхтуюцца да святаў: ладзяць яліны, фарбуюць яйкі, пякуць, смажаць, вэндзяць. Рыхтуюць маскарадныя строі. Розрыўка канікул. Бібліятэкі. Кнігі. Санкі. Лыжы. Драмгурток. Вечары...

...Усе былі занятыя сваёй справай. Маці хадзіла на працу, Ніна, а пазней Зося, паліла ў печы і гатавала. Дана хадзіла ў школу. Зіма, лета, восень — кругазварот адбываўся ў тэмпе і рытме, зададзеных адвеку, упэўнена і цвёрда. Аднастайнасць была адзнакай жыццёвага парадку. Не ператвараючыся ў сумоту. Яна, гэтая аднастайнасць, нібыта нагадвала пра той вобраз, што мы трымаем у сваім усведамленні, — ідылію. І неяк зводзіла на нішто крыўды, няўладзіцы, боль.

Ці гэта ружовы падман памяці? Салодкае мроіва з-пад завесі гадоў? А быў — звычайны распарадак правінцыі? І для Даны ён выдаваў прыдатным пачаткам жыцця. І яна яшчэ ўспрымала гэты кругабег як адну са шматлікіх фігур жыццёвай дыстанцыі, уяўляючы, што сваім намаганнем зможа выбіраць варыянты — простую лінію і актаэдр, трыкутнік і спіраль. Гармонія — адзіна магчымая выява светапарадку, лічыла яна. Апакаліпсіс, катастрофы — гэта адбываецца на біблейскім, гістарычным прасцягу. Адно чалавечае жыццё можа і прамінуць

тыя катаклізмы. Вайна — была. У раннім маленстве. Усявышні не можа дадаваць зашмат выпрабаванняў на адно жыццё.

Маці хутчэй за ўсё гэтай гармоніі не адчувала. Для яе той кругабег, мабыць, быў калаўротам дзён.

**ДУША РЭЧАЎ**

З ранку да вечара маці была ў судзе. А людзі па звычцы заходнікаў ішлі любым часам і дахаты. «Пані адвакат, маю да Вас інтэрас». З таго «інтэрасу» маці рана займела гіпертанію. «Святар, лекар і адвакат не маюць права адмовіць, калі іх просяць», — прамаўляла яна. Грошы ад таго таксама не вяліся. Што? Яна?! Па-за працай будзе браць ганарар? З каго? Маці прыгадвала які выпадак з практыкі. Як хлопчык ухапіў бохан хлеба са стала гаспадыні, дзе рабіла яго маці: у сваёй хаце з голаду заходзіліся плачам тры малодшыя дзяўчынкі. «Грамадзяне-суддзі, пашкадуйце мяне, як я пашкадаваў сваіх сястрычак», — даводзіў ён у сваім «апошнім слове».

Маці абуралася: «І я буду браць грошы?» І ехала з апеляцыямі ў абласны суд і ў Мінск — у Вярхоўны суд. «Паводле 55-га» — быў такі артыкул у кодэксе. У перакладзе на мову звычайную гэта мела на ўвазе: без грошай, без ганарару.

Да працэсаў маці рыхтавалася, як да экзамену, — не, як да прэм'еры, бенефісу. Штудыявала матэрыялы справы, чытала прамовы Цыцэрона, Коні, Плевака, Спасовіча, Аляксандрава, Карабчэўскага... Згадвала вершы — паэзію вельмі любіла, да прозы ставілася досыць прахалодна. Пакрыёма цытавала Біблію.

Маці мела поспех і кліентуру. Ездзіла і ў Баранавічы, і ў Ліду, і ў Дзятлава, і ў Гродна. Тамтэйшыя юрысты меркавалі, што па справах непаўналетніх у іх калегіі адвакатаў ёй не было роўных. Тое ж пацвярджаў Яша Найман з суседняга класа. Яго меліся судзіць за крадзеж зброі — і Яша скрушна згадваў: «Ледзь было не расказаў усё. Ну, умее...»

Адзетак быў на маці заўсёды што з голкі зняты. Чорная спадніца, белая шыфонавая блузка з нейкімі выштукаванымі складкамі. Або строгая ліловая сукня з крап-сацiну. І яшчэ нейкія строгія бэжавыя, шэрыя, белыя, бэзавыя — заўсёды аднакалёрныя — строі. І самы прыгожы, на погляд Даны, гарнітур: шыфонавая чорная сукенка з набiўнымі, далікатнага абрысу кветкамі — і белае паўпаліто з воўны. Паліто называлася труакар. Заўсёды высокі абцас, панчохі, нават калі ўсе млелі ад спёкі. «Суд — установа сур'ёзная», — мелася тлумачыць маці. Учасанне ў яе было не падобнае ні да кога. Як на здымках і карцінах канца — пачатку стагоддзя: высока паднятыя, забраныя з усіх бакоў валасы, адзін да аднаго. Божа барані, аніякіх свавольных кудзерцаў.

Дану маці прымушала плесці косы, каб аж валасы трашчалі, ніякіх гарэзлівых пасмачкаў; на патыліцы снежна-белыя банты.

Усё павінна было, паводле ўяўленняў Вольгі Станіславаўны, блішчаць і зіхацець — вопратка, хата, бялізна. Маці не давала фарбаваць падлогу — яе мылі гарачай вадой з мылам і драцяной шчоткай. Чатырнаццаць вёдраў на другі паверх, чатырнаццаць — назад. Бялізну, абрусы, сурвэткі маці мыла сама, устаючы гадзіны ў чатыры раніцы. Была ў іх хатняя гаспадыня. Але Ніна глядзела на патрабаванні абсалюту як на дзівацтва пані — а хай яна спрахне, тая бялізна. Калі толькі надыходзіла пара мыць, Ніна пачынала, як цяпер кажуць, гнаць карцінку прыгнечанай істоты. «Увесь свет насілля мы разбурым...» Ніна ляпала дзвярыма, грукацела вёдрамі, у яе псаваўся настрой, і яна з пакрыўджаным выглядам пазірала, як яе пані ўвіхаецца каля балеі і падкідвае ў печ дровы. Няхай гаспадыня сама таго шыку дабірае. І калі пані, засопшыся, прасавала сукенку і прыбірала ліхаманкава валасы, каб паспець у суд, Ніна касавурылася і чакала яе адыходу. І калі ўрэшце пані адвакат бегма бегла ў суд, Ніна здымала бак з бялізнай з печы, падкідвала дровы — хай сабе гарацЬ, вунь колькі бярозы назапашана — і клалася падрамаць на сваю канапку. Потым шла «правіць візіт»

да Палонскіх, што жылі насупраць. Потым варыла — дзень пры дні, лета, восень, зіму, весну — кіслую капусту. І, прыйшоўшы з працы, маці пачынала з таго, на чым прыпынілася а палове на восьмую. Пра дапамогу Даны пакуль што і гаворкі не было. «Рукі як граблі», — Нінчын прысуд быў канчатковы і безапеляцыйны. А маці — проста шкадавала дачушку.

Стомленая, спрацаваная, маці рабіла пад добрую ноч. Назаўтра, недзе як паласкаць бялізну — рабілі гэта каля студні, на вуліцы, у Ніны выпраўляўся настрой, і яна ўсчынала такую энергічную беганіну, што памосціны лесвіцы стагналі, нібыта выконваў практыкаванні звяз салдат. Паласкаць, развешваць, пільнаваць бялізну — о, тут аказваўся непадробны імпэт. А яшчэ большы энтузіязм граў у жылах Ніны, калі яна пякла пірагі і булкі. Асабліва як гаспадыня была дзе-небудзь у камандзіроўцы. Пірагі ў Ніны былі смачныя — тут яна і гаспадыні не саступіла б, у яе вучылася. І цэлая лаганка печыва вандравала праз дарогу да Палонскіх. Ніне падабалася заскочыць да іх, перакінуцца словам, да таго ж да іх часам наязджаў пляменнік з Рыгі, і Ніна мела на сваё мыслі пэўную надзею. Валік з Брацянкі называў сябе на тамтэйшы балцкі лад Валдысам, печыва ціню́ў, але з'ехаў — ні пылу, ні следу. А Ніна доўга яшчэ бегала з булкамі да суседзяў. І дзьмулася, як толькі надыходзіў дзень мыць бялізну. Ці парадкаваць хату.

А хата... кватэра — была для маці яе крэпасцю, яе кастэляй, яе рэальным апірышчам, набыткам, гонарам, прытулкам не толькі целу, а і душы. Тры светлыя, прыгожыя пакоі. Напачатку і маці, і Дана спадзяваліся, што адзін, асобны, будзе або кабінетам маці, або пакоем Даны. Але такія вольнасці былі не ў пашане, і маці аддала гэты асобны пакой удаве Луізе Генрыхаўне. І засталіся два сумежныя і кухня — агульная, але метраў пад трыццаць, з двума вокнамі, з вялізнай печчу і гэткай духавой шафай — хоць ты сам у яе садзіся. І пакоі — святліцы, з тым самым відам на замак. Два акны і гаўбец — у адным, шырокае акно — у другім. Прыгожыя кафлянкі-

печы. Шафы для кніг, дубовая шафа для адзення. І — гонар Вольгі Станіславаўны, гасцінны гарнітур — дзве вузенечкія высокія шафы, між імі зялёная канапка, а над ёю — авальнае люстра. І высознае, пад самую столь, люстра ў аздобе з чырвонага дрэва. Яны знайшліся недзе на хутары. Легенда, а не мэбля.

Маці выправілася неяк у камандзіроўку, на паказальны працэс у вёсцы. Стала на кватэру ў самотнай, статэчнай жанчыны. Калі вячэралі, тая аднекуль дастала фоткі — ці не ведаеце? У маці мову адняло. Яе маладыя бацькі з незнаёмымі людзьмі. Здымак жанчына не аддала, нават адбіць копіі. А на гарышчы ў скрынях, сярод featured рознага ламачча, паказала разабраны гарнітур. Пылу на ім нагрувасцілася гэтулькі, што то быў ужо не пыл нават, а зямля. Грошай за схоў жанчына браць не схацела, але маці паклала нейкую суму на рахунак і завезла ашчадную кніжку. Кніжка зрабіла ўражанне.

А маці рупілася з хатай. З задавальненнем запрашала гасцей. Пэўна ж, на тую пару ў іх мясцінах мала хто мог пахваліцца такім інтэр’ерам. Маці — барані Бог — праўды нікому не аказвала, а прыдумала вельмі верагодную байку: купіла з «трафейнага» дабра. Тым больш што шафа з надпісам на дзверцах «Emil Bartel. Möbel» на самай справе была прыдбаная такім чынам.

Вольга Станіславаўна засталася задаволеная — фантастычны выпадак, нешта з былога вярнулася. Хай сабе не котлішча, але нейкае гняздзечка ёсць.

...Прыехаўшы на Беларусь напрыканцы вайны, у свой горад яны трапілі не адразу, а вярнуўшыся, з паўгода жылі ў судзе, дакладней — у юрыдычнай канторы маці. У вялікім пакоі быў пісьмовы стол і некалькі зэдлікаў — матчын «кабінет». Запавесаю з паркалю была аддзелена «кватэра»: два ложкі і стос валізак пад покрыўкай — тут табе і стол, і камода, і шафа. Урокі Дана рабіла або на стоўчыку, паставіўшы да яго маленькі нізенькі ставец, або на «камодзе». Сталаваліся зазвычай на матчыным рабочым стале, палуднавалі — што пад сігнал трывогі. Крыху зеванулі — і кліенты пачыналі барабахаць у дзверы.

Увогуле суд месціўся ў катэджы, дзе да вайны, да 39-га, «за польскім часам», жыў адзін з тутэйшых адвакатаў. Іх было ці не дванаццаць. Горад быў цэнтрам ваяводства. І, дарэчы, амаль усе лепшыя дамы належалі адвакатам і натарыусам. За лапік зямлі тым часам судзіліся ледзь не ўсё жыццё.

Цяпер у судзе на першым паверсе быў доўгі калідор, дзе заўсёды тоўпіліся людзі, налева — канцылярыя маці, направа — зала пасяджэнняў, вялізны доўгі пакой, перароблены з ранейшых двух. За ім — маленечкі пакойчык, у якім Дана ніколі не была, менавіта туды «суд накіроўваўся дзеля нарады», як абвяшчаў суддзя. Там выносілі прысуды. Маці заставалася ў зале. «Выступленні бакоў» адбываліся тут. Маці была адным з «бакоў».

Напрасткі па калідоры быў пакой сакратарак і справаводаў — прыёмная, а па абодва бакі прыёмнай — кабінеты суддзяў, першага і другога ўчасткаў. У адзін з гэтых кабінетаў Дана ўвайшла ўпершыню толькі праз шмат гадоў — падзякаваць суддзі, што прыехаў на пахаванне маці. А тады — тады для яе надзвычай прыцягальны быў прыёмны пакой: аграмадныя шкляныя дзверы вялі наўпроста ў сад. Ці то падчас вайны разабралі веранду, ці то не паспелі пабудаваць. Гэта былі не вокны-эркеры, а менавіта дзверы, шырачэзныя, з дзвюма дзверцамі і акном пасярэдзіне. Мелася ў доме яшчэ былая кухня з печчу, на старасвецкі лад прасторная кухня. Прыстасаваць яе, дарэчы, да казённай карысці было цяжка. Усюды толькі дзверы — і адно вузкае акно на пакой метраў пад трыццаць пяць: мабыць, пан адвакат і пані адвакатова лічылі, што кухарыць можна і ў прыцемках. Дык функцыянальнага прызначэння кухня не займела і засталася, так бы мовіць, дадатковым калідорам, побач з якім быў маленькі пакойчык, што ўвесь час мяняў сваё прызначэнне, як і два пакоі мансарды.

Пракуратура месцілася асобна ў двухпавярховым будынку. Стаўленне да гэтых служак закону сярод судоўцаў было насцярожаным, а тыя, падобна, лічылі менавіта

сябе асноўнымі носьбітамі ісціны і ўлюбёнцамі Феміды. Карычневы мундзір, блішчастыя гузікі і недаверлівы позірк. Пракурор з гучным прозвішчам Трубяцкі ставіўся з сумнівам нават да самой прафесіі Данчынай маці. «Вось ты, Вольга Станіславаўна, — цадзіў ён, — ты абараняла солтысаў, старастаў, розных фашыстоўцаў. Гэта таму, што не член партыі. Не разумееш, што абараняць варожы элемент — гэт-та...» Ён шматзначна падымаў палец.

У маці ўзлятала брыво, яна моўчкі адкрывала карабок «Казбека». Ведала, што людзей з НКУСа і пракуратуры лепш слухаць моўчкі.

Трубяцкі неяк увесь час стаяў на шляху Вольгі Станіславаўны. І нават калі ёй далі пуцёўку ў Кіславодск, ухапіў сабе, хаця ўрачы забаранялі — толькі што пасля інфаркту. Ён так і не паглядзеў на той Кіславодск: памёр падчас палёту...

Усё гэта толькі фіксавалася ў памяці Даны, сам Трубяцкі быў ёй чалавек нецікавы. А маці сябравала і з гэтымі людзьмі ў мундзірах. Былі ў яе сяброўкі.

Цікавы для Даны быў судовы сад. Зімовы — калі Азарэвічы толькі прыехалі, белы цалік. Судовым не было часу на шпацыры, іншыя не насмельваліся шыбаваць без дай прычыны па садзе гэтай установы. Аснежаныя прысадзістыя яблыні, зусім замеценыя кусты парэчак. А ўвесну сад рабіўся празрыста-ружовы, светлавата-зялёны, і судовыя сакратаркі, Ядзя і Марыля, хадзілі садам падчас перапынку ў працэсе. Астатнія чамусьці дымілі цыгарэтамі па сваіх пакоях — баяліся збыцца гонару, ці што? Быў адзіны выпадак-выключэнне, але гэта было пазней....

Да лета Азарэвічы з'ехалі з судовай «кватэры». Аднак сад надоўга застаўся ледзь не прыватнай уласнасцю Даны — у судовых былі свае садэ, як казалі ў іх краі, ці службоўцам было не да збору садавіны: кірмаш побач, танны, багаты. Адным словам, парэчкі і маліны з куста ела Дана колькі хацела. А парэчкі былі і белыя, і чырвоныя, і чорныя. Выбірала Дана белыя, пераспелыя, нават крыху падвялыя, салодка-кіславатыя. Яблыкі раслі

тут нейкага зімовага гатунку, летам былі, што камень, Дана не вельмі давала ім рады. Удома хапала наліву і малінаўкі, штрыфелю і грабштэйну, а ўзімку — папяровак.

Так і засталося ў Даны ўяўленне пра суд як пра нешта хатняе, звычнае і — чужое. Хатняе — не так ад таго, што яны там жылі, як ад самога будынка — утульнага катэджа, разлічанага на самавітае і прыватнае жыццё. Чужое... Таму што Дана ніколі не дабрала да стадыі зацікаўленасці тым, што адбывалася ў будынку. Закон — у гэтым слове было для яе нешта далёкае і жорсткае. Суд. Прысуд. Дана ўяўляла пакаранне толькі справядлівым, але тое, што пачынаюць дзейнічаць катэгорыі свету пагрозлівага і таямніча-варожага, выдавала бояззю: кодэкс, прэзумпцыя невінаватасці, падсудны... Некага забілі, некага ашукалі, нехта рабаваў, нехта латраваў... Яна інстынктыўна адстаранялася ад гэтага. Ніводнага разу не ўвайшла падчас працэсу ў залу суда... І не ведала, што гэта было — суцэльны эгацэнтрызм ці натуральнае стаўленне натуральнай істоты?

Пазней, калі Дана ўжо толькі наязджала ў свой горад, дык не любіла прыходзіць у суд яшчэ і таму, што павінна была ўвасабляць палепшаны, квінтэзіраваны, матчын стандарт. Гарнітур, паліто, капялюш, пальчаткі — усё павінна было быць у лепшых традыцыях сям'і Азарэвічаў. «Ты памятаеш Чэхава?» І ў тэатр, і на візіт, і на службу і ўдома каля печы — трэба апранацца адпаведна — і ніякіх капотаў наросхрыст або пакамечаных спадніц. Ці аксамітавых сукенак на кірмаш — так меліся фарсіць жонкі вайскоўцаў. Праўда, памылак сваіх папярэдніц 39-га года яны не паўтаралі: тыя шыкавалі ў начных кашулях па горадзе, лічачы іх за святочныя строі. Дасюль на гэны конт хадзілі здзеклівыя анекдоты.

Дана разумела маці. Але прыязджала яна падчас адпачынку, каб мець нейкі пярэдых, і эстэтычныя катурны даставалі ёй дух. Потым яны паразумеліся — візіт перад ад'ездам. Свой час ягадзе, свой час баравіку. А да таго Дана хадзіла па хаце і ў парку, і на замку ў вузкіх

нагавіцах і нейкіх блузах і свэдрах — кампрамісны варыянт: і ёй зручна, і маці не супраць.

На вакацыях і падчас адпачынку Дана прыглядалася да здымка, што быў навідавоку: бацька ў цывільным гарнітуры стаяў, абапершыся за стаяк з кветкамі; бацька ў вайсковым убранні разам з маці, а Дана стаіць паміж імі; бацька глядзіць з-пад палёў капелюша — загадкавы, таямнічы, знаёмы і незнаёмы, як герой фільма. Маці не вельмі ахвотна гаварыла пра яго. Вобраза ідэальнага бацькі і героя збройнай справы не рабіла, але нічога кепскага таксама не згадвала. Дана магла выдумляць сама...

Свае ж уласныя карані маці хавала і ганарылася імі. Маці Вольгі Станіславаўны памерла, калі ёй было восем гадоў, а бацька, дзед Даны... О, дзед! Дзед прыехаў сюды разам з імі. Ці хутчэй — яны прыехалі разам з дзедам. Называлася гэта — спецыялістаў накіроўваюць на вызваленую тэрыторыю. Спецыялістам была маці. Здаецца, яе не вельмі каб хацелі сюды выпраўляць; шосты пункт анкеты не адпавядаў высокім запатрабаванням. Там стаяла: б/п, беспартыйная. Не зусім той спецыяліст. «Недаспецыялізаваны спецыяліст», — пасміхаўся дзед. Дзед быў не проста беспартыйны. Горш — некалі сасланы. Пра тое не гаварылі нікому.

## СІЛУЭТЫ І ПОСТАЦІ

Да свайго горада, да Беларусі была доўгая дарога. Праз Сібір. Праз багаты горад Растоў. Праз станцыю з язычніцкай назвай Варажба. Ехалі таварнякамі. Нават і на платформах. Галоўнае ўражанне ў Растове — вялікі шыкоўны кірмаш. Сорак чацвёрты год, яшчэ грымяць блізкія гарматы, яшчэ ідзе вайна, яшчэ карткі на харч і талоны на адзетак. А тут што табе абрус самабраны. Белыя булкі, пернікі, рыба, малако, сыры, ікра. Яблыкі, ігрушы, слівы — іх Дана бачыла ў свае шэсць гадоў упершыню, як і ікру. Увогуле столькі наедку бачыла ўпершыню. Колькі ўсё гэта каштуе, нават не мела значэння. Аказваецца, магло быць гэтульки харчу.

Прыпыніліся ж у Растове з-за Данчынай хваробы. Жнівень, спёка, а ў яе ангіна.

У Варажбе чакалі цягніка. Вакзала не было. Туліліся каля нейкай разбуранай хаты. Трагедыі руінаў Дана яшчэ не ўсведамляла, успрымалася толькі казачна-райскае: жыццё наўпрост пад жнівеньскімі зорамі, у садзе, поўным белага наліву і спелых вішняў. У Растове ёй купілі адзін яблык, а тут можна было раскашавацца, што ў раі. Зоры былі яркія і здаваліся добрымі і цёплымі. Здавалася яшчэ, што маюць яны нейкую патаемную сувязь з пладамі саду. Плады віселі на галінах і ўжо гатовыя былі асыпацца — месяцова-светлыя яблыкі і загадкава-цёмныя вішні.

А ў дарозе дзед распавядаў пра іх родны край. Якія там людзі. Як увесну ўсё цвіце, а ўлетку спее садавіна і гародніна. Зімой там няма лютых маразоў, летам — спёкі, а восень — улашчаная Богам, залатая, багатая.

...У свой горад яны прыехалі ўжо зазімкам, надвячоркам. Святла ў хатах яшчэ не палілі, дамы стаялі цёмныя, пагоркі — пад снегам, і Дане падалося: едуць нейкім тунэлем. Па-за часам. Па-за падзеямі. Недзе існаваў іншы свет, карыстаў плён перамогі, ачомваўся ад паражэння, прыкідваў набыткі ад нейтралітэту і адкрыцця Другога фронту. Вёў рахунак ахвяр, страт, болю. Недзе грымелі маршы перамогі і гралі мірныя вальсы. Недзе. Тут былі толькі гурбы снегу — і цішыня.

А да свайго горада быў яшчэ адзін — Вілейка. Казалі — Старая Вілейка. Бо недзе існавала і Новая.

У Вілейку прыехалі і зусім уначы. На хаду з платформы раскідалі рэчы, паўз увесь перон. На хаду — замаруджаным, павольным — дзед скокнуў на зямлю і прыняў на рукі Дану. Дзед быў зусім сівы, але спрытны, хударлявы, высокі. І вочы невыцвілым блакітам пазіралі на ўсіх халаднавата і спакойна.

Да дзедавага сябра яны і рушылі ў Вілейцы. Матчына накіраванне было ў Маладзечна, і яна цалюткі год ездзіла кожнага дня туды і назад. Затое для Даны гэта быў год казкі маленства. Дзедавы сябар быў каморнікам і

жыў ва ўтульным старасвецкім доме. Вялізная кухня, гасцёўня з узорыстай кафлянкай, паўпусты дзіцячы пакой, спальня гаспадароў і пакойчык, дзе сталі жыць Азарэвічы. Іх вокны выходзілі на вуліцу, у гародчык з бэзам, а ўсе астатнія вокны ў доме глядзелі ў сад. Ён быў такі ж, як пазней судовы: пасярэдзіне — агарод (у судзе здзірванелы), а паабапал, паўз плот, прысады, альтанка з блакітнаватых хвоек і лаўка з акуратным столікам. Вербы, ліпы, бэз і півоні. А двор паміж хатай і свірнам — зялёны-зялёны. Газон — гэтае слова Дана тады пачула ўпершыню.

Электрычнае святло было толькі зрэдзьчасу, і ўвечары ўсе збіраліся спачатку ў кухні, а потым — у гасцёўні. Са столі побач з жырандоляй звісала на ланцужках парцалянавая 10-лінейная лямпа. Дана з малодшай дачкой каморніка Светай разглядвалі малюнкі ў кніжках, слухалі, што ім чытаў або распавядаў дзед. Вера Аляксандраўна, гаспадыня, нешта шыла, цыравала або чытала. Яе муж, Андрэй Мікалаевіч, або чытаў нешта сабе, або гуляў з дзедам у шахматы. А найчасцей яны ішлі з дзедам з хаты і вялі нейкія свае размовы. І не любілі, калі іх слухалі. Маці часцей за ўсё прыязджала позна ўвечары з Маладзечна, перакусвала і клалася спаць. Яна была заўсёды стомленая, тоненечкая, як свечка.

Там упершыню Дана па-сапраўднаму адчула свята. Каляды, Новы год, Вялікдзень. На Каляды былі цукеркі з амерыканскіх падарункаў, пячэнне, а галоўнае — яліна, з сапраўднымі свечкамі. А тыя цукеркі доўга віселі на ёлцы ў прыгожых абгортках — разам з цацкамі, і дзяўчаткі пазіралі на іх зусім не як на спажыўнае рэчыва. Затое калі напярэдадні свята ў кухні пачынала разгортвацца дзейства, тут яны, нягледзячы на пост, не тое каб ласаваліся ад душы, але добра ўваходзілі ў смак — пост доўжыўся круглы год. А тут нешта тэрмінова прадавалася, нешта выменьвалася, з-за нейкага заробку маці сядзела ночы ў працэсе — і вынікам быў падсмажаны парсючок — хоць не спі ўжо да канца Адвэнту, і ахвяра Веры Аляксандраўны — усмажанае кураня. Толькі пазней Дана

заўважыла, што знікла, як не было, матчына сукня колеру «фрэз», і дзедавы фрэнч, і яшчэ нешта. Але ж на свята цуды не мелі канца. Ці не самым вялікім цудам былі піржныя «безэ» — залацістага колеру, не, яны былі колеру дзіцячай мары ўзору 1945 года. Потым, калі прысмакі можна было набыць любым днём, крамныя, бела-ружовыя «безэ» здаваліся Дане ненатуральнымі, нібыта толькі падробка пад тыя, сапраўдныя, непараўнальныя «безэ» Веры Аляксандраўны.

Да свята дзед навучыў дзяўчатак «паланэзу», вершам... «Падаюць сняжынкі, дыяменты-росы...», «Мой родны кут, як ты мне мілы...». Вера Аляксандраўна рыхтавала Святлане блакітную сукенку. Дана цвёрда трымала сябе — у яе ёсць адзетак: камбінаваная карычневая з сінім сукня, на ўсе выпадкі жыцця. Дана не мела моды на зайздрасць: ёсць дык ёсць, няма дык няма. Енчыць не будзе, выпрошваць — тым больш. Але паводле калядных канонаў напярэдадні свята з'явілася чараўніца. «Таксама адвакатэса», — мовіла пра яе Вера Аляксандраўна. На вачах у аслупянелых сведкаў яна раструшчыла сваю сукенку і сфастрыгавала Дане святочны ўбор: чырвонае з белым крэпдэшынавае плацце і аграмадныя белыя банты. Усе цуды не запозніліся, як гэта здаралася пазней у яе жыцці, усё было ў пару. «Канцэрт» прайшоў пад нечуваныя воплескі прысутных.

А самае прыемнае было, мабыць, пазней. Дарослыя вярнуліся да сваіх спраў, а ў Святланы з Данай доўжыліся Каляды: ялінка, рознакалёрныя свечкі, амерыканскія дарункі — да цукерак далучыліся яшчэ дзве шакаладкі і два пачкі пячэння. І прыгожая кніжка з малюнкамі на польскай мове — адна на дваіх. З прозвішчам аўтара, што гучала таямніча і надзвычай прыгожа: Шарль Перо.

Летам, калі Азарэвічы наважыліся ад'язджаць, панаехалі, так бы мовіць, былыя насельнікі дзіцячага пакоя. Двое сыноў і дачка Таццяна. Выправіліся вучыцца яны якраз перад тым, як Азарэвічы прыехалі ў Вілейку. Дзед спісваўся, як ён гаварыў, са спадаром Андрэем. Тэлеграфаваў. Атрымаў згоду на прыезд.

«Якое паветра», — глыбока ўздыхаючы, паўтаралі адно за адным маладыя гаспадары. Яны выпроствалі рукі, удыхалі доўга-доўга, нібыта пілі прастору. На тую пару Дана не ўяўляла задухі вялікага горада і не магла зразумець: паветра і паветра, пра што тут весці гаворку. Але новыя дарослыя ёй падабаліся. Асабліва Таццяна — высокая, ясная, з русай касой вакол галавы. Ці надавала яна ўвагі сяброўцы сястры? Дана на тое і не зважала, не бегала за Таняй, не шукала яе сімпатый, не назаляла — Дане было проста прыемна адчуванне блізкасці гэтай красуні, падабалася бачыць яе, ведаць, што яна недзе тут, непадалёк. Не шукаючы сустрэч, не разлічваючы на нейкія стасункі. Гэта засталося на ўсё жыццё — ніколі не шукаць знаёмства, калі нехта падабаецца. Калі здараюцца сустрэча і сімпатыя самі сабой — выдатна, не — значыцца, так і павінна быць. Дана не ведала, што гэта — фаталізм ці лянотнасць і інерцыя натуры. Але плішчом у сябры не лезла. І не заўсёды любіла, калі ёй навязвалі сваю таварыскасць.

Тым часам перад самым ад'ездам Азарэвічам далі на нейкі час службовую кватэру. Маці па-ранейшаму ездзіла ў Маладзечна, дзед ад'язджаў, каб даведацца, што там, на радзіме. Дану вырашылі аддаць у садок. Гэта было відавочным гвалтам яе свабоды, на розум Даны. І дзяўчынка вырашыла пытанне проста: пералазіла цераз плот садка і прыходзіла дамоў. Але там з'явілася Ніна. Каб весці гаспадарку і пільнаваць Дану. Ніне было гадоў васямнаццаць, была яна з вёскі, з «паненкай» вырашыла ладаваць адносіны выключна з пазіцыі моцы, найперш фізічнай. Першы дзень гаспадарання Ніны быў адзначаны поўнай хатай дыму. Ніна смажыла бульбу на голай патэльні — удома ў яе зроду ніхто бульбу не смажыў: варылі, пяклі ў печы. «Гэтага панскага заводу ў нас не было», — пачала яна і асеклася. Хацелася застацца ў горадзе — дык што яна, не засвоіць тую навуку? Другой падзеяй першага дня гаспадарання Ніны было высвятленне адносін з Данай. Ніна спавядала і ведала адну навуку выхавання, на яе погляд, бясспрэчную — добрую

поўху. Дана была прызвычаена да падвышэння тону і натацый. Таму, атрымаўшы аплявуху, Дана, сцяўшы зубы, кінулася абараняць свой гонар. Дужая дзеўка Ніна, пра яе суседзі гаварылі: «Хоць у воз запрагай», адкінула Дану, што шчанюка, і абаронца свайго гонару бразнулася патыліцай аб драўляную канапку. І — страціла прытомнасць. Менавіта ў той момант, як маці з'явілася ў хаце. Ніне было моўлена, каб яна ніколі пальцам не кранула дзяўчо. Усе высвятленні адносін толькі праз дзеда або Вольгу Станіславаўну. Дане было загадана слухацца Ніны.

Дана як магла потым пазбягала Ніны. А тая, меўшы вялікую хэнць шчыкнуць па носе або адхвастаць ганарлівую «паненку», даводзіла ёй вусныя прысуды: квелая, гнілая, тоўстая. Першыя два азначэнні з поваду таго, што Дана часта хварэла на ангіну. Апошняе — у параўнанні з беднымі і худымі, што чарацінкі, пасляваеннымі аднагодкамі — мала хто еў сытна — дагледжаная, з тварам ружова-вяршковага колеру Дана не адпавядала агульным «стандартам». Маці звяла добрую частку свайго гардэробу і ездзіла па камандзіроўках, але «дзіця» было сытае. Калі Ніне зусім ужо карцела дапячы Дане, яна пачынала выводзіць рэчытатывам: «Паненэчка мала, рана дысей ўстала...» Што падкрэслівала эксплуататарскі сэнс Данчынай істоты і перавагу сялянства Ніны.

Дана вяла, так бы мовіць, лінію грамадзянскага непаслушэнства. Ніна, калі не было дарослых, мелася ўчыняць хатні дыктат. Дана касавурылася і вяла сваё. Тым часам Дана пайшла ў школу, на другую змену, і Ніна мела абавязак сустракаць яе. Дана вынаходліва шукала маршруты, вядомыя толькі ёй адной, і шыбавала дамоў з сяброўкамі. Злацешылася Ніна, калі Дана заліла сваё белае цыгейкавае футра чарніламі. «Во, глядзіце, нягодніца! Пястунка матчына!» Дана не апраўдвалася. Што зробіш, даводзіла сваё блазнюкам-хлопцам, што дражнілі яе. Дана выліла ім на галаву ўсю сваю «непралівайку» — былі такія чарніліцы. Пацярпела і сама, але ж дражнілкі

скончыліся. Ніхто нікому не жаліўся: закон гэты правілі ўсе.

Урэшце яны з Нінай сталі суіснаваць, прымірыўшыся з непазбежнасцю прысутнасці адна адной. Калі Дана перайшла ў восьмы клас, Ніна з'ехала ў горад Калінінград, былы Кёнігсберг. Пабрала там, ці то на шчасце, ці на няшчасце, шлюб з равеснікам Даны — і дагаджала яму як магла. А Дана з маці ездзілі аднойчы ў той горад да яе ў госці, як Дана перайшла ў дзясяты клас. Калі Дана стала дарослай, да яе неадноечы прыязджала Ніна з мужам — на правах пяшчотнай выхавацелькі і клапатлівай гаспадыні. Дана зла на яе не трымала, але і злагады таксама не было. Можа, таму, што пасля Ніны з'явілася Зося, вясёлая, гаваркая. Смажыла смачныя катлеты, цыравала ўсё, што было ў хаце, лічыла кожнага паўрублёвіка. І — галоўнае — любіла Дану. Не гаварыла пра тое, але Дана заўсёды гэта адчувала. І дзяўчынай, і дарослай. Спрабавала быць уважлівай, хаця не заўсёды ўдавалася: марнасць марнасцяў, жыццёвая мітусня.

Тым часам дзед з'язджаў — і надоўга — у іх горад. Некага шукаў і не знаходзіў. Некага знаходзіў і, падобна, радасці ад таго вялікай не меў. Маці таксама амаль што не бывала дома. Летам збіраліся пераязджаць. Спачатку ў Баранавічы. Ніна таксама кіравалася з імі.

У Баранавічах яны жылі — ці не з месяц — у старшыні калегіі адвакатаў. І ягоная жонка ўсё нагадвала: «Вось забяру Дану, і мы з'едзем да Ракасоўскага». Дана мела тую пагрозу за сур'ёз і мысліла: «Ракасоўскі — няблага, бацькі ў яе ўсё роўна няма, а той — маршал і з выгляду прыгожы: у кінахроніцы паказвалі. Да таго ж асоба надзвычай папулярная — хто яго не ведаў на тую пару на Беларусі! — чаму б і не. Але ж маці відавочна была ёй больш даспадобы, як гэта гаваркая кабетка. Маці густоўна апранута, маці — адвакат, а не хатняя гаспадыня, маці ўсе паважаюць, лічаць, што практыкуе яна вельмі ўдала. Да сораму свайго, да высновы, усведамлення, што яна, маці Даны, Вольга Станіславаўна Азарэвіч — для яе адзіная ў свеце, Дана прыйшла пазней.

Ну, але старшынёва жонка да Ракасоўскага не спяшалася, а неўзабаве Азарэвічы з'ехалі на іншую кватэру. З той прыватнай кватэры доўга помнілася акно з выстаўленай шыбай і без фіранак. Там іх абрабавалі. Знеслі ўсё — нават мытую бялізну, і шторы, што чакалі праса і былі акуратна складзены на стуле. Засталіся Азарэвічы — як стаялі. Дзякаваць Богу, быў лістапад, і снежны, то ўсе былі ў зімовых паліто.

Да таго ж яшчэ з Вілейкі маці Даны ездзіла — чамусьці ў Гомель — па багаж. І папрасіла нейкіх сімпатычных самавітых людзей, мужа і жонку, пасцерагчы хвілінку іх валізкі. Калі Вольга Станіславаўна вярнулася, тых дабрадзеяў як чорт хвастом накрыў. Разам з куфрам, дзе было багацце Азарэвічаў: Бібліі, кнігі, альбомы са здымкамі, дакументы іх сям'і, розная драбяза, пра якую гавораць: дарагія як памяць. Зніклі і дзве валізкі з кнігамі. Усё гэта было цяжэннае — і наўрад ці спатрэбілася тым рабаўнікам. А дзед і маці ўчарнелі ад тых страт. Дзед маўчаў, Вольга Станіславаўна ведала сваю правіну — сапраўды, толькі яна магла ў сорак чацвёртым (!) ваенным годзе займець вялікі давер да незнаёмых людзей.

А ў Даны з тых падзей пэўная старожкасць засталася на ўсё жыццё.

І калі ў хаце з вокнаў здымалі фіранкі, парадкуючы хату перад святамі, а вокны, як запаляць святло, зеўралі адкрытай цемрай, Дана заўсёды адчувала няўтульнасць і трывогу. І прысутнасць зладзеяў у свеце.

Яшчэ горш за зладзеяў помнілася клятая табліца множання. Яе вучылі якраз тым часам, як жылі на той кватэры. Большага пакарання, як вучыць табліцу, не было. Потым засвоілася неяк сама. Але са школьнай навукі, што давалася лёгка і неўпрыкмет, найвышэйшай пакутай выдавала тая табліца.

У Баранавічах, здавалася, усё было супраць іх. Нават у дзень нараджэння Даны. Менавіта тады Ніна кляла яе: «Гэта ж не дзеўка, а чорт з макам. Квелая-квелая, а тут — зямля ж гарыць пад нагамі!» Прынамсі, прычына

для гневу была: новая блакітная маркізетавая сукенка да прыходу дарослых мала што пераўтварылася ў нешта невыразна шэрае і выразна бруднае, дык шматок ад яго застаўся — навекі — на баранавіцкім плоце. Да прыходу Ніны (яна выкіравалася на кірмаш) Дана, пабіўшыся аб заклад, з гонарам асвойтала вішню і чарэшню, і, уздзябурыўшыся на плот, падбіралася да клёна. Пачуўшы лямант Ніны, тарганулася, і... высветлілася, што маркізет — не самая трывалая матэрыя. Ну праўда, заклад у сына гаспадароў і яго сябрукоў — яны перайшлі ажно ў чацвёрты клас — выйграла Дана. Хто гэта выдумаў, што дзяўчаты не ўмеюць лазіць па дрэвах? Хто? У іх дурны футбол, і ў вайну яна гуляць, пэўна, не будзе, ажно тут — трымайцеся, жаўнеры! (Хлопцы ўсё меліся падкрэсліваць, што яны — будучыя ваяры.) У Даны свае меркаванні ёсць — але ўсё тое вялікая таямніца: яна яшчэ стане — не кім-небудзь, капітанам дальняга плавання! У свае сем гадоў — не, ужо восем! — яна не мела ў тым сумніву.

...Пазней Дана неаднойчы была ў Баранавічах, і неяк не выпадала трапіць у Вілейку. Так і засталася Вілейка горадам, у якім ёсць утульная гасцінная хата. Дзе святкуюць Каляды. Дзе цудоўнае паветра. Дзе бываюць розныя прыемныя выпадкі. А Баранавічы ляглі на памяць як горад перасадак, пераездаў, непрыемнасцяў... Для некага таксама, мабыць, засталіся горадам дзіцячай мары...

Але тое ўсё было пралогам, інтэрлюдыяй. Галоўнае — было ў іх горадзе. Дзе было незалежнае жыццё душы. Замак. Касцёл. Ваколіцы. Школа. Сябры. Настаўнікі. Суседзі. Людзі яе жыцця.

## НЕПАХІСНАСЦЬ РЭАЛЬНАСЦІ

Напачатку, калі весці гаворку пра суседзяў, — Луіза Генрыхаўна.

Луіза Генрыхаўна была акуратная, абруселая, абеларушаная, украінізаваная немка. Вырасла яна на Украіне, потым жыла ў Расіі, замуж пайшла за беларуса. Дзеля

зручнасці яе ўсе, акрамя маці Даны, называлі Лізаветай Андрэеўнай, і яна не крыўдавала. Луіза Генрыхаўна была ўдава і чакала са службы сына. Рабіла ў краме. У аддзеле галантарэі і парфумы. Усё жыццё, прыйшоўшы купіць духоў ці мыла, Дана згадвала Луізу Генрыхаўну.

Луіза Генрыхаўна не стаяла, скасавурыўшыся, за прылаўкам, нібыта яе сюды накіравалі за нейкі грэх ці правіну. І не глядзела на пакупнікоў, як уладарыня на сваіх васалаў, што прыцёгліся немаведама чаго на яе светлыя вочы. Не мелася трымаць усіх з таго боку прылаўка за зладзеяў. Луіза Генрыхаўна — у чорным бліскучым халаце з бездакорна белым карункавым каўнерыкам — увасабляла сабою ветлівасць, прыязнасць, добразычлівасць. Спакой. Яна была напагатове. Не: «Чего изволите?» Але: «Чаго зажадаеце?» Па тым часе ў яе заўсёды былі духі «Магнолія» і «Камелія» — іх любіла маці Даны. Заўсёды была і «Чырвоная Масква» — Луіза Генрыхаўна сведчыла, што жонкі вайскоўцаў аддаюць перавагу толькі гэтай парфуме. Акрамя Кацярыны Пятроўны. Тая любіць «Белы бэз». Кацярына Пятроўна была знакамітасцю лакалёвай. Жонка кампалка, яна сама рулявала адзінай у іх горадзе «Пабедай», падчас вайны была на фронце. Яе звалі Капітаншай, хаця, здаецца, у мужа быў вышэйшы чын. Можа, сама мела капітанскія пагоны? Ну, а ў іх горадзе чыста жаночы чын у яе быў не меншы за генеральскі. Кожным выпадкам, жонкі мужчын вайсковых і цывільных гатовыя былі зашчаміць зрок сваім шаноўным палавінам, калі Кацярына пераможна бліскала нязбытным блакітам вачэй перад кінасеансам у РДК, дзе збіраўся «ўвесь горад». І ці не менш мясцовыя жонкі, шчаслівыя «ўладарніцы» мужоў на той небагаты на маладых і адносна маладых мужчын пасляваенны час, баяліся новай следчай — Норы. Высокай, як выструненай, з такой жа пераможна залацістай хваляй валасоў, як у Кацярыны Пятроўны; заўсёды — у скураным паліто і ў кіцелі. Кацярына ззяла не стомленымі аніякімі заняткамі вачмі і свежым тварам (яна нідзе не рабіла), шыкоўнымі

трафейнымі футрамі, сукенкамі a la Марыка Рок і была падобная на «дзяўчыну мары».

Кацярына Пятроўна больш падабалася Луізе Генрыхаўне — можа, таму, што Нора не купляла ў яе духоў? Можа, таму, што ваенны статус Капітаншы быў у мінулым, а суровая Нора ўвасабляла сабой сённяшняе рэальнае становішча. Луіза Генрыхаўна неяк прамовіла — каб выбіраць, то яна не вельмі б ірвалася мець суседкай каго з двухпавярховага пракурорскага будынка. А найлепшай рэкамендацыяй у вуснах Луізы Генрыхаўны былі словы: «Гэта мой сталы кліент». І Луіза Генрыхаўна здабывала, прасіла на базе ружовую пудру, пудру «рашэль», модныя рыдыкюлі, нейкія карункі, сутажы, гузікі, духмянае мыла — каб збыцца прэйскурантнай нэндзы пасляваенных гадоў. Шаснаццатая крама, дзе рабіла Луіза Генрыхаўна, месцілася ў былых гандлёвых радах з традыцыйнай каланадай. Адразу як увойдзеш — аддзел Луізы Генрыхаўны. Нібыта даніна традыцыі і добраму густу.

У выхадны свой дзень Луіза Генрыхаўна смажыла вялізныя смакотныя катлеты, варыла кісель і ўвечары ішла ў кіно. На «Вялікі вальс», «Серэнаду Сонечнай Даліны», «Петэра». Яна любіла трафейныя фільмы: там былі прыгожыя жанчыны і шчаслівы канец. Ніхто, між іншым, не зважаў, здаецца, на тое, што гэтая кабета належала да пераможанай нацыі: дзіва — калі згадаць лёс яе супляменнікаў у Саюзе.

Прыйшоўшы ў кіно, Луіза Генрыхаўна ўсплёсквала рукамі: «Ах, Франчэска Галь!», «Ах, Дзіна Дурбін!», «Ах, Марыка Рок!» І рашуча падводзіла рысу: «Ажно да Веры Халоднай ім далёка!» «О-о-о!» Луізы Генрыхаўны было шматзначным і важкім. Запярэчыць ніхто не мог. Веру Халодную ніхто не бачыў.

Тым часам Дана ўжо ведала таямніцу — хаця гэта былі тыя веды, што нічога, акрамя расчаравання, не даюць. Гадоў да васьмі Дана лічыла, што для кіно нехта ходзіць, глядзіць і здымае, занатоўвае на стужку. І было крыху ніякавата — а раптам і яе нехта здымае? Потым яна даведалася, што ёсць акцёры, рэжысёры, аператары,

процьма розных людзей, якія здымаюць фільмы, што ёсць спецыяльныя кінастудыі, — і ўздыхнула з палёгкай і расчараваннем.

Да таго ж, мабыць, больш за кіно Дана любіла кнігі.

Луіза Генрыхаўна таксама любіла чытаць. Да раманаў ахвоты не мела. Затое была ў яе незвычайная цікавасць да кніг пра падарожжы і мемуары. Незацярушаная памяць Даны трымала ўсе прозвішчы і геаграфічныя назвы, да вялікага захаплення Луізы Генрыхаўны. Тая неаспрэчна ўсім абвяшчала: «Хадзячая энцыклапедыя». На іх кухні гэта гучала куды больш прывабна за Нінчына: «Рукі як граблі». І Дана была ўдзячная Луізе Генрыхаўне за падтрыманае саліднай асобай яе рэнамэ.

Зорны час Луізы Генрыхаўны надыходзіў, калі набліжаліся святы і — асабліва — дні нараджэння. Ну, перад святамі ўсё ў непараўнана значных маштабах штогодна паўтарала дом каморніка ў Вілейцы. Толькі тут былі нейкія кілбасы па-венску, струдзелі, бужаніна. Час быў ужо больш багаты. І маці рабіла горы хрустоў, булкі, булачкі, пірагі, рулеты, гусь з яблыкамі, парасят з грэчневай кашай. Абавязковымі былі паляндвіцы і кумпякі ад Буячыхі і Ківачыхі — лепш за іх у горадзе не вэндзіў ніхто. У святочны дзень збіраліся ў вялікім пакоі Азарэвічаў. На Каляды ў двух вялізных люстрах адбівалася яліна пад столь. На Вялікдзень — горы залацістых яек. Азарэвічы былі каталікамі, Луіза Генрыхаўна — пратэстанткай, Ніна — праваслаўная. Гатавалі столькі, каб хапіла на ўсе святы. На Каляды аб'ядноўваў Новы год. Увесну — Першае Мая. Святкавалі і Кастрычнік. І Май. Таксама са смакам.

Ну, а дні нараджэння і дні анёла былі ў хаце падзеяй. Луіза Генрыхаўна падымала ўсіх на золку. Як прачнецца герой дня, кветкі павінны быць у вазах, падарункі раскладзены, вокны расчынены, — і ўсе павінны выструніцца каля дзвярэй, нібыта прычэкваючы выхаду каранаванай асобы. Асабліва ўрачыстым, святочным выдаваў дзень нараджэння маці. Тое надаралася на пачатку чэрвеня, і хата літаральна патанала ў кветках. Чаромха, бэз,

півоні: белыя, бела-ружовыя, ярка-ружовыя — «каменкі». Кветкі ў іх хаце былі не толькі данінай звычаю — яны панавалі, задавалі тон жыццю, былі сімвалам — красы, прыязнасці. Мабыць, знакам мастацтва. Музеяў у іх горадзе не было, не было і карцін, калі не лічыць аматарскіх спроб доктара Мазурка, што жыў пад імі на першым паверсе. На яго кабінеце ў клініцы вісела назва «вуха-горла-нос», усе паважна гаварылі пра яго: ларынголаг. Ён быў добрым спецыялістам, а да таго яшчэ мастаком і паляўнічым. Маляваў ён пейзажы і нацюрморты, кветкі ў вазах. Луіза Генрыхаўна і Данчына маці аддавалі перавагу кветкам жывым, а на зіму ставілі букеты з аўсяных сцяблоў і белых, празрыстых, як матылькі, лунарый. Вазы — гэта таксама быў не проста посуд для кветак, а нібыта ўздых па былым сеўрскім, гесэнскім фарфоры. Побач, у Бярозаўцы, быў шклозавод. І кватэра — і ў пакоях Азарэвічаў, і ў пакоі Луізы Генрыхаўны — была поўная вялікіх, меншых, малюпасенечкіх крышталёвых ваз. Для півоняў і гладыёлусаў, для хрызантэмаў і астраў, для канваліяў і пралескаў. Праўда, у Вольгі Станіславаўны была яшчэ ваза, у якую мелі гонар трапляць толькі бэз і чаромха, ну, і самыя высозныя півоні і гладыёлусы. Ваза была аграмадная (туды месцілася вядро вады), з вузкаватым горлам. А на яе высокіх баках блакітам выдавала возера з прыгожа-карычневымі чаратамі, сярод якіх паважна шпацыравалі буслы.

Ваза стаяла на цяжкім дубовым стале і дадавала старасвецкай важкасці знойдзеным дзедавым дабротам. А Луіза Генрыхаўна ставілася да вазы і да мэблі Азарэвічаў з павагай старога антыквара, што знайшоў нечуваны рарытэт. Луіза Генрыхаўна любіла рэчы трывалыя, самавітыя і надзейныя. Асабліва любіла дубовую шафу з бляшанай чорнай этыкеткай. Шафа была перакупленая ў маёра, што з'ехаў у Пухавічы, і надавала праўдзівасці легендзе пра астатнюю мэблю — хаця, на погляд Даны, сапраўдная гісторыя была куды цікавейшая. Але пра тое маці загадала ніколі ні словам не азывацца. Дана была паслухмяная дачка — а маці пэўна ведала:

рамантычныя гісторыі не маюць вялікай пашаны ў тых людзей, што вызначалі і вызначаюць лёс многіх. Луіза ж Генрыхаўна нейкім генным чуццём, мабыць, адчувала сапраўдную «нямецкасць» шафы і дабрала да яе сімпатыі.

Як і Вольга Станіславаўна, Луіза Генрыхаўна любіла чысціню. І стромая лесвічка ў два пралёты з пераходам была, як і падлога ў хаце, заўсёды мала што вышараваная да яйкавай жаўцізны, але і засланая чысцюткімі ходнікамі, зробленымі нейкай вясковай майстрыхай з матузкоў розных тканін — яны былі светленькія, стракатыя, яркія.

Пазней, жывучы ў гарадскіх менскіх кватэрах з запляванымі лесвіцамі — чым далей да канца стагоддзя, тым больш, — Дана заўсёды згадвала ясную, як з просценькай казачкі, лесвічку: «У нейкім царстве, у нейкім гасударстве жылі-былі...»

Жылі-былі...

Луіза Генрыхаўна любіла рэчы, як відавочнае ўяўленне непахіснасці рэальнасці. Любіла рэчывы. Прысмакі. Гародніну. Садавіну. Мяса. Яйкі. Кароннымі яе днямі былі яшчэ дні кірмашовыя. Аднак тут займелася не абыякая суперніца — Ніна.

**ПЛЁН ЗЯМЛІ**

Кірмаш быў справай сур'ёзнай. Тут былі свае законы. У нядзелю — у кірмашовы дзень — усё ажно гуло ад вазоў на брукаванцы. А парсючкі вішчалі так, як быццам іх тут, на возе, і смаляць. У хатах спяшаліся — на кірмаш. Кірмашовы гандаль — да гэтага ставіліся з павагай. Асноўны набытак быў адтуль, з кірмашу. Мяса, масла, яйкі, садавіна, гародніна — усё адтуль. Купіць добрае і танна — было справай гонару.

Луіза Генрыхаўна ў адзінаццаць гадзін павінна была быць у краме, і яны з Нінай выпраўляліся з дому гадзіне а сёмай. Чамусьці заўсягды цягнучы з сабою Дану, Ніна любіла хадзіць на кірмаш без гаспадыні. Калі ішла маці — людзі пазнавалі яе і скідалі якую капейчыну. Хто яго

ведае, як жыццё абернецца, няпэўнае паваеннае жыццё. Куды ж кінешся? Да адваката. Абаронца. Дарадчык. Дзе ж тут Ніна магла аказаць свой талент? Ну, а калі адна... Дана ў разлік не бралася, хіба што было перад кім пакрасавацца. Ну, а паглядзець было на што. Ніна і Луіза Генрыхаўна разбягаліся ў розныя бакі ледзь не ад гары Міндоўга — кірмаш месціўся пад гарою. І кожная пачынала свой — спектакль? гульню? экзамен на спрыт? Дана заставалася пры Ніне. Ніна ж... Трымайцеся, гаспадыні і гаспадары! Ніна перашчупае ўсіх курэй, пакаштуе ўсё масла, папераварочвае ўсё мяса. Спрачаецца за кожнага паўрублёвіка так, як быццам ад гэтага залежыць дабрабыт і лёс усіх яе сваякоў, нашчадкаў і знаёмых. Абабяжыць дзесяць разоў усе вазы, перастарэкаецца з усімі.

— Ой, бацюхна, дык вашаму пеўніку столькі ж гадоў, як майму свёкру, — адчайна ледзь не драла пер'е няшчаснай птушцы Ніна.

Дане хацелася ўкінуць свае тры грошыкі наконт неіснуючага свёкра, але яна моўчкі падтрымлівала непадробны Нінчын гандлёвы імпэт.

А Ніна раскідвала на возе яблыкі.

— Даражэнькі, мне такіх смакаўных ды прыгожых, як ваша жонка перад вяселлем!

Той даражэнькі і слова ўкінуць не паспяваў, як Ніна спрытна напакоўвала поўны кошык, адабраўшы самыя-самыя, адзін да аднаго.

— Го, яблычкі, хоць на калядную яліну, — пасміхаўся паважна гаспадар.

— Ну, дзе вы бачылі, каб у жніўні ды такая цана? Дзе вы бачылі?

— І адкуль вы такая спраўная? — рагатаў дзядзька. Яму відавочна падабалася весці гандаль з гэтай кабетай: ну што за кірмаш, калі словам не перакінешся?

Ніна ўжо на хаду нешта вясёла крычала і неслася далей. Ухапіўшы ледзь не тузін куранят і сунуўшы Дане кошык з яблыкамі, яна вяла свой маналог: «Во акурат, крыху іх падгадую — і ў смятане, з баравічкамі

і з бульбай». Дана ведала, што ў смятане, з баравічкамі будзе гатаваць маці, але Ніне не пярэчыла, хай сабе галёкае. Яе фэст. Ды Ніна і не пачула б, ляцела, што ганчак за зайцамі. А было дзе раскашавацца — кірмаш быў ад гары Міндоўга і да таго месца, дзе пазней нейкі час быў аэрапорт, лёталі «кукурузнікі», сорак хвілін — і ў сталіцы. Як вецер, то быў «кукурузнічак» як трэнажор для касманаўтаў, а нічога: тутэйшы народ трымаўся, што табе тузін Гагарыных: самалёцік меў якраз дванаццаць месцаў.

Дык тым часам Ніна бегла да вазоў на ўзгорак, вярталася ў павільёны з мясам, борздзенька нахілялася, каб пакаштаваць масла, яшчэ патузаць куранят, ухапіць сыру — гаспадыні кідалі саломы на брукаванку і раскладалі тут свой тавар у кошыках: масла ў зялёным лісце капусты або ў палатнянай чысценькай анучыне, сыр, смятана ў слоіках. Яблыкі, ігрушы, слівы, вішні, чарэшні продалі ўсё больш з вазоў — прывозілі многа, парэчкі, агрэст, маліну, клубніцы таргавалі таксама не менш як кошыкамі. На тую пару ў іх ніхто не меў моды ні прадаваць, ні купляць шклянкамі — такой абразы гандлю ніхто б не знёс. Вялікія гарады былі далекавата, даехаць да іх горада было не проста — чыгункі не было, аўтобусы яшчэ доўга не засвойвалі мясцовую прастору, уласны аўтамабіль быў немаведама якой раскошай. І мінчукі, якім здаралася трапляць у іх горад, глядзелі на мясцовы кірмаш як на філіял зямнога раю. А нехта і злосна кідаў: «Распанелі — заходнікі! Вось прыйдуць да вас калгасы». Калгасы і сапраўды неўзабаве прыйшлі... Тыя кірмашы засталіся толькі ў памяці. І цэны тых кірмашоў — таксама...

Ніна, зразумела, не рабіла футуралагічных прагнозаў, яна жыла імгненнямі. Яна адчувала сябе гаспадыняй на кірмашы — зразумела пазней Дана. І — толькі што з вёскі — мела, мабыць, тут і роднаснае атачэнне. І ўмела ў ім аказаць сябе. Ад яе было не ўтоіць ёлкага масла, ці жарсткаватага тварагу, ці мяса кароўкі, пра год нараджэння якой не памятаў нават сам гаспадар.

Да таго ж на кірмашы былі ўсе. Шаўцы, краўцы, настаўнікі, урачы, людзі са швейнай фабрыкі, народ з трыкатажнай, з прамкамбіната, з ліцейнага цэха... Ішоў майстар з «Індпашыву» Бузук, цырульнік Гальдштэйн, прыгажуня-манікюрша, высокі саністы ганаровы грамадзянін рэспублікі Чэхаславакія, што партызаніў у тых краях, судмедэксперт Харытончык з жонкай, настаўнікі з яе, Данчынай, СШ № 2, «мэр» горада Ірына Паўлаўна, намеснік ваенкама Варава з жонкай, якую Дана ведала як цёцю Шуру, як увасабленне дабрыні і чалавечай спагадлівасці.

Гандлёвы, кірмашовы дзень...

Увечары Ніна і Луіза Генрыхаўна рабілі, так бы мовіць, рэестр перамог. Кожная хваліла куплёнае суседкай: гэтага вымагала этыка адносін. «О, якія вішні! Варэнне будзе — хоць да царскага стала!» «Божа літасцівы! Якое кураня! Хай крыху пагадуецца, з маёй качкай рэзаць будзем!» Птушак продалі і куплялі жывых. І галоўнымі «экзекутарамі» былі Ніна і Луіза Генрыхаўна. Трэба было, каб істота не пакутавала, адсекчы галаву за адным разам, спусціць кроў, а потым чысценька-чысценька абскубці, абсмаліць — ну, не смаленне вепрука, але таксама навука. Вольга Станіславаўна той навукі і не ўмела, і не любіла. Дана ж увесь рытуал уяўляла толькі тэарэтычна, і то не вельмі пэўна. Але куранят, асабліва ў смятане ды з маладой бульбай і баравічкамі ці лісічкамі, ела. Хаця смаку дэгустацыйнага дабралася пазней, з гадамі. На тую пару лічыла ўсё мітуснёй, баўленнем часу — гэта ж не птушак слухаць гадзінамі: во, то справа для яе!

Калі ж пачыналіся слоўна-рэчавыя гульні на кухонным рысталішчы, хто каго перахваліць, хто каго пераасіліць, хто на рубель выйграў у кірмашовым турніры — Дана ціхенька сыходзіла з хаты ці зашывалася куды-небудзь з кніжкай. Свет не існаваў для пераможцаў.

Да кірмашу ў Даны адносіны былі складаныя. Яна любіла летні ранак у нядзелю. Зазвычай добрым надвор'ем клалася спаць на гаўбец і прачыналася гадзін у шэсць ад заклапочаных крыкаў варон на клёнах

праз дарогу, ад скрогату вазоў па брукаванцы, ад віску парсючкоў на вазах, ад шлёгання пугі ў гаспадарскіх сялянскіх руках.

Было надзвычай добра — ад свежасці раніцы, ад незамглёнага блакіту неба, ад шоргату вазоў, ад адчування пачатку дня. Было ва ўсім гэтым нешта неадольна трывалае, надзейнае, усім патрэбнае. Мабыць, Анёл у цені сваіх крылаў не адно стагоддзе глядзеў на тыя вазы, на парсючкоў, на яблыкі, на акуратныя кошыкі — і благаслаўляў зямное дзейства, і меў асалоду ад выявы пладоў зямлі, ад плёну яе.

Дане падабалася і віраванне натоўпу на кірмашы, і сыры на мокрым палатне, і жоўценькае масла на лістах капусты, светлае, свежазбітае, з кропелькамі-расінкамі ў ямінках-рэбрынках, зробленых лыжкай. І вязкі залацістай цыбулі, і вазы з яшчэ цвердаватымі грушамі і празрыстымі летнімі яблыкамі, і кашы з алычой і слівамі, яблычкамі-«райкамі». І вочы коней — вільготныя, спакойныя, мудрыя, нібыта яны, коні, ведаюць нешта такое, пра што сном-духам не ведаюць людзі. Увогуле ёй падабалася вясёлая мудрасць местачковай імпрэзы. Хаця мітусня, таргі, гвалт — тут Дана не ўмела дабраць цікавасці. Мо таму, што была толькі сведкай і Ніна нават спробы не рабіла, каб далучыць яе да сваіх ведаў, да таямніц куплі-продажу, да ўласцівасцяў рэчаў: што такое ёлкае масла? Мо таму, што Дана не мела да гандлю прыроднага спрыту. Так і не займела ніколі. «Ат, паненка», — махала на яе рукой Ніна. І злавалася, калі Дана ўставала да ўзыходу сонца, прыцемкам, каб сустрэць пачатак дня на замку. «І чаго ўзбілася? Сама спаць — канікулы, рабіць ёй няма чаго!» Дана не магла растлумачыць Ніне, чаго яна ўставала на золаку і імчала на гару.

## ІНТАНАЦЫІ ЖЫЦЦЯ

Узыход сонца ўвогуле было лепш за ўсё сустракаць на замку. Сонца толькі-толькі з’яўляецца, перасоўваецца ад Сяльца да Градзілоўкі, што яшчэ не мела свайго сумнага

прызначэння як месца вечнага спакою, а была ўтульным лясочкам з рачулкай і млыном.

Свет суцішыўся ў будзённа-ўрачыстым чаканні дня. Гаючая самота. Сума гадоў яшчэ не абавязвае, не пагражае, не прыціскае да зямлі, нагадваючы: «Таму што зямля ты і ў зямлю сыдзеш». Душа засяроджана. І лётна свабодна. Далягляды прыгожыя і на пару Данчынага дзяцінства яшчэ не маюць дакучных адзнак цывілізацыі. Мабыць, усё так, як было ў часы Гражыны. Ці Міндоўга. І нехта таксама глядзеў адсюль на спакой зялeніва і Боскую чысціню неба. І аднекуль таксама пазіраў на яго Анёл Боскі. Чаму, дарэчы, Анёл іх горада з шалямі і цёмны, нібыта на яго ўпаў цень? Што ён узважвае — рух жыцця, яго зменлівыя абліччы? Можа, час? Прыкідвае — каму колькі гадоў адшкадаваць? А магчыма, вызначае меру поспеху? Меру славы і няславы? Меру таленту? Меру сумлення?

Дана зазвычай углядвалася ў невераговную верагоднасць фарбаў, ліній, абрысаў, ідучы абарончым валам. Потым скіроўвалася самым стромым схілам гары на дно былога рова (напрадвесні і вясною тут заўсёды вада), бегма бегла на наступны пагорак, з яго — у парк, да сажалак, і паўз ручай, цыркліва негаманкі, цацачна нешырокі, выкіроўвалася да прыступак фарнага касцёла — фары.

Тут Дана зазвычай прыпыняла хаду, ішла доўга, павольна, садзілася на лаўку ля касцёла. Проста сядзела. Слухала птушак. Глядзела на дрэвы. І адчувала амаль фізічна гармонію існага. Раніцы. Цішыні. Свежасці. Адчувала на сабе ясвіны святла вялікай Загадкі Быцця.

Гадзін у сем дзверы касцёла расчыняліся. Там было строга-прыгожа. Заўсёды — многа кветак. Увесну — бэз і півоні. У ліпені — белыя лілеі. У жніўні — гладыёлусы і астры. А потым ад восені да самай вясны — хрызантэмы. Асабліва ёй падабаліся лілеі і хрызантэмы. І дзіўна — у пакоях у хаце пах лілеяў меў нейкую склівую слодыч, быў даўка-задушны. Тут, у храме, пах раствараўся ў паветры, у прасторы і набываў адухоўленую вытанчанасць, рабіўся ўстойліва-няўлоўным. Нейкім асаблівым хара-

ством выдавалі лілеі каля абраза святой Тэрэзы — мо таму, што і святая, і кветкі былі сімвалам цноты і чысціні. Тоеснасць сэнсаў. А хрызантэмы — белыя як снег і пяшчотна-дробныя, як сняжынкі (тут ніколі не стаялі тыя, падобныя на баб-снегавікоў, з галовамі-шарамі). Гэтыя хрызантэмы ўвогуле нібыта з'явіліся на свет дзеля таго, каб упрыгожваць касцёл. Невялікі — фарны то і ёсць фарны. Без асаблівай аздобы, але з арыстакратычна-спакойнай прастатой. Ніякага дэкору. Строгія абрысы, урачыстасць, усё запрашала да малітоўнага роздуму. Стральчатыя вокны, аднакалёрнасць сценаў, цёмнае, самавітае разьбярства спавядальні і амбона, нешыкоўная завершанасць алтара. Цішыня храма была працягам наўкольнай. Імшу на тую пару тут правілі. Неафіцыйна. Ксяндза не было. Касцёл лічыўся нібыта зачыненым. Даглядала, вартавала, садзіла кветкі каля касцёла сястра Малгажата, назарэтанка.

Яе сясцёр у Хрысце расстралялі падчас вайны немцы. За міласэрнасць. За дабрату. Яны прынеслі ахвяру. Сястра Малгажата падчас арышту законніц была ў шпіталі на службе і засталася жывою.

...Дзверы храма былі адчыненыя. Парафіяне хадзілі да касцёла. А зазвычай гадзін да васьмі там нікога не было. Дана была адна. Доўга стаяла каля дзвярэй, потым праходзіла ў правы неф, да абраза святой Тэрэзы. Урэшце садзілася на лаву...

Тады Дана яшчэ нічога не ведала ні пра споведзь святога Аўгусціна, ні пра «Шматграннасць рэлігійнага вопыту» Уільяма Джэймса, нічога не чула пра «Суму тэалогіі»... Не ведала, што была святая Тэрэза Авільская і святая Тэрэза з Лізьё...

Афіцыйна касцёл адчынілі, калі Дана ўжо ад'ехала з горада, атрымаўшы атэстат сталасці, ва ўніверсітэт. Але ж усё роўна тут, у святыні, адчынялася ёй нешта вельмі важнае, пакрыёмае, падсвядома яна адчувала неабходнасць сваіх стасункаў з Сусветам, а дагмат Святой Тройцы рабіўся зразумелым, ачышчэнне здавалася блізкім, абавязковым, натуральным. Бог-айцец вядзе

шляхам Памяці, Бог-сын — шляхам Розуму, Бог — Дух Святы — шляхам Любові.

А ітынерарый (шлях) падаваўся адзіным, выпрабаваным і зацверджаным канонамі спосабам жыцця. Аскеза... Толькі так... Гіём з Сен-Т'еры, Тамаш Аквінскі... Іх высновы — непарушныя...

Як цішыня і маўчанне. Ідэальныя ўмовы для яе modus vivendi[1]. Засяроджанасць і праца. Хаця пазней цішыня стала вялікай раскошай. Рэдкім святам. Як за маску, Дана стала хавацца за шматслоўе — так было зручна, так яна раскідвала шматкалёры-пацеркі і зачыняла галоўнае, што было на душы. Улюбёны ж стан быў — маўчанне. Але маўчанне як стратэгію паводзін, як зброю жыцця яна ніколі не засвоіла. Не ўмела змоўчаць — калі ганьбілі іншых, не ўмела — калі спрабавалі таўчы яе. Анёл у цені сваіх крыл — што ён узважваў на шалях у гэтыя хвіліны?

Як ён паглядаў на калякасцельных жыхароў, на суседзяў Даны?

**ВОПЫТ СУІСНАВАННЯ**

Ці не самыя прыкметныя суседзі былі Хмары. Іх хата — першая ад касцёла: два, адзін да аднаго, блакітна-шэрыя дамочкі, прыгожая альтанка, гарод, два клёны, што звісалі над агароджай. Пазней новыя гаспадары ссеклі тыя клёны — яны ім цянілі агарод. І альтанка знікла...

Тады... Пані Хмара ў свае ці не дзевяноста гадоў дайсці магла ўжо толькі да плота свайго дворышча. Аднак — у капялюшыку, пальчатках, у гарнітуры шляхетна-арыстакратычнага пэрлёва-шэра-бэзавага колеру. Яе муж ішоў у касцёл таксама ў шэрым гарнітуры, абавязкова з парасонам — тросткай-лясачкай. Сёй-той памятаў яшчэ, якія скалікі строілі мясцовыя кабеты, калі гэты хлопец-зух, бухгалтар (прафесія — не на млыне кола круціць), у свае

[1] Спосаб жыцця *(лац.)*.

крышталёвыя дваццаць гадоў узяў шлюб са статэчнай удавой удвая старэйшай за яго.

Час замірыў і тыя порсткія плёткі, і прыцішыў дваццацігадовую розніцу, нібыта зменшыў яе. Двое людзей спакойна і годна падыходзілі да канца свайго жыццёвага шляху. У Даны яны так і засталіся на памяці. Сышлі з гэтага свету яны, калі Дана вучылася ў Мінску, неяк не за яе прысутнасцю, і не засталося адчування страты, што накладваюць немінуча хаўтуры. Нібыта адышліся Хмары — як дзень позняй, але прыветна-лагоднай восені.

А насупраць касцёла жылі дзве сястры Жыжылеўскія. У іх былі самыя прыгожыя флёксы ў гародчыку. А ў гародзе было ўсяго патроху — бульбы, гуркоў, маліны, трускалак. Гарод сыходзіў да дрэў, што выструніліся, як жывы плот. За дрэвамі — яркая, прыгожая лугавіна. За домам Жыжылеўскіх быў размешчаны дзіцячы дом, былы пансіён назарэтанак, адабраны ў іх падчас вайны немцамі. Праз шмат гадоў Дана прачытала ў адной кніжцы, выдадзенай у Ватыкане, што Хмары далі прытулак назарэтанцы сястры Імельдзе, калі немцы сталі гаспадарыць у доме сясцёр Хрыстовых.

А ў доме Жыжылеўскіх, на пару юнацтва Даны, жыла сястра Малгажата, калі адчынілі касцёл, месціўся першы святар, які распачаў афіцыйныя набажэнствы ў касцёле.

За дзіцячым домам жыла Хайтайба. Яна продала гародніну: моркву, капусту, буракі, памідоры, гуркі, цыбулю. І сама Хайтайба нагадвала нейкі дзіўны гароднінны гібрыд — ці то капусты з буракамі, ці то морквы з памідорамі. Разбухлая, з абсівераным рыхлым тварам, у нейкіх трантах: немагчыма было разабраць, дзе спадніца, дзе камізэля, дзе хустка.

Палонскія, што жылі насупраць Азарэвічаў, пабудаваліся тут, прыехаўшы з вёскі, і ён адразу пачаў рабіць на мясакамбінаце. Жонка была праваслаўная, ён — каталік, святы ў іх звычайна падвойваліся, але, дзякаваць Богу, хапала і на працяглыя Каляды, і на велікодную двухтыднёўку, і на будзённы дзень. Гэта іх пляменніку надавала вялікай увагі Ніна, а заадно і ягоным сваякам.

І мала цікавасці мела да суседзяў побач з іх домам — прырода любіць захоўваць раўнавагу.

А побач з домам Азарэвічаў на месцы згарэлага котлішча ўсталяваўся чалавек сур'ёзны, акуратны, якога чамусьці ўсе звалі не па імені, не па прозвішчы, нават не па мянушцы, а выключна па роду заняткаў: цырульнік. У яго ўсё было дагледжанае і акуратнае, як бы стрыжанае і прычасанае. Хата з зашклёным ганкам, садочак, гарод. І ён сам, і яго жонка. І дачка іх, якую малой ніхто неяк і не бачыў і не чуў, нібыта яна адразу стала падрослай, падгадаванай.

З другога боку Азарэвічаў жыла ўладальніца Дзюма і іншых прыцягальных тамоў — Варвара Мікалаеўна са сваёй даўняй пакаёўкай, а цяпер з жанчынай, што вяла ўсю гаспадарку і мелася трымацца заведзенага некалі стылю адносін. Палову будынка ў Варвары Мікалаеўны рэквізавалі, і там жылі нейкія нетутэйшыя людзі. Заўважная была адна жанчына. Летам у нядзелю яна расчыняла вокны і дзверы і брала на змор усіх суседзяў, ставячы адну і тую ж пласцінку. «Валенки, валенки, да не подшиты, стареньки», — салодкім, густым рэчытатывам выводзіла Русланава. Сама ўладальніца пласцінкі часам выходзіла на ганак — да вялікага здзіўлення і гневу Варвары Мікалаеўны, у блішчастым цвяцістым капоце, які ўсё расшпільваўся у самым нечаканым месцы, і — да яшчэ большага канфузу гаспадыні дома — пачынала лузгаць семкі пад любімым бэзам Варвары Мікалаеўны. Ну, але тая жанчына вольная бывала толькі зрэдзьчасу, і зазвычай тут было ціха і спакойна, і ніхто не спакушаўся на этычныя і эстэтычныя асновы тутэйшых.

Затое Варвара Мікалаеўна ставілася з павагай да насельнікаў хаты, дзе жылі настаўнікі. Выкладчыца беларускай мовы і літаратуры Надзея Адамаўна і расійскай — Марыя Пятроўна.

Дом быў прыкметны яшчэ і тым, што жыў у ім некалькі гадоў фізік Яфім Пятровіч, што кіраваў у школе струнным аркестрам, а сваім прадметам быў захоплены так, што калі пачынаў тлумачыць урок, дык завітваў у

такія эмпірэі, дзе яго ўжо мала хто разумеў, а ён нікога не чуў і не бачыў. Тым не менш — яго любілі, трошкі пацвельваліся, але не злосна, і ў свой аркестр ён нейкім чынам зацягнуў і старанных адэптаў школьнай навукі, і кончаных бэйбусаў.

У доме, дзе жылі Азарэвічы, былі яшчэ тры кватэры. Той самы ларынголаг на першым паверсе, што часам абвяшчаў сваю нязгоду ці то з нейкімі высновамі свайго сямейнага жыцця, ці то ўвогуле са светапарадкам — тады ў іх хаце было шумна, гаспадар аказваў уладу спосабам старым, як шлюбны лад, і жонка выяўляла незвычайны для яе важкой постаці спрыт, порстка выскокваючы праз акно.

Пасля перасялення Мазуркоў у гэтай трохпакаёўцы часта мяняліся гаспадары. Жыла старасвецкая пара з сястрой жонкі. Сястра, Вольга Іванаўна Ліпская, змусіла, не быўшы вялікай дзяячкай, адседзець тэрмін «за польскім часам», з прычын палітычных. Не пакінулі яе сваёй увагай немцы. Ну, а паваенныя саветы далі тэрмін трывалы. Аднак Вольга Іванаўна, у акулярах такой таўшчыні, што вачэй не відаць, была сталай чытачкай бібліятэкі, праглынала ўсе часопісы і закідвала Дану пытаннямі. А што там Еўтушэнка? Той толькі набываў вядомасць. А што піша Аксёнаў? А як зараз пачуваецца Максім Танк? А хто гэта — Уладзімір Караткевіч? А што новага надрукаваў Брыль?

Нязбытная была ў гэтай жанчыны цікавасць да людзей. І вера ў добрае. Зведала пакуты, спазнала іх сэнс і перастварэнне душы пакутамі і праз тое — глыбінную сутнасць быцця... І дзень развітання з ёю быў вясновы, ясны, пагодны. І Анёл у цені сваіх крылаў, мабыць, узважваў у той дзень на сваіх вагах меру дабраты і даравання... Можа, заўважыў і машыну Антона Іванавіча, суседа яе, што выпраўляўся ў чарговы рэйс. Машыну сваю ён любіў, даглядаў, як рысака з радаводам, і вёў свой аграмадны «МАЗ» адначасна засяроджана і гуляючы. І з далёкіх сваіх рэйсаў вёз усё ў свой дом. Дзе была жонка, Ліза, пра якіх у народзе кажуць: «У дзеўках — поўная

вуліца, у жонках — поўная печ». Што тых слоікаў — з варэннем, з кампотамі, што кумпякоў вяндліны, кілбасаў — было-было ў доме.

А галоўным аўтарытэтам у доме была Вольга Станіславаўна. Хіба што жыхары на першым паверсе, у двухпакаёўцы, не падзялялі таго піетэту. Самога, таямнічага супрацоўніка НКУСа, амаль ніколі не было ўдома. Затое яго адсутнасць кампенсавалі сваёй неаспрэчнай заўсёднай прысутнасцю жонка Клаўдзя Фёдараўна і яе маці. Абедзве яны нідзе не рабілі — вялі дом. Вялі ўзорна, Клаўдзя Фёдараўна, маладая жанчына, мабыць, мела ахвоту быць на людзях, але з-за адсутнасці асяродка, што мела б столькі ж вольнага часу, як яна, больш займалася хатай, і цэлымі гадзінамі яны з маці сядзелі на вышараваным да жаўцізны, як і лесвіца, ганку і вышывалі. Клаўдзя Фёдараўна была гладка ўчасаная, з тонкімі рысамі твару, дагледжаная, ненатомленая, зазвычай у крэпдэшынавых квяцістых сукенках. Калі яна ўставала з ганка, дык здавалася, што нехта жартам падкінуў да гэтага тонкага твару і зграбнай таліі важкія, сялянскія клубы. Але Клаўдзя Фёдараўна на комплексы не пакутавала, была задаволена сабой, сваім жыццём, дагледжаным домам, магчымасцю чытаць, вязаць, вышываць.

Летам яны, здавалася, жылі на ганку. А Данчына маці адчувала няёмкасць ад гэтай кожнадзённай варты — яна праходзіла спрацаваная, не заўсёды ў гуморы, і ёй былі зусім недарэчы позіркі гэтых вольных, адпачыўшых жанчын.

Не была ў вялікім захапленні ад візітаў Іры, пляменніцы Клаўдзі Фёдараўны, і Дана. Сталічная госця была ўпэўненая, да правінцыялкі Даны ставілася звысоку, аднак таварышаваць ёй, падобна, тут больш не было з кім. І яны хадзілі разам гуляць у «два агні». Наладжвалі на ганку дома гульні ў «ручаёк», «глухі тэлефон», «фанты», «садоўніка».

У «ручайку» нехта «няпарны» падбіраў сабе «да пары» з тых, хто выстройваўся ў шэрагі пар. У «садоў-

ніку» кожны браў сабе назву кветкі — ружа, лілея, бэз... А «садоўнік» крыўдаваў на тое, што ўсе кветкі яму абрыдлі, акрамя... Тая кветка, якую ўпадабаў «садоўнік», крычала: «Ой», а на пытанне: «Што з табой?» адказвала: «Закаханая»; а на чарговы запыт: «У каго?» мелася назваць чарговую «кветку»...

Гульні нечым падабаліся. Магчыма, тым, што лёгка так вымаўлялася пакрыёмае слова «закаханая», а яшчэ і выбарам — часам ён прыпадаў на таго ці на тую, на каго прыпадала і ўвага ў жыцці. Як і ў тым «ручайку» — трэба было ўзяць за руку, прайсці разам, нахінуўшы галовы праз узнятыя рукі: адчуць сябе абранай, выбранай і мець магчымасць выбраць самой. Проста так, як то бывае ў маленстве і юнацтве. Ты пэўна ведаеш, што гульня — гэта гульня і ўсе трымаюцца яе правіл. І ўсё «понарошку» і крыху сур'ёзна. І нібыта не толькі Анёл у цені сваіх крылаў паблажліва пазірае аднекуль з бліжэйшага ад замкавых вежаў воблака, але і цэлы гурт небанасельнікаў злёгку пасміхаецца з наіўнага спектакля, рэпетыцыі і будучага дзейства, што ў рэальнасці часта несла ў сабе магчымасць махлярства, аблуду, здраду, імкненне перахітрыць, нешта схаваць, а ў нечым пазначыць тое, чаго там ніколі не было. І тым больш чароўнай і нязмушанай чулася музыка былога, якою тут, здавалася, было насычана паветра, і незвычайнымі здаваліся зусім шараговыя суседскія хлопцы і дзяўчаты. І нават просценькая камізэлька выдавала рэнесансным калетам ці якім-небудзь шыкоўным брандэбурам часоў Людовіка XIV. А ўвогуле такое прымройвалася на хвіліну, бо гэтыя постаці рэальнасці выдавалі толькі чарнавым накідам тых, што павінны былі з'явіцца ў «сапраўдным», «дарослым» жыцці. Нейкі гібрыд-абсалют — з кніг Дзюма і Грына, Джэка Лондана і Майна Рыда. І герояў фільмаў: Жана Марэ і таго невядомага, што быў на экране Робінам Гудам. Жыццё пазней крышыла і ламала стэрэатыпы і класічна-юнацкія ўяўленні: істоты са знешнасцю Марціна Ідэна аказваліся Санча Пансамі, а Жульены Сарэлі лічылі сябе Сірано дэ Бержэракамі. А паскуднікі, накшталт тых, што жылі каля

МТС, рабіліся начальнікамі і неяк мелі гарт захоўваць свой статус пры ўсіх выкірунках грамадскага лёсу. Якое пакаранне ўзважваў для іх на сваіх шалях Анёл у цені сваіх крылаў?

А хлопцы, што жылі за МТС, заўсёды дражніліся — неяк цёмна, малазразумела. І адчувалася — вельмі крыўдна. Дана не ведала іх у твар, былі яны нейкай падплотнай, бруднай масай. Заўсёды вышчэрваліся наўздагон — і адразу збягалі. Заставалася ўражанне, што яе закідалі камякамі зямлі...

Такі ж быў Драбышэўскі ў іх класе. Паскудненькі, хітранькі. І, як пазней зразумела Дана, заўсёды згаладнелы. Калі ў школу прывозілі батоны з разынкамі — за два рублі трыццаць капеек, Драбышэўскі хапаў батон і глытаў яго за некалькі хвілін. Можа, таму і быў такі злосны?

## НАІЎ МІЛАСЭРНАСЦІ

Хаця... Прыехаў у іх клас Віця Собалеў. З Севастопаля. З сям'і, мабыць, не багацейшай за сям'ю Драбышэўскага. Дана зразумела гэта, калі Валера Чыкала, сын вайскоўца, амаль што выдатнік, прыйшоў, парыпваючы новымі чаравікамі, а Драбышэўскі зрабіў з таго рыпу падзею, дык неяк адразу высветлілася, што Віця старанна хавае пад лаву свае ногі ў нечым цыравана-латаным. І што чорная яго суконная гімнасцёрачка (яна нагадвала гімназічную форму) — таксама цыраваная на локцях. Але Віця быў упэўнена-спакойны, амаль заўсёды ніжэй за адзнаку «выдатна», як і ўладальнік новых чаравікаў, не апускаўся.

Увогуле-то ўсе яны мелі амаль што аднолькавы шык. І хлопцы, і дзяўчаты — у фуфайках, якія зваліся чамусьці футболкамі, фланелевых ці вельветавых. Усе — зімой у валёнках з галёшамі. Хлопцы — як хлопцы — у нагавіцах, а дзяўчаты ў форменных сукенках, карычневых ці сініх з белымі каўнерыкамі, чорных фартушках і — дзе ж было ўзяць цёплыя панчохі ці гетры? — усе спрэс у шараварах: сацінавых, байкавых, вельветавых. Пасляваенная

школьная дэмакратыя. І яны ўсе былі ў той уніформе: і дачка першага сакратара райкама Ларыса Бандарэнка, і Галя Каспяровіч, бацька якой рабіў на электрастанцыі, і яна, Дана.

Ці было гэта справядліва? У кожным выпадку — не было зайздрасці. Не было бегу навыперадкі. Яны былі па-за прывілеямі. Па-за рэчавай мітуснёй. У іх проста быў нейкі абутак. І адзетак. Калі Дане справілі бела-чырвоную сукенку: белыя крэпдэшынавыя рукавы і манішка, а ўсё астатняе — чырвоная воўна, а да таго яшчэ і шыкоўныя чырвоныя басаножкі на венскім абцасіку, Дане было няёмка. Яна выдзялялася з усіх. «Заможнасць» прыцiскала яе. Нават заахвочваючае Ірчына: «Ой, вось бы табе зараз у Мінск! На праспект!» — неяк не давала настрою. Белая варона.

Яны праглі справядлівасці. Меліся быць міласэрнымі. Хаця само тое слова не было ў цане.

Яны праглі актыўнай дзейнасці. Тым часам прачыталі «Цімура і яго каманду» і «Як гартавалася сталь». І хацелі свае высакародныя памкненні ўвасобіць у канкрэтных учынках.

Трэба стварацъ суполку. Першы збор быў прызначаны ў Галі Каспяровіч. Яна жыла наўпрост на электрастанцыі, у маленькім пакойчыку, дзе месціліся яе бацькі і двое дзяцей, малодшых за яе. Аднак удзень дарослых не было, ды і малых звычайна да вечара адводзілі ў садок. І ў Галінай хаце былі дзве прыцягальныя рэчы: радыёпрыёмнік і радыёла. Прыёмнікі былі ў многіх, радыёла была прыналежнасцю адметнай. А планы ашчаслівіць, ну, не так каб усё чалавецтва, але ўсіх нямоглых акругі неверагодна супадалі, як ім здавалася, з хрыплаватымі галасамі Бернеса і Уцёсава. «А помирать нам рановато, есть у нас ещё дома дела», — пэўніў адзін. «В этом доме пустом мы танцуем вдвоём, ну, скажите хоть слово», — сцішана прасіў другі. Тэарэтычная частка наконт вялікіх учынкаў міласэрнасці была адпрацавана дасканала, але на практыцы здзейсніць подзвігі ананімна, інкогніта ім не ўдалося. А менавіта ж так рабіла ўсё каманда Цімура. Слоўцы

гэтыя — «ананімна» і «інкогніта» — усім падабаліся, прынеслі іх Валера і Віця, вымаўляліся яны з адчуваннем уласнай — хай сабе запазычынай — інтэлектуальнай вагі.

Ну, а калі цэлы гурт падшыванцаў з'явіўся з прапановай прынесці вады і дроў адной апекаванай, дык яна, разліўшы з перапуду ваду з вядра, ляснула веснічкамі перад іх носам, а ўжо з ганка перапалохана паабяцала давесці да ведама ў школу. Гэта і зусім рушыла іх планы.

Пазней, калі Дане даводзілася чытаць з'едліва-крытычныя заўвагі наконт тэорыі малых спраў, яна згадвала іх няўдалы дзіцячы вопыт. Але ніколі не пагадзілася з марнасцю тых малых учынкаў. Часам прынесці каму хлеба і слоік малака дае куды больш карысці, чымся высокія тэарэтычныя памкненні і словы, словы, словы... «Любіць чалавецтва лягчэй, як зрабіць дабро суседу», — Рыгор Скаварада меў рацыю. Дана ў сваім жыцці сустракала столькі гарачых барацьбітоў, змагароў, трыбунаў, палымяных прамоўцаў — і так мала проста прыстойных людзей... І чамусьці заўсёды інтарэсы груповак выдаваліся за інтарэсы прагрэсіўнага чалавецтва, а сябра абявязкова выдавалі за вялікі талент. І перспектыўна патрэбную асобу абавязкова рабілі незвычайна даравітай, імя прыгадвалі пры выпадку і без асобай патрэбы — і ўсё спадала ў нябыт, калі раптам асоба знікала са сваёй службовай арбіты ці зусім пайшла з жыцця. Тут, праўда, здаралася і іншае. Памяць пра істоту часам пачыналі любіць, абагаўляць, рабіць рэальнае з неіснуючага.

Тады... Тады ў іх была нагода прыходзіць да Галі. Не абы-што — збор цімураўцаў. Іх было некалькі чалавек. Таямніца захоўвалася шчыра і старанна. Яны адчувалі на сабе гэты водсвет патаемных добрых спраў — не мела значэння, што больш прывідных, — і, як матылькі на агонь, ляцелі на гукі радыёлы. Тым часам у Галі з'явіліся новыя пласцінкі.

І — ці то анёльскі голас Леакадзіі Масленнікавай паўплываў, ці то Шульжэнка так чароўна маханула знакамітай сіняй хустачкай, але 5 «В» вырашыў перайсці на тактыку асобных учынкаў. Бачыш — трэба дапамагчы, дапамагай. «А потым — справаздачы на зборы атра-

да», — вякнула было Алка Паравая, але яе зашыкалі і засмяялі. Губляецца ж увесь сэнс. Яны павінны рабіць дабро — пакрыёма. Так, як рабіў Цімур. Ці Робін Гуд. 5 «В» быў пад уражаннем трафейнага фільма пра героя Шэрвудскага лесу.

Потым і гэтая задума, як большасць высакародных задум... не тое каб зусім не спраўдзілася, але неяк зачаўрэла. Ці то ў Галі не з'явілася больш новых пласцінак, ці то бацькі даведаліся пра зборы і яны ім не прыйшліся даспадобы. Ці то з прычыны ад'езду галоўных завадатараў — Собалева і Чыкалы. Ці, можа, з натуральнай прычыны — дабро неабавязкова рабіць гуртам. Можна і паасобку.

## МАСКАРАД

Да таго надарыліся дзве падзеі. Першая — Новы год. Другая — выбары. І не проста Новы год, а баль-маскарад. Для старэйшых — восьмых–дзясятых класаў. Ажно для ўладальнікаў маскарадных строяў будзе зроблена выключэнне. Калі зробяць касцюмы, пусцяць і недалеткаў. Колька Шаптун з 6 «А» надзеў кірзавыя боты і шаўковую чорную сукенку і пачапіў медаль маці-гераіні. Тады адносіны да ўзнагарод былі самыя пашанотныя. Але гэтыя дзёрзкасць і відавочная гарэзія ўсім спадабаліся. Рогату было на ўсю школу. Колька адчуваў сябе сапраўдным героем. Прэміі яму, праўда, не далі. Першую прэмію атрымаў Сурвіла — з дзясятага класа. У яго касцюм быў звышідэйны — «Мір». На галаве папяровы Крэмль, а на ім самім — нейкі цёмны балахон. Тэма была модная і яшчэ вельмі актуальная — у школе было поўна перарosткаў. З-за вайны. У школе былі дзеці з дзіцячага дома — з-за вайны. У школе былі бязбацькавічы — з-за вайны. Галоўны тост у застоллях дарослых быў — «за мір ва ўсім свеце». Пакаленне Даны, крыху падросшы, падсмейвалася з рытуальнага тоста-заклінання, ажно калі іх жыццё перайшло на сваю другую палавіну, яны зразумелі сакральны наіў сваіх бацькоў:

зноў больш ці менш лакальныя канфлікты адбіралі жыццё ў маладых і старых, ператваралі ў нішто дабрабыт, адбіралі веру ў справядлівасць.

А на тым, першым сваім маскарадзе Дана таксама мела касцюм «у духу часу», як любіў паўтараць пазней адзін чалавек, што лічыў сябе літаратарам. Касцюм меўся паказваць «голуба міру». Тады ўсюды быў растыражыраваны «Голуб міру» Пікаса, і большасць цывілізаванага грамадства адной шостай часткі зямной кулі сур'ёзна лічыла малюнак галоўнай працай вялікага іспанца. «Адкрыцці» Пікаса, імпрэсіяністаў, імажыністаў, экспрэсіяністаў, кубістаў сталі адбывацца гадоў на пяць—сем пазней. І прыпала на студэнцкія Данчыны гады.

Напярэдадні маскараду маці Даны сядзела не адну ноч, нашываючы белае пер'е ці то курэй, ці то качак на белую марлю. Галоўны акцэнт быў на какетцы, рукавах і шапцы. Рукаво было аблямавана пер'ем, і калі Дана ўздымала рукі, дык выгляд атрымліваўся досыць дыстынктоўны. Ну, а каб яе строі не прыняў хто за намёк на пазасацыяльнае адзенне якой інфанты, на блакітнай стужцы праз плячо было назначана: «Голуб міру».

А прывезла ў школу Дану сама Капітанша Кацярына, на адзінай у горадзе «Пабедзе». Праўда, высветлілася, што Дана прыняла гэту каралеўскую міласць зусім не як дарунак лёсу. Яна буркнула: «Дзякуй», — і збегла. Аднак Кацярына аказалася міласцівай да канца. І прыехала па Дану а дванаццатай гадзіне. Смяялася — забіраю, як Папялушку. Праўда, у Даны крышталёвых чаравічкаў не было. Былі — тыя самыя класічныя «балеткі», начышчаныя зубным парашком да нечуванай белаты.

Гэта быў першы баль. Першае свята, амаль як у дарослых, старшакласнікаў. І Дана чакала яго. Павінна здарыцца нешта незвычайнае. «Вайну і мір» Дана ўжо «праглынула». І была ўражаная Балконскім і Дарахавым. Наташа Растова ёй не вельмі спадабалася, але першы баль Наташы Дана запомніла. Ну, школа — не велікасвецкая зала, аднак фантазія магла прымроіць што заўгодна...

На ганку школы Дана вызвалілася ад футра Капітаншы Кацярыны і ад яе самой. Перайшла пад апека-

ванне маці. Насунула на вочы маску: «Маска, хто вы?» Але яе адразу ўсе пазналі. І чароўныя прынцы недзе, мабыць, збіліся з дарогі, трапіўшы на баль. І добрыя феі, падкінуўшы «карэту» Капітаншы Кацярыны, вырашылі далей пралога казкі не пасоўвацца. Дана таксама яшчэ не мела на мэце, што казачны прынц, капітан Грэй, князь Балконскі павінны з'явіцца да яе. Дана была згодная на чужы баль. Але ж не было нікога, падобнага на Руі Блаза, Асоль ці хаця б на Наташу Растову!

Няўжо прыгоды больш не адбываюцца на іх зямлі? У іх горадзе рыцараў і герояў? Ніякага мройна-ўзнёслага свята, толькі строгія воклічы маці: «Выпрастай спіну, што ты як ваду нясеш?», «Не хіхікай», «Ты не змерзла?»

А можа, некаму здавалася ўсё зусім інакшым? І для некага гэта быў баль? І свята? Вось для іх, незнаёмых, недасягальна дарослых старшакласнікаў? Яны збіраліся купкамі, гаварылі пра нешта сваё... І здаваліся Дане звычна-празаічнымі, як і настаўнікі, што сядзелі на лаўках уздоўж сцяны. Толькі пазней Дана ўсвядоміла і ацаніла — 31 снежня, а дванаццатай гадзіне — настаўнікі былі ў школе! Са сваімі вучнямі!

Першы баль не адбыўся. Дзіцячыя святы адыходзілі ў мінулае. Дана была расчараваная.

І доўга яшчэ расчароўвалася ў святах, немаведама чаму чакаючы цуда, пакуль не зразумела — да свята трэба быць падрыхтаванай. Трэба набыць унутраны вопыт, каб спрычыніцца той радасці. У школе. Дома. У касцёле. У жыцці.

**ДЫЯЛОГ**

Затое вось гэтае свята было заўсёды з ёю. Будзённым днём. І ўрачыстым. У дзяцінстве і ў сталым веку. Вежы замка, касцёл пад чырвонай дахоўкай, зачынены і напаўразбураны, але ўсё роўна прыгожы касцёл даміліканаў, звівы вуліц, з якіх вясной лятуць маладыя і рамантычныя ручаіны — адвеку і заўсёды — маладыя і рамантычныя. За Ягайлам, за Міцкевічам, за Пілсудскім, за Брэжневым — маладыя і рамантычныя.

Ім няма справы, які ў каго настрой. Які час, якая эпоха: ці то паскілзаюцца на схілах горада вершнікі магутнага князя, ці то фанабэрыста ляціць вазок асадніка, ці то фукае маторам эмтээсаўскі «газік». Зімой гэтыя вуліцы-горкі — пакаранне для ног, што ўжо досыць папахадзілі па зямлі, і вясёлая рызыка для ступакоў гарэзліва-ненатомленых. Канькі, прыстасаваныя да валёнак пастромкамі і драўлянымі друзачкамі (шык пасляваеннага часу), імчаць адсюль самі. І кожны хлопец-зух пачувае сябе ўвасабленнем руху, вечна маладым, назаўсёды спрытным, на ўсё жыццё — бесклапотна-вясёлым. Імгненні лятуць, бы святочнае канфецi, свет — поўны зіхоткіх чараў.

Дана не мела ні такога спрыту, ні такое рызыкі — яна з'язджала з замка на лыжах. Ці седзячы на ўласным футры. Разам са шчанюком Вітусам. А ягоная маці — аўчарка Рэгіна — пяшчотна-паблажліва пазірала на малечу: свайго нашчадка і маладую гаспадыню. Хай сабе гарэзуюць — на тое і маладосць. Колькі год было Рэгіне — ніхто не ведаў. Як вывез з Нямеччыны вайсковец, што займаў да іх кватэру, той самы, у якога была набыта дубовая шафа. Азарэвічы ці не месяц-другі жылі ў адным пакоі, пакуль маёрава сям'я не з'ехала ў Пухавічы. Ці то нечым упадабала Азарэвічаў Рэгіна, ці то былі яшчэ якія абставіны ў яе сабачым жыцці, аднак праз нейкі час аўчарка з'явілася ў іх доме. І стала паўнапраўным сямейнікам. Прыгажуня. З вачыма, што разумелі ўсё. Калі былая гаспадыня Рэгіны, маёрава цешча, гулькаючы пульхнага — вочак не відаць — дзіцёнка-ўнука, прыгаворваючы: «Ой-ёй-ёй, шейка, как у чаечки», — Рэгіна паглядала на яе відавочна іранічным позіркам. Можа, таму і трапіла ў няміласць?

На Дану, Рэгіну, Вітуса, на ўсіх гараджан пазіралі звысоку вежы замка. Што ім да згрызот гэтых часовых насельнікаў? Яны, вежы, стаяць тут стагоддзі. Што ім змена часоў? Рэжымаў? Нораваў? Строяў? Што ім да парафіян, што ідуць да касцёла? Да забудоў гэтых парафіян? Тэатральныя дэкарацыі чарговага спектакля

часу. Хаця... Яны таксама частка дэкарацый. Ды і... толькі вежы. Толькі рэшты. Вось і храм дамініканцаў, замыслены на даўгалецце, на працягу аднаго жыцця Даны зачынялі, рабілі сховішчам, спалілі... і ўрэшце сабраліся рэстаўрыраваць. Той рэжым, на які прыпала значная, не, мабыць, большая частка яе жыцця, відавочна не быў у згодзе з вечнасцю. І са старадаўнінай. Тое, што прыйшло на замену, таксама было мала падобна на патрэбны людству лад. І тых, і другіх гаспадароў жыцця хто вёў шляхам Розуму? Шляхам Памяці? Шляхам Любові? Якім было іх sensibilite — адчуванне? Чаму адны выракліся Таямніцы, а другія, падобна, абвясціўшы свабоду, выракліся ўсяго, што цэніць чалавек? Палітыкі ставяць спектаклі часу — «до полной гибели всерьез», надаюць маштабы мізэрнаму. Гуляюць гульні эпохі.

І чым далей, тым часцей згадвалася сцэна пад Аўстэрліцам. І нават празарэнне Андрэя Балконскага: «Ён ведаў, што гэта «Voila une belle morte»[1], — вымавіў Напалеон, гледзячы на Балконскага... Князь Андрэй чуў, як называлі sire[2] таго, хто сказаў гэтыя словы... Ён ведаў, што гэта быў Напалеон — яго герой, але той хвілінай Напалеон здаваўся яму такім маленькім, мізэрным чалавекам у параўнанні з тым, што адбывалася зараз паміж яго душой і гэтым высокім, бясконцым небам з воблачкамі на ім... Яму падаліся такімі нікчэмнымі ўсе інтарэсы Напалеона, такім дробязным падаўся сам герой яго, з гэтым дробным славалюбствам і радасцю перамогі, у параўнанні з тым высокім, справядлівым і добрым небам, якое ён бачыў і зразумеў...»

І ўсё жыццё Дана аддавала перавагу гэтаму паразуменню з небам і воблакамі, гэтаму бясконцаму дыялогу, што ніколі не надакучваў, перад любымі інтарэсамі. І ўсё больш пэўнілася — толькі гэта сапраўднае. З людзьмі той дыялог здараецца вельмі рэдка. Але ёй пашчасціла.

---

[1] Вось выдатная смерць *(фр.)*.
[2] Ваша вялікасць *(фр.)*.

## ШЧАСЦЕ ВЫПАДКУ

Пэўна — той раніцы Анёл у цені сваіх крылаў відавочна паспрыяў ёй. З касцёла, калі Дана падышла да яго, даносіліся гукі — яна нават не ўсвядоміла адразу, што нехта спявае. Сапрана было чыстае, як усмех дзіцяці. Лірычнае сапрана, што мела, мабыць, схільнасць і да каларатуры. Старэнькі клавесін нягучна падыгрываў голасу. А голас не ляцеў, а ўзносіўся — і сціхаў недзе высока пад скляпеннямі, потым зноў — узнікаў і лёгка плыў далей.

Так было цэлае лета — дзяўчынка прыходзіла і слухала ў пустым касцёле голас. Пазней адбылося знаёмства з жанчынай, што пела. На вуліцы яна сама падышла да Даны. А тая не схацела звязваць голас, тыя хвіліны з будзённага выгляду жанчынай, у шараватай паркалёвай сукенцы. Чар голасу не супадаў з уражаннем ад яго ўладальніцы. Дана яшчэ была ў палоне рамантычных мрояў, і несупадзенне выгляду і голасу было не тое каб асабістай абразай, але відавочным непаразуменнем. Яна ніколі ў жыцці не будзе глядзець на хоры, нібыта яе можа прычакаць пакаранне Лотавай жонкі. І таму, што не схоча парушаць канон, і таму, што будзе баяцца пабачыць твары, зусім не падобныя на тыя, што ёй уяўляліся, калі яна чула спевы. Яна будзе толькі слухаць што-небудзь накшталт:

Чысцейша Панна,
Без жаднай сказы,
Усцеражы нас хвароб, заразы.
Ты найстрайнейша
Райска лілея,
Авей паветра —
Вітана будзь, Марыя!

Жанчыну Дана не ўпадабала, але ўражанне ад голасу ў касцёле засталося. Уражанне, якое выпадала з часавых і побытавых рэалій, незвычайнасць гукаў, за якімі нібыта і не было нікога — як быццам Высокі Дух сублімiраваўся

ў гэты ясны і высокі голас. І пустата касцёла, яго строгія і класічна вызначаныя абрысы толькі падкрэслівалі гэта, акустыка святыні несла гукі пад нефы храма, нагадваючы пра першапачатковую існасць музыкі, яе Боскую прадвызначанасць.

Тады Дана кампазіцыю жыцця ўяўляла сабе ідэальнай. Свет выдаваў добрым, прыязным, добразычлівым. У тыя гады ёй пашанцавала — яна мела стасункі з істотамі, што нібыта выпраменьвалі дабрату і цноту. На тую пару ёй гэта выдавала натуральным — хіба бывае інакш? І потым яна адчувала сябе безабароннай перад злом, не тое каб слабай, проста не была падрыхтаваная да тых хітрыкаў, якімі д'ябальскага складу дэміург надзяляе сваіх «пратэжэ».

Тады... жыццё давала ёй свае шчасныя знакі.

Тым днём яны былі з Ірай. Каля касцёла кульгаваты Яцак пілаваў, так бы мовіць, дровы. Былі то тоненечкія сухадрэвіны, але цягаць пілу аднаму было нязручна. І яны падбіліся дапамагчы. Узнагародаю былі дзве шклянкі смачнага малінавага сіропу. І — галоўнае — знаёмства. З сястрой Малгажатай. І пані Магдай.

Сястру Малгажату Дана заўсёды бачыла здалёк. Тая — нязвычна і прыгожа апранутая — доўгая спадніца, чапец. Не падобная ні да каго. Гэтая асобнасць адзеткам яе толькі падкрэслівалася — галоўнае было не ў тым. Адчувальным было episteme[1], тое веданне, што было недасягальным для атачэння. Тое празарэнне існага, дачыненне да субстанцыяльнага — адухоўленасць. Для Даны, і не толькі для яе, сястра Малгажата была стварэннем іншага парадку. Хаця рабіла сястра, — а яна ўвесь час нешта рабіла, — «не ўжывала хлеба ляноты», — працу звычайную: гадавала кветкі, прыбірала касцёл (калі яна даводзіла яго да ладу? — з ранку да вечара касцёл быў адчынены), рабіла — з вялікім густам, вось тую самую, жывую аздобу з кветак, акрасу... Гатавала... Мыла...

---

[1] Веды *(ст.-грэч.)*.

Як пазней зразумела Дана, сястра Малгажата па сутнасці выратавала касцёл — ад нядобрых рук нядобрых людзей, пражыла не адзін і не два гады ў муры, прыняла пакуты хваробы веку: памерла ад раку лёгкіх.

Дана вазіла сястры Малгажаце з Мінска лімоны, цукеркі, нейкія прысмакі. А яе на вакацыі заўсёды чакаў букет хрызантэм, а ўлетку — пунсова-ружовыя трускалкі — іх сястра Малгажата прыносіла ў парцалянавым кошыку, абкладзеным лістом. Твор мастацтва, абразок местачковай культуры...

Маці Даны ў касцёл хадзіла нібыта выпадкова, між іншым. Адвакат, здаецца, не ўлада, і беспартыйная, але ўсё ж афіцыйная асоба...

Аднак Вольга Станіславаўна не адну ноч праседзела разам з пані Магдай, каб пісаць апеляцыі, — трэба адчыніць касцёл для вернікаў. Маці з таго таксама мела, мабыць, на тую пару рызыку... Як і ад знаёмства дачкі з жанчынамі пры касцёле. У жыццёвых, побытавых варунках — найперш з пані Магдай.

Пані Магда была чалавекам свецкім, святовым, у адрозненне ад сястры Малгажаты. Сваёй сям'і ў пані Магды не было — і Дане пашчасціла зазнаць увагу і спагаду яе. Дарэчы, Дана не разумела ні тады, ні пазней гэтага з жальбой прамоўленага: самотная, адзінокая. Пані Магда не была ні самотнай, ні адзінокай. Магчыма, то не было splendid isolation[1], але было станам, які дае магчымасць засяродзіцца на руху душы, спрычыніцца волі духу, спазнаць мудрасць не затлумленага клопатам жаночым, сямейным існавання. Пані Магда не была ні маралісткай, ні ментаркай, яна проста прыходзіла да іх у дом. Да маці. Пазней, можа, больш да дачкі. Без нагоды. З нагоды. Яна адна называла Дану яе імем. «Панна Дамініка», — прамаўляла яна, пасміхаючыся. Хто і калі стаў клікаць Дамініку Данай — ніхто і не памятаў. І мала хто ведаў, што яна не Данута, як то павінна было б вынікаць са скарочанага імя. «Дамініка!» — пані

[1] Бліскучая адзінота *(англ.)*.

Магда прамаўляла гэта нават радасна-ўрачыста. Потым мала хто ў жыцці яе так клікаў, але было тое неверагодна прыемным напамінам. Часам пані Магда давала сабе клопат аднавіць строі, часам распачаць якое шытво. «Крыху памадэліруем», — прамаўляла пані Магда. І яны мадэліравалі — больш, падобна, душу, як постаць. Калі была пашытая тая самая сукенка, якую саромелася апранаць Дана — занадта шыкоўная, — дзед быў задаволены: «Насі доўга. Колеры нашай дзяржавы». Пані Магда падтрымала: «Святыя колеры».

З пані Магдай яны вялі доўгія размовы падчас школьных і студэнцкіх вакацый. Калі Дана з'ехала ў Мінск, пані Магда пісала ёй: «Дарагая мая! Набліжаецца нікому не вядомы дзень Твайго Імя. Сапраўдныя твае імяніны. І толькі тая твая старая, несучасная сяброўка лічыць гэты дзень важным для цябе.

Ліст гэты ты павінна атрымаць напярэдадні, тады згадай сабе, што некалі жыла маладая, можа, прыгожая асоба з такім імем, што фігуруе ў календары. Звярніся да Яе, пад Яе абарону...

Не май сумніву, па той бок могуць быць у нас Сябры і Абаронцы. І калі нам цяжка, мы ва ўзбуджэнні можам да Іх звяртацца і ў Іх шукаць парады. Толькі трэба прыслухоўвацца да Іх адказу, а можа, Іх адказ нам не заўсёды прыйдзецца даспадобы.

Мы жывём сённяшнім днём, але здараецца так, што тое, што сёння выдае важным, надалей у будучым прымае зусім іншую вагу».

«Sursum corda»[1], — суцяшала Дану пані Магда.

Sursum corda! Трымайся! Згадвала Дана пані Магду, калі было скрушна і крыўдна, калі лірычныя ілюзіі і рамантычныя мроі раструшчваліся безапеляцыйнай рэчаіснасцю, што шчарупкі пад ботам рыбара. І брала мудрую кнігу і чытала: «...бачыў я пад сонцам, што не прыткім даецца ўспешлівы бег, не харобрым — перамога, не мудрым — хлеб, і не ў разумных — багацце, і не спраўным — благасць, але час і выпадак для ўсіх».

---

[1] Угору сэрцы *(лац.)*.

Час і выпадак здараліся зрэдзьчасу, але здараліся. Былі дарункі жыцця. І знаёмства з пані Магдай і сястрой Малгажатай — з найважнейшых. І ведучы, больш падсвядома, у будзённай сумятні, падлік страт і набыткаў у адвечнай спрэчцы паміж марай і яе здзяйсненнем, спрадвечным і часовым, паміж Боскім і чалавечым, Дана ўсё сваё існенне ў чарадзе дзён адчувала іх прысутнасць у сваім жыцці як сімвал сапраўднага і справядлівага. Яны не прысутнічалі на дзействе яе жыцця, яны далікатна нагадвалі пра ідэалы і светлы наіў маленства.

Хаця рэчаіснасць пасміхалася з ідэалу і наіву. І ў гады маленства. І ў часы дарослыя. Падкідваючы дзействы па прынцыпу абсурду.

**ПРЫНЦЫП АБСУРДУ**

99,9 працэнта — іншых лічбаў статыстыка краіны не ведала. Толькі так — амаль аднагалосна. У адзіных шэрагах. У адзіным парыве.

«Адзіны парыў» рыхтавалі настаўнікі, службоўцы, розныя канцылярысты, актывісты-рабочыя. І, безумоўна, павінны былі весці рэй юрысты. Маці некалькі месяцаў запар прыходзіла ледзь не апоўначы. І яны, разам з Галінай Яўгенаўнай, суддзёй, ішлі пешшу — лютаўскай завеяй, па вёсках. З’яўляліся закуржавелыя, скасцянелыя — варылі бульбу, пілі гарбату. Галіна Яўгенаўна, адтаўшы, галасна смяялася і расказвала, як яна рабіла ў міліцыі маскоўскага метро. А на выбарчы ўчастак суддзя з’яўлялася, як на свята, у яркай-яркай сукенцы — гэты колер лічыўся надзвычай модным і зваўся «электрык». У працэсе і на працы Галіна Яўгенаўна заўсёды была ў суровым англійскім гарнітуры — ён выглядаў на ёй мундзірам. Можа, быў перашыты са старой формы? У госці ж да Азарэвічаў яна прыходзіла ў той самай яркай сукенцы, што і на выбары, заўсёды спявала, нібыта ўскрыквала, нейкія рускія прыпеўкі. І распеўна вяла шчымліва-галасныя песні. «В красной рубашоночке, хорошенький такой», — захаплялася Галіна Яўгенаўна.

Дзень выбараў быў што судны дзень. Маці падрывалася ледзь не сярод ночы: у шэсць гадзін трэба было ўжо адчыніць дзверы выбарчага ўчастка і быць напагатове. Здаецца, гадзіны са дзве-тры камісія сядзела там самнасам. Потым пачыналі паціху ісці выбаршчыкі. Гадзіне а дванаццатай аж гул ішоў. А ў дзве гадзіны агітатары пачыналі шныпарыць па адрасах. Хто не прагаласаваў? Тое было страшэнным грахом — адмовіцца ўдзельнічаць у выбарах. Калі хто настойваў на сваім вольным праве не галасаваць — больш за ўсё пакутавалі агітатары: не змаглі давесці важнасць падзеі, садзейнічаюць парушэнню блока камуністаў і беспартыйных.

Маці Даны і Галіна Яўгенаўна, так бы мовіць, сімвалізавалі сабой той блок — і шчыравалі як маглі і нават больш за свае фізічныя магчымасці. Маці пасля ўсіх урачыстых падзей пакутавала на галаўны боль — потым высветлілася, што гэта былі гіпертанічныя крызы. Галіна Яўгенаўна таксама не цвіла здароўем.

Ну, але то быў нуднаваты і афіцыйна зацыклены свет дарослых. Для Даны і яе аднагодкаў цікава было зусім іншае. На ўсіх выбарчых участках — у дзвюх школах, у тэхнікумах, у школе механізацыі — грала музыка. І можна было зусім свабодна, без запрашальных білетаў ці яшчэ якіх «квот» зайсці і танчыць. Незалежна ад узросту. Увогуле Дана не спяшалася стаць дарослай. Але ў дарослых было досыць многа пераваг, перш-наперш — незалежнасць. І магчымасць заходзіць куды хочаш — так ёй здавалася. А падчас выбараў у іх, падлеткаў, з'яўляліся перавагі. Ніякіх абавязкаў, нават галасаваць не трэба, а танцаваць можна колькі заўгодна і дзе заўгодна.

Урэшце выбарчая мітусня заканчвалася. Абраннікі народныя, клішыравана падобныя адзін да аднаго, займалі свае месцы на партрэтах, якія выцягвалі аднекуль падчас дэманстрацый. Здавалася, што нідзе канкрэтна, акрамя тых сховішчаў і партрэтаў, яны не існуюць.

Пазней Дана столькі разоў і ў такіх кантэкстах чула пра свабоду выбараў. Бачыла змены дэкарацый і змены «каравула» і асноўных дзеючых асоб, але галоўнае за-

ставалася нязменным: прага ўлады, мітусня слоў пра волю, пра шчасце народа, а шчасце ўсё неяк, паводле вялікага паэта, было такім блізкім, такім магчымым, але заўсёды блукала, вандравала недзе не там, дзе быў яе народ, людзі, што жылі побач з ёю. І прыходзілі новыя гаспадары, з тымі ж і з новымі лозунгамі — а нічога не мянялася. Стракацелі новыя героі, з іх ужо не паспявалі рабіць партрэтаў, абыходзіліся фотаздымкамі і кадрамі хронікі — тым часам тэлехронікі, бо скрынка гэта замяніла сабой і сад, і агарод, і шпацыры, і відовішчы. Прынамсі, для большасці яе суайчыннікаў. І не суайчыннікаў таксама. Прыходзілі новыя, спрачаліся, ішлі напярэймы, выходзіў наперад зазвычай не лепшы. І ўсё адбывалася наноў. Круг рабіўся шырэйшы, але заставаўся кругам. Колцам. Палітычныя міжсабойчыкі. Мастацкія міжсабойчыкі. Каляграшовыя міжсабойчыкі. Там таксама былі таленавітыя, менш таленавітыя, зусім бязладныя і бяздарныя, але пры пасадзе ці нават пры месцейку, што жывіла многіх, і вабіла, і давала калі не наедак, дык магчымасць падыграць, пакрасавацца, падстаўбуніцца. І які-небудзь вызнаны дзеяч Адраджэння цягнуў на п'едэстал побач з Блокам цётачку-паэтачку, якой цана ламаны грошык у самы ўдалы кірмашовы дзень.

Людзі Данчынага маленства — ці фарысейставалі, ці шчыра памыляліся, хто іх ведае, але цану памылкам сваім плацілі высокую, сваёй, не чужой, «гибелью всерьез». Галіна Яўгенаўна, пазней старшыня абласнога суда ў Гродне, калі яе везлі ледзь не ў непрытомнасці, каб рабіць тэрмінова пункцыю спіннога мозгу, даводзіла, лежачы на насілках: «Завязіце мяне ў суд. Мне трэба здаць партыйныя дакументы». Яна была сакратаркай партбюро. Цвікі, паводле таго вызнання паэта, былі б з яе кволай абалонкі нетрывалыя, але свой крыжовы шлях яна прайшла і Галгофу сваю займела. Дзеля чаго ахвяра? Яна была ўпэўненая, што дзеля праўджанай справядлівасці. А ці была справядлівасць пазней? І ці ўвогуле яна была калі-небудзь на зямлі? Хіба што якімі момантамі. Спарадычна. Як нагадванне пра найвышэйшы закон. А што Анёл у цені крылаў? Што тыя сілы, да

якіх звяртаецца амаль кожны, нават зняверaныя, нават знясіленыя духам?

Пакуты і выпрабаванні — як сэнс жыцця з Хрыстом? «Я вырашыў нічым не хваліцца, акрамя як Крыжам Пана нашага Ісуса Хрыста». «Цяпер радуюся ў пакутах маіх за вас і імкнуся дастачыць тое, чаго не стае ў плоці маёй ад пакут Хрыстовых». Ну, гэтае веданне было дадзена апосталу, а што нам, шараговым? Дане не хапала гэтай прасветленасці пакутай, хаця яна цярпліва трывала, надавала веры і тлумачыла сабе нават не тэарэтычна, а тым, што глыбей і вышэй за тэарэтычнае, — існаваннем Духа, што дае светлату і абнаўленне.

Выбар... Гэта заўсёды засталося нейкай стрэмкай у душы, нечым, што даецца цяжка і чаго хочацца пазбегнуць. Некуды адысціся, сысці. Збегчы. Выбар нагадваў пра дысанансы існуючага. І хацелася выпасці з рэальнасці, апынуцца ў нейкай прасторы і ў нейкім часе, дзе ўсе гэтыя мітуслівыя выбары, людзі, што лічаць сябе абраннікамі — людскімі і Боскімі — не ў цане. Дзе ўвогуле самога разумення «цана, каштарыс» не існуе. А ёсць упэўненасць, і вера, і тое адчуванне святла, што бывае толькі пасля цямніцы.

І няма ніякіх законаў, прэзумпцый невінаватасці, ніякіх дэфініцый, фактаў, доказаў... Арсенала з атачэння яе маці.

Дане падабалася і не падабалася прафесія маці. Падабалася — быць дачкой адваката. Маці адзіная ў горадзе мела такую прафесію. Гэта потым з'явіліся яшчэ яе калегі. Падабалася, што маці робіць «у судзе». Так казалі. Падабаўся знешні рытуал. «Устаць. Суд ідзе». І ўсе застываюць — як пры выкананні гімна.

Дане не падабалася, што прафесія юрыста грунтуецца на фактах, дэталях, дробязях. Гэтыя бясконцыя старонкі судовых спраў, што вывучала маці. Жыццё потым пасмяялася з Даны. У музеі яна, не самая дурная, заўсёды складала каталогі, рыхтавала выставы, пісала анатацыі. А нехта ездзіў ладзіць вернісажы, галёкаў з подмасцяў, красаваўся на імпрэзах...

Можа, і варта было стаць адвакатам? Патрэбны чалавек. Як стаматолаг. Як кравец.

Як гэта? «Хай згіне свет, але здзейсніцца правасуддзе!» — «Fiat justitia, pereat mundus!»

**FIAT JUSTITIA, PEREAT MUNDUS!**

Так пацвельваўся адвакат Галіцын з суддзі Кацяўца — самага галоўнага старшыні з Гродна. Замест прывітання ён гаварыў: «Fiat justitia, pereat mundus!»

Было гэта падчас так званых выязных сесій. Бясконцых паказальных працэсаў.

Падчас тых выязных сесій у іх часам нехта спыняўся — гатэль быў малы і няўтульны. А калі ніхто не атабарваўся ў іх хаце, дык абавязкова прыходзілі пасля заканчэння працэсу. На вячэру. Дана не ведала, ці залежала гэта ад прысуду ці не. Мабыць, ва ўсіх была патрэба лучнасці, гаворак, нейкага пярэдыху пасля шматдзённай, з ранку да вечара (часам і гадзін да дзесяці) працы.

У суседні пакой, дзе сядзела Дана, даносіліся фразы, чапляліся за слых словазлучэнні накшталт «склад злачынства», «абвінаваўчы акт», «касацыйная скарга», «факт злачынства»... Або незнаёмая прыцягальная латынь: «Confessus pro judicato habetur» — «Той, хто прызнаўся ў злачынстве, лічыцца асуджаным». Латынню звычайна карыстаўся Кацявец — вымаўляючы фразы ўрачыста, прыгожа, паводле ўсіх правіл рыторыкі. І нібыта між іншым, як рэпліку ўбок, кідаў пераклад. Высокаму, са строгім класічным тварам, Кацяўцу нібыта самім лёсам было вызначана спраўджваць справядлівасць паводле законаў. Яму была б вельмі дарэчы мантыя. Але на тую пару мантый не насілі, і свой класічнаадукацыйны «дэкор» старшыня абласнога суда спраўджваў без знешніх атрыбутаў. Затое — на класічнай латыні. Яго барытон аксамітна пераліваўся: «jus talionis, закон таліёна, заўсёды мае сваіх прыхільнікаў», — даводзіў ён Галіцыну. Той быў адвакатам. Прыехаў у Гродна з Пецярбурга — ён інакш не называў гэты горад: ніякіх там пралетарскіх «Піцераў»

ці афіцыйных «Ленінградаў». Галіцын падкрэсліваў сваё «пецярбуржства» — «больш, як сталіца», падкрэсліваў сваю багемнасць, знаёмства з тамтэйшым акцёрствам. Падкрэслена, не на правінцыйны лад насіў доўгі шалік — перакінуўшы праз плячо. І — як Кацярына Пятроўна сваімі футрамі — так ён уражваў уяўленне гурый абласнога і раённага маштабу шырачэзным паліто бэжавага колеру і карычневым велюравым капелюшом. Тым часам большасць мужчын афіцыйнага статусу фарсіла ў ботах, галіфэ і мундзірах — ці то даношваючы ваенную форму, ці то мімікрыруючы пад правадыра, дык Стас Апалінарыевіч быў постаццю не толькі заўважнай, але і з пэўным эпатажам. Латыні ён не ведаў, але затое ведаў процьму вершаў, памятаў немаведама колькі трапных цытат, вершаваных і невершаваных, меў не менш гучны голас, як Кацявец, і мог паводзіць сябе куды больш вольна за старшыню суда. Адвакат...

Пабачыўшы Кацяўца, ён з парога абвяшчаў тую самую каронную фразу пра ўсёмагутнасць юстыцыі і дадаваў: «Да, да, и знал он, хоть не без греха, из “Энеиды” два стиха». Самаіронія не была чужая яму. «Анатоль Петрович, — звяртаўся ён зноў да Кацяўца, — не испепеляйте меня взором, грешен, грешен... На площади, знаете, харчевня, вполне, знаете ли... Самое забавное — ее называют: “Чайная Бескина”. Запад...» Кацявец хмурыўся, але маўчаў — працэс скончыўся, дзякаваць Богу... А Стас Апалінарыевіч мог «аскароміцца» і ў самы непрыдатны момант. Аднак, як з хітрынкай прамаўляў Галіцын, той «мирволил ему». А сам Кацявец гаварыў: «Люблю таленавітых людзей, маю слабасць».

Затое Кацявец вокамгненна пачынаў збірацца, калі з’яўляліся мясцовыя чыннікі правасуддзя. «Свірын — ён прысуды робіць наўгад, па-вяцку», — рабіўся раптам калючым Кацявец. «Слюсараў... Лікбез — смерш — нарсуд... Такая амплітуда поспеху». Пра Галіну Яўгенаўну гаварыў коратка і нейтральна: «Службістка». І ніяк не рэагаваў, калі нехта ў застоллі пачынаў распавядаць «навіну» пра сімпатыі мясцовага чырванашчокага прыгажуна і «службісткі». Прыгажун быў намеснікам пра-

курора, і яго пільна даглядала мізэрненькая, шэранькая, што мышка, жанчына — яго жонка. Былая медсястра, член партыі, член нейкіх жансаветаў і г.д.

Галіна Яўгенаўна, зразумела, таксама мела чырвоную кніжачку, без такой кніжачкі ў юрыспрудэнцыі савецкага часу можна было рабіць толькі адвакатам ці натарыусам. І даражыла сваёй кніжачкай і сваім статусам сацыяльным, як і яе амант, і неўзабаве Галіну Яўгенаўну перавялі ў Гродна на павышэнне, а крыху пазней з'ехаў у іншы горад і намеснік пракурора, з жонкай, вядома. Яна была такой жа неад'емнай спадарожніцай яго пасады, як і чырвоная кніжачка.

Часам на выязныя працэсы наязджалі і адвакаты — з Гродна і Баранавіч. Мэтр-абаронца з Гродна — Ямніцкі. І свяцілы мясцовых калегій — Старцэвіч і Бялецкая з Баранавіч.

«У нас пацешыць публіку — што арэх згрызці. Можаш ім не тое што цытаваць, цалкам чытаць усё, што заўгодна, хоць Біблію, усё на рахунак адваката ідзе. Ды і, прабачце, прававерных суддзяў як заўгодна далёка можна завесці. Любы спектакль ладзіць. Я не пра Вас, Анатоль Пятровіч, тут я схіляю галаву». Кацявец — гэта было вядома ўсім, скончыў не толькі ўніверсітэт, дыпломам маглі пахвастацца многія, — але скончыў некалі класічную гімназію, і мала хто меў такія веды, як ён.

Іраніст і хітраван Старцэвіч — і Бога ашукае, і ў чорта адхопіць — пасмейвацца любіў: «Памятаю, якія воплескі адхапіла Абуховіч — амаль цалкам працытавала Плеваку. Без спасылак, без спасылак. «Грамадзяне суддзі, колькі бядот, колькі выпрабаванняў давялося перанесці нашай дзяржаве за яе існаванне. Нямецкія рыцары, пілсудчыкі, фашыстоўцы... (Гэта яна ўжо ад сябе дадала, так бы мовіць, асучасніла, у сааўтарства ўвайшла.) Усё вынесла, усё пераадолела. А тут... Хлопец скраў кавалак кілбасы. Гэтага наша краіна не знясе, загіне, загіне канчаткова і назаўсёды».

Кацявец пярэчыў: «Ну, скажыце дзякуй, што хаця б чытала. Трансфармавала печанегаў і татар на немцаў,

і дыкцыю мае, і паўзы трымаць умее. А вось з ёю і сапраўды анекдатычны выпадак быў. Яна ўвайшла ў смак, гаворыць — толькі што не спявае. Падсуднага не тое што апраўдваць, а хоць да святых можна залічыць. Ну, і ён у апошнім слове, спрабуючы аддзячыць абаронцы — выступала паводле 55-га — так бы мовіць, у якасці ганарару, адсыпаў: «Вы ўжо даруйце мне, грамадзянка адвакат, каб ведаў, што вы такі чалавек, дык нізавошта б ваш рыдыкюльчык у мінулым годзе на вакзале не...» Падсудны ніяк не мог знайсці далікатнае слоўца да свайго «дзейства». А ў судзе паўза — што ў «Рэвізоры».

Яе, мабыць, не вельмі любілі, тую Абуховіч, таму што Старцэвіч тут жа ўкідваў свае тры грошыкі: «Яна, між іншым, не праміне пры выпадку і без выпадку пазначыць, што зямлячка знакамітага Спасовіча». «Ах, ну что там ваша Речица, — узмахваў шавялюрай Галіцын. — Я родился в Москве. Кто там только не явился на свет. Ну и что? Урусова из меня все равно не вышло. Уехал в Петербург — Кони из меня тоже не получился». Бялецкая падымала рукі ў шырачэзных прыгожых рукавах: «Супакойцеся. У нас жа не практыкум паводле знакамітых юрыстаў. Давайце лепш спяваць». І яна пачынала нізкім, мяккім голасам: «Ostatnia niadziela...»

І Кацявец, прыгожа-ссівелы, шляхетны, слухаў моўчкі, гледзячы некуды ў сваю, аднаму яму вядомую далячынь. А потым распачынаў сам: «Утро туманное, утро седое...» Голас яго нібыта нешта згадваў, замысліваў, адыходзіў ад латыні, юрыспрудэнцыі, ад яго строгага афіцыйнага выгляду. Але не губляў сваёй вытанчанай класічнасці, арыстакратызму, толькі мяняў рытм і настрой: «В движенье мельник жизнь ведет, в движенье...» На «біс» яны з Бялецкай выконвалі «Вечерний звон» і «Зорку Венеру». «Зорку...» Бялецкая вяла высокім голасам, здавалася, зусім не тым, што спяваў моднае даваеннае танга, а Кацявец тураваў, нібыта вуркочучы, зусім ціха, толькі каб стварыць тон.

Цвяроза-заклапочаны нават тут, Ямніцкі спрабаваў перавесці застолле ў дыскусійнае рэчышча: «А майму

падсуднаму варта было пару год скасіць. Гэта не злачынства, гэта махлярства». — «Падавайце апеляцыю». — «Ужо напісаў. Паеду ў Вярхоўны». — «Ваша воля», — Кацявец карцінна схіляў галаву. «Трэба ж і гаспадыні явіць свае непрацэсуальныя таленты». Кулдыркаеў — Дана не ведала, хто ён, — заўсёды сядзеў моўчкі і толькі граў на акардэоне — Данчыным.

Нязбытную «Цыганачку» Вольга Станіславаўна не саступала нікому. У чорнай шаўковай сукенцы, у аксамітавай камізэльцы з бліскаткамі, з амерыканскіх дарункаў — яна доўга ішла павольна, толькі паводзячы плячыма, потым пачынала адбіваць рытм абцасамі, і ўрэшце толькі віхурна мільгацела спадніца, і здавалася, танчылі нават каралі на камізэлі. І толькі матчын твар быў нерухомы, засяроджаны, як таго вымагала класічная традыцыя цыганоў.

Калі пачыналася «мастацкая частка», клікалі і Дану. Яна павінна была граць на акардэоне або спяваць ці танчыць.

Праўда, чытаць вершы, і такія, якіх яна не ведала, аматараў была процьма. Чыталі Блока, Міцкевіча, Тувіма, Ясеніна, Надсана... А на акардэоне граў толькі Кулдыркаеў — але ён быў госць рэдкі. Данчына ж умельства граць на акардэоне было вельмі адносным. Маці наняла музыкантшу — тая, пабачыўшы, што ў дзяўчынкі ёсць слых і неблагая зрокавая памяць, хуценька навучыла яе вальсам, танга, а дзеля атракцыі яны засвоілі яшчэ і «Гумарэску» Дворжака. Там былі патрэбныя жвавыя пальцы, і неспрацаваныя рукі Даны скакалі па клавіятуры, беручы неймаверныя акорды — да вялікага захаплення гасцей. Дана ж даўно адчувала ва ўсім гэтым нейкі падман, але з чаго і як вучаць музыцы — не ведала. Маці неяк сама высветліла, што Дана не мае ўяўлення пра ноты, спытала пра «методу» — і абурылася страшэнна. Аднак Лідзія Сямёнаўна, пабраўшы «колейны» шлюб, з’ехала тым часам у невядомым напрамку. Выходзіць замуж было яе галоўным заняткам, сэнсам жыцця, хобі, а між іншым, дзеля рызыкі і грошай, яна давала ўрокі музыкі: на фартэпіяна і акардэоне.

«Навука» тая адбылася недзе ў трэцім-чацвёртым класе, але ж прывідны плён музіцыравання доўга цешыў наведвальнікаў хаты Азарэвічаў. Каронным нумарам Данчыных спеваў была песенька ці не з гарадскога фальклору, што сталася ў 50-я гады ў выкананні Розы Багланавай шлягерам, — «Самара-гарадок». Дана сумленна падраблялася пад спявачку, падсмейвалася з гераіні песенькі і ўключыла, так бы мовіць, у рэпертуар яшчэ гарэзліва-іранічны раманс «Душачка». Сам-насам Дана захлыналася і арыяй Разіны, і душазначнымі рамансамі «Цёмна-вішнёвы шаль» і «Веснічкі». І збірала патроху па для «Балеро» Равэля: з кіно, з малюнкаў у кніжках, дзе ў прыгожых позах застылі тарэра і пікадоры, гранды і пеоны, ідальга і вакерас. Яна заліхвацкі блытала па караколес, сапатэо, оле, усе танцы Іспаніі і розных куткоў амерыканскай Лаціны, дадаючы туды і нешта ад маўрытанскай самбры і нават італьянскай карманьёлы. Тады яна гэтага не ведала. Але Іспанія таямніча высверквала з ілюстрацый дэ Сервантэса, са старонак Мерымэ, ледзь не кожны дзень нагадвала пра сябе знакамітай сегідыльяй Бізэ. Пазней Іспанія казытала ўяўленне рэпрадукцыямі і альбомамі Гоі і Сальвадора Далі, фіестамі і карыдамі на старонках Хемінгуэя. А потым магутна плынула кніжнай лавінай: Гарсіа Лорка, Рафаэль Альберці, Мігель дэ Унамуна, Рамон дэль Вальье-Інклан, Піа Бароха... І іх моўнымі калегамі з-за акіяна: Алеха Карпенцьер, Гарсіа Маркес...

А свае інтуітыўныя харэаграфічныя практыкаванні ўжо ў сталым узросце Дана згадвала, калі глядзела Антоніа Гадэса і Крысціну Оес — іх танец пераўзышоў усе самыя палкія яе ўяўленні. А тады... на яе незабыўнае ўражанне зрабіла крэолка з фантастычным найменнем — Ісідара Каварубіа дэ Лос-Ланос. Сюжэт Майна Рыда не вымагаў да крэолкі асаблівых сімпатый, павінны былі падабацца Морыс Джэральд і Луіза Пойндэкстэр, але ў памяць запала гэтая красуня. І вярэдзілі ўяўленне таямнічыя, ваблівыя назвы: савана, серапэ, гасіенда, прэрыя, пампасы... Іспанізавана-англізаваная, з індзейскім

каларытам гэтая мясцовасць — Тэхас — ва ўяўленні Даны чамусьці супадала з настойлівым наступам гукаў Равэля.

«Балеро» Дана танчыла з задавальненнем. Публіка не шкадавала апладысментаў. Дана — нават тады — разумела ім цану. Ну, хіба можна не захапляцца талентамі гаспадарскай дачкі? Тым больш што добраму настрою спрыялі смажаныя качкі і пульхныя пірагі і мноства розных прысмакаў і іскрыстыя хатнія наліўкі. Крамы ў гарадах не ламіліся ад харчу. І гэты кірмашова-хатні пяропых, выключна раённага, местачковага шкталту, пасля пасяджэнняў па дванаццаць гадзін запар — хіба ж ён не схіляў да авацый? Да таго ж Дане пасавалі вузкія, упрыцён, чорныя нагавіцы з высокім пасам, са старых дзедавых, белая матчына блуза і тая ж самая аксамітавая камізэля з блыскаткамі. Гэта было падобна на гульню — нават на тэатр.

Тут, у пакоі, маці таксама была вясёлая, бадзёрая, ззяла ўсмешкай, гасціннасцю, любасцю. Ажно Дана ведала і той бок гасціннасці, па-за заслонай. Ніна касавурылася і кволілася, як толькі падаваўся знак пра гасцей, і маці смажыла, мясіла, выпякала, упрыгожвала, раскладвала — тут Ніна і сапраўды не мела ад матухны-прыроды і намёку на густ. А маці стамлялася, злавалася, шыкала на ўсіх — і Дана ненавідзела тых качак і тыя пірагі.

Святы — зусім іншае. Усё рабілася загадзя, спакойна, спакваля, спраўна, не за адну ноч. Аднак маці, мабыць, усё ж любіла быць гасціннай. Любіла гэтыя нячастыя сходкі, зборні, гаворкі. Проста хацела зрабіць добрае людзям. І калі частавала іх, і калі запрашала, каб жонка нейкага адваката, быўшы бухгалтарам-рэвізорам, падчас сваіх камандзіровак жыла ў іх. Шаблінская, як і Кацявец, вучылася калісь у гімназіі, латынь і французскую яна, праўда, не ўжывала, але прывозіла здымкі, дзе яна была зусім не падобная на сённяшнюю паважную кабету. У гімназічнай форме, у прыгожым капелюшы, у старадаўнім жакеце і з муфтай.

Адноечы да іх прыязджала і матчына сяброўка, пагроза вобласці, палкоўнік юстыцыі, пракурор Антаніна Фёдараўна Сталыпіна.

Выпадак быў не з пракурорскай кампетэнцыі і не з яе, так бы мовіць, практыкі. Антаніна Фёдараўна прыехала прыватным парадкам. Данчынай маці зрабілі прапанову ўзяць шлюб. Ці не з лёгкай рукі некага з яе калег, здаецца. Прэтэндэнтам на шлюб быў не хто-небудзь, а оперны спявак з Вільні. Бачыў і чуў яе падчас працэсаў у Гродне: можа, тэатр быў там на гастролях, можа, акцёр трапіў па нейкай іншай нагодзе. Але так ці інакш — чуў, бачыў, шукаў. Знайшоў. Маці была настроена рашуча: «Мысліцца, яму патрэбна ахмістрыня і кухарка». Антаніна Фёдараўна — з высока плоенымі валасамі, з паставай патомнай уладарыні, высокая, паважная, у доўгім блішчастым крэп-сацінавым капоце — сядзела за сталом, як на троне, кубак кавы трымала ў руках, што сасуд капланкі. Словы нібыта падалі ў той кубачак і раствараліся там — не, звякалі і асядалі на донцы. «Зразумей, мая ка-ха-ная, ка-лі на ва-кен-цы ня-ма фі-ран-кі, дык лепш га-зет-кай пры-крыць. А тут са-а-лідны ча-лавек. Ну, нават калі аманткі там, кветкі, што табе? Ты ж не паміраеш ад вялікай любові. Кватэра ў цэнтры Вільні, дача. (Па тых часах немаведама якая раскоша.) Будзеш жонкай не нейкага клерка ці настаўніка, а саліста тэатра. Такі шлюб, нават скасаваны, надае вагі жанчыне. А тым больш адвакатэсе. Уяўляеш, як кліенты будуць ляцець?»

Але маці газеткі, нават сталічнай, на вокны не хацела. Яна любіла шторы з добрай тканіны. І яшчэ запавесы з цюлю. Кастэля дык кастэля. А не — дык лепш аканіцы зачыніць і нікога не пушчаць.

Дана тым часам нічога не мела супраць таго, каб маці, як меліся гаварыць дарослыя, «уладкавала жыццё». У Даны парады не пыталіся, і яна ўшчымілася са сваім маналогам-дазволам сама. Яна — не супраць, будзе трымаць нейтралітэт. Бацькам нікога называць не збіраецца, але ж чыніць перашкод не стане.

Пазалетась у маці быў яшчэ адзін сур'ёзны прэтэндэнт. Матчыны калегі ведалі пра «зайздросную партыю» і часам папікалі Вольгу Станіслаўну: «Ну, чаго ж...» Маці рабілася яшчэ больш сур'ёзнай, як звычайна,

падымала правае брыво і з выглядам пакрыўджанай дабрачыннасці адпрэчвала: «У мяне ёсць дачка. Я жыву дзеля яе». Часам тое гаварылася і ў прысутнасці Даны, і ёй было няёмка. Чулася нешта занадта тэатральнае, астэтанцыйнае ў словах маці. Як і ў тым, што Вольга Станіславаўна любіла летам падчас адпачынку ці проста выхадным днём, апрануўшы Дану ў блакітную матроску і капялюш з блакітнай стужкай — выкапаная класічная дзяўчына з «добрай сям'і», — выпраўляцца ў парк на шпацыр.

Дана любіла маці, але не любіла гэтую абавязковую, падкрэслена-перыядычную акцыю.

Горад меў тры месцы, дзе збіраліся ўсе: круглым годам — кірмаш, зімою і вяснова-восеньскай слотай — кіно ў РДК, а пазней у кінатэатры, летам — замак і парк. Гулялі, дарэчы, не на замчышчы, а ішлі ў парк той гарою, дзе быў пагорак Паэта, танцпляцоўка і пахілы доўгі спуск у парк. Нехта ішоў у парк каля школы, мінаючы горы, нехта кіраваўся паўз касцёл, як яны.

Пазней Дана зразумела маці. Так, Вольга Станіславаўна дэманстравала — сваю сямейнасць, сваю незалежнасць, сваю абароннасць, сваю жаночую строгасць. Так, яна адна. Але ў яе ёсць праца, любімая, ёсць дачка, любімая, яны маюць што апрануць, ім не грэх выйсці на людзі. Пасля працы, пасля сумленных турбот. І гэта Дана была яе заслонай, яе фіранкай. Не, жалезнай завесай кастэлі: накшталт тых, што апускаліся і падымаліся ў замках мастом цераз роў. Да таго ж пакрыёма гэтыя шпацыры аднаўлялі нешта з мінулага Азарэвічаў. І, дарэчы, калі быў дзед, праменады мелі нейкі іншы сэнс. Дзед не падкрэсліваў нічога. Апранаўся ён проста, але не падобна да іншых: грубай вязкі камізэля з пасам і кішэнямі або шарачковая куртка і выцвілая шапка з доўгім казырком — канфедэратка, як тлумачыў Дане дзед. Маці нешта цёмна паглядала на тую шапку і купляла дзеду капелюшы — велюравыя, саламяныя — і розныя фуражкі-кепачкі. Дзед дзякаваў і складваў усе тыя ўборы ў шафу. І насоўваў на лоб выцвілую канфедэратку. Сустракаючыся са знаёмымі, ён цырымонна здалёк

падымаў шапку. Урэшце мясцовы майстар-кравец Бузук аднавіў дзедавы гардэроб — аднак выключна ў тым жа выглядзе, як таго схацеў дзед.

## СПРАВЯДЛІВАСЦЬ МАРАЎ І НЕСПРАВЯДЛІВАСЦЬ РЭЧАІСНАСЦІ

Здаецца, неўразуменні паміж дзедам і маці адбываліся не толькі з-за канфедэраткі. «Я не хачу нічога хаваць, — даводзіў дзед. — Я не злодзей. Я вярнуўся да сябе на радзіму». Маці садзілася на канапу, запальвала папяросу «Казбек» — іншых не ўжывала, — і выгляд у яе рабіўся такі, нібыта ўсе бядоты свету абрынуліся на яе. «Зразумей, тата, пачнуць высвятляць, што, калі, як. Мне абавязкова з гэтай нагоды нагадаюць не толькі пра мужа, які згінуў падчас вайны немаведама дзе. Але і паходжанне. І сасланага бацьку. І... А ў Даны наперадзе жыццё». Аргумент быў неабвержны. Дзед сходзіў з хаты — гуляць у шахматы. Калі Дана перайшла ў трэці клас, ён з’ехаў да стрыечнага брата. Той жыў адзін і быў ужо зусім нямоглы: паміраў ад раку. Пахаваўшы брата, дзед прыехаў, але праз год выправіўся да малодшага сына. Да магілы жонкі. У Сібір...

Перад тым ён павёз Дану ў Вільню. Гара Гедыміна, Вострая Брама, касцёл Святой Ганны, сабор Пятра і Паўла на Антокалі... Касцёл, у якім ён браў шлюб са сваёй Марыяй. Не расказваў, больш хадзіў моўчкі, згадваючы нешта сваё. Толькі часам прамаўляў слова: «Што б табе ні згадвалі, ведай: самая мудрая кніга — Біблія. Чытай яе...» Дзед скрушна ўздыхаў — у тым страчаным у Гомелі куфры была і Біблія, і яшчэ патрэбныя кнігі, якіх сёння не знойдзеш. «Зараз табе б самы час пачынаць чытаць. Сёння ты, можа, і не зразумееш мяне. Прыйдзе час — зразумееш. Хачу верыць, зразумееш. Вось вы ў школе вучыце Багдановіча. А ты запомні такі ягоны верш: «Пагоня».

Усё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...

Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

А яшчэ памятай — калі Міцкевіч піша: «Litwo! Ojczyzno moje», — ён гаворыць пра наш край, пра Беларусь. Мы — ліцвіны. Ты не забывайся пра гэта, што б там ні прапісалі ў пашпарце».

Чар Вільні застаўся на ўсё жыццё, хаця больш ніколі не давялося пабыць там хаця б некалькі дзён. Была ў Таліне, гадоў з дзесяць кожнага года ездзіла ў Юрмалу і адтуль наладжвала доўгія шпацыры на самоце ў Рыгу, а ў Вільні была заўсёды ад цягніка да цягніка. Дзень. Не было дзе прыпыніцца, не было да каго звярнуцца, а потым Вільня і ўвогуле сталася замежжам, ці то блізкім, ці то далёкім, але недасяжным. І заўсёды — з адзнакай таго даўняга ўражання, пад якое падпадаеш толькі ў маленстве.

А перад тым як з'ехаць з іх горада, дзед пайшоў з Данай на замак, раскапаў ямінку, узяў у капшучок жменю зямлі і доўга стаяў каля бакавой вежы. Ціха і нібыта паміж іншым кінуў Дане: «Ніколі не з'язджай адсюль». Потым Дана раздумвала, што меў на ўвазе дзед — з іх горада ці з Беларусі? І што ўвогуле было ў яго на душы... Кім ён быў, яе дзед? Няўдаліцай? Чалавекам, у якога ўсё сублімiравалася ў сумленне? Ахвярай рэфлексій? Энтузіястам? Героем? І ў якіх стасунках ён быў з гісторыяй? Дане хацелася неяк абмінуць гэтую жорсткую і несправядлівую пані. Яна заўсёды пазбягала так званых грамадскіх подмасцяў, крыху выйшаўшы з піянерскага ўзросту. Партыі — доўга была адна, як адзінае апірышча, увасабленне адной ідэі, і партый — калі іх раптам стала такое мноства, што нават запомніць іх было немагчыма. Пазбягала з'ездаў, сімпозіумаў, канферэнцый, нарад. І гэтаксама не любіла прыватнае, непрыбранае жыццё гарадскіх мікрараёнаў, гэтых сімбіёзаў вёскі, лагера і інтэрната. Некалі з жахам глядзела на расхрыстанае жыццё італьянскага Поўдня ў неарэалістаў: гвалт, бялізна вісіць паміж дамамі, нейкае жыццё — нібыта ў шкля-

ным посудзе. А потым гэты вар'яцкі modus vivendi вісеў у яе над галавой, лез у вочы, раздзіраў немым галасам магнітафонаў вушы, запаўзаў ва ўсе куткі свядомасці, церушыў смеццем галёкання розум, парушаў дысцыпліну адчуванняў.

Дане падабалася адстароненая халаднаватасць і знешняя ўпарадкаванасць Балтыі, магчымасць быць незалежнай і ад мітусні перанаселеных, як вуллі, дамоўкарабкоў, і ад гісторыі з яе салодкімі клішэ афіцыйных уяўленняў, забаронамі-вердыктамі і крывавымі разорамі. І Дане заўсёды хацелася ўцячы ў тое імгненне, паводле Андрэя Балконскага пад Аўстэрліцам, адчуць сваю повязь з небам і аблокамі і лічыць, што гісторыя — грымзлівая настаўніца, святло ісціны, жывая памяць — і што там яшчэ пра яе гаварыў вялікі прамоўца? Дык што вось гэтая шматаблічная і старая-старая пані ціхамірна спачывае пад кустом бэзу ці пад якой немудрагелістай стакроткай. Нават пад той момант, калі можна было, утульна ўладкаваўшыся ў крэсле, глядзець, як гісторыя проста шыбуе да цябе: праз экран тэлебачання відаць, як падпісваюцца пагадненні, ратыфікуюцца дамовы, узнікаюць і знікаюць дзяржавы, як недзе адбываецца землятрус, усё заліла паводка, як забіваюць людзей і нішчаць будаванае чалавекам, яна не адчула гарманічнай сувязі з дзействамі той няўтомнай ткаллі Кліо. Плыня часу віравала сама па сабе, а яна ішла сваімі сцежкамі, старымі і непрыкметнымі, дзе часам з'яўляюцца здані выйшаўшага з моды рамантызму. А рэальнасць выдае сваю прывіднасць і мройлівасць.

У дзеда, мабыць, адносіны з гэтай пані былі яшчэ больш складанымі. Ён усё спрабаваў у тую вузельню са стагоддзяў і тысячагоддзяў уплесці і нейкую сваю нітачку ці пакінуць літару (ці кропачку?) у вавілоне тамоў. Аднак аналы тыя былі раўнадушныя да статыстаў. Што для гісторыі чалавечая адзінка? Яна пераходзіць у індывідуум толькі на ўзроўні «вяршыцеляў лёсу».

А як паглядаў на статыста Анёл у цені сваіх крылаў? Падобна, яму не вельмі падабалася, што дзед ад'язджае

з радзімы. У кожным выпадку быць пахаваным побач са сваёй Марыяй дзеду не выпала...

Тады Дана яшчэ не ведала безвыходнага значэння слова «назаўсёды». Ды і слова тое не вымаўлялася. «Да сустрэчы», — пагладзіў па галаве Дану дзед. Мелася на ўвазе, што яны з маці будуць прыязджаць да яго.

Усё ж — чаму з'ехаў дзед? Не пабачыў той зямлі, да якой імкнуў? Не знайшоў на іх котлішчы нават цагліны? Ад фальварка не засталося і знаку. Не хацеў хаваць свайго мінулага? Не паразумеўся з дачкой? Маці ўгаворвала яго. «Дана расце. Бацькі няма. Ёй сама вучыцца. Вучыць мовы. Ды і мяне амаль што не бывае». Дзед, нават не пацвельваючыся, сцішана даводзіў: «А ці на карысць будуць тыя веды? Ды калі захоча — «для разумнага веды лёгкія». А так спытаюць — адкуль? Навошта? Супакойся, дачка, «Валадар неба і зямлі дасць табе радасць замест смутку твайго. Супакойся...»

Дзед, верагодна, мудра здагадваўся, што яны могуць і не пабачыцца больш. Маці пачала хварэць. Дзед набіраў гады. Паміж імі было дзесяць тысяч кіламетраў.

Паехала Вольга Станіславаўна ўжо толькі пакласці кветкі каля крыжа...

Адышоў дзед у восемдзесят шэсць гадоў, пахаваўшы сваю Марыю ў сорак і так і векаваўшы адзін увесь век.

Тады, у іх горадзе, дзед — у сваёй неадменнай канфедэратцы — памахаў Дане з «кукушкі», так зваўся цягнічок на іх вузкакалейцы. Маці праводзіла яго да Баранавічаў...

Мабыць, ад дзеда — Дане лёгка даваліся мовы. Але веды старога Азарэвіча адышліся разам з ім — ніхто з нашчадкаў не пераняў іх: іронія лёсу, іронія часу. Калі Дана пачула неяк, што вядомы акцёр у дзяцінстве страшэнна злаваўся на бабку, як тая клікала яго па-французску, яна згадала свайго дзеда, і маці, і сябе.

На тую пару ўжо і маці знайшла апошні прытулак на сталічных могілках.

І праводзілі яе землякі і суседзі. І калегі. Прыехаў суддзя Жыткевіч, з Гродна, праз дваццаць гадоў пасля

сумеснай працы ў іх горадзе. На тую пару ён займаў колішнюю Кацяўцову пасаду — быў старшынёй абласнога суда. Прыехалі суддзі, натарыус, справаводы, сакратаркі... Суседзі... Была нейкая нітка ў хаосе жыцця, што не давала гэтым людзям забыць адзін аднаго. Гульні і трагічныя каверзы часу ўспрымаліся імі як нешта абавязковае, жудасна лагічнае, тое, чаго нельга пазбегнуць, і трэба падпарадкоўвацца нейкім вызначаным законам. Сацыяльным? Усясветным? Лакальна вызначаным? Пражытае і непражытае для іх яшчэ мае сваю сувязь, якую нельга парушыць. І ўмоўнасці побыту і звычаяў падпарадкоўваюць іх сабе. Яны не рушылі той «свет насілля», яны жылі за ладам, што праіснаваў 74 гады, і прымалі гістарычныя і сацыяльныя рэаліі як устойліва існуючыя, дзяржаву як уладаванне, у якім трэба весці сваю лінію жыцця, адпаведна з прынятымі законамі: юстыцыі, этыкі, маралі.

У якіх адносінах яны былі з тымі старонкамі гісторыі, калі людзі іх прафесіі наўрад ці маглі быць убаку — гэтага Дана не ведала і не даведаецца ніколі. Адно было пэўна зазначана ў біяграфіі маці. Падчас вайны яе выклікалі ў НКУС: людзей не хапала. І яна згадзілася ісці ў ваенізаваную пажарную ахову — відаць, гульні з агнём былі самымі бяскрыўднымі. Потым яна наказвала Дане абавязкова ў біяграфіі пазначыць гэтую службу, хаця жарты з агнём працягваліся нядоўга: Вольгу Станіславаўну выправілі ў дзіцячы дом, дзе былі «цяжкія» падлеткі пасля ўцёкаў на фронт. Маці мела, акрамя юрыдычнага факультэта, яшчэ і педтэхнікум. Дана памятала з тых часоў пасёлак з пазабіванымі вокнамі — замарожаны аб'ект. Ночы на адзіноце, з сабакам, і маці ў галіфэ і фрэнчы. А з дзіцячага дома помніліся — пад'ём а шостай гадзіне, ссунутыя сталы, на якія маці клала яе дасыпаць. І яшчэ — перавернутую мэблю дзіцячага дома і маці ў нейкім кажуху: гулялі ў вайну. Пасля НКУСа Вольга Станіславаўна гатовая была хутчэй за ўсё і на Месячык на возе ехаць.

## ПАСТСКРЫПТУМ ДАБРАЧЫННАСЦЯЎ

«Усё для фронту, усё для перамогі», — гэты лозунг маці ўспрымала літаральна. Яна здала ўсе клейноты ў «фонд абароны». І здавала кроў. Група крыві ў яе была першая — вельмі зручная для прамога пералівання. І тры разы з маці выкачвалі столькі, колькі было трэба. Донар-патрыёт — пісалі ў мясцовых газетах. Газеты «з'ехалі» ў тым жа знакамітым куфры.

Як высветлілася, дзейнасць донара-патрыёта мела досыць сумныя вынікі. Дванаццацігадзінны працоўны дзень таксама зусім не спрыяў здароўю, а камандзіроўкі — тым больш. Аднаечы раніцай Вольга Станіславаўна не ўстала. І гэта была не якая-небудзь ангіна — Дана з іх не «вылазіла», як ідавочна грэбліва пазначала Ніна. У маці накрыж адняліся рука і нага. Доктар Гордзін дыягназ паставіў адразу — гіпертанічны крыз. І дамовіўся з нейкім сваім знаёмым у Мінску пра кансультацыю. А мясцовая ўлада нават адшкадавала стары, зацёўханы «опель» з шафёрам на падарожжа.

«Опель» глохнуў на самых рызыкоўных скрыжаваннях, шафёр злаваўся, маці нервавалася, медсястра, што суправаджала іх, захоўвала выгляд індыйскага Буды, а Дана нават не глядзела па баках, хаця ў Мінску была ўпершыню. Запомніла з таго разу больш назвы: Другая клініка, неўралагічнае аддзяленне, Ніжні базар — незразумела чаму, бо ніякага базару не было. Лысаватыя горкі з нейкімі кволымі дрэўцамі каля Опернага тэатра і каля Свіслачы — яны выраслі разам з ёю і сталі пазней, калі Дана атабарылася ў сталіцы, яе любімымі паркамі.

Маці хварэла ўвесь красавік, травень, чэрвень — і толькі недзе ў ліпені стала, пакульгваючы, збірацца на працу. А тут Анёл у цені крылаў згадаў пра іх і, мабыць, з ласкі сваёй міласць сваю аказаў. Маці выйграла грошы па аблігацыі. Ні тады, ні пазней Дана не ведала колькі. Яна ўвогуле неяк адстаронена ставілася да грашовых знакаў. Але вандроўку ў Мінск, вось гэтую, мела ў памяці доўга.

Маці вырашыла павезці яе і Ніну ў Мінск. І зняла там апартаменты — інакш і не скажаш — нумар-люкс у гатэлі «Беларусь». Тры пакоі і дзве спальні-нішы. Сіні аксаміт мэблі і штораў. А на вокнах яшчэ крэмавыя шаўковыя са зборамі фіранкі. Калі Дана чытала Булгакава, дык згадвала вось такія крэмавыя шторы. У зале быў нават раяль.

Маці набыла білеты ў оперны. І яны глядзелі балет. Музыка Залатарова — ішоў ягоны балет «Князь-возера» — уражання не зрабіла, але сам спектакль, танец, атмасфера тэатра, нейкая ўрачыстасць, храмавая ўзвышанасць надоўга былі з ёю. І як Вільня згадвалася саборамі, нейкім архітэктурна-ландшафтавым дзівам, так Мінск меў свае асацыяцыі — з оперным тэатрам, люксам з сінім аксамітам і Другой клінікай. Пакуль не прыйшоў універсітэт...

Анёл у цені сваіх крылаў, безумоўна, вырашыў узнагародзіць Дану тым летам. На дзень нараджэння маці прэзентавала цэлую гару кніг: чатырохтомнік Лермантава ў блакітнай вокладцы, «Новую зямлю» з прыгожымі малюнкамі, маленечкія кніжачкі Багдановіча і Купалы. І «Дыпламат» Джэймса Олдрыджа. І яшчэ — «Віцязь у тыгровай шкуры». Напачатку Дана захапілася «Віцязем...» Потым, высвятляючы, чаму кніга зрабіла такое ўражанне, шукала перакладчыка: ён не быў пазначаны. І толькі праз доўгі час, ужо ў іншым, дарослым жыцці, даведалася, што гэта быў класічны пераклад Забалоцкага, забароненага на тую пару.

Чытала Дана ўзахліп Лермантава — яго постаць уяўлялася трагічна-таямнічай, прывабнай. Сваіх, беларусаў, яна адкрыла для сябе значна пазней — не было дзеда? Не дарасла? Занадта яшчэ ліхаманілі яе ў дванаццаць гадоў іншыя аповеды.

У тое ж лета Дана адкрыла для сябе, на яе погляд, цэлы скарб — праз некалькі дамоў ад іх зняла жытло жанчына, што рабіла ў гарадской бібліятэцы. Дана, як усе «запойшчыкі» — з іх і суседняй школы, брала кнігі ў школьнай, раённай і гарадской бібліятэках.

А ў бібліятэкаркі былі зборы твораў Стывенсана, Вальтэра Скота, Жуля Верна, Майна Рыда, Фенімора

Купера, Дзюма-бацькі, — спакуса падлеткаў. Але з парады той жа бібліяфілкі Дана ўпершыню прачытала Шэкспіра і Ралана, Стэндаля і Філдзінга, Голсуорсі і Растана, Шоу і Уайльда.

Гэты свет, размаіты і яркі, быў куды як больш цікавы, чымся ў тых кніжках, што стосам ляжалі на століках у бібліятэках і пра якія зазначалася: рэкамендаваныя. «Кавалер залатой зоркі», «За цябе, Масква», «Жніво»... Гэтыя кніжкі не мелі ні пераваг фантазіі, ні судачынення з рэальнасцю. У іх былі нейкія сувязі з рэчаіснасцю, якіх не магла ўспрыняць Дана. І яна падзяліла: прыцягальны свет яе кніг і неаспрэчная рэальнасць, якая выдавала таксама вельмі цікавымі сустрэчамі, кантактамі, сувязямі. Стварала атмасферу, у якой кожны пэўна адчуваў факт свайго існавання.

## ФАКТЫ ІСНАВАННЯ І СУБСТАНЦЫІ БЫЦЦЯ

Факт свайго існавання гэтая кабета з вёскі Нягневічы выдавала заўсёды грымотнымі гукамі голасу, мажной пастаццю, нязбытна мажорным, нягледзячы на ўсе згрызоты лёсу, настроем. Быўшы кірмашовым днём у горадзе, яна абавязкова заходзіла да Азарэвічаў. Кандратчыха — інакш удаву Кандратчыка ніхто не зваў, — трапіўшы ў кватэру да Вольгі Станіславаўны, адразу ішла ў «залю» — толькі так ўяўляўся ёй вялікі пакой кватэры. Скідала хустку з галавы, ставіла стул чамусьці пасярод хаты і вымала з торбы слоікі. «Во! Малачко і смятанка». Малачком зваліся густыя вяршкі, а смятану можна было нажом рэзаць. З маці Кандратчыха была на «ты» — на знак незвычайнай павагі, прыязнасці і таварыскасці. «Ты ж мне самы найблізкі чалавек. У царкву і да цябе».

Дана ведала, што ў Кандратчыхі сваякі забілі мужа — сякерай. Ці больш дакладна — пасеклі. Колькі было ранаў — нават экспертыза баялася памыліцца ў падліку. А зямля, з-за якой так крывава біліся, неўзабаве адышла ў калгас... Маці на судзе бараніла інтарэс Кандратчыхі. І даўно тое было, але Кандратчыха нечым так упадаба-

ла абаронцу, што ледзь не кожнага месяца прыязджала з дабрадзейнай данінай. І — барані Божа — каб узяла грошы. Ці села за стол. Пачостка ў доме Азарэвічаў была рытуалам абавязковым, але ў цёткі з Нягневіч былі свае завядзёнкі. Затое ад варэння ці ад печыва не адмаўлялася. «Я так не ўмею», — тлумачыла Кандратчыха.

А на сваёй сядзібе яна ўмела ўсё: за жанчыну і за мужыка. Рабіла ў калгасе, на сваім дворышчы і ў хаце. Жыццё яе было падначалена адвечным законам, паводле якіх жылі яе аднавяскоўцы, яе маці, бацька, дзед, бабка і гэтак ледзь не да Адама і Евы. Райскіх садоў яна не прагла, Кандратчысе выдаваў зусім прыстойным яе ўласны надзел з ігрушамі і яблынямі. Вымогі цывілізацыі засталіся для яе на нейкім даўнім этапе, функцыянальна пазначаным гадавым гаспадарчым цыклам і асноўнымі каляндарнымі святамі, што ваганіся недзе паміж паганствам, хрысціянскімі канонамі і сённяшнім атэістычным ладам. Кандратчыха давярала больш каню, чым трактару, лічыла надзейнымі не грошы, а рэальны прадукт: сала, мяса, масла. Колькі іх ужо змянілася, на яе вяку, тых грошай. А ўвогуле была стыхійнай экзістэнцыялісткай і факт існавання лічыла вышэйшым за субстанцыю быцця. Не раздумвала над сэнсам цуда жыцця, не тлуміла сабе галаву марнасцю хуткаплыннага часу. Яна — існавала. І кожным сваім пражытым днём тое пацвярджала. І адчувала сябе вельмі надзейна на зямлі. На гэтай, сваёй, нягневіцкай. І іншай не ведала. І не мела вялікай ахвоты зазнаць. Яна разумела, што недзе, па яе меркаваннях, не так скора, надыдзе немінучы момант расстання з гэтым светам. Але ў яе была і пэўнасць — усё будзе, як у людзей. Нават свайго забітага мужа яна выправіла па той бок дабра і зла як належыць. Ну, дык будзе каму тое справіць і з ёю. Грунтоўна, сур'ёзна. І пакуль яна жыве, яна падпарадкоўваецца сваім уяўленням пра дабро, удзячнасць і справядлівасць.

За што была ўдзячная пані Тэрэза, адкуль было знаёмства, Дана не ведала. Падобна — фальваркі Азарэвічаў і бацькоў пані Тэрэзы былі некалі побач. Хаця пра тое

ніколі не гаварылі. З'яўлялася пані Тэрэза раз ці два на год, улетку, з кошыкам малінаўкі, з аграмадным букетам гольчастых астраў. У шаўковай сіняй сукні з белым каўняром, урачыстая, старанна ўчасаная — тугія косы ляжалі цяжкім вузлом на патыліцы. Яна ніколі не адмаўлялася, у адрозненне ад Кандратчыхі, ад пачосткі: піла гарбату, каву, відавочна атрымліваючы ад таго рытуалу і ад гасцявання ў іх хаце задавальненне. Назад вярталася з кніжкай, скрыначкай духоў, крэмам ці вазелінам.

Некалі пані Тэрэза пабрала шлюб з мужыком, мела з таго вялікую знявагу сваякоў. Муж загінуў у трыццаць дзявятым годзе, на пачатку Другой сусветнай, яна засталася адна з двума дзецьмі. Цяпер мезальянс абярнуўся да ласкі лёсу, яна засталася ўдавой хаця і жаўнера польскай арміі, што не вельмі каб віталі сённяшнія ўлады, але затое — тэхнічкай, прыбіральшчыцай. Пані Тэрэза была прыгожая, ветлівая, негаваркая. І, падобна, той суцэльнай гарантыі ўпарадкаванасці лёсу, як Кандратчыха, не адчувала. Як і не адчувала суцэльнай мэтазгоднасці свайго існавання, сваёй працы, ладу свайго жыцця. І, мабыць, апошняе сваё імгненне не прадчувала завершаным акордам, заканамерным канцом шляху. Ёй відавочна яшчэ хацелася прайграць нейкі акт жыцця, хаця было зразумела, што ўсе варыяцыі сюжэта ўжо вычарпаныя. Пані Тэрэза ніколі не гаварыла пра сябе, не распытвала пра жыццё Вольгу Станіславаўну, ажно не прамінала выпадку пазначыць агульнае паміж імі — удовы. І жанчыны, на якіх трымаецца дом. Можа, гэта вабіла і Кандратчыху? Але, падобна, тая не адчувала, што ў ланцужку яе існавання не стае нейкага звёнца.

Жанчына, што насіла малако з Градзілоўкі, прыходзіла праз дзень, і гэта былі, так бы мовіць, рабочыя візіты. Кабета вылівала малако са збанка ў збанок, брала грошы і ішла дамоў. Тым больш што Вольга Станіславаўна была на працы, а ў Ніны гэтая наведвальніца цікавасці не выклікала. Ужо ў Мінску Азарэвічы і сям'я гэтай жанчыны апынуліся ў суседстве, і Данчына маці мела з таго незвычайную асалоду: акраечак былога, тамтэйшага жыц-

ця. У сваім горадзе. Данчына маці змушаная была прыехаць у Мінск да дачкі з-за хваробы. Не любіла ні гэтага горада, ні мікрараённага атачэння. Разумела неаспрэчнасць ходу жыцця, не пакутавала ад адзіноты — ды яе і не было, — але часам прамаўляла нібы сама сабе: «Там людзі гаварылі мне: “Пані адвакат, маю да вас інтэрас”. А тут я толькі твая мама». Ну, а паколькі Дана не была ні знакамітым чалавекам, ні санавітым, дык той статус быў ані грунтоўным. А субстанцыянальныя, быційныя стрыжні былі для Вольгі Станіславаўны неад’емна злучаныя з фактам існавання, са статусам сацыяльнага існення. Немаштабнасць, расплывістасць становішча, што так упадабала для сябе яе дачка, відавочна, было не «пад мыслі» Вольгі Станіславаўны. Сядзіць у сваім музеі, піша артыкульчыкі пра мастакоў. Хто іх цэніць? Хіба што героі допісаў...

Дана лічыла спраўджанасць па іншых мерках. Гаварыць пра тое ніколі не было заводу, аднак Дана адчувала маўклівую незадаволенасць маці.

Цікава, яе Хрысціна таксама была б расчараваная? Яна любіла пазначыць Дане лёс з пячаткай выбраннiцтва...

Хрысціна... Ні з кім не было так добра, лёгка, нікога Дана не любіла так, як Хрысціну. Іх часам былі вакацыі. Пра тое не дамаўлялася, не вызначалася. Так — было. Хрысціна — на год і на клас старэйшая за Дану, і падчас шкалення сустракацца ім не выпадала. Затое як толькі надыходзіў іх час, яны ледзь не штодня хадзілі адна да адной. Каб не размінуцца, рушылі па вуліцы Савецкай, паўз сабор дамініканаў, не заўважаючы, між іншым, парадаксальнасці гэтых злучэнняў. Потым дзяўчаты ішлі ў бібліятэку, выпраўляліся пасля яе да Даны, садзіліся на канапу, у розныя куткі, і чыталі. Часам — сабраўшыся, наладжвалі гульні: паводле чытанага, гледжанага ў кіно і прыдуманага. Хадзілі па парку. Навыперадкі імчалі на замак. Лезлі на цэнтральную вежу — на апошнюю, самую верхнюю, прыступку, дзе была невялікая пляцоўка. Сядзелі моўчкі. З дзяўчат іх горада толькі яны з Хрысцінай «бралі гэтую вышыню». Але не лічылі тое

ані гонарам, ані надзвычайнай рызыкай, проста адтуль быў асабліва прыгожы краявід. Ну і, безумоўна, падабалася лезці на вежу, намацваючы нагой трывалы камень, адчуваючы паслухмянасць і спрыт цела.

Да касцёла Хрысціна хадзіла з маці, адкрыта. Дана — заўсёды адна. Але пані Магда чамусьці не вельмі любіла маці Хрысціны. Аднак гэтую звестку Дана пакідала ў нейкім далёкім закутку памяці. Без пані Магды яна не ўяўляла свайго жыцця. Ажно Хрысціна і яе маці, іх дом каля раённай бібліятэкі і могілак — былі неад'емным, натуральным, абавязкова існуючым.

Хата Хрысціны была непадалёк ад могілак, і дзяўчаты лічылі натуральным хадзіць туды. Могілкі былі старыя, мармуровыя мадонны і анёлы выйгравалі ў параўнанні з цяжкімі стандартнымі помнікамі аднаму і таму ж чалавеку. Іх горад чамусьці аддаваў перавагу правадыру ў цывільным.

Мармуровыя мадонны сведчылі пра сувязь з найвышэйшым. Відавочна нагадвалі тыя часы, калі стандарт не гнаў ні дамоў, ні помнікаў. А самі эпітафіі і іх змест мелі на ўвазе ахоўную ўрачыстасць спрадвечнай латыні і высокую ісціну, што небыццё — гэта толькі іншабыццё.

«Прымі, Дух Святы...»

Дабрачыннасць Даны і Хрысціны выдавала відавочныя хібы. Яны неяк не задумваліся пра тое, што тут месца апошняга супакою, часцінка вечнага... Успрымалі гэтую супольнасць дрэў, статуй, агароджаў, камяніц як прыгожае месца. І проста хадзілі тут, часам нават сядзелі на лаўках. І не адчувалі ні ўлады Вялікай Здані, ні свайго знаходжання на самым краі Леты. Не было страху, не было разумення, што гэта побач — зусім іншы пласт Быцця. Яны існавалі — і не задумваліся над гэтым фактам.

І Анёл у цені сваіх крылаў, мабыць, паглядаў на іх не злосна, але з відавочнай прыкрасцю. А мо і злаваў? Ажно гневу свайго не аказваў. На Хрысціну ўвогуле, здаецца, не злаваў ніхто. Яна заўсёды была ў гуморы, мілая, сімпатычная. З худзенькай, што драцінка, дзяўчынкі пе-

ратварылася ў крамяную, ладную, спрытную дзяўчыну. Калі ім надышла пара хадзіць на танцы, Хрысціна ніколі не падпірала сцяну ці печку-кафлянку плячыма, робячы выгляд, што астылая печка казыча цяплом. Хрысціна, як кажуць, мела поспех. Яна ведала — стыхійна — нейкія таямніцы спакойнага, ураўнаважанага стаўлення да ўсіх, мела немітуслівую ўпэўненасць у сабе. Рабіла толькі патрэбныя справы. І прафесію выбрала неабходную, вартую і спакойную — фармацэўт.

На вакацыі Хрысціна любіла доўга і соладка спаць, потым, лежачы ў ложку, чытаць да полудня — да вялікага дзіва сяброўкі. Дана ўзбівалася з ложка яшчэ да сонца, займалася рознымі справамі, не займалася нічым — але прачыналася абавязкова рана, прачнуўшыся, павінна была ўскочыць з ложка, прыбраць яго, пераплесці косы, вымыцца сцюдзёнай вадой. А ўвогуле — пачаць дзень з ранку. І з дзеяння. Тым не менш Хрысціна настойвала на нейкіх малапрыдатных амплуа для Даны. Дана аддавала належнае шчодрасці сяброўкі і скептычна глядзела на свой адбітак у люстры. Не, «у тваім гербе — цнота лілей» — не пра яе. Да таго ж рэчаіснасць сведчыць пра тое, што ў іх горадзе звяліся і рыцары, і героі. І ўсё ж — ёй падабалася пайсці да Хрысціны надвячоркам. На плошчы, на «пятачку», як на плошчах усіх невялікіх гарадкоў свету, збіраліся мясцовыя маладзёны. Нормы этыкету патрабавалі, каб праскочыць, не пазнаючы і не вітаючыся. І сама праходка, немаведама чаму, выдавала рызыкоўнай. Не тое каб там атабарылася плойма мушкецёраў, але ж чуўся запал гульні, не абвешчанай, але пакрыёма прызнанай.

Анёл у цені сваіх крылаў, мабыць, сцішана пасміхаўся з яе. А пані Магда з вышыні — ці далечыні? — свайго паўвеку канстатавала: «Якi ў цябе прыгожы ўзрост». Дана не разумела — узрост як узрост. Не разумела і сваю гаспадыню, у якой кватаравала ва ўніверсітэцкія гады: «Ну, што ты ўсё з кніжкай сядзіш? Такія гады...»

Пазней, калі Дана дасягла пары, якую гжэчныя палякі падаюць як узрост элеганцыі, часам, зірнуўшы ў

люстра, яна згадвала і пані Магду, і сваю гаспадыню. Сапраўды, у тых гадоў была безліч пераваг, таму ўзросту належала калі не логіка развag, не неаспрэчнасць ісціны, дык, безумоўна, перавага беспрычыннай радасці, напрыклад. Калі сам факт існавання — святочны выпадак. Усё выдае ўдачай — нечаканыя сустрэчы, нespadзяваныя візіты, планавыя, так бы мовіць, загадзя падрыхтаваныя дзействы. Потым надыходзіць час, калі кожная неспадзяванка раздражняе, што парушае пазначаны ход падзей, неабходнасць некуды ісці выдае толькі абавязкам і патрабуе «пратакольнай» адпаведнасці выпадку. А яе, той адпаведнасці, няма. І твар, які глядзіць з люстра, мае адбітак усіх нудот і згрызот жыцця. Стомленыя вочы, змардаваныя «ланіты», непатрэбныя, абмяклыя мышцы і непатрэбныя лініі твару. «Сотри случайные черты...»

Дана не пакутавала ад тых метамарфоз, але ёй здавалася алагічным, што на той момант, калі ёй трэба, яна не можа накінуць, прыстачыць, як урачыстае ўбранне, нейкі больш-менш прыстойны, адпаведны выгляд. Яна заўсёды рабіла, заўсёды да стомы, натура помсціла за гэта. А мастацтвазнаўца ў Дане аспрэчвала гэты вердыкт натуры. Дана прытрымлівалася традыцыйна класічных поглядаў і мела за асноўнае крэда мастацтва хараство. А ў жыцці хацела ўпарадкаванасці — унутранай і знешняй. І для сябе хацела не красы, а дабрачыннага яе эрзацу: пэўнага стылю, дагледжанасці, прыстойнай касметычнай маскіроўкі. Праўда, калі мець давер да анатамаў, дык ёй усё ж пашанцавала — яны сцвярджаюць, што з цягам часу ў людзей большае нос і вытыркаюцца вушы. Падобна, гэтае пакаранне яе абышло, дык і трэба дзякаваць лёсу.

А ў тым, іх з Хрысцінай агульным існаванні, часам погляды сустрэчных гаварылі больш за люстэрка. Вочы людзей выдавалі нават больш лагоднымі і добразычлівымі, як тая халодная гладкасць шкла. Вочы Хрысціны таксама былі добразычлівыя. Як яна сама.

І тым не менш — ці то з бясспрэчнай логікі жыцця, ці то з-за легкадумнасці маладосці — яны згубілі адна адну. Ніколі не перапісваліся. Было зразумела — пры-

едзем дамоў, пабачымся. Ажно з’ехала ў Гародню маці Хрысціны. Жыла апошнія гады з Данай яе маці. Сувязь часоў знікла ў стракатай мешаніне геаграфічных кропак і значных і нязначных падзей. Дзе і як вядзе свой рахунак з жыццём Хрысціна? Ці яшчэ вядзе?

А можа, ёсць сэнс у тым, што яны засталіся адна для адной маладымі? І Хрысціна недзе далёка глядзіцца ў люстэрка. Ці паклала так званая мудрая сталасць адбітак на яе абліччы?

Тады — Хрысціна прынесла зачытаную польскую кніжачку. І Дана пазнала адзіную мелодыю, лейтматыў жыцця душы. Вобраз, ідэю ўвасаблення жаноцкасці і дзейснага існавання. Гражына! Нават этымалогія гэтага слова высвятляла яго сутнасць. Прыгожая... Красуня...

І не дзе-небудзь, у чужых краёх, а тут, у іх, на замку, куды Дана лётае кожнага дня, адбыліся гераічныя падзеі. І выратавала ўсіх жанчына. Гэта не ціхамірная дыкенсаўская Агнэса ці яшчэ якая «кроткая», пяшчотная, квелая дабрачыннасць, што ўзнагароджвалася чамусьці хэпі-эндам. Не, прыгожая, смелая, высакародная...

Бясспрэчна, гэта яе ідэал. З Хрысцінай яны не гулялі ў Гражыну, яны, так бы мовіць, загартоўвалі сябе. На выпадак. А раптам іх горад зноў стане горадам рыцараў і герояў?

З Бэцяй такога быць не магло. Там заўсёды заставалася нейкая паласа адчужэння і існавалі паразуменні і непаразуменні нечага.

Жыла Бэця ў тым месцы іх горада, якое звалася Псігуркамі — Сабачымі Горкамі. Там і сапраўды адзін пагорак каціўся ў яміну, а яму насустрач бег другі, гэткая сабачая гарэзія. А мо гэта здавалася Дане, а на самай справе нейкія іншыя прычыны паспрыялі назве. Але так ці інакш, месца было такое — пагорак, лагчына, зноў пагорак. Жыла Бэця ў цемнаватым паўпадвале. Страшэнна худы і вясёлы яе бацька даводзіў ім: «Уяўляеце, колькі прэмій атрымаў бы Пушкін? За “Каўказскага палонніка”, за “Цыганоў”, за “Палтаву”... Ну, а за “Яўгена Анегіна” — хоць адразу ўсе прэміі яму аддавай».

Чытанне было яго любімым заняткам, яго салодкай пакутай, яго сапраўдным жыццём. Усё астатняе — толькі малацікавы абавязак. Бэціна маці, чалавек практычны, прымала рэчаіснасць, не наракаючы ні на што, заўсёды нешта гатавала, цыравала, мыла. І, да вялікага здзіўлення Даны, падавала на стол спачатку тушаную бульбу з вынятай з супу курыцай, а толькі потым суп. Курыца была рытуальнай. У доме Азарэвічаў аддавалі перавагу ялавічыне, свініне, бараніне, і толькі летам, разам з грыбамі і маладой бульбай, з'яўляліся кураняты. На пост назапашвалі алею і селядцоў, калі ўдавалася натрапіць на тую рыбку. Апошні тыдзень перад Вялікаднем звычайна елі сухары і пілі гарбату з варэннем. А ў Бэці на Пасху рабілі мацу. Як на погляд Даны, прыдатны на самы шчыры пост наедак: тоненечкія сухія пласціны. Пра зыход, пра пустыню Дана даведалася пазней. А мацу Бэця прыносіла ў школу — Катляры на свята не запрашалі. Быў такі негалосны закон канфесійнага суіснавання. Пазней, у кніжцы, выдадзенай Ватыканам, Дана прачытала пра іх горад:

«Трапілі ўрэшце ў той горад, дзе палякі жылі побач з беларусамі, габрэі з татарамі, а ўсе разам выяўлялі ўласныя звычаі, уласную культуру, уласную ментальнасць, уласную веру, уласныя звычкі, схільнасці і непрыманні». Непрыманні? Анёл у цені сваіх крылаў, мабыць, пільна сачыў за злагадай канфесійнай і нацыянальнай. Ну, а класічныя Liberte, Fraternite, Eqalite[1] былі ўзведзеныя, здаецца, да рангу абсалюту. Недасягальнага, але абвешчанага. Які нельга аспрэчваць, ажно і прытрымлівацца можна больш у тэорыі, што, як абвяшчалася, без практыкі безнадзейна мёртвая. І ўвогуле — гэта толькі настаўленне да дзеяння. Таму кожны інструктар самай галоўнай установы ў кожным горадзе меркаваў па-свойму і прымерваў сяк-так пачутую і прачытаную тэорыю да ўласнага інтэлекту і інтарэсу. Паколькі большасць інтэлектаў мела грунтам біялагічным не вельмі

[1] Свабода, роўнасць, братэрства *(фр.)*.

складаны генетычны код і досыць стабільна стандартызаваныя паўшар'і мозгу, дык кожны інструктар быў роўны свайму начальніку, а кожны ўпаўнаважаны быў роўны інструктару. І ўраўнаважваць біялагічныя імпульсы і гістарычна спазнаны ход думак і дагматы (не, настаўленне да дзеяння) адзінай самай справядлівай тэорыі імкнуліся на ўзроўні класічна-схаластычным і адначасова ваенізаваным і канцылярскім. «Даеш!» Сяўбу, жніво, выбары, вытворчыя паказчыкі. Штурм, аўрал — як норма жыцця. Натура Данчыных землякоў не прымала гэткага рытму, і жылі яны ледзь не да сярэдзіны пяцідзясятых на хутарах, адасоблена, адштурхоўваючыся падаткамі ад назалялага націску. Але паважаючы свабоду і роўнасць, з недаверам ставіліся да брацтва. Яно і ў сваяцтве не ўсё бывае добра, а чужыя — браты? Не, тут нешта не тое. Наконт светлых далячыняў недалёкай і далёкай будучыні не пярэчылі, больш трымаліся сённяшняга дня і вякамі зазначаных пастулатаў.

Бацька Бэці, падобна, падзяляў гэтыя настроі, аднак гаварыў зазвычай з дзяўчатамі выключна на тэмы літаратурныя. І аддаваў перавагу класіцы. Бэціну маці і сацыяльныя, і эзатэрычна-літаратурныя акалічнасці мала цікавілі, усё, што адыходзіла ад канкрэтнага, уласнага, сямейнага клопату, не мела для яе сэнсу. Жыві тут, у гэтым падполе, што мыш. Затое калі сям'я Катляроў перасялілася ў вялізны, светлы пакой — ці не перад самым ад'ездам — яна акрыяла, часам нешта спявала сабе пад нос. І нават перамаўлялася з Данай якім слоўцам — чаго раней і ў думках, здаецца, не мела. «Мой бацька быў нэпманам. Такі, як гэты, у мяне быў уласны пакой». І Дана ўяўляла яе ў вазку рамізніка. І з вялікім рыдыкюлем.

А ўвогуле гэта не мела для Даны значэння — якая была маці ў яе сяброўкі, тым больш у мінулым. Усё гэта існавала недзе на ўскрайку свядомасці і ўражанняў. А Бэця была выдатнай кампаньёнкай па чытаных кнігах і разумела самыя рызыкоўныя рамантычныя залёты Даны. А Дана падзяляла Бэціны мроі. Абедзве мелі адна да

адной тую ступень разумення і іроніі, як то трэба было для падтрымання сяброўскіх адносін. Калі прачыталі таго самага знакамітага «Авадня», таксама ў іх гульнях не было ніякага сумніву: Бэця — Джэма, Дана — Артур.

Калі Бэця з'ехала з горада, Дана засталася ў салодкім мройлівым свеце кніг, і толькі кніг. Хрысціна з'явілася пазней, а Іра з Мінска была толькі госцяй, якую трэба было займаць, памятаючы святыя законы гасціннасці.

Дана ці не трыдзясятым разам перачытвала «Авадня» і не магла пазначыць, што больш вабіла яе — ці лёс Артура, ці рамантычнае каханне, ці водар таго спосабу жыцця, што на першых старонках кнігі: бібліятэка, расчыненыя вокны з узорчастым чыгунным ліццём, сад старажытнага кляштара дамініканцаў, ружы... «Так, на пачатку дзён была бібліятэка, пыл, вавілон тамоў, пергамент, цішыня...» Потым, у Мінску, пабраўшы ледзь не за сталае жытло галоўную бібліятэку рэспублікі, яна прачытала гэтыя вершы вялікага француза і падсвядома, не згадваючы канкрэтна, заўсёды памятала лаўку пад магноліяй, дзе вялі гаворку Мантанэлі і Артур, залу бібліятэкі кляштара... Наконт «Трох мушкецёраў», — Дана магла пэўна зазначыць, што гісторыя з клейнотамі каралевы не цікавіла яе, але стыль паводзін шэвалье, дуэлянтаў і малайцоў, Парыж часоў кардынала Рышэлье, водар эпохі — гэта яна ледзь не глытала. Як пазней старонкі Хемінгуэя і Эрэнбурга — з тым жа неверагодным горадам, куды ёй пашчасціла трапіць, на жаль, ва ўзросце, далёкім ад таго, у якім быў харобры гасконец, калі ягоны конь, невядомай свету масці, трапіў на бруkаванку горада бясконцых Людовікаў.

Дана ўвогуле была апантаным, але недысцыплінаваным чытачом — чытачкай. Асвойваючы «Як гартавалася сталь», яна вельмі палюбіла першыя старонкі кнігі, дзе баявіты хлопец-зух Паўка бярэ знаёмства з дзяўчынай «з добрай сям'і» Тоняй Туманавай. Дана проста на свае вочы бачыла гэтую сажалку, мабыць, такую, як у іх, вуду Паўкі, капялюш Тоні... Як пазней спазнавала на слых, пах, на кожны гук маёнткі Сянкевіча, горад Пруса, сядзібы Тургенева і Буніна...

Дана ўмела неяк абмінаць увагай выпадак «з махрой» у Паўкі Карчагіна і ніякавата сябе адчувала, калі Артур сек малатком крыж. І была амаль упэўненая — таямніцы споведзі маглі здрадзіць толькі недзе там, далёка, у Італіі. Хіба пані Магда ці сястра Малгажата маглі б каму здрадзіць? Выдаць? Назарэтанкі прынеслі ахвяру... За ўсіх мешканцаў горада...

Пра гэта згадвалася ўсё жыццё... І было найвялікшым узвышэннем душы — калі сёстры з Найсвяцейшай сям'і з Назарэта былі беатыфікаваныя. А распачаўся працэс беатыфікацыі сястры Малгажаты. Той, якую ведала Дана...

Яшчэ вельмі непакоіла Дану, за што не толькі людзі, але і Вышэйшая Воля пакаралі вязня з Аляксееўскага равеліна? «Адзетыя ў каменне» адымалі спакой, ціснулі на ўяўленне — усё жыццё ў каменнай пастцы. Горш за смерць. І калі смерць прыняць за іншабыццё — дык што ёсць гэтае дваццацігадовае паміранне? Ці варты быў замах на цара, нават толькі задума замаху, гэткага катавання быццём? Ці варта? І ці вартая была самаахвярная аскеза і вымогі разумовыя і фізічныя Паўкі Карчагіна таго, што займелі яго нашчадкі? Ці трэба дзеля шчасця іншых абавязкова прыносіць ахвяры? Хаця — і дагматы найвышэйшыя таксама сцвярджаюць, што пакуты жывяць душу, пераўтвараюць яе.

Але які быў сэнс у тым абвяшчэнні Liberte, Fraternite, Eqalite, а потым у моры крыві ў Францыі і ўсёй Еўропе? Ды і егіпецкі паход — не прывід у пустыні. Inferno[1] ў Афрыцы. І дзе ж тыя свабода, роўнасць? Дзе логіка гісторыі?

Калі ў жыцці ўсё стала мяняцца месцамі, Дана ніяк не магла зразумець, чаму жанчына, што абараняла дысертацыю пра дзекабрыстаў і, безумоўна ж, пісала яе паводле ўсіх канонаў савецкага часу, інакш не абаранілася б, раптам, быўшы жонкай чалавека, якога людзі на Няве абралі мэрам горада, пачала весці гаворку пра піэтэт перад домам Раманавых.

---

[1] Пекла *(лац.)*

Які піэтэт? Чаму? Навошта? Дана любіла таямніцу старажытных партрэтаў і складана-заблытаныя, што лабірынты, адгалінаванні генеалагічных дрэў, але дваццатае стагоддзе мае свае правы і свае законы. І сваіх тытулаваных асоб. І тытулы тыя маюць мала дачыненняў да карон.

Логіка гісторыі... Пасля войнаў Напалеона французы сталі на шаснаццаць сантыметраў ніжэйшымі.

Другая сусветная забрала кожнага чацвёртага беларуса. Рэпрэсіі ў Саюзе звялі самых разумных і незалежных. «Задумваюць рэвалюцыі філосафы, здзяйсняюць фанатыкі, карыстаюць плён прайдзісветы». Афарызм Бісмарка час ад часу рабіўся модным. Прыходзіў лейтэнант артылерыі ці камунальнага маштабу Шарыкаў...

І ўсё ж тады — і пазней — з мройлівага вэлюму часу выступалі постаці...

І прага рамантыкі ставіла ў адзін шэраг Касцюшку і Артура-Рыварэса, Д'Артаньяна і Кастуся Каліноўскага, філаматаў, філарэтаў і чараду іншых, рэальных і кніжных герояў.

Уяўленне дражнілі і вабілі гэтыя радкі і тое, што жывыя, рэальныя філарэты і філаматы жылі тут, на гэтых вуліцах, дыхалі гэтым паветрам... Раней то быў горад рыцараў і герояў...

Дом Паэта аднавілі пазней. Тым часам, на пару іх юнацтва, наўскасяк ад плошчы былі толькі рэшты таго будынка, толькі фундамент. Пазней тут стаўся музей. Пазней былі розныя імпрэзы, святы, угодкі. Да іх ні Хрысціна, ні Дана дачынення не мелі. Прыязджала тады ў горад мноства людзей, вучоных і менш вучоных, стаяў пафасны галас, і на гэтыя літаратурныя фэсты іх, вядома, не запрашалі. І, мабыць, добра. Спакладаны архівамі і няўтомнымі росшукамі фактаў дух галоўных персанажаў гэтых дзействаў наўрад ці меў уяўленне пра шматгалоссе вякоў, пра яго невымоўны чар. Удзельнікам імпрэз так падабаліся каментары і лагічная расшыфроўка фактаў, што рэальнасць губляла свой

першаіснасны водар. І шматлікія «я» ў гэтай духоўнай прасторы пераўтвараліся на тых дзействах у зацяганы, зарытуалізаваны ў часе стандарт — аднолькавы ад Ромула да нашых дзён. Усё прывідна, падманліва, фальшыва. Ёсць рэальныя лозунгі, шэрагі маршыруючых, плойма спевакоў... І — прамоўцы, прамоўцы, прамоўцы. Але няма той духоўнай прасторы, што давала строй думкі Паэтам.

У вершах, што чытаюць тут, на вялікіх дзействах, адчуваецца гвалт нагоды — і няма руху жыцця. Ёсць толькі жалезнае ляскатанне слоў. І імкненне ўпіхнуцца ў плынь часу. Тыя, філаматы і філарэты, таксама былі дзецьмі свайго часу, ажно жылі свежымі ўяўленнямі, любоўю і болем. І не стрыглі купонаў ад любові да айчыны. І не былі залежныя ад афіцыёзу, што мяняе назвы і формы, але захоўвае status quo ў існасці сваёй. І характарыстыкі існавання складаюцца ў гэтых выпадках са спарахнелых матрыц і клішэ. Але публіка — тая, што дзейнічае, і тая, што сочыць за дзеяннем, — ці то сапраўды не разумее, ці то робіць выгляд, што адбываецца толькі відачынства, «лицедейство», і новыя дзейныя асобы нічога неададуць да гэтага адвечнага спектакля. Хіба што з'явіцца ладзіць відовішча той, каму цесна ў вузкім рацыянальна-пафасным прагматызме. Але такія на відовішчы не трапляюць. Інакш яны абавязкова ператварылі б іх у нешта іншае. І там не было б нудотных прамоў, запраграмаваных мізансцэн з дзеячамі раённага і сталічнага маштабаў, не было б безаблічных постацей сацыяльнага мімансу на амплуа сацыяльных герояў, не было б справакаванага традыцыяй энтузіязму эталонных людзей натоўпу, а паміж імі існуе нейкая няўклюдна абавязковая сувязь, якую наўрад ці мае чалавек, блізкі да Натуры, чалавек, што адчувае сапраўдную каштоўнасць існуючага і разумее прыроду рэчаў.

Гэта раней іх горад быў горадам паэтаў і герояў. А пазней выцвілыя ілюзіі абвяшчалі вяснова-свежымі ідэямі, свет вечных каштоўнасцяў замянялі на актуаліі хвіліны, а хцівых бадзяг называлі пілігрымамі.

Але ў пару жыццёвай раніцы Хрысціна і Дана мелі сваю радасную веру ў шчаслівую рэальнасць. І Анёл у цені сваіх крылаў хітравата паглядаў на іх: маўляў, яшчэ ўсяго хопіць на вашым вяку.

А пакуль яны хадзілі ў бібліятэкі, аднаўлялі кожнага года звычай «узяцця вяршыні» на замку, абмяркоўвалі чытанае, знаходзілі новыя крыніцы здабывання кніг.

І тут была яшчэ адна асоба, што магла даць фору ім абедзвюм. Дэвік Гальдштэйн, той самы сын цырульніка, выдатнік і жыццярадасна-іранічная асоба.

І да сябе, і да сваіх сяброў Дэвік заўсёды ставіўся з добрай доляй гумару. Недзе ў душы яму, заўсёднаму пяцёрачніку, хацелася мець іншыя заслугі. І ён ахвотна, ледзь не ўзахліп прамаўляў: «Ну, мы з Мусяй ім далі!» Муся быў сынам вайскоўца ў немалым чыне; высачэзны хлопец, з нейкай сваёй тугой думай. Асабліва цяжка і маўкліва ён задумваўся каля дошкі — застываў, нібыта егіпецкі сфінкс. І ніякія высілкі Дэвіка, што ахвяраваў сваім «выдатна» па паводзінах, шыпеў, тэатральным шэптам вымаўляў ледзь не па складах, — нішто не магло зрушыць глыбіню самасузірання Мусі. Хіба што любімая гульня — Муся мог у самым натуральным сэнсе пераплюнуць усіх у класе. Або «цюшка» — тут таксама Мусіенка выходзіў са сваёй «нірваны», вочы яго гарэлі, і тут ён таксама не меў сабе роўных. Падкідаць нагой гэты кавалачак свінцу з аўчынным верхам ён мог хоць цэлы дзень. Не меў ён сабе роўных і падчас боек «мясцовага значэння». Вышэйшы за ўсіх у класе, куды мацнейшы за аднагодкаў, ён усур'ёз не прымаў нікога. І тут ужо Дэвік быў «пры Мусі». Але ўспрымаў подзвігі сябра блізка да сэрца і імкнуўся дачыніцца да іх. Асабліва падчас аповедаў пра чарговы турнір. Ну што там былі ўсе пяцёркі Дэвіка побач з такімі непараўнанымі вартасцямі...

У Мусі, як і ў Даны, збіраліся па святах: да таго схілялі памеры іх кватэр. Да Дэвіка шасталі кожным днём, хаця ў Гальдштэйнаў быў толькі адзін пакой, у якім месцілася пяць чалавек: Дэвік, дзве яго сястрычкі і маці з бацькам. Хата ў іх не зачынялася, але не было выпадку,

каб Дэвікава маці каму-небудзь паказала на дзверы. У іх хаце быў заўсёды добры настрой, было тлумна і весела. Як Дэвік рыхтаваў урокі ў гэтым гармідары — невядома, але пяцёрка была яго звычайнай адзнакай. Дэвік і Дана былі заклятыя выдатнікі і пазней залатыя медалісты. Аднак Дане грэх было б вучыцца абы-як: два пакоі, дзе заўжды была кляштарная цішыня, ніякага хатняга клопату. А Дэвік жыў, што на вакзале.

Ён быў адзін з тых, хто вярнуўся пасля інстытута ў іх горад. Маючы паважаную ва ўсе часы прафесію ўрача.

Дана ж атаясамлівала гэту прафесію найперш з адной асобай.

Доктар Гордзін — яго ведалі ўсе. Ён меў загартоўку старога, «за польскім часам» эскулапа. Загартоўку, што мелі некалі павятовыя ўрачы. Прымаў у лякарні, удома, хадзіў на візіты. Доктар Гордзін не быў участковы ўрач, за візіты браў грошы, але бег на просьбу, што на пажар. Аднаечы, калі Дана атруцілася, ён ляцеў а трэцяй гадзіне ночы да Азарэвічаў, накінуўшы паліто на бялізну. У дзяўчынкі тэмпература сорак!

Доктар Гордзін быў сямейны ўрач, і не ў іх адных. Пазней Дана аніяк не магла прызвычаіцца да іншых дактароў і дакторак. Урач — гэта доктар Гордзін.

Калі Дане давялося запрашаць да маці ці вадзіць яе па дактарах і лякарнях, прыгадваўся доктар Гордзін — з яго пэўнай таксай, пэўнымі стасункамі паміж пацыентам і ім. Не трэба было квахтаць: «Ах, доктар, я вам так абавязана», — і пакутліва прыкідваць — ну, як жа матэрыялізавана ўвасобіць тое абавязацельства! Каб аддзячыць і не пакрыўдзіць. Праўда, калі Вольгі Станіслаўны ўжо не было на гэтым свеце і грымнула крутая «дэмакратыя» і карабок духоў стаў каштаваць ці не двухгадовага заробку Даны, а банбаньерка цукерак — месячнага, гэтае пытанне сышло з парадку дня.

Як маці суадносіла сваё, выключна «сацыялістычнае» стаўленне да парад (Вольга Станіслаўна брала грошы адпаведна таксе толькі на працы, усіх, хто прыходзіў дадому, так ці інакш, нейкай парадай ды цешыла, але грошы не брала ніколі), дык якія былі суадносіны з «хатняй»

таксай доктара, Дана не ведала. Здаецца, маці гэта лічыла зусім заканамерным: кожны мае свой стыль працы.

Між іншым, Дана не магла згадаць, каб нехта абразіў Бэцю або Дэвіка, а ўжо тым больш Гордзіна з-за іх нацыянальнасці. Была памоўка: «Тваё “зараз”, як жыдоўскае “пачакай”». Або: «Дружым, як браце, лічым, як жыдзе». Але то была беларуска-польская традыцыя назвы — і не больш. Куды горш гучала, калі некаму даводзілі: «Ну, ты, як Антэк варшаўскі». Хто быў таямнічы Антэк, Дана не ведала, пэўна, і да Варшавы ён меў дачыненне вельмі ж апасродкаванае, але чамусьці так казалі, калі некаму хацелі давесці, што ён клёку ў галаве не мае.

На Фулімэну гэтага не гаварылі. Яе шкадавалі. А эмтээсаўскія дзецюкі, канечне ж, паскудна смяяліся. Імя тое бясспрэчна было знявечанае імя Філумены. І сама Фулімэна была непапраўна знявечаная. Высокая, мажная, чарнявая жанчына — час ад часу яна аднекуль з'яўлялася і імчалася па горадзе. Каля фарнага касцёла распраналася ўшчэнт і лётала вакол яго пад угагаканне эмтээсаўскіх бэйбусаў.

Гаротніца недзе знікла. Мабыць, у шпіталі... Дана доўга памятала гарачы бляск яе агромністых цёмных вачэй, і калі чытала «Джэн Эйр», дык жонку Рочэстэра ўяўляла, як іх Фулімэну.

«Не дай мне Бог сойти с ума, уж лучше посох и сума». Вялікі паэт — ён ведаў кошт і цану фактам існавання...

Дана пра гэта не задумвалася. Яна жыла. І не ведала, дзе яна, «страніца лепшая ў штодзённіку жыцця...»

**ВЕРАСЕНЬ**

У кожным выпадку ёй аднолькава падабаліся і вакацыі, і шкаленне. Асабліва першыя, вераснёўскія дні.

Напрыканцы лета ў гародчыках расцвіталі настуркі і мальвы, цягнуліся з-за платоў вяргіні. Падалі на зямлю пераспелыя яблыкі. У паветры з'яўляўся той непаўторны водар, што бывае толькі напрыканцы лета. Гэта той самы

водар, у якім ёсць наіўнасць чакання і трывога пераходу з аднаго стану ў другі. Суцэльна вольная істота засталася за парогам першага верасня. Але і ўнармаваны, цалкам падпарадкаваны звычнаму цыклу дзень — яшчэ наперадзе. А пакуль што — некалькі ні на што не падобных тыдняў. Ужо заняткі — але няма нудотнага атожылка «маці вучэння»: няма чаго паўтараць. Няма кантрольных, і хатнія заданні нагадваюць хутчэй гульню — розныя ўводзіны, перадумовы, уступы. А затое — сустрэчы: за лета ўсе змяніліся больш, як пазней за гады. А затое — новенькія: цікава. Затое — новыя настаўнікі — адкрыццё.

Увосень і ўвесну Дана выпраўлялася ў школу паўз замак, вузенечкай сцежкай каля Буячыхінай хаты — потым ад той сцежкі не засталося ані знаку: адзін хмызняк. А тады можна было хуценька прабегчы тут, падняцца на горачку, прайсці па валейбольнай пляцоўцы, дзе пазней паставілі помнік Паэту, і з задавальненнем адштурхоўвацца ад гравейкі па шырачэзнай строме — да школы. Шлях гэты быў карацейшы, але не тое мела асобы смак. Ісці кругаля вуліцай было нецікава, тут ішлі ўсе, тут ты нібыта ўступаў у шэрагі і павінны быў крочыць крок за крокам у агульным рытме, агульным выяўленні, агульным... А ёй хацелася ісці сваім шляхам.

...Вокны іх класа глядзелі на гару, і падчас урокаў беларускай мовы і літаратуры па гэтай горцы гойсалі дзеці вайскоўцаў, вызваленыя ад заняткаў і гэтай мовай, і гэтай літаратурай, а яны ўсе — амаральна і непатрыятычна — зайздросцілі ім. Што гэта амаральна — Дана разумела і тады. Што непатрыятычна — даўмелася нашмат пазней. Што яны, бэйбусы на горцы, згубілі непапраўна многае — уявіла сабе таксама не ў тыя вераснёўскія дні. Ажно — яны так і не даведаліся аб прыгодах дзядзькі ў Вільні і пра тое, што было раніцай у нядзельку ў лесніка Міхала, не ведалі нічога пра адвечную песню, спраўджаную «ўсясільнай рукою тварэння»... Не адчулі горкай асалоды слоў:

Калісь глядзеў на сонца я,
Мне сонца асляпіла вочы.

Ды што мне цемень вечнай ночы,
Калісь глядзеў на сонца я.

І пазней — яны не ўведалі ні пра ўцеху думкі — выспу Патмас, на якую трэба ехаць у залатым чаўне ўспамінаў, бо «ўспаміны маюць вялікую моц». Ні пра ладдзю Роспачы і Хрыста, што меўся прызямліцца ў Гародні. Ні пра Алеся Руневіча, які хадзіў тымі ж сцежкамі, што і яны. Ні пра «смаленне вепрука». Ні пра краіну Ідылію.

Тады Дана не магла ўсвядоміць гэтага і не брала да галавы тых думак. Але ж у ласкавы вераснёвы дзень, калі самая пара ўсё кінуць і гойсаць па парку, яны, пакутнікі, павінны сядзець на ўроку суседкі Даны, Надзеі Адамаўны. Праз нейкі час пра «шчаслíўцаў» на горцы забываліся і слухалі — пра Нясвіжскую семінарыю, пра Горы-Горацкую акадэмію... Голас Надзеі Адамаўны ўтульна парыпваў, як пяро на паперы, а рука секла паветра, нібыта падкрэслівала яе ўлюбёнае: «Мысліце пра будучае».

Тады Дана не думала ні пра будучае, ні пра мінулае. Яна нібыта плыла на чоўне нейкага вераснёвага дабраўладдзя. Да дошкі яшчэ не выклікалі, не трэба было нервавацца. Дана амаль заўсёды ведала ўрок і амаль заўсёды хвалявалася. Сутнасць была нават не ў тым, што Дана павінна была атрымаць сваё абавязковае «выдатна», а інакш — страта «рэнамэ», рэзрух ладу, завядзёнкі і няспраўджаныя надзеі настаўніка. Было нешта невытлумачальнае, падсвядомае ў гэтым рытуале ісці да дошкі, як да месца — ці то пакарання, ці то допыту, ці то прымусовага акту споведзі. Хочаш не хочаш, расказвай. Да таго ж — ніхто не дасць параскашавацца тым, чаго не ведаюць яе аднакласнікі. Абавязкова прыпыняць: хопіць. І заставайся сам-насам з усімі Рычардамі, Генрыхамі, Сапегамі, Карыбутамі, з радкамі вершаў — ганяй іх сабе з паўшар'я ў паўшар'е. Ці яны маюць там пэўнае месцейка? Пэўную клетачку? Нейкія скрыначкі, дзе размешчаны яе, Данчыны, набыткі?

...Дана любіла ўрокі Ганны Севасцьянаўны. Тая тлумачыла ўрок, нібыта прыпячатваючы ўказкай да карты

Пунічныя войны, войны Пунсовай і Белай ружаў, усіх Плантагенетаў і Капецінгаў, Макіявелі і Саванаролаў... А патлумачыўшы, Ганна Севасцьянаўна давала хвілін дзесяць–пятнаццаць на чытанне і пыталася: «Хто будзе адказваць?» Гэта былі зорныя хвіліны Абумава і яе, Даны. Падабаўся момант не спаборніцтва нават, а гульні — нібыта ляціш да фінішнай стужкі. Адчуваючы імклівасць думкі. Бачачы антычныя каланады, брамы гарадоў, вузенечкія вулачкі, застыглыя муры замкаў, пепласы грачанак і верцюгарды часоў Людовікаў. Разгортваючы стужку падзей. Тады не мыслілася, што крывавых. На старонках падручнікаў і кніжак усё выглядала так прывабна... І недзе там заўсёды блукала пазагістарычная постаць гасконца ў гістарычным антуражы. Тым часам яны паглядзелі фільм пра славутага героя і маглі хоць сярод ночы праспяваць:

В Гаскони я родился,
В Гаскони я и жил.
И двадцать лет об этом
Нисколько не тужил.
Но — вот мне дали шпагу,
Отцовский пистолет,
И я решил изведать,
И я решил изведать,
И я решил изведать
Шумный свет.

І так нечувана вабліва гучала «Поэтами воспетый от погребов до крыш!» І здавалася — чуеш нават цокат капытоў коней, калі згадваліся радкі прыпеву: «Туда, где день яснее, вино всех вин краснее, красотки всех милей, туда, в Париж!»

Адкуль узяліся словы песні, ніхто не ведаў, ці дакладны пераклад — тым больш, але песеньку спявалі, а Парыж, які яны ўбачылі ў гэтым фільме, застаўся сярод шматлікіх мрояў-вобразаў Парыжа, адным з самых прыцягальных. Праз шмат гадоў Дана даведалася, што

музыку гэту напісаў брат таго Пакраса, што меўся складаць безліч зухаватых, баявітых песняў у Саюзе. Брат тым часам жыў у Парыжы. У горадзе Д'Артаньяна. Дзе ёсць вуліца Фэру, Сант-Анарэ, ёсць — была? — вуліца Старой Галубятні. Вуліцы авантур і прыгод. У Гюго тапаграфія горада неяк азмрочвалася трагедыйнымі перыпетыямі сюжэтаў. А равеснікі Даны, як усе падлеткі, праглі хэпі-энду...

Гісторыя на хэпі-энды была не вельмі багатая. Але затое там быў калейдаскоп падзей, якіх не магло быць і ў раманах. І можна было адчуць сябе ў плыні часоў на чоўне, які кіруе са старадаўняга ў зусім старажытнае і наадварот. Менавіта на чоўне — машына часу, гэтая знаходка змардаванага тэхнічным прагрэсам інтэлекту, не мела для Даны прыцягальнасці. Ні тады, у іх горадзе, у гады яе наіву і веры, ні пазней, калі ўжо засталіся толькі ясвіны таго, даўняга святла, толькі адлюстраванне, адбітак светлага, але прымроеная фантастамі машына часу нават і ў прысмерках уяўленняў не займела ніякай, нават фантасмагарычнай, вабнасці.

На ўроках гісторыі Дана нават пераставала хвалявацца, але сакральнае «хопіць» Ганны Севасцьянаўны перапыняла Дану. Ганна Севасцьянаўна паважала рэгламент праграмы.

А ў клас пасля перапынку ўваходзіў Іван Данілавіч. «Какурат», — пачынаў ён, падцягваючы рэмень на бездакорнай гімнасцёрцы.

Дана акуратна вучыла батаніку і заалогію і не мела аніякай цікавасці да ўсіх гэтых тычынак, песцікаў, кровазваротаў. Тут цараваў Драбышэўскі, Дана нават прозвішча яго вымаўляла гідліва — нібы датыкалася да слізняка. Драбышэўскі асалодна-юрліва тыцкаў паказкай па развешаных схемах, пераможна лапатаў і чамусьці гыгыкаў.

Дзіўная завядзёнка тых гадоў — ці ўвогуле школьнай навукі? — батаніку трэба было вывучаць каля дошкі. Хаця побач быў жывы свет кветак, дрэў, птушак. Дана не ставіла таго дакорам Івану Данілавічу. Ён не парушаў афіцыйных высноў.

Іван Данілавіч горача абараняў інтарэсы праграмы і граміў вейсманістаў-марганістаў так, нібыта яны былі яго асабістымі крыўдзіцелямі і маглі нанесці шкоду не толькі ўсяму чалавецтву, але і непасрэдна школе № 2.

Пазней Дана даведалася аб прычынах гэтага энтузіязму: Іван Данілавіч адседзеў пэўны тэрмін паводле палітычнай нядобранадзейнасці.

Спакойна Дана ставілася і да алгебры з геаметрыяй, хаця на ўсё жыццё засвоіла, што $(a - b)^2 = a^2 - 2ab + b^2$. Ці спрыяла гэта яе лагічнаму мысленню і кругагляду, яна не ведала, але была пэўная: задачкі трэба рашыць, тэарэму засвоіць, аксіёму запомніць. Разам з алгебрай і геаметрыяй з'явіўся яшчэ адзін прадмет — чарчэнне. І калі магла быць поўная неадпаведнасць схільнасцяў — дык гэта былі суадносіны Даны і чарчэння. Выгляд злева, выгляд справа. Паралельныя прамыя... Гэтыя прамыя ў Даны існавалі відавочна паводле Лабачэўскага і не мелі адносін да Еўкліда. Гэтыя нязломныя, пякельныя паралельныя абавязкова імкнуліся да перасячэння. Праўда, тут усё вырашалася, як пазначылі б у пару ўсеагульнага гандлю і абмену, спосабам бартару. Дана рабіла задачкі, перакладала з англійскай, а ёй рабілі, хай ён гарыць гарам, чарцёж.

Затое — англійская мова... Тут было прыцягненне — што там Ньютан... Дана лавіла ў трафейных, недубліраваных фільмах — яны ішлі з субцітрамі — вымаўленне Робіна Гуда і лэдзі Гамільтон, шыкоўна даводзіла пагрозлівае «th», ставячы язык роўненька паміж зубамі, не саслізгваючы на прымітыўныя «фазэр», «мазэр», а дыфтонг «ing» цягнула доўгім насавым [iŋ], а не шкалярскім «інг». Праўда, і тут у Даны была свая засцярога. Англічанін падазрона хваліў Дану: «Яна на дзве галавы вышэй за вас усіх». Клас слухаў насцярожана. І зразумела — каму магло падабацца быць ліліпутам.

Потым, пры розных студыях і штудыях Дана наслухалася досыць кампліментаў наконт сваёй схільнасці да моў, але ўсё скончылася тым, што ў яе доўга пыліліся на паліцах Марк Твэн, Голсуорсі, Айрыс Мэрдак... The

Sandcastle — замак на пяску. У жыцці ёй толькі пару разоў давялося зграмаздаць некалькі фраз, не даючы сабе асаблівага клопату ні пра вышукі лексікі, ні пра вымаўленне — тым больш. Тады яна спакойна магла сабе ўяўляць шлях ад гэтых: «Who is on duty today?»[1] і «This is a pencil»[2] да дыпламатычных гасцёўняў ці стасункаў на якіх далёкіх экзатычных астравах — Барнэа, Галапагосы, Туамоту...

Асабліва на той час, як у Даны быў перыяд вострага марынізму. Мела гэтае захапленне выток непасрэдна ў яе нараджэнні. Нарадзіцца ж ёй пашчасціла на далёкім-далёкім паўвостраве. Бацьку перадалі: «З'явілася на свет капітан з парахода "Чавыча". На караблі была ці не адзіная на тую пару ў свеце жанчына — капітан далёкага плавання. І Дана лічыла фразу наканаваннем Вышэйшым і, як умела, рыхтавала сябе да акіянскіх выпрабаванняў. Былі «засвоеныя» ўсе маладаступныя дрэвы ў ваколіцах і тыя самыя вежы на замку. Вядома, досыць прымітыўна. Дана гэта разумела, але па каментарах да Станюковіча, Стывенсана, Жуля Верна і іншых кніжак так-сяк вызначыла для сябе прызначэнні бом-брам-рэяў, бізань-мачтаў, гітаў, каб, не дай Божа, не выправілі па ваду на клоцік. Падкінуў ёй неяк неацэнную кніжачку сын аднаго з матчыных калег — таксама збіраўся падацца ў маракі. Там іх было трох сыноў — тры Будрысы, смяяўся бацька. І пасміхаўся — кавалеры для Даны. Бацька быў чалавек натуры шырокай і будучай «нявестцы» даслаў на дзень нараджэння паўдывана, шыкоўнага, падобна, з нямецкіх «трафеяў». Царскі падарунак. Але падарунак, мабыць, шчыры, ён праз усё жыццё спадарожнічаў з Данай: аскепак германскай утульнасці.

А сярэдняга сына задражнілі: абышла, маўляў, Дана яго — вучыцца ў вучылішчы, вось, калі ласка, у форме. Здымак Даны ў марынарцы і сапраўднай бесказырцы быў не толькі падараваны будучым «прэтэндэнтам»,

---

[1] Хто дзяжурны? *(англ.)*

[2] Гэта аловак *(англ.)*

але і прышчаміўся на самым бачным месцы на вітрыне фотамайстэрні. Спачатку — як знешне спраўджаная мара, потым — як відавочна страчаная. Але заўсёды — як нешта недарэчнае. Дана ніколі не мела пашаноты да рэкламы.

А мару раструшчыла кантрольная па фізіцы. Дана не мела звычкі вытыркацца на першыя парты і займала сабе спакойнае месца на перадапошняй лаўцы. Так бы мовіць, ледзь не ложу абаніравала. Тут можна было пры выпадку нешта пачытаць на ўроку. І адстароніцца, глядзеўшы ў акно.

Тым драматычным ранкам, падчас кантрольнай па фізіцы, «варыянт» Даны, ціхамірна і не даючы сабе клопату нешта абвяргаць, спісаў у яе рашэнне. А праз два дні фізік раздаў кантрольныя. І трымаў, паводле ўсіх законаў драмы, маналог. З якога выявілася — зразумела, хто спісаў. Зразумела, у каго. Усім — двоечкі. А вам, шаноўная Азарэвіч, перасесці на першую парту і сказаць маці, каб завяла да акуліста.

Што там драма... Трагедыя. Шэкспір... Палавіна класа з-за яе маюць двойкі. Павінна сядзець, як апошняя двоечніца — менавіта іх садзілі за першую парту — перад вачмі настаўніка. Ганьба — ёй патрэбны акуляры. Ну, хто ж у іх школе насіў акуляры? Акуляры — гэта яшчэ горай, як без косаў. Стрыжаныя хадзілі толькі інтэрнатаўскія. А ў акулярах не было ні-ко-га.

Але самае галоўнае — бывай, мараходка! Які ўжо марак, калі яна пераблытала 3 з 9.

Ну, але на сушы таксама безліч цікавых заняткаў, акуляры можна не насіць, а толькі раз-пораз карыстацца імі. Да таго ж на пачатку і напрыканцы года заўсёды, акрамя кантрольных, была падзея, якая казытала ўяўленне. Збор дружыны.

Вогнішча на замку. З ранку світальна пелі горны. Вербел бубнаў нагадваў пра мушкецёраў, італьянскіх берсальераў, касінераў Каліноўскага, пра рыцараў тых часоў, калі ў іх горадзе адбываліся гераічныя падзеі.

Дане падабаўся цвёрды, рублены крок, урачыстая радасць, полымя кастра: «Рапарт здадзены!» — «Рапарт прыняты!»

Ці надавалі яны веры, калі адказвалі на заклік: «За справу Леніна–Сталіна будзьце гатовы!» — «Заўсёды гатовы!»? Яны мелі на ўвазе — гатовыя да барацьбы за справядлівасць. Ці былі кумірамі тыя правадыры? Безумоўна, не. Былі сімваламі нечага — так. Дыскутаваць ніхто не збіраўся. І задаваць пытанні — таксама. Таму лічылася, што ў каралеўстве, гэта значыць у Саюзе, усё цудоўна. Дзед сваіх таямніц не раскрываў. Маці — таксама.

А ў касцёле ні сястра Малгажата, ні пані Магда не задавалі ніякіх пытанняў. Ці то загадзя выдаючы ёй індульгенцыю. Ці то лічачы, што ўсё прыйдзе сваім парадкам.

Што гэта было ў Даны? Своеасаблівы дуалізм? Легкадумнасць? Саўязычніцтва з хрысціянска-каталіцкай акрасай? Сумесь сацыяльнага верніцтва і нармальнай веры? Тады яна не задумвалася, а пазней адкінула адно і пакінула другое. Не адкінуўшы і не адрынуўшы мінулае. Яно — было.

На думку Даны, усе, ці амаль усе часы, хіба што за выняткам часоў вайны і памарачы, мелі нейкія знакі адметнасці і сваю акрасу. Сістэма... Дана мелася абыходзіць яе ўладныя высновы. Заўважаць і не заўважаць. Не лезці ёй на вочы, але і не прыстасоўвацца. Не ісці ў авангардах, не плішчыцца ў «маякі», захоўваць свой унутраны суверэнітэт. Як і пазней, калі на нейкай адзнацы яе жыцця людзі сталі спачатку роіцца ў натоўпы мітынгуючых, потым наспела пара — пачалі хапаць маёмасць, ваяўніча настойваць на суцэльнай уладзе грошай, а нехта і на ўладзе зброі, не забываючыся галёкаць пра высокія ідэалы.

Ці бываюць увогуле добрыя часы і добрыя ўлады? А змест быцця — не ў палітычных плынях. У рытуале прыроды, у паху зямлі, ва ўтульнай завесі тумаоў. У слоіку з малаком. У бохане хлеба.

Хаця... ёсць моманты, калі здаецца, што кожная брама ўдзельнічае ў жыцці дзяржавы. І кожная шыльда, кожны плакат сведчаць пра статус палітычны, эканамічны,

сацыяльны. Гаркам партыі. Выканкам. «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!» «Прыорбанк». «Філіпс».

Чамусьці абавязкова ў самым прыгожым, самым прывабным месцы — нахабна, буйнамаштабна: «Павялічым надоі малака!» — на лінялай чырвані. А пры іншым рэжыме на тых жа прыгожых узгорках — як наўскапыта ўзняліся: «Мальбара», «Кэмэл», «Кока-кола».

Былі лагеры, потым — нібыта ўтварылася суцэльная зона, дзе гаспадары жыцця — гандляры і крымінальнікі. Як на гэта глядзіць Анёл у цені сваіх крылаў?

Сістэма... Дана часам адчувала ўсё ж яе ланцуговы хапок. У сёмым класе ўсе гуртам падалі заявы ў камсамол. І вось тут ачмурэлы троечнік Філіпенка, што заўсёды бессаромна спісваў у яе, абвясціў, што, па-першае, бацька Даны Азарэвіч немаведама дзе, прапаў без вестак — але ж адкуль ён, паскуднік, гэтую звестку вышкрабаў? Дана сном-духам не ведала, дзе ягоны, Філіпенкавы, бацька, хто ён, ёй гэта было нецікава. Па-другое — адкуль у гэтага слімака з'явіўся пафас? — дык вось, па-другое, адзначыў Філіпенка, прымаюць толькі тых, хто нарадзіўся ў першай палове года, а Дана Азарэвіч з'явілася на свет толькі ў жніўні. Зноў — адкуль ведае? Яна яго ніколі на дзень нараджэння не запрашала. Дырэктар школы абурыўся, выдаў гнеўную філіпіку таму Філіпенку. Ажно «праўдашукальнік» давёў свае важныя «агентурныя звесткі» ў райкам камсамола. Прынятыя важна пачапілі адзнакі УЛКСМ. Дана сціпла адышла ўбок.

Пасля сёмага класа Філіпенка знік — упёкся, падобна, недзе ў тэхнікум. А Дану прынялі ў камсамол ў ліпені. Усе былі на вакацыях, Дана зайшла ў райкам адна, атрымала білет, як звычайную паперчыну ў вокладцы, і спакойна рушыла дадому. Крыўды не было, не было і свята. З урачыстасцямі запраграмаванымі Дане не вельмі шанцавала. Не супадалі яны з нейкім рытмам светапарадку.

А што да Філіпенкавага выпаду і ўвогуле подласці, дык тут Дана так ніколі і не навучылася вялікаму майстэрству папярэджваць удар. Не навучылася недаверу і асцярожлівасці. У яе заставалася не толькі ахілесава

пята. Гэтых пят было больш, як павінна быць паводле натуры. І іх можна было ўжыгнуць, параніць, падпаліць. І тады, мабыць, Анёл у цені сваіх крылаў паглядаў на яе спагадліва. Ажно і з іроніяй. Ну, што? І калі ты навучышся разумець жыццё? Легкаверная. Легкадумная. Ідэалістка.

## ВЯСНА

Але ж затое якім хвілінам відавочна спрыяў Анёл! Зімой. Летам. Вясною.

Вясна звінела і ззяла ручаінамі, што дзелавіта і весела спяшаліся па Мінскай, Гродзенскай, Слонімскай, Першамайскай. Сонца нібыта разляцелася на мноства аскепак-бліскавак і вырашыла кватараваць на зямлі.

Плылі званы Барысаглебскай і Мікалаеўскай цэркваў, нястомна праступджанымі галасамі вялі гамонку вароны. Заканчвалася чвэрць, надыходзіў канікулярны тыдзень. Надыходзіў Вялікдзень. З урачыстымі тварамі людзей у касцёле.

З кнігай, якую дала чытаць пані Магда. «Аповесць пра адну душу». Аповесць святой Тэрэзы з Лізьё. І «здагадалася, даведалася, што кожны чалавек мае сваё прызванне і свой крыж... А святыя адным фактам свайго існавання ператвараюць зямлю граху, нянавісці і пакут у прыстанак праведнасці, любові і дабрачыннасці...»

Праз гады ў яе горад і да яе фары ехалі людзі, каб пакланіцца пакутніцам-назарэтанкам.

Можа, таму ля касцёла так любіла быць Дана? І адчувала — тут запаветны прыстанак душы, адчувала ўлонне вялікага жыцця Боскага і Натуры, у іх спалучэнні, і спрычынялася сваім абмежаваным чалавечым «я» да агромністай сакральнай Існасці, да субстанцыі Спрадвечнага. Дана не знаходзіла для гэтага слоў, яна адчувала толькі незвычайнасць і самадастатковасць быцця. Боскае Хараство ў яго прастаце і адзінстве.

І нейкім чынам у гэтае адзінства ўваходзіў і гоман Першамая. І радасць вясны. Калі можна было скінуць паліто і лёгка рушыць у школу, адтуль на плошчу. А там

рубілі рытмы аркестры, нешта крычалі з трыбуны, і яны, школьнікі, голасна вялі сваё «ўра».

Ці меліся яны задумвацца над семантыкай фразы «свята працоўных»? Над значэннем лозунгаў і колерам штандараў? Не. Штандараў было мала, неслі больш кветкі, жывыя і папяровыя, нейкія стужкі, папяровыя ўпрыгожванні. І галоўнае — была вясна, было свежа-блакітнае неба, выпырсквала першае зяленіва, звінела сваімі песнямі птаства, гукала вясну.

Хараство правіла сваё свята. Прымавэра... Прымавэра... Вяртанне вясны. Пасля дэманстрацыі яны звычайна ішлі на замак, у парк. Спявалі. Гаманілі. Што спявалі? Пра што вялі размовы? Гэта не мела значэння. Істотным было тое, што прыйшла вясна. Яна была сугучная з іх гадамі. З іх светаадчуваннем. Яшчэ кожны дзень пачынаецца ўваходам у цудоўнае, існуючае Існае — рэча-існасць.

А экзамены, што былі наперадзе, — яны іх здавалі, пачынаючы з чацвёртага класа кожны год, — толькі нагадвалі пра іншыя бакі заведзенага парадку, надавалі раўнавагу. Не дазвалялі істоце падпарадкавацца выключна буйной весялосці ўваскрослай натуры.

## ХЛЕБ ЦВЯРОЗЫХ ІСЦІН І ВОДАР ШЫПШЫНЫ

Экзамены давалі магчымасць падбіць рахункі. Пытанні — адказы. Урачыстая строгасць настаўнікаў.

Дана не задумвалася пра сістэму навучання, патрэбнасць ці непатрэбнасць нейкіх ведаў. Ёй падабалася размяркоўваць час так, каб, устаўшы на золаку, пасядзець са сшыткам пытанняў на лаўцы каля касцёла, хуценька прагнаць у галаве адказы, а потым цэлы дзень быць вольнай. Рэпетыцыя канікул.

А потым пайсці на экзамен — сабранай, падцягнутай, «у поўным узбраенні». Ёй гэта выдавала рэпетыцыяй галоўнага ў жыцці. І здавалася, як на экзаменах у школе, усё будзе справядліва і паводле правілаў. Пазней высветлілася, што школа — і ўніверсітэт — ці не самыя справядлівыя ўстановы на свеце. Усе маюць аднолькавыя

шанцы. Усе на роўных. Без падману. У жыцці ўсё было інакш. Адным давалі аблегчаную праграму, другім — найскладанейшую. А выстаўлялі ацэнкі па адваротным прынцыпе або цягнулі «экзамен», што бойку баксёраў-прафесіяналаў: да поўнай крывавай перамогі ці паражэння. Або — расцягвалі экзамен даўжынёю ледзь не ў жыццё. Здавай — не здавай, усё застаецца на месцы. І табе задаюць бясконцыя пытанні, а адказаў тваіх не чуюць, ды і нікому не патрэбныя тыя адказы. І падазроная алгебра часу вымалёўвае формулы, якія не пацвярджаюць аніякіх заканамернасцяў. І ты аказваешся ў магічным полі будзёншчыны, дзе пануюць постаці адміністрацыйнага абсурду і хімеры канцылярскай руціны.

Там — пад аховай Анёла ў цені сваіх крылаў — усё ішло сваім парадкам. Экзамены праходзілі, як добра падрыхтаваны парад. Наступная пахвальная грамата займала сваё месца недзе ў матчыных сямейных аналах. А наперадзе былі канікулы.

...Тым летам пры школе быў так званы летні лагер. У піянерскія лецішчы атрымлівалі пуцёўкі тыя, хто быў, так бы мовіць, за пэўнай рысай матэрыяльнай неўладкаванасці. Для «заможных» зрабілі такія сходкі.

Яны прыходзілі ў «піянерскі пакой», дзе быў сцяг дружыны, бубны, горны, шахматы, шашкі. 6-ы, 7-ы, 8-ы класы. І — хто гуляў партыю ў шахматы ці шашкі, хто ішоў у бібліятэку, хто проста перакідваўся словамі. Ніякага мячыка, ані валейбольнага, ані баскетбольнага, ані футбольнага. Пару гадзін яны тут бавілі час і выпраўляліся дамоў, калі не хадзілі ў Літоўку палоць лён.

Галоўнае ж было ў перспектыве: паходы на шклозавод «Нёман» у Бярозаўку і — у Гродна і Слонім. Былі то, безумоўна, экскурсіі. Але ж яны адвольна выкарыстоўвалі значэнні слоў. Да таго ж паход — гэта гучала рамантычна, ад слова нібыта патыхала дымам вогнішчаў, пылам шляхоў прыгод, водарам невядомага. Экскурсія — тут было нешта нудотна-школьнае і нецікавае. І хаця ўсе яны зроду не былі ні на адной экскурсіі, ажно а priori адмяталі тое слова. Паход. Толькі паход.

І вось золкім ранкам, а шостай гадзіне, выправіліся ў Бярозаўку. Машыну далі мясцовыя вайскоўцы: трохтонку, мабыць, добра пабітую яшчэ на шляхах вайны, з высокімі бортамі і без аніякага брызенту. Тое, што трэба. Дана апынулася каля самай кабіны — і гэта быў край асалоды: ухапіцца аберуч за борт і адчуваць на твары вецер, а часам і «прывітанне» бяроз. «Ану-тка, песню нам спявай, вясёлы вецер...» Вецер быў вясёлы, меў вандроўніцкі, свавольны характар і відавочна сведчыў пра пачатак незвычайнай прыгоды. Вецер вандраванняў. Машына іх ляціць недзе ў плыні часу. І гэтая плынь — у водары шчаслівых выпадкаў, у яркіх фарбах быцця, у мройлівай завесі загадак.

Вытрусіўшы ўсіх іх за борт, пералічыўшы, Ніна Мікалаеўна выправілася з імі на гуту. І яны глядзелі на агонь, на плаўленае, цягучае, яшчэ не зацвярдзелае шкло, і, здаецца, мала хто ўяўляў тую прыгажосць, што атрымліваецца ўрэшце. У цэх гатовага шкла іх не вадзілі — Ніна Мікалаеўна баялася — не дай Божа, скінуць нейкі келіх. Ці ёй увогуле хацелася хутчэй паставіць чаканы «крыжык» і звесці «мерапрыемства» да той жаданай рысы, дзе яе прысутнасць будзе ўжо чыста сімвалічнай?

Увогуле чалавека, менш прыстасаванага па складу натуры да працы, якой Ніна Мікалаеўна займалася, было цяжка знайсці. Старшая піянерважатая... Хваравітая жанчына, яна баялася скразнякоў, не любіла тлуму, не ведала, што рабіць з гэтымі башавэлкамі, якія, не паспеўшы выйсці за браму гуты, паляцелі да Нёмана. Ніна Мікалаеўна відавочна пакутавала, седзячы на беразе. На яе твары было напісана: вада халодная, віры, плаваць як след ніхто не ўмее — дзе ж у іх сухапутным горадзе навучыцца? Толькі ручаіна — ногі памачыць, і то курыцы. Ды дзве сажалкі, зацягнутыя шламам; ніхто і пад прымусам туды не ўлезе.

Выручылі яе дзяўчаты, што назбіралі недзе на лугавіне шчаўя. Гатаваць абед — той кон выцягнула, безумоўна, Дана. Яна мужна ўзялася мыць шчаўе і абіраць буль-

бу. Хіба можна каму прызнацца, што яе да пліты Ніна і зблізку не падпускала? Усё з тым жа знішчальным прысудам: «Рукі як граблі». Але парадак працэдуры Дана назірала, асабліва як каля пліты завіхалася маці або Луіза Генрыхаўна. Бабухнула ў вар тушонку, бульбу, цыбулю, урэшце — шчаўе.

Затое вогнішча было пад неба — кастравымі былі Толя Буланаў і Лёня Латун. Нацягалі хворасту, хмызу — хоць барана засмажвай. І Дана рабіла выгляд, што ёй весела глядзець на гэтае вогнішча і ўвогуле што яна кожным днём гатуе абед: пра што гаворка. Самой працэдуры ўжывання гатаванага Дана чакала, як прысуду. Божухна мой, якая будзе ганьба! Матчына пястушка — не ўмее поліўку зрабіць! Але, падобна, ніхто не быў асабліва патрабавальным гурманам. Усё з'елі, ніхто ў Нёман не выліў. Памілавана! Мабыць, Анёл у цені сваіх крылаў паспрыяў тут, і не на жарт! У жыцці Дана навучылася пазней гатаваць неяк неўпрыкмет, сама. Набыла спрыту нават на выштукоўванні французскай кухні, але любові да гэтага занятку не займела. Хіба што на святы — але не кожным днём! І чамусьці засталося ўяўленне, што яна некага ашуквае сваім кухарствам.

Тады на Нёмане яна, адбыўшы сваю радоўку, уздыхнула з палёгкай. Зноў ладзілі вогнішча, але Лёня Латун умеў падпаліць яго так, нібыта ўсё жыццё ў лесе пражыў. Ён усё ўмеў, гэты Лёня, начальнік паходу. Быў ён на год старэйшы за Дану, але пачуваў сябе чалавекам сталым. Разоў з дваццаць падцягваўся на турніку, па бервяне спартыўным хадзіў, што па асфальце. Да таго ж насіў непадробна выцвілую бацькаву пілотку. І меў яркія блакітныя вочы. Чаму ён быў начальнік паходу, дзе і хто знайшоў такі «чын», ніхто не ведаў. Можа, быў такі рэскрыпт у Ніны Мікалаеўны? Лёню ніхто не выбіраў, але нікому і ў голаў не стрэліла б пярэчыць: ён адпавядаў сваёй «пасадзе».

І, безумоўна, яму і Дане (актывістка, выдатніца, член савета дружыны) Ніна Мікалаеўна даручыла несці нейкія пакеты на шклозавод. Яны адчувалі сябе так, нібыта ішлі

немаведама з якім важным даручэннем. Нават гаварылі спачатку шэптам. Але занёсшы тыя пакеты, адчулі сябе людзьмі вольнымі. І пайшлі ўжо зусім паволі і паважна між соснамі пасёлка. Тым часам стала добра прыпякаць. А Лёня, каб напіцца, купіў збан малака. Навошта? Так прызвычаіўся? Ці хацеў выглядаць у вачах сваёй спадарожніцы самастойным чалавекам? Дана ад малака адмовілася, і Лёня стаў качаць ваду з калонкі, заліўшы з галавы да пятаў і Дану, і сябе. І потым яны, мокрыя і вясёлыя, ішлі вуліцай і ніяк не маглі спыніць свой дурны і неадольны смех. Такі смех амаль з нічога бывае толькі ў юнацтве і маладосці, потым гэтая здольнасць знікае, і ўжо назаўсёды. Ці не ва ўсіх?

І адбылося — свята? Дзіва? Будзённым днём. На звычайнай вуліцы пасёлка Бярозаўка. Крыху адстаўшы ад Даны, Лёня недзе сарваў ружу-шыпшыну і паднёс ёй. Ад нечаканасці і радасці, яшчэ немаведама ад чаго Дана залілася чырванню, мабыць, да пятаў. Гэта быў не букет, не кветкі з нагоды... Была адна пунсовая ружа. Як знак. Як сімвал. Першая кветка, паднесеная.. рыцарам? кавалерам? Знак чаго? Будучага? Знак прадчування?

«Кругом шиповник алый цвел, стояли темных лип аллеи...» Калі пазней Дана прачытала гэтыя радкі, яна згадала той гарачы ліпеньскі дзень, ружу і іх — пасярод шараговага рабочага пасёлка, дзе не было ліпавых прысад. Не было нейкага знаку з нябёсаў — мабыць, Анёл у цені сваіх крылаў палічыў непатрэбным сваё ўмяшанне. Але цвіла шыпшына, і густа пахла хваіной...

А ўвечары дзяўчаты, што перайшлі ў дзявяты клас (Дана была за іх на клас маладзейшая), спявалі нейкую трывожна-незнаёмую песню: «Гвоздики алые, багряно-пряные, вчера их вечером дала мне ты, а ночью снились мне сны небывалые, мне снились алые цветы любви...» А далей было нешта зусім таемнае і недазволенае (?). Дана ўжо прачытала «Рамэо і Джульету», але іх чатырнаццаць гадоў не суадносіла са сваімі чатырнаццаццю. І ёй выдавала нечым надзвычай далёкім, і таямнічым, і прыцягальным гэтае: «Мне снилось, будто бы она, уста-

лая, склонила голову на грудь мою. И эту девушку с глазами синими, с глазами нежными с тех пор люблю». Гэта было яшчэ недзе далёка наперадзе і дражніла будучай трывогай і нечым недасягальна таямнічым.

Пакуль жа яны, падзяліўшы клас, дзе спалі, партамі, перакідваліся з той палавінай, на якой былі хлопцы, падушкамі і незабыўнымі тапкамі-гумоўкамі, смяяліся да хрыпаты, а потым паснулі на гімнастычных матах. І Дане трызніліся ў сне нейкія дзіўныя кветкі. Гваздзікоў яна яшчэ ніколі не бачыла нават на малюнку, не, бачыла ў фільме «Петэр» белыя гваздзікі ў пятлічцы, але тыя, з песні, «багряно-пряные», то было нешта зусім іншае, і Дана бачыла ў сне нейкі гібрыд шыпшыны, ружы і півоні. Такога відавочнага крыміналу, як «склонила голову на грудь мою», Дана не ўяўляла сабе ні наяве, ні нават у сне — яна ж не Бекі Тэчар, што цалавалася ў дванаццаць (?) гадоў з Томам Соерам. Аднак у яе сне, акрамя дзівосных кветак, яна бачыла Лёню Латуна... Ён быў дарослы, у нейкім прыгожым адзетку, і качаў ёй ваду з калонкі. І лілася вада — блакітная, празрыстая, чыстая-чыстая... І Дана ўсё хацела ўхапіць ваду ў прыгаршчы і напіцца, а вада лілася з рук...

Колькі вады той пралілося міма рук Даны...

Ну, а ў тым далёкім часе ў Бярозаўцы раніцой Ніна Мікалаеўна пайшла па машыну. Ці то тэлефанаваць, ці то дамаўляцца. А яны спявалі, што душы заўгодна: «Па вуліцах кіруе вясёлае звяно...», «Ой, цвіце каліна», «У краіне далёкай Поўдня...»

Песенькі мелі поспех, але публіка стала нервавацца. У Лёні, у адзінага, быў наручны гадзіннік. І гадзіннік ягоны сведчыў, што сышла Ніна Мікалаеўна а дзявятай гадзіне, а зараз ужо тры гадзіны апоўдні. Ніну Мікалаеўну не тое каб не любілі, аднак любові да яе не адчувалі. Вечныя недазволы, кволасць, панурасць, вечнае бурчэнне — цэлыя два дні. А тут на табе — сышла, і духу не чуваць. Дэмакратычна — не аднагалосна, але большасцю галасоў вырашылі ісці з Бярозаўкі пешшу. Нейкія дваццаць кіламетраў. Засталося некалькі чала-

век. Астатнія — вырушылі. На чале з Лёнем. Безумоўна, у праходку кінулася і Дана.

Кіламетраў праз дзесяць іх дагнала машына. Можна сабе ўявіць, як нервавалася з-за іх, урвісаў, Ніна Мікалаеўна. Калі б што здарылася! У летні лагер, і, зразумела, у паход, выпраўляліся «дзеткі». Бацькі іх не парушалі незанатаваных нідзе законаў. Пуцёўкі — маламаёмасным, дзецям загінуўшых, дзецям інвалідаў. Свае дзеці — абыдуцца. Ці былі бацькі ва ўсім такія справядлівыя, хто іх ведае, ажно тут ніхто ім пальцам не змог бы тыцнуць. То з Бярозаўкі вырушылі «дзеткі» партсакратароў, старшыні райвыканкама, кампалка, ваенкама, нейкіх дырэктараў, нейкіх начальнікаў...

Ніна Мікалаеўна была абураная. Паводзінамі Лёні Латуна і Даны асабліва. І мела рацыю. Яна ім давярала. Даверыла...

Дана і адчувала за сабой правіну, і не. Занадта ж быў казытліва прывабны водар прыгоды, сапраўднай прыгоды, каб пазбыцца яе. Ну, якое ж вандраванне без неспадзеўкі! Да таго ж пасля паходу Дане сталі званіць. Увогуле ўдзельнікі паходу далі працы мясцовай тэлефоннай станцыі. Тэлефон на кватэрах у горадзе быў мала ў каго, але ва ўдзельнікаў паходу быў ва ўсіх. І акрамя ўражанняў ад першага паходу дадаўся клопат пра падарожжа будучае.

А людзі, што прыходзілі на замак, бачылі там хлопца з артылерыйскім біноклем. Гэта быў Лёня. Ён глядзеў на ваколіцы. І на дом Азарэвічаў. На Данчын балкон. Амаль як у п’есах «плашча і шпагі».

У Слонім і Гродна з імі паехала дзяўчына з райкама. Маладая, здаровая, вясёлая. «Дзеці», — гаварыла яна. І яны не крыўдавалі. Ім падабалася бадзёрасць Кацярыны Васільеўны, яе чорны бант на тоўстай касе, яе нястомленасць жыццём. Усе яны былі па-юначы жорсткія і па-юначы наіўныя. Дзеці...

У Слоніме хадзілі на фабрыку кардону «Альбярцін», дзіваваліся на вербы над Шчарай, у цягніку «шпацыравалі» па паліцах вагона, не спускаючыся на падлогу — у трэцім

ярусе гэта было вельмі зручна рабіць. А іх, старэйшых і вышэйшых ростам, запхнулі на трэцюю паліцу: білеты былі купленыя дзіцячыя.

У Гародні, ашалеўшы ад грому на тонкасуконнай фабрыцы і смуроду на тытунёвай, Дана зразумела — не, яна ні ў якую індустрыю не пойдзе. Ніколі. Затое з'явілася яшчэ адна спакуса. Не тое каб мара ці там больш пэўны намер. Але — гульня ў гульню.

**ШПАГА СІРАНО**

Пачалося гэта ў горадзе Гродне. Ці, мабыць, у гульнях — раней. Але тады, у паходзе, яны пабачылі горад над стромай гарой. Віраваў пад гарой Нёман, а ў горадзе былі каналы, масткі над імі, паркі і дамы, усе апавітыя хмелем і дзікім вінаградам. На ўсё жыццё ён застаўся адным з самых любімых гарадоў Даны. Не малы і не вялікі, утульны і зялёны. Чысцюткі і дагледжаны. Прыгожы.

За адным з каналаў ці то прытокаў Нёмана месціўся старасвецкі белы дом. У ім было мноства драўляных крэслаў і — таямнічае збудаванне: сцэна. З сапраўднай заслонай. І сапраўднымі акцёрамі.

Тэатр...

Прынамсі, тутэйшая трупа недзе давала спектаклі, была на гастролях. Слова якое! А тут — зноў жа — гастралявалі Алісава і Марцінсон. Зімою Дана бачыла іх у «Беспасажніцы». У кіно. Безумоўна, Дана лепш зірнула б на Кторава–Парватава. Злодзей, але... Ну, аднак, Бог з ім, з Кторавым. Ад саміх гэтых словаў — спектакль, гастролі, заслона — патыхала нечым незвычайным. Нібыта яна, Дана, наблізілася ну, скажам, да цудадзейнай чары... Граля? Не, мабыць, чары, у якую ўлілі напой, дзе размяшалі дзіўную рэальнасць, падобную і не падобную да той, дзе існавала Дана.

І вось адтуль, з той рэальнасці, выходзіла актрыса Алісава і вяла рэчытатывам: «Мне говорил он...», «Но... не любил он...» Фільм «Беспасажніца» не так каб вельмі спадабаўся Дане, яна не разумела, чаго было паміраць па Парватаве. Як не разумела на тую пару безвыход-

най самоты чэхаўскіх сясцёр: «У Маскву! У Маскву!» А чаго ж не паехаць? Вось Д'Артаньян — тут усё зразумела, схацеў у Парыж, сеў на каня, ды і рушыў! Хаця і канёк быў нягеглы, і экіпіроўка тандэтная, і грошай — з антонаву слязу. А тут ужо і цягнікі хадзілі, у часы Чэхава. І былі сёстры Прозаравы не бяднейшыя за знакамітага гасконца.

І Гражына — тут таксама ўсё было зразумела. Крыху пазней Дана далучыла да яе яшчэ Ларысу Рэйснер. Паэтка, камісар волжскай флатыліі, журналіст, жанчына-легенда...

Пазней Дана і зразумела, і спазнала і драму Прозаравых, і кола дзён і рэзрух душы Ларысы Агудалавай, але недзе ў душы засталіся старыя сімпатыі да Гражыны, Ларысы Рэйснер, несмяротнага гасконца.

Тады, у Гродне, яе пачало цікавіць дзейства само па сабе. Гульня, відачынства, «лицедейство». Як падзеі, што нібыта ёсць адбітак жыцця, але і нешта, што вышэй за нормы звычайнага, упарадкаванага і падпарадкаванага жыцця.

Выходзіла акцёрка. Жывая. Не на экране. Жанчына з нейкім сваім жыццём, але і адстароненая ад яго. Маючы повязь з прысутнымі — гледачамі — і адстароненая ад іх. Відовішчам, дзействам, пачуццямі, яе, неад'емным, і чужым. Вось з'яўляецца прыгожая жанчына, у прыгожым адзенні, бярэ ў рукі гітару. Дана ведае, што будзе за гэтым. Але тое не мае значэння. Яна ловіць гукі голасу акцёркі, ёй падабаецца менавіта яе гульня. Дана адчувае, што яна нават не супераажывае, як то бывае, калі яна чытае. Ёй падабаецца сам працэс гульні. Дана не губляе свайго «я» і адчувае тыя «я», што прапануе акцёрка ў сваёй канцэртнай праграме. А Марцінсон яшчэ больш пацвярджае гэту норму выключна сцэнічных паводзін. Ён відавочна пасмейваецца са сваіх герояў. А яго шматлікія прыпадабненні толькі падкрэсліваюць гэта.

І вось яны выходзяць на паклоны. Алісава прымае кветкі. Жанчына. У вэлюме ўсмешак. І ўсё ж не проста жанчына. Яна можа мяняць сваё аблічча. Свой жыц-

цёвы статус. Перажываць чужое жыццё. І жыць чужым жыццём наноў. Яна можа нават паміраць. І жыць зноў. Актрыса! У іх горадзе было толькі кіно. Жывых артыстаў ніхто не бачыў. Прынамсі, тыя, хто вырас там, як яны. І пад уражаннем відовішча назаўтра яны з Нэляй Рабаненка пайшлі гуляць, адмовіўшыся ад экскурсіі ў заапарк. Дана не хацела бачыць жывёл за кратамі, а Нэля прыехала з Масквы і, фыркнуўшы, запярэчыла, што яе ў заапарк вадзілі ледзь не штодня.

Нэля ўвогуле была чалавекам, на якім ляжаў адбітак адметнасці, прыналежнасці да таго, чароўнага, свету. Яна прыехала з Масквы і хадзіла там не толькі ў заапарк, а і ў тэатр. Адзіны Данчын «выезд» у мінскі оперны ў разлік, безумоўна, не браўся. А самае галоўнае, Нэля была знаная школьная прымадонна. Яна ў сапраўдных пуантах рабіла сапраўдныя фуэтэ і іншыя балетныя па. Здараліся і збоі, але на тое ніхто не зважаў: ці то баяніст не трапляў пад рытм сваімі годнымі яе сталічнай пагарды местачковымі вальсамі (во каб Чайкоўскі! — даводзіла сваю правату Нэля), ці то ўсё ж Нэля не ўмела падкіравацца пад пэўныя такты. Аднак так ці інакш Нэля мела не абы-які поспех на школьнай сцэне. Ну, а Дана, не прэтэндуючы на суперніцтва, брала сваё лезгінкай і «Балеро». Чэшскую полечку — «Цыганачка смуглая, смуглая...» — яны танчылі разам, і таксама «зрывалі апладысменты».

І, безумоўна, сталічная «штучка» Нэля надала смеласці і Дане. Калі яны падышлі да будынка тэатра, яна, Нэля, кранула ручку — адчынена. Увайшла. І правінцыялка Дана — за ёю. Нэля — святакрадства! — узлезла на сцэну. Потым села на стул — мабыць, не прыбралі звечара — і пачала спяваць: «Мне говорил он...» Тут Дана ўжо не магла стрываць. Закінуўшы за печку сваю правінцыйную сціпласць, яна ўзбілася на сцэну і выдала ледзь не ўвесь свой наяўны «рэпертуар». Стрымана стагнала раманс Ларысы, выструньвалася пад уласны голас у «Балеро» і нават пачала было арыю Разіны... Але тут, мабыць, цярпенне ў тых, хто слухаў і назіраў,

скончылася, і яны пачалі бурна апладзіраваць. Гэта былі Алісава і Марцінсон. Што рабіў тым часам Анёл у цені сваіх крылаў? Мабыць, ён застаўся апекавацца родным горадам і з далечыні і вышыні сваёй паціху пазіраў, як акцёры выконвалі ролю добразычліўцаў і прыхільнікаў маладога пакалення. У кожным выпадку — яны далі дзяўчатам свае адрасы. І нават узялі ў дзяўчат іх каардынаты.

Дана не чакала лістоў. Хіба жыхары Парнаса — ці якой гэта ў дадзеным выпадку гары? — пішуць лісты смяротным? Сама яна таксама не пісала. Таму што ніколі нікому не навязвала сваю прыязнасць і прыхільнасць. Да таго ж Марцінсон не выдаваў на амплуа ні сацыяльнага героя, ні героя-аманта. Хіба ён мог быць Гамлетам, Карлам Моарам ці Рамэа? Дана тым часам «глытала» Шэкспіра і Шылера — і даравала прынцу дацкаму ягонае «быць альбо не быць». Усё ж урэшце выявілася — быць, быць, быць.

Роля Пячорына таксама не ўваходзіла відавочна ў рэпертуар Марцінсона. Так што можна было спакойна вучыць урокі і думаць пра ўласнае жыццё. Тым больш што жыццё давала такую магчымасць.

У іх з'явіўся новы класны. Матэматык. Падобны да Дружнікава. На першым жа школьным вечары высветлілася, што ў яго выдатны барытон. А на першым жа класным сходзе ён прапанаваў паставіць п'есу. «Белы анёл». Паводле Кальма. На ролю хлопчыка-негра ўсе аднагалосна прапанавалі Дэвіка — парык не патрэбны, у яго кучаравыя валасы. Роля Анжэлы — «белага анёла» — дасталася Дане.

Ідэя п'ескі Кальма была вельмі модная. Тады «на тэатры» праблема расавай сегрэгацыі была ў пашане, як і «расійскае пытанне» — там дзейнічалі добрыя негры і злосныя белыя, былі агенты ФБР, прагрэсіўныя журналісты і двухаблічныя і прыгожыя «міс».

Неграў шэраговыя грамадзяне тады бачылі хіба што ў фільме «Цырк», наконт дзейнасці замежных журналістаў ведалі мала, але казытала ўяўленне сама выява «амеры-

канскага» жыцця, існаванне нейкага іншага свету. Тым больш што паводле п'есы Дане наплойвалі ў локаны валасы, па тым часе — неверагодная вольнасць на фоне прабораў і гладка ўчасаных косаў. Да таго ж Дана–Анжэла апранала матчыну белую блузку са складкамі і сваю ружовую маскарадную спадніцу. І — як Дане здавалася — ператварылася ў капрызлівую, ганарлівую, далёкую дзяўчыну з Амерыкі. І, як умела, «выкрывала», сапраўдную сутнасць «белага анёла».

На рэпетыцыях сам класны паказваў Дэвіку — што, як, да чаго. І гэта было вельмі цікава — калі строгі і, здавалася, скрозь у аксіёмах і тэарэмах, Аляксандр Якаўлевіч бегаў, скакаў, крычаў. І нават прасіў — яе, вучаніцу. Белага анёла з Далёкай Амерыкі. Усё ж калі Аляксандр Якаўлевіч спяваў, ён быў далёка, на сцэне, ва ўладзе тых гукаў, што звычайна чуліся толькі па радыё, а тут ён нібыта сыходзіў з настаўніцкага п'едэстала. Які ўсё ж для Даны быў непарушны. Ці то выхаванне, ці то самі настаўнікі, іх стыль паводзін, іх уменне трымаць дыстанцыю — але для Даны яны заўсёды былі тым, кім былі па сваёй службе. Іх можна было любіць ці не любіць, паважаць ці не паважаць, але ў межах вызначаных канкрэтнымі рэаліямі каардынат. У тым арэоле, які быў любімы, неад'емны, абавязковы — школа. Сярэдняя № 2.

Настаўнікі былі цікавыя і менш цікавыя. Адны заставаліся надоўга ў памяці, іншыя знікалі хутка. Характарыстыку, якую напісала ў чацвёртым класе Дане іх Ганна Цярэнцьеўна, яе вучаніца памятала ўсё жыццё: «Характар прамы, настойлівы, але вельмі крыўдлівы».

І ўсё жыццё помнілася строгая пастава Раісы Навумаўны, яе прыгожы сіні гарнітур. І мяккая ветлівасць Зінаіды Захараўны. І прыкметная постаць Марыі Васілеўны. І ўрокі фізікі Кірыла Міхайлавіча Карчэўскага, дырэктара і яе заступніка перад Філіпенкам.

І — было ўзрушэнне. Яна, не падобная ні на каго.

## МАЛАНКА ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦІ, АБО ІМПЕРАТЫЎ ЦЭЗАРА

«Прыйшоў, пабачыў, перамог». Гэты імператыў Цэзара, як і Гегелева «маланка індывідуальнасці», — стасаваўся да яе — Ніны Рыгораўны.

Яна прыйшла да іх у сёмым класе, разбурыўшы ўсе стэрэатыпы ўяўленняў пра настаўніцу. Стандартызаваны выгляд выкладчыцы быў патрактаваны ў адным са шлягераў тых гадоў: «...с седыми прядками, над школьными тетрадками...» Ну, а калі яшчэ не было сівых косаў, дык цёмны гарнітур ці сукенка — гэта ўжо было нормай, эталонам, адзіна прынятым стылем, добрым тонам.

Ніна Рыгораўна з'явілася ў белай блузе — гэта не пярэчыла завядзёнцы. Але — гвалт над школьна-грамадскім густам! — у ярка-пунсовай спадніцы, шыкоўнай, шырачэзнай, такую спадніцу магла б насіць Кармэн. Як і тыя квяцістыя, стракатыя строі, што пазней апранала выкладчыца рускай мовы і літаратуры. Здаецца, настаўніц рускай літаратуры «за вочы» прыязна клікалі «русалачкамі». Ніна Рыгораўна «русалачкай» не была. Валасы — што смоль, тонкія, нават вытанчаныя рысы твару. Вострыя, жывыя, пранізлівыя вочы. Рухі — рэзкія, нечаканыя. Уся яна — прыгожая. Падкрэслена яркая. Пераможная. Ззяючая.

А ідучы са школы, яны бачылі Ніну Рыгораўну — што сышоўшую з партрэта красуню мінулага стагоддзя. Дане яна здавалася падобнай на партрэт Варанцовай-Дашкавай — быў у першым томе блакітнага чатырохтомнічка Лермантава. Паліто ў талію. Чорны велюравы капялюш-цыліндр. Тая ж непадробна-арыстакратычная пастава, што ў гераіні лермантаўскіх часоў, такая ж — далонямі ахапіць — талія. Тая ж недасяжная яркая краса.

Гэта на фоне настаўніцкіх малавыразных адзеткаў, на фоне іх, вучнёўскіх, шараварчыкаў і пераніцаваных, перашытых, падлатаных сукенак. На гэтым сірочым, шэра-сінім фоне з'явілася Ніна Рыгораўна.

Ці было гэта педагагічна? Ці не было тое выклікам? Адно было пэўна — яна стварыла ў школе атмасферу свята, незвычайнасці, рамантычнай узнёсласці. Артыстызму.

Таму што ўрокі яе былі такімі ж яркімі, святочнымі, як яна сама. Урокі Ніны Рыгораўны былі лекцыямі, канцэртамі. Як пазначылі б напрыканцы стагоддзя — ток-шоу.

Ніна Рыгораўна вяла восьмыя–дзясятыя класы. Іх сёмы, як пэўніла Нэля Рабаненка, Ніна Рыгораўна ўзяла, таму што тут мела гонар вучыцца яна, Нэля, дачка кампалка. Муж Ніны Рыгораўны быў ці то ягоным намеснікам, ці то проста падначаленым. Так ці інакш — Нэля з'ехала з горада напрыканцы другой чвэрці, а Ніна Рыгораўна засталася. У сёмым класе, у восьмым, у дзявятым, у апошнім — дзясятым... Засталася на ўсе школьныя гады. На ўсё жыццё...

А тады ў школе пачалася эпідэмія. Пандэмія нават. Усе дзяўчаты хацелі быць настаўніцамі. Усе рушылі на філфак. Не абышло гэта і Дану. Але пазней яна здрадзіла, скончыўшы яшчэ і факультэт мастацтвазнаўства. І пакінуўшы літаратурныя сцежкі.

Тады, упершыню ўвайшоўшы ў іх клас, першага верасня пяцьдзясят другога года, Ніна Рыгораўна прамовіла, нібыта адчыніла заслону: «Тэма сённяшняга ўрока — біяграфія Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна». Дана пра сябе пазяхнула: «Ну, гэта мы ўжо даўно ведаем». Іранічнае стаўленне Даны мела пад сабой дзве падставы. Першае — ваяўнічае ігнараванне, невуцтва яе трынаццаці гадоў, калі біяграфія ўяўлялася, паводле высноў іх былых настаўнікаў, як некалькі дат, некалькі фактаў з падручніка і некалькі партрэтаў з падручніка і хрэстаматыі. Другое — Дана бачыла новую настаўніцу летам. У абставінах зусім не акадэмічных. Яны з маці зайшлі ў мясную лаўку да Палонскага. Нейкая жанчына прыдзірліва пераварочвала кавалкі мяса. Палонскі цярпліва чакаў — новая кліентка. Потым вельмі лоўка зманіпуліраваў тымі акарачкамі, нешта закінуў пад прылавак, нешта вывалак з-пад яго. «Во, гэта зусім іншае», —

узрадавалася пакупніца. А Палонскі, здаволены, потым пасмейваўся: «Я ж перавярнуў той самы кавалак, які яна дзесяць разоў глядзела». Маці тактоўна змоўчала. Дана ж пра сябе адзначыла — не ўсім даецца навука Луізы Генрыхаўны і Ніны. Хаця сама Дана доўга яшчэ не ўмела адрозніць свініну ад ялавічыны, а кумпячок ад паляндвіцы. На яе скепсіс тое, аднак, не паўплывала. Гэта ж трэба — дарослая жанчына, а не мае такіх неаспрэчных местачковых ведаў.

Так што ў Дане сядзела ўжо, так бы мовіць, саркастычна-іранічная вакцына. Ці, хутчэй, месціўся дзейсны, жывы, атрутны мікроб недаверу. Але ўрок пачаўся — і голас настаўніцы не даваў магчымасці запаўзці глыбока ў сваю шчарупку і думаць зноў жа пра нешта сваё. Асабліва седзячы на першай парце.

Голас чапляўся, знаходзіў Дану, прымушаў слухаць. І Дана не заўважыла, калі і куды падзеўся той мікроб. Яна слухала — пра ліцэй, пра Кюхлю, пра сям'ю Раеўскіх, пра дачку ў Гурзуфе, пра Адэсу, пра губернатара Варанцова, пра сустрэчу з Міцкевічам, пра...

Я жил тогда в Одессе пыльной...
Там долго ясны небеса,
Там хлопотливо торг обильный
Свои подъемлет паруса;
Там всё Европой дышит, веет.
Всё блещет югом и пестреет
Разнообразностью живой.

Ніна Рыгораўна цытавала і цытавала. Па памяці. Пазней Дана зразумела — настаўніцы, мабыць, быў асабліва блізкі позні Пушкін. Увогуле — больш эпічна-іранічны бок яго таленту, яго натуры. Калі яны праходзілі «Яўгена Анегіна», Ніна Рыгораўна ледзь не ўвесь раман у вершах цытавала па памяці. Прымушала вучыць іх. Усе, нават тыя, хто далей трояка па літаратуры не сунуўся, маглі «шыкануць» страфамі са знакамітага твора. І прачытаць па памяці не толькі:

Мой дядя самых честных правил,
Когда не в шутку занемог,
Он уважать себя заставил
И лучше выдумать не мог...

Але і тое, што запомнілася тады, а зразумелася пазней:

Но я плоды своих мечтаний
И гармонических затей
Читаю только старой няне...

У школе з'явіўся драматычны гурток. Першыя займелі поспех і ўлаўраваліся мясцовым прызнаннем дзесяцікласнікі. Яны ставілі «Юбілей» і «Мядзведзя» Чэхава. І шалёныя апладысменты здабылі Мая Гадзіён і Рая Гіліна. Яны, з сёмага «Б», глядзелі. Смяяліся. Пляскалі ў далоні да болю.

Потым нейкі час увагу забраў струнны аркестр, спевы Воўкі Сяліцкага з дзявятага і чачотка Толіка Сафіенкі. Струнны граў усё — ад «Касіў Ясь канюшыну» да папуры з балетаў Чайкоўскага. Сяліцкі, праігнараваўшы рэпертуар усіх модных айчынных спевакоў, ад Уцёсава да Бунчыкава, прасвяціў публіку амерыканскім кантры і песенькамі Джо Хіла: «Однажды забастовку объявили мы опять, лишь Кейзи-машинист один решил не бастовать...» Асабліва падабаўся ўсім прыпеў: «Кейзи Джон — отправился на небо, Кейзи Джон — работает в аду, Кейзи Джон — как будто здесь и не был. Вот и просит всех штрейкбрехеров иметь в виду». Публіка не заўважала відавочнай неадпаведнасці знаходжання Кейзі Джона і месцазнаходжання пекла: ну, якія ж нябёсы? Падабаўся лёгкі рытм музыкі, тое, што штрэйкбрэхер, значыцца адступнік справядліва пакараны. Нечаканы быў і сам герой, зусім нетутэйшы, і такія дзействы, як забастоўка, слухачы тут жа высветлілі, што па-англійску гэта — страйк.

Лаўры Сяліцкага ніхто не аспрэчваў. Ягоны «барматок» набываў ледзь не класічную важкасць. У Аляксандра

Якаўлевіча быў зусім іншы, сур'ёзны, класічны рэпертуар, голас, якога ніколі і блізка не меў Воўка. Але — ён быў настаўнік. Яму было наканавана весці рэй. І тое, што спяваў матэматык, можна было пачуць па радыё, Воўкавы песні па радыё тады не спявалі. Прынамсі, па тым, што транслíравалі на адной шостай зямной кулі.

Забранзавець шансанье СШ № 2 не паспеў. На першамайскае свята ён з хлопцамі, праходзячы ў калоне дэманстрантаў, каля самай трыбуны, дзе стаяў, падобна, і яго родны бацька, вылузнуўся з «адзінага парыву», у якім належала пафасна знаходзіцца савецкім школьнікам, разам з астатнімі грамадзянамі, і грымнуў: «Шла корова на свиданье ночью, чтобы милого узреть воочью, от любви сердечко часто билось и немного голова кружилась...» Хлопцаў хуценька заглушылі ваенным аркестрам і грамавым «ура».

Са школы Воўку не выключылі. І білет камсамольскі застаўся пры ім. Аднак — ці то з гэтай прычыны, ці з іншай — бацьку перакінулі ў другі раён. І які працяг мела кар'ера славутага спевака СШ № 2, ніхто не ведаў.

Сафіенка па-ранейшаму адбіваў чачотку, якую пачаў раптам называць прыгожа-незнаёмым словам «стэп». Па-ранейшаму граў струнны. Часам спяваў Аляксандр Якаўлевіч. «Прымадонны» ж драматычнай сцэны з'ехалі ў інстытуты, і нейкі час драмгурток апынуўся ў цені. Аднак узнікла ідэя ставіць «Выбачайце, калі ласка!» Андрэя Макаёнка. А пакуль — дзеля «размінкі»: сцэну з няняй — ліст Таццяны і сцэну сустрэчы свецкай Таццяны з Анегіным, з «Яўгена Анегіна». На ролю Таццяны было ажно тры прэтэндэнткі. Аля Вахрамава, Роза Ельмановіч і Дана. У Даны было мала надзеі. Аля і Роза — такая фактура! Аля — колер твару: што табе пялёсткі ружы, нясцерпны блакіт вачэй з павалокай, косы — нібыта з любчанскага льну. Роза — гэта як быццам з яе маляваў паручнік Лермантаў свае абрысы да «Яўрэйскіх мелодый». Затое ў Даны былі, так бы мовіць, ідэнтыфікацыі вобраза: «Тиха, печальна, молчалива...», «Ей рано нравились романы и Ричардсона, и Руссо». Русо і Рычардсона

ў іх бібліятэках, праўда, не было, затое Дана толькі што «праглынула» трынаццаць тамоў Бальзака і раманы Драйзера, мажа, яны, а магчыма, чытаныя раней Талстой і Тургенеў неяк паспрыялі: Дана прайшла на ролю Таццяны. Ды і, мусіць, Анёл у цені сваіх крылаў быў не супраць.

Таццяна Дане падабалася. Не тое, што Наташа Растова — то памірала ад кахання да князя Андрэя (гэта Дана разумела), то была гатовая бегчы з урвісам Курагіным, урэшце пайшла замуж за медзведзяватага П'ера і лётала цэлы дзень у халаце. А Таццяна свайго гонару дабрала. «Кто там в малиновом берете с послом испанским говорит?», «Вы должны, я вас прошу, меня оставить...», «Как с вашим сердцем и умом быть чувства мелкого рабом?», «Онегин, помните ль тот час, когда в саду, в аллее нас судьба свела, и так смиренно урок ваш выслушала я? Сегодня очередь моя».

Дарослай Дана займела сімпатыі да Джуліі Ламберт, з яе, «пад заслону», трыумфам і фатальна-пераможным: «Што такое каханне ў параўнанні з біфштэксам?» Нават перапакутаваўшы, абавязкова трэба атрымаць перамогу над сабой. Перамагчы сябе. Дана не любіла і не разумела пажыццёвых пакутніц цвейгаўскага кшталту. А Моэм — тут ён Дане падабаўся. Займець моц паўстаць з попелу. Птушка Фенікс... Найвышэйшая мудрасць.

А яшчэ Дане былі вельмі блізкія Таццяніны высновы: «...отдать я рада вот эту ветошь маскарада, весь этот блеск, и шум, и чад за полку книг, за дикий сад, за наше бедное жилище...» Дана таксама, насуперак вызначэнням Хрысціны, аддавала перавагу — паліцы кніг, ціхаму саду і самоце. Не тое каб былі нечуваныя магчымасці «свецкага» жыцця, але Дана не імкнулася і да падробак пад той «маскарад». Марнасць марнасцяў.

На тую ж пару «маскарад» яшчэ не страціў для Даны і яе сяброў сваёй вабнасці ні ў прамым, ні ў пераносным сэнсе. Выяву балю вырашылі, аднак, адпрэчыць. Сцэна малая, а да таго ж усе дзяўчаты кінуліся было майстраваць строі — і фіранкам у хатах удзельніц дзейства па-

гражала метамарфоза, хуткая і непапраўная, пра што з лямантам паведамілі занепакоеныя маці. Пакуль, «для разгону», прыпыніліся на сцэнах з няней і Анегіным. Дана была засмучаная — не ўдасца дзедавы «практыкумы» здзейсніць: «бялы мазур»...

Дану «экіпіравала» Ніна Рыгораўна, адшкадаваўшы на спектакль свой адзетак з нябачанага тады трыкатажу — чорная, вузкая, доўгая сукенка з паласой з белых ромбаў наперадзе, а тыя сакральныя словы: «Сегодня очередь моя» — Дана прамаўляла ў нейкіх ружовых з белым строях і ў карункавай шалі, якую недзе пазычыла для яе пані Магда.

Калі дома, перад генеральнай рэпетыцыяй, Дана прыкінула перад люстрам строі Ніны Рыгораўны, яна пашкадавала, што Лёня Латун з'ехаў з іх горада, і не будзе на прадстаўленні.

Ці магла б яна, Дана, напісаць такі ліст? Напісаць — мабыць. Перадаць адрасату? Наўрад. Тут ёй хутчэй была блізкай, так бы мовіць, лінія паводзін Сірано... Хаця пятнаццаць гадоў — бясконцасць з пункту погляду яе чатырнаццаці — ці не занадта доўгі тэрмін для гэтай гульні пачуццяў і высакародства? Ну, але пытанне можна было пакідаць рытарычным, адрасата ў блізкай прасторы не было, і Дана магла вольна інтэрпрэтаваць толькі і выключна сцэнічны вобраз. Не абапіраючыся на ўласны вопыт. Выдатны момант. Але гэта Дана зразумела пазней.

На спектакль сабраліся ўсе класы, прыйшлі бацькі, суседзі. «Не спится, няня, здесь так душно», — пачынала Дана. І гаварыла з няняй — Розай. І чытала ліст Таццяны. І адчувала годны і спакойны рэванш Таццяны, той, якую прыкмеціў на балі Анегін: «Кто там в малиновом берете с послом испанским говорит?» «Сегодня очередь моя», — Дана вяла гэты маналог з асаблівым настроем: справядлівасць перамагла. І быў нават поспех. Аднаразовы. Прэм'ерны. Школьна-хатні.

Затое найвялікшы досціп яны мелі са спектаклем «Выбачайце, калі ласка». Паводле Макаёнка. Тэлевізараў яшчэ не было, п'еса — сучасная, і на той момант вострая.

То яны аб’ездзілі з пастаноўкай увесь раён. Ільвіную долю поспеху даваў Толя Дзёмін — Моцкін. Дзе што браў гэты хлопец? Тэатра ж яны не бачылі. Ажно трэба было глядзець, як асцярожненька, пакрадкі ўваходзіў Лёня–Моцкін. Як ён цалаваў ручку жонцы Каліберава — Дане. Як гаварыў ён — абвяшчаў, даваў знак сваёй сувязі ў жыцці — з усім і ўсімі, хто быў патрэбны. «У мяне ў Мінску ёсць адзін знаёмы доктар, дацэнт...» Гэта гучала так, нібыта ён пазначаў свае блізкія стасункі не менш як са спадчынным прынцам або з цэлай плоймай міністраў. І ўвесь час Лёня трымаў інтанацыі гэткага местачковага Макіявелі, спадчынніка Шатабрыяна і Мірабо разам узятых. Ледзь улоўны акцэнт, мітусліва-акруглыя жэсты, упэўненасць у сваёй незаўважнай уладзе над людзьмі.

Дана таксама як магла, вяла сваю «характарную» ролю. Падавала яе каскадна, канцэртна, і вельмі любіла сцэны з Моцкіным.

Партнёр!

Тады, між іншым, Ніна Рыгораўна неяк прамовіла: «Няма чаго ісці ў пецінстытут ці ўніверсітэт. Сядзець над сшыткамі. Трэба ісці ў тэатральны». Ніна Рыгораўна, Алісава, Марцінсон... Поспех у тутэйшай публікі. Але маці скептычна пазначыла: «Не прафесія. А галоўнае, ніякай свабоды выбару. Не дадуць ролі, усё жыццё будзеш актрысай мімансу. Каронная роля — «Кушать подано».

Матчыны меркаванні пераконвалі. І — паліцы з кнігамі, цішыня, не, гэта куды як больш прывабна. І — воля. Ты не залежыш ад гэтага шматгаловага і зменнанастраёвага натоўпу: публікі. Хаця — які салодкі падман: бурныя апладысменты. І выхады на «біс». Асабліва калі ад гэтага нічога ў тваім жыцці не залежыць.

Неспазнаны шал дылетантызму, аматарства. Любіцельскі спектакль — ад слова «любоў»? А прафесіяналізм — гэта відачынства, «лицедейство», кожнадзённы прымус. Гульня — розуму, пачуццяў, не проста ўчынкі, а ўсведамленне іх, не рэчы, а канцэпцыі рэчаў. І — залежнасць, залежнасць ад волі рэжысёра, ад сваіх партнёраў,

ад настрою публікі, ад уласнага настрою, які абавязкова павінны падпарадкоўвацца сённяшняй сцэнічнай падзеі, задуме аўтара п'есы, таму, што чакаюць ад цябе людзі па той бок рампы.

Дана пайшла ў тэатральна-мастацкі інстытут, але скончыўшы філфак, і не на акцёрскі, а на мастацтвазнаўчы факультэт.

Але і школа, і Ніна Рыгораўна засталіся як частка таго далёкага, даўняга святла, якое свеціць доўга... Пакуль жывеш...

...Да Ніны Рыгораўны яна ішла заўсёды, прыязджаючы ў горад. Хаця ўжо далёка былі і школьныя гады. І драмгурток. І нават тая гісторыя, што дала мясцовым пляткарам нагоду доўга языкамі абмывацца. Ніна Рыгораўна стала жонкай Аляксандра Якаўлевіча. Скасаваўшы шлюб з падначаленым бацькі Нэлі Рабаненка. Дана на тую пару не давала сабе смеласці абвяргаць паводзіны настаўнікаў. Пазней прызвычаілася да староннягa стаўлення да асабістага жыцця іншых. Кожны жыве, як яму выпадае.

Да сваіх настаўнікаў яна прыходзіла заўсёды, прыязджаючы ў свой горад. Везучы даступныя ёй прысмакі: часам карабок цукерак, часам — марцыпаны, часам — «Птушынае малако». За адным была прычына ці нагода пасмяяцца: «Выключна марцыпаны ўжываем». «З французскім каньяком», — у доме настаўнікаў таксама даставалі запаветныя прыпасы. Дана каньяк не ўжывала ўвогуле і не магла даць таму належнай увагі, але прыемны быў сам факт. Яна прыходзіла да людзей, што былі, прысутнічалі ва ўсе «эпохі» яе жыцця як напамін пра мінулае, як згадка пра даўняе, як сустрэча з людзьмі, якія памятаюць яе ў вяснова-цнатлівую пару, урэшце — яны: ёсць — як нейкі існуючы ці прымыслены этычны і эстэтычны эталон. Эталон з невымоўнай пячаткай яе горада і яе юнацтва. Мабыць, і яна была для іх і адна з чародкі іх выпускнікоў, і адна з іх рамантычных гадоў, тых гадоў, калі школа ў горадзе была асяродкам жыцця культурнага, была тэатрам, клубам, месцам, вакол якога гуртавалася нешта значнае і асвечанае традыцыяй,

звычаямі, нейкімі атавістычнымі рэфлексіямі і перспектывай, што вядзе ў жыццё. У такіх гарадках, як яе, гэтая перспектыва відаць асабліва ясна — далягляды не зніклі за заслонай тупа падобных карабкоў. А класічна вызначаныя гістарычна-літаратурныя рэтраспекцыі надаюць сустрэчам асаблівы імпэт і нейкую пазачасавую эстэтыку.

Да гэтай вызначанай, з пэўна паўторанымі інтэрваламі хронікі адносін дастачылася нешта з хаосу фактаў, гвалту рэальнасці. Ніна Рыгораўна захварэла і апынулася ў адным з будынкаў сасновага бору пад Мінскам, дзе было мала надзей і яшчэ менш ілюзій. І Дана ездзіла ў лютаўскую завіруху ў той бор і прыязджала з адчуваннем, што не толькі пах гэтай установы, а і дух яе працяў кожную клетачку яе істоты. І, як некалі была зачараваная віртуозным артыстызмам натуры сваёй настаўніцы, так зараз нямела ад таленту яе мужнасці. Дана спрабавала дабрацца да таго акенца, праз якое Ніне Рыгораўне давалі наедак, калі тая ляжала «на золаце». Так звалася працэдура пасля абпраменьвання — анкалагічныя хворыя глыталі нейкую дозу золата: здаецца, так. Дану завярнулі з паўдарогі два мажныя мужчыны — проста выкурылі яе адтуль, «пад белыя ручкі» вывелі. Ці то анколагі, ці то санітары, ці то службоўцы шпітальнага морга. А Дана доўга не магла ачомацца ад таго асветлена-сляпога пераходу — нейкая бясколерная, застыглая, няўцешна-роспачная замкнёнасць. І недзе там, у гэтых катакомбах — яе настаўніца. Адна. Дана не баялася вышыні, але відавочна адчувала ў сабе боязь замкнёнай прасторы. Клаўстрафобія яе была не вельмі заўважнай, але Дана імкнулася не дражніць лёс.

А Ніна Рыгораўна прайшла праз усе пакуты і нейкі час, здавалася, была такой, як некалі. Прыгожай, энергічнай, элегантнай. Вострай на вока і на язык. Прыязджала чытаць лекцыі на курсы падрыхтоўкі настаўнікаў — чаравала, царавала, вяла рэй. Выдавала кніжкі-практыкумы. Змагалася як магла апошнія гады, нясцерпна пакутуючы, працягваючы свой нялёгкі зямны шлях. І ён, класны Даны, прайшоў гэты шлях побач з ёю. Прыняўшы сваю долю пакут.

Калі развіталіся з Нінай Рыгораўнай, па ім было відаць, якія цяжкія, скрушныя гэтыя гады былі і для яго...

А быў той дзень негарачы, раздумліва-цёплы. Летні. Праводзіў яе ўвесь горад. Прыехаўшы знарок і трапіўшы незнарок — былыя вучні. Да самага месца на пагорку, пад раскідзістым дубам. Прыгожае месца... Нейкая эстэтычная завершанасць пражытага жыцця.

Апусцілася заслона яе жыццёвай драмы. І тыя, хто праводзіў яе, не меркавалі пра іншабыццё, пра каноны і дагматы, што звычайна суправаджаюць такія падзеі. Яны, былыя вучні, пасля памінак рушылі на замак. І не было мутасветнага адчування страты. Было дачыненне да нечага трансцэндэнтнага і неабходна звычайнага адначасова. І яшчэ вось тое чуццё нармальнага сыходу з жыцця. Адрабіўшы, адпакутаваўшы, выгадаваўшы дзяцей, даўшы веды некалькім пакаленням. І нават гэты апошні шлях прайшоўшы такім лагодным днём, адышоўшы натуральна, прыстойна. Як мае быць чалавеку. Пазней гэта думка часта закрадвалася ў свядомасць Даны, калі яна бачыла бессэнсоўныя, гвалтоўныя канцы жыцця — пакуль па тэлебачанні: забойствы, землятрусы, паводкі, жах «звычайнай» смерці на вайне.

Пра гэта не думалася тады, але гэта было ў свядомасці — ці падсвядомасці? — кожнага. І кожны меў на памяці яе, Ніну Рыгораўну, як святочны падарунак жыцця. І яе адыход — як нечаканы і непаўторны выпадак сысціся разам — тым, хто заканчваў школу трыццаць, дваццаць, дзесяць гадоў назад. І ва ўсіх было гэта агульнае — настаўніца, настаўнікі, школа, іх горад. Адзіны корань, тое, што заўсёды будзе з імі, што іх лучыць, што з імі пажыццёва.

Яны, не дамаўляючыся, нібыта выпадкова, праходкай, прыйшлі на пагорак па-над іх школай, насупраць Барысаглебскай царквы. Тут некалі жыла Дзіна Бабак, цяпер Дыяна Чаркасава. І колішняя яе суседка, пазнаўшы Дзіну і прызнаўшы астатніх, прынесла вяндліну, яйкі, каву, самавар і той бессмяротны народны напой, што ў такіх выпадках ставяць на стол. Потым падбег былы

піянер Даны, Коля. Некалі Дана, васьмікласніца, была піянерважатай у сёмым, і быў у іх сярод іншых мерапрыемстваў «эпахальны» выпуск насценгазеты. У галалёд, што на іх горках рабіўся проста стыхійным бедствам, яна прыйшла, да вялікага здзіўлення сваіх «апекаванцаў» — а так надарылася, што ў класе былі адны хлопцы. Гэты ўчынак Даны быў роўны немаведама якой сістэме довадаў наконт яе «аўтэнтычнасці» сваёй грамадскай ролі.

Туды, на горку па-над школай, у дзень праводзін Ніны Рыгораўны, прыйшлі з імі і сын колішняга абаронцы Даны, дырэктара Карчэўскага, і Дэвік, які стаўся шанаваным рэнтгенолагам, слынным у горадзе спецыялістам. І яшчэ — малазнаёмыя — але таксама былыя вучні Ніны Рыгораўны.

І перад імі быў горад у познечэрвеньскай зеляніне. І яны ўсе разумелі, што вось так яны больш ніколі не сустрэнуцца. І не будзе нечаканага і крыху дзіўнага застолля знаёмых і амаль знаёмых людзей, якіх звязваюць гэтае сённяшняе развітанне, іх юнацтва, іх горад. Гэта першы і апошні раз. І ў тым быў свой, асаблівы сэнс. І ніхто не вёў гаворку — штучную і непатрэбную — пра тое, што вось, маўляў, трэба сустракацца, трэба памятаць... Кожны будзе прыязджаць — але асобна, і ў кожнага будзе свая памяць, таксама асобная. Нішто не паўтараецца. Нават вось гэтае судатыкненне з далёкай рэальнасцю — юнацтвам. І дотык лёгкі, хвілінны, амаль што ірэальны. Хаця ўсе атрыбуты прасторы, у якой пракінулася нітка з тых часоў у гэты дзень — тут. Рэшткі абарончай вежы, дамы вуліцы Замкавай, царква, іх СШ № 2. Не проста антураж: ахоўная прастора, дзе ўсё — сваё, усе — свае. І чар выпадку — у ахоўнай прасторы. Гэта не традыцыйны збор, дзе кожны павінны трымаць справаздачу: хто ён, чаго дасягнуў, дзе жыве. Гэта хвіліны сярод іх штогадовай будзённасці. Не свята, не правадзейная сустрэча... Хвіліны, у якіх не было пачатку, не будзе працягу. На нейкі час яны, занятыя, дарослыя людзі, апынуліся на ўзбочыне быцця, у аўце пазначаных неабходнасцю па-

дзей і ўчынкаў. Было ўтульна і добра на гэтай узбочыне. На ўскрайку Сусвету і на ўласнай зямлі. Нібыта па-за гістарычным часам, і ў пэўна пазначаным часе. Вось з той самай прывілеяй — канкрэтыкай сувязі часоў і адасобленасцю імгненняў. Усе яны хадзілі па тых самых вуліцах, тых самых шляхах. Але кожны сваёй парой. Сваім часам. І ў кожнага быў свой час душы. Свае хвіліны шчасця. А «шчасце можна знайсці толькі на пракладзеных сцежках». Здаецца, Шатабрыян?

А на тыя «пракладзеныя сцежкі» Дана вярталася зноў і зноў. Зноў — з навагрудцамі, з той самай школы № 2. На ўгодкі яе школьнага выпуску. І зноў была школа. І вадзіла былых вучняў сённяшні дырэктар школы з такім знаёма-выразным прозвішчам — Еўтушэнка, прыгожая, класічна строгая жанчына — Ірына Міхайлаўна: у школьны музей, у толькі што адрамантаваныя класы і кабінеты. Было 20-е жніўня, школа чакала вучняў, усё зіхацела і ззяла. Адчувалася — яна ў надзейных руках.

А потым ішлі яны, як некалі ў школьныя гады, — на замкавую гару, на пагорак Адама Міцкевіча... Ехалі скрушным шляхам — пакланіцца Ніне Рыгораўне, любімай настаўніцы. Ускладвалі кветкі да яе магілы пад раскідзістым дубам у Градзілоўцы.

І збіраліся ў Аляксандра Якаўлевіча, над якім, здаецца, гады не маюць аніякай улады і голас якога гучыць, як некалі, на школьнай сцэне. Але цяпер кожны свядома ўяўляў: ім пашанцавала, неверагодна пашанцавала — з якой непадробна яркай індывідуальнасцю давялося сустрэцца на пачатку жыцця: высокі інтэлект, густ, талент. Талент Чалавека, Настаўніка, Матэматыка, Спевака.

І кожны трымаў справаздачу. Толя Масловіч — той самы незаменны член футбольнай каманды, на гульню якога беглі бегам глядзець хлопцы. (Не кажучы пра дзяўчат.) Такі ж прыгожы, спартыўны, з густам апрануты, — малады, нібыта і не мінулася столькі гадоў... За якія ён паспеў многае — узначальваў канструктарскае бюро аднаго з найбуйнейшых прадпрыемстваў краіны, якое заўсёды называлі як сімвал, знак Рэспублікі Беларусь. Пражыў шчаслівае жыццё з каханай жанчынай і, падоб-

на, не страціў памяці пачуццяў, калі яна пакінула гэтую зямлю. Усю сваю ўвагу аддаўшы дачцэ і ўнуку.

І можна было радасна дзівіцца юнай энергіі — хоць ты зноў стаў іх да валейбольнай сеткі — інжынера Дзіны Драздовай і акушэра Люсі Паўлоўскай, рукі якой прынялі ці не добрую палову маладога насельніцтва горада. А спявалі яны — нібыта каля вогнішча ў паходзе: звонка, ясна, бадзёра. Ну, не інакш — хоць ты выпраўляй іх на якія найноўшыя выпрабаванні, а Дзіну яшчэ і на спаборніцтвы экстрэмалаў: яна хвацка вадзіла матацыкл.

А якую жыццёвую раўнавагу набыла Вера Кветка — гаспадыня, уладальніца хутара з немалым набыткам! Спакойная, упэўненая — усё жыццё займаецца неабходнай справай — і калі рабіла ў гандлі, і цяпер, на гаспадарцы...

Як і Ліда Дук (Дана ўсіх неяк згадвала па дзявочых прозвішчах), урач-педыятр. Мяккая, мілая, з лагоднай усмешкай — дзецям, мабыць, рабілася лягчэй ад адной гэтай усмешкі. Моцная, мужная... Перанесла цяжкія страты... Пахавала мужа — то жыццё... Але і сына — што можа быць горш...

У той бядзе ёй дапамагла выстаяць яе сястра Святлана. Яна таксама была тут. Яна з другога выпуску, але пра тое — асобая гаворка. Рамансы яна спявала хораша, з той пяшчотнай немітуслівай светлатой, што, мабыць, ішла ад існасці яе імя...

А ў гэтую пяшчоту ўварвалася трывожная споведзь пошуку сутнасці жыцця Люды Старавойтавай — выкладчыцы начартальнай геаметрыі. Уварвалася — каб размова напоўнілася новымі сэнсамі, каб вызначылі сябе каардынаты прыродныя і набытыя, пабачылі нябачнае, наталілі свядомасць шчырасцю чалавечага духу...

І ўзгадалі тых, каго ўжо не магло быць з імі. Эму Баёк (Чупракову), Рамана Кінковіча, вучня з магутным прозвішчам — Гегель... Гену Краўчука...

І тых, хто проста не прыехаў: Алю Вахрамаву... Прыгажуню Марыну Кісцень, што, скончыўшы інстытут замежных моў, пабралася шлюбам з адным з самых

бліскучых выпускнікоў СШ № 2 Валерам Шахлевічам, выхаванцам знакамітага МАІ (Маскоўскага авіяцыйнага інстытута)...

І была цёплая, лагодная жнівеньская ноч... І неба — у дыяментах, не інакш — зорак — спакойна пазірала і блаславўляла той сход...

Прасветленай значнасці... Для кожнага з іх. Быційнай...

«Шчасце можна знайсці толькі на пракладзеных сцежках...»

**«З НЕБА ЗОРАЧКУ ДАСТАНУ...»**

Увогуле галава Даны была забітая цытатамі, рэмінісцэнцыямі і ведамі, якія чамусьці ў яе жыцці не маглі прыдацца, і, падобна, наканавана было ім адысці разам з ёю. А можа, і раней? Памяць патрабуе практыкаванняў. А яе праца не заўсёды таму спрыяла.

Але кнігі на ўсё жыццё засталіся калі не галоўным сэнсам, дык ледзь не адзіным апірышчам. Яе калыханкай, яе вясельнай песняй, яе ілюзіяй, яе спраўджанай і няспраўджанай драмай, яе асноўным набыткам. Сюжэт яе жыцця змясціў і жорсткія канфлікты, і трагедыі, і фарсы, і трагіфарсы, і п'есы абсурдысцкія, аднак за кожным разам, падбіваючы папярэднія рахункі, яна мусіла пазначаць для сябе, што не толькі летапіс яе жыцця беднаваты на падзеі, але і віхуры духу ператвараліся ў буры пылу, якія нібыта папярэджваюць навальніцу, але няма ані грому, ані дажджу. Свеціць памяркоўнае, няяркае сонца — і няма ні ачышчальнай, асалоднай паслянавальнічнай прахалоды, ні азону, ні пераможнага шчэбету птушак. З цягам часу Дана прызвычаілася да гэтых ненавальнічных віхур, не заўважных староннняму воку, і не шкадавала на тое, што «навальніца заставалася там, па-над лесам». У тым была свая перавага — нейкая больш істотная за знешні камфорт, калі і вопратка сухая, і фрызура не сапсавалася. Набываўся сталы быццёвы імунітэт. Раўнавага — навошта розныя гіпербалы, недарэчнасці, нечаканасці? Жыццё не губляе свае на-

дзейнае красы, нават калі яно пазбаўлена вялікіх і малых катаклізмаў. Кампазіцыя быццёвая ад таго не нашмат прайграе, дазваляе засяродзіцца на харастве дэталяў, на абаяльнасці пабочных калізій, на нязрушным прыгостве першай натуры і строгасці і вялікапышнасці другой.

Было гэта таннымі хітрыкамі не так пражытага, як нібыта прагледжанага збоку жыцця. А мо з'явілася найвышэйшым дасягненнем узросту? Магчыма, гэта і ёсць тое, што называюць мудрасцю? Але Дана не ведала — чаго больш у гэтым слове — грунтоўнасці ці нечага бязрадаснага? Нешта ў яго этымалогіі нагадвала ёй твар не так з пячаткай выразнасці асобы, як з прыкметамі часу, што хаваюць галоўнае і памнажаюць толькі знакі пражытага: шрамы, маршчыны, сівізну. А твар чалавека, што даўно ўжо сягнуў за другую палавіну зямнога шляху, не губляе свайго шарму, нават набывае нейкую іншую, больш акрэсленую значнасць, толькі калі застаецца яго першаіснасны наіў. І тады ўсе лініі і абрысы, якія немінуча пакідае вопыт, набываюць сэнс графікі. І на летуценную, ружовую аснову накладваюцца кідкія штрыхі, а першапачатковыя фарбы нібыта знікаюць, і на тым аркушы паперы з'яўляецца сваё пісьмо. Не грубы грым, а строгая сімволіка ліній.

І няма тады скрогатнага жалю па сышоўшым часе, ёсць толькі набытак гадоў. «І памёр ён, насычаны днямі».

Там, у яе горадзе, у гады жыццёвага рання, дні былі немітусліва-насычаныя. Яна не прыспешвала час, час не прыспешваў яе. А з адлегласці ўзросту ўсё набыло не тое каб ружовае адценне, але дадалася асалода ведання сапраўднага значэння рэчаў і з'яў. І на гэтых шалях нечакана ўражанне ад Батычэлі і ад усходу сонца над Сяльцом сышліся ў адной шкале каштоўнасцяў. І гук альта Башмета ў скарбніцы памяці апынуўся недзе побач з чыстым крышталём акордаў Шапэна ў парку яе горада. Дана ведала, каго выконваў вялікі альтыст, і ёй было не ў знакі, ад чыіх рук сыходзілі тыя лёгкія і трывожныя віртуозныя пасажы з рэпрадуктара. Але ўражанне ад пошугаў геніяльнасці засталося сярод роўнакаштоўных

рэальнасцяў свету. Як і адчуванне свята, што здаралася ад бездакорных рухаў Максімавай і Васільева і ад таго безупыннага пераўтварэння, якое адбывалася з ёю, калі яна танчыла сама. Або проста чула немудрагелістую музыку з іх парку.

А ўначы Дана бачыла дзівосныя сны — нібыта чарговы піруэт узносіць яе ў паветра і яна кружыць недзе высока і чуе музыку. Потым яе сны «апускаліся» ў блакітную ваду, дзе яна плыла па ясных, блакітных каналах ці па моры да палацаў, падобных адначасова на палацца да К'Ора і на Тадж-Махал. А ў катэджы ў лесе, на лапіку зямлі, што зваўся Каралішчавічамі, у пакоі, дзе знакаміты празаік незадоўга пісаў незбыт папулярныя творы, Дана бачыла, як з блакітнага неба падалі рамонкі — вялікія, бела-жоўтыя...

Тады... стары чараўнік і вядзьмар-час падманваў, надаваў новыя рытмы, уводзіў у новае кола жыцця мелодыі іх бацькоў і нават далёкіх продкаў...

Танец — ілюзія, сон? Рэальнасць? Нават — закон рухаў? А можа, і тое, і другое, і трэцяе?

«...Царскія законы, якім мроіцца, быццам яны явілі сябе ў ясных ліках і сышліся ў адно, каб паказаць смяротным, як рэальнае, прывіднае і адстароненае могуць сысціся і будаваць агульнае воляю муз?» Дана любіла танец воляю муз як самавыяўленне. Танец-адзіноту, танец — сам-насам са сваёй душой, танец — для іншых і для сябе... Але быў і танец — чаканне, танец — запрашэнне, танец — зброя, танец — спаборніцтва, танец — дуэль, танец — спакуса...

Пра гэта абвяшчала музыка з парку, з танцпляцоўкі. З радыёпрыёмніка. З радыёлаў — на школьных вечарынах і на школьных зборнях. Вальс... Лёгкі, светлы, нібыта ўзлётна здымае нерашучасць і марудлівасць. Усмешлівы, бясспрэчны, легкадумны і добра выхаваны адначасова. Рука кранае талію, і двое набываюць асаблівы давер адно да аднаго. Яны не збіраюцца пранікнуць у лабірынты душы, не сягаюць у таямніцы, яны ведаюць лёгкі одум гэтага іскрыстага, прамяністага руху па паверхні. А тан-

га сплывае павольным, скрадлівым метрарытмам, загадкавым, таямнічым, ап'яняльна-хвалюючым. Рэзкія, свавольныя выпады, агністае абяцанне таго, што не адбудзецца, ільдзісты, напышлівы напамін пра падман і каварнасць, пра сутыкненне з небяспекай, пра тугу, у якой няма канкрэтнай прычыны, пра самоту, што жыве побач са, здавалася б, самай шчаслівай доляй. Пра якую і не памысліў іранічны і замкнёны ў сваім стракатым рытме факстрот і розныя гарэзлівыя ўан-стэпы. Ці інфернальны рок-н-рол, змяісты твіст або ўвесь састыкаваны на рабрыстых выпадковасцях рухаў брэйк-данс...

Усе гэтыя скокі, як і кнігі, Дана «прайшла», адпаведна і неадпаведна храналогіі іх існавання, моды на іх, рэтраўспамінаў.

...Пры адчыненым балконе ў кватэры Азарэвічаў былі чуваць гукі аркестра, прыцішаныя адлегласцю рытмы. У тым гучанні былі прага руху і няяснае адчуванне трывогі з далёкіх куткоў лабірынту душы. Мроіліся высакародныя, не даступныя воку калёры, і Дана ведала пра сябе, што яна самая шчаслівая і самая самотная істота сярод людзей.

На танцпляцоўцы было і так, і інакш. Какетаваць па складу натуры Дана не ўмела і лічыла гэта танным умельствам субрэтак.

Выпрабаваную жаночую зброю яна адкідала і вызначала адну, не вельмі надзейную і небяспечную, — гонар. І ўзяўшы гэты цяжкаваты шчыт, Дана харобра люляла свае мары — як пазней высветлілася — з ілюзій, памылак, з гульні адбіткаў у люстрах фантазіі. Да гэтай зброі дадавалася яшчэ надзейная заслона — блізарукасць, і Дана не бачыла, так бы мовіць, рэальнага размеркавання сіл. Праўда, Анёл у цені сваіх крылаў, робячы, мабыць, вечаровы палёт над горадам, кідаў на яе свой міласцівы позірк. І тады, калі Дана завітвала на танцпляцоўку, не так, як Хрысціну, у якой адбою не было ад кавалераў, але — запрашалі. Хаця рэпутацыя «задавакі» не вельмі спрыяла поспеху.

Затое ўдзень Анёл, відавочна, спрыяў праважатым. Да дзявочага шарму Даны гэта не мела ніякіх адносін. Тым

часам у горадзе кватараваў чарговы полк, і лейтэнанты, а часам і капітаны дабіралі сярэднюю адукацыю экстэрнам і ў вячэрніх школах. І збіраліся трымаць экзамены, добра засвоіўшы стары, але не састарэлы «пункт» этыкі: шпаргалкі не змусяць кінуць цень на мундзір вайскоўца. А Дана была істотай, у якой поўны стос сачыненняў на вольныя і паднявольныя тэмы, якія маюць прывабную адзнаку «выдатна».

Гэтымі ж «абітурыентамі» ажно стракацеў іх кінатэатр. Кінатэатр, безумоўна ж, зваўся «Перамога», хаця маглі быць варыянты: «Радзіма», «Кастрычнік», «Ударнік». Дана не ведала, хто і як прыдумваў іх назвы, але за межы пэўнага «рэестра» не выходзіў ніводзін горад. Некалькі ідэалагічна бездакорных назваў, прынятых і зацверджаных па інстанцыях. Ніякіх свавольстваў і гульні думкі — стандарт, партарсенал, набор культработнікаў, што дыялектыку вучылі не паводле Гегеля.

Ну, але ніхто не зважаў на тыя назвы — ішлі ў кіно. І перад сеансам у дзевяць гадзін вечара — а ўсяго іх было два: у сем і дзевяць — у фае грымела радыёла. І яны, тады яшчэ не зазнаўшы смаку танцаў на гарадскіх пляцоўках — у РДК і ў парк пачалі хадзіць ужо на студэнцкіх вакацыях — ляцелі ў кіно загадзя, каб адвальсаваць і адтангаваць сваё. І тут Дана, што на якім велікасвецкім балі, магла распісваць мазуркі і «контрдансы». У чаргу выструньваліся выключна вайскоўцы, лейтэнанты. Тыя самыя, будучыя абітурыенты, шукальнікі сачыненняў.

Дана пару разоў спрабавала ісці на містыфікацыі, бо ніякай цікавасці да людзей з пагонамі не мела: ну, каб яшчэ эпалеты, дык і тое на Пячорыне ці на паручніку Лермантаве, але ж тое — не са свету рэальнага. Містыфікацыі не ўдаваліся, бо Хрысціна і Аля Вахрамава былі выразнымі бландзінкамі, Роза мела аксамітава-чорныя і кучаравыя валасы, Эма Сафіенка была такая танюсенькая, што нават у сваім лепшым спартыўным стане Дана не магла быць ёй суперніцай; адным словам, «крымінальнае апісанне» Даны ніяк не падыходзіла ні

пад адну з іх. А ў будучых студэнтаў сувязь была наладжана выдатная. Урэшце на дапамогу прыйшлі свае хлопцы са школы, і «лейтэнантская пакута» скончылася.

Затое ў тым жа кінатэатры здарыўся пякучы афронт. Рэч у тым, што калі ўсе пачыналі высверкваць зухаватую, рэтрамодную «Рыа-Рыту», Дана імкнулася выскачыць на ганак ці ўхапіць каго з дзяўчат, каб павесці самой. Яна ўжо навучылася падпарадкоўвацца чужой волі ў вальсах, факстротах, танга, але модную «падсечку» ўмела рабіць толькі правай нагой, хоць ты плач. Тым часам з'явіўся ў іх школе футбаліст і танцор з Гомельшчыны, і ёй, як выдатніцы, пастанавілі дацягнуць яго да сярэдняга ўзроўню СШ № 2. Ён, як «падшэфны», запрасіў яе, калі фае было яшчэ пустым, і большага канфузу ўявіць было нельга. Дана Азарэвіч, можна сказаць, танцорка ледзь не з калыскі і «прыма» драмгуртка, выглядала як вядомая рагатая жывёліна на студзеньскім лёдзе.

Потым кожны з іх, «шэф» і «падшэфны», неяк не трaплялі ў такт адно з другім. Асечка з «падсечкай»...

А праз шмат гадоў у не самы ўдалы момант жыцця Даны раптам быў тэлефонны званок: «Ці шчаслівая ты?»

Але да таго пытання было далёка. Пакуль былі школьныя вечары, на якіх цараваў акардэон ці гармонік, а ўжо як вяршыня прагрэсу і раённага досціпу эстэтычнага — радыёла. Таму перарывы былі вялікія, можна было набегацца, павесці якія хочаш размовы. А калі гралі вальс, яе заўсёды запрашаў хлопец з класа, на год маладзейшага за яе. Цырымонна запрасіўшы на вальс і аддаўшы паклон, ён адыходзіў, як толькі танец заканчваўся, і больш яны не глядзелі ў бок партнёра. Некалькі віхурных хвілін — працяг быў не патрэбны. Які каментар — сустрэча, праводзіны — маглі супернічаць з гэтымі імгненнямі? Адмаўленнем рэальнасці і сцвярджэннем яе? У іх не было намеру ні прыпыніць гэты стан, ні працягваць яго. Некалькі хвілін, калі здавалася, нават такая відавочная існіна, як прыцягненне зямлі, нібыта збіралася пахіснуцца ў сваёй няўхільнасці. Сублімiраваны ў рух парыў маладосці, дарунак непаўторнага. У студэнцкія

гады ў Мінску таксама быў нейкі чалавек — ён танцаваў з ёю вальс-бастон. Дзе б ні бачыў яе: на вечарыне ва ўніверсітэце, у медінстытуце, політэхнічным — ён запрашаў яе, толькі на гэты танец. Сустрэўшы Дану на вуліцы, падкрэслена шляхетна моўчкі нахіляў галаву, вітаючы яе, — і кожны ішоў сваім шляхам. Да тых момантаў іх жыццё не мела ніякага дачынення. Як не перакрыжоўваліся ніякія лініі лёсу з тымі калаўротнымі рытмамі, шалам рок-н-ролу, што яны засвойвалі з высачэзным хлопцам з фізкультурнага інстытута. Дана не ведала і не мела ахвоты ведаць, разумны ён ці дурны, добры ці злосны. Ён адчуваў віхурны шарм танца. І гэта была адзіная субстанцыя яго істоты, якая цікавіла яе.

І наадварот — не мела значэння тое, што хлопец, які жыў на дзіўнай вуліцы, спрэс забудаванай драўлянымі дамамі і чамусьці з назвай Каменная, — хвацкі танцор. Ён мог танчыць, як мядзведзь, мог зусім не ўмець скакаць. Ён з'явіўся з туману быцця з іншай прычыны. І іх агульныя хвіліны, якія жыццё ашчадна збірала ў дзесяцігоддзі, Натура пазначала зусім іншым знакам, знакам Лёсу.

І было чыстым выпадкам, што разумны рыжанін, які прыехаў на дзявяты кіламетр ад Мінска браць навуку, заўважыў яе на танцах. Галоўным у іх адносінах была, мабыць, бясконцая дуэль, у якой, так бы мовіць, бралі ўдзел Арыстоцель і Шапэнгаўэр, Томас Ман і Ніцшэ і іншыя славутасці, цытатамі з якіх высноўвалі сваю сістэму абароны і наступу Дана і рыжанін. І яшчэ вязкі кветак, якімі закідваў балтыец ганарлівую дзяўчыну з Заходняй Беларусі. І яе бясконцая ўпартасць у сцвярджэнні свайго імунна-непахіснага эмансіпэ, і яго іранічнае адчуванне сваёй гістарычна вызначанай перамогі: мужчына — галоўны, а жанчына... ну не так каб знакамітыя «чатыры К»: Kinder, Küche, Kleider, Kirche[1]. Аднак... Жанчына — для адчування Красы, акрасы жыцця, для рыцарскага захаплення, для... пакланенне, для прыродай вызначаных «праграм», але не для роўнай працы...

---

[1] Дзеці, кухня, строі, царква *(ням.)*.

...Рыжанін павінны быў чакаць Дану адным летам на сваім узбярэжжы, і, безумоўна, у самы апошні момант захварэла Вольга Станіславаўна, і рыжанін застаўся спраўляць сподзіў з яе маўчання на сваім узбярэжжы, а Дана не так хадзіла, як кідалася, па абарончым вале, аднак лічыла, што адбіць тэлеграму або напісаць ліст — няёмка і нават непрыстойна. Парушыцца нешта ў іх адносінах і ўвогуле: гэта не адпавядае стылю паводзін Даны. Яна павінна была прыехаць і даць, нібыта між іншым, званок па тэлефоне: «Асвойваю мясцовы каларыт».

Так што Таццяна з яе не атрымалася. А на подзвігі Гражыны не выдарылася моманту.

З рыжанінам засталося шматкроп'е, да якога ён у якасці постскрыптума (?) даслаў дзве віншавальныя тэлеграмы з Таліна; тым часам штудыі ён скончыў і з'ехаў правіць свае справы, як ён сам пазначыў, неаддзельныя ад Балтыі. У тэлеграмах было крыху недаўмення, крыху крыўды, шмат скепсісу і іроніі. Скепсіс і іронія прыдаліся і Дане, хаця весці слоўныя дуэлі стала нецікава і не было з кім. І тым больш падабаліся танцы. Як дзейства самадастатковае, як самавыяўленне паэзіі быцця, як нешта асабістае і надасабовае. Чытанне ў сваім адстоі давала канцэнтрат рацыё і эмоцый, танцы іспытвалі склад душы на экстэнсіўнасць адчуванняў, выдавалі існаванне нейкім сілуэтным, мройным абрысам, у якім панавалі мелодыя, рытм і рухі, пераўтвараючы яе «я» ў некалькі «я», тоесных і нятоесных рэальнай асобе Даны. І падвышалі яе над рэчаіснасцю і набліжалі да бясконцасці. Дана нібыта набывала лёгкасць, роўную бязважкасці, палётную радасць і нейкія сакральныя знакі жаноцкасці натуры.

Хаця выразнага ўяўлення аб прызначэнні жанчыны ў Даны так і не было. Акрамя хіба таго, што, паводле канцон трубадураў, «ваша воля — для мяне закон» і жаданне, што трапіла нават у сацарт, хай сабе і праз персанажа негераічнага: «З неба зорачку дастану...».

А ўвогуле ў мужчын таксама досыць складаны status quo. Асабліва калі браць пад увагу высілкі дзяржаўныя.

Чамусьці індывідуум губляе свой суб'ектывісцкі шарм, як толькі ўдаецца дапасці да стырна ўлады.

І, мабыць, больш за ўсё імпанавала Дане адстароненая, занятая канкрэтнай справай асоба... Але — зноў жа — рабілася праблематычным і цьмяным, што ёсць сапраўдны занятак, справа. І ўсё большую вагу для яе набываў унутраны вопыт, хаця рэнесансу свайго краю яна хацела даць веры і бачыла мала перадумоў да той прыўкраснай будучыні. Як гэта прамоўлена ў слыннага паляка? «Мы вучыліся жыць з катасрофай як інтэгральнай часткай гістарычнага часу». Катастрофа выбуховая, катастрофа паўзучая, катастрофа патаемная. Чэслаў Мілаш адчувае, разумее вызначальнае светаадчуванне нашага часу. І, магчыма, гэта існаванне з катастрофай абумовіла і рытмы часу, а не толькі знакамітая НТР? І, можа, невыпадкова так захлыналася ў танцы Еўропа напярэдадні сусветных войнаў? Старая Еўропа спрабавала надаць імпэту прысмеркам багоў і сваім уласным сутонням? Чуццё надтачыць тэмпам?

Але была і ёсць у музыцы кожнага часу і ў тых гуках, што жывуць і жывяць дух стагоддзя, і самадастатковасць, і свая суцэльная дадзенасць. І ва ўзросце, калі пачынае адчувацца атрафія эмоцый, Дана спрабавала ставіць старыя пласцінкі. Але была не толькі настальгія, не толькі ўспамін. Той час наплываў відавочна, уладна, усё астатняе збывалася ў тумане і знікала. Заставаліся толькі тымчасовыя фантазіі, ілюзіі, радасці...

«З неба зорачку дастану...» Нібы і жарт. Нібы і мара пра высокі жэст. Лёгка і проста.

## ТОЛЬКІ ШМАТКРОП'І

Лёгка і проста, як дастаць чарэшняў у судовым садзе. Чарэшні гэтыя лічыліся нібыта і несапраўднымі — цвердаватыя, невялікія, светла-чырвонага колеру. З судоўцаў ніхто на іх не квапіўся. Няма сваіх, дык у нядзелю кірмаш, навязуць аксамітава-цёмных, сакаўных, і жоўтых, мяккіх, празрыстых. І танна, і хітра.

Але ў Даны былі свае выгоды. Чарэшня — ужо добра падрослая, а яшчэ не старая: добра трымала яе сорак восем шаснаццацігадовых кіляў, і Дана ўзбівалася высакавата, садзілася на суку і паціху ласавалася. Адсюль, праз лістоту, зусім інакшым выдаваў сад, і судовы будынак, і ліпеньскае неба. Хораша — што на Святой гары сядзець. Лепш — толькі на замкавай вежы.

«Вітаю вас», — пачула Дана аднойчы з суседняй яблыні. І ад нечаканасці ледзь не страціла раўнавагу. Гэта быў нейкі дарослы незнаёмы чалавек. На Данчын шаснаццацігадовы погляд, зусім з іншага, дарослага свету. У пракурорскім мундзіры. Мабыць, ведаў, чыя яна дачка, распытваў пра школу, пра тое, куды яна збіраецца ехаць. Дана толькі што здала выпускныя экзамены, і незнаёмы, пэўна, разумеў — ні пра што іншае Дана ні думаць, ні гаварыць не можа. Незнаёмы давёў Дану дахаты — і больш яна яго ніколі не бачыла. Але ва ўніверсітэце пяць гадоў на кожнае свята атрымлівала віншавальную паштоўку, дзе абавязкова пазначалася іх «неземное знакомство». Пісаў ён на рускай мове, заўсёды выбіраў прыгожыя паштоўкі і прыгожыя канверты. Адваротны адрас быў пазначаны горадам і нечытэльным подпісам. Паштоўкі Дана знаходзіла ва ўніверсітэцкай скрынцы на літару «А». Ад маці Дана даведалася, што чалавек гэты быў следчым і прыязджаў у іх горад па службовых справах.

Дане падабалася гэтая таямнічасць — містэр Х і тое, што чалавек гэты не меўся весці з ёю знаёмства. Паштоўкі. Толькі паштоўкі.

Нібыта напамін пра яе горад. Мабыць, не абышлося без увагі Анёла ў цені сваіх крылаў. Як і ў тым выпадку, калі чалавек у марской форме ў Севастопалі, праходзячы міма, з нейкай невядомай радасці падараваў Дане букет кветак. А незнаёмы ў Львове даў ёй у краме оптыкі акуляры, не ўзяўшы грошы, — свае акуляры Дана забылася ў Стрыйскім парку, не інакш пакінула на памяць тамтэйшым вавёркам. А ў дзень папярэдніх падрахункаў пражытага — дзень не сумны і не вясёлы — чалавек, ад якога ёй не выпадала чакаць увагі, прынёс чырвоную ружу і дыстынктоўны снапок восеньскіх кветак. І жанчына,

што не ведала Дану, не адпрэчыла яе просьбы ў Святой Кнізе. І — нібыта кампенсуючы даўнюю матчыну страту — аддала сваю Біблію той парой, калі Кнігу зрабілі рарытэтам і амаль што недазволеным выданнем. У жанчыны гэта быў не адзін асобнік Кнігі, але тым не менш...

Анёл у цені сваіх крылаў падаваў Дане свой знак памяці. З таго, адзінага месца на зямлі. Дзе на слынным возеры была сустрэча з кабетай, падобнай адначасова на чараўніцу і на бабу-ягу. Кабету з роду вядомага — Марыю Капніст. Яна дасылала Дане кароткія лісты з Кіева на паштоўках — рэпрадукцыях карцін Урубеля.

Усе гэтыя сустрэчы засталіся ў памяці — як нейкія напаміны пра дабрату і высакародства, што раптам сустракаюцца ў жыцці як знакі рэальнасці, што складаюцца не толькі з будзённа чаканага, абавязковага, патрэбнага, карыснага, але і са шчасця выпадкаў, за якімі няма ні кошту неабходнасці, ні няпэўнага Святла Загадкі, што пазначае толькі твае, незапланаваныя і не супадаючыя ні з чыімі, святы, імгненныя, рухомыя, не заўважныя нікому. Як мастак паміж Натурай і чыстай ідэяй аб шчасці і радасці. Як напамін пра тую пару, калі ўсё наступнае здавалася спакусна інтрыгуючым, а жыццё выдавала незвычайнай, захапляючай гульнёй, дзе яшчэ не праглядваўся морак штодзённшчыны, тлумны стандарт жыцця. Былі вядомыя яшчэ толькі рэжым і дысцыпліна — але яны падабаліся, складвалі дні ў нешта строгае і ясна вызначанае. І было вядома — ад гэтага можна адысці любым момантам, збегчы ў шыкоўную раскошу мроі, дачакацца свята канікул. І хадзіць сцежкамі, дзе, здаецца, лунае той дух, што ведае шлях да сапраўднага, высноўнага, існага. Калі не ведае пра гаркату плачу.

**СМЕХ СЛЯЗЫ**

...Яны развітваліся — са школай, з горадам, з бацькамі, з блізкімі. Развітваліся лёгка, нават нецярпліва — нарэшце пачынаецца сапраўднае жыццё. Скончылі падрыхтоўку. Будуць жыць самастойна.

Студэнцтва — ад аднаго гэтага слова займала дух.

Яны яшчэ не ведалі прыцягальнасці магнітнага поля сваёй зямлі, горада маленства і юнацтва, яны не ўсведамлялі, які зарад духу яны атрымалі тут. Пакуль яны жылі «чуццём дарогі», «чуццё глебы» прыйшло пазней. Яны яшчэ не ведалі магічнай улады вобразаў дзяцінства, гармоніі той пары, таго максімуму варыяцый жыцця, якіх не зазнае ўжо ніякая іншая пара. Усё наперадзе — тут не было яшчэ ні іроніі, ні самападманнай надзеі. У гэтым, можа, і ёсць заўсёды разгадка прыцягальнасці тых гадоў. Нават калі зусім не рамантызаваць юначую пару, духоўная спадчына кожнага — там. І Дане тут не былі блізкія Дастаеўскі, Марыяк, Джойс... З іх пярэкрутнай свядомасцю, паталагічнымі спазмамі памяці. Яна разумела Сент-Экзюперы, Пруста, Както, «на ўсё жыццё пазначаных метай, пячаткай дзяцінства». Высветленых даўнім, ранішнім святлом жыцця.

Дана заўсёды адчувала гэты знак — як галоўнае і неад’емнае ў сваёй асобе. Як святло і цяпло тых дзён, як грунт культуровага тыпу асобы і як грунт асобы ўвогуле.

Апошнія дні... Апошні школьны баль... Усе святочныя, прыгожа ўбраныя. Але знайшоўся дзяцюк, што адной фразай, нязграбнай, грубай, здратаваў усё тое вяселле і ўрачыстасць. Усім, не толькі Дане. І Дане стала сумна і схацелася сысці. Чаму б не на слыннае возера?

Возера было баладна-прыгожае, чыстае, яшчэ не засмечанае «акультурваннем» і цывілізацыяй. Ані душы, ані будынка зблізу.

Зразумела — нікога. Дана была адна. І ўрачыстасць была тут. Не там — у актавай зале. Тут чулася мелодыя яе жыцця. Мелодыя яе душы. Але тую мелодыю чула яна адна. Ніхто не схацеў даўмецца, чаго ёй стрэліла ў галаў ляцець сюды. І было крыўдна, ніхто не даў веры, што яна прыйшла сюды пешшу. Што гэтыя дваццаць кіламетраў у яе сямнаццаць гадоў ды ў чэрвенькую ноч! Як гэта яна пазней чытала ў разумных кніжках? Экалогія развіцця ў іх была розная. Нават з Вольгай Станіславаўнай, для якой стэрэатыпы мыслення і ўспрымання іх атачэння былі калі не законам, дык абавязковымі правіламі. І Дана

сваё першае «дарослае» лета правяла досыць сумна. Самым цікавым было субяседаванне ва ўніверсітэце. Хто яго прыдумаў — невядома, але на той момант ёй гэтыя практыкаванні спадабаліся. Іх, залатых медалістаў, было ажно дзесяць чалавек на месца. І было прыемна адчуць сябе сярод пераможцаў. Прайшла! Знайшлося месца пад філфакаўскім сонцам!

Напрыканцы жніўня Дана зрабіла развітальную праходку абарончым валам, зайшла ў касцёл, дзе заўсёды адчувала тую ж мелодыю існага, што і на слынным возеры. Згадала гукі, што ўзносіліся тут падчас візітаў той жанчыны, з яе, Даны, дзяцінства. Яны супадалі з мелодыяй яе душы. Як супадалі гукі мелодый Шапэна, Вівальдзі, Моцарта, Баха... І не супадалі з гэтай метрарытмікай сінкопы рэчаіснасці. Сляпая цвярозасць рэальнасці рабіла прымглёным святло загадкі, разбурала магію быцця, гармонію існага...

Аднак, магчыма, у гэтых дысанансах і бясконцай размаітасці былі свой сэнс, свая логіка? Нават свой водар? Але ёй не было дадзена адчуванне гэтага сэнсу, гэтай логікі, чароўнасці гэтага водару. Думкай і пачуццём яна вярталася сюды...

## SANCTUM SANCTORUM

І задавала сабе пытанне — дзе прытулак душы тваёй?

Пад небам, спаласаваным знакамі звышгукавікоў. На зямлі, закатаванай жорсткасцю і неўразуменнем, у скрыготных натоўпах, дзе столькі твараў, не праясненых ані думкай, ані чуццём.

Яна адчувала сябе ўсё больш адстаронена — як ля калодзежа бездані, нібыта ў прадчуванні трубнага гуку Чацвёртага Анёла. Яна шукала страчанай сувязі са светам. Згадвала тое, даўняе, пажыццёвае. Настойліва імкнулася ў куткі, дзе тая марнасць марнасцяў не правіла баль.

Ішла ў будынак на гары, будынак, поўны кніг. Дрэвы з яго вокнаў здаваліся прыгожымі, як на выявах майстроў

італьянскага кватрачэнта, а неба такім, нібыта яно не ведала ні крыжавання антэнамі, ні кіпцюроў і драпін ліній ЛЭПа, ні канквістадорскага наступу самалётаў... Яснае і цнатлівае, нават ягоная шэрань глядзелася адсюль злагаднай і класічна чыстай.

І класічна прыгожымі выдавалі паркі, якімі яна ішла адсюль: стары, на ўзгорках, дзе кожнае дрэва нібыта пацвярджала мізэрную недаўгавекасць тых, што лічаць сябе вяршыняй светапарадку. І маладзейшы парк, праз дарогу, той самы, нягеглы падчас яе першага прыезду ў Мінск, а цяпер фацэтна-прыгожы: помнік Янку Купалу, музей, цяжкаватае хараство бронзавых красунь ля фантана, ліпы — што векавечны сімвал згубленай утульнасці маёнткаў і фальваркаў, таемны поступ клёнаў — увосень рытуальна-прыгожых: нібы ганаровая варта ў якім каралеўскім палацы. Яна заўсёды не даходзіла да фантана — там людзі і чарада каменных стварэнняў. Гэтую чараду патрактавана лічыць музеем пад адкрытым небам, вернісаж, аднак, зацягнуўся, і Дане страшэнна назалялі каменныя галубы, падобныя да парсючкоў, і невыразна нязграбныя цёткі без рук і ног. Хаос жыцця заставаўся недзе зусім далёка, калі яна трапляла да таполевых прысад у верхнім парку: цёмныя строгія ствалы — на вясновым малодзіве і святочна ўзнёслыя — на шыкоўным дыване з апалай гарача-залатой лістоты ў верасні. Тут Дана заўсёды востра адчувала: так, жыццё ўсё ж — найвялікшы дарунак.

Азірнуўшыся назад на сцяжыне над ракой, яна заўсёды прыпынялася зірнуць адсюль на лукавіну ракі, на купы дрэў, кожнай часцінкай сваёй істоты адчуваючы прыгоства ландшафту. І — злагадную згоду з Быццём. Існуючае — усё ж разумна. Існуючае — прыгожа. Існуючае — павінна быць. І нават здавалася — «пакрыёма пранеслася слова, і слых... прыняў нешта ад яго».

Гэтай самай сцяжынай Дана хадзіла раннім ранкам у нядзелю ў тое ўзнёсла-прыгожае збудаванне — нібыта высокі Дух зазначыў яго на зямлі нават без дапамогі рук звычайных смяротных. Прасторава арганізаваная струк-

тура... Так, здаецца, фармулююць у сваіх прафесійных гаворках дойліды... Выдатна арганізаваная структура. Замысленая так, каб было відаць здалёк: на горцы. Адно людзі, якія нават сонцу, мабыць, адвялі б сацыяльна і класава функцыянальнае месца, замаскавалі бажніцу з усіх бакоў мурамі. Але паспрыялі іншаму эфекту — кожным разам касцёл узнікае на фоне неба як цуд, як нешта нечаканае, як дарунак лёсу. Святыня на горцы... Ёй падабаецца непаспешліва падымацца па прыступках...

І згадваць: да таго храма, у яе горадзе, таксама вялі прыступкі. Ад ціхага ручая і парку...

Дараваны Лёсам куток — яе горад...

Як гэта сцвярджаў абат Сугерый? «Наш дух занадта слабы, і толькі праз матэрыялізаваныя рэаліі ён здольны ўзвысіцца да ісціны». З XII стагоддзя, як жыў святар, дух не стаў больш моцным. Толькі праз матэрыялізаваныя рэаліі... Абат Сугерый меў на ўвазе іншыя рэаліі, больш сакральнага парадку, але... Дана ў сваёй зямлі і ў землях нетутэйшых заўсёды згадвала гэтыя словы: калі глядзела на бажніцы, кастэлі, святыні... Розум, веды, інтуіцыя — магутны лёт духу, створанае людзьмі, якім было дадзена спрычыніцца да Высокага. Гісторыя і Натура — разам.

І гэтыя матэрыялізаваныя рэаліі, і другая прырода, і першая прырода спрыялі таму, каб расла душа, ачышчалася ад мітусні, размыкала ланцуг, якім яе спрабавалі аблытваць факты быцця, адыходзіла да сваёй і агульнай Таямніцы і адчувала тое, што на самым — не, не донцы, на самым высокім краі душы. Нявыказанае. Невыслоўленае. Невыказнае...

І вярталася душой і думкай у свой горад. Да родных пагоркаў. Да родных вежаў. Да той — яе — фары. Бо тут Высокая Воля пазначыла галоўны ўзлёт і галоўны спачын душы. Тут адчула яна святло Высокай Загадкі Быцця. Тут — яе Існае. Яе Лёс. Яе Знак. Яе Sanctum Sanctorum.

# *Раздзел II.* GENIUS SAECULI

## ТЭРЦЫНЫ ТРАЎНЯ

За суседнім столікам спрачаліся. Пра ноўменальных і даноўменальных багоў, пра розныя тыпы актуальнай бясконцасці, пра Юліяна і Прокла... Пра інтэлектуальных багоў...

«Размова, годная вечнага горада», — лянотна падумаў Станіслаў. Яму тая гаворка была нецікавая, аднак ён сядзеў адзін, сам-насам, а ў яго суседзяў былі галасы спрактыкаваных лектараў, і іх англійская ўрэзвалася ў свядомасць жорстка прамоўленымі тэрмінамі, класічнымі санантамі і палаталізаванымі, дыфтонгамі і манафтонгамі.

Бездакорнай дыкцыі суразмоўцаў не перашкаджалі нават ракі ў белым віне, якіх яны паглыналі непаспешліва і са смакам.

Станіслаў уздыхнуў з палёгкай, калі гэтыя двое развіталіся і зніклі. Агульны пошум на адкрытай тэрасе рэстарана стаўся найлепшым акампанементам ледзь не фізічнаму адчуванню асалоды ад мяккага рымскага надвячорка, ад спалучэння знакамітага колеру Рыма — трастэвэрыну, яго цёплых, жаўтавата-вохрыстых таноў, мігцення ліхтароў і лампіёнаў, бруіста-прахалодных, блакітна-іскрыстых фарбаў фантанаў, іх — музыкі? спеваў? рэчытатываў?

Усе колеры, фарбы, паўтоны набывалі тут, на П'яцца ды Навона, асаблівы змест — падтэкстам і падсветкай часоў: вялікапышнасці сеічэнта, густога сяйва тысячагоддзяў, гаркавата-слодычнага мроіва сённяшняга дня.

Імгненні перагукаліся са светам вечных каштоўнасцяў і відавочнасцяў, што мелі адзнаку вечнага горада.

Вось той сэрвіторэ[1] нібы толькі што пазіраваў Караваджа, сіньярына ў доўгай спадніцы крочыць не інакш як хадою Адраджэння, а купка юнакоў у шортах выдае на ваяроў з цэнтурый Юлія Цэзара.

...Водар хараства закалыхваў, люляў, ствараў той час-пазачассе, калі кожная хвіліна — кантрапунктная ў мелодыі жыцця. Нібыта і не адбываецца ніякіх падзей, але ўсё насычаецца сэнсам, усё нагадвае пра Боскую сутнасць існага.

Лірычная ілюзія сапраўднага... Ці адзіна сапраўднага?

Станіслаў з лёгкай пакорай пагойдваўся на хвалях чараў рэальнага і дамысленага, верагоднага і неверагоднага, убіраючы ў сябе кожнай клетачкай, кожным нервам тугу і радасць улётных імгненняў, стоеных спакус, акрасы звабнага. На нейкую долю часу — ён, Станіслаў Строцкі, быў злітны, знітаваны са светабудовай, вольны і свабодны.

На нейкую долю...

Век расінкі,
Ён і ёсць век расінкі, не больш,
І ўсё ж, усё ж...

Усё ж яму было хораша. Dolce far niente[2] — прыемны занятак. Нешта падобнае круцілася ў галаве Станіслава.

А Уайльдава — «нішто так не стамляе, як лайдацтва» — проста бліскавічны парадокс дэндзі. Хаця нельга ведаць тое, чаго не зазнаў. Пасля інстытута Станіслаў быў хранічна заняты, заўсёды нечаму падпарадкоўваўся. Жыццё ў сваёй маштабнасці рызыкі, мужнасці, велічы празарэнняў заставалася недзе побач. Ён бег да сваіх пацыентаў, згараў у турботах штодзённасці: аперацыйны стол, палаты, гісторыі хвароб... А яшчэ ён мусіў падтрымліваць пэўныя сувязі і чамусьці заўсёды лічыў

[1] Сэрвіторэ — служка (*іт.*).
[2] Dolce far niente — салодкае гультайства (*іт.*).

сябе некаму абавязаным, выручаў сяброў, знаёмых, незнаёмых, спяшаўся, ляцеў, імкнуўся...

Цяпер Станіслаў Строцкі нікуды не спяшаўся... Віват сіньёру Лантучы! І таму шчасліваму выпадку, які кінуў сіньёра на аперацыйны стол Строцкага. Бо сіньёр быў удзячны. Добры. Багаты.

На гэты момант у Станіслава Строцкага быў кантракт са шпіталем, дзе сіньёр Лантучы меў у апякунскім савеце, падобна, немалую вагу, падмацаваную яго дыяканічнымі высілкамі. А пакуль у Станіслава былі два вольныя месяцы. У Італіі.

І гістарычны час для Станіслава нібыта раствараўся ў бясконцасці часу нічым не занятых сутак і ў тапаграфіі Вечнага горада.

...Скончыўшы сваю вячэру і згадаўшы, як гэта хораша гучыць па-італьянску — «чэнарэ», Станіслаў пакіраваўся да каскаду Берніні. Нібыта парогі на рацэ — гэты фантан... І што ўсё ж выводзяць тыя стругі? Можа, і не мелодыі... Прамаўляюць нешта... Значна... Настойліва... І лёгка... Тэрцыны? Тэрцэты? Рытурнэлі?

Ці проста звычна ірвуць сетку часоў? Ужо чацвёртае стагоддзе... Хаця — што гэтае quattro[1] для Вечнага горада? Які зведаў усё — і росквіт, і поўны заняпад, і адраджэнне... І tempora nova[2].

«Caput mundi» — «цэнтр сусвету».

Апостальская сталіца... Той горад, дзе ёсць Лоджыя Благаславення, адкуль гучыць сакральнае «Urbi et Orbi» — «Гораду і свету».

Пра гэты ж горад і вядомае Гётэва: «О Рым, ты цэлы свет!» І гераічнае Гарыбальдзіева: «Roma o morte»[3].

І вось тое, іранічнае: «The capital of the Middle East» — «Сталіца Сярэдняга Усходу». На чыста амерыканскі капыл. Мабыць, вызначыў так які хлопец з Аклахомы ці Кентукі. Дзе-небудзь напрыканцы 40-х гадоў XX стагод-

---

[1] Quattro — чатыры (*іт.*).

[2] Tempora nova — новы час (*іт.*).

[3] Roma o morte — Рым або смерць (*іт.*).

дзя. На хвалі перамогі войскаў кааліцыі, у засені плана Маршала, з поўнымі кішэнямі паўнавартасных даляраў і з пагардай да антычнага хараства і розных там кватрачэнта, чынквечэнта і іншага гістарычнага і мастацкага хлуду.

Для Станіслава ж усе Протарэнесансы, Рэнесансы, Рысарджымента неслі ў сабе асобы знак застылых відзежаў мінулага, датычных не толькі Вечнага горада: збежышчы-сонмы анёлаў Джота, харалы Палестрыны, санаты Карэлі, старыя фаліянты кніг, роспісы і барэльефы Падуі, гукі арфаў і кіфар, чэлестаў і віёлаў...

Расплывісты сэнс гармоніі і хаосу.

...Станіслаў паволі адыходзіў ад фантана каскадаў.

Цяпер ён цалкам належаў гэтым імгненням. Нічога і нікога не згадваў. І не ведаў, ці хацелася б каго згадаць. Ведаў — чаму...

Я не спеша собрал бесстрастно
Воспоминанья и дела.

Менавіта — «бесстрастно». Ніякіх жарсцяў. Суму. Жалю.

Сістэматызаваў. Вызначыў. Паклаў на паліцу памяці. Далёкую. Хай сабе ляжаць. Успаміны і справы. Здрады і страты. Радасці і турботы. Ён узяў тайм-аўт у лёсу.

Ён цяпер любіць толькі тое, што не можа падманваць і што нельга страціць. Мінулае. Мінулае, увасобленае ў харастве мясцовых палацца і роспісаў, скульптур і помнікаў, карцін і маляўнічых руін і каланад-таямніц...

У прыгажосці ўсяго, што ўваходзіла і будзе ўваходзіць у яго жыццё... Ён не бярэ пад увагу чалавечыя адносіны.

Гэта — у мінулым.

Ён не збіраецца ні пакутаваць, ні енчыць, ні шкадаваць...

Проста на гэтай старажытнай зямлі ён будзе выцягваць пасля аўтакатастроф, альпінісцкіх і іншых спартыўных няўдач сыноў і дачок чалавечых. Даводзіць індывідуумаў да нармальнага, дадзенага Богам і продкамі фізіялагічнага стану. Паводле клятвы Гіпакрата, свайго ўмельства, умоў кантракту. Не менш. Але і не больш. Усё

ў межах прафесійных адносін і справы. Ніякіх іншых кантактаў. Ніякіх лірычных сюжэтаў. Нават калі гэта які мілы дзядок, дзьмухавец Божы, поўны, здаецца, альтруістычных памкненняў.

Пазней можа здарыцца, што стварэнне, якое выдавала самою дабрынёю, вывалача адкуль-небудзь цэбар з памыямі і выльe іх табе на галаву. Проста так. Без якой прычыны.

Станіслаў нікога не вінаваціў. Проста стаміўся ад бясконцага фальшу на розных узроўнях, ад высокіх слоў, за якімі толькі мізэрны разлік, ад ліхаманкавага кірмашу, дзе гандаль паводле вядомага: «Wszystko na spszedaż»— «Усё на продаж».

Няма добрых адносін, ёсць толькі ўзаемныя інтарэсы?

Цынікам быў аўтар гэтых слоў ці проста ўмеў вызначыць сутнасць праяў?

...Цяпер болю няма. Гэта некалі былі раны, крыўды.

Цяпер ён набыў імунітэт, падобны на лакалёвую анестэзію.

Проста — рэестр перамог, параз, страт, сатысфакцый, здрад. Спакойная інвентарызацыя перакрэсленых сяброўстваў, знаёмстваў, кантактаў.

Калі вернецца на радзіму... Праз два гады. Тады будзе відаць. А цяпер для душы —бажніцы і культуровыя традыцыі, вопыт пачуцця толькі ў харастве створанага вялікімі.

Квінтэсэнцыя духу, увасобленая ў мармуры, фарбах, срэбры, золаце, бронзе...

Холад мармуру... У ім часам больш цяпла, як у жывых істотах з натуральнай крывёю розных груп, з мускуламі ці проста з масай мясатлушчу, з суставамі, пазванкамі, з усёй «гаспадаркай» касцей — прамянёвых, локцевых, галёначных і г. д. , і г.д., адным словам, з усімі анатамічнымі і фізіялагічнымі першаіснасцямі.

...Мова жывапісу... Станіслаў уважліва глядзеў на выстаўленыя на продаж карціны... Невялікага памеру, найбольш партрэты, нацюрморты, пейзажы... Хаця... Тут, на П'яцца ды Навона, мабыць, прадстаўлены ўсе

існуючыя і існаваўшыя напрамкі жывапісу... І розныя жанры... Розныя стылі...

Станіслаў углядваўся ў карціны... Пейзаж у стылі позняга Клода Манэ... Партрэт дамы... Нешта ад майстроў кватрачэнта або чынквечэнта? Нешта ад Ларэнца Косты... Чысты, замкнёны твар, валасы, забраныя сеткай, глыбокі пурпуровы колер накідкі...

Адзінокая свечка ў замглёным інтэр'еры, вока ў махнатых вейках, тонкая рука ў пальчатцы... Якія фарбы, дакладнасць малюнка! І нябачная цень вялікага майстра з Кадакеса...

Партрэт-медальён жанчыны... Сінія-сінія вочы, доўгія, русалчыны, нібыта сатканыя з ветру — лёгкія, закалыхваючыя — валасы. Нешта вельмі знаёмае... У твары... Ды і ў стылі пісьма мастака...

Галіна? І партрэт, падобна, Вітольда... Так. Няма сумніву. Эскіз — алоўкам — ён, Станіслаў, некалі бачыў... Але адкуль тут гэты партрэт?

– Quanto sconto?[1] — звярнуўся да мастака Станіслаў.

Кошт прыдатны. І памер партрэта невялікі. Станіслаў аддаў грошы. Старанна падбіраючы словы, спытаў, адкуль карціна. Мастак, падобна, зразумеў яго, аднак Станіслаў кепска разбіраў словы адказу. Перапытаў па-англійску.

Нешта праяснялася. Партрэт належаў мастаку з далёкай краіны. Мастак загінуў тут, у Італіі. Проста захлынуўся марской хваляй. Станіслаў ведаў — гэта Нарутовіч. Пісалі ў газетах.

А мастак з П'яцца ды Навона патлумачыў, што сябры небаракі забралі ўсе карціны, а гэты партрэт застаўся — рабіў нехта іншы. І чамусьці дадаў: «А сіньёрына з партрэта жывая». Адкуль ведаў? Вёў размовы з Нарутовічам?

Чаму гэты партрэт апынуўся ў яго? Яны з Вітольдам былі вельмі далёкія. Чаму, дарэчы, не стварыў партрэт Галіны сам? А можа, ён недзе таксама ёсць, такі партрэт?

Тутэйшы мастак спытаў:

---

[1] Quanto sconto? — Колькі каштуе? (*іт.*)

– Are you want to see her?[1]

– No, no[2], — цвёрда адказаў Станіслаў. І пакрочыў паўз Пантэон па віа дэль Корса.

Ці хацеў бы ён бачыць яе?

...Чалавек з таго часу... З той духоўнай прасторы...

Ён, Станіслаў Строцкі, гатовы перачытаць старонкі ўспамінаў... Аднак пераажыць старонкі жыцця наноў?

Немагчыма... На жаль?..

Галіна... Асоба з Вітольдавай майстэрні... Майстэрні, што была паблізу ад бажніц, ракі, паркаў, Опернага тэатра...

Станіслаў — тады ўсе яго клікалі Стасам — студэнт-медык, бегаў па клініках, анатамічках, бібліятэках, адпрацоўваў практычныя... Было так... І жыццё было поўнае яшчэ не пражытых гадоў. Не пераажытых імгненняў. Нягледзячы на ўсе практыкумы, Стас больш тэарэтычна ўяўляў карысць і высакароднасць сваёй прафесіі.

Аднак выбраў яе свядома. Усім патрэбная. Пры ўсіх рэжымах. Сумны і навязлівы афіцыёз проста ніяк не датычыў Стаса. Ён, як госць, заходзіў на сходы, адбываў сваё на дэманстрацыях, аднак заклікі партыйных аракулаў, здранцвела-пафасная таўталогія іх пастулатаў, жаўнерная мітурга пастаноў, абвяшчэнне генеральных і негенеральных ліній выпадалі з эмпірыкі жыцця Стаса, з магічнага поля яго свядомасці.

Затое процьма іншага цікавіла Стаса. Ён чытаў узахліп, дома і ў бібліятэках, прагна і бессістэмна. Усё па той самай гісторыі, якую называюць агульнай, кнігі па гісторыі архітэктуры, мастацтва, літаратуры, навуковыя манаграфіі і белетрызаваныя біяграфіі, кнігі філосафаў і паэтаў, мемуары і перыёдыку — усё, што трапляла на вока і пад руку.

Стас жыў у множнасці часавых рытмаў, у складаных суадносінах свайго «я» з непамыснай колькасцю іншых.

---

[1] Are you want to see her? — Вы хацелі б пабачыць яе? (*англ.*)

[2] No, no — не, не (*англ.*).

Вёў, нібыта і наяве, размовы і спрэчкі з Гегелем і Леві Стросам, Шэлінгам і Камю, Юнгам і Гарадзі. Вызнаваў сябе ў медытацыях з Рыльке і Гарсіа Лоркам, Томасам Манам і Сартрам, Тэярам дэ Шардэнам і Чэславам Мілашам.

У магічным полі жыцця Стаса заўсёды прысутнічала музыка. І Моцарт, і рок, і класічны джаз — ён любіў іх аднолькава. Музыка прыцягвала і вабіла яго. Як прыцягвалі і вабілі жанчыны. Жывыя. І на карцінах.

І на рэпрадукцыях карцін. Яго веданне анатоміі і фізіялогіі ніяк не ўплывала на крыху рамантызаванае ўяўленне пра жанчын. Магчыма, таму, што хараство іх упершыню ён адкрыў на выявах старых майстроў і майстроў новага часу. Праўда, яго аднакурсніцы не вытрымлівалі параўнання з жанчынамі Тыцыяна і Батычэлі, а танцоркі Дэга часам здаваліся яму больш рэальнымі, чым пасажыркі тралейбусаў, з якімі ён шчыміўся кожнай раніцы ў блакітны вагон. Аднак на вакацыі Стас выпраўляўся не інакш як з мальбертам і са спадзяваннем сустрэць... ну, напрыклад, падвойнік Одры Хэпбёрн...

Усё гэта надавала агульнаму фону жыцця Стаса адценне будзённай святочнасці, а самому факту быцця — асалодны прысмак. У рэальным існаванні, у вопыце дзён свет для Стаса складаўся з сонца, вясёлак, адзнак «выдатна», усмешак, шчаслівых выпадкаў, запланаваных і нечаканых сустрэч! Усё было наперадзе! І наперадзе былі, безумоўна, толькі перамогі, шчырыя сяброўствы, вялікае каханне, «палёты ў сне і наяве». Усё мела асаблівую акрасу ад гумару, розыгрышаў, амаль заўсёднага добрага настрою, ад шчаслівага смеху — проста так, ні з чаго... І абавязковы «лёгкий трёп» меў прысмак маладзёжных фестываляў, КВЗ, зорнага пылу, тралейбусных знаёмстваў, паэтычнага шаленства, мізантрапічнай іроніі Джойса, магічнай абаяльнасці Булгакава (Міхаіла, зразумела), кусліва-гжэчных досціпаў з джэнтльменскага набору аксёнаўска-гладзілінскіх хлопчыкаў. Усё было зорна, узорна, «пенкна».

А Вітольдава майстэрня была тым месцам, дзе нібыта рэальна, арэчаўлена ўзнікалі прывідныя відзежы ўяўленняў Стаса.

Найперш — як тады здавалася Стасу — да Вітольда прыходзілі людзі, на якіх быў адбітак асноўнага чалавечага вопыту, досведу, і, незалежна ад роду заняткаў, першаасновай тут быў sacre feu — святы агонь. Знакамітых у майстэрні Стас не сустракаў. І гэта толькі пацвярджала, на яго думку, прыналежнасць гасцей да таго асяроддзя, дзе самадастатковасць асобы выдавала стрыжнем індывідуума, не залежнага ад знешніх абставін, ад мітусні будзёншчыны, ад шэрасці звычаёвага.

Стас на тую пару спрабаваў прасочваць усе лабірынты творчых біяграфій славутасцяў, але ці не найбольшай ісцінай лічыў вызнанне Вівекананды — самыя вялікія і геніяльныя робяць сваё жыццё незаўважным, не імкнуцца нечага дабіцца, таму што ведаюць сапраўдны кошт думкі. Праўда, наконт адной Асобы, што была не проста гістарычнай постаццю, Стас рашуча не згаджаўся... Ну, але Той — Адзіны...

У Вітольда збіраліся многія. Можа, і не выбраныя, але — пазначаныя, вызначаныя.

Прыходзілі ў майстэрню любым днём, любой парою. Пазней Станіслаў думаў: мабыць, перашкаджалі Вітольду працаваць. Але гэтая стыхійнасць надавала зборням асобую акрасу. Не паўсвецкія прыёмы па серадах ці аўторках, а нязмушаныя сустрэчы...

Станіславу, як, мусіць, і іншым, падабаўся сам Вітольд. Нічога ад багемнай урачыстасці, затое нешта відарыснае ад формулы яго, Вітольдавага, лёсу, прасвечанага мярэсцівам з авангардных высілкаў пэндзлем, традыцыйнага высакародства і рэнесанснага інтэлектуалізму.

Аскеза добраахвотнай нішчымніцы, адстароненасць ад афіцыёзу, пакутніцтва самавыяўлення, роздум... Нешта ад Мадыльяні і Ван Гога, але без самаспапяляючых схільнасцяў... Гэта меціла мастака ў вачах Станіслава асобым знакам.

Манументаліст паводле адукацыі, Вітольд рабіў у нейкай арганізацыі, што часам давала яму канкрэтныя

заказы, аднак у асноўным ён вёў жыццё вольнага мастака, займаўся жывапісам, чытаў, думаў...

...Прыходзячы ў майстэрню, Станіслаў часам заспяваў Вітольда на самоце, часам у яго нехта быў, здаралася — майстэрня была паўнюткая людзьмі.

Станіслаў завітваў у майстэрню кожным зручным і нязручным выпадкам. У «фортачцы» паміж лекцыямі, бегучы з клінікі, збіраючыся ў тэатр ці ў госці. Урэшце — проста так, дзеля акрасы душы. Прылятаў у майстэрню з якім дробным прэзэнтам ці проста наедкам. Ну, і, зразумела, паводле завядзёнкі, з прыгаршчамі досціпаў, навінаў, новымі кружэлкамі.

...Пазнаёміўся Станіслаў з Вітольдам у бібліятэцы, і гэта паклала адбітак на стыль іх адносінаў. Як гэта там у вялікага француза? «Маёй калыскаю была бібліятэка, пыл, вавілон тамоў, пергамент, цішыня...» Мабыць, было яшчэ нешта, што аб'ядноўвала іх з Вітольдам, вызначала ўзаемную цікавасць і тое, што цяжка пазначыць словамі, паняццямі.

Нездарма быў і нейкі капрыз Провіду ў тым, як нечакана, выпадкова-невыпадкова ўзнікаў Вітольд на яго, Станіслава, шляху. Асабіста, напамінам ускосным, канкрэтным. Як гэты партрэт. Як нядаўняя, перад ад'ездам, «сустрэча» з Вітольдам. У мастацкім салоне, у родным горадзе, Станіслаў зайшоў звычна — паглядзець. З усяго, што там было выстаўлена, вызначыў адну карціну. Ці то сцежка, ці то рамантычна зарослая алея ў парку. Зеленавата-жоўтыя колеры, паўтоны. Дыстынктоўная рама, вохрыста-карычневая, з залацістым абадком па краі. Прозвішча аўтара не было. Толькі цана. Як і на ўсіх астатніх карцінах. «Дзіўна», — падумаў Станіслаў. А яму адказалі: «У нас так прынята». «А хто ўсё ж аўтар?» — «Лістовіч», — пачуў ён адказ.

...Лістовіч... Вітольд... Недзе на ўскрайку свядомасці, эмацыянальнай і інтэлектуальнай памяці Станіслава ён заўсёды існаваў. Як удзельнічалі, прысутнічалі — тыя, хто тады, у Вітольдавай майстэрні, трапіў на арбіту яго, Станіслава, існавання.

І яны існавалі, прысутнічалі ў сваёй асабістай аўтаноміі. Так бы мовіць, асобы з «арыентацыяй знутры». «Inner directed», — так, здаецца, вызначалі гэта дасведчаныя і абазнаныя ў псіхалогіі.

...Паэтэсы... Тая, у якой голас зрываўся ад хвалявання, а лісток з толькі што напісаным вершам дрыжаў у руцэ... І другая — як пра яе пісалі: дачка Палесся... Вочы — азёры... І яшчэ высокая, тоненькая... Таксама чытала вершы...

І актрысы! Пасля спектакля... У вэлюме толькі што адыгранай ролі... Асабліва ён помніў адну... Бездакорны абрыс рухаў і жэстаў, нібыта яна яшчэ ў пеплуме і хітоне, са знакамітым карымбас — валасамі, зацягнутымі ў грэчаскі вузел. Увасабленне ісціны і гульні, вяшчунні і вакханкі — адначасова...

Падобная на хлопчыка журналістка, уся — як страла ў палёце. Феерверкі фактаў, вадаспад слоў...

Яны ўсе здаваліся Станіславу ўвасабленнем прыгажосці, нібыта сышлі з тых выяў, паводле якіх ён уяўляў сабе жанчын. Станіслаў сыпаў жартамі, а ў душы нямеў, здранцвела стойваўся, баяўся змоўкнуць. Паўза... Чым яе запоўніць?

Запоўніць паўзы было каму. А былі выпадкі, калі прысутнасць Станіслава ў майстэрні была суцэльнай паўзай, маналогам маўчання, ён цэлы вечар сядзеў моўчкі, слухаў, глядзеў, убіраў у сябе кожны жэст, кожны гук, кожны погляд, кожны позірк... Літаратары, акцёры, рэжысёры, каскадзёры, эмэнэсы (як жартам вызначалі абрэвіятурай малодшых навуковых супрацоўнікаў), кандыдаты розных навук, інтэлектуалы, што займаліся самаадукацыяй паводле вядомых і невядомых сістэм. На ўсіх была адзнака, пячатка: акрамя той, асноўнай. Адбітак бібліятэк, пошукаў у свеце вечных каштоўнасцяў і адзнака ўзросту — усё наперадзе.

Не супольнасць, зборня індывідуумаў, адзінства множнасцяў. Лаўцоў нечаканасцяў у гульні жыцця. Плынь падзей, подых рэчаіснасці — яны саступалі тут свету вобразаў, таемнай уладзе — нават не хараства, а густаў... Фарбам будучых драм і трагедый, лірычным ілюзіям з філасофскім падтэкстам. Усе знаходзіліся ў

магічным полі конадняў, вечнай традыцыі і вечнага чакання.

І, можа, галоўнае — яшчэ кожны, нават прымерваючы самую неверагодную маску, заставаўся самім сабой.

Не ведаючы таго, усе існавалі ў імгненнях, хвілінах, гадзінах, што пазней сталіся для кожнага аазісамі ў «пустэльні Быцця»...

...Стас тады ледзь не кінуў інстытут і не выправіўся заваёўваць свет вядомымі шляхамі рамантыкаў, паэтаў і мастакоў. Аднак у Парыж, як высветлілася, нават турыстам на які тыдзень трапіць было няпроста, а ў роднай Айчыне нават хіленькія мансарды мастакам выдзяляў Саюз мастакоў і выканкам. Прагу рамантыкі можна было спатоліць, выправіўшыся за туманам і ў напрамку, зусім процілеглым старажытнай Лютэцыі Парызіёрум[1] — гэты кірунак мала вабіў Станіслава, і ён скончыў інстытут, а суворая практыка дала магчымасць адчуць неабходнасць яго прафесіі.

Але гэта было пазней. А тады ў Вітольдавай майстэрні Станіслаў глядзеў, слухаў, трызніў наяве. Лічыў усіх людзей добрымі і шчырымі, свет — справядлівым, жанчын — бездакорнымі.

...Галіну ён упершыню ўбачыў на трамвайным прыпынку. Тым разам Станіслаў выпадкова сустрэўся з Вітольдам. Амаль адначасова падышла яна. І ледзь не адразу скокнула на прыступку вагона трамвая з расчыненымі дзвярыма — тады былі такія. «Кажуць, Вы выйшлі замуж?» — наўздагон кінуў пытанне Вітольд. «Кажуць», — адказала яна. І трамвай панёс яе ад іх.

Тады ж Вітольд распавёў пра яе: балерына, прыма, лаўрэат міжнароднага конкурсу. Паводле ўяўленняў тагачаснага Станіслава, багіня...

...За якія правіны багі выціснулі Галіну з Алімпа — ці Парнаса? — Станіслаў не ведаў. Галіна трапіла ў аўтакатастрофу. Яна засталася жывая, здаровая. Нават фуэтэ і закрутныя антраша рабіла. Як многія. Але не як Галіна Веснавая. І яна кінула балет... А выпадак з ёю,

[1] Лютэцыя Парызіёрум — старажытная назва Парыжа (*лац.*).

мабыць, падсвядома паўплываў на выбар спецыялізацыі Станіслава...

Яна ж паступіла на мастацтвазнаўчы, занялася гісторыяй балета. Вучыла італьянскую мову. Гэта ад яе ён аднойчы пачуў:

Da oggi a noi la cotidiana manna[1].

І яшчэ:

...giri fortuna la sua rota
Come le piace e il villan la sua marra[2].

Тэрцыны Дантэ... У траўні... У пару чаромхі і бэзу... З вуснаў багіні.

Аднак калі шчыра — Станіслаў доўга не выдзяляў Галіну сярод іншых у майстэрні Вітольда. Мабыць, да таго вечара...

А ў той вечар яна прыйшла, як заўсёды, адна. Чытала вершы.

І ў майстэрні з'явіўся Дзіма. Як адзначалі афішы і праграмы: Дзмітрый Дораш. З дамай.

Дзіма Дораш — прыгожы. Неўнікнёны. Герой-амант. У родны кут і на сваю родную акадэмічную сцэну ён вярнуўся пасля некалькіх сезонаў у адным з самых зорна вядомых на тую пару тэатраў Саюза. Рэч у тым, што будучыя лаўры ссыхалі яшчэ ў марах пасля начлегаў на вакзалах і без блізкай перспектывы маскоўскай прапіскі. Аднак водсвет знакамітага тэатра на абліччы Дзімы на адлегласці для ўсіх рабіўся яшчэ больш уражлівым, наперадзе была процьма жыццёвага часу, герой-амант не губляў свой кураж і адначасова паводзіў сябе натуральна, нязмушана, з лёгкасцю камільфо і чалавека з перспектывамі бліскучай кар'еры, увогуле жыццёвага prosperity[3]. Пазней ён вярнуўся ў той славуты тэатр на

---

[1] Дай нам сёння кожнадзённую манну (*іт.*).
[2] ...Хай Фартуна круціць сваё кола, як ёй падабаецца,
а земляроб — сваю матыку (*іт.*).
[3] Prosperity — працвітанне (*англ.*).

яго новым вітку рэжысёрам. Зазнаўшы арэлі славы і няславы, узлёты і падзенні.

А ў той вечар не паспела Галіна выйсці за дзверы майстэрні, як Дзіму нібыта ветрам вынесла за ёю. І — кумільгом — вылецеў ён, Станіслаў. Чаму? Ён не мог бы растлумачыць. Ён не сачыў за імі. Проста ішоў, як самнамбула. Нібыта нейкая падсвядомая сіла вяла яго за гэтымі дваімі. Менавіта так: Станіслаў не прамовіў бы пра іх — пара. Кожны сам па сабе. Ён і яна.

Станіслаў не раўнаваў. Не быў закаханы ў Галіну. Яе чар быў часткай агульнага чараўнічага кола, атачэння, асяроддзя. Можа, квінтэзіраваны час? Не ад пабочных з'яў — ад самой субстанцыі: хараства, жаноцкасці, Боскай прадвызначанасці.

Што прымусіла яго пакіравацца за гэтымі дваімі з майстэрні? Падсвядома, можа, і такое — якая таямніца ў гэтай асобы, калі Дзіму Дараша, як магнітам, пацягнула? Ды яшчэ і досыць бесцырымонна кінуўшы даму, з якой ён прыйшоў да Вітольда. А безумоўна —магчыма, галоўнае, нават: усё, што адбывалася ў майстэрні Вітольда, пачало раптам выходзіць за межы азначанага свядомасцю Станіслава. Месца, дзе галоўнае не змянялася ад з'яўлення новых візітантаў, умоўнасць таго, што адбывалася, акрэсленасць і нібыта зададзенасць падзей, так бы мовіць, ледзь не застыгла-статуарнага кшталту, вызначанасць ілюзій — усё разбуралася на вачах Станіслава. Ці, хутчэй, набывала нейкі іншы сэнс. Насуперак таму, які змест і сэнс надаваў гэтым выпадковасцям і выпадкам Станіслаў. У кожнага ж былі свае лабірынты душы і адстароненыя глыбіні... Магчыма, і жывая ісціна ў кожнага была свая? Свае міражы і падманы? Свая гульня люстэркаў розуму?

Але ж яны недзе перасякаюцца, ствараюць нейкую сістэму... Адлюстроўваюць — тое, што ёсць... І тое, што здаецца... І тое, што беларускі паэт называў «адвечнай тугой ідэалу...».

І сённяшні вечар — не капрыз выпадку, а дзіўнае, прадвызначанае, захапляючае? І нейкая жывая повязь паміж імі, трыма?

Нешта падобнае круцілася тады ў галаве Станіслава, а Галіна і Дзмітрый гаварылі, нягучна смяяліся, прайшлі па мосце і рушылі на стромую вуліцу, што вяла паўз парк каля Опернага тэатра. Ішлі — кожны сам па сабе, высокія, прыгожыя. Станіслаў падумаў: для балерыны яна трошкі высакаватая. Хаця — Плісецкая... Таксама не крохатка...

...Тымчасам Галіна і Дзмітрый дайшлі да брамы аднаго з дамоў, зніклі за ёю, а праз некалькі хвілін Дораш выйшаў і, пабачыўшы легкавічок, махнуў рукой. Аўто панесла героя-аманта...

А Станіслаў стаў спускацца паўз парк да моста праз раку. І раптам пачуў гукі. Яны несліся з парка — і ў іх чулася вясна, надыходзячая раніца. Яны, гэтыя гукі, нібыта расчынялі заслону — і за ёю знікалі таямніцы сэнсаў і адкрывалася нешта пазавоблачнае, патаемнае, з водарам бэзу і відавочнай адсутнасцю дыоптрый квазірозуму. Птушка падавала яму, Станіславу, Знак...

Такі Знак магла падаць толькі адна птушка — на мяжы ночы і дня. Салавей.

...А праз некалькі дзён, мо праз тыдзень, Станіслаў праходзіў праз сквер каля тэатра, дзе відачынстваваў Дораш, і заўважыў здалёк Дзіму — той бег да тэлефона-аўтамата. І пачуў яго добра пастаўлены голас:

– Перадайце Галіне, што званіў яе паклоннік.

Дзіма зрабіў паўзу і дадаў:

– Няшчасны паклоннік.

Тон, якім былі прамоўленыя апошнія словы, не даваў ніякіх падстаў лічыць Дзіму няшчасным, няшчасным паклоннікам — тым больш. Аднак на некага гэта павінна было зрабіць уражанне. Мяркуючы па часе, Дзіма тэлефанаваў у акадэмічны інстытут, дзе цяпер працавала Галіна.

Станіславу стала няёмка — нібыта падслухоўваў. Няёмка — ад гэтага вясёла-пераможнага голасу. Няёмка — падыходзіць ці не — да Дзімы? Але Дзіма, падобна, быў заняты сабой і Станіслава не бачыў.

Як ставіўся Дзіма да Галіны? Быў зацікаўлены? Пэўна. Закаханы? Хто яго ведае. Ці ведаў гэта сам Дзіма

Дораш? Якая мелодыя гучала ў яго душы? І хто можа пазначыць — формулай? нотнымі знакамі? — тую зямную ці незямную мелодыю?

...А ў той год і ў тую вясну ў Станіслава пачалася сесія, потым былі вакацыі. І ўжо восеньскай парою, ідучы неяк ад Вітольда, паркамі, ён убачыў Галіну і Дзіму. Ляцела жоўтае празрыстае лісце, неба было колеру гжэльскай парцаляны, — Галіна была ў нечым сіне-светла-жоўтым, у фарбах гэтага дня, а Дзіма ў шыкоўным уборы з моднай на тую пару замшы. І Станіслаў здалёк залюбаваўся імі — усё ж нешта ад мастака ў ім было! — і зноў падумаў: прыгожыя яна і ён. Але — не пара. Растлумачыць — чаму — ён не змог бы. Кожны неяк сам па сабе. Аднак не толькі гэта. Нешта мройнае, блытанае, замглёнае, нейкі неспалучальны кангламерат пачуццяў, адчуванняў, згод і нязгод, нейкія містычныя камбінацыі безданяў і вышыняў, варыяцыі ўчынкаў, прадыктаваных характарам і інтэлектам — усё гэта сыходзіла ад іх, і падобна, не магло ператварыцца ў тую гарманічную сітуацыю, якая заканчваецца знакамітым маршам у пэўнай урачыстай установе або сакральнымі пытаннямі ў святыні, абменам пярсцёнкамі і сентыментальна-вясёлай мелодыяй званоў і крышталёвым звонам келіхаў.

Так здавалася Станіславу. Можа, так хацелася Станіславу? Ён не ведаў.

...Аднак сапраўды — парай Галіна і Дзмітрый так і не сталі.

...Станіслаў хутка перайшоў праз шумную віа дэль Корса і нейкімі вулачкамі і вулкамі трапіў да фантана Трэві.

Прымасціўшыся на ўскрайку, ён слухаў перагукі званоў да вечаровай імшы ў суседняй святыні і глядзеў на блакіт, адзурра, аквамарын водаў фантана. Ад віядука Аква Вірга... Так, здаецца.

Станіслаў выняў з сумкі партрэт. Сінія, пералівістыя, з іскрынкай вочы. Вітольду ўдалося перадаць іх прыцягальны чар. Менавіта — чар, палон... Мройны, няўстойлівы, хісткі... Нібыта пэўніць — а зманіць. Не як за-

ваёўніца Кармэн... Як прынцэса Мроя: зробіць нейкі рух — і пераўвасобіцца: у воблака, ідэю, міф... Вось што вабіла і адштурхоўвала ад яе: яна нібыта ўзнікала і прыходзіла з казкі сноў і явы, каб, застаючыся сабою і толькі сабою, не дастачыцца да будзённага вопыту рэчаіснасці. Шкада, што яна не пражыла ўсё сваё жыццё — колькі там век — у балеце? Танцоркай. Актрысай. Можа, кінаактрысай. Такія вочы — ды буйным планам. Не вочы — кінанавэла.

Тады, як яны сустрэліся аднoечы зноў, ён заўважыў — найперш — вочы.

...Быў нейкі юбілей. І калі зайграла музыка, ён убачыў Галіну. Яна была прыгожая. Як некалі...

– Вы мяне памятаеце? — запытаў Станіслаў.

– Вундэркінд і анфантэрыбль, — усміхнулася яна. — А яшчэ — ці не будучы Сальвадор Далі.

– Вар’яцкі імідж, — засмяяўся Станіслаў. — Сальвадор Далі застаўся пры сваёй славе і хвале. А я скончыў медінстытут... І цяпер практыкую... — Станіслаў хацеў пра нешта спытаць яе, але замест гэтага прапанаваў, нечакана для сябе: — Танцуем?

– Танцуем.

І яны танчылі ўвесь вечар. І старыя добрыя танга, і нешта паміж факстротам і вальсам. І найноўшае...

Танчылі на даху ведамаснага дома ў цэнтры горада — там было нешта накшталт тэрасы. Так бы мовіць, танец на даху напрыканцы стагоддзя. Потым Станіслаў ухапіў яе здымак, які выскачыў з «паляроіда» юбіляра. І даў ёй ручку.

«А ў мяне вочы сінія», — прачытаў Станіслаў.

Апоўначы Галіна знікла. Як у казцы. Аднак не пакінула чаравіка. Не кажучы пра адрас ці хаця б тэлефон.

І адрас, і тэлефон ён знайшоў. А яе — не. Можа, той самы Провід вырашыў ўратаваць яго ад яшчэ аднаго расчаравання?..

Цяпер ён не хацеў бы яе сустрэць. Не.

Увогуле — ці хацеў бы ён пабачыць каго з тых часоў? З Вітольдавай майстэрні? Людзей з успамінаў?

...Меркаваць пра іх паводле звычайных — звычаёвых — вымярэнняў Станіслаў не мог.

Хаця нехта паводле прынцыпу гетэрахроннасці дасягнуў знешняга поспеху ў пэўным узросце. Нехта аддаў перавагу тым самым інтравертным магчымасцям, урэшце — сусветная культура даўно ведае так званую нарматыўную рэакцыю адыходу...

Дзіма ў самых неверагодных варыяцыях выпрабоўваў трываласць грунту мастацтва, аддаваў перавагу пазнанню эмпірычнаму перад дыскурсіўным, часам з'яўляўся ў іх горадзе: некаму тэлефанаваў, з некім сустракаўся...

Вітольд атрымаў новую майстэрню, узяў шлюб — ці то з нейкай высокай уладнай персонай, ці то з паспяховай жанчынай творчага кірунку, ці то — усё ў адной асобе. Ён рабіў выставы, меў поспех, даваў інтэрв'ю...

Мройлівыя паэтэсы... Выдавалі кнігі... Удзельнічалі ў розных саюзах, фондах, асацыяцыях... Набывалі вядомасць. Займалі пасады. Хто — губляючы паэтычную энергію, хто — не... Асобныя — аддавалі ўсё ж перавагу вольнаму лёту вольнай думкі...

Актрысы...

Кожны мадэліраваў сваё існаванне ўнутраным дзеяннем той матэрыі, у якой кандэнсаваліся ўласцівасці натуры і дзіўная радасць выпадковасцяў, абставін, горычы, сумніву, магчымага і немагчымага...

Усе яны былі тымі, каго ён ведаў на пачатку свайго свядомаснага шляху, з кім у яго на той момант было блізкае светаадчуванне, блізкі свядомасны статус...

...Нішто не вяртаецца... Аднак той аазіс памяці, мройны аскепак нябёс, з якіх праглядвала няўлоўная ісціна, ён застаўся і будзе з ім... Далёка ў скарбнічках памяці...

Станіслаў глядзеў на стругі фантана... Хараство, безумоўна, не выратуе свет, і нават аднаго яго, Станіслава Строцкага, не ўлашчыць ратункам... Аднак у вырашэнні «рэбуса Быцця» поўным банкрутам быць не дазволіць.

Нават калі ўсё канцэнтруецца ў нейкай фізічнай кропцы, перакрэсліўшы ўсе сутнасныя аналогіі.

Пью горечь тубероз, небес осенних горечь...

Не, цяпер вясна. Тут, у Рыме. На яго радзіму яна прыйдзе месяцы праз два. Тады таксама была вясна... Калі ён ішоў за Галінай і Дзімам... І калі сустрэў яе ў фіёлевы вечар, калі сама ісціна набывала выгляд гульні, а яны, на тым даху напрыканцы тысячагоддзя, былі па-за межамі ўсяго, што ёсць, у нейкіх імгненнях-аблоках, у свяце рухаў, у царстве немагчымага...

Падчас сустрэчы з Галінай ён ужо добра зведаў горыч страт і зазнаў расстасаванасць сваіх уласных пачуццяў, думак, паводзін... Ён зведаў ужо, так бы мовіць, некананічныя рысы тых, каго лічыў сябрамі. І досыць нагледзеўся і паспытаў таго, што псіхолагі называюць этыкетнымі паводзінамі і паводзінамі ролевымі, ролямі і антыролямі... Палітычныя гарцовішчы былі яму заўсёды чужыя, але ж каралі ў гарнітуры Адама і нават каралевы ў нішчымных прывідах — трапляліся на розных арэнах-пляцах...

І ўсё ж — тады ён яшчэ меў надзею. І спадзяванне. Цяпер — ён не хацеў не толькі новых расчараванняў, але і новых надзей.

Станіслаў не спяшаючыся прайшоў каля палаца Квірынале, па віа Кватра выйшаў да прыпынку метро «Барберыні».

«Рэпубліка», «Тэрміні», «Вітторыё Эмануэле»...

Станіслаў глядзеў на абшарпаныя сцены прыпынкаў метро, на шэрыя твары пасажыраў і пашкадаваў, што паленаваўся знайсці нумар у якім трохзоркавым гатэлі ў цэнтры...

...Аднак вось і яго віа Тыбуртына.

...Апошняя ноч у Рыме. Заўтра яны з сіньёрам Лантучы выправяцца ў Фларэнцыю. На золку. Па арэа дэль Соль. Дарозе Сонца.

...Было яшчэ цёмна, калі Станіслаў Строцкі выйшаў з прытулку айцоў-салезіянаў, куды яго ўладкаваў сіньёр Лантучы. Невялікі садок-патыё дыхаў вільгаццю і свежасцю. Водар — знаёмы і незнаёмы. Разгледзець было немагчыма — цёмна. Станіслаў адарваў лісток, памяў яго пальцамі...

І раптам пачуў спеў птушкі... Голас-Знак...

...У Рыме спявалі салаўі...

# «Я КВАРТУ ВОСЕНІ ВЫП’Ю»

*Памяці Эмы*

Калі мог быць філіял раю на зямлі, ён месціўся тут. Да здзіўлення ўдалая задума натуры, надзіва таленавітае жытло чалавека. Дзевяціпавярховы будынак на вузкай мяжы паміж морам і ракой. І некалькі ўтульных катэджаў.

Калі падняцца ў свой нумар на дзявяты паверх і зірнуць наўкол, уяўлялася ўрачыстасць жыцця — у неабсяжным восеньскім небе ў залеве лістоты, зялёнай з золатам, у шараватым блакіце мора злева і ледзь бачнай стужкі ракі — з правага боку. Адчувалася нешта ад духоўнага ладу Сусвету — не проста фізічная цішыня, а празрыста-звонны спакой мудрай прыроды. Гармонія фарбаў была такой неаспрэчнай, што здавалася — сама рука Першатворцы мела тут дачыненне асобае, любасць яго да гэтага ўскрайку лонду выяўлялася відавочна, зрокава.

Яна зведала менавіта тут нешта большае нават за шчасце: надзейнае суладдзе з прыродай, людскім атачэннем, з самой сабой.

Яна прыязджала сюды кожную восень.

Удзень тут лісце, здавалася, падала на зямлю проста з высокага, яркага неба. Надвячоркам сонца аплывала ледзь не ліпеньскай чырванню, далягляд мройна

супадаў з вадой марской затокі. А пазней, як запальваліся ліхтары, усё выдавала ірэальным, прывідным. Лісце на дрэвах ціха шапацела, здавалася, гэта не дрэвы нават, толькі згадка пра дрэвы, нешта трапяткое, няўлоўнае.

Удзень было цёпла, не было яшчэ прымаразкаў і ўначы. Туманы, слота не спяшаліся сюды. І яна не мысліла пра дажджы і мокры снег. Ёй было лёгка і зладна ў гэтай восені.

Паўз мора па ўзбярэжжы можна было ісці доўга-доўга, не стамляючыся і ні пра што не думаючы. Толькі адчуваючы, як вецер свежыць твар, як лёгка ісці па вільготным, шчытным, зворным пяску, каля самай хвалі прыбою.

Яна нібыта станавілася часткай гэтай восені, жыла, адчуваючы кожны дзень, кожную хвіліну, кожнае імгненне. Асалодна ведаючы цану самых звычайных, будзённых праяў: прачынацца, прымаць душ, выходзіць ранкам у лоджыю. Урэшце — глядзець на сябе ў люстра, не засяроджваючыся, проста зірнула — і адышла.

Ёй падабалася ўваходзіць у вялізную, светлую залу, дзе дзве сцяны былі з суцэльнага шкла. Тут адначасова спалучаліся ўтульнасць жытла і адкрытасць няхатняй прасторы. Памяшканне гэтае, па звычаі празаічна-ўтылітарнага дваццатага стагоддзя і падкрэсленай спрошчанасці соцыумаў, у якіх даводзілася існаваць жанчыне, звалася сталоўкай, але найбольш да яго падышла б назва «трапезніца», як да іх сняданкаў, полудняў, вячэраў падышло б слова «трапеза». Не па тым, што і як яны ўжывалі, а па той атмасферы, што існавала тут. Асабліва для яе.

Яна сядзела за адным са столікаў напрыканцы залы, проста ля шкляной сцяны, і амаль не бачыла ні залы, ні людзей у ёй. Глядзела ў сваю восень. Пад акном — празрыстай сцяной — тут месціўся невялічкі басейн, у ім з трывучай абыякавасцю знікаючага хараства дажывала свой век апалая лістота.

Nazłociło się liści,
Że koszami wynosić...

Ёй падабалася ўладкаванасць побыту і адначасовая адстароненасць ад яго.

Не было атрутнага занятку: кухарства. Яна ненавідзела рондэлкі, гаршчэчкі, місы. Шкварчэнне катлет на патэльні было гукамі пекла. Хатняе інферна, катавальня! Не кажучы пра выраб печыва — тут ужо ёй здавалася, што падсмажаныя піражкі высмоктваюць з яе хвіліны, гадзіны, гады жыцця. Непамыты посуд выдаваў варожым войскам — яго хацелася проста пабіць!

Магчыма, так здавалася таму, што, заўсёды занятая на службе, яна хацела ўхапіць якую гадзіну для сябе, сам-насам з мальбертам. Гэта ніколі не ўдавалася. Хіба што тут, на ўзбярэжжы. Кінуць пэўны заробак яна баялася. З многіх прычын...

Яна любіла кавярні: які-небудзь адметны інтэр'ер, чысты абрус, гжэчна-ўвішныя афіцыянты...

У гэтым доме яна на сняданак не хадзіла — ішла на ўзбярэжжа, дзе-небудзь у Дзінтары піла моцную каву з вяршкамі, купляла на тутэйшым таржышчы яблыкі, у кулінарнай краме — сякія-такія прысмакі, і — рыбу для бадзялых катоў Юрмалы.

Ёй падабалася, што ў тым доме, дзе яна месцілася, было ўсё: утульны, зручны пакой для жытла, бібліятэка, хаатычна выпадковая, але з нечаканымі кніжнымі знаходкамі, з абаяльнай бібліятэкаркай, часам яе кампаньёнкай за кубкам кавы або келіхам шампані — у бары, што месціўся якраз насупраць сталоўкі на першым паверсе. Завітаць туды можна было і адной — гэта таксама ўваходзіла ў непазначаны статус мясцовых зносінаў. Глядзець, сеўшы за столік, на ўтравелы ўзгорак-дзюну, у які ўпіралася акно бара, а недзе ўверсе высіліся ружаватыя ствалы соснаў і пышныя шаты-вярхолкі. І чамусьці ўгадвалася мора.

А ёй прыходзіла на думку, што ў яе родным краі ўзгорак абавязкова прыбралі б, «адчынілі б» від на мора. І нешта ў непадробнасці, натуральнасці пейзажа было б непапраўна страчана.

Як нешта зрушылася б у яе настроі, калі б яна пачала хадзіць тут у кіно. Або глядзець перадачы па тэлебачанні ў холе.

Яна аберагала сваю адзіноту. Па-за часам. Хацела жыць толькі ўражаннямі восені. Прачынацца з імі. Мець асалоду цэлы дзень. Засынаць з імі. Бачыць іх у сне.

Ісці ў гэтую восень з эцюднікам і мальбертам. Шпацыраваць па парку каля дома, па лесапарку, па ўзбярэжжы, ідучы ўбок Асары: пасля Пумпуры тут амаль нікога не было. Недзе яна надоўга прыпынялася і пераносіла гэтую восень на палатно. Яна не занатоўвала пэўныя пейзажы, не прадумвала кампазіцыю, цалкам падпарадкоўвалася волі ўражання, настрою, інстынкту. Уздзеянню фарбаў, пахаў. Мройлівае ўяўленне яе восені — яно перавандроўвала на палотны і замалёўкі.

Яна ведала, што пасля чарговай выставы будуць гаварыць: таленавіта, але занадта камерна, эмацыйна, непраяўлена. Па-за часам. Амаль што па-за рэальнай прасторай.

Аднак яна ўпарта ставіла ля сцяны кардоны і палотны, дзе былі россыпы восеньскага лісця, і было мора — сіняе, сіня-белае, шэрае, зеленкавата-аквамарынавае, жаўтавата-шэрае. І зноў — неба, мора, паласа ўздоўж берага, што прыцягвала сваёй незразумелай таемнай сілай: лес, дзюны, пясок, трывожны малінавы захад сонца.

Працавала яна тут узахліп. І не таму, што акрамя тых, добразычліва-вынёслых, спагадліва-фанабэрлівых, водгукаў былі і іншыя: так, лірыка, але прысутнічае і думка — зусім не хатняга, не пакаёвага кшталту, ёсць свой філасофскі грунт.

Ёй было неабходна выявіць, пазначыць у канкрэтыцы фарбаў свой настрой, увасобіць у выявах гэты восеньскі гіпноз.

Для яе існавала толькі гэтая восень. Гэты бераг. Гэтае мора. Гэтая будова на пагорку.

Непадалёк быў і Дом мастакоў. Аднак яна кіравалася звычна сюды. Каб існаваць адстаронена, засяроджана, на самоце. Хаця атачэнне Дома яна адчувала заўсёды.

Атмасферу яго. Дзеля гэтага ёй не патрэбныя былі асабістыя стасункі.

Гэтай парою сюды зазвычай прыязджалі адны і тыя ж людзі. Для кожнага, мабыць, восень у тамтэйшым кутку мела сваю акрасу.

Яна загадзя ведала, што сустрэне знакамітую перакладчыцу, сухаватую, высокую, без пячаткі свайго ўзросту, але з адбіткам існасці тых, каго перакладала. Ведала, што сустрэне разумнага, іранічнага эста, што як добры дамавік меўся атабарывацца тут. Чытаць яго, — а ён нават у перакладах захоўваў непадробнасць свайго голасу («калі прайсціся тралам па гісторыі» — як?), дык вось чытаць яго было такім жа неад'емным заняткам існавання ў восені, як ездзіць на вечарыны пры свечках у горад, каб слухаць вершы на незнаёма-прыцягальнай мове аўтара «Эпіфаній» і «Курзэмітэ», тым больш што чытаў сам аўтар.

Увогуле паэты любілі гэты куток. Прыязджалі з таго горада, для якога ніколі і ніхто не шкадаваў высокіх назоваў: паўночная Пальміра, паўночная Венецыя, град Пятра... З'яўляўся тут і паэт-масквіч, які тымчасам жыў у горадзе Пярну. І знакамітыя і невядомыя барды. Журналісты. Рэжысёры. Акцёры. Празаікі і перакладчыкі. Гэтай парой, у міжсезонне, прыязджалі і проста людзі, якім імпанавала аўра гэтага дома.

Аўра гэтага дома таксама была неад'емнай часткай яе восені. Яна віталася са сталымі гасцямі дома, абменьвалася нейкімі словамі з суседзямі за сталом, віталася кіўком галавы з тымі, хто месціўся паблізу. Аднак — яны былі неаддзельныя і неабходныя для яе восені, сам-насам са сваімі высокімі турботамі. І былі нібыта пейзане на якой выяве: неабходныя для кампазіцыі, сюжэта, каларыту, можа, і для «галоўнай задумы», але недзе на другім плане, у залаціста-зялёнай восені і цішыні.

Неяк з агульнай кампазіцыі, звычайнай і звыклай, вылучылася адна постаць. Неўпрыкмет з'явіўся чалавек з тварам, на які ёй хацелася глядзець. Нават не ўсведамляючы гэтага, яна заўважала яго каля мора, на

вуліцах, у бары, у сталоўцы. Высветлілася — яны жывуць на адным паверсе. Ён пачаў вітацца з ёю — лёгкі паклон моўчкі.

Ёй падабаўся яго твар — нешта ад старажытнага ваяра, нешта — ад асветнікаў пачатку дваццатага стагоддзя. Падабалася, што ён вітаецца з ёю без слоў, у лепшых традыцыях гэтага Дома. Хаця тут былі гаваркія хаўрусы, якія шумліва, тлумна ўладкоўваліся за доўгімі сталамі пасярод залы. Тыя людзі таксама падабаліся ёй, здалёк. Яны не перашкаджалі існаваць яе зацішы.

Здавалася, час спыніўся. Так і будуць існці дзень пры дні празрыста-сонечныя будзённыя святы. І заўсёды яна будзе бачыць халаднавата-строгі твар мужчыны.

Яна не чакала ды і наўрад ці хацела, каб ён падышоў да яе, распачаў гаворку. З усімі насельнікамі Дома, у тым ліку з прадстаўнікамі моцнай палавіны роду чалавечага, у яе быў наладжаны статус адносін, прыязны і адстаронены.

Першым разам, калі яна толькі з’явілася тут, адчувала пошум цікаўнасці тутэйшых бывальцаў. Пазней дамавік-эст у гаворцы за кубкам кавы ў бары хітравата згадаў: спрачаліся, ці маладая паэтэса, ці чыя дачка. Жанкі назіралі — завядзе раман ці не? Яна не здаволіла іх цікаўнасці: дваццаць шэсць дзён і начэй на самоце. Тады яна ўпершыню адчула выратавальную, гаючую абранасць гэтай мясціны. Восеньскай асалоднай адзіноты.

Пазней, калі ўзнікалі, так бы мовіць, «прапазыцыі», яна ператварала захады патэнцыяльных кавалераў у жарт, а тыя, у асноўным занятыя працай за пісьмовым сталом, былі не супраць інтрыжкі, аднак губляць час на доўгія заляцанні не збіраліся, усё вярталася «на кругі свае». Яна заставалася ў сваёй непарушнай кастэлі раўнавагі.

Ёй падабалася, што яна загадзя ўсё ведала пра сваё жыхарства ў восені. Як яна сядзе ў вагон з блакітнымі канапкамі, возьме ў горадзе таксоўку, прыедзе ў свой Дом...

Яна загадзя ведала, што акрамя тых шумлівых гуртоў і заўсёднікаў-бывальцаў абавязкова будуць прысутнічаць

вальяжныя літаратурныя дамы і якая-небудзь з іх, дэманструючы сваю дасведчанасць і добрае стаўленне да «гэтых беларусаў», прыліпне з пытаннем: «Скажыце, калі ласка, Уладзімір Караткевіч — геній ці не?».

Яна загадзя ведала, як сімпатычная доктарка, паслухаўшы і агледзеўшы яе, пагодзіцца з яе раскладам дня і не стане прапісваць працэдуры: «Гуляйце і ў слоту таксама. Няма кепскага надвор'я. Ёсць кепскае адзенне».

Яна была загадзя пэўная, што афіцыянткі — Хельгі або Надзя — знойдуць ёй месца за адным з улюбёных сталоў: тварам у восень і з людзьмі занятымі. Барані Божа трапіць у ласкавыя цянёты жонкі занятага мужа!

Увогуле тут можна было пазбегнуць непажаданых асабістых кантактаў. Аднак існавала адно месца, дзе размінуцца было немагчыма: ліфт. Яе выспартаванасці хапала на тое, каб ім амаль што не карыстацца. Аднак дзявяты паверх часам уводзіў у спакусу: адно імгненне — і ты на сваім гарышчы.

Аднойчы ў шчыльна замкнёнай прасторы ліфта апынуліся яна і адна з мясцовых дам біблейскага ўзросту — і ў апошні момант у ліфт заскочыў ён: мужчына з тварам вікінга. Дама была з тых, што прыязджалі сюды на некалькі тэрмінаў, прыхапіўшы ўвесь гардэроб, дэманстравалі шыкоўныя штучныя зубы, натуральныя кляйноты і — мелі схільнасць да французскай парфумы, паэтаў срэбранага веку, а таксама кавалераў, што не мінулі яшчэ рамантычнай пары жыцця.

Нечакана дама капрызліва-млявым голасам шэмізеткі прадэкламавала, свідруючы позіркам мужчыну:

Королева играла
В башне замка Шопена...

Дама відавочна замысліла будоўлю паветрана-мройнага палаца, з радкоў Севяраніна, іскрыстага бляску камянёў на пярсцёнках і замглёных поглядаў. Падобна, аматарка «повсесердно утвержденного» не адчувала, што пыл часу — не самы лепшы падмурак для збудавання, нават калі гэта паветраны замак.

Пакуль мужчына з тварам вікінга раздумваў, як яму, не пакрыўдзіўшы, вызначыць, што ён не падтрымлівае высілкаў дамы, яна, падпарадкоўваючыся выключна нечаму падсвядомаму, рашуча разбурыла першыя зладаванні замка:

И внимая Шопену,
Полюбил её паж... —

і выслізнула з ліфта...

«Вельмі вам удзячны», — пачула за спіной голас мужчыны з тварам вікінга.

...Назаўтра пасля выпадку ў ліфце яна вырашыла выправіцца ў горад: пахадзіць па старых вулках, завітаць у крамы, можа, набыць білет на канцэрт у знакамітай бажніцы.

Упершыню за ўвесь час, што яна бавіла тут, апранула не світар і штроксы, а сукенку, плашч, боты на высокім абцасе. Яна зрабіла гэта інстынктыўна. Але ж інстынкт, падсвядомасць падказалі ёй і гэта: трэба пазбегнуць сустрэчы з ім — яе раўнавага была відавочна пад пагрозай. Першае, пра што яна падумала, прачнуўшыся: дзе цяпер ён.

...Цэнтр горада яна ведала няблага, але звычайна прыпынялася ў скверы непадалёк вакзала, каб удакладніць маршрут па схеме горада.

– Збіраецеся заваёўваць горад? Але я ўжо прынёс ключы ад брамы, — пачула яна за сваёй спіной.

Гаварылі па-расійску, з ледзь чутным акцэнтам. Ён! Яшчэ не азірнулася, не паглядзела, не ўбачыла — аднак ведала пэўна: ён!

– Бяру даніну хараствем, — усё яшчэ не гледзячы на яго, расцягваючы словы, адказала яна.

– А за вялікадушнасць — вам частка даніны, — ён працягнуў ружу — колеру золаку.

– «Кварту восені вып’ю...» — распеўна згадала яна, узяўшы ружу.

І яны пайшлі скверам, не зважаючы на позіркі здзіўленых гараджан, якія спяшаліся па сваіх справах — будзённы дзень, раніца, восень: пара размеркаванага парадку дня, дзелавых сустрэч, цвярозых рашэнняў. Гэтыя двое відавочна парушалі спланаваны пейзаж працоўнага дня — darba diene. Што за выявы ў духу Вато? Ружа! Кавалер! Рамантычна-легкадумная дама!

Неўзабаве яны сышлі з поля зроку занятых людзей. Выправіліся на спатканне з забудаванай прасторай — як на спатканне з жывой істотай. Хадзілі па вузенькіх вулках старога горада, і яна распавядала пра таго самага беларускага рыцара літаратуры, пра якога пыталася маскоўская літаратарка, пра рамантыка і рэаліста, пра тое, як ён любіў гэты горад, хадзіў па бясконцых Пілсйела і збіраўся пажартаваць тут з самой пані смерцю: хіба можна каго знайсці ў лабірынце шматлікіх замкавых вулак? Іранічны рамантык.

Новы знаёмы вёў размову пра «Сагу аб Фрыцьёфе» і пра яе аўтара, Эсайяса Тэгнера, пра тое, што збіраецца рабіць фільм. Праўда, яшчэ не вырашыў: толькі пра вікінга Фрыцьёфа ці, паралельна, пра аўтара сагі: паэта, вучонага, святара. Яе спадарожнік распавядаў пра яго, Тэгнеравы, і свой край — Швецыю, расказваў аб радзіме сваёй маці — Лапландыі.

Потым яны яшчэ вялі гаворку. Пра што — не мела значэння. Чыталі вершы: ён — па-шведску, яна — па-беларуску, і разумелі адно аднаго. Заходзілі ў нейкія кавярні, трапілі на выставу мастакоў...

Наступным днём выправіліся ў Тукумс, які нагадваў ёй горад яе дзяцінства, а яму — яго. Потым — у Сігулду, і абодвум здавалася, што яны ў царстве сапраўднага, дзе кожны з іх чуў галоўную мелодыю свайго жыцця. Трапілі яшчэ ў Рундале, прыгожы палац, збудаваны Растрэлі — на пляскатым, што блін, зямельным масіве.

Шпацыравалі ў бок Асары па ўзбярэжжы. Часам яна брала алоўкі і блакнот, ён — кінакамеру або фотаапарат.

Яна затэлефанавала на працу і купіла пуцёўку яшчэ на цэлы тэрмін. А ён меўся тут быць ледзь не да самых Калядаў.

Яны блукалі па ўзбярэжжы... І яна ведала, што ён таксама адчувае свята восені. Як і яна...

Пра спатканні не дамаўляліся, ён ведаў, што раніцай сустрэне яе, яна была ўпэўненая, што заўтра ўбачыць яго.

...Нейкім вечарам, толькі што развітаўшыся з ім, яна пачула стук у дзверы. Гэта быў ён. Яна не здзівілася. Так і павінна быць. І дарагое віно, і банбаньерка з цукеркамі — усё зразумела. Ну, не піва ж будуць ужываць абраннікі восені: толькі гэтае старажытнае вытворнае ад вінаграднай лазы — лятарослі віннай. Ад віна патыхала сонцам, зямлёй, вясковай прасторай... Чуўся водар даўніны, чар мелодый патаемных сустрэч, угадваліся фарбы дыстынктоўных гасцяванняў.

Ён прынёс нават прыгожыя келіхі — гэта яна таксама ўспрыняла як належнае: ну, не з гранёных жа шклянак піць такое віно...

Яны вялі гаворку — і словы зноў не мелі значэння. Часам яна ўлоўлівала нейкую канкрэтнасць, рэальнасць фактаў у прамоўленым ім.

«Мая сястра доўга жыла ў Італіі. Там аддаюць перавагу чырвонаму віну».

«У Эсайяса Тэгнера я знайшоў цікавы ліст...»

«Мне падабаецца тут сыр. З кменам».

Ёй здавалася, што яна чуе не толькі ягоны голас, але і гукі мелодый (Моцарта? Глюка?), вызнае нейкія мройныя таямнічыя знакі — не інакш як з самых высокіх сфер.

І выразна-будзённы, настойлівы стук у дзверы падаўся ёй несправядлівым глупствам, нечым нелагічным, недарэчным, як дробат барабана падчас самага спеўнага арпеджыа арфы.

Гэта была аматарка паэзаў Севяраніна:

– У вас няма кіпяцільніка?

– Не. У мяне тэрмас з кавай.

– Даруйце.

Дама імкнулася праслізнуць у пакой, але яна не запрашала суседку прайсці.

Праз некалькі хвілін аматарка паэзаў зноў пастукала ў дзверы:

– Ці не разжывуся на дымедрол?

– На бяссонніцу не пакутую. Наша доктарка раіць на такія выпадкі доўгія шпацыры.

Суседка знікла.

Ён засмяяўся:

– Паліцыя маралі?

– Мабыць. Мясцовыя дабрахоты.

– Ну, сёння яна павінна ўжо супакоіцца.

– Наўрад. Вы кепска ведаеце жанчын...

– Трапная заўвага, — ён уважліва паглядзеў на гаспадыню пакоя і пачаў развітвацца.

Яна ж, хаця і злавалася на суседку, не мела пэўнасці, што вечар сапсаваны. Хутчэй — адкладзены. І наперадзе — вечары, калі рэальнасць аказваецца большым цудам, як самы чароўны сон.

Спала яна моцна і прачнулася з адчуваннем радасці. Яна бачыла і хацела ведаць толькі колер світанку сустрэчы. Пра фарбы фіналу не хацела згадваць.

Пра гэтыя фарбы ёй нагадаў твар жанчыны ў ліфце. Вядомая журналістка, яна летась такою ж парой гасцявала тут. З маладым, прыгожым чалавекам. Была яна вытанчана-элегантная, шчаслівая. Гэтым годам шчаслівая каханка прыгажуна не страціла сваёй зграбнасці і пекнаты, але журналістку нібыта попелам пасыпалі. Шараватая, як нежывая...

Адна...

А шведскі вікінг сёння з'ехаў у горад, папярэдзіў загадзя.

Яна прайшла звычна ўзбярэжжам у Дзінтары, выпіла кавы, доўга хадзіла паркам у Булдуры...

Да вячэры збіралася доўга, зрабіла некалькі выразных штрыхоў на твары: стрэлкі каля вачэй, ледзь заўважны тон на павекі. Паглядзела на сябе ўважліва ў люстэрка — здаецца, праходкі пайшлі ёй на карысць...

...Народу ў сталоўцы было мала — ці яшчэ збіраліся, ці вячэралі ў іншых месцах.

Яго не было...

Яна спакойна паднялася да сябе ў нумар. Села ў крэсла.

Вечар падлічваў хвіліны. Спакойна, мерна. Хвіліны нябачна пераўтвараліся ў гадзіны. Восем... Дзевяць... Дзесяць... Цішыня цяжка насоўвалася на яе. Адзінацаць гадзін, поўнач, гадзіна апоўначы...

Урэшце яна накіравалася ў ванную і стала пад душ. Вада супакойліва цурчэла, у мыла быў водар вясны, шампунь лёгка ператвараўся ў пену. А што, калі ўзяць ды падысці да яго дзвярэй, пастукаць... А другой гадзіне ночы? «Женщина, Ваше величество, как вы явились сюда?» А хутчэй: «Учитесь властвовать собою!»

Не. Яна ціха і сціпла пойдзе спаць.

Яна старанна раскладвае канапу. Старанна адкусвае яблык. Чамусьці п’е каву. Кладзецца ў ложак — і бачыць, як халаднавата паблісквають шыбы вокнаў, стыне абыякавай канкрэтыкай стол.

Яна ведае гэтае катаванне чаканнем. Стрэлкі гадзінніка як замарожаныя. Усе рэчы зрабіліся варожымі: бясспрэчныя сведкі няславы расстання. Аграмадны пісьмовы стол, крэслы...

Яна ўстае і выходзіць у лоджыю... Застылыя дрэвы, цёмныя вокны дамоў, пустыя сцежкі парка, пустыя тратуары — нібыта куток іншай планеты...

Рэальныя рэчы страчваюць сапраўдныя абрысы...

...Яна стаіць вельмі доўга, ні пра што не думаючы.

Потым рашуча зноў накіроўваецца ў душ, пускае халодную ваду, доўга стаіць пад ледзянымі стругамі.

Апранаецца, старанна зашпільваючы ўсе гузікі, акуратна завязвае вузел хустачкі на шыі. І таксама акуратна, педантычна пачынае збіраць рэчы.

Урэшце прыходзіць раніца. Ясная, чыстая, дабрамысная.

Яна спускаецца да мора, кідае рытуальную манетку і выпраўляецца ў Маёры, па таксоўку. Не, яна не аддасць свой зямны рай. Каб потым вяртацца сюды з шэрым, пашэрхлым тварам, маркоціцца ўспамінамі. Яна вернецца да цвярозай яснасці адзіноты і незалежнасці. Да высакароднага холаду адстароненасці.

Яна аддае ключы адміністратарцы, нешта мармыча пра нечаканыя абставіны.

...Таксоўка мякка рушыць з месца.

На перакрыжаванні дарогі каля Дзінтары яна бачыць высокага мужчыну з цэлым бярэмем белых і чырвоных ружаў. Гэтага мужчыну яна пазнала б сярод тысячы.

– Спыніцеся! — сутаргава хапае яна кіроўцу машыны за рукаво, і тут жа рашуча дадае: — Не! Едзем!

Яшчэ крыху — і яны выязджаюць на шашу.

«Ружы... У псіхолагаў гэта завецца: цукеркава-кветкавы перыяд», — яна ўважліва глядзіць, як кіроўца вырульвае на шашу.

Яе восень засталася там, на ўзбярэжжы. Разам з высокім мужчынам з тварам вікінга...

Як гэта? У знакамітага паэта?

Wypię kwartę jesieni,
Do parku pustego wrócę,
Na zimną, ciemną ziemię
Pod jasny księżyc się rzucę.

...Месяца не было... Была раніца. І ўзышло сонца.

Лічыльнік акуратна адстукваў кіламетры. Неўзабаве — вакзал.

«Я кварту восені вып'ю...»

# ІНТЭРВ'Ю

Гастролі... Яны пачыналіся з афішаў — калі ўрачыста выструньваліся святочнымі свечкамі каштаны і нібыта ўсю свежасць вясны збіраў бэз. А самі тэатры прыязджалі парою, калі патыхаў экзатычнай парфумай язмін і набывалі куртуазны водар ружы.

Гастролі... У самім слове адчувалася нешта заманлівае, звабнае. Гастроль. Роля госцяў. Відачынства славутасцяў прыезджых. Гэта асацыявалася з цеплынёй, квеценню, вольным часам вакацый...

У сваіх тэатрах Гэля прападала — і на прэм'ерах, і на праглядах, і на шараговых спектаклях. Але ў мясцовыя святыні Мельпамены можна было рушыць калі заўгодна, а гастролі бліснулі — і няма.

...Гэтым летам Гэля ўжо разрахавалася з сесіяй, атрымала летнюю стыпендыю, накупіла білетаў. І — распачалося: гіпноз скандэнсаваных думак, пачуццяў, слоў. Чар рухаў, жэстаў, гукаў. Магія паглядаў, позіркаў, паўз, паўтонаў, нюансаў... Нешта ад фантазіі сноў, эфект ілюзій... Умоўнасць вышэйшага кшталту... Перажыванне таго, пра што яна, Гэля, ведала і не ведала, пачаткам чаго было нейкае быццё, калі ўсе рэчы і сутнасці тыя ж і не тыя: яны packстворaныя... 

На гастрольныя спектаклі ў сям'і Гэлі было прынята хадзіць усім гуртам або, так бы мовіць, часткамі сям'і. Аднак прысутнасць Гэлі класа з сёмага была абавязковай.

Гэты год быў адметны тым, што Гэля пераканала ўсіх сямейнікаў у тым, што яна дарослая — увосень будзе 19. Цяпер сярэдзіна 60-х гадоў XX стагоддзя — час, калі кожны індывідуум мае права на самастойнасць. Гэля атрымлівае стыпендыю і мае такія-сякія ганарары — уласны капітал. З усяго гэтага вынікае, што бацькі могуць ехаць адпачываць самі па сабе, Гэля з каляжанкамі — сама. Бабуся можа дастачыцца да любой групы.

Праўда, бабуся ў сваю пару не адзін шэлег кінула ў скарбніцу ідэй эмансіпацыі, таму, як толькі самалёт, што кіраваў яе сына і нявестку на поўдзень, адарваўся ад зямлі, сабрала валізку і выправілася не далёка, але ўпэўнена — да сяброўкі ў Брэст.

Гэлі яна, пасмейваючыся, давяла, што не будзе трымаць маналогу пра паводзіны прыстойнай дзяўчыны — яна давярае ўнучцы.

І Гэля давер апраўдвала. Яна не стала збіраць на твіставанне рэшты — ужо 3-га курса журфака, што засталіся ў горадзе. Зазначыўшы, што ўсё роўна галоўны аб'ект увагі з'ехаў у сваю вёску, наперадзе яшчэ вандроўка ў Кактэбель — без бацькоў, ды і яна, Гэля, збіраецца ледзь не кожны дзень хадзіць у тэатр. Урэшце — продкі ніколі не пярэчылі зборням у іх кватэры.

Але ў Гэлі былі свае планы. Што-небудзь «шкрабануць» наконт гастроляў. У горадзе, дарэчы, толькі што адгасцяваў адзін знакаміты тэатр — лепшыя пёры тачыліся там. А цяпер — ліпень, спёка, можа, тыя зубры пяра адпачываць паехалі. Гэля ж вызначыла на афішы пару назваў: вось тут яна і паспрабуе ўкінуць свае тры грошыкі.

«Дон Жуан», паводле Байрана. Куслівая іронія Джорджа-Гордана. Выштукаваная сцэнічная кампазіцыя, з густам мізансцэніраванае дзейства, дэкарацыі знакамітага, нядаўна памерлага майстра. Дыстынктоўны, адмоўна і неадмоўна абаяльны герой — пластычны, феерверкава-нечаканы, персанаж, які жыве ў рытме авантурна-вольнай асобы — Горскі. Актор выдатны, але на шырокіх абшарах не вельмі вядомы: у кіно, падобна, не здымаўся.

Прыйшоўшы са спектакля, Гэля ліхаманкава накідала некалькі старонак, з самага ранку паляцела да машыністкі — сваёй машынкі яшчэ няма, ды і не так проста разжыцца на тое прыстасаванне: друкарскія прылады і капіравальныя пад пільнай увагай адпаведных і неадпаведных установ. Ну, адным словам, у дзесяць гадзін раніцы Гэля ўжо шыбавала па лесвіцы Дома друку, у аддзел культуры адной з галоўных беларускіх газет. Не ўпершыню — яе ўжо друкавалі.

...Загадчык аддзела чытае адразу. Тэатральная рэцэнзія ці адразу, ці на святыя ніколі. У нумар!

Гэля накіроўваецца да дзвярэй, але чалавек, што сядзеў моўчкі, — прышлы, Гэля гэта ведае, просіць:

– Пачакайце хвіліну.

Гэля насцярожваецца.

– Пакіньце свае каардынаты. І заходзьце да нас таксама.

«Да нас», як высвятляецца, у спецыяльнае, літаратурна-мастацкае выданне.

– Добра, — салідна адказвае яна і бяжыць па лесвіцы так, нібыта ў рэдакцыі ёй прымайстравалі пару крылаў на хэбэшную кашулю фабрыкі імя Крупскай.

Назаўтра Гэля купляе добры тузін газет са сваёй рэцэнзіяй і шыкоўным фота Дон-Жуана — Горскага.

А шарик вертится и крутится,
И все время не туда, —

гарлае Гэля, хаця ёй здаецца, што ў гэты момант у светабудове і на планеце Зямля няма ніякіх загнаў, аднак песенька ёй падабаецца, пачуць яе можна толькі з рэнтгенаўскіх плёнак ды дзе-небудзь у кампаніі, а галоўнае — даведалася яна яе ўпершыню ў Кактэбелі. Пад гэтую песеньку выдатна шаруецца паркет. Тэлефонны званок. Прыемна. Жыццё яе пакуль увогуле ў асноўным — прыемнае. Гэля бярэ трубку.

– Прабачце, можна пачуць Верасовіч-малодшую?

– Можна, — гарэзліва адказвае Гэля.

І тут ледзь не выпускае трубку з рук. З рэдакцыі, дзе мастацтва і літаратура.

– Ведаеце, я прачытаў вашу рэцэнзію, — гаворыць учарашні знаёмы, — і хачу прапанаваць.

– Слухаю, — насцярожана адказвае Гэля.

– Зрабіце інтэрв'ю з Горскім. Увогуле напішыце нешта накшталт яго партрэта, прыстачыце туды інтэрв'ю. Усё — на ваш густ. У стылі сённяшняга матэрыялу.

– Добра, — важна згаджаецца Гэля.

– Вы разумееце — аператыўна.

– Разумею.

Назаўтра Гэля тэлефануе, падпільноўвае Горскага.

– Даруйце, я да вас.

– Увесь — увага, — ветліва-паблажліва азываецца Гэлін герой.

Гэля працягвае рэцэнзію як даверчую грамату і хуценька выпальвае просьбу пра інтэрв'ю.

– А я думаў, вы са школы, у тэатр, на ролі травесці.

«Чаму травесці?» — крыўдзіцца Гэля, а ўголас паслухмяна згаджаецца сустрэцца заўтра ў скверы па дарозе ў тэатр, перад спектаклем.

Прыйшоўшы дамоў, Гэля доўга круцілася перад люстрам. «Чаму травесці?» Яна не такая ўжо малая ростам, каб дзяцей іграць. Гэля выцягнула ўвесь матчын гардэроб, прымервала кожную сукенку і спадніцу, аднак высветліла, што да досыць субтыльнай мамы Гэлі ўсё ж яшчэ далёка — усё на ёй вісела, як на вешале.

«А ўрэшце, — вырашыла Гэля, — цінэйджар дык цінэйджар, галоўнае — як яна напіша пра Горскага». І Гэля апранула белую хлапечую кашулю — дублікат той, якую толькі што зняла: набытыя былі гэтыя стандартызаваныя паводле ўсіх ГОСТаўскіх параметраў вырабы ў аддзеле для падлеткаў. Зацягнула скураны пас на спадніцы, набытай з выпадку ў камісіёнцы. Перакінула праз плячо скураную сумку-планшэт. Спартыўна-дзелавы стыль.

Травесці дык травесці. Галоўнае — яна ідзе паводле задання рэдакцыі!

Прыйшла Гэля ў час. Яна памятала: дакладнасць — ветлівасць каралёў.

Герой яе матэрыялу — ужо на месцы. Дзіўна — з шыкоўным букетам кветак. І Гэля — гэткім капрызліва-звычным тонам свецкай ільвіцы і загартаванай газетнай ваўчыцы мовіць: «Здаецца, крытыкам не прынята дарыць кветкі». Горскі відавочна разгублены. Гэля задаволеная сабой: «Бач ты, як я яго чапанула». Актор працягвае ёй тымчасам... палову букета.

Гэля здзіўленая: «Дзівак!» Аднак раздумваць пра акторскія дзівацтвы няма часу. Трэба браць інтэрв'ю.

Гэля борздзенька зюзюкае свае пытаннечкі — як ёй здаецца, на звышінтэлектуальным узроўні: ніякіх там — што Вы лічыце лепшым творчым набыткам, якія ролі Вам хацелася б сыграць. Ніякіх банальнасцяў. Сур'ёзная размова.

Падобна, і Горскі, і яна задаволеныя сустрэчай.

Актор выкіроўваецца рыхтавацца да спектакля, а Гэля хуценька забягае ў музей, што ў парку па дарозе ў тэатр, аддае букет матчынай сяброўцы: «Заўтра забяру». І таямніча, тэатральным шэптам паведамляе: «Каб Вы ведалі, ад каго...» Чынна выпраўляецца ў тэатр. У тэатр! — на працу!

Спектакль Гэля глядзела, баючыся прапусціць хоць якую рэпліку ці слова. Уся — сама ўвага. Тут усе вось адпачываюць, а яна — працуе. Крытык.

У зале Гэля, праўда, заўважыла свайго заказчыка — мабыць, кантралюе, ці тое напіша, ці пра тое. Ну, урэшце, мае права.

Да канца спектакля Гэля спісала ледзь не ўвесь нататнік — хоць ты дысертацыю пішы. «Трэба будзе займець фотаапарат», — адзначыла яна сабе, прыкмеціўшы пару фотакараў.

Гэля яшчэ корпалася, запіхваючы нататнік у сумку, зашпільваючы зашчапку на сваім планшэце, калі далі заслону.

...Апладысменты. Адзін выхад, другі, трэці.... І з'явіўся Горскі. Са знаёмымі кветкамі. І ўручыў іх галоўнай гераіні... Як высветлілася, жонцы...

Тут Гэля адчула, як яна чырванее. Здаецца, да пятаў. «Крытыкам не прынята дарыць кветкі...» Такі, мабыць, не прынята. Гэля паціху прасунулася да выхада... Хутчэй адсюль...

Інтэрв'ю яна больш ніколі не брала...

# ЛЯМПА ПСІХЕІ

«...Ад неверагоднай спёкі ў Францыі ўжо загінула 45 тысячаў чалавек». «Гараць лясы поўдня Францыі». «Агонь падыходзіць да Рыўеры».

Голас дыктаркі чамусьці жвавы, ажыўлены, нават радасны. Звыклы стэрэатып добрага настрою ў эфіры? Няўменне вызначыць патрэбную танальнасць?

...«Нечуваная спёка ў Еўропе». «Пацяпленне планеты... Еўропа можа ператварыцца ў Афрыку». Канстатацыя фактаў. Прагнозы. Назіранні.

Ён глядзіць на экран тэлевізара: спапялёная зямля, абгарэлыя дрэвы... Belle France... 2003 год ад нараджэння Хрыстова... Самлелы ад спёкі Парыж... Пекла ў Італіі.

«Зеленая летучая звезда... Моя любовь, моя Европа...»

Францыя... Парыж...

Mijając ulicę Descartes
Schodziłem ku Secwanie, młody barbaryńca w podróży
Ośmielony przybyciem do stolicy świata.

Ён, варвар Тадэвуш, як і «młody barbaryńca», у той год, калі ствараліся гэтыя радкі, трапіў у Парыж. 1980-ы.

Памятаў, як адна мелодыя нашэптвала яму, грасіравала, казытала слых. «Люблю я ў вечаровы час...» Шлягер юнацтва Тадэвуша... Іў Мантан...

І Тадэвушу здавалася, што са знакамітай вежы, куды іх выкіравалі адразу з аэрапорта Арлі, ён найперш пабачыць бажніцу Святой Мадлен і той самы ланцужок бульвараў... Праменад шансанье... Бульвары... Капуцынаў, Італьянцаў, Манмартр, Сэн-Дэні, Сэн-Мартэн... Пуасаньер... Бамаршэ... Усё канкрэтна, рэальна, усё мройна, блытана, няўлоўна.

Як на выявах Пісаро... Як у рытмах мелодый шансонаў — просценькіх, але з неад'емным шармам весялосці, тугі і пяшчоты адначасова... Як у звабнай прыцягальнасці парыжанак — звычайных і таямнічых...

Усё гэта Тадэвуш сабе ўяўляў, але з пляцоўкі вежы пабачыў толькі прыгожы, гарманічны хаос дахаў, і як рукой дастаць — Сакрэ-Кёр, хаця святыня месцілася недзе на другім канцы горада і, здаецца, не вельмі падабалася парыжанам сваім цяжкавата-візантыйскім абрысам. І зразумела, чаму жыхары гэтага горада ўрэшце пагадзіліся з металічнымі карункамі Эйфеля: панарама з вежы ўражвала, ды і сама вежа неяк адасоблена высілася — над горадам, — нібыта мачта таго сімвалічнага карабля на гербе Парыжа, з дэвізам: «Хвалі б'юць яго, а ён не тоне».

Панарама ўражвала — аднак Тадэвуш хацеў бачыць Парыж не з вышыні птушынага палёту: хутчэй бы трапіць на вулачкі Утрыла, на свае вочы пабачыць усе тыя ру Сент-Анарэ, дэ Рывалі, авеню Матыньён, дэ л'Опера... Выпіць знакаміты аперытыў за столікам якой кавярні. Аднак пакуль што, паглядзеўшы на Парыж з вежы, яны вярнуліся ў аўтобус.

Сталіца была ў іх вызначана напачатку і напрыканцы маршрута. У дзень прылёту — абед, вежа Эйфеля і вылет у Бардо. Знакамітыя замкі-шато Луары заставаліся пад крылом самалёта авіякампаніі Эйр-Франс. А ў Парыжы з акна аўтобуса ўсё было так, як ён сабе ўяўляў, хіба што высокія глухія сцены ад аэрапорта Арлі да горада і падобныя да вусеняў калідоры-пераходы ад трапа самалёта — было тым, пра што ён не ведаў нічога.

Увогуле гэты горад быў яму завочна знаёмы, як ніякі іншы. Парыж Дзюма, Гюго, Бальзака, Мюсэ. Парыж Клода Манэ, Пісаро, Дэга, Апалінэра, Сартра, Верлена, Бадлера... Парыж Хемінгуэя, Эрэнбурга, Віктара Някрасава, Рэнэ Клера, Ламарыса. Яшчэ, яшчэ, яшчэ... Запаветная кніжачка з серыі «Гарады свету»... Схема Парыжа...

Паветра Парыжа... Не тое, фізічнае паветра, пра якое пішуць даведнікі: з пылам, выхлапнымі газамі, а настоенае на аўры стагоддзяў, на інтанацыях эпох, на «эстэтычных мелодыях», на ўзвышанай логіцы ліній, фарбаў, кампазіцый, на вытанчанасці ўспрыняццяў, эмоцый, адчуванняў і на тым, гаманлівым, буйным, кірмашовым, што французы называюць гучным спалучэннем: «Бруга-га!». Яно нагадвае раскацісты лёскат грасіруючага «р» у шансонах Эдзіт Піяф. Выштукаванасць думкі, выкшталцоная адухоўленасць — і сумесь цынізму, фантазіі і іроніі...

А між іншым, таго смогу, пра які так зацята распавядалі даведнікі, ён не адчуў — можа, таму, што нядзеля: уік-энд — гэта ўік-энд.

...Лёгкі матыўчык усё накатваў рытмічнымі хвалямі, і ў самалёце знакаміты шансанье нібыта мармытаў недзе ці не ў вентыляцыйным начынні: «Люблю я ў вечаровы час...» Тадэвуш вызнаваў лёгкасць, нават нейкую бязважкасць. І не мог пазбавіцца адчування нерэальнасці. Здавалася, гэта ці сон, ці нейкае кіно. Яшчэ 20–30 хвілін, і ён скуліцца на якую-небудзь каляпалярную шырату. «ЛЭП-500 — няпростая лінія...» Што праўда, то праўда. ЛЭП — гэта рэальна. «Грубо, зримо...» А замежжа...

Замежжа для яго не навіна. Аднак Парыж... Праз нажыты скептыцызм і жорсткі прагматызм заняткаў Тадэвуша праглядвала рамантыка чытанага і ўяўленага, рэальнага і прывіднага. Можа, яшчэ і таму, што на гэта нацэльвала дарога? Ён любіў дарогу. Кожную. Любую. На ўсюдыходах праз тайгу, пешшу, з рукзаком за плячыма, у бясконцых цягніках, у траскіх грузавіках, у аўтобусах. На самалётах — таксама любых — пачынаючы

ад «кукурузніка», ужо адышоўшага ў гісторыю. Морам — на чым заўгодна.

Дарога заўсёды нешта абяцала. Заўсёды ў нечым падманвала. Спавядала перадусім прынцып няпэўнасці. А сістэма душы аказвалася цалкам непадлеглай ніякім законам. «Spiritus flat ubi vult». — «Дух вее, дзе хоча». Там, у тайзе, на чарговым ЛЭПе, ён і тыя, хто быў побач, аказваліся па-за матэрыльнай культурай, па-за культурай побыту, ледзь не па-за цывілізацыяй увогуле. Спачатку — пасля свайго чысценькага, прыбранага, кранутага пацінай гісторыі і часу заходнебеларускага гарадка, а пазней — балтыйскага горада, які тутэйшыя з гонарам называлі «маленькім Парыжам», яму было проста цікава апынуцца ўдалечыні ад дабротаў сучаснага свету, у вузкім атачэнні людзей, часам на самоце, так бы мовіць, сам-насам з сусветам.

Яму хацелася спасцігнуць сутнасці і адначасова адысціся ад горкай праўды. Ён разумеў узаемавыключальнасць гэтых памкненняў, нават абсурднасць іх. Ён сёе-тое зведаў пра рэальнасць, і не з чыіх вуснаў. З часам у яго былі складаныя адносіны: сэнс часу для яго быў недасягальны: у рэальным часе ён існаваў, гістарычны час выдаваў сваю ненадзейнасць, і вялікай бадзёрасці ад яго Тадэвуш не займеў — мройнае, няпэўнае, супярэчлівае, жорсткае мінулае, хісткі сённяшні дзень, у ім апірышча толькі ў вокамгненным, матэрыяльна асязальным... А будучае? Што гэта? Фантазія? Пастка? Бездань? Некалі ў газетах пэўнілі: будучае — «ззяючыя вяршыні». Ад гэтай перспектывы відавочна патыхала цэкоўскім аптымізмам і пустым фанфаронствам. Для сябе ён вызначыўся: выпрабаваць свае сілы, адысці ў чыстую экзістэнцыю. Рабіць патрэбную справу, адстароніцца ад ілжы афіцыёзу і ад маруднай будзённічыны. ЛЭП — патрэбная справа. Электрычнасць пакуль што — грунт усяго. Вярталася ў пару юнацтва Тадэвуша на сваё месца ў навуцы і жыцці кібернетыка, фізікі-ядзершчыкі былі героямі дня і сучаснасці, укінуць слова пра квантавую тэорыю спрабавалі і на вечарынах. Тадэвуш доўга цягаў з сабой

фотакопіі кніг Рэзерфорда, Нільса Бора, Макса Борна, старэйшага Капіцы, зачытаў ушчэнт Норберта Вінера, выпісваў навуковыя часопісы — і браў з сабою. Але з цягам часу супакоіўся, зрабіў дысертацыю па рэлейнай абароне электраперадачаў, абараніўся. І стаў купляць серыю «ЖЗЛ» і тое, што было блізка, падарожныя нататкі рознага кшталту, мемуары, кнігі па гісторыі, асабліва замежнай — менш падтасовак і хлусні. Не грэбаваў мастацтвам, паэзіяй, прозу чытаў менш — і таксама больш замежныя пераклады.

Увогуле сустрэчы з цывілізацыяй Тадэвуш цаніў асабліва. З культурай быў на «Вы». Прыязджаючы дамоў, любіў схадзіць у тэатр, на выставы. Свой шлюб, яшчэ студэнцкі, лічыў не проста памылкай, але грахом. Спакойна ставіўся да другога мужа сваёй былой жонкі. Да сына цягнуўся, аднак той усё больш адыходзіў ад яго. І толькі праз гады Тадэвушу ўдалося наладзіць з ім роднасныя стасункі. Сын любіў паэзію. Як высветлілася, тых жа, «клятых» паэтаў:

Ты рушыш край
сусветнага парога,
Дзе прагне мець спакой душа мая,
Цячэ ў мяне нябёсаў стынь,
як плынь,
Я да Цябе імкнуся:
дзе яна, дарога?

Вось тыя канкрэтныя, зямныя дарогі ў Францыі ён памятаў да драбніц. Дванаццаць дзён, як адзін дзень... І кожны дзень — ці не большы за век?

Тадэвуш даўно заўважыў, што дарога абуджае ў большасці людзей рамантыкаў і авантурыстаў, вяртае адчуванне маладосці, нейкіх лірычных стыхій. Такія вандроўкі, падарожжы — тым больш. Новыя ўражанні, змена ландшафтаў, селішчаў, малых і вялікіх, пазнаванне — відавочна — даўно знанага, выяўленага, канкрэтызаванага ў нечаканых і чаканых дэталях, знаёмства

з новым. Усё гэта — у фарбах, гуках, рэльефнасці, пахах. Адчувальнае, спазнанае на дотык — ва ўспрыманні сённяшняга дня і з непаўторным водарам мінулага. Дакрананне, дотык да пачуццяў, думак, настрояў — арэчаўленых у матэрыі дойлідства, творах мастакоў, у мройнасці духоўных гармоній і супярэчнасцяў, згусткаў эмоцый, сэнсаў... Кожны з групы адчуваў гэта па-свойму, але стваралася пэўная аўра: не светапоглядная з'яднанасць і не эстэтычная, а нейкі тып даверчай камунікацыі, бо ўсё, што яны бачылі, пэўным чынам аб'ядноўвала іх, як і аднолькавая часавая адстаронепасць ад клопату працоўнага, побытавага, нават стыль паводзінаў пэўным чынам вызначаўся ўжо не імі, а сітуацыяй, абставінамі, раскладам дня, маршрутам, прапанаванай інфармацыяй. І — вольным часам. Урэшце — настроем, калі не святочным, дык адпачынкава-правольным — «отдохновенно-праздным». Вакацыйны лад. Ці то як у сучасных студэнтаў. Ці то як у старадаўніх шкаляроў. А можа, гэта быў настрой галантнай вандроўкі куртуазна-вытанчаных шэвалье і дыстынктоўных дам? Гэткая «пілігрымка на выспу Кіфера»?..

Тадэвуш тады разглядаў сваіх спадарожнікаў. Ці проста будзе адарвацца ад групы? І што потым цісвуць у яго характарыстыцы, якую ён ніколі не пабачыць? Ці пацвердзіць ён тое, што ўжо было занатавана: «палітычна ўсвядомлены, маральна ўстойлівы, грамадска-актыўны»...

Тады ў Парыжы іх аўтобус ад вежы Эйфеля скіраваўся да нейкай харчэўні. «Poulailler» — «Курнік». Назва, што ў раманах Дзюма. І ўсё, як ён сабе ўяўляў: віно, ножка каплуна. Клятчастыя абрусы, клятчастыя сурвэткі... І — нечакана — незадаволены жаночы голас: «Ну, эти французы! Вино, вино! Нет, чтобы супчику, чайку...». Потым той жа голас: «Тоже мне — Париж! Ни одной красивой бабы не вижу!». Голас належаў масіўнай даме, якую чамусьці ведалі ўсе. «Натуся, табе роўных тут няма», — іранічна супакойваў яе начальнік групы, Фёдар Іванавіч. «Кто может сравниться с Матильдой моей», — усмешліва падтрымліваў Фёдара Іванавіча чалавек з

Кішынёва. А суседка Тадэвуша за сталом у «Курніку», Ніна Якаўлеўна, дзівілася: «Няўжо Вы ніколі не бачылі перадачы Наталлі Ватрушкінай?». Тадэвуш паціскаў плячыма: «Я ж чалавек з лесу. Якія там тэлевізыі!». Тады Ніна Якаўлеўна паставілася да Тадэвуша з пытаннем, якое не давала ёй спакою ад самай Масквы: «Але ж гэта ці не вы давалі інтэрв'ю? «Лепшы фотамастак года»? Тадэвуш матнуў галавой: «Быў такі грэх. Але я інжынер, электрык... А гэта...» — «Хобі!» — радасна падхапіла Ніна Якаўлеўна. Паспяховая спявачка, яна была добразычлівая і кантактная, маці дарослай дачкі, ставілася з цікавасцю да маладых мужчынаў, што маглі б быць «партыяй» яе дачкі. «Вы і тут будзеце здымаць?» — спытала яна. «Наўрад», — выціснуў з сябе Тадэвуш. Не будзе ж ён распавядаць, як сябры сагітавалі яго на наладжванне выставы, як яна мела поспех, а поспех адзначалі так старанна, што і фотаапарат, і ўсё начынне да яго засталіся ў кватэры дружбака, які нечакана з'ехаў у камандзіроўку. Так што такі важны фрагмент яго жыцця застанецца занатаваным толькі ў памяці.

Меладычны галасок Ніны Якаўлеўны выдзяляўся ў групе, як і басавіты, заўсёды нечым незадаволены «глас» Натусі. З Натусі пасмейваліся — пацішу і голасна, але ў яе быў той неймаверны запас самапавагі, які робіць чалавека недатыкальным.

«Як называецца вакзал? Салазар?» — пыталася яна, калі група, ужо вяртаючыся з поўдня Францыі, атабарылася на чатыры дні ў Парыжы, у гатэлі «Гарнье», паблізу вакзала Сен-Лазар. А ў адным з музеяў яна ніяк не магла супакоіцца. У яе было важнае пытанне: «Дык на якім ложку ўсё ж спаў Напалеон?». Урэшце, яе пазнавальны імпэт і сталічныя амбіцыі — «на всех московских есть особый отпечаток» — яго ніяк не датычылі.

Затое яму падабалася, якую агульную танальнасць надавала іх падарожжу гід Люсі. Дагледжаная, субтыльная, сапраўдная парыжанка: прыгажосць і свавольны чар гумару, непадробны шарм і маладжавасць. Калі яны вярталіся ў Парыж, пасля падарожжа ў Ланды, у

край баскаў, яе сустракаў малады чалавек, сын. Нехта здзіўлена спытаў, колькі яму гадоў, а Люсі кінула, відавочна ведаючы эфект рэакцыі: «Гэта малодшы. Старэйшаму — трыццаць шэсць». Затое калі адноечы людзі з групы паспрабавалі а дзявятай гадзіне вечара пастукаць да яе ў нумар — нехта завяз у ліфце, —дык пабачылі іх наймілейшую экскурсаводку гняўлівую, што Юнона: хараство і маладосць патрабуюць жорсткай дысцыпліны. У дзевяць гадзінаў увечары Люсі клалася спаць. Затое ўраніцы была ружова-свежай, нібы спелы персік, і прыветнай, што гаспадыня, якая сустрэла чаканых гасцей. А гняўлівую багіню ў кіпені карункаў пеньюара доўга згадвалі мужчыны групы. І кожнага дня вандроўкі ў іх экскурсійна-аглядным соцыуме зноў царавала атмасфера маладосці, і лёгкі авантурны дух матэрыялізаваўся ў гарэзлівай песеньцы Люсі і прыпеве, які бадзёра падхоплівалі ўсе: «Oui, oui, oui, chevalier! No, no, no, chevalier!» — « Так, так, так, шэвалье! Не, не, не, шэвалье!»

У самалёце — калі яны ляцелі з Масквы да Парыжа і са сталіцы свету (паводле Чэслава Мілаша, і не яго аднаго) у Бардо, гэтай атмасферы таварыскасці і агульнасці яшчэ не было. Затое адбылося іншае. Тадэвуш доўга дапамагаў жанчынам (іх было палавіна групы) насіць валізкі і ў салон самалёта ўвайшоў ледзь не апошні. Адно месца ў сярэдзіне салона было вольным, і ён, не гледзячы, заняў яго. Спачатку заўважыў незвычайную блузу сваёй суседкі: чорны шыфон з лёгкім, што павуцінне, белым карункавым — шытвом? Адкуль такое? Да адмысловых строяў у іх Айчыне ставіліся без асаблівай павагі. Тут, безумоўна, не было мастацкага факту ад куцюр, аднак... Няўзнак Тадэвуш зірнуў на профіль — не тое каб класічна правільны, але рысы твару тонкія і адначасова мяккія, нібыта кранутыя растушоўкай, было ў профілі нешта няўлоўна-кранальнае, безабароннае. Шчака яе была зусім блізка, і яму раптам, як хлапчуку-падлетку, невыносна захацелася дакрануцца да яе сваёй шчакой. У нейкі момант, каб пазбавіцца ад гэтага наслання, ён

вырашыў загаварыць з суседкай. Аднак яна сядзела, прымружыўшы вейкі — ці то спала, ці то проста не хацела размоў, — і ён не рызыкнуў парушыць маўчанне. А калі на табло запалілі: «No smoking!» і самалёт пайшоў на пасадку, ён пачуў упершыню — смех, як лёгкі перазвон калакольцаў: «Добры вечар!».

А потым у Бардо іх усіх збіраў да сябе ў нумар начальнік групы. Зачэпкай было агульнае знаёмства, на самай справе ўсе цягнулі «валюту»: гарэлку. Абмен валюты быў мізэрабельны, і дзеля прэзентаў большасць бралі з сабой сувеніры, розную дазволеную мытнікамі драбязу і гэтую канкурэнтаздольную на сусветных абшарах вадкасць. Тадэвуш, зусім не прыхільнік сухіх законаў, ніколі не мог даўмецца, навошта былі гэтыя «пасядзелкі» ў замежжы. Піць горкую ў тайзе — зразумела і часам неабходна. Ужываць гэты папулярны напой у Францыі, ды яшчэ псаваць вечары ў душным нумары, — гэта выходзіла за межы яго свядомасці. Хаця — начальніку групы і тым чацвярым, якіх прымацавалі да іх употай вядомыя структуры, так было лягчэй і прасцей сачыць за даверанымі пад іх пільную ўвагу грамадзянамі адной шостай часткі планеты Зямля. П’яныя? Ну і што? Значыць, усё ў ажуры. П’янаму і козы ў золаце. Ніхто не просіць палітычнага прыстанішча, ніхто не наведвае падазроныя мясціны, ніхто не знік, усе на месцы. «Раз, два, тры, чатыры...» Іх так і пералічвалі, па галовах. А тыя чацвёра падзялялі, так бы мовіць, «сферы ўплыву» — па сямёрках. Тадэвуш амаль адразу вылічыў траіх з «падсадкі». Высахлая, што жардзіна, жанчына, якая ўсё напрошвалася ў адзін нумар з яго суседкай у самалёце — Янай. А тая адпрэчвала: «Мы ўжо тут уладкаваліся. З Дайнай». Дайна была з Летувы. Не вельмі ганаровую тую місію выконвала яшчэ маладая пара, прыблізна аднагодкі Яны. Маладыя выдавалі сябе за супрацоўнікаў радыё. Няўрокам назвалі рэдакцыю, дзе рабіла адна жанчына з групы і дзе ніколі не было гэтых людзей. Хто чацвёрты — стала зразумела Тадэвушу, толькі калі ён вярнуўся дадому.

Групу доўга інструктавалі — спачатку ў Маскве, потым у Парыжы, у савецкай амбасадзе, у дзіўнай залі: шыкоўнае ракако, люстраныя сцены — і седалы-ўслоны, як у раённай сталоўцы-забягалаўцы: алюміній і дэрмацін. Групе настойліва рэкамендавалі: па адным не хадзіць, ад групы не адставаць, знаёмствы з французамі, што не прадугледжаныя праграмай, не заводзіць, у нумарах гатэлю дакументы не пакідаць, крамольныя размовы не весці, антысавецкія анекдоты не расказваць. І, безумоўна, памятаць пра маральны кодэкс савецкага чалавека.

Выслізгваючы з нумара начальніка групы, Тадэвуш запэўніў Фёдара Іванавіча: усе яны, сем чалавек, што выправяцца агледзець вечаровы Бардо, будуць паводзіць сябе выключна паводле таго кодэксу. Фёдар Іванавіч цвёрда памятаў, што ён начальнік групы і адказвае за ўсё і за ўсіх, але добра ўзяўшы за знаёмства ці не з кожным шэвалье групы асобна і за здароўе чароўных дам гуртам, ён быў у тым стане, калі кажуць: язык у лапцёх і тымі лапцямі па вадзе ляпае. Ён толькі прамармытаў: «Куды вы? У вас жа нават імя нялюдскае». Тадэвуш засмяяўся: «Ведаеце анекдот? Дывысь-дывысь, Галапупенка, яка смішна людына — Зайців». Фёдар Іванавіч гмыкнуў і махнуў рукой.

З палону прымусова-сяброўскай пагулянкі вырвалася сем чалавек. Потым яны так гэтай сямёркай і трымаліся — з варыяцыямі. Як высветлілася, Яна — яго зямлячка, беларуска, а жыве ў балтыйскім горадзе яго студэнцтва. Яна перакладчыца. Яе суседка па пакоі — журналістка. Яшчэ калега Дайны — Вітас, з нейкай культуровай установы. Маскоўская грузінка Ніно, дырэктар музея. Фотакар з Ульянаўска — Ігар, як потым высветлілася, і быў чацвёрты «дазорны». Выкладчык універсітэта з вялікага горада на Волзе — Валянцін Міхайлавіч. І ён, Тадэвуш Кастэцкі. Інжынер, фотааматар, пачынаючы выкладчык.

Іх гатэль у Бардо быў непадалёк ад вакзала, да цэнтра, падобна, было далекавата, і ўсе эспланады, і Гарона, і нават усе кавэ засталіся недзе ўбаку. Што рабілі б яны ў тых кавэ — з іх абменным «капіталам», Тадэвуш не

ведаў, аднак спакусаў не было ўвогуле. Пустыя вулачкі, апушчаныя жалюзі дамоў... Яны дайшлі да нейкага масіва: спрэс сады і вілы. І вырашылі вяртацца ў гатэль. Ішлі гуртам, часам Тадэвуш крочыў побач з Янай. Пункціры памяці цяпер высвечвалі ўрыўкі фраз, мройныя, няўлоўныя адчуванні, нейкія напаўсцёртыя формулы з алгебры духоўнага вопыту... Часам нібыта спатыкаючыся аб нейкую нябачную перашкоду, яны рухаліся ў прасторы і часе. Як гэта там у аднаго з вялікіх? У Берклі, здаецца. Прастора — непераадольная мадальнасць бачнага. А час — непераадольная мадальнасць пачутага. Перажытага? Мадальнасць — катэгорыя фармальнай логікі, што выяўляе ступень верагоднасці меркавання. Яны натыкаліся на гэтыя непераадольнасці, ці то здагадваючыся, што павінен быць высакародны шчаслівы свет, ці то імкнучыся да яго. Ці быў ён, гэты свет, паўсюдна? Ці там, на радзіме? Ці тут — у мясцінах Генрыха IV і таты Хэма: у Баёне і Андаі, куды яны трапілі з Бардо? Тады яму падалося, што гэты свет часам узнікае менавіта ў гэтай прасторы і менавіта ў гэтым часе. У зялёнай лагчыне Гароны, у ландах — пясчанай роўнядзі з соснамі, у краі баскаў — з маляўнічымі, крыху цяжкаватымі будовамі: грубавата апрацаваны і атынкаваны камень першага паверха і драўляны другі паверх, прыгожыя, дагледжаныя, як паўсюль у Францыі, панадворкі, садкі, там — скураныя або плеценыя канапы і крэслы, кветкі ў гаршках. Усё гэта бачылі яны найбольш праз вокны аўтобуса, але ландшафт той абавязкова прысутнічаў ва ўражаннях і «захвыцэннях», уплываў на настрой. І падсвечваў прысутных. І бараніў ад тых стасункаў, што мецяць існаванне ў кожнадзённасці, дзе ўсё пазначана функцыянальнай, прагматычнай залежнасцю. Дзе нават незнаёмае набывае рысы знаёмага — як на канвееры, стандартызуецца абавязкам, комплексам службовых узаемазалежнасцяў, жорсткай рэгламентаванасцю часу.

Можа, у тым і быў чар іх знаёмства, магія сустрэчы? Вядомая і невядомая краіна, выпадковы соцыум спадарожнікаў — аб'яднаных агульным маршрутам і

мэтай і адстароненых у сваім папярэднім і далейшым жыццёвым і свядомасным вопыце. Яны будуць памятаць кожны кожнага і застануцца чужымі і далёкімі, нават калі будуць ліставацца і часам сустракацца. У іх будзе толькі гэтая сувязь — кропка перакрыжавання на жыццёвым шляху.

...Чар вандроўніцтва... Чар выпадку... Калі, да ўзору, гасцёўня ў Андаі, дзе яны прыпыніліся, была не проста падобная да тых, дзе любіў мець прыстанак у сваю пару Хемінгуэй (танна, непадробны каларыт, выдатная кухня), але ўсё ў ёй было знакам прыгоды, рамантычнай зброяй, неадольным поклічам да авантуры ў старадаўнім стылі. І першы будынак, абвіты — хмелем? вінаградам? — і маленькі ўтульны панадворак, куды траплялі ў ліфце: і гэты панадворак, і сімпатычны дамок у баскскім стылі — былі на іншым узроўні, на пагорку. І вялізныя, цемнаватыя пакоі, прыглушана карычневы дуб мэблі, цёмнага каменя камін, у якім нібыта толькі што спалілі патаемнае пасланне, дробны малюнак шпалераў... І пакоі рэстарана ў будынку на першым узроўні — выштукаванае разбярства старадаўніх сталоў і крэслаў, цёмныя клятчастыя сурвэткі, старадаўнія куфлі для напояў... Тыя, хто іх падымаў, відавочна трымалі і шпагу ў руцэ. Нават бараніна па-бардоску і кураня па-баскску — усё гэта нібыта было матэрыялізацыяй таго чару. Як і залата пляжаў — узбярэжжа Атлантыкі. Як неверагодная пестрадзь і калёры напояў на прыёме ў мэрыі ў Баёне, і прыгажуны — удзельнікі Супраціўлення, героі макі. Усе высокія — ледзь не роўныя з Шарлем дэ Голем... А дарэчы, яны трапілі ў мясціны, дзе непадалёк знаходзіўся той самы замак сядзібы Артаньян, дзе ў 1613 годзе нарадзіўся Шарль дэ Бату, будучы каралеўскі мушкецёр, якога ўвесь свет ведае пад прозвішчам — назвай таго селішча: Д’Артаньян.

Тадэвуш памятаў гаворку Яны з партызанамі макі — слоў ён не разумеў, але мелодыка грасіруючых і прыдыхальных зычных і рэдукаваных галосных, яе жэсты, яе смех — іх усмешкі, іх рыцарская гжэчнасць надавалі асобую логіку моманту. Тадэвушу падабалася глядзець

на Яну, мірна дэгустуючы са сваімі суайчыннікамі віны старажытнай Аквітаніі. Усё матэрыялізавалася ў рэчах, фарбах, гуках, пахах, смаку, усё было чарам, дзе яе прысутнасць то выразна выяўлялася як галоўная, то была ледзь заўважнай, нібыта рассяроджанай у агульнай атмасферы, у тужліва-радасным адчуванні подыху лёсу. У бязважкасці чакання.

Якой была б іх сустрэча ў іншых абставінах? Мабыць, не было б той звабліва-хмельнай, зачаравана-светлай явы — дурнап'ян супольніцтва, датычнасці да нейкіх вельмі важных часцінак быцця, адчуванне кожнай рэальнай рэчы як знака і наканавання. І разбурэнне, расслойванне рэальнасці. Гэта было жыццё і гульня ў жыццё. Федзя Пратасаў некалі мовіў: «Не было гульні». Там гульня прысутнічала, вяла, выдавала зямной прыцягальнасцю і незямной прасветленасцю, фарбамі і радасцю той вясны, што можа прыйсці насуперак кругабегу натуры. І ў патыё пад Бардо з высознымі цаглянымі сценамі колеру тэракоты, дзе яны пілі шампань — брут, самы сухі, з прыгожых празрыстых келіхаў. І на свяце баскаў, дзе Яна абмяняла свой шыкоўны шалік на чырвоны баскскі берэт. І нават у рэдакцыі мясцовай правінцыйнай газеты, дзе сухаваты абмен інфармацыяй набываў сэнс гульні. І, безумоўна, на вечарыне ў Франка-савецкім таварыстве. І гукі старадаўняга танга, і даўно ўжо не новага, але ўсё яшчэ прыцягальнага рок-н-рола, і казытліва-неўраўнаважанай, агністай румбы здаваліся не проста мелодыямі, а музыкай жыцця. І Тадэвуш танчыў захоплена, адчуваючы чар моманту як эманацыю жыцця, а самую існасць вызнаючы як рух і гульню. Ён танчыў не толькі з Янай, аднак увесь час адчуваў яе прысутнасць, у лабірынце гукаў адчуваў яе мелодыю, таямніцу яе існасці...

Глядзеў ёй у вочы...

Твои глаза, как два тумана,
Полуулыбка, полуплач...
Твои глаза, как два обмана...

І ў гэтай гармоніі ілюзій быў бела-чырвона-зялёны, як многія старыя гарады Еўропы, Сент-Эмільен і шато графаў Лігнеры — comte et comtesse M. des Ligneris і знакаміты, цёмна-вішнёвы «Сент-Эмільен», тое самае віно, якое вывозілі падчас блакады з Ленінграда як вартасную каштоўнасць. Віно ўраджаю таго года, калі Расія цярпела голад ад засухі, у Францыі сабралі незвычайны ўраджай вінаграду, і віно мела асаблівы, незвычайны смак.

Тадэвуш памятаў церпкаватую, цяжкую вадкасць і маленечкія крэкеры — у Саюзе тады такія не рабілі. Яна частавала гэтым печывам катоў-службоўцаў у вінных сховішчах шато: іх не песцілі смакотамі, мабыць, баяліся: мышэй лавіць не будуць.Тадэвуш перакідваўся з Янай словамі, у тым ліку і пра тое, што знакамітае віно з гэтага падворышча, якое ў 1942 годзе дэгуставалі Аляксей Талстой і Ілля Эрэнбург, падобна, ад задоўжанага захоўвання ўсё ж губляе свой букет.

Тадэвуш і Яна гаварылі, а яе вочы, з усмешлівым маўклівым пытаннем, вялі сваю размову. Тадэвуш не ведаў, пра што. Ён глядзеў ёй у вочы, сачыў за яе вуснамі — лёгкі дотык да краю келіха, маленькі глыток... А потым яны высаджваліся з аўтобуса ў залітым дажджом Біярыцы, дзе, здавалася, нягледзячы на завесу дажджу, кожны дом, кожнае дрэўца, нават кожны выступ скалы на ўзбярэжжы пазіруюць, як спрактыкаваныя мадэлькі, выбраўшы эфектны жэст, прадумаўшы кожны рух. І Яна глядзелася як частка гэтай удалай кампазіцыі — застаючыся натуральнай і нязмушанай: сіне-белы парасон, сіняя кепачка і такая ж вятроўка, сінія штроксы.

Пазней былі сосны і піхты Л’Ібардзіна — павеў Пірэнеяў, скальны астурыйска-кастыльскі дух, у краме — вырабы майстроў з Таледа. І — аглушальная цішыня. Можа, там трэба было засяродзіцца на асноўных, канцовых, фінальных пытаннях Быцця? Падыхаць паветрам самоты?

Спяшаюся з маіх пустыняў
вярнуцца ў мае пустыні...

Аднак ім на той момант не адчынялася гэтая мудрасць сувязі са светам. Іх вабіла прыцягальная паверхня — не сутнасцяў, а стасункаў, узаемадачыненняў. Гульня эмоцый, мройная квецень сённяшняга дня — калі паблізу, аднак, аказваліся не рэальныя Сан-Себасцьян і Памплона, да якіх рукой дастаць, а, скажам, лесвіца Іякава... І неба было сіняе-сіняе... На тым небе пачыналі з'яўляцца зоркі — над французска-іспанскім памежжам, у баскаў. Але яны крочылі больш у прасторы ілюзій, яшчэ не пражытыя гады толькі ўгадваліся, стойваліся недзе ў вершалінах дрэў, а рух аўтобуса закалыхваў іх, і нават знаёмая ўжо ледзь не як матчына калыханка песенька пра шэвалье здавалася гукам з іншага свету. З іншай рэальнасці.

А назаўтра яркае дзённае святло святочна пацвердзіла неістотнасць рэальнага і звышзначнасць таго, што адбывалася паміж імі. Канкрэтна — падзейна — не адбывалася нічога, але містыка моўленых і невымаўленых слоў, поглядаў, позіркаў, жэстаў, традыцыйных недамоўленасцяў і маўчання — усё падпарадкоўвала іх, прыцягвала на сваю арбіту...

Паводле гэтага кірунку яны двойчы адсяродзіліся ад сваіх суайчыннікаў — збеглі ў Парыжы: на востраў Сітэ і на Манмартр — першым разам.

Падымаліся і апускаліся па бясконцых прыступках Манмартра — з яго мройлівым мігценнем-свячэннем, з яго ліхтарамі, лампіёнамі, з яго кавярнямі пад адкрытым небам на ўсіх тых пляс ля Бланш, пляс дэ Тэртр, з яго паветрам, насычаным водарам фантазій і пачуццяў.

Калі яны наблізіліся да свайго гатэля а чацвёртай гадзіне — ужо не апоўначы: раніцы, — яго празрыстыя дзверы ўпершыню не расчыніліся: электроніка не любіць незапраграмаваных дзеянняў. Тадэвуш дастаў свой валютны «капітал» у франках — ці хопіць? Во будзе гвалту! — але службовец гатэля моўчкі адчыніў ім дзверы

і толькі на няпэўнае Тадэвушава: «Bonsoir!»[1] адказаў відавочна з іроніяй: «Bonjour!»

А вечар быў сапраўды добры. І добрай была раніца. У Парыжы... Але ці быў бы Парыж без яе? І якая яна не ў Парыжы? А між іншым, якія каліграмы складаў бы спадчыннік беларусаў Кастравіцкіх Апалінэр, калі б яго дзед воляю лёсу не апынуўся па-за сваімі пенатамі? І дзе яшчэ, акрамя Парыжа, мог знайсці прытулак душы той, што прысвяціў верш прабабцы гэтага спадчынніка? Гэтыя пытанні ўзніклі пазней, а тады, той раніцай, Тадэвуш, яшчэ адчуваючы на сваіх вуснах свежасць яе вуснаў, праваліўся ў лёгкі, салодкі сон і прачнуўся ад тэлефоннага званка — так іх падымалі ў гатэлі ў Парыжы.

«S'il vous plait, madame»[2], — чамусьці ўзрадавана азваўся ён у трубку, а на тым канцы провада здзіўлена гмыкнуў мужчына. Потым, ачомаўшыся, Тадэвуш доўга смяяўся, а за ім яго сусед па пакоі.

Былі ўцёкі і другім разам. Тадэвуш і Яна, замест таго каб ісці шукаць танныя крамы ў вольны час, ад цэнтра Пампіду выкіраваліся ў «Аранжэры», да роспісаў Клода Манэ. І там нечакана знайшлі свой код рэальнасці, пароль дня. Каля знакамітых «Ненюфараў» — лілеяў, гарлачыкаў. Ціхая музыка, што, здавалася, як і святло, прасочвалася аднекуль з-пад столі, зачараванае каралеўства паўсвятла, паўценяў, усё дымчаста-блакітнабэзавае... Белае... Дзіўнае адчуванне: няма пачатку, няма канца... Кветкі і вада — і паветра, што больш угадваецца, а не канкрэтна прысутнічае... Знакамітая імпрэсія — свая ўласная логіка. І — падпарадкаванасць не нечаму раздзельнаму і бесперапыннаму, што супрацьстаіць абстрактнай думцы, знешняя камбінацыя, здавалася б, зусім простай рэальнасці — і ўнутраная бясконцасць, невычарпанасць гэтай рэальнасці. Чаму Бенуа так бязлітасна перакрэсліў гэтыя пано? «Очевидное недоразумение»... Пра Бенуа нешта згадала Яна — ён не

---

[1] Bonsoir — добры вечар (*фр.*)
[2] S'il vous plait, madame — калі ласка, мадам (*фр.*).

памятаў даслоўна, але выдатна ведаў, што менавіта з гэтага моманту і са згадкі пра тое, што маці Уладзіславы Францаўны, жонкі Янкі Купалы, была з роду Манэ, паміж Тадэвушам і Янай замацавалася вось тое паразуменне, што ўжо існавала: кожны пазнаваў сваё ў другім. І гэта не было звычайным абменам інфармацыяй, яна падхоплівала, як і Тадэвуш, слова, думку, факты... Нават бег, як на дыстанцыі, аб'ядноўваў іх — агульным дыханнем, смехам, адчуваннем камічнасці сітуацыі: на схеме Парыжа «Аранжэры» і Музей імпрэсіяністаў выдавалі блізкім суседствам, на самай справе яны ляцелі, што індзейцы на сцяжыне вайны, каб а сямнаццатай гадзіне з'явіцца перад светлымі вачыма іх красуні Люсі. Тая не губляла раўнавагі: гэтыя двое не знікнуць у Парыжы, тым больш пасярод белага дня. Што думалі афіцыйныя засакрэчаныя асобы, яны не ведалі. Аднак мяркуючы па тым, што ніякіх перашкодаў у замежных перасоўваннях пазней ім не чынілі, у антысавецкай дзейнасці іх не абвінавачвалі.

А яны пасля гэтых шпацыраў больш не заставаліся сам-насам. Увесь час былі ў гурце, найбольш — са сваім хаўрусам, з «сямёркай». Аднак паміж імі ўсё больш умацоўвалася тая сувязь, што вызначаецца не знешнімі прычынамі, а тым унутраным супадзеннем, якое абумоўлена прадвызначанасцю жыцця і асаблівасцямі быцця індывідуальнага.

Тадэвуш і Яна былі разам з іншымі, але і адстароненыя ад усіх. На Елісейскіх палях разглядвалі вітрыны: агромністае суцэльнае шкло на некалькі паверхаў вышынёю — продаж аўто. Яна «выбрала» сабе серабрысты «Сітраэн», падобны да субмарыны. І з-пад яго ўвагі цалкам выпала, што ж там падабалася астатнім. І ва ўтульным кафэ «Насье», дзе яны пілі каву, ён усвядоміў, што бачыць толькі яе і яму ўсё ў ёй падабаецца. Як яна трымае кубак, як адкідвае рукой валасы, як накідвае на плечы швэдар, завязаўшы на грудзях вузел з рукавоў.

...Адным з вечароў кожны з групы адчуў сябе ледзь не Крэзам: ім выдалі грашмі кошт двух вячэраў —

планавалі ўдзел у народным гулянні. І «сямёрка», блукаючы па Парыжы, дайшла да ўзноўленай «Ратонды». На сцяне была шыльдачка з паведамленнем, што ўсё адноўлена, як у часы Пікаса, Мадыльяні, Дыега Рыверы... Светла-жоўтыя скураныя канапкі са спінкамі, на сценах — факсімільныя рэпрадукцыі карцінаў былых наведвальнікаў кавярні. І хаця ўсе разумелі, што гэта толькі копіі, здавалася, нейкія флюіды, часцінкі тамтэйшай рэальнасці, водар рэчаіснасці, насычанай мастакоўскімі фантазіямі, тут прысутнічаюць. Хаця... У кавярні ў асноўным былі турысты, сённяшнія геніі і таленты гуртаваліся недзе ў іншых мясцінах.

...Заказвалі яны вельмі сціпла: кубак кавы, келіх віна... Гарсон прынёс пітво — і рахунак. Зірнуўшы на фірмовую паперку на сподачку, літаратар з Волгі рашуча адсунуў ад сябе віно: «Даражэнькія, мы гэта піць не будзем!» — « Гэта яшчэ чаму?» — ганарліва ўхапіўся за сваё пуставатае партманэ Тадэвуш. І зірнуў на гадзіннік: далёка апоўначы, начны еўрапейскі тарыф... Лічба была не такая ўжо вялікая, у родных пенатах кожны спакойна ахвяраваў бы тыя пенёндзы, але цвёрды рэжым абмену тут ператвараў усіх і адразу ў жабракоў. Цяпер усё інакш... Аднак — ці не сталіся цяпер жабракамі і ў роднай Айчыне тыя людзі, што былі ў вандроўцы? Тады яны пасмяяліся са сваёй прыгоды: «Гуляць дык гуляць!» — і выправіліся зноў блукаць па Парыжы. Праз бульвар Сен-Мішэль і понт дэ Нёф — на востраў Сітэ. Усё было хрэстаматыйна знаёмае. І ў галаву лезлі хрэстаматыйна вядомыя параўнанні. Нотр-Дам — «Біблія ў камені», Сент-Шапель — «Біблія са шкла»... Спрадвечная готыка... Сярэднявечча...Сапраўднасць арыгіналу — у неад’емных свежасці і харастве. І зноў зіхцеў начны Парыж, вабіў старажытнымі абрысамі бажніцаў, палацаў, камяніц — у сучаснай гульні падсветак і ў гіпнозе старадаўніх маўклівасці і гонару.

І Тадэвуш з Янай — з усімі і ўдваіх — адчувалі сваю повязь з гэтымі будовамі, з вякамі, якімі быў асвечаны гэты горад, з настроямі, што змяняліся, вызначаліся то

куртуазнымі прыгодамі і выкшталцонасцю стылю, то смеласцю парадоксаў, што вярэдзілі розум, то глыбакадумнасцю і арыгінальнасцю тэорый і меркаванняў, то пышна дэкарыраваным грахом, то амаль астральнай безданню паміж шэвальe, дамамі і тымі, каго класічная класіфікацыя грамадства вызначала як laboratores — працоўныя; то складаным дыялогам, што скончыўся пажарамі і гільяцінамі — бяссэнсіцай і блытанасцю падзей, нораваў, учынкаў, характараў... А яшчэ, мабыць, тым, што ўсе бачаць як вызначальную рысу французаў: абавязковай прысутнасцю гумару і жарту, своеасаблівым гонарам, што хаваецца за ўдалай вострай фразай...

І наплывалі хвіліны, калі Тадэвушу здавалася, — адыходзіла, амаль знікала ўсё: вякі, атачэнне, вялікі горад, іх спадарожнікі. Заставаліся толькі яны: Тадэвуш і Яна... А потым адыходзілі хвіліны — і вярталіся вякі, атачэнне, хараство... Хаця — каб не было такіх хвілін — у іншых, у іншыя часы: ці было б тое хараство? Краса? Моца? А перадусім — каб не вышэйшае Наканаванне?

...І быў зноў самалёт... І вяртанне ў родную Айчыну, дзе адразу пачаліся непаразуменні: не замовілі гатэля, спазніўся ў аэрапорт аўтобус, не забраніравалі білеты на цягнікі і самалёты: група была з усяго Саюза...

І ў Маскве наладзілі развітальны вечар. І ён, Тадэвуш, выпяваў знаёмае ўсім: «Ваше Величество Женщина, как Вы явились сюда?». І не з'явіўся на вечарыну Ігар, як высветлілася, той самы чацвёрты. Той самы... Ні Тадэвуш, ні Яна не атрымалі ад яго фотаздымкаў. І смяяліся — на Яну ў яго засталося цэлае фотадасье...

Тадэвуш праводзіў Яну на вакзал у Маскве, і яму здавалася, што ўсё, што было, — толькі прэлюд...

А потым тэлефон Яны не адказваў. І Тадэвуш адправіў — нават не ліст, а запіску-карацельку, падпісаўшыся: «Экс-руа, цяпер — саўслуж ненаменклатурнай катэгорыі». Быў момант у краі баскаў, калі ўвесь час нехта згадваў вядомыя рэплікі Генрыха IV, накшталт таго,

што «Парыж варты імшы», а на вечарыне ў Таварыстве балёвы раялізм дасягнуў апагею і выбіралі каралеву і караля балю: мужчыны — каралеву, дамы — караля. І Тадэвуш з Янай царавалі ўвесь вечар.

Напісаўшы ліст, Тадэвуш усё заглядваў у паштовую скрынку, хапаў кожную паперчыну, аднак экс-каралева не адгукалася.

Затое аднoечы недзе апоўначы пачуўся доўгі, настойлівы тэлефонны званок. Тадэвуш вылецеў з душа, сарваўшы з вешалкі махровы халат. «Алё!» — ціха засмяяліся недзе далёка-далёка.

– Як вы думаце, дзе я?

– Там, дзе свеціць Палярная зорка.

– Яснабачанне — не ваша стыхія.

– Пэўна.

– Я ў гатэлі «Святочны».

– Прабачце?

– У вас у горадзе, шэвалье. Камандзіроўка.

– Провід часам апякуецца намі, — бадзёра зірнуў на гадзіннік Тадэвуш. — За вамі на дыване-самалёце?

– На знішчальніку-перахватчыку.

– Геніяльная думка.

– Зразумела, — з выклікам адгукнулася Яна. Голас яе нібыта завіс у паветры.

Тадэвуш паспешліва запоўніў паўзу:

– Можна і на белым кані.

– Экс-руа...

– А галоўнае — шэвалье, — падхапіў ён.

— ...інакш не ўмее, — яе голас зазвінеў знаёмым смехам.

– Лячу, — памацаў яшчэ мокрыя валасы Тадэвуш. — Праз паўгадзіны буду.

– Заўтра, — цвёрда вымавілі ў трубку.

– З раніцы ля вашых ног, — радасна выгукнуў Тадэвуш, хаця пэўна ведаў, што ў яго дзве пары лекцый з васьмі гадзін.

– У сем вечара, у вестыбюлі гатэля, — прагучала цвяроза, будзённа, нібыта ў лірычную мелодыю ўшчыміўся гук школьнага званка.

– Традыцыйна і неаспрэчна, — працягнуў Тадэвуш.

– А вы хацелі б — «средь танца волшебств и наитий»?

– Прыблізна, — ён не знаходзіў адпаведных слоў.

– Да сустрэчы, — яна вымавіла гэта, нібыта шчоўкнула выключальнікам.

— Дабранач... — глуха адгукнуўся ён.

Так ці інакш Тадэвуш прачнуўся з адчуваннем, што гэта не проста раніца, але светазарны золак стварэння свету.

Як у сне, адбубніў лекцыі. Ліхаманкава прыкідваў — кветкі? Якія? Яны ж некуды пойдуць — што яна будзе з імі рабіць? Адну ружу. Вось такую — палевую. А куды яе запрасіць? Вядома, не ў тэатр. Ім трэба пагаварыць. І не ў рэстарацыю. У рэстаранах яго горада — абавязковы гармідар, тлумны музычны акампанемент. Запрасіць да сябе? Як яна тое зразумее? Ды і жытло ягонае не падрыхтаванае да прыёму гасцей, тым больш такіх... Кавярня... «Пралеска»... Які-небудзь лёгкі напой — Яна выхаваная на старадаўніх традыцыях... Ціхае мармытанне магнітафона... Праўда, там у меню адны сасіскі — для галантнай размовы малапрыдатная страва, ну, але ж ёсць яшчэ нешта — марожанае, цукеркі...

У яе горадзе і горадзе яго студэнцтва — розных кавярняў, харчэўняў, закуткаў, дзе можна правесці вечар — што грыбоў пасля летняга дожджыку... Так што трэба спадзявацца на яе талеранцыю.

Гальштук? Гарнітур? Швэдар? Мабыць, пуловер, кашуля і скураная куртка: спартыўна-дзелавы стандарт службоўцаў і клеркаў канструктарскіх бюро.

...Вецер быў злосны, як прыёмшчыца хімчысткі. Ён схаваў ружу пад куртку. Яшчэ пятнаццаць хвілін. Тадэвуш увайшоў у вестыбюль і пачаў было разглядваць вітрыны кіёскаў, але кінуў гэты занятак: ён чакае і не будзе займацца дыпламатыяй інтэлектуалаў ніжэйшага рангу. Яму ўжо не дваццаць. Ну, і што? Тадэвуш дэманстрацыйна, як ваяр піку, узняў ружу. І ўбачыў Яну:

– Мы далёка? — замест вітання спытала яна.

– Крыху бліжэй, як на край свету.

Тадэвуш злаваўся на сябе. Безумоўна, яна чакала калі не вандроўкі ў Залюстрэчча, то пэўна — куды-небудзь, дзе пануе — ну, не свята, але вясёлая святочнасць... А ён сунецца са сваёй каралевай у сярэднестатыстычную харчэўню-забягалаўку. Там жа ад усяго патыхае грубаватай эклектыкай... Хісткія, лёгкія столікі і седалы з белымі ажурнымі спінкамі, паводле моды канца XIX — пачатку XX стагоддзя, якія нагадваюць пра дам у сукнях з турнюрамі і ў адмысловых капелюшах і з парасонамі ад сонца. І масіўная, цёмная стойка бара — што частка рэквізіту да якога трылера, казематна-цяжкая, ваяўніча-безаблічная.

Тадэвуш папрасіў шклянку для ружы, прынёс ад бара шампань, шакалад, гарэхі. І адчуў на сабе яе пільны, халаднаваты погляд. Ён вымавіў некалькі агульных фраз, яна не падхапіла гаворку. Моўчкі круціла ў руках келіх. Ён пачаў здагадвацца: яны апынуліся не проста на інтэлектуальным бездарожжы, яны завіслі ў пустэчы. Пад імі не было глебы. А гэта зусім не той выпадак, калі шар зямны плыве пад нагамі. Музыка нешта рытмічна мармытала, ціха віскатала і настойліва выдавала басовыя ноты. І нікуды гэтыя музычныя практыкаванні не вялі, ні на што не ўплывалі, музыка не была нават акампанементам, у лепшым выпадку выконвала ролю фону: безаблічнага, неадухоўленага, абыякавага. Гукі не лашчылі слых, не ўзбуджалі эмоцыі, танчыць пад іх таксама не хацелася, ды і тут гэта было не прынята. Можа, усё ж дарэмна не павёў яе ў рэстаран? Глядзелі б меню, выбіралі стравы, трошкі пазлацешыліся б наконт стандарту кухні айчынных «злачных» мясцін, а дарэчы, можа, і не зашкодзіла б крыху падсілкавацца? Ну, урэшце — «салодкая танца атрута...». І тая нітачка, што знікае, чэзне, растае, з'явілася б зноў, і ўзнікла б патаемна-хмельная ўзаемазалежнасць, якую яны — Тадэвуш гэта пэўна ведаў — адчувалі там, у Францыі. Хаця — ва ўсіх харчавальна-ўзвесяляльных месцах іх горада танчылі аднолькава: тупаталі табункамі, а то і ўсім застольным

хаўрусам, абавязкова нешта разухабіста-жвавае. Танец — таямніца, знаёмства, размова — на гэтых квадратных метрах адышлі ў нябыт...

А між іншым, што сёння ў філармоніі? Ну, каб Яна загадзя... Сядзелі б цяпер і, паводле Аўгустына, слухалі б гукі музыкі дзеля аднаўлення душы пасля дзённых турбот. Магчыма, гэта і надало б тую танальнасць сустрэчы, што не дала б узнікнуць гэтай задоўжанай паўзе, якая пагражала паветранаму збудаванню, якое Тадэвуш натхнёна, як юнак-рамантык, і акуратна і апантана, як дойлід Сярэднявечча, узводзіў увесь гэты час пасля вандроўкі. Ён, безумоўна, цвёрда ведаў, што матэрыялізаваць паветраныя палацы немагчыма, аднак замацаваць той настрой — у эмацыянальнай памяці, проста ў памяці — хацеў: фрагменты, моманты, імгненні... Водар стасункаў... Ён разумеў, што гэта быў сапраўдны дарунак Нябёсаў... У яго ўзросце... Калі ён «шлях зямны перайшоў за палавіну...». І добра перайшоў... І старэйшы за Яну на дзесяць гадоў і на цэлае жыццё... ЛЭП — гэта ЛЭП... Год за некалькі...

А Яна маўчала... Паказвала, што эпізод жыцця вычарпаны? Ставіла кропку?

...Раптам яна ўстала, падышла да бара і вярнулася з пачкам цыгарэт. Працягнула яму адкрыты пачак.

– Не памятаю, каб...

– А я не збіраюся паліць, я арганізоўваю мізансцэну...

Яна кідала яму выратавальны круг! Ухапіцца!

– У якім акце мізансцэна? І якога жанру п’еса?

– Пакуль не ведаю.

– А прыблізна?

– Прыблізна... Я баюся...

– Вадэвіля? Трагіфарса?

– Меладрамы — таксама.

– Ну, чаго там... Замыслім поўнамаштабную трагедыю, скампануем паводле ўсіх класічных канонаў.

Яна папярхнулася дымам цыгарэты:

– Буало, ці што?

– Ну, трыадзінства неабавязковае...

– Але ж трагедыя — кроў, ахвяры...

– То будзем драму маскаваць пад назвай камедыі.
– Пачнём гаварыць пра тое, якая спёка ў Афрыцы...
– І паўтараць: «У Маскву! У Маскву!».
– Гэта ўжо «з іншай оперы»... І ў Маскву я не хачу.
– Я — таксама... А калі махануць у Парыж?

На тую пару гэта было на ўзроўні фантастыкі. Вось так, самапасам, без характарыстык розных грамадскіх арганізацый і рашэнняў розных інстанцый... Аднак Яна падхапіла думку.

– Ідэя! Сцэна, дзе ўсё ўзнікае стыхійна...
– І жыццё больш, як дзе, выдае тэатрам...

...Яны яшчэ доўга сядзелі ў кавярні, тасавалі словы, як карты, перакідваліся словамі, як тэніснымі мячыкамі, рассыпалі словы, нібы канфеці. З пункту погляду фармальнай логікі ўсё было на месцы. Двое абмяркоўвалі нейкія навіны — і іх схільнасць да асацыятыўнага мыслення была неаспрэчнай, яны злацешыліся з наведвальнікаў кавярні — і іх рэплікі не сапсавалі б які сцэнар або п'есу. З дыялогамі ўсё было выдатна. І мізансцэны, хаця і статычныя, глядзеліся калі не як гатовыя кінакадры, дык як неблагія пробы. Але — дзейныя асобы ці не з розных п'есаў? Не было той шчаслівай смеласці, калі імгненны погляд, нават позірк вызначаюць больш, чым пяшчота абдымкаў, вабяць больш прызыўна, чым канкрэтыка слоў і ўчынкаў, клічуць мацней за крык і стогн. Не было імгнення радасці жыцця — з бліскавак вачэй, сэнсу жэстаў, бяссэнсіцы слоў...

Яна ці то разбурала ўзніклы паміж імі кантакт, ці то будавала сцяну... І з нейкага моманту ён пачаў прымаць правілы гэтай гульні. Ці то разбураў, ці то будаваў. Хаця — бездань нельга ні разбурыць, ні збудаваць... Яе можна — стварыць... І беспаветраную прастору — таксама.

– Калі вы ад'язджаеце?
– Праз дзень.

У Францыі яны былі на «ты». Тут яна адразу прапанавала халаднавата-выхаванае «вы».

– На «Чайцы»?

– На ёй.

Назаўтра ён пару разоў спрабаваў тэлефанаваць Яне. Тэлефон маўчаў. Праз дзень Тадэвуш выехаў на вакзал загадзя, задоўга да адыходу цягніка Яны і нават да пасадкі. І адразу пабачыў на пероне Яну. Паводле яе слоў, яна прыехала ў камандзіроўку не адна. Гуртам, некалькі чалавек. Тадэвуш уладкаваўся каля лесвіцы, што вяла на перон з падземнага пераходу. Калі прыйдуць яе калегі? Хто яны? Абвясцілі пасадку. Яна неяк без асобай ахвоты стала ў канец чаргі. Адна? Ну, у камандзіроўку ездзяць і без кампаніі. Але чаму яна пэўніла яго, што іх тут многа? Значыць, адна. І — мільганула думка — можа, і не ў камандзіроўку? Тадэвуш вокамгненна апынуўся каля Яны.

– Трагар не патрэбны?

Яна ўзняла на Тадэвуша вочы. Ёлупень! Недавярак! Разявяка! Круглы дурань! Ясны блакіт вясёлкавай абалонкі яе вачэй пра гэта сведчыў неаспрэчна. І відавочна выдаваў яму індульгенцыю. За ўсе грахі — учарашнія і будучыя. Ён пачуў яе смех. І паплыў у бязважкасць... Але рэчаіснасць нагадала пра сябе рыпучым голасам вакзальнага дынаміка: «Праважаючыя, не забудзьце ў сябе білеты ад'язджаючых!». «Я прыеду!» — выдыхнуў ён. Потым доўга махаў услед цягніку і набыў білет на бліжэйшую суботу. Аднак у інстытуце яму паведамілі, што ён едзе заўтра са студэнтамі ў калгас збіраць бульбу. І ён кожны дзень цэлы месяц пісаў лісты, а незадоўга перад ад'ездам паштальёнка прынесла яму стос канвертаў: з тутэйшай скрынкі ніхто пісьмаў не вымаў — іх або апускалі ў горадзе, балазе, якіх 20 кіламетраў, або ў скрынку паштовага аддзялення сельсавета. Тадэвуш хацеў паслаць бандэроль з усімі лістамі, але распячатаў адзін ліст, другі — перачытаў, і падаўся сам сабе недарэчна сентыментальным і смешным. Ён зноў набыў білет. Але тэлефон Яны не адказваў.

Раптоўна памёр яго сябар і калега. Да лекцый Тадэвуша дадаўся яшчэ адзін цыкл, да якога трэба было

рыхтавацца на хаду: семінары, новыя дыпломнікі, новыя курсавыя. Ён проста загруз у будзёншчыне. Тымчасам яе тэлефон пачаў адказваць. Яны абменьваліся іранічнымі рэплікамі і ўзаемнымі кепікамі. Ён «пагражаў» прыездам. Пасля зімовай сесіі выдарыцца люфт, і ён рушыць у «маленькі Парыж».

Ці то ад стомы, ці то яшчэ ад чаго, сцішылася, прытупілася інтуіцыя. Ён не адчуваў, не прадчваў. Калі ў інстытуце яму перадалі пошту, нішто не азвалася ў ім трывогай. Запрашэнні на канферэнцыі, на сімпозіум, на нейкую творчую сустрэчу... І — тэлеграма. «Ад'язджаю на два гады за мяжу. Зычу ўсяго найлепшага. Яна».

Адразу ж пасля сесіі ён паехаў у горад свайго юнацтва... Праз пару месяцаў, пасля доўгіх росшукаў, даведаўся адрас Яны. Але адтуль ад яе не атрымаў адказу ні на адзін свой ліст. Удалося даведацца: жывая, працуе перакладчыцай, шлюбу ні з кім не брала. А праз два гады Яна не вярнулася ў горад яго юнацтва. Ён канчаткова згубіў яе след...

А яна? Пакрыўдзілася? Стамілася чакаць? Расчаравалася? Паднесла тую знакамітую лямпу — і замест сына Кіпрыды пабачыла сярэднеаступененую, удацэнтаваную сярэднюю адзінку, што досыць пасноўдалася ў сваім жыцці шляхамі першапраходцаў і авантурыстаў, шукальнікаў рамантыкі? А хто ён на самай справе? Шасцідзясятнік... Паняцце шырокае... І не толькі храналагічнае... У кожным разе... Нікому не здрадзіў. Нікому ўпоперак дарогі не стаяў. З ім, Тадэвушам Кастэцкім, можна было — хоць у разведку, хоць на маршрут... Займаўся справай патрэбнай. ЛЭПы яго і ягоных калег і дагэтуль стаяць: электрыфікацыя хоць паводле Леніна, хоць паводле Чубайса, хоць паводле роднага беларускага начальства — пакуль што грунт усяго. І можа, не вечнае, але разумнае і добрае было ў яго занятках. Праўда, нядаўна яму давялося пачуць ад студэнта: «Я вам плачу, прафесар, і вы павінны мяне вучыць!» Ухмылкі рынкавага часу! Доктар Тадэвуш

Кастэцкі ўляпіў бы яму — нягледзячы на аплочаны курс... Аднак ён ведаў: за гэтага бэйбуса высільваецца маці — урач! Паліклініка, шпіталь, платныя кансультацыі... А сынок распавёў, што ён чхаць хацеў на ўсю гэтую інжынерыю, яму патрэбны толькі «корачкі» дыплома, ён у бізнэсоўцы рупіцца. Тадэвушаў сын таксама падаўся ў прадпрымальнікі — паспеў два разы збанкрутавацца і два разы падняцца зноў. Тадэвуш не пярэчыў: кожны сам выбірае свой шлях. Аднак у пару свайго студэнцтва сын не спрабаваў хавацца за бацькавай, доктарскай і прафесарскай, спіной. Апошнім часам яны неяк зблізіліся — і Тадэвуш не крыўдаваў, калі сын, іранізуючы, пытаўся: «Ну што, шаноўны доктар, падкінуць «презренного металла»? Тадэвушу хапала. Цяпер вельмі дарэчы прыдаўся «валютны» запас ад замежжа, куды ён кінуўся ў тыя даўнія гады — ці то наўздагон за Янай, ці то за нейкімі фантомамі...

Цяпер Тадэвуш усведамляў, што не жыве, а назірае за жыццём. Выдаткі ўзросту? Хаця да таго парогу, які называюць «векам», было яшчэ далекавата...

Тэлевока... Некалі пасмейваўся. Цяпер не тое каб сядзіць каля тэлевізара або ў Інтэрнэце, але надае ім досыць увагі. «Самы моцны чалавек свету — Марыюш Пудзыноўскі...» Стронгмэн... Прыгожы... Як ваяр са старажытнай гравюры... «Кошт за адзін барэль нафты трымаецца на ранейшым узроўні...» «У Венецыі вада паднялася на метр вышэй звычайнага падтаплення. Знакамітая П’яцца Сан-Марка залітая вадой». «У Францыі можа пайсці на продаж музей Тургенева». І дзе ж яны, мецэнаты?

Тадэвуш адчуваў не тое каб стомленасць ад жыцця, але адстароненасць. Ці то ў віртуальнай рэальнасці, ці то ўсё наўкол — ірэальна і мройна? А як было б, калі б Яна — побач? Усё сталася б інакш? А можа, так яно і павінна быць? Мара застаецца марай, інтэрлюдыя — інтэрлюдыяй... І ўспамін даражэйшы за рэальнасць. Бясслоўная сутнасць — адчуванне радасці, рассэнсаваныя думкі, букалічныя вандроўкі па Belle France. Пабытавыя

дэталі робяцца рытуальна-святочнымі, канкрэтыка слоў губляецца ў часе — застаецца пяшчотная высакароднасць позіркаў, жэстаў, дотыкаў і яснакалёрная, гарманізаваная рэальнасць высакародна-абстрагаванага існавання. Да натуральнай драмы жыцця яны маюць дачыненне ўскоснае. Да штампаў афіцыйнай анкетнай біяграфіі — тым больш. Гэта не сюжэтная лінія — лірычнае адступленне. Ці наадварот — лейтматыў? Мелодыя жыцця? Тая, што надае сэнс існаванню? Ці толькі стылізуе лёс? Можа, нагадвае чароўны сон? Прачнуўся — нешта нібыта набыў і нібыта страціў. Засталося толькі адчуванне хараства, красы, таямніцы... «Я любил твое белое платье, утонченность мечты разлюбив...»

А што — як махануць у Францыю? Цяпер гэта досыць проста. Чулася, гэтым годам зноў, як некалі, незвычайнага смаку маладое віно... Што надае сонца ў крыві... Паехаць?

«Я спадзяюся і нічога не чакаю...»

## «І ДАРУЙ НАМ ГРАХІ НАШЫ...»

Яно не паказвалася цэлых два месяцы. Нібыта перасялілася дзённае свяціла ў іншую галактыку. Дажджы — суцэльная заслона з вады: ці то тропікі, ці то пярэдадзень сусветнага патопу. Нібыта нават катэгорыя часу знікла з жыцця, засталася толькі катэгорыя прасторы. Шэрай, ніклай, панылай. А сёння — на табе — выкацілася свяціла. Адпачыла, яснавокае. І шчэрыцца на чужую бяду. Хаця — якая бяда для яго свая? Але ж — куды падзенешся, старое, атавістычнае, у кожным з насельнікаў зямлі: сонца, сонейка, святло залатое. «Чаму ж адзін дзень лепшы за другі, калі кожнае дзённае святло зыходзіць ад сонца?»

Чаму менавіта сёння такое карнавальнае святло? Пячэ і радуецца. А людзі ідуць — усе светлыя, вясёлыя, — нарэшце распагодзілася. І няма ім ніякай цікавасці да яго. Ідзе сабе дзівак у чорным гарнітуры — трыццаць градусаў паводле Цэльсія — і хай сабе ідзе. Мо яму холадна? Вось тая сыта лагодная кабета — што ёй да яго? Ці той дзяўчыне ў нейкай пярэстай сукенцы — плыве недзе ў сваіх думках, у сваім настроі, у сваім свеце. І ў таго вунь дзядзькі — у яго таксама ўсё хакей.

Дзве гадзіны...

Яшчэ ў дванаццаць ён быў як усе. Чалавек з гэтага сонечнага дня. Малады, у свежанькай, што раса, кашулі. Энергічны. Не чужы хараству свету.

Увогуле дзень пачынаўся, як усе звычайныя дні. Але з гэтым прыемным сюрпрызам — сонца. Раніца ружовая, ясная. І гэтай раніцай — пешшу да бібліятэкі. Пружыністай, звычнай хадой. Лётам — на трэці паверх. На сваё ўлюбёнае месца за апошнім сталом. За акном — знаёмы, абжыты, утульны краявід: вершаліны дрэў парка, дахі дамоў, будынкі на пагорку. Цішыня.

Напаўпусты зал: лета, жнівень. Пара адпачынкаў.

І тая пара дня, калі ўсё ўспрымаецца востра — паранішняму, думкі выстройваюцца строга, лагічна. Наперадзе — колькі гадзін плённага існавання, адчування сябе ў інтэлектуальнай атмасферы вялікіх, слынных, у водсветах гістарычных імгненняў, у разуменні шматзначнасці попелу стагоддзяў.

Чэсь Запольскі заўсёды меў асалоду ад самога працэсу працы, ад старых кніг, ад таямніцы архіваў, ад параўнання тлумачэнняў і каментараў, ад перасячэнняў фактаў гісторыі і міфаў, ад асэнсавання з'яў, падзей, характараў.

Так было і сёння. Ніякіх прадчуванняў. Ніякіх сноў.

...Тэлеграму адбілі ў адзінаццаць гадзін раніцы. «Памёр раптоўна ваш бацька. Паведаміце магчымасць вашага прыезду». «Еду, еду — пра што можа быць гаворка?» Чэсь заскочыў на паштамт: «Прыеду абавязкова. Прашу чакаць. Запольскі».

Памёр раптоўна — значыць, ці ўначы, ці ўраніцы. Мо, тады, як ён, Чэсь, джынсаваў паркам у бібліятэку. Або жартаваў з бібліятэкаркай. Або піў каву.

Дзве гадзіны. Крамы зачыненыя. Патрэбныя грошы. Купіць гарнітур, кашулю, гальштук, чаравікі. А раптам бацька атылеў? Наўрад ці на тых харчах. Зблажэў? З вялікага не выпадзе.

– Эй, на шхуне! Куды кіруешся? — прыяцель узнік, як з-пад зямлі. — Даю згоду, не пытаючыся, куды і навошта. Я без фрака, але, спадзяюся, мне даруюць мой дэмакратычны выгляд?

– Прабач! — Чэсь глядзеў на Валеру, як на жыхара іншай планеты, дзе ўсё добра, дзе жартуюць і ходзяць у госці.

Тлумачыць ён не будзе, вырашыў Чэсь:

– Сустрэнемся на барыкадах.

– Мілорд, даравання не будзе. Сапсаваў лепшыя намеры ў такі светлы дзень.

– Бывай! — Чэсь ужо не чуў, якія словы гнаў наўздагон прыяцель. Што рабіць з цёткай Вандай? Яната прыедзе. Аднак пакуль дадуць дазвол, пакуль дабярэцца са свайго Енджэхова. Тэлеграму адбілі, безумоўна, толькі яму. Самы блізкі сваяк. Сын.

Ці званіць Ладунцу? Салаўёву? Яны сябры, але ж пры пасадах, званнях... А бацька ж не ў роднай хаце памёр. Як кажуць варажбіткі, у казённым доме.

Не, ён, Чэсь, выправіцца адзін, сам. Грошы? Грошы... Можа, пазычыць Лук'яныч... Тады, на хаўтурах маці, ён, можна сказаць, цуд стварыў.

Лук'яныч быў дома. Лук'яныч выручыў.

...Цягнік быў перапоўнены. Канец жніўня. Канец вакацый, канец адпачынкаў. Уражанне такое, што ўсе зрушыліся з месца. І для Чэся гэтаператварала факт ягонай асабістай трагедыі ў нешта недарэчнае, заблытанае, алагічнае. Замест пачцівага маўчання, тактоўнага шэпту — галас раз'юшаных цётак: ледзь убіліся ў вагон, крыкі малых — у цягніку душна і цесна (агульны вагон), вясёлая гамана студэнтаў і школьнікаў — ім пакуль паўсюдна хораша, лаянка п'яных — яны маюць прэтэнзіі да ўсіх.

Чэсь глядзеў у акно. Яно бруднае, але крыху прыадчыненае ўверсе — павявае прахалодай. Увогуле ж Чэсь любіў дарогу. Любую. Бацька таксама любіў дарогу, любіў вандроўкі, адразу рабіўся вясёлы, ажыўлены, малады... Хаця... Ён і цяпер яшчэ не набраў тыя гады, калі людзі пачынаюць глядзець на ўсіх, як на сваіх — калі не васалаў, дык вучняў-недарэкаў. Пяцьдзясят адзін год...

Пяцьдзясят адзін... І яшчэ ўчора ён быў жывы. «Яшчэ ўчо-ра, яш-чэ ўчо-ра, яш-чэ ўчо-ра», — выстуквалі, здаецца, колы цягніка. Што бацька рабіў? Ці прадчуваў? Пра што была яго апошняя думка?

У кіно заўсёды паказваюць, што перад чалавекам у апошнія хвіліны пракручваецца ўсё жыццё або выплы-

ваюць малюнкі маленства. А на самай справе — што паспявае ўзнікнуць у свядомасці? Калі смерць раптоўная, а не адыход у іншабыццё пасля хваробы, доўгіх пакутаў, доўгага роздуму...

«Яш-чэ ўчо-ра, яш-чэ ўчо-ра», — выстуквалі колы.

...Смерць адразу ўсё памяняла месцамі. Да таго Чэсь лічыў — ён правы, а бацька вінаваты. Цяпер бацька самім фактам смерці нібыта вінаваціў яго, Чэся, а ў бацькі з'явіўся неаспрэчны аргумент: смерць — апошні довад усяго.

Усё — ні адрачэння, ні надзеі, ні даравання. Падведзеная апошняя рыса.

А да той рысы... шмат чаго было... Які быў той травень 45-га года! Сонца ласкава гуляла праменьчыкамі на пагонах і начышчаных гузіках бацькі і Ладунца. Чэсь ішоў побач — у яго на шыі на раменьчыку сапраўдны артылерыйскі бінокль, падарунак бацькі. Дарослыя хлопцы, што прыйдуць да бацькі ў школу атрымліваць атэстаты, пакуль дружна, у маршавым рытме, рубяць сваё: «...артиллеристы, зовет Отчизна нас!». Чэсь ідзе шчаслівы і горды: бацька вярнуўся з фронта! Тры ордэны, чатыры медалі! І ідуць яны не абы з кім — з Ладунцом! З Героем Савецкага Саюза! Гарадок невялікі — Ладунца ведаюць усе. Ды і бацьку — таксама: дырэктар школы, франтавік!

Чэсь глядзіць у акно цягніка.

Згадвае...

...Зімовыя прыцемкі... Электрычнае святло патухла: у паваенныя гады — звычайная з'ява. Яны не запальваюць сваю дзесяцілінейную лямпу. Бацька ціхім голасам пачынае выводзіць песню. Чэсь падпявае. Пра мора, пра запаветны камень, пра франтавыя дарогі... Строгія мужчынскія песні...

...Вогнішча яркае і высокае. Бацька і Ладунец скачуць над тым вогнішчам. Спрытныя. Маладыя. Паводле завядзёнкі пасляваенных гадоў — у галіфэ і гімнасцёрках.

...Летняя раніца. Чэсь расплюшчвае вочы. І першае, што бачыць, — чырвоны ровар. Сапраўдны. Для дарос-

лых. З кухні ідзе пах толькі што спечанага пірага. А бацька за сцяной даводзіць маці: «Няхай вучыцца. Што, калі зляціць з таго ровара? Ужо не малы. Дзесяць гадоў. Мужчына». Чэсь падскоквае, не чуючы ног ад радасці — сам бацька гаворыць, што Чэсь дарослы. І колькі тых шчаслівых хлопцаў у горадзе, што маюць ровары, ды тым больш — такія!

...Паліцы з кнігамі... Чэсь пакуль што аддае перавагу гарадской і раённай бібліятэкам. У іх дома няма ні Жуля Верна, ні Майна Рыда, ні Дзюма, ні нават Каверына. З паліц можна браць усё. Аднак — ёсць яшчэ заўсёды зачыненая шафа з кнігамі...

...Менавіта гэтую шафу ледзь не раструшчылі людзі ў ботах, якія аднoечы ўвечары прыйшлі да іх у хату. Аднак Чэсь ведаў – амаль усе кнігі з шафы паехалі на возе ў Руткавічы — ксёндз Антоній схаваў іх у некага: ці то ў свіране, ці то на гарышчы.

– Астраноміяй захапляецеся? — пытаўся ў бацькі адзін з тых, у ботах.

– Цікаўлюся, я ж фізік, — спакойна адказваў бацька.

– Ы-гы, — падазрона глядзеў на бацьку прышлы. У шафе нічога не знайшлі, аднак адзін дакумент, які, паводле іх меркавання, кампраметаваў бацьку, ужо трапіў да іх у рукі. Бацькаў дзённік. Чэсь быў у шостым класе і не ўсё разумеў, пра што ішла гаворка, аднак яму было ясна: адкрытых думак супраць улады там не было, аднак процьма «крамольных высноў», несумяшчальных з пасадай бацькі, званнем педагога і ўвогуле савецкага чалавека; людзі з пэўнай арганізацыі «выявілі» — нешта пра незалежнае мысленне, пра сэнс часу, пра стратэгію маўчання... Выразы гэтыя ўрэзаліся ў Чэсеву памяць...

Пасля ХХ з’езда бацьку рэабілітавалі — а Ладунец увесь час рабіў захады, каб вызваліць сябра.

...Бацьку сустракалі, як з фронта... Здавалася — як у дзіцячых казках, цяпер усё зноў будзе бясхмарна і шчасліва.

...Што зламала бацьку, Чэсь не ведаў. Туды, за Урал, маці ездзіла да яго на спатканне, якое чамусьці ў

апошні момант адмянілі. Чэсь акуратна пісаў яму лісты. Вярнуўся бацька якраз у той год, як Чэсь паступаў ва ўніверсітэт. Вельмі дарэчы — біяграфія Чэсева цяпер была бездакорнай.

Першыя зімовыя вакацыі праляцелі, як адзін дзень, і Чэсь чакаў лета — і сустрэчы з бацькам. Тым летам Чэсь спачатку паехаў на раскопкі. Іх было некалькі чалавек. І ў гурце, і кожны сам па сабе. Чэсь зведаў жыватворную прахалоду цішыні і бездакорную вышыню краю агульных паняццяў, не зважаў на жыццёвыя дробязі. Вызваліўся ён раней, як меркаваў, і ехаў дадому, так бы мовіць, жывым сюрпрызам.

Аднак сюрпрыз чакаў яго...

Чэсь прыехаў удзень, маці была на працы, а ўпоперак цэнтральнага пакоя хаты нехта ляжаў. Як высветлілася — бацька. Жывы. Проста (!) удрызг п’яны.

Увечары яны вялі размову з маці. Яна не хацела турбаваць і трывожыць сына. Цярпела. Ушчувала, як магла. Шкадавала бацьку.

Напачатку шкадаваў бацьку і Чэсь. Раз-пораз зрываючыся на рыгарыстычныя маналогі. Потым згадваючы рознае: «Я пригвожден к трактирной стойке», «In vino veritas» і гэтак далей.

Першая сапраўдная раскепіна з’явілася паміж ім і бацькам, калі ў маці здарыўся цяжкі гіпертанічны крыз: яна два тыдні нічога не бачыла. І Чэсь, прыехаўшы дадому, «павёў наступленне» на бацьку. Чэсь вёў «выратавальныя» размовы, а бацька ківаў галавой, унурыўшыся ў адну кропку. Чэсь не мог прабіцца праз пустэчу бацькавага «я». А можа, гэта была не пустэча? Адчуванне наканаванасці, фатальнасці ўвогуле: у гэтым свеце нічога змяніць нельга. Усё як было, так і будзе. Хто з іх дваіх угадваў сутнасць сапраўднага? Існага? Цяпер Чэсь зусім не быў упэўнены, што ён, Чэсь. Форма, пазіцыя — гэта не ў апошнюю чаргу займала яго.

...Рэальнасць пачала тады распадацца для Чэся на некалькі пластоў. Адзін, звычны, стэрэатыпны, гладкі — універсітэт, акадэмічны інстытут (дапамог «чырвоны ды-

плом» і партызанскія сувязі Ладунца — на той момант многія з былых сяброў па зброі былі пры ўладзе і пры пасадах). Не давялося «адбываць» абавязкова тры гады пасля атрымання дыплома дзе-небудзь па размеркаванні. На свежую галаву, не расцерушыўшы па дробязях набытае, ён абараніў дысертацыю па адной з тэмаў сівой даўніны. Словам, лінейна-букалічны варыянт...

Другі пласт мройна вымалёўваўся, вярэдзілі нейкія пачуцці, здараліся хуткаплынныя і не вельмі ўдалыя «раманы», як нейкі накід «асабістага жыцця». Аднак Чэсь ці то чакаў неверагоднага кахання, ці то пабойваўся згубіць перавагі вольнага жыцця — і гэты пласт рэчаіснасці пакуль што заставаўся для яго белым полем, з некалькімі заштрыхаванымі мясцінамі.

Трэці пласт — вярэдзіў, мэнчыў, не абяцаў выратавання. Тут было спусташальнае прыніжэнне і скажоная, насуперак усім законам існавання, рэальнасць. І гэта было яго, Чэся, інтэграцыйнае ядро, грунт, не толькі біялагічны, генны, але і свядомасны. Да гэтага свядомасна ўладкаваны, трывалы, эстэтычна зладжаны свет пачынаў яшчэ не разбурацца, але крышыцца, распадацца: на падзеі, факты, учынкі.

Бацька быў для Чэся тым, кім павінны быць бацька, паводле ўсіх традыцый і высноў. Стрыжань сям'і, узор, прыклад, аснова, апірышча. Маці ён любіў. Яна была мяккая, ветлівая, і прафесію мела ціхую, надзейную, жаночую. Фармацэўт, правізар, аптэкарка... Яна любіла свайго сына, свайго мужа. Любіла кветкі, зёлкі. Усё жывое. Часта ездзіла ў Руткавічы — у іх гарадку касцёлы былі зачыненыя.

...Чэсь адчуваў, што павінен нешта зрабіць — як дарослы ўжо чалавек, як мужчына, як абаронца маці. Адчуваў — і не ўмеў. Не атрымлівалася.

Урэшце — здарылася тое, што магло б і не здарыцца. Зноў — Чэсь быў далёка, у вялікім горадзе, які стаўся месцам яго працы і жыхарства. Зноў па бацьку прыйшлі людзі ў ботах. Бацьку зноў арыштавалі. Здаецца, абвінавачванне гучала так: «За захоўванне і гандаль валютай».

Знёсшы, падобна, усе залатыя і срэбраныя матчыны бразготкі з дому — і збыўшы іх «на ўзвесяленне душы», ён дабраўся да сямейнага скарбу, што не чапалі нават падчас вайны: старыя залатоўкі, нейкія грошы — ці не даляры. А «добразычліўцы» не звяліся — «загрымеў» бацька.

Калі Чэсь паехаў на дазволенае спатканне з бацькам, вартавы, падхіхікваючы, спытаў: «І як, валютчыкі, жывяце?» Чэсю зноў стала шкада бацьку... Дажыўся...

Бацька тымчасам паводзіў сябе, што кароль у выгнанні. «З пункту погляду цывілізаванага чалавецтва, — даводзіў ён Чэсю, — я ніякага злачынства не зрабіў. Гэта спадчынны скарб, я яго не крадзяжом здабыў, не змахлярыў. Вінаваты перад сям’ёй. Вельмі. Але толькі перад ёю». Бацька сцвярджаў так, выдатна ведаючы, што «крымінальна-працэсуальны кодэкс» той краіны, што займала адну шостую частку зямной паверхні, вызначае зусім іншае.

На судзе бацька таксама даводзіў: нічога ні ў кога не краў, нявінна пацярпелы. Нібыта і справядліва — але ж бацька вёў гаворку, пагардліва пазіраючы на суддзяў: тут у ім гаварыў яго шляхецкі генафонд, яго элітарны гонар, нават не на сацыяльным, а хутчэй на біялагічным узроўні, на ўзроўні тых самых храмасомаў, якія не давалі яму ціхамірна і паслухмяна скарацца. Мабыць, гэтая біялагічная алхімія вызнавалася і ў яго паводзінах. Хаця — піў ён, як звычайны мужык. Ды і на ўзроўні, калі п’юць да парасячага віскату, а не арыстакратычна ўжываюць напоі, розніца, мабыць, толькі ў выбары тых вадкасцяў: каньяк, віно ці самагонка.

Ну, а ўляпілі бацьку напоўніцу.

І Чэсь, і маці зноў шкадавалі бацьку, але раскепіна паміж сынам і бацькам шырылася.

Пасля смерці маці яна сталася бездання.

...Маці паехала да споведзі ў Руткавічы — да сваёй апошняй споведзі. Завеі былі страшэнныя — і Чэсь памятаў халодную браню танка: глухлі нават «газікі», затое Лук’яныч явіў сваё высакародства і вернасць сяброў. Чэся «падкінулі» ў Руткавічы на танку, перапалохаўшы ўсё мястэчка.

Чэсь памятаў матчын твар — прыгожы, супакоены, ясны. Памятаў памінальную імшу — і тое, як глядзеў на яго ксёндз Антоній. Сам ксёндз не падыходзіў да Чэся — шасцідзясятыя гады XX стагоддзя. У краіне, дзе жылі ксёндз Антоній і Чэсь, святар, а тым больш каталіцкі, — персона нон грата...

Потым Чэсь прыязджаў у Руткавічы, аднак неяк усё не выбраўся зайсці да ксяндза...

А з бацькам... пасля смерці маці нібыта адразу як адвяло ў Чэся шкадобу, усё спачуванне. Ён! Ён, бацька, найперш вінаваты ў матчынай смерці! Каб не ён... І ў Чэся пачаўся істэрычны бунт — супраць бацькі. Супраць рэальнасці. Супраць персанажаў у гэтым часе і гэтай прасторы. Навука стала здавацца інтэлектуальным фарсам, шаманствам. Тыя, што ў ёй ці каля яе, — інфантыльнымі суб'ектамі, якія імітуюць значнасць і важкасць, а на самай справе тапочуць побач з сапраўднай рэчаіснасцю. І яго, Чэсева, жыццё — нейкае інтэлектуальнае трызненне ў складанай заблытанасці свету, у лабірынтах ідэй, задум, пошукаў...

Чамусьці ўсё, супраць чаго Чэсь паўставаў, ён звязваў з бацькам. Як з увасабленнем алагічнасці? Духоўнай разбэрсанасці? Адсутнасці духоўнай дысцыпліны? І нешта бацькава — насуперак логіцы, але паводле той самай біялагічнай алхіміі — раптам выяўлялася ў ім, Чэсю. Накшталт таго, як некалі, у школе, калі называлі сваё прозвішча і дадавалі: «Член УЛКСМ», ён назваў сябе і пазначыў: «Лейбарыст».

Але той бунт быў у школе. Дарослы Чэсь нічым канкрэтным свае стасункі з акаляючым светам і пануючым светапоглядам не выяўляў, проста сядзеў да цемнаты ў вачах у бібліятэках і заходзіў згуляць партыю-другую ў шахматы да Лук'яныча. Былы вайсковец, у высокіх чынах, ён таксама меў нейкую сваю, адасобленую лінію паводзінаў. Развёўшыся з жонкай, жыў адзін, ніколі нічога не расказваў пра сябе. І не лез з пытаннямі да іншых. Яны ўмелі памаўчаць адзін з адным. І дэшыфраваць гэтае маўчанне ў словы наўрад ці было магчыма. Ды

і наўрад ці ў тым была патрэба. Час ад часу яны званілі адзін аднаму ў дзверы. «Згуляем партыю?»

...Пазней Чэсь не тое каб адаптаваўся да смерці маці, але ўвайшоў у нейкі рытм роздуму, эмацыйны і інтэлектуальны рытм. З бацькам падтрымліваў неабходныя адносіны. Не больш. Дасылаў таму паштоўкі на ўсе святы, да дня яго нараджэння, пісаў кароценькія лісты — раз на месяц, майстраваў пасылку, як тое дазваляў рэжым установы, дзе быў бацька — вагою ў 5 кг, раз на паўгода. Ніякіх спробаў дабіцца спаткання. Ніякіх сантыментаў.

Чэсь больш не імкнуўся надаць гарманічны сэнс іх адносінам з бацькам — так бы мовіць, ноты рассыпаліся, і ён, Чэсь, больш не спрабаваў трансфармаваць іх у музычную п'есу. Дысананс. Гармоніі не будзе.

Смерць маці нібыта вызваліла Чэся ад духоўных абавязкаў перад бацькам. Толькі знешнія атрыбуты ўвагі. Ён мог стаць вучнем свайго бацькі. Яны маглі быць сябрамі. Усё разбурыў той, старэйшы. Так лічыў Чэсь.

Хай яно так і будзе.

І вось... Бацька памёр... Пакінуўшы Чэся ў яго адстароненасці і спробах высакародна-адстароненага існавання... Пакінуўшы з вечным пытаннем...

...За акном цягніка цямнела. Чэсь задрамаў. І бачыў у сне нейкую белую пустыню: белы дол, ці то снег, ці то пясок. Белае-белае неба і туман. І недзе на даляглядзе ўзнікала постаць — маленечкая, як лялечная, і Чэсь спрабаваў наблізіцца да яе і разгледзець. І не мог.

...Прачнуўся Чэсь адразу і пабачыў агеньчыкі за акном — падобна, яго станцыя. Жарынавічы — чыгуначны вузел, цягнік марудна падпаўзае да будынка вакзала: вакол запасныя чыгуначныя рэйкі, развязкі, семафоры...

Урэшце цягнік прыпыніўся, і Чэсь, прапускаючы ўсіх наперад, выйшаў з вагона.

...Дзве гадзіны ночы. Транспарт не ходзіць. Таксі не відаць. Ды і ці адчыняць яму там уначы, у той установе... Чэсь сеў на лаўцы ў чакальні.

...У шэсць гадзінаў раніцы быў каля прахадной...

– А мы вас ноччу чакалі, — прыветна азваўся чалавек у званні маёра.

– Тэлеграму маю атрымалі? — чамусьці спытаў Чэсь, хаця рэпліка маёра відавочна сцвярджала, што яна дайшла да адрасатаў.

– Так, — пацвердзіў маёр і працягнуў Чэсю нейкія паперы. — Трэба будзе падысці ў ЗАГС.

– Дзе бацька?

– У моргу.

– Я прывёз адзенне.

– У нас усё ёсць.

– Хай ужо будзе сваё, цывільнае.

– Глядзіце самі. Будзем хаваць тут ці будзеце забіраць?

Гэта яны з Лук'янычам абмеркавалі. Трыццаць градусаў паводле Цэльсія. Труну трэба свінцовую. Пакуль здабудуць ці зробяць. Патрэбна машына. Ды і ці будуць там чакаць? Ды і месца на могілках — яго таксама трэба знайсці.

– Тут. Аднак, калі можна, усё, як належыць.

– Ну, акрамя аркестра, усё будзе. Машыну вам дадзім. І работнікаў з канвоем. Труну зрабілі. Лепшай тут не знойдзеце.

– Што можна купіць для людзей?

– Наедак. Пітва ніякага. Акрамя сітро, малака і мінералкі. Ніякіх грошай.

– Зразумела.

...А далей — усё, як у сне. Плыве гарачы жнівеньскі дзень. Плыве перад вачыма цётачка ў ЗАГСе. Плывуць гладыёлусы і ружы. Плывуць эмаліраваныя вёдры з вадой, у якія Чэсь ставіць кветкі.

Як праз завесу — вянкі. Ад сына. Ад сястры. Ад сяброў. Ад знаёмых. Хай будзе. Людзі любілі яго. Зайздроснікі і даносчыкі — іх лічыць не варта.

Знайшоўся фатограф. Згадзіўся.

...Той самы маёр павёў Чэся некуды праз двор. Бацька ўжо ляжаў у труне. Апрануты ў прывезенае Чэсем.

Кароткія, дыбчыкам валасы. Зусім сівыя.Твар такі ж спакойны, як некалі ў маці. Раптоўная смерць...

...Да могілак яны едуць праз мост над ракой. Вакол пагоркі, вуліцы, што нібыта коцяцца ўніз, з пагоркаў.

Могілкі...

У машыне чацвёра канвойных, чацвёра падканвойных, шафёр, Чэсь... І ён, бацька...

Труну нясуць на ўскраек могілак...

– Развітвайцеся, — чуе Чэсь голас аднаго з канвойных. Чэсь дакранаецца вуснамі да ілба бацькі — той не проста халодны. Гэта холад неарганічнага цела, холад рэчыва — камня? лёду? Можа, таму, што з морга? Ці гэта ўжо той самы, магільны холад?

Шыльдачка з жалеза. «Трэба будзе адразу зрабіць агароджу і, пакуль помнік, крыж паставіць. Ці зорачку?» — думаў пра сябе Чэсь.

– За Ляксандра. За спачын яго душы, — пажылы высокі мужчына падняў шклянку з газіроўкай.

Чэсь накупіў кіўбас, сыру, мясных рулетаў — добра, што тут свой мясакамбінат. Аднак людзі толькі кранулі наедак, па-сапраўднаму ніхто не еў.

Чэсь, спытаўшы дазволу ў канвойнага, прапанаваў узяць усё з сабой. Спачатку мужчыны аднекваліся, потым асцярожненька загарнулі ежу.

А Чэсь глядзеў на іх. З выгляду людзі як людзі. Немаладога ўжо веку. Таварышавалі з бацькам ці проста тыя, каму маглі даверыць выхад з зоны? За што тэрмін маюць?

Мужчыны не тое каб спачувалі Чэсю, аднак, відавочна ставіліся з павагай. Магчыма, таму, што ён не пасаромеўся, прыехаў. Мо пра сябе мысляць — які будзе іх апошні дзень і апошні шлях?

– Учора мы разам з ім былі. Валідол неданёс... — гэта гаварыў той самы, высокі.

– Дзякуй вам, — Чэсь парукаўся з усімі. І звярнуўшыся да таго, высокага, спытаўся: — Колькі гадзін было?

– А недзе каля дзесяці.

Якраз тады, як ён, Чэсь, шыбаваў у бібліятэку... І нічога не адчуваў... Не прадчуваў...

«Памёр айцец ягоны — і як быццам не паміраў, бо пакінуў па сабе падобнага сабе...» Падобнага сабе...

Чэсь знешне быў падобны на бацьку. Але — падобнага сабе — тут, безумоўна, не пра тое. І ўсё ж — ці не здрадзіў ён, Чэсь? І — ці падобны ён? І пра якое падабенства прамаўляе мудрая кніга? «...і як быццам не паміраў...»

У Руткавічы! Ён паедзе ў Руткавічы! Толькі туды!

Чэсь развітаўся з гэтымі выпадковымі — ці невыпадковымі? — людзьмі, саскочыў з машыны непадалёк ад вакзала. І паехаў — у перапоўненым, душным вагоне — ужо неяк нічога не заўважаючы: ні цеснаты, ні задухі, ні людзей, што побач з ім... Толькі ў нейкі момант, калі сусед у цягніку запытаўся нечага ў Чэся, той адчуў, што яго вусны расцягваюцца ў недарэчную ўсмешку... Чаму?

Прыехаўшы дадому, Чэсь скінуў чорны гарнітур, насунуў звычныя джынсы, цёмна-сінюю каўбойку. І — на аўтобусную станцыю. І зноў мітусня, цесната аўтобуса праскоквалі для Чэся, як кадры старога кінафільма, Чэсь толькі паглядаў на букет белых і чырвоных гваздзік у мокрым рушніку — ці давязе?

...На магіле маці было чыста, прыбрана — цётка Тэрэза трымала слова. Чэсь доўга сядзеў ля помніка. Потым скіраваўся да хаты цёткі Тэрэзы. Але праходзячы паўз касцёл, пачуў спевы — безумоўна... нядзеля... ранішняя імша...

– Перапросім Бога за нашы грахі, каб нам быць годнымі адпраўляць Найсвяцейшую Ахвяру.

І Чэсь разам з усімі паўтарыў:

– Мая віна, мая віна, мая вельмі вялікая віна.

Чэсь згадваў сакральна вядомыя і даўно не паўтараныя словы:

– Усёмагутны Божа, ачысці сэрца маё і вусны мае...

Чэсь не проста слухаў і прамаўляў, прамаўляў і слухаў. Ён прымаў удзел у нечым неабходным яго

душы — сёння, як ніколі. І Нешта Высокае ўплывала на яго, таму што ледзь не на маніхейскі лад «разарваны Дух, раздзелены на часткі, распяты ў прасторы».

І Чэсь адчуваў тое, што прыходзіла ў светлыя хвіліны мінулага: адчуваў сябе медыумам сіл Вышэйшых.

– Святы, Святы, Святы, Пан Бог Усёмагутны, Неба і зямля поўныя хвалы Тваёй...

Нешта цяжкое, важкае нібыта адступала, Чэсь чуў голас ксяндза Антонія:

– Таму просім Цябе, асвяці гэтыя дары расою Духа Твайго...

Чэсь непадалёк ад уваходу. Але ён ведаў, што ксёндз заўважыў яго.

– Ойча наш, каторы ёсць у небе...

Чэсь прамаўляў словы малітвы і апускаў галаву ўсё ніжэй:

–...і адпусці нам грахі нашы, як і мы адпускаем вінаватым нашым...

Чэсь адчуваў, як святлее на душы...

– Перадайце бліжняму знак супакою...

Чэсь паварочваўся — налева, направа, азірнуўся назад — вочы, вочы... У іх — прыязнасць... І — разуменне?

– Ідзіце ў супакоі Хрыста, — абвясціў ксёндз Антоній.

Аднак Чэсь застаўся ў бажніцы. Сеў на лаву. Слухаў цішыню. А можа, тую Muzica Mundana — «сусветную музыку», што вынікае са звароту нябесных сфер...

Чэсь бачыў, як з закрыстыі зноў выйшаў ксёндз Антоній. Ён наўрад ці сам падыдзе да Чэся.

– Хвала Хрысту, — крыху запінаючыся, прамовіў Чэсь.

– На векі вякоў...

– Я да вас... — схіліў голаў Чэсь.

# САЛОДКАЯ РЫБА МАКРОРУС

*Марту*

Машына колеру засохлай крыві. Пінжак — таксама. І твар — нібыта яго качаў-валяў скурадзёр на бойні. А гамалейка — нечакана прыгожая, бэжава-карычневая.

Гаспадар машыны, апрануты ў той самы пінжак, трымаў партманет, нібыта ўзважваючы яго, і ціха цадзіў скрозь зубы:

– Ведаеш, баця, у мяне часовыя цяжкасці. Давядзецца табе з грашмі пачакаць...

Траян цвёрда сказаў:

– У мяне таксама цяжкасці. І не часовыя.

– Гэта вашы праблемы, — пачаў гаспадар машыны колеру засохлай крыві.

– Я на вас свае праблемы не вешаю, — перапыніў яго Траян. — Не па гуманітарную дапамогу прыйшоў. Зарабіў.

Апошняе слова ён вымавіў, што цвік увагнаў.

Гаспадар развёў рукамі — яны былі кароткія і пульхныя:

– Дык я разлічуся, пачакайце... Зойдзеце другім разам.

Гаспадар пакрочыў быў ды ганка сваёй трохпавярховай цытадэлі: вокны — байніцы, сцены — як у Бастыліі.

Траян выдыхнуў:

– Шчанюк!

– Ну, мы ж інтэлігентныя людзі.

– Гэта вы — інтэлігент?

– Ну, не будзем дыскутаваць, — зноў працадзіў скрозь зубы гаспадар крывавага пінжака.

– Не будзем. Разлічымся — і адзью.

– Я ўжо сказаў... — зноў пачаў расцягваць словы крывавы пінжак.

Траян спакойна ўзяў пульхнага маладзёна за штрыфелі пінжака, потым адпусціў іх і нечакана нанёс жорсткі бакавы ўдар па сківіцы.

– Хук! — пачуў Траян за спіной.

– Чысты накаўт, — азваўся Траян, вокамгненна абярнуўшыся і трымаючы правую руку напагатове. Траян адчуў — яго перапынілі ў пару. Ён раптам усвядоміў, што яму хацелася біць і біць гэтае пульхнае, азызлае цела, якое апынулася на зямлі. Такога з ім ніколі не было. Ні ў дваровых бойках, ні тады, як трымаў у руцэ шпагу.

– А я і не ведаў, што вы не толькі пяціборац, — усміхнуўся, падыходзячы, незнаёмы чалавек.

– Хатні прыём, — Траян зірнуў на чалавека: пэўна, некалі бачыў яго.

Партманет ляжаў на зямлі.

– Будзеце сведкам, — Траян падняў гамалейку і адлічыў некалькі купюр. — Роўненька: за кладку камінка і за зробленую тэрасу.

– Такі шырокі профіль? — пацікавіўся незнаёмы.

– Я ж мнагаборац, — усміхнуўся Траян, дастаючы нашатыр.

– Вы так усё прадугледзелі?

– На жаль.

Крывавы пінжак чмыхнуў і расплюшчыў вочы.

Траян і незнаёмы дапамаглі яму падняцца. Траян аддаў партманет:

– Ваш партатыўны сейф мінус мой ганарар. Як дамаўляліся.

Крывавы пінжак нечакана задаволена гмыкнуў:

– Баця, ну, ты малаток. У мяне ёсць прапанова.

– Якая?

– Мне патрэбны целаахоўнік.
– Не маё амплуа.
– Ты, хлопец, улічы, — падаў голас незнаёмы, звяртаючыся да гаспадара, — перад табой чэмпіён Саюза і амаль алімпійскі чэмпіён.
Крывавы пінжак пачаў хваляваецца:
– Улічу.
Ён асавела глянуў на незнаёмага:
– Вы да мяне?
– Не, я да яго, — незнаёмы паказаў на Траяна і накіраваўся да брамы.
– Вы разважце, — не сунімаўся крывавы пінжак, гледзячы на Траяна.
– Я ўжо разважыў. — Траян, ступіўшы колькі крокаў, апынуўся каля сваёй «Волгі».
– Віктар Пятровіч, — дагнаў незнаёмы, — я вас даўно шукаю.
– З якой нагоды? — суха спытаў Траян.
– Прапанова ёсць.
– У целаахоўнікі ці ў кілеры? Мне прапаноўвалі. Не практыкую.
– Ну, што вы так, — мякка настойваў незнаёмы, — у мяне сур’ёзная справа. У маю машыну не хочаце перасесці?
– Навошта? Я да сваёй прывык, — Траян зірнуў на новенькі «БМВ». — Хочаце — прашу. — Траян зрабіў шырокі жэст праваю рукой. — У вас жа ёсць там лёкай. Павядзе сам.
– Мой шафёр.
– Тым больш. Хай едзе за намі.

Траян бакавым зрокам бачыў незнаёмага. Досыць невыразны профіль, добрага крою карычневая скураная куртка, дарагая кашуля.
Незнаёмы хвіліну-другую сядзеў моўчкі. Урэшце ціха кашлянуў і прамовіў:
– Ведаеце, хачу арганізаваць школу, спартыўную.
– Бясплатную?
– Для адораных дзяцей і падлеткаў — без грошай, для дарослых — за плату.

– Зразумела. Рэкет аплочвае маладыя таленты, каб потым скіраваць іх у патрэбнае рэчышча?

– Не... Вы ўсё...

Траян перапыніў:

– На якую ролю вы ангажуеце мяне?

– Выкладанне. На ўсе віды: конны спорт, фехтаванне, плаванне, бег...

– Ну, і, вядома, стральба, — усміхнуўся Траян.

– Вядома. Тым больш, што ў стральбе з пісталета вы выступалі яшчэ і асобна.

– Каго яшчэ вярбуеце?

– Вядомых спартсменаў.

Траян зноў перапыніў:

– Былых...

– Былых, — ціхім, бясколерным голасам пацвердзіў незнаёмы. — І плаціць збіраемся адпаведна іх тытулам і заслугам. Вам — калі пагодзіцеся — за кожны від асобная плата.

Траян гмыкнуў.

– Я разумею вашу іронію, — азваўся незнаёмы і дадаў: — Я некалі вучыўся з вашым сынам. Нават аднойчы быў у вашай хаце.

– Хто толькі не быў у нашай хаце, — Траян зірнуў у бакавое люстэрка, — і на дачы...

– Вы прадалі яе? — спытаў незнаёмы, напэўна ведаючы, што дачы ўжо няма.

– Вы добра інфармаваны, — усміхнуўся Траян. — Прадаў. Жонцы трэба было ставіць помнік.

– А што сын?

– Вы ж сабралі ўсе звесткі. Нашто пытацца? — Траян паглядзеў у вочы незнаёмага: — А што робіце вы?

– Ну... – пачаў незнаёмы.

– Зараз вы мне будзеце гаварыць пра малое прадпрыемства, пра сумесную фірму, пра аперацыі на біржы. Ніхто з людзей з грашмі ніколі не адказаў мне канкрэтна: у мяне вытворчасць аўто, станкоў, гузікаў — урэшце. Ды хаця б «бюстгальтеров на меху».

– Прабачце... – працягнуў незнаёмы.

– Гэта Маякоўскі. Непапулярны сёння аўтар.

– Вы яго любіце?

– Не, у мяне іншыя літаратурныя прыхільнасці. Проста згадаў...

– Давайце вернемся...

– Да нашых бараноў?

– Так. Заробкі ў вас, здагадваюся, выпадковыя.

– Зараз пашанцавала.

– А што з эксперыментальным цэхам?

– Вы ж ведаеце...

– А былыя вучні?

– На ролю настаўніка я ніколі не набіваўся. Проста быў начальнік цэха.

– Але якога! — шчоўкнуў языком незнаёмы.

– Чулі?

– Яны цяпер там грошы грабуць лапатай, — амаль з дакорам канстатаваў незнаёмы.

– Дай ім Бог, — глуха адгукнуўся Траян.

– Чытаў нядаўна інтэрв'ю вашага наступніка.

– І што?

– Ён чамусьці не згадвае вас.

– Рэч у тым, што я толькі шараговы інжынер, для духоўнага і інтэлектуальнага настаўніка імя непрэстыжнае. Да таго ж на заводзе мяне некаторыя лічылі спартсменам, які, блазнуючы, падаўся ў вытворчасць, а спартсмены лічылі, што я з глузду з'ехаў, вызначыўшыся са сваёй «прафарыентацыяй». Ну, а вынаходніцтва сваё я не запатэнтаваў...

– І цяпер з яго карыстаюць іншыя?

Траян маўчаў.

– А чаму, з вашымі званнямі, не пайшлі ў які камітэт?

– Нават калі гэта быў спартыўны камітэт, трэба было мець чырвоную кніжачку.

– Вы кніжачкі не мелі?

– Не хацеў.

Траян азірнуўся на «БМВ», што кіравалася за імі:

– Тут мне трэба збочыць.

– Сваю візітную картку я вам пакіну. Падумайце, — незнаёмы крануў дзверцы машыны.

– Не, лепш так: вы са мной ні пра што не гаварылі, я вас ніколі не чуў і не бачыў. Так больш надзейна.

– Чаму? — рука незнаёмага застыла.

– Маю вопыт. Поспеху вам. — Траян зачыніў дзверцы і націснуў на стартар.

Наступны ўладальнік новабудоўлі быў акуратны, дагледжаны, выхавана-ветлівы: «Кавы ці гарбаты?». Грошы ён аддаў у прыгожым канверце з мелаванай паперы.

Сімпатычная гаваркая кабетка таксама разлічылася адразу, прапанавала Траяну келіх гарэлкі і вельмі здзівілася, калі ён адмовіўся. «За рулём, за рулём», — адмахнуўся ад яе Траян.

Заставаўся апошні візіт. Трэба было заскочыць да кліента ў ягоны офіс. Заказчык не аддаваў доўг месяцы з тры. Сёння яны дамовіліся на дзве гадзіны. Траян доўга тыкаўся, каб развярнуць аўто, даў добрага кругаля, аднак урэшце трапіў у расчыненую браму. Выйшаў з машыны і каля пад’езда клацнуў зубамі. Код, раней яго не было. Траян хацеў быў чакаць якога тутэйшага мяшканца, а потым перадумаў, знайшоў у машыне зашрубку і павярнуў яе ў адтуліне замка: дзверы расчыніліся.

– Як вам удалося ўвайсці? — гарэзліва спыталася сакратарка.

– Спосабам авантурыстаў і крымінальнікаў, — суха адказаў Траян.

– Пачакайце, ён зараз вызваліцца, — сакратарка выразна кіўнула галавой у бок масіўных дзвярэй.

Траян зірнуў на гадзіннік — пайшло на трэцюю.

Урэшце з тых масіўных дзвярэй выйшаў гаспадар офіса. Падобна, у кабінеце ў яго нікога не было.

Быў заняты ці проста хацеў, каб «чала-эк» пачакаў?

– Прашу.

– Дзякуй. Я толькі па грошы.

Гаспадар знік за дзвярыма і, вярнуўшыся, паклаў грошы на стол сакратаркі.

Траян машынальна ўзяў паперкі. Зверху ляжала пяцідаляравая купюра. Нечакана для самога сябе Траян ляснуў паперкай аб стол:

– Міль пардон, месье, — ён весела глянуў на гаспадара, — гэта вам: на гарбату і на швейцара.

Траян зухавата бразнуў дзвярыма кватэры-канторы. І тымі самымі — з кодам — таксама.

Траян амаль падсвядома руляваў да могілак.

Астры ў гандлярак ён выбіраў белыя і светла-жоўтыя, іглістыя. У іх быў пах восені і тугі. Потым прыдбаў яшчэ і светла-ружовыя. Колер маладосці. А яна заўсёды была маладая. І пайшла з гэтага свету маладая. І прыгожая. Пайшла нечакана. Раптоўна. Нібыта сурочылі яе.

Яна не ведала ўзросту. Як быццам прыпынілася недзе на дваццаці пяці. І сышла — у вечнасць, у вялікае «ніколі», вонкава так і не пачаўшы набіраць гады.

Белы мармур, бела-ружовы медальён. Жоўтыя астры ён завязе дамоў, паставіць у яе любімую сінюю вазу. Тут пакіне белыя і ружовыя.

Ён глядзеў на медальён. У яе вочы. Таямнічыя вочы.

Таямнічая істота.

Ён ніколі не імкнуўся яе разгадаць. Ён ведаў, што загадкі маюць ваблівую, мройлівую ірэальнасць, разгадкі выяўляюць грунт рэальнасці.

Траян вызнаваў узвышаныя адносіны да жанчыны. Ніколі і нікому пра тое не казаў. У мужчынскіх кампаніях, калі гаворка набывала непрыстойна-гарэзлівы кшталт, звычайна сядзеў моўчкі.

Яго ж і тую, што глядзела з медальёна, аб'ядноўвала нейкая лірычная існіна. Нават цяпер, калі яе не было побач з ім. Яны не былі рабамі відавочнасцяў. Кожны беражліва трымаў сваю ахоўна-неахоўную прастору, дзе ёсць свае недатыкальныя трывогі і свае надзеі на прыхільнасць сусвету, дзе перакрыжоўваюцца факты і ўчынкі, дзе жыве памяць пра агульныя і заўсёды асоб-

ныя вясновыя вечары, пра сонечную яву зімовых дзён, пра жнівеньскія зарапады...

Траян глядзеў на медальён... Сын падобны да яе. Тыя ж вочы. Той жа выраз твару. Сузіральнік. Мройлівы, адстаронены. Як і яна. Музыка. Як і яна.

Траян ехаў у горад. Незаўважна для сябе выехаў да базару. Ён не любіў кірмаш і не любіў тлумныя вуліцы вакол яго. Зусім нельга праехаць. Затор. Траян трохі апусціў бакавое шкло і пачуў мелодыю, знаёмую, як адбітак уласнага твару ў люстэрку. Кларнет выводзіў ноты высока і весела. «Вішнёвы сад». Адзін са шлягераў той пары, як яны пазнаёміліся з Марынай. Пазнаёміліся на танцах. На нейкай студэнцкай вечарыне.

Спачатку хадзілі на канцэрты і ў тэатры. У кіно. Потым яна стала прыходзіць на спаборніцтвы. Глядзела толькі чыста джэнтльменскія віды: фехтаванне і конныя скачкі. На спатканнях крыху злавалася: ён трымаў жорсткі рэжым і а дзявятай гадзіне вечара пачынаў пазіраць на гадзіннік. На танцах злаваўся ён: які-небудзь чувак так і лез запрасіць красуню з таліяй Джыны Лалабрыджыды.

Траян зірнуў на кларнетыста: высокі, хударлявы, акуратна апрануты, каля ног кепка з мятымі паперкамі. Да іх не стасавалася слова «купюры». У абліччы музыкі было нешта знаёмае. Юрась? Ён нейкі час граў ці то ў аркестры Эдзі Рознера, ці то ў Лундстрэма.

Траян асцярожна пасігналіў і махнуў рукой. Кларнетыст неахвотна падняў кепку, але падышоў.

– Сядай! Хутчэй! — Траян адчыніў дзверцы машыны.

– А, мне няма чаго губляць! — Юрась сеў побач з кіроўцам.

– Запрашаю на абед, — нечакана нават для самога сябе вырашыў Траян.

Юрась уважліва паглядзеў на кіроўцу «Волгі»:

– Чэмпіён?

– Экс.

– Усе мы «экс», — паспакайнеў Юрась.

– Дзе цяпер добра гатуюць? — спытаў Траян.

– У «Максіма», у Парыжы, — хмура паглядзеў на цацку блазна-весялуна, што павольна пагойдвалася на ветравым шкле, Юрась.

– Далекавата, — усміхнуўся Траян, — і я не ў смокінгу.

– Ты што, сапраўды?

– Жалезна.

– Я не п'ю, — пацягнуўся да ручкі дзверцы Юрась.

– Я — таксама. За рулём. Я ж спытаў, дзе добра гатуюць.

– Ты жартаўнік. Знайшоў, у каго спытаць. Я ўвогуле не еў дні са два.

– Маеш рацыю. Тым больш — едзем.

– Куды?

– Было адно месцейка гадоў восем таму.

– Нішто сабе перапынкі ад абеду да абеду.

– А ты як думаў, — спакойна пагадзіўся Траян.

Кавярня ў гатэлі была невялікая — пакой-ліхтар, толькі адна сцяна, з трох бакоў — вокны-эркеры. Сінія аксамітавыя шторы.

Траян паклікаў афіцыянта.

– Піць мы не будзем. Паесці хочам усмак. Як кажуць, як у лепшых дамах Ландона і пасляваеннай Жмерынкі. Баксы пойдуць?

– На «ўра».

Кларнетыст з задавальненнем выцягнуў ногі ў зношаных красоўках.

– Слухай, чэмпіён, а з якое нагоды дабрачынны баль? Я ўсё прыкідваю, дзеля чаго я спатрэбіўся?

– Зараз растлумачу. І буду гаварыць праўду і нічога, акрамя праўды.

– Ну, мы ж не ў судзе.

Траян глядзеў у акно на дрэвы і высозныя дамы, падобныя на скалы.

– Не, дзякаваць Богу. Адразу табе скажу: спавядацца не буду. Проста пасядзім, пагаворым. «О бурных днях Кавказа, о Шиллере, о славе, о любви».

– А ты начытаны, чэмпіён.

– Гэта жонка ў мяне была начытаная.

– Разышліся?

– Яна мяне кінула. Я ад яе цяпер ехаў. З Паўночных могілак.

– Даруй...

– Чаго цябе запрасіў? Яшчэ і таму... Быў неяк момант. Зіма. Халадэча. Я пацёгся на базар. Сын у ад'ездзе. Яе ўжо не было. Страшэнна хацелася есці. Прайшоўся па радах. Вытаптаўся да рыбных радоў.

«Салодкая рыба макрорус!» — раўла гандлярка. «Салодкая рыба макрорус!» Потым я чытаў у крамах: макрурус, яшчэ нешта. Так і не ведаю, як тая салодкая рыба дакладна завецца. Не купляў яе. Не ведаю смаку. А тады палічыў свае пенёндзы. У мяне хапіла б толькі на хвост гэтай рыбіны. Спрабаваў я тады круціцца, нешта падрабляць, нешта прадаваць. А як ні круціся, паскуднае адчуванне, што я — здаровы мужык — не магу нават пракарміць сябе. Ведаеш...

– Ведаю.. — глуха азваўся кларнетыст.

– А тым днём, холад страшэнны, на бензін грошай не было, прызвычаіўся ў машыне апранацца лёгка, пакуль дацёгся да таго базара, акалеў, як бадзялы сабака. І потым доўга мне чуўся голас вясёлай кірмашовай бабы: «Салодкая рыба макрорус! Салодкая рыба макро-рус!».

– А як зараз? — кларнетыст старанна пражоўваў мяса.

– Менавіта зараз, — Траян зрабіў націск на другім слове, — я амаль што Крэз. Ну, ва ўяўленні былога сярэдняга саўслужа. Убачыў цябе і згадаў тую рыбу. Салодкую...

– Шабашыш? — ціха спытаў кларнетыст.

– Угу, — гмыкнуў Траян.

– А я нічога не ўмею. Ды і рукі... Ці змагу граць?

– Нават каб і не баяўся. Канкурэнцыя, не праб'ешся.

– Слухай, ну, я — статыст. А ты ж... Чэмпіён... А хто потым?

– Ва ўсіх іпастасях я патрэбны толькі крымінальнікам.

– Сапраўды, — нібы ўзрадаваўся кларнетыст, — стральба, фехтаванне.

– Ну, фехтаванне сёння мала каго цікавіць. Дзе цяпер шляхетныя дуэлі?

– Затое стральба!

– Затое! — Траян зноў паглядзеў на дрэвы за акном. — Самае смешнае, ці самае сумнае, я заўсёды пасмейваўся: улада грошай, капіталісты. Гэта ж прапаганда, дурны сацыялагізм. А цяпер я гатовы ўзяць аўтамат. Дурны, саплівы, нахабны кныр — гаспадар. Ні розуму, ні ведаў. Толькі нахабны спрыт. Толькі мяшок грошай.

Траян пакруціў у руцэ фужэр з мінералкай:

– Часам нават думаю: добра, што мая Марына не дажыла...

– Гомо савецікус?

– Гомо лібер, — Траян пашукаў слова і знайшоў: — Я ж мушкецёр. Ці, так скажам, вандроўны рыцар. Турніры, дуэлі. Хай сабе турніры думак. Але ж не чыкі-брыкі бухгалтараў. Траншы, дэбеты, крэдыты... Усе ад мяне хочуць атрымаць па экстра-класе і задарма. Гэта формула катастрофы: першы мільён — абавязкова нарабаваны.

Кларнетыст уздыхнуў:

– Давай есці. Столькі смакаты.

– Самая б пара выпіць, — скрыгатнуў зубамі Траян.

– Не, не п’ю, — спалохана падняў рукі кларнетыст.

– І я не буду, — спакойна пацвердзіў Траян. — У мяне быў сябар. Памёр ад інфаркту. Усё радаваўся: грамадства адкрытых магчымасцяў. Сам ён вясковы быў хлопец. Доктар навук. Таленавіты чалавек. Сыну ягонаму толькі чатырнаццаць. Баюся, што ў нашым грамадстве «роўных» магчымасцяў вышэйшай адукацыі ён не атрымае.

– А твае...

– Мой сын паспеў праскочыць. Скрыпач. Калі пашчасціць на конкурсе, будзе кантракт. А пакуль... Знайшоўся спонсар...

– Усё ж...

– Усё ж...

– А што б ты хацеў для сябе?

– Волі і грошай. Сядзець бы на палубе, хлябтаць віно, а ўвечары — дамы... Таксама класік жартаваў...

– А сур'ёзна? — кларнетыст еў са смакам, відавочна расцягваючы слодыч уцехі.

– Не хачу нічога сур'ёзнага.

Кларнетыст уважліва паглядзеў на Траяна:

– У цябе каманда ці сам шабашыш?

– Па-рознаму.

– Нехта пратэжыруе?

– Гэта ўжо камерцыйная таямніца, — усміхнуўся Траян.

– Ды я ўсё роўна нічога не ўмею. Раней бы гурток які вёў, на вяселлях прыладаваўся б...

– Дык вяселлі, здаецца, і цяпер бываюць.

– Там свае веселуны.

– Зразумела. Ведаеш, вазьмі рэшту ад абеду сабе, — Траян працягнуў грошы.

– Ты што, канчатковы вар'ят?

– Магчыма.

– Слухай, а дзе мы сустракаліся?

– У Біга. Там былі і рэжысёры, і каскадзёры, і мастакі... Каго там толькі не было. Дзе ён? Біг?

– Даўно з'ехаў у Амерыку. Не люблю гэты рай, — сумна прамовіў кларнетыст.

– Быў?

– Не. Аднак і не хачу. Хіба што падрабіць там. Але стары дыксіленд там таксама не ў фаворы.

Да кларнетыста падышоў афіцыянт:

– Прабачце! Наведвальнікі заўважылі ваш інструмент.

– Ну і што? — чамусьці натапырыўся кларнетыст.

– Ці не сыграеце што-небудзь?

– Рэтра ці сённяшні хіт? І хто і колькі будзе плаціць? — дзелавіта спытаў спадарожнік Траяна.

– Вось — замоўленыя назвы, вось — грошы, — афіцыянт аддаў папяровую сурвэтку і купюры.

Кларнетыст усміхнуўся:

– Які ў мяне сёння дзень! Падазрона шанцуе!

Ён дастаў інструмент з футарала.

І музыка зноў паклікала ў вішнёвы сад, у вясновы дзень. Траян памятаў, што танчыць пад гэтую музы-

ку было не вельмі зручна: складаны, мешаны рытм, фіярытуры кларнета, што былі прызначаны выключна да саліравання, а не для танцавальнага акампанементу. Але музыка молада, звонка выяўляла вельмі канкрэтныя, гарэзлівыя вобразы. Траян не памятаў слоў, ды, папраўдзе, ніколі не ведаў іх, помнілася толькі: вішнёвы сад у вішнёвы дзень. Сад у квецені, але зусім не чэхаўскі вішнёвы сад, з якога кпіў арыстакрат Бунін: дзе вы бачылі, каб у дваранскай сядзібе такі практыцызм! Гэты вішнёвы сад не ведаў элегічнай тугі, смутку, роспачы. Ён лёгка і радасна цвіў, жыў сённяшнім днём, вясновым, сонечным, ясным. Гэты сад жыў імгненнем. І гэтым імгненнем жыў кларнет...

– Цябе падвезці дамоў? — спытаў Траян кларнетыста.

– Ну, калі ўжо дабрачынная акцыя, дык да канца!

На развітанне кларнетыст праспяваў рэчытатывам:

– Чао, бамбіно, чао! Дзякуй! І няхай табе прысніцца графіня дэ Мансаро!

Траян прыветна памахаў рукой.

Траян расчыніў дзверы сваёй кватэры. Ён любіў яе, сваю, іх з Марынай, хату. Супакаяльна пасвечвалі карэньчыкі кніг, упэўнена займала сваё месца піяніна, вартавалі прастору шпагі ў похвах, зелянела бярозка ў вялікай кадцы.

Яго ахоўная зона... Не толькі як прастора фізічная... Як месца, дзе ён, Траян, існаваў не толькі ў сваёй рэальнай біяграфіі, не толькі ў рэальным часе, а і ў часе прымроеным, у фактах гістарычнай сімволікі: гэтых шпагаў, бронзавых і парцалянавых вазаў, скарбоначак, у якіх — срэбныя і залатыя бразготкі Марыны. У фактах і думках, што назбіраліся на кніжных паліцах і пра якія ён не мысліў, аднак адчуваў нейкім падсвядомым, невыслоўленым чуццём.

Траян выняў канверты з грашыма, кінуў у шуфляду, потым з аднаго дастаў некалькі купюр і паклаў у партма-

нет. Шуфляду зачыніў на ключ і паклаў яго на ўмоўнае месца: каб ведаў сын.

Потым Траян адкаркаваў адну з дзвюх запаветных бутэлек французскага шампанскага — з гадоў жорсткага спартыўнага рэжыму захаваў звычку да лёгкіх напояў, толькі зрэдзьчасу ўжываў каньяк і гарэлку. Потым ён дастаў з пустога халадзільніка кавалак падшэрхлага сыру. Больш у хаце нічога не было, нават хлеба. Аднак Траян не пайшоў у краму. Ён сеў у свой улюбёны фатэль, наліў шампанскага і дробнымі глыткамі адпіваў шыпучую, тонкага смаку вадкасць.

Маленькія радасці звычайнага існавання. Яны выпаўзлі апошнім часам на першы план, ухапілі за горла — учэпіста, нахабна. Але тут, у яго цытадэлі, у створаным іх з Марынай фантазіяй свеце, яны былі не ўладныя. Пакуль.

Да адзіноты Траян прызвычаіўся. Ацаніў яе перавагі. Не проста самота — незалежнасць. Свой, адасоблены свет. Не віртуальны, як сёння модна ўяўляць, а пазачасавы, крыху старасвецкі.

Траян паглядзеў на празрыстую вадкасць у празрыстым келіху. Багемскае шкло. Прыгожа. Ён любіў прыгожыя рэчы, прыгожых людзей, прыгожыя мясціны. Прыгожых жанчын...

Траян уважліва паглядзеў на партрэт Марыны. Рабіў яго знакаміты мастак. На тую пару, калі яшчэ не быў вядомы. Гэты чалавек ведаў Марыну да таго, як пазнаёміўся з ёю ён, Траян. Мастак угледзеў у Марыне тое, на што ён, муж, раней не зважаў. Знак самоты, тугі. Ці была яна шчаслівая за ім? Ці быў шчаслівы ён? Яна была яму патрэбная... Нават успаміны пра яе неабходныя яму...

Аднак адзінота мела сваю акрасу. Што не мела ніякай акрасы — яго бездапаможнасць перад абставінамі. Як гэта казалі? Чалавек трапіў пад кола гісторыі. Калі такое чытаеш, уяўляецца нішчымны чалавек — з ім інакш і не можа адбывацца. Калі адчуеш на сваім карку, як тое кола пачынае прыціскаць і пляжыць, дык будзеш крычаць пра несправядлівасць і здзек. Хоць крык той і пусты —

ніхто не пачуе, ніхто не хоча чуць. Адным яшчэ горш, другім — як выжыць, трэція грабуць пад сябе ўсё, і ты для іх — адыходзячая натура, чалавек мінулага, стары Палкан, перашкода і недарэчнасць. Праўда, ёсць і такія, што гаспадарліва скарыстаюць усё: яго галечу таксама.

Можа, рушыць у вёску? Каму ён там патрэбны — карэнны гараджанін? Чым займецца? Земляробствам і жывёлагадоўляй, у якіх ён суцэльны прафан? Ды і там свае кланы, свае групоўкі, свой інтарэс...

...Пустата часу, што яшчэ наканаваны яму, насоўвалася на Траяна. Аднак смак шампані ён адчуваў востра і з прыемнасцю. Як і сваё здаровае, хударлявае, трэніраванае цела. Смак шампані... Маленькія радасці... А яшчэ — «по прихоти своей скитаться здесь и там, дивясь божественным природы красотам, и пред созданьями искусств и вдохновенья, трепеща радостно в восторгах умиленья...» Здаецца, так. Для Траяна недасяжныя прыхамаці. Расчараваным дэндзі былых часоў лёс падкідваў спадчыну... Хоць не ўсім...

Ён, Траян, не геній. Колькі яшчэ камінкоў закажуць экс-чэмпіёну? Дзякуй Хведару, былому суперніку, знайшоў, навучыў. Не, свет не толькі паскудны. На белым свеце жывуць не адно яго былыя вучні і падначаленыя, не толькі яго былыя начальнікі, што сёння ўжо робяць выгляд: не ведаю, не чую, упрыцён не бачу.

Траян выняў з кішэні пашпарт. Зірнуў. Нарадзіўся... у лета Божае... Дата маласуцяшальная. На працу яго не возьмуць. Толькі шабашка. Траян дастаў кветкі. Калі разлічыцца за ўсе паслугі, набыць самае неабходнае, на нейкі час грошай хопіць. Ну, а дзяржаўная міласціна — хіба на хлеб з вадою. Але ж ён не айцец-пустэльнік. Неяк па тэлебачанні выступала расейская дзяячка, выратавальніца з вузкімі вочкамі і фрызурай, што голае калена, дык яна запалярным людзям раіла збіраць грыбы і ягады. Праўда, ён не ў Расіі і не за Палярным кругам...

Можа, паспрабаваць жыць імгненнем? Сённяшнім днём? Сённяшнім днём Траян быў задаволены. Пакараў несправядлівасць, атрымаў зароблenae, дапамог адрыну-

таму. Аднак ён цвёрда ведаў, што наступным разам яму «ўкінуць» як мае быць, папаўзе, калі застанецца жывы, на лапах. Заробкі гэтыя часовыя. Граць на кларнеце ці гармоніку ён не ўмее. Ды і ці пападуць? Ён умеў рабіць... Любіў сваю працу... Знаходзіў, вынаходзіў, уводзіў, як кажуць, у эксплуатацыю. Ён умее класці коміны, рабіць рубанкам... Страляць з пісталета, ружжа, аўтамата. Ды і шпагі не выракся. Дзе-небудзь у часы Генрыхаў-Людовікаў быў бы не апошні шэвалье. Ды і на сваёй зямлі шпага і шабля цаніліся ў сваю пару. Ды і ў сваім цэху (эксперыментальным, як любілі ўсе падкрэсліваць) быў не лішні... Але ж эксперыментальны цэх застаўся сам па сабе, а ён сам па сабе. Кінуцца куды ў інстытут? Там свайго старэчага халусця хапае.

Зазваніў тэлефон. Траян не варухнуўся. Толькі глытнуў з келіха, зноў з асалодай разглядаючы ўзор багемскага шкла. Потым падышоў да паліцы ў суседнім пакоі, узяў наўздагад пласцінку. Магнітафонныя касеты, дыскі Траян не чапаў, бярог для сына. Пласцінка плаўна апусцілася. Шапэн... Вальс... До-дыез мінор, твор 64, № 2. Яшчэ вальс... Мі мінор... Гукі, ад якіх знаёмыя рэчы набывалі іншы сэнс. Нешта адчайна разбуралася, але з гэтага ўзнікалі гарманічныя бліскавіцы, усё было поўнае судачыненнямі і адпаведнасцямі музыкі са знешнім, акаляючым светам. Траян доўга сядзеў у крэсле і слухаў, а потым, не запальваючы святла, у прыцемках кінуў падушку і коўдру на канапу і моцна заснуў.

Раніцай прачнуўся, калі было ўжо светла — і ад таго, што гадзіннік паказваў пачатак на восьмую гадзіну, і ад таго, што выпаў снег. Траян не мог бы растлумачыць, як тое адбылося, але адчуваў — на вуліцы светла, чыста, бела ад снегу.

Ён выпіў моцнай кавы з рэштай сыру. Узяў пісталет — імянны. Зірнуў на вуліцу — машына стаяла на месцы.

Снег падаў, падтаваў і замярзаў зноў. Галалёдзіца, але Траян не надта турбаваўся, ён нядаўна памяняў шыны, і таму «Волга» карцілася нібыта па чыстым асфальце.

Так бы ехаць, ехаць — і ператварыцца ў касмічны пыл, пераскочыць мяжу быцця і небыцця. Быў чалавек — і няма. Растаў. Распаўся на бясконца малыя і бясконца нейтральныя часцінкі. Знік — і ўсё. Ні хаўтурных маршаў, ні ўсхліпаў жанчын — хто-небудзь знойдзецца слязу пусціць. Ні выдаткаў на... як гэта ўрачыста завецца? — о, рытуальныя паслугі. Слова «рытуальныя» прысутнічала тут дарэчы.

Траян пакіраваўся на Брэсцкую шашу: на кальцавой там такія круцялі, што з якога моста машыну можа знесці быццам трэску. Потым даішнікі і следчыя тое, што застанецца ад экс-чэмпіёна Траяна і яго аўто, назавуць фрагментамі. Машыны і цела. Вясёленькая назва — фрагменты!

Траян прыбавіў хуткасці. Зараз ён выскачыць на «алімпійскую трасу».

У Траяна не было жадання перагортваць у думках старонкі свайго жыцця. Было толькі адчуванне паслухмянасці руля, машыны і спакойнай упэўненасці трэніраванага моцнага цела. Вось за гэтым паваротам будзе зручная развязка дарогі, высокі мост, адпаведны рэльеф. Траян адчуваў, як неўзабаве выпадзе з часу яго зямная абалонка. А душа недзе выправіцца на вечнае блуканне, не сустрэўшыся з Марынінай... Бо яе паклікалі з Вышэйшых Сфераў, а ён збіраецца ў пазасветнае вандраванне самахоць...

Яшчэ хуткасці. Сто дзесяць, сто дваццаць, сто пяцьдзясят... Што гэта? Нешта ці нехта на шашы? Траян інстынктыўна збочыў направа і стаў скідаць хуткасць. Урэшце машыну вынесла на ўзбочыну, Траян рэзка тармазнуў. На шашы па курсу аўто стаяла дзяўчына. Траян адчыніў дзверцы, каб аблаяць вар'ятку, але яна тут жа ўскочыла на сядзенне побач з ім.

Дзеўка — па-дзіцячы даўгалыгая і нязграбная, з пасмамі даўно не мытых валасоў, у скураной куртцы і нейкім скураным шматку, што меўся, мабыць, выконваць ролю спадніцы.

– Ну, што, куды паедзем? — качнуўшы сваімі патламі колеру хмары, спытала дзяўчо.

– Мне здаецца, каб цябе добра адлупцаваць, далёка ехаць не трэба.

– Ну, чаго так? — яго неспадзяваная спадарожніца паспрабавала пакласці галаву на Траянава плячо.

Траян зірнуў на яе: нават «баявая расфарбоўка» не магла дадаць ёй гадоў. Пятнаццаць–шаснаццаць — не болей.

– Ты чаму не ў школе?

– Я з пэтэвэ.

– Тым больш.

– Не цікава, — дзяўчына паспрабавала зрабіць наступны манеўр, як ёй здавалася, неадбойны. Яна дастала цыгарэту і закінула нагу за нагу.

Траян злаваўся. Спакушальніца з дзіцячага садка. Хаця цяпер, здаецца, гэта модна...

– Ты, дзеўка, хаця трохі падрасла б.

– Я і так ужо старая. Сямнаццаць гадоў.

– Пенсійны ўзрост, — Траян скінуў яе руку са свайго пляча.

– Нармалёвы, — пераконана абвясціла нечаканая спадарожніца.

Траян глядзеў на дарогу: ну, вось, пан Лёс і пані Удача не маглі ўжо лепшую партнёрку яму падшукаць для трагіфарсу. Дурата!

– Значыць, дзяўчынка, адзінае, на што ты можаш спадзявацца, я цябе давязу да прыпынку гарадскога транспарту.

– Які ты злосны, хлопец.

– Ведаеш, я не буду аспрэчваць відавочнае...

– Не ўрубаюся, нешта цёмна гаворыш...

– Я, безумоўна, не хлопец, але маралі чытаць табе не буду...

Дзяўчына хуценька ўставіла:

– Вось і выдатна, а што не шчанюк — дык больш надзейна.

– Ты дарэмна час губляеш. Грошай у мяне няма.

Спадарожніца недаверліва зірнула на Траяна:

– Брэшаш.

– Пакінем на сумленні бацькоў тваю невыхаванасць, — пачаў цырымонна Траян.

Дзеўка прысвіснула:

– Яны не ведаюць, што гэта такое.

– І ты таксама, — стомлена адказаў Траян. Ён адчуваў, як халодная, зорная, празрыстая, як багемскае шкло ягоных келіхаў, вечнасць сплывала ў недарэчных словах выпадковай сустрэчнай. Замест свету вечных каштоўнасцяў і найважнейшых сутнасцяў ён бабахнуўся ў дурное здарэнне, з якога трэба было як мага хутчэй вызваліцца.

– Паслухай, — спакушальніца паспрабавала зыркнуць на яго намаляваным вокам, — я дарага не вазьму.

– Дзяўчынка, я не люблю нічога таннага. А купляць...

Траян шукаў слова...

– Каханне? — борздзенька падскочыла дзяўчынка.

– Якое тут каханне... — Траян зморшчыўся.

– Так усе гавораць, — пераконана вымавіла пэтэвушніца.

– Не ўсе, — з прыкрасцю адсунуўся ад назолы Траян. — Ты дзе жывеш?

– На Захадзе. І бацькоў цэлы тыдзень не будзе.

Траян моўчкі разварочваўся на аб'езд. Дзеўка несла нейкую лухту. Ён моўчкі круціў руль.

– Можна, я ўключу радыё? — дайшло да яго свядомасці пытанне неспадзяванай спадарожніцы.

– Не.

– Чаму? — зноў паспрабавала какетаваць дзяўчына.

– Таму што я не хачу, — хмура адказаў Траян.

Паскудніца! Гэтая дзявуля перакрыжавала ўсе яго планы. Няўжо ў тых Высокіх Сферах не маглі яму падкінуць для такой ролі кагосьці больш цікавага? А можа, гэта класічны варыянт — танная прыдарожная дзеўка? Ты раздумаўся пра вечнасць — на табе, лясніся тварам вобзем або і больш просценька — фэйсам аб тэйбл, як галёкалі сынавы сябры.

– А чаму ты не спытаеш, як я апынулася адна сярод поля?

– Мне гэта нецікава.

– Няўжо вам усё роўна — жывая я буду ці не?

– Даражэнькая, ты памыляешся, я зусім не з таварыства па выратаванні малых распусніц.

– Ну-у-у, — цягнула дзяўчына.

– Ты мне перабіла важную справу. Экзістэнцыяльна важную.

– Што-о-о? — вырачыла вочы спадарожніца. Траян не адказаў. Ён думаў пра тое, што калі б замест малой распусніцы з'явілася чароўная дама, ён не ацаніў бы момант. Ён ніколі не ўмеў і не спрабаваў жыць імгненнем. Свята імгнення, ніяк не датычнае да астатніх звёнаў жыцця, не хвалявала яго. Ён мог шанаваць імгненне, калі яно мела прэлюдыю і было разлічана на працяг.

Дзяўчо тымчасам разглядала сябе ў люстэрка.

– Слухай, чмур, я ж клёвая дзеўка, а ты надзьмуўся, як індык.

– Не ацаніў. Ты не разлічыла.

Траян не слухаў яе. Прыкідваў, дзе яму прыпыніць машыну, каб гэтай аматарцы любоўных прыгодаў было не вельмі далёка тэпаць да прыпынка гарадскога аўтобуса, а яму — мець магчымасць збочыць з галоўнай магістралі.

– Прыехалі, — Траян адчыніў дзверцы. — Некалькі метраў — і ты каля прыпынка.

– Жартуеш, — адкінулася на спінку сядзення дзеўка.

– Не жартую. У мяне і без цябе клопату хапае. Ты вось гэта бачыла? — Траян паказаў ёй пісталет.

– Разумею, — перапалохана прамовіла дзеўка і вылецела з машыны.

Траян паехаў далей.

Каля рэдкага сасонніка Траян прыпыніўся, дастаў з багажніка бляшанку з цвікамі, прымайстраваў мішэнь да ствала хвоі, дастаў пісталет і не спяшаючыся разрадзіў абойму.

На бляшанцы застаўся толькі адзін след. Усе — «у яблычка». Задаволены, ён сеў у машыну і ўзяў кірунак да горада.

Пайшоў густы снег.

Вечнасць відавочна пасміхалася з яго, шпурляючы ў ветравое шкло снежныя камякі...

# «СЭНСЫ МАЎКЛІВЫХ НЯБЁСАЎ...»

> «Пытацца ў багоў пра таемнае не спяшайся...»
>
> *Рубэн Дарыа.*

«Я — Мадыльяні... Купіце...»

І толькі адна жанчына працягвае нейкія грошы, дадаўшы, што малюнак мастака ёй не патрэбны.

Быў такі кадр у кінаверсіі Жана Рэнуара «Монпарнас, 19». Мадыльяні — Жэрар Філіп — разгублены (грошай няма зусім) і здзіўлена-ўпэўнены (ён ведае пра таямніцу свайго высокага таленту), наіўна-бездапаможны ў сваім адчаі (што рабіць?) і мудра-прасветлены ў тым, што ведае ён адзін з прысутных: ён прапануе шэдэўры.

Размова, аднак, не пра фільм і не пра Жэрара Філіпа, хаця гэты фільм і гэты актор давалі адчуць трагедыю той явы — калі: ёсць плён напружанага творчага існавання, а плёну не бачаць...

«Я — Мадыльяні...» Трагедыя лёсу... Калі паэт Збароўскі дарэмна лётаў па Парыжы, спрабуючы знайсці пакупнікоў на карціны Мадыльяні. Калі глядзела з сумам на тонкія разарваныя лініі на лістку паперы, прапанаваным мастаком за харч («Я не жабрак!), гаспадыня італьянскай траторыі на вуліцы Кампань Прэм'ер — хіба ж яны вартыя, гэтыя лініі, смачнага кавалка мяса, што яна дае небараку?

Калі не толькі гэтая шынкарка Разалі не разумела мастака, але ж і знаўцы жывапісу папракалі Мадыльяні: не ведае анатамічных прапорцый, грэбуе законамі колераў, не разумее ўлады святла і ценяў.

...Мадыльяні памёр ад сухотаў у 36 гадоў, яго Жанна выкінулася з акна, іх маленькая дачка засталася адна...

А праз год адбылася выстава. І распачаўся ўхвальны шум прэсы, з'явіліся кнігі крытыкаў і даследчыкаў.

Карціны Мадыльяні прадавалі і прадаюць за грошы, якія і не сніліся мастаку...

...Гісторыя старая, як свет. Паўтораная непамысную колькасць разоў... Мастакі, літаратары, кампазітары... Не кажучы пра актораў, музыкаў... Мастацтва імгненняў... Мастацтва непасрэднай сутворчасці з гледачамі і слухачамі... Па сённяшнім часе створанае імі таксама «матэрыялізуецца» — відавочна і надоўга, але для гэтага павінны спраўдзіцца ролі, адбыцца канцэрты... А колькі не спраўдзілася, не адбылося...

Хаця — і ў тых: майстроў пэндзлю, майстроў прыгожага пісьменства, стваральнікаў чару мелодый — рознае здаралася... Рукапісы не гараць? Напісанае застаецца? І гараць, і знікаюць, і набываюць нечаканых гаспадароў.

«Колькі талентаў звялося», «не аплаканых нікім»...

Колькі? Не пералічыць...

І якая ўсё ж *галоўная* асалода, уцеха творцы?.. Нават калі ён пэўна ведае прысуд лёсу: «я ўміраю...»

Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні пана Марціна Кухты.

А за вокнамі — вясна. 26-я вясна ў жыцці... І мала што гэта год сусветных катаклізмаў (1917-ы), у Крыме ўсё роўна ўсё ў квецені, усё жыве, усё шчасліва набірае сокі, усё святочна нагадвае аб радасці Быцця...

І неаспрэчна — апошнія дні, гадзіны, хвіліны... «Скончу век малады...» За вокнамі — ноч, побач — ні-ко-га. Аднак:

«Я не самотны, я кнігу маю...»

...Тоненькая кніжачка ў мяккай вокладцы... «Вянок»... Тым не менш — відавочны плён таленту. Вялікага таленту. Максіма Багдановіча...

І адчуванне свайго Дару. І сапраўднасць яго...

...Пакліканне Таленту... Адчуванне Духу Боскага... Што спатоліла душу Максіма Багдановіча і ў апошнія яго хвіліны... Што высвечвала вышыні творчага прazaрэння ў зямным быцці Шапэну — згадаем хаця б яго Вальс мі мінор, створаны незадоўга да канца: яго пазначаюць — «пасмяротны». Што надавала моцы Язэпу Драздовічу — мастаку, мысленніку, пісьменніку — у яго падарожжах па роднай зямлі і ўражаннях ад свайго краю, увасобленых у вобразах мастацтваў выяўленчых і ў мастацкім слове, у яго касмічных мроях-прazaрэннях...

...Пакліканне Таленту... Што давала сілы заканчваць «Майстра і Маргарыту», пакутуючы ад смяротнай хваробы, Міхаілу Булгакаву. Пакліканне Таленту, што прымусіла графа Сент-Экзюперы асвойваць Планету людзей у небе Еўропы, Афрыкі, Паўднёвай Амерыкі... Над Атлантыкай, Кардыльерамі, Сьера-Марэнай... Бо дзеля таго, каб выявіць талент, «каб пісаць, трэба жыць».

А яшчэ ўмець «патаемна... выкарыстоўваць нешта, чаму няма назвы». Чаму няма назвы і што надае веры, калі ніхто вакол не разумее, нішто, здавалася б, не спрыяе.

...У фільме Боба Фоса пра Моцарта пад назвай «Амадэо» ёсць надзвычай удалая і свядомасна дакладная сцэна. На Моцарта крычыць цешча. А той чуе толькі пачатак яе тырады — бо нават гэтая лаянка: штуршок для перастварэння яе ў гукі, нотныя знакі — у мелодыю! Той, хто *валодае* Дарам — *ва ўладзе* Дару! Суб'ект робіцца *аб'ектам* дзеяння!

...Ва ўладзе Дару...

Ці не таму так высока мудрыя і высока наіўныя геніі, таленты? Ну, чаму б Моцарту не ўхваліць сімфонію барона ван Світэна? Можа, і знайшоў бы той грошы,

каб прыстойна пахаваць Ёгана Вольфганга Моцарта? А Моцарт не ўхваліў...

І чаму б не сядзець спакойна сусветна вядомаму фізіку Дзмітрыю Сахараву на з'ездзе народных дэпутатаў? А ён, нібыта з дзіцячым наівам, пад гугаканне залы, упарта ішоў да трыбуны, хаця ведаў — пасля высылкі, пасля шматгадовага высочвання — большасці з прысутных, тым, хто кіраваў і вызначаў, даказаць нічога немагчыма. І ўсё ж... Ішоў, ведаючы, чым гэтае новае выпрабаванне можа скончыцца для яго... І скончылася...

...Чалавек ва ўладзе Дару... Дадзенага яму, каб перадаць, выявіць непаўторнасць, адзінкавасць быцця. Вядомае і невядомае. Бясконцае і лёсавызначальнае. У тым спосабе выяўлення, што наканаваны звыш. Мабыць, тут звыш дадзеная ўнутраная вызначанасць індывідуальнага быцця, якому сам чалавек надае кірунак і сэнс. «Абсяг падсвядомага ў генія не паддаецца вымярэнню» (Б. Пастарнак).

Нястрымны ў сваіх вялікіх задумах Мікеланджэла; магутны ў адухоўленай размове з вечнасцю Бах; вялікі ў сваім адчуванні сапраўднага духу і маштабу часу Бетховен; ці не адзіны ва ўменні спалучыць сусветнае, агульначалавечае і асабістае Блок; шматаблічны ў выяўленні сутнасці душы — у адзінаборстве з жыццём — Сальвадор Далі; непараўнаны ў спалучэнні філасофскіх абагульненняў і паэтычнай вобразнасці, што мае вытокам гармонію ў слове, у архітэктуры, музыцы, жывапісу — Цыпрыян Норвід...

...Геніі... Таленты... Нехта ўспыхваў і згараў. Як свечка. Як знічка — што падае недзе там, у астральных прасторах... Як Лермантаў... Максім Багдановіч... Сяргей Ясенін. Персі Бішы Шэлі.

Нехта жыў доўга і змястоўна... І «памёр... насычаны днямі...» Ёган Вольфганг Гётэ, Леў Талстой, Томас Ман... Урэшце — Леанарда да Вінчы... (У XV–XVI стагоддзях, калі жыў мастак, чалавечае жыццё было кароткім, і яго 67 гадоў — амаль біблейскі век.)

У сярэдні свой узрост здолелі змясціць — сэнс эпох, шматзначнасць задум, тэм, ідэй, найтанчэйшыя ўзаемадачыненні свядомасці, спрадвечнае імкненне да ісціны — Уільям Шэкспір, Аляксандр Блок...

Як абраннікі Божыя, таленты часцей за ўсё прымалі сваю долю пакут у сваім зямным існаванні. Ці на ўсім шляху сваім, ці на пэўным адрэзку яго, ці напрыканцы жыцця...

Трагічныя некалькі грамаў свінцу: дуэль Лермантава, гібель пры Шэгенвары падчас паўстання 1848 года Шандара Пёцефі, расстрэл фашыстамі Федэрыка Гарсія Лоркі...

Пакутны канец Пушкіна, выпрабаванне болем хваробы Бальзака, жорсткая расплата за імкненне спазнаць бездань жыцця ва ўсіх праявах: Гейнэ, Мапасан... Уайльд... Зыход з Яснай Паляны Льва Талстога...

Трагедыя лёсу... Трагедыя зямнога існавання...

...Шклянкі з морфіем і атрапінам на Ранча Хараства — апошні ўчынак Джэка Лондана... Чаму? Быў стомлены здрадамі, няўдзячнасцю, адкрытай подласцю? Зломлены жыццём? Не мог больш пісаць на ўзроўні «Белай цішы» і «Марціна Ідэна»? Ці — усё разам? Вырашыў, паводле меркавання яго сябра, Джорджа Стэрлінга, «не заседжвацца ў кампаніі ўласнага трупа»?

...Паляўнічае ружжо, стрэлам з якога 2 ліпеня 1961 года ў Кэтчуме падвёў рысу пад сваім жыццём Эрнэст Хемінгуэй... «Чалавек не для таго створаны, каб цярпець паражэнне», — гэта яго словы. Тата Хэм — хаця і са «згубленага пакалення», аднак з пароды пераможцаў...

...Паражэнне пераможцаў... Асобаў, у якіх не толькі героі іх твораў, але і яны самі сталіся для многіх пакаленняў эталонам мужчыны, — пераможцы стыхій, увасабленне мужнасці, высакародства, абаяльнасці, стойкасці, трываласці...

46 — Джэку Лондану, 62 — Эрнэсту Хемінгуэю... 29 — Ясеніну, 37 — Маякоўскаму... Сусветна вядомыя празаікі — на вяршыні славы... Рускія паэты — на вяршыні славы і няславы...

...А вось смяротна хворы Антуан Вато ствараў сваіх куртуазных «Капрызніц»... І напаўгалодны сухотнік Аляксандр Грын пісаў раманы-феерыі, раманы-мроі...

Шматлікія даследчыкі, біёграфы вызначаюць факты жыцця, звяраюць, пазначаюць асацыяцыі, аналізуюць, падводзяць вынікі, ствараюць сур'ёзныя і менш сур'ёзныя творы пра знакамітых... Аднак... Застаецца страшная, бязмерная, бясконцая таямніца... Загадка... Як і загадка мастацтва... Выратавальнага. Мастацтва — карніка і суддзі. Мастацтва — лекара. Мастацтва — вызначальніка свабоды Быцця...

У нас на тым абсягу, што стаўся дасавецкім, савецкім, постсавецкім, існавала і, на жаль, існуе тэндэнцыя, схільнасць да вульгарна-сацыялагічнага тлумачэння фактаў і з'яў мастацкай рэальнасці. (Маю на ўвазе мастацтва ў самым шырокім сэнсе.)

То ва ўсім абвінавачваўся «рэакцыйна-прыгонніцкі лад», то «царызм», «сталінізм», «таталітарызм» — усё ў залежнасці ад часу пісанняў. Безумоўна і бясспрэчна — валадары зямныя, занятыя справамі ў часе гістарычным, хай сабе і глабальнага маштабу, і тыя, хто імкнецца да ўвасаблення бессмяротнай свядомасці ідэй, не так часта знаходзяць паразуменне. І хаця «сильные мира сего» бываюць часам не чужыя мастацтвам і лічацца аматарамі — музыкі, прыгожага пісьменства, а таксама — прыхільнікамі Мельпамены, Тэрпсіхоры і іншых музаў дыстынктоўных мастацтваў, аднак нават прыблізна вызначыць, што нехта ўзвышаецца над імі — пад вялікай зоркай бессмяротнасці, а не пад абаронай «трона» (якія б трансфармацыі на пэўных гістарычных этапах не адбыліся з канкрэтнымі знакамі ўлады), не, гэта на ўсіх прыступках улады ўяўляюць вельмі рэдка.

Аднак — не толькі стасункі са знешнім светам, з індывідуумамі далёкімі і блізкімі, вызначаюць самасвядомасць мастака, стыль яго паводзінаў, мецяць прадчуванні душы. Выяўляцца гэта можа нечакана і ў самых розных формах. Як і выратавальная і пагібельная трывога (напрыклад, у 1902 годзе ў Блока з'яўяцца такія радкі :

«Мой конец предначертанный близок, И война, и пожар впереди»), як узнясенні на вышыні і падзенні ў бездань.

І тут ужо не мае значэння ні гістарычны час, ні тое, на якіх шыротах вызнае існаванне мастак, ні тое, хто там рулюе, кіруе, уладарыць. Знешне — скажам, нічым як быццам не пазначаная і абумоўленая дэпрэсія. Або той дыянісійска-вакхічны строй, што не абмінуў самых тонкіх мастакоў, на розных геаграфічных кропках, у розных сацыяльных і сітуацыйных варунках.

Аляксандра Блока, Сяргея Ясеніна, Эдгара По, Амедэа Мадыльяні, Аляксандра Фадзеева, Уладзіміра Высоцкага... Ды і ці толькі іх...

Блок, асабліва ў лістах да маці, увесь час імкнуўся патлумачыць і нават апраўдаць шал паводзінаў, лічачы, што чар пітва «ўнутрана спрастоўвае (выпрямляет) чалавека, далучае яго да бяскрайняга свету, палёту стыхій, музыкі сфер, якая чутна толькі тады, калі надыходзіць забыццё атачэння». А паэт Гафіз кідаў сваім абвінаваўцам:

Зачем ты пьёшь? Я знать желаю!
Скажу, зачем: я зол и горд,
И в море пьянства выезжаю,
Чтоб зло все выбросить за борт.

(Цытую ў перакладзе Ул. Салаўёва, не рызыкуючы перастварацъ пераклад.)

...Чыталася, думалася пра тое — падчас напісання «Бэзавага попелу» (аповесці-эсэ паводле ліставання з Міхасём Стральцовым)... Напісанае — не ўключыла ў тэкст. (Мабыць, правільна зрабіла — хапіла і так правінцыйна-кухарскіх «трактовак» паводле таго допісу.) Пазней былі разважанні падчас роздуму над матэрыялам пра Анатоля Сыса. Пісалася пра тое, што калі згадаю гэтага паэта, дык помняцца не буянствы ў Доме літаратара або якія эскапады гэткага ж кшталту, а — яго вочы, аблічча — падчас пахавання Жэні Янішчыц: нейкае вінаватае здзіўленне, поўная адстароненасць ад усіх і ад усяго, нібыта ён недзе там, не з намі, а з ёю, улоўлівае

«туманны ход іншых сусветаў», дзе «ад пакутаў нябёсы смягнуць» і «церні німбамі прараслі»... Ці — яшчэ — нейкі сонечны вялікодны дзень і — ён, нечакана, каля касцёла: святочна-ясны, блізкі свету небудзённасці, нечаму вясёламу — ці то хрысціянска-вызначанаму, ці то паганска-стыхійнаму... (Калі пісалася і друкавалася гэтае эсэ, нават і ў голаў не прыходзіла, што неўзабаве і пра Анатоля Сыса давядзецца весці гаворку ў мінулым часе — адышоў ад нас раптоўна, трагічна, майскім днём... У 44 гады...)

...Драматызм лёсаў... Трагедыі творчых асоб...

А калі адысці ад гэтай тэмы і наблізіцца да, так бы мовіць, больш агульных культуровых калізій... Можа, не да вольнай прасторы духоўных рэалій, а — да каардынатаў паміж імгненнямі і бясконцасцю, сутнасцямі і падзеямі. Саслізгваючы да праставатых фактаў рэчаіснасці.

> «Сіметрычны гонар жыцця раздзелены пароўну...»
>
> *Поль Элюар.*

Згадаўся, паміж іншым, такі факт. Пачула неяк ад аднаго таленавітага, сімпатычнага чалавека, у рангу не толькі літаратурным, а і чыноўным, так бы мовіць, пра гэтую сумную табель. Аб рангах. У досыць драматычны момант.

Потым доўга думалася — якія рангі? Літаратурныя? Іх не так проста вызначыць. Народныя? Заслужаныя? Улаўраваныя? Але ж ні Максім Багдановіч, ні Максім Гарэцкі, ні Кузьма Чорны, ні Уладзімір Караткевіч народнымі, паводле ўказаў і загадаў, не былі. Лаўрэаты? Але ж, напрыклад, Міхасць Стральцоў толькі пасмяротна атрымаў прэмію. Рыгор Бярозкін і пасмяротна той казённай ласкі не меў. А сёння — ці лаўрэат якой прэміі — нашай краіны, краіны Беларусь, еўрапейскага кшталту паэт, для якога эмпірыка асабістага існавання — толькі штуршок для ўяўлення высокай явы Быцця: Ян Чыквін.

Явы Быцця, што насычана вопытам гісторыі і культуры, вопытам, які творча асэнсоўвае паэт: удумлівы вучоны, філосаф, культуролаг, выдавец. Або — бліскучы празаік Сакрат Яновіч? Ужо перасягнуўшы мяжу, што лучыць з вечнасцю, паэт Янка Юхнавец?

Прасторава яны за межамі Беларусі, але ж ствараюць беларускую літаратуру, беларускую культуру, маюць высокі ўплыў на духоўнасць нацыі. Межы, памежжы, замежжы — яны не замінаюць гучанню Слова. Пранікненню Духа. Дух вее, дзе хоча. — «Spiritus flat ubi vult».

А як акрэсліць паэтычныя і навуковыя дэфініцыі Галіны Тварановіч, што, па сутнасці, першая на Беларусі ў сённяшнім гістарычным часе звярнулася да вяршаў духоўных, рэлігійных, накрэсліла шляхі на славянскіх навуковых пуцявінах, распачаўшы выданне навуковага часопіса ў Беластоку, пераехаўшы ў Польшчу на выкладчыцкую працу.

Вяртаючыся ж да тых, хто на зямлі Беларусі вызнае і вяртае нам у слове быццё духу. Ці ўганараваныя — адпаведна свайму месцу ў беларускай літаратуры паэт і філосаф Алесь Разанаў? Паэт, публіцыст і грамадскі дзеяч Анатоль Вярцінскі? Паэты Алесь Каско і Мар'ян Дукса? А Вера Вярба — паэт, што не мае ўвогуле аніякай прэміі? А даследчыкі-адраджэнцы Вячаслаў Рагойша, Янка Саламевіч?

Калі весці гаворку больш шырока, дык, напрыклад, напачатку XX стагоддзя самымі папулярнымі былі тыя, каго цяпер ведаюць толькі літаратуразнаўцы. У рускай літаратуры — Патапенка, Крастоўскі, Вярбіцкая... А засталіся для культуровага свету: Антон Чэхаў, Аляксандр Блок, Іван Бунін...

Германа Мелвіла па-сапраўднаму ацанілі толькі ў XX стагоддзі.

Ва ўсёй паўнаце таленту стаў вядомы праз добрыя 20 гадоў пасля смерці Міхаіл Булгакаў. Не кажу пра тыя імёны, што на дзесяцігоддзі былі выкрасленыя на прасторы былога СССР. Ларыса Геніюш, напрыклад.

А ўвогуле — нават калі пісьменнік быў валадаром думак, як Леў Талстой, або кнігі выходзілі такімі непамыснымі тыражамі, як у Хэмінгуэя, дык «ранг» тут быў чыста літаратурны.

А. Чэхаў паводле сваіх «рангаў» пісаў А. Суворыну: «Мае таварышы па ўніверсітэце ўжо стацкія саветнікі. Адзін толькі я даслужыўся... да кукіша з маслам. Нават калежскім рэгістратарам не быў». (Чэхаў у казённай іерархіі лічыўся чыноўнікам 14-га класа.)

А пушкінскае камер-юнкерства? А салдацкі шынель Баратынскага? А «пасады» дрывасека і чорнарабочага Цыпрыяна Норвіда?

Увогуле ж кожны час вызнае свае, як сёння кажуць, прыярытэты. Вось зусім нядаўна на нашай роднай беларускай прасторы было вельмі важна, каб дастачыцца таго, вядомага: «Усе мы з хат». Цяпер іншыя павевы. Многія з тых самых людзей, што абавязкова падкрэслівалі сваю сялянскую ўгрунтаванасць, сёння сцвярджаюць: «Мы — эліта».

Агульнавядома, якой прыцягальнай была для Бальзака цудадзейная часцінка «дэ» — сведчанне дваранскага паходжання, і якую асобую акрасу ў яго пачуццях да Эвеліны Ганскай надаваў яе тытул «графіня» і тое, што яна народжаная Ржэвуская. Не менш вядома, як ганарыўся сваім паходжаннем нашчадак фларэнтыйскіх нобіляў Мікеланджэла: «Мы належым да старой фларэнтыйскай буржуазіі і можам спрачацца наконт шляхецкасці з кім заўгодна». А вось патомны герцаг Лукіна Вісконці ды Мадронэ, наступнік валадароў сярэднявечча, што меў спадчынную памяць ад часоў Дантэ і Леанарда да Вінчы, сусветна вядомы рэжысёр, быў членам Кампартыі Італіі. І граф Антуан дэ Сент-Экзюперы, чыё генеалагічнае дрэва магло б захапіць любога знаўцу геральдыкі і старажытных радаводаў, на ўсіх зямных і паветраных шляхах (у прамым разуменні гэтых сэнсаў) быў высакародны, як рыцар, і дэмакратычны, як чалавек планеты Зямля. Дарэчы, наконт сваіх палітычных і сацыяльных поглядаў ён распавядаў так: «Я не правае і не

левае крыло, я птушка». І Янка Купала (Іван Дамінікавіч Луцэвіч) — патомны шляхціц — настойліва падкрэсліваў сваю «мужыцкасць»: «Я мужык-беларус, пан сахі і касы», «Што я мужык, усе тут знаюць...» і г.д.

Высокі арыстакратызм іх духу, іх таленту, адвечнае значэнне іх пазачасавых ідэй, увасобленых у канкрэтыцы часу, у сістэме іх мастакоўскага мыслення — гэта ўсё было, безумоўна, і адбіткам генетычным мастакоўскага ўсведамлення роду, жывой ісціны існавання, аднак! — дзеля таго, каб «наноў асэнсаваць сучасны свет, зрабіць для XX стагоддзя тое, што Арыстоцель і Святы Тамаш зрабілі для сваго часу» (Чэслаў Мілаш). Без малаплённых развагаў і роздуму пра сваю элітарнасць і абранасць. І тым больш — без памкненняў да нейкіх там «рангаў».

Рангі ў мастакоў часам здараюцца. Арбітрам элеганцыі пры імператары Нероне лічыўся паэт Петроній, хаця гісторыі вядомы сумны канец яго кар'еры і жыцця. Гётэ 11 гадоў быў на чале ўрада Веймарскага герцагства, хаця пазней канчаткова аддаў перавагу іншым каштоўнасцям. Каралеўскімі гістарыёграфамі былі Расін і Буало. Віцэ-губернатарам служыў М.Я. Салтыкоў-Шчадрын. Саноўнікам дыпламатычных місій, старшынёй камісіі замежнай цэнзуры быў Ф.І. Цютчаў...

Шэраг тых, хто меў рангі ў савецкую пару... А ўвогуле — мастак ва ўладзе — тым больш у пару перасследаў, рэпрэсій, татальнага фальшу — якія трагедыі... Аляксандр Фадзееў... Якія драмы свядомасці і сумлення... Канстанцін Сіманаў...

Хаця — у такіх абставінах надзвычай важна, хто і якую пасаду займаў, які службовы ранг меў. Калі таленавіты, разумны, смелы, добразычлівы — колькі твораў, колькі імёнаў бывала выратавана. У якім спрыяльным творчым клімаце могуць апынуцца тыя, хто надзелены «маланкай індывідуальнасці (Гегель). Калі ж наадварот...

Абраннікі Божыя не так часта мелі ўладу і не так часта імкнуліся да яе. Ведалі: іх улада — іншая. І багацце — не ў звонкіх манетах ці хрумсткіх банкнотах. Яно таксама не песціла творцаў. Каго — адносна, а каго і пякуча недаступна. Язэп Драздовіч, якому не хапала грошай на-

ват на чарніла і канверты. Эдгар По, што пражыў сваё кароткае жыццё — ад пачатку да скону — у нішчымніцы, а памёр, як апошні люмпен. Бальзак, што меў няшчасце люляць нейкія фінансавыя ілюзіі і фантазіі, якія заўсёды цярпелі фіяска...

Былі, праўда, спадчынна забяспечаныя Тургенеў, Флабэр, з пэўнага часу — Байран... Умеў атрымаць грошы — і немалыя — Сальвадор Далі... І Пікаса...

Аднак часцей за ўсё «ўменне жыць» не супадала з талентам. Як зазначаў у адным са сваіх вершаў года Барыс Пастарнак:

> Вряд ли, гений, ты распределяешь кету
> В белом доме против кооператива...

І наўрад ці геній суадносіць зямны час толькі з абмежаваным тэрмінам зямнога жыцця. Ён вызначае сутнасці ў адпаведнасці з вечнасцю Боскага, сакральнага часу. (Нават калі канкрэтна пра тое не мысліць.) Хаця ў наш час рэнесанснае, даўняе, былое адчуванне часу саступае месца асабістаму, «личностному» адчуванню. Аднак нешта ад сярэднявечнага і рэнесанснага, вызначальнага на культуровым шляху чалавецтва ад Нараджэння Хрыста ars moriendi — мастацтва паміранння, мастацтва выкарыстання жыццёвага шляху — набывае новае вымярэнне: напрыклад, пошук свецкіх спосабаў дачынення да вечнасці — пасмяротнай славы.

Прыжыццёвы імідж... Гераізаваны партрэт... Псіхалагічны, жанравы партрэт... Аўтапартрэт... (Літаратурны, жывапісны.) Дзённікі, хронікі... Аўтабіяграфіі і біяграфіі... Не проста апісанне, а канструяванне і рэканструяванне ў пэўным ракурсе... Уражанні ад чалавека... Ад творцы... Моманты, эпізоды, фрагменты... Стэрэатыпы... Клішэ масавых уяўленняў... Легенды... Міфы...

Так бы мовіць, нешта накшталт кананізацый свецкага кшталту... І — негатывы замест партрэтаў... Пародыі на сапраўднае...

«Аліўкі часу, успаміны...»

*Гіём Апалінэр.*

Калі застаецца апошняя рыса ў зямным існаванні — застаюцца творы. Застаецца і памяць — не заўсёды дакладная, часам капрызлівая, з кантамінацыямі, перабольшваннямі, схільнасцю да полюсных вызначэнняў.

Пасля адыходу з жыцця пачынаюць ледзь не каназаваць творцу, выдаюць успаміны — якія нібыта жыціі святых, мітусяцца з помнікамі, музеямі, дошкамі памяці... І наадварот. Забываюць. Ці згадваюць зусім не адпаведна створанаму. Не спяшаюцца сабраць і выдаць спадчыну. Да гэтай пары так і не сабраная і не выдадзеная спадчына Уладзіміра Самойлы. (Тое, што зроблена У. Кананам і А. Лісам — неацэнна важна, аднак яны толькі пазначылі арыенціры даследавання і пошукаў. Ёсць звесткі, што працуюць у гэтым рэчышчы — можа, пакуль мой допіс ператворыцца ў кніжную версію, з'явіцца і выбранае У. Самойлы.) А Самойла — літаратар і мысленнік еўрапейскага ўзроўню! Так і няма кніжнага варыянту поўнага спіса «Успамінаў» А. Я. Багдановіча (друкаваліся ў часопісе «Нёман» у 1994 годзе). А гэтыя мемуары маюць самадастатковую літаратурную, этнаграфічную, гістарычную важкасць, зусім незалежна ад таго, што Адам Ягоравіч Багдановіч быў бацькам Максіма Багдановіча. Так і застаўся адзіным кніжным выданнем мемуараў даўні кнігадрук, хутчэй — публікацыя фрагмента: «Страницы из жизни Горького» (Мінск, 1965).

Увогуле ж пасмяротная слава і пасмяротныя міфы і легенды — з'ява досыць стыхійная, не заўсёды пацверджаная рэальнымі фактамі творчасці. Як і няслава... Нездарма ў Старажытным Рыме згадвалі: «Leonem mortuum etiam catuli mordent». — «Мёртвага ільва кусаюць нават шчанюкі».

Памятаю, чытала ўспаміны аднаго літаратара. Не буду згадваць прозвішча: ён нябожчык. Хаця І. Бунін на гэны конт меўся заўважыць: «Нябожчык? Што за чын такі?».

Дык вось гэты беларускі літаратар, што пры жыцці аднаго чыноўнага нашага пісьменніка запабягаў перад ім — наўскапыта і «на полусогнутых», раптам старанна папырскаў памыямі ў мемуарах, каб дагадзіць іншаму, яшчэ жывому, а таксама — «уплывоваму».

А колькі бруду і падману давялося «змываць» пазнейшым даследчыкам з некралога Эдгара По, апублікаванага пад псеўданімам душапавернікам пісьменніка Руфусам У. Грысуолдам!

Як лёгка абкатаць, абваляць у гноі факцік — падаць яго, пахіхікваючы, з «самымі добрымі намерамі»! Часам гэта робяць тыя, хто лічыўся сябрамі. Пасля смерці. Пры жыцці... Як згадваў Аляксандр Сяргеевіч Пушкін:

Уж эти мне друзья, друзья!
О них недаром вспомнил я.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
А что? Да так. Я усыпляю
Пустые, черные мечты,
Я только в скобках замечаю,
Что нет презренной клеветы,
На чердаке вралем рожденной
И светской чернью ободренной,
Что нет нелепицы такой,
Ни эпиграммы площадной,
Которой бы ваш друг с улыбкой,
В кругу порядочных людей,
Без всякой злобы и затей,
Не повторил стократ ошибкой,
А впрочем, он за вас горой:
Он так вас любит... как родной!

Прыгадваліся гэтыя радкі з «Яўгена Анегіна», калі чытала ўспаміны пра таго ж Пушкіна, Лермантава... Пра Андрэя Белага (Зінаіды Гіпіус). «Мёртвага ільва кусаюць нават шчанюкі». Хаця і жывога... Уварваць, што ўдасца, паказытаць, кусануць, каб доўга не ачомаўся, — любы занятак...

...Джэка Лондана ашуквалі з усіх бакоў: ён даваў, прыяцелі бралі. Бралі і так, як газетчык Ноўл, якому пісьменнік аддаў правы перарабіць «Марскога воўка» для экрана, а Ноўл перапрадаў іх. І Лондан, заключаючы кантракт на экранізацыю ўласнага твора, павінны быў выкупляць правы... І г. д.

А фільм Бунюэля і Сальвадора Далі «Андалузскі шчанюк», у якім Далі ўчыніў расправу над даўнім сваім сябрам — Федэрыка Гарсія Лоркам! Здзеклівы кпін — ужо ў самой назве: «андалузскімі шчанюкамі» называлі жыхароў паўднёвай Іспаніі, яно мела на ўвазе — недавярак, няўклюда, расцяпа. А сюррэалістычны мастакоўскі код (і ход) лёгка дэшыфраваўся людзьмі эстэтычна і жыццёва паінфармаванымі.

Аб прычынах гэтага эпілогу сяброўства можна здагадвацца, прачытаўшы ў аўтабіяграфічнай кнізе Далі: «Я стаў пазбягаць сустрэч з Лоркам і кампаніяй, якая ўсё больш відавочна рабілася яго кампаніяй. Гэта быў апагей яго ўплыву, якому ніхто не мог супрацьстаяць і, мабыць, тады, аднаечы ў жыцці, мне давялося зведаць нешта падобнае на пакуты рэўнасці». І яшчэ: «...здань Федэрыка Гарсія Лоркі. Ахутала і ледзь не знішчыла прыродную самабытнасць маёй натуры». І вось — «Андалузскі шчанюк»!

Уж эти мне друзья, друзья!

...Мемуары, біяграфічныя даследаванні, біяграфічныя аповесці, раманы, біяграфічныя дакументы і ігравыя фільмы — з’ява дакліваяя і далікатная. Меру аб’ектыўнасці і мастакоўскай ісціннасці, праваты вызначыць вельмі няпроста. І досыць частыя — так бы мовіць, свецкія кананізацыі, і слоўныя карціны-лубкі, ці, наадварот, збор усіх памыйных плётак, небыліц і бяссэнсіц... Або гэткая кухарска-побытавая аплікацыя, з банцікамі і фальбонкамі, міленькі-мізэрненькі, просталінейна-замілаваны, стэрэатыпна-дабрадзейны партрэцік — безумоўна, з лепшых намераў. Чытаеш — і не разумееш:

няўжо гэты рассіроплены дзядзечка стварыў высокае, сапраўднае? Вечнае?

Даследчыкі, біёграфы, белетрысты-біёграфы звычайна абапіраюцца на першапачатковыя дакументы, успаміны — тыя ж самыя — блізкіх, сваякоў, сяброў... І калі весці гаворку пра «сямейныя» мемуары, дык мне асабіста найбольш прыгадваюцца кніга цёткі А. Блока М. А. Бекетавай і «Дакументы да біяграфіі Барыса Пастарнака», падрыхтаваныя, адабраныя, вытлумачаныя з глыбокім разуменнем творчасці паэта яго сынам — Яўгенам Пастарнакам. Згадваюцца таксама ўспаміны першай жонкі А. Купрына — М. Купрыной-Іярданскай — «Гады маладосці». Улічваючы няпростыя абставіны творчай і асабістай біяграфіі гэтых мастакоў, можна толькі з удзячнасцю схіліць галаў перад даследчыцкай і чалавечай (можа, і найбольш) вытанчанасцю, высакародствам і аб'ектыўнасцю гэтых людзей. Гэта асабліва кідаецца ў вочы сёння, калі ад поўнай заслоны і цемры таямніц ва ўсім, што датычыць асабістага (а ў многім, значыць, і творчага) жыцця асоб, перайшлі да такога кафэшантаннага падыходу да ўсяго і ўсіх — што нема маўчыш, гледзячы, напрыклад, на ксёнжачку з красамоўнай назвай: «Жанчыны Міхаіла Булгакава» — з партрэтам пісьменніка на вокладцы. Дзе яны выкапалі такі фотаздымак! Ну, які-небудзь вадэвільны прастачок: да амплуа нават каскаднага героя аніяк не дацягвае. І гэта — аўтар «Майстра і Маргарыты», «Белай гвардыі», «Пана дэ Мальера»! Чалавек, які ў пару татальнай пралетарызацыі і стандартызацыі быў узорам густу, гжэчнасці, вытанчанасці...

А вось даўні альманах «Прометей» (1974, т. 10). З якой тактоўнасцю, адчуваннем меры, павагі ідзе гаворка пра музаў А. С. Пушкіна... Якія, дарэчы, партрэты, малюнкі... Якая культура выдання...(Хаця і папера не самага высокага гатунку, і мяккая вокладка.) Які ўзровень мыслення, якая вышыня пачуццяў, які складаны духоўны свет — усё, што не паддаецца прымітыўнаму раскладу.

Урэшце — у любога творцы матывы біяграфіі, рэальныя асобы, рэальныя факты даюць штуршок натхненню, аднак мастак, менавіта ён, пераўтварае гэтыя факты ў «легенду вякоў» (А. Блок), легенду, суаднесеную са светам стыхій, зорак, камет, зместам стагоддзяў, прасветленым фаталізмам, ідэямі вечнымі і ідэямі часу...

Чтобы по бледным заревам искусства
Узнали жизни гибельный пожар!
*А. Блок*

Мабыць, так?

«Мая надзея, мой зялёны шчыт...»

*Дзю Белэ.*

Хаця сучаснае жыццё — сплаў, сутыкненне рэальнага і ірэальнага, рэальнага і віртуальнага... Інтэрнэт, касмічная сувязь, тэлебачанне, мабільная сувязь... Але і спрадвечны спадарожнік чалавецтва, што нельга патлумачыць з пункту погляду нармальнай логікі, нармальнага мыслення, які пярэчыць самой натуры чалавека, — войны...

Аднак духоўнае жыццё не знікае. І з'яўляюцца матэрыялізаваныя пацвярджэнні плёну духу. «Культура — плённае існаванне» (Б. Пастарнак). І ад таго існавання ўзнікаюць творы, што даюць падставы згадаць думку Мікеланджэла Буанароці: «Beata l'alma, ove non corre tempo». — «Шчаслівая душа, што не падуладная бегу часу!» Не падуладная — аб'ектыўным, непасрэдным, самадастатковым існаваннем твораў мастацтва. І — суб'ектыўным, су-творчым успрыняццем гэтых твораў, жывой свядомасцю і актыўнай памяццю. Не падуладная бегу часу — натхнёнай творчасцю той «шчаслівай душы» і натхненнем «рэцыпіентаў»: чытачоў, гледачоў, слухачоў... Гарманічная суадноснасць, двухбаковы рэзананс, той чар, таямніца, якія даюць доўгае жыццё мастацтву (ars longa). Арыентуючыся не на актуаліі мо-

манту (гэта асабліва выразна гучыць па-расійску — «злободневность»), а на каштоўнасці sub specie aeternitatis.

І згадаю тут двух мастакоў, двух творцаў — не ўзносячы іх на п'едэсталы, не штампуючы нейкія эстэтычныя ўзоры. Зыходзячы з блізкасці іх духоўнага складу, інтэлектаў, духоўнага чуцця. З пэўных дэфініцый, звязаных з антыноміямі асабістага перажывання, інтуітыўнымі спасціжэннямі, у нечым тоеснымі са спасціжэннем сакральных тэкстаў, з непасрэдным уяўленнем сутнасцяў Быцця. З тых суб'ектыўных уражанняў, што былі ў сляпой — ці прадвызначнай? — плыні часу — сугучныя нейкаму пачуццёваму стану творцаў — су-творцаў, свядомаснай і падсвядомаснай сістэме адносін, узаемазалежнасці гармоніі і дысанансаў, логікі і алагізмаў...

І хаця тут размова пра канкрэтных асоб і — пра канкрэтную творчасць, усё гэта разам з тым — па-за прагматызмам падзейнай логікі, па-за прымітыўным тлумачэннем уздзеяння асобы і творчасці. У сферы — ідэі чыстай творчасці, у сферы — абсалюту, той вышыні, што недасягальная, але да якой імкнуцца паэты (у шырокім разуменні слова паэзія: ад старагрэчаскага poiesis — творчасць).

...Памятаю гасцінны некалі дом сярод соснаў і цішыні — на ІсЛачы... Беларускі паэт з Польшчы запрашае слухачоў паслухаць з магнітафона спевы Данчыка (Багдана Андрусішына), на тую пару ў нас яшчэ амаль невядомага. І, мабыць, нешта ў эфекце гэтага голасу, нейкая высокая сутнасная форма адгукаюцца ў свядомасці паэта, у значнасцях слоў яго пісьма. Паэта — Яна Чыквіна.

Лодка і вёслы. Цвітуць берагі.
Пясочак сыплецца з жмені,
Як нашага побыту час дарагі.

...Шляхі Музыкі і Паэзіі перасякаюцца. Музыка і Паэзія прыпадабняюцца адна адной. Ні музыку, ні паэзію нельга пераказаць. «...музыкі нам недаступная ідэя», —

задумаецца Ян Чыквін. І пачне — ні больш, ні менш — «будоўлю... мараў».

І хаця Ян Чыквін па складу свайму мысленнік і філосаф, а паводле афіцыйнага статуса — літаратуразнаўца, доктар навук, прафесар, выкладчык, — у пісьме ягоным, і ў непасрэдных кантактах з аўдыторыяй заўсёды адчуваецца ўсё ж менавіта гэтая вызначанасць яго натуры, яго існасці — паэт.

І калі непасрэдна вядзецца размова пра яго творчасць і творчасць яго калег па літаб'яднанні — у Беластоку, у Мінску ў Доме літаратара, у Доме дружбы, яшчэ на якой творчай імпрэзе, — прысутнічае не толькі непасрэдны герой урачыстасці і рабочай сустрэчы з яго непасрэдным выступленнем: тут магутная прысутнасць мноства творчых актаў паэта, яго творчых эмоцый, мноства форм і сутнасцяў.

І здаецца, звычайны шэранькі восеньскі дзень — але ён змяшчае ў сабе і навальніцу ў Беластоку, і «неонавыя кастры» Варшавы, і «даспелае сонца», што «да плячэй» паэта «туліцца», і «сны залатыя» родных паэту Дубічаў... І «цвярозы холад пазнання»... І прадвызначаная гармонія гукаў, сэнсаў, зменнасцяў Быцця — адстароненыя мроі, адвольныя сістэмы, таемны ход імгненняў. Незвычайнае адчуванне жыцця, таямнічая матэрыя моўленага і невымаўленага, слоў і маўчання, і моўных канструкцый, званых паэзіяй, — усё нагадвае пра містычную бездань дадзенасцяў і пра яснасць і цэласнасць вонкавага свету.

Можна браць непасрэдны ўдзел у такіх дзействах, можна не браць. Не ў тым сэнс. Часам, мне здаецца, не маючы падзейнага, слоўнага ўдзелу, не быўшы персанажам дзейства, можна адчуць і момант сустрэчы з Асобай, і той момант — стыхійны, падсвядомы, — калі вы адчуваеце нараджэнне нейкага асобага свету нават і больш ярка.

А свядомасць наша не проста ўспрымае моўленае на якой сустрэчы пра Яна Чыквіна, яна — пад уплывам магнетызму яго тэкстаў, яго і нашых, чытацкіх, узлётаў думкі, гэтай высокай асобаснай (личностной) свабо-

ды і — адначасова — болю духа... Паўната быцця — і скептычная рэфлексія. Шматлікасць светасузіральных эмоцый — і самота: не тая, што вакуум адзіноты, а — мройная адухоўленасць, згусткі духоўнай рэальнасці, згусткі сэнсу.

Дождж ідзе на маю галаву
пахмурна-навесны,
Дождж-напамін пра хуткаплыннасць
светла-блакітнай песні,
Дождж ідзе. На маю галаву.
Дождж серабрыставалосы.
І сплывае, як ласка і глыбейшыя сэнсы
маўклівых нябёсаў.

«Сэнсы маўклівых нябёсаў...» Вы адчуваеце — метафізічная скандэнсаванасць, не праясненая падзейнай канкрэтыкай, містычная знакавасць, чар ідэі... Вымаўленасць і непрамоўленасць. Сплаў складанасці і дыстынктоўнасці... Мэтанакіраванасць абстрагаванай думкі.

І ведаю — верай — што раней
не было мяне такога,
што Жыццём к жыццю пакліканы,
пэўна, цалкам выпадкова
з ланцуга арганікі невядома як доўгага.
Жыццё...
у парыве таемным...
перацячэ праз усё вядома жывое
і род чалавечы
станецца формай, відавочна,
яшчэ больш дзівосна-магічнай.
Але ўжо там, за тым мурам,
адкуль ні Слова, ні Рух
нас не паклічуць.

Ян Чыквін разлічвае на індывідуальнае разуменне, пазбягае пустой бяссэнсіцы лірызму, апісальнасці, аза-

дачвае наш розум, прапаноўвае нам суадносіны са свету ідэй.

Ян Чыквін вядзе асабісты маналог. Але нават там, дзе яго паэтычныя радкі відавочна маюць адрасата (ёсць і прысвячэнне — крыптанім):

Жыві, жыві, прыгожае тварэнне!
Шчаслівай будзь ад дотыкаў жыцця, —

ён у паэзіі сваёй перакідвае масток ад нібыта духоўнай выпадковасці да культуровых неаспрэчнасцяў, надаючы асобы сэнс рэальнаму:

Жанчына,
што нечакана выйшла
з рамы вечнасці ў мой злічальны час,
была
Дзявятай сімфоніяй Бетховена
ін мінор.

Паэт наўмысна размывае зыходныя пункты, межы, лагічныя высновы. Не сцвярджае — але прапаноўвае. Памысліць. Выснаваць. Параўнаць.

Уладары часу
перададуць нам аб’ектыўны вобраз
нашай рэчаіснасці —
І не паверым.

І ўнікнем таямніцы. І згадаем — разам з Янам Чыквіным — пра «густы мёд мудрасці» «старых паэтаў».

І «мёд мудрасці» сучаснікаў. Алеся Разанава, напрыклад. З якім Яна Чыквіна звязваюць і блізкасць духоўная, і творчыя стасункі. А і ў нашай чытацкай свядомасці яны — недзе паблізу. Не паводле сістэмы густаў, нават не паводле загадкі вечных духоўных каштоўнасцяў, а — у адпаведнасці з быційнай неабходнасцю.

«Мы ўцяклі: адзін са сваёй рэчаіснасці, другі — са сваёй, а ў часе ўцёкаў сустрэліся». І «сустрэчу» гэтую адчуе

кожны, хто адзначыў для сябе незвычайную трывучасць водгукаў прамоўленага Алесем Разанавыму свеце душы.

Я маю — усё і не маю — усё.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Сэрца сусвету б'ецца ўва мне.

Вось менавіта гэтае імкненне надаць мастацтву ўсёахопны сэнс — калі не светабудовы, дык значэнне быційнае — і прыцягвае да творчасці і асобы гэтага паэта.

Жывы на зямлі, нашу ў сабе сваю
смерць і неўміручасць,
і адкрываю жыццём зямлю,
і адкрываю смерцю нябёсы,
а неўміручасцю — што найвышэй за
ўсё,
а неўміручасцю — што найбліжэй за
ўсё,
а неўміручасцю — зоркі.

Пільнасць думкі, спроба звязаць — магчыма, паводле Кантавага імператыва, неба над намі і закон унутры нас, можа, паводле Гегеля, дзейсную прыроду духу і абсалютную ідэю, ці вызнаць «чыстую духоўнасць», калі «рэчаіснасць ёсць унутраны свет», а сваё ўласнае «Я» самаадносіцца да свайго ж «Я» паводле К'еркегора. Магчыма. Паводле нашага ўспрыняцця. Магчыма, і тое, і другое, і трэцяе. Не ад эклектызму самасвядомасці, — ад настойлівага імкнення да «квінтэсэнцыі існасці».

І ў гэтым суб'ектыўным успрыняцці імкненні і шляхі Алеся Разанава перакрыжоўваюцца з памкненнямі іншых. Не аднадумцаў — о, не! — на такім узроўні творчасці нічога аднолькавага не бывае. (Увогуле — сумнавата, калі людзі аднолькава, стэрэатыпна мысляць.) Размова — пра судачыненні свядомасцяў, блізкасць успрымання светапарадку. Урэшце — пра тую магію духоўную, калі творчасць аднаго чалавека на-

бывае ва ўспрыманні другога асобую каштоўнасць, пераўтвараецца, вызнае новыя сэнсы.

Так было заўгодна Провіду, — што чыста падзейна, храналагічна — і мой шлях (жыццёвы) перакрыжаваўся з шляхам Алеся Разанава. Аднак пазначыць, што мы працавалі ў адной рэдакцыі або ведалі адно аднаго як рэдактар і аўтар (ролі мяняліся) — гэта не сказаць нічога.

Храналагічна быў той час, калі, з аднаго боку, творчасць Алеся Разанава пэўная частка (калі не большасць) беларускага літаратурнага атачэння ўспрымалі вельмі складана, часам — варожа, а з другога боку — створанае ім пераходзіла ад аднаго да другога, нібыта аб'ядноўвала яго прыхільнікаў, як у старажытнасці аб'ядноўваў пасвечаных абмен пласцінамі кувезнага (чаканнага) золата.

Памятаю вечарыну ў Доме мастацтваў (што каля касцёла Святога Роха). І поўную залу вось тых самых прыхільнікаў: мастакоў, навукоўцаў, людзей розных літаратурных і нелітаратурных прафесій. І — двух апанентаў Алеся Разанава, побач з ім, на сцэне: літаратуразнаўцы, што спецыялізаваліся на вывучэнні паэзіі. І хаця Алесь Разанаў — паэт зусім не для вялікай аўдыторыі і ўжо цалкам не эстрадны, але гэта быў той самы выпадак, калі сабраліся «пасвечаныя», калі творчасць паэта абуджала ў кожным сваё і набывала ў іншым тую самую асобую каштоўнасць.

У непасрэдных стасунках з людзьмі Алесь Разанаў адыгрываў вялікую ролю самім актам свайго быцця, сваёй духоўнай прысутнасцю. Хаця маюць значэнне і непасрэдныя і дзелавыя кантакты. І такія прасветленыя моманты, як той, калі Алесь Разанаў паказваў нам у рэдакцыі здымкі: ён са сваёй па-ранішняму маладой жонкай Галінай. (Не стэрэатыпныя фота «на памяць», а паэтычныя выявы — яны ўдваіх на лугавіне, нібыта ўвабраўшы ў сябе хараство ўсяго бачнага свету.)

Калі твая будучыня
сумесціцца з будучыняю сусвету —
усе словы дарэчы,

усе ўчынкі да месца,
усе стрэлы ляцяць у цэль.

І мабыць, гэтае маё «хаця» недарэчы. Усе моманты жыцця, існавання ў часе — гэта і патаемныя трансфармацыі Быцця, духоўныя зрухі, нематэрыяльныя акты рэчаіснасці. І творчасць — чужая — становіцца часткай духоўнага існавання іншага чалавека. Дзіўная, складаная радасць, прасякнутая тугой і сумнівам. Часам — дзейсная, штуршок для ўласнага дзеяння, часам — рассыроджаная ў бясконцых пытаннях. Да суб'екта творчасці. Да жыцця. Да...

Творчасць Алеся Разанава вызначылася мноствам кніг, пункцірамі Быцця, у якіх — і прэзентацыі новастворанага, толькі што выдадзенага.

Скончыўся дождж.
Цякуць
адкінутыя адлюстраванні.

І зноў — натхненне чытача, слухача. Не просценькі захліп — ах! — а складаны, няўлоўны працэс, калі адбываецца нейкая трансфармацыя, свядомая і стыхійная, ад слоў вымаўленых і ад фраз, слоў схаваных, непраяўленых — калі слова значыць куды больш, як яго моўная функцыя. Калі стыхійныя, унутраныя рытмы творцы супадаюць, сутыкаюцца, перакрыжоўваюцца з рытмамі чытачоў. Усё захоплена, насычана ўтварэннямі нейкага Свету — тоеснасцяў, аналогіяў, суадносін, нейкай жыццёвай і мастацкай сістэмы, нейкіх вобразаў, што існуюць у гэтай духоўнай сферы. Канцэнтрацыя пачуццяў, духоўная сітуацыя, поўная няўлоўна-мройных уражанняў, самавыяўленняў душ — і адасабленне, маўклівая абарона кожнага ўласнага «Я», стынь неўвасобленага, абпаленасць паўсядзённай эмпірыкай. І — адчуванне ўзнятасці на вышыню паэта. І — боязь згубіць гэтую вышыню ў сабе. І — адчуванне духоўнай рэальнасці, якая адпавядае «суверэннай асобе».

І вось што важна і заканамерна: Алесь Разанаў ніколі не спрабуе падладжвацца пад нечыя густы — не мае на мэце нікога «выхоўваць», клікаць (не кажу пра кан'юнктурнасць, мімікрыю, злабадзённасць), аднак з пэўнага часу беларуская маладая літаратура так ці інакш знаходзіцца ў свядомасным полі паэта, яго літаратурнага вопыту (побач з пільным углядваннем і творчым засваеннем створанага сусветнай культурай).

Канкрэтна на гэтым пытанні засяроджвацца не буду, а вярнуся да той умоўна-эстэтычнай ноты, да таго асобага свету сутнасцяў і сутнасных аналогій, да «вызначанасці быцця», што «насычана не адчуваннем або шматграннай матэрыяй..., а духам і ведае сябе як усю ісціну і сапраўднасць» (Гегель).

І вяртаючыся да таго, Мікеланджэлавага, «Beata l'alma» — «Шчаслівая душа, не падуладная бегу часу» да «ўнутранай сутнасці» індывідуума і да таго, што звычайна гэта «не абыякавая адзінкавасць індывідуума, але нешта субстанцыяльнае, сапраўды ўсеагульнае» (Гегель), пазначыць, што менавіта таму і ўзнік гэты допіс. Як разважанне... Пра творчасць і творцаў... Пра сувязь падзейнага і сутнаснага... Пра вечную таямніцу таленту. Незалежнага ад падзейнай эмпірыкі. І залежнага. Ад сітуацый. Ад дзеянняў канкрэтных асобаў. Ад рэалій часу. Ад складу абставінаў. Ад верагодных і неверагодных спружынаў рэчаіснасці. Ад таямнічых рухаў падсвядомасці творцы. І — незалежнага: у галоўным. У створаным. Дзе набываюць галоўную значнасць — «сэнсы маўклівых нябёсаў». У сваёй неадменнасці.

# У МРОЙНЫЯ ХВІЛІНЫ ПАДАРОЖЖАЎ

У сваю пару, пасля вандроўкі ў Францыю, у 1978 годзе, у адной з рэдакцый я распавяла была гаворку пра нататкі. І вельмі мэтанакіраваная і дзейсная асоба імярэк паглядзела на мяне так, нібыта мне стрэліла ў голаў вырошчваць бручку ў ружоўніку. Маўляў, звар'яцела няшчасная: гэткі ашалом ад эмоцый, а тую Belle France, так бы мовіць, толькі адным вокам бачыла: што такое дзесяць дзён (ці дванаццаць)! Я сумелася і паклала накіды ў стол.

Пасля падарожжа ў Італію ў 1987 годзе зноў узяла сумніва — ускруг усё віравала, усё змянялася кожнага дня: што тая Італія?

Але яна ўзнікала — хрэстаматыйна-знаёмая, а ў нечым вядомая толькі мне і маім спадарожнікам. Памяць вяртала — чакана і нечакана — і далёкія французскія ўражанні. І ўсё гэта пакідала адбітак на дні ўчарашнім, на дні сённяшнім, на падзеях апошняга часу.

Ды і гэтыя краіны мараў сталі, на жаль, бліжэй далёка не для ўсіх маіх суайчыннікаў. Жалезную заслону адчынілі, але шляхі на Захад, ды і на Усход, перапынілі для многіх найперш эканамічныя няўладзіцы.

Тады... Тады свабода слова толькі абвясціла пра сябе, усе пафасна (пафас у былым Саюзе быў хранічны) абвяшчалі перабудову.

Яшчэ здавалася нязрушнай КПСС, яшчэ мала хто мог уявіць, што «Союз нерушимый республик свободных» лічыць апошнія гады. Незалежнасць рэспублік здавалася фантастыкай. Меркаванні, што неўзабаве падаліся б звычайнымі, тады выдавалі не менш, як крыміналам.

Тымчасам мы выракліся, адмовіліся, разбурылі. Апынуліся на руінах. Ці то будавалі новы гмах, ці то зноў стваралі паветраныя замкі.

І вяртаючыся да старых допісаў, я трымаюся гэтага сюжэта таму, што хачу знайсці калі не грунт існавання, дык хаця б нейкія зачапкі ў гэтым свеце. Магчыма, тут ёсць схільнасць да таго, што пэўным часам пазначылі было гэткім гаспадарча-інвентарызацыйным паняццем: агульначалавечыя каштоўнасці. Хаця па сутнасці зноў паперадзе інтарэсы дзяржавы.

І камерцыялізацыя асабістага. І — словы, словы, словы...

А ва ўсе часы былі і ёсць яшчэ прыкметы быцця: сталыя і зменныя, залежныя ад геаграфіі і нацыянальнай ментальнасці і паўсюдна агульныя, пазнавальныя прыкметы, што вызначаюць проста жыццё. «Блажен, кто посетил сей мир в его минуты роковые...» Хто ведае... Што больш меціць быццё: гістарычныя ці пазагістарычныя імгненні? Калі людзі проста існуюць — радуюцца, спрачаюцца, спасцігаюць навуку, вучаць іншых, робяць, кахаюць, бяруць шлюб, мысляць, ходзяць у госці... Падарожнічаюць. Не ў перыяды ж вялікіх гістарычных зменаў узводзяць бажніцы, ствараюць карціны, будуюць гарады, вырошчваюць сады, гадуюць кветкі...

**ВОСЕНЬСКІ ПАДАРУНАК**

Вандроўка ў Італію была нечаканая. Гэткі падарунак восені. Здаецца — тым самым момантам, калі пані Удача нібыта забылася нават пра тваё існаванне, а жыццё толькі і робіць, што кідае цябе ў накдаўны, і ты ўжо рыхтуешся да чарговага наканаванага хуку — а тут раптам узнікае той самы сподачак з блакітным акрайцам. Італія...

Весь груз тоски многоэтажный —
Сгинь в очистительных веках!

У галаве — мешаніна. Нейкая чаўпра з вежаў, нефаў, купалоў. Цэркваў, палацца... Каналы, гандальеры... Хаця не, Венецыі ў маршруце няма. «Кавалак неба, што трапіў на зямлю» — Неапаль — таксама застаецца ўбаку. Затое — будуць Рым, Фларэнцыя, Мілан, Балоння, Рэджа-Эмілія... Лацыё, Умбрыя, Таскана... «Голубоватым дымом вечерний зной возносится, долин тосканских царь...» Мітусня цытатаў. Нейкія ўрыўкі з фільмаў дэ Сантыса, Вісконці, Антаніёні, Феліні. Слоўная феерыя Анны Маньяні, самнамбулічны позірк Монікі Віці, каскад рухаў Марчэла Мастраяні... Напаўзабытыя факты і даты... З Вазары, Муратава, Джывелегава... І зноў — радкі, радкі, радкі...

«Omnia mutantur, nihil inferit». А яны былі аптымісты, старажытныя рымляне. «Усё змяняецца, нічога не знікае».

Так, безумоўна, трэба было б давесці да ладу, сістэмы факты, падсвяжыць памяць, пэўна даведацца — але ўжо няма часу. Пачынаецца вандроўка. І абавязковыя няўладзіцы, неспадзяванкі, недарэчнасці. Хіба ў нас інакш магло быць? Самалёт з Мінска ў Маскву (група журналістаў, тады яшчэ СССР, вылятала з Масквы) позніцца на пяць гадзінаў, гатэля ў Маскве няма, патрэбнае аддзяленне Інтурыста я знаходжу, добра паблукаўшы па калідорах і холах Астанкінскага гасціннага комплексу. Паводле не самых лепшых традыцый не самых лепшых часоў нам паведамляюць процьму правілаў, інструкцыяў: перасцерагаюць, папярэджваюць, даводзяць «да ведама».

І тым не менш — напаўяве, напаўсне мы аказваемся ў аэрапорце Леанарда да Вінчы, або Ф'ю Мічына. Выпраўляемся далей. Не ў Рым, а ў Остыю: чэмпіянат па лёгкай атлетыцы, усе гатэлі вечнага горада занятыя.

...Мост, перасохлая, выцвілая рачулка, як быццам нехта плесkануў вады на звычайны шэры жвір. Высвятляецца, аднак, — гэта хрэстаматыйна вядомы Тыбр. Усё змяняецца? Ці проста канец спякотнага лета?

А светлы, рудавата-вохрысты колер будынкаў каля дарогі — колер «трастэверын», колер Рыма.

Наш «Сатэліт-палас» у Остыі сціплы. Але з усімі выгодамі цывілізацыі. Асноўнае насельніцтва гатэля падчас нашага знаходжання там — паліцыянты.

Раніцай каля гатэля — усё блакітнае і сіняе ад кашуль уніформаў і машын: першынства свету, муніцыпальная паліцыя пачынае працоўны дзень. Пачынае свой дзень і Остыя — грукацяць жалюзі крамаў, мужчына паважна вядзе сабаку на ланцужку, жанчыны паліваюць кветкі ў лоджыях. Вуліцы чысцюткія, дагледжаныя. Лоджыі патанаюць у зеляніне. А мы, праглынуўшы кубачак кавы і булачку-расету, сядаем у наш «Італбус», шыкоўны, з кандыцыянерамі, з аграмаднымі светаахоўнымі шыбамі.

У «Сатэліт-палас» мы прыязджаем уначы. І тое, што Остыя — старажытны горад, порт, што мора побач, мы ведаем выключна тэарэтычна. Хаця нашыя гіды нас пераконваюць: не трэба засмучацца — у ваду ўсё роўна лезці нельга. Уяўляем сабе малюнак накшталт «Чырвонай пустыні» Антаніёні і супакойваемся.

У Рым. Толькі ў Рым.

...Мабыць, і ў першыя дні стварэння свету магло быць вось такое мяккае, цёплае, пахмурнае надвор’е, будзённы дожджык, што спраўна сыпле на сімвал Рыма — Калізей. «Пясок мораў, і кроплі дажджу, і дні вечнасці хто вылічыць?» Востры водар — туберозаў? Але ж я з тых няўдаліц, якія заўсёды гавораць: нейкая птушка, нейкае дрэва. (Прыгадваю Янку Брыля, што бязлітасна кпіў з гэтых невукаў.)

Калізей стаіць адасоблена, нішто яму не замінае. Як у часы Цэзара. Нікому не рупіць пабудаваць побач сучасны гмах. Тут маюць павагу да прапорцыяў старажытнасці, да архітэктурнага рытму Старажытнага Рыма.

Хаця ёсць і відавочная эклектыка эпох. Турыстычныя карнавальныя атрыбуты. Конь з фаэтонам. Зразумела — калясніца Геліёса мела іншы выгляд. Рамізнік у адзенні аперэтачнага вентурына, на фаэтоне — ліхтар, таксама, пэўна, не антычнага абрысу.

Ніхто з нас, праўда, не рызыкуе, не мысліць трапіць у кліенты гэтага каларытнага рамізніка: грошы нам яшчэ не мянялі, аднак калі б ліры і звінелі ўжо ў кішэнях, дык камерцыйныя нашыя мажлівасці наўрад ці супалі б з таксай фурмана. Хаця — хто ж у вечным горадзе раскашуе ў экіпажах? Толькі пешшу і на самоце. Хаця і гэта — раскоша для нас. Мы зноў у «Італбусе». Тэрмы Каракалы, брама Канстанціна. Капітолій. Усё змяняецца, нічога не знікае... Нібыта перагортваем выдатна ілюстраваны падручнік па гісторыі Старажытнага Рыма. Паглядзіце налева, паглядзіце направа. Мітуслівае дачыненне да вякоў...

**«СЯРОД ВЯРХОЎНЫХ РЫТМАЎ СУСВЕТУ...»**

Ды ўсё ж — «Carpe diem». Толькі ў такую бясхмарную раніцу Рыма і здолелі вызначыцца ў памяці шматкі чэзлай універсітэцкай латыні. «Carpe diem» — «Карыстайся днём». Сапраўды. У цэнтры Рыма — ніводнай машыны. Марафонскі забег чэмпіянату свету. Пешшу — як у часы Гарацыя або Лукрэцыя. І амаль на адзіноце. Можна не бегчы, раўняючы крок з шэрагамі групы, а кіравацца крыху паперадзе або наадварот — ззаду. Глядзець на Рымскі форум (Foro Romano) збоку, зверху і менавіта тут, на Палатынскім пагорку, гледзячы ўніз, неяк раптам зрокава адчуць, што гэта — магутны дыктат Старажытнага Рыма. Пачынаеш відавочна ўяўляць carmen saeculares, ludi saecula res: стагадовыя песні, стагадовыя гульні. Аднаечы на стагоддзе. А між іншым, і мудрым, і знакамітым, і дзейным здавалася, што стагоддзям Рыма не будзе канца... Як і сёння: не адзінкі, многія — і разумныя, і энергічныя — так і не ўяўляюць 1/6 частку зямной кулі інакш, як Саюз. Неабсяжны, непарушны. Мадэль — калі не светапарадку, дык дзяржаўнасці.

Усё змяняецца, нічога не знікае. На руінах Старажытнага Рыма з'явіліся першыя хрысціянскія базілікі. І не толькі першыя. Вось і бажніца Святога Пятра створана на фундаменце яшчэ тых, паганскіх, антычных часоў.

І — дзіўна — але, магчыма, гэта выключна асабістае ўражанне, святыні ўжо не ціснуць на свядомасць, як гэта адбываецца з рэштамі Старажытнага Рыма.

Невыпадкова, мабыць, усе дыктатары найноўшага часу падрабляліся пад Старажытны Рым і Грэцыю. Напалеон, Мусаліні, Гітлер, Сталін. Усё аграмаднае, вялікапышнае, каб чалавек адчуў сябе popolo minuto (мізэрным, змарнелым народам). Перадусім — алтар Айчыне рабілі ў Рыме ў XX стагоддзі і яшчэ да валадарання дучэ. 1911-ы год. Хто быў тады? Кароль Эмануіл? Але так ці інакш — гэта нейкі каменны ўздых па жалезным дыктацэ імперыі. Бясконцая белая каланада, неабсяжная лесвіца, пахмурны метал вазкоў і коннікаў. Укленчы, шараговы чалавецтва...

Але Рым — горад нечаканы. Горад розных стагоддзяў. У язычніцкім Рыме, на пагорку Палатын, аднекуль чутны мяккі перагук званоў — неўзабаве заход сонца, пара вячаровай імшы...

Тымчасам мы апынуліся ў адной з раннехрысціянскіх базілік — Санта-Марыя ін Казмедын — суровая гэтая святыня перабудоўвалася якраз на грунце рымскай архітэктурнай асновы ў VIII і XII стст. Але гукі званоў той царквы не маюць адбітку змрочных яе муроў, у іх адчуваецца злагада адыходзячага дня, асветленага і пазначанага малітвамі, аднаго са шматлікіх дзён двух тысячаў гадоў хрысціянства. У гуках тых — «...веліч вышыні, цвердзь чысціні...» Увогуле — што меўся выявіць чалавек у гэтым бясслоўным і нібыта бессюжэтным кожнадзённым рытуале? Простая і вечная музыка стагоддзяў. Векавечны зварот да Бога. Мабыць, нездарма ў іншай краіне чалавек горкага лёсу і адухоўленага разумення слова так пераклаў верш Томаса Мура, а двое іншых — таленту значнага і немітуслівага, стварылі такую музыку, што паўтара стагоддзі — у атачэнні сям'і і ў прафесійных хорах, у дружнай кампаніі і сам-насам з сабой і ўсім светам спяваюць: «Вечерний звон, вечерний звон! Как много дум наводит он...». Туга і ўспамін, роздум пра незваротнасць усяго на зямлі і марнасць усяго існага... «И уж не я, а будет он в раздумье петь: “Вечерний звон!”»

Сонца на суклоне, і ў ім нібыта сышліся ўсе колеры адыходзячага дня. У Рыме 30–35 градусаў паводле Цэльсія. А мы тымчасам на П'яцца Квірынале, каля Каралеўскага палаца. Глядзім на гарачую, яркааранжавую паласу на нясцерпным блакіце паўднёвага неба, бясконца доўга глядзім на палымяны небасхіл. Потым проста доўга сядзім — пачынаюць запальваць ліхтары. Шпацыр, маўляў, як у часы Сенекі і Нерона, па безаўтамабільным Рыме цяпер помсціць нам аўтамабільнымі заторамі, наш «Італбус» мы чакаем дзве з паловай гадзіны. Турыстычна пільна ўглядваемся ў палац, бачым, як адны вартавыя змяняюць другіх, і вось наша цікаўнасць узнагароджана не вельмі арыгінальнай, але каларытнай сцэнкай. Дзве рымлянкі (як гучыць!) у ботах (30 градусаў) і ў бліскучым лускавінні камізэляў вядуць доўгую і ажыўленую размову з гараджанамі вечнага горада. Тыя на шыкоўных навенечкіх матацыклах, матацыклы вуркочуць, зіхотка ззяюць, храпуць, што коні, збіраючыся несціся наўскапыта. Нашыя шчоўкаюць фотаапаратамі — мадэлі прыгожыя. Хоць на палатно карціны, хоць на подыум. Дзяўчаты нешта даказваюць маладым сіньёрам, тыя горача пярэчаць. Усе смяюцца, зноў спрачаюцца. Нешта даказваюць, у нечым пераконваюць. Мы не ведаем мовы, і тут ёсць свая перавага. Чуваць толькі чароўныя гукі галосных і падвойных зычных — вельмі прыгожа, стаката пераходзіць у спеўны рэчытатыў — сіньярыны гулліва ківаюць гловамі; раскоша іх валасоў робіць гэты жэст свавольным і гарэзлівым, потым яны адмоўна круцяць галовамі — хвалі локанаў перакідаюцца справа налева і злева направа, дзяўчаты нешта малююць нагой на асфальце: ах, хто ўстоіць перад боцікам гэтых чараўніц! Адзін з кабальера (хаця не, гэта ў Іспаніі — кабальера), ну, так бы мовіць, з персанажаў дзейства, прымае позу залежнага ад дамы рыцара, класічную позу — з нізкім паклонам...

Зноў смех — і яны, усе чацвёра, ад'язджаюць на пераможных, хуткаімклівых матацыклах. Сама маладосць, само жыццё...

Ну, а наш «Італбус» у рэшце рэшт прарываецца на П’яцца Квірынале.

«Фін каралы, фін каралы», — гэтую мелодыю мы чуем увесь час, калі нашага шафёра Франка просяць стварыць музычны фон падарожжу. Просьбу часцей за ўсё паўтарае адна і тая ж жанчына — Італія ўяўляецца ёй нечым накшталт гучна-стракатага папуры з песняў Тото Кутуньё, Адрыяна Чэлентана і Рафаэлы Кара.

«Фін каралы, фін каралы» — гэтыя ж легкадумна-дрымотныя рытмы суправаджаюць нас і тады, калі мы едзем зранку ў Ватыкан. Мелодыя настройвае на несур’ёзны, лёгкі лад. Закалыхвае. А едзем мы на сустрэчу з рэзідэнцыяй Святога Пасаду, Сікстынскай капэлай, з Мікеланджэла. Але добра тэмпераваны клавір Баха не прадугледжаны праграмай, ды і што-небудзь больш дастасаванае да мэты вандроўкі ці хаця б — на крайні выпадак — да часу і геаграфіі Боскага Мікеля — таксама. «Фін каралы, фін каралы» — вуркоча мелодыя.

...Муры Ватыкана з боку віале Ватыкана. Малыя, мізэрныя побач з імі сыны і дачкі чалавечыя. І неяк спракаветна строгія і важкія гэтыя муры. Пачынаю ўяўляць наша ўзыходжанне на вяршыню пагорка, да Святога Пасада, але ўсё аказваецца празаічна і проста, усё ў рэчышчы нашага прагматычнага, мітуслівага часу. Ліфт — і ўсё... І вось мы ўжо крочым па галерэях Ватыкана. Перад тым быў уступны экскурс. Ва ўнутраным падворку Ватыкана, скрозь залітым сонцам. Падворак жоўта-белы, з акуратна стрыжанымі газонамі, такімі ж акуратна стрыжанымі дрэвамі, якім дакладна вызначана месца ў гэтым паралелепіпедзе. Амаль пустым. Наведвальнікі ў залах і музеях Ватыкана.

Наш гід, Анна Сандрэці, узняўшы высока над галавой ці то жазло, ці то піку з кветкай-ружай (каб мы маглі бачыць яе і не згубіцца), прапануе нам надзвычай жвавы тэмп. Анна Сандрэці дзесяць гадоў жыла ў Савецкім Саюзе, выдатна валодае рускай мовай. А ў музеях Ватыкана адчувае сябе як выдатны спецыяліст, прафесіянал на сваёй працы. Спяшаецца яна, мабыць,

імкнучыся не перабраць адведзенага нам часу. Ёсць у яе і яшчэ рацэі, з якіх яна прытрымліваецца шпаркага рытму, мусіць, слушна лічыць, што на такой хуткасці ніхто не здолее распытваць яе. Анна ледзь не ў трансе ад дапытлівасці нашых — на тую пару — суайчыннікаў. Нехта спытаў у яе з выглядам першага вучня: «Прабачце, а хто жонка папы?» Анна Сандрэці захлынулася словамі, а пазней усё неяк тужліва перапытвала: «Няўжо гэта сапраўды група журналістаў?»

Некалі ў Францыі ў нас таксама была рэкардсменка па кур'ёзных пытаннях. У музеі імпрэсіянізму яна, стоячы перад сусветна вядомай карцінай Клода Манэ «Сняданак на траве», усё настойліва перапытвала назву, старанна запісваючы яе ў нататнік. А ў адным з музеяў Ватыкана адзін з нашых калег і ўвогуле не пазнаў «Лаакаона», тыражыраванага ўсімі падручнікамі для сярэдняй школы.

Дарэчы, нас інструктавалі, папярэджвалі, вучылі, зусім паводле традыцый даўніх і нядаўніх часоў: ніякіх стасункаў з чужынцамі-чужаземцамі (а чаго тады ехаць?), ніякіх шпацыраў на адзіноце (парушала гэтае правіла, дзе толькі была магчымасць, не заўсёды ўдала, але пра тое пазней), ніякіх адхіленняў ад групы, ніякіх... не, не, не... Праўда, чамусьці нікому не стрэліла ў галаў пазначыць, што плады асветы мы часцей за ўсё праглыналі недаспелымі, а часцей — толькі паглядалі на недаступныя плады і змушаныя былі аднекваца: «зело зелены». Увогуле ж «учились понемногу чему-нибудь и как-нибудь»... (А з далечыні года выхаду ў свет кнігі, а не моманту публікацыі допісу — з жалем пасведчу: стала яшчэ горш.)

...Вяртаючыся ж у музеі Ватыкана... Знакі, стрэлкі... Усе — да Сікстынскай капэлы. Стрэлкі ў галерэі з арасамі, стрэлкі ў галерэі са столлю, дзе роспісы ў стылі рамбулье (рамбалі, як вымаўляла Анна Сандрэці) — роспісу, што зрокава стварае ілюзію рэльефу.

Урэшце — капэла Сікстына. Тут прадугледжана ўсё, каб, наколькі гэта магчыма ў натоўпе, пакінуць усю мітусню свету за дзвярыма. Нельга перамаўляцца, нельга

весці экскурсіі, нельга фатаграфаваць, нельга здымаць на кінаплёнку.

Закратаваныя вокны капэлы — высока-высока. Алтар: драўлянае разьбярства. Такі ж драўляна-разны амбон. Але ўсё гэта здаецца антуражам, прычым нязначным, галоўнае — роспіс Мікеланджэла. «Урачыстае і змрочнае свята, дзе ўсё нагадвае пра жалобу дня памерлых». Так згадваў пра гэты — адзіны ў свеце — роспіс Рамэн Ралан. Твор Буанароці аднаўлялі — і там, дзе папрацавалі рэстаўратары, усё чамусьці прыгладжваецца, набывае ненатуральна новы выгляд, робіцца спакойна-гарманічным, нібыта гэта ўжо не магутна-трывожны геній Мікеланджэла, а ясны, злагадны талент Філіпа Ліпі.

У Рыме наогул, а ў Ватыкане асабліва, нібыта вандруеш з эпохі ў эпоху. Усё спалучана, усё ў судачыненні. Пачынаеш губляць адчуванне рэальнасці, чуццё істоты ў пэўна пазначаных часе і прасторы, шматвекавы гістарычны час уладна прыцягвае да сябе, пераконвае відавочнасцю мастацтва, шматвекавых рэалій. Вазы, тыя самыя, што мы бачылі ў падручніках, — чорныя амфары з вохрыста-бэжавым малюнкам, чарніліца, якой 2500 год, знакаміты Апалон Кановы... І ўжо нават даглядчык з музея Ватыкана пачынае нагадваць уладарнага прынчыпе (князя) часоў Ларэнца Медычы (Ларэнца Цудоўнага). А на знакамітай лесвіцы Скала Рэджа, здаецца, неўзабаве з’явіцца сам Святы Айцец. Аднак відавочна выпрабоўваць эфект калонаў, што паступова змяншаюцца ў памеры, рызыкуюць толькі два фотааматары.

Варта Ватыкана — нязменна ва ўборах яшчэ паводле эскізаў Мікеланджэла, і, падпаўшы пад узвышанае ўздзеянне Ватыкана і пад магічны ўплыў цырыманіялу старадаўніх часоў, са здзіўленнем глядзіш на мулатку ў саборы Святога Пятра — у найсучаснейшых ружовых нагавіцах, з дзіцем. Дзіця плача. Яны прытуліліся каля калоны, жанчына амаль ляжыць на плітах бажніцы. Чаму яны апынуліся тут? Магчыма, жанчына лічыць, што тут яе жальба будзе хутчэй пачута Усявышнім? Ці спадзя-

ецца на неадкладную дыяканічную дапамогу? А можа, прыйшла глядзець на знакамітую будову Джавані Берніні? Неверагодна прыгожую грабніцу Святога Пятра? Асабліва глядзіцца яна (грабніца) з сучаснай падсветкай: высакародны абрыс лесвіцы, умеркаванасць пазалоты, мяккасць белага і каляровага мармуру. І нейкая падкрэсленая свецкасць, нават тэатральнасць — і ўсё не так нагадвае пра марнасць зямнога, як сцвярджае адвечнасць Боскай Красы.

Нейкая суцэльная эйфарыя — апошнія метры дзяржавы Ватыкана. Хаця — у розных людзей, мабыць, свае ўражанні. У некага — узвышаныя, узнёслыя ад дачынення да Боскага Святла, у некага — абумоўленыя выключна рацыянальнымі назіраннямі, у некага — пантэістычныя, ад адчування вечнасці прамяніста яснага сонца, ад якога белая каланада на плошчы Святога Пятра перад саборам здаецца пякуча белай. Ёсць і сакральнае, глыбока асабістае, пра што весці гаворку ў такіх стракатых нататках немагчыма.

І зноў — мешаніна часоў і эпох. Руіны тэрмаў Каракалы. «In corpore sano mens sana». Тое, што мы ўсе памятаем з маленства. «У здаровым целе здаровы дух». Рымляне ведалі пра гэта. Пасля лазні ішлі ў бібліятэку.

...Віа Алесандра, палацца Фарнезе. Менавіта тут жыла дама барока, шведская каралева Крысціна-Аляксандра, што адмовілася ад стальца, каб прыняць каталіцтва. Тая самая, што адпрэчыла прапанову, каб яе прывезла карэта, зробленая паводле задумы самога Берніні. Яна з’явілася ў вечным горадзе конна. Як сапраўдная каралева сеічэнта — каралева XVII стагоддзя. Тая, перад якой адчувалі сябе падданымі нават кансакраваныя асобы. Як сведчылі многія, не хто-небудзь, Адзаліні — служка Боскі — кінуў на брукаванку сваю кардынальскую мантыю, каб каралева не сутыкнулася з брудам маставой.

Грабніца Крысціны-Аляксандры змешчана ў саборы Святога Пятра: vixit Christina Deo annos 63 — (Крысціна, што памерла ва ўзросце 63 гадоў). Тут знайшлі вечны супакой астанкі каралевы, верніцы, што ведала 7 моў,

штудыявала класікаў, валодала лепшай бібліятэкай свайго часу. Studia Divina — вывучэнне Боскага — было асноўным яе заняткам. Хаця яна любіла гарэзліва пацвельвацца: «Баўлю час тым, што смачна ем і добра сплю, вяду прыемныя размовы і ўвогуле жыву так, як мне падабаецца». Век барока... Што ў яе словах — праўда, а што — не? Праўда — яе адрачэнне ад прастола дзеля веры... Мы ведаем, колькі людзей і якімі спосабамі дамагаліся кароны... А яе словы... Век барока... Век складаны. Велікапышны... Век не толькі каралевы Крысціны, але і вялікіх дойлідаў: Берніні, Бараміні, Гварыні. Век з'яўлення мройлівага цуда фантанаў Рыма. (Дарэчы, вадазборы Рыма дагэтуль бяруць ваду з 12 водаправодаў Старажытнага Рыма. А самыя вядомыя з акведукаў: Аква Паола, Аква Марыя, Аква Фелічэ, Аква Вірга.)

Празрыста-блакітная «архітэктура» водаў фантана Трэві, насцярожаны спакой скульптурнай групы. Нейкае дзівоснае спалучэнне, няўлоўную яго красу не перадаюць ні фотаздымкі, ні нават кіно. Тут бы засяродзіцца на якую гадзіну... Але ж якія гадзіны!

Мы едзем на віа Апіа, знакаміты — хаця што ў Рыме не знакамітае? — Апіевы шлях. Пасля ўладарна-цяжкай антыкі Рыма, магутнага ўплыву кватрачэнта і чынквечэнта, пышнасці барока, Апіевы шлях здзіўляе нейкай хатняй утульнасцю сваіх маштабаў (як і Тыбр), негарадскім выглядам віл, што патанаюць у зеляніне. Тут цяпер раскашуе сённяшні патрыцыят і набіліят — фінансавыя каралі, зоркі кіно і сцэны. Цішыня такая, нібыта яе пазычылі з мінулых стагоддзяў. Быццам і няма побач аграмаднага сучаснага Рыма, яго мітусні, шуму, затораў на вуліцах. Яго турыстаў.

...На пляцы Іспаніі славутай лесвіцы амаль што не відно: сядзяць, стаяць, ляжаць — нейкае сяйво з людзей. І якім часам здымалі фільм пра дзяўчат з гэтай плошчы? Там лесвіца заўсёды была амаль што пустая. Ці часы — іншыя?

Сама плошча маленечкая. У Еўропе, здаецца, увогуле, за выключэннем антычнага Рыма, няма аграмадных

плошчаў, якія так здатныя майстраваць у нас. На савецкай — у сваю пару — і постсавецкай прасторы. Ад плошчы разбягаюцца вулачкі. Здаўна тут, паводле сведчання яшчэ П. В. Аненкава, любілі жыць іншаземцы. Тут была кватэра М. В. Гогаля, на віа дэль Крочэ. Непадалёк, на віа Кандоці, улюбёная кавярня пісьменніка. Анфілада невялічкіх пакояў, з люстрамі і канапкамі, а напрыканцы — цёмная, змрочная зала. У ёй — партрэт Гогаля, цытата ягоная, аблямаваная рамкай: факсіміле.

Ці ёсць у Рыме сляды нашага Мікалая Гусоўскага? Нават зірнуць на эпітафію ягонага сябра і мецэната Эразма Вітэліуса не ўдалося: мы не былі ў бажніцы Святой Марыі дэль Попала. Не пабачым, не паспеем, не прадугледжана праграмай. Нібыта прысуд. Асабліва калі ўлічыць, што жылі мы ўсё ж у Остыі.

Хаця нашы чычэроне як маглі спрыялі нам.

Іх было дзве.

Адна, Ніна Аляксандраўна, сустрэла нас у закутках Астанкінскага гасцёўнага комплексу. Калі мы прыехалі ў Італію, яна набыла нейкі асаблівы шарм. Флюіды Рыма? Яна пачала апранацца ярка, з фантазіяй, і высветлілася, што ў ёй нешта ёсць ад жанчыны з Брулоўскага «Італьянскага полудня». Хіба што з таго «полудня» мінулася гадоў дзесяць... У ёй, без асаблівай эклектыкі, адчуваўся водар розных часоў: спраўны рытм нашага часу, крыху загадкавасці часоў Адраджэння і нешта ад вакханкі Старажытнага Рыма.

Другая — Анна-Ліза — без перабольшання магла быць жывой мадэллю для партрэта мадонны. Любога хрысціянскага веку. Гэтаму ўражанню не пярэчылі ні модныя, да шчыкалатак, нагавіцы, ні фацэтная блуза. Гід фірмы «Планетарыё», яна добра валодала рускай мовай. Засяроджана-клапатліва пералічвала нас кожным разам, як мы заходзілі ў аўтобус.

«Анна-Ліза, Анна-Ліза, Анна-Ліза...» Да яе звярталіся з прычыны і без дай прычыны. Прыгажосць прыцягальная... І маладосць...

## ЧЫВІТА-ВЕК'Ё ЗАСТАЕЦЦА ЗБОКУ

Калі мы штодня ехалі з Остыі ў Рым, дык сустракалі ваблівую стрэлку: Чывіта-Век'ё. Італьянская фабрыка кінасноў і кінамараў. Але мы заўсёды паварочвалі ў другі бок. У нас іншая праграма. Рытуал полудняў і вячэраў займаў тут не апошняе месца. У Фларэнцыі, Рэджа-Эміліі і Мілане мы палуднавалі ў рэстаранах гатэляў, у Рыме — у розных лакандах і траторыях. Наведвалі мы, зразумела, рэстараны не самага высокага класа. Прыблізна паводле Купрынам — той лічыў, што ў кожным горадзе трэба наведаць царкву, схадзіць на кірмаш і ў не самы шыкоўны рэстаран («средней руки»).

Рэстаран «Да Беніта» ў раёне Трастэвэрэ, сярэднявечным раёне Рыма. Зала з каменнай столлю, пабеленымі сценамі. Пад столлю, недзе на адлегласці паўметра, драўляныя бэлькі, ці то з дубу, ці то з грабу. На іх хатнія кветкі. Аграмадны, на ўсю сцяну, буфет, паводле моды пачатку XX стагоддзя — у ім посуд, віно ў бутэльках і ў плеценых бутлях. Памяшканне нечым нагадвае малдаўскую каса-марэ.

У адной з рымскіх траторый — канапкі, люстры з контуравымі, пуантылісцкімі малюнкамі: бутэлькі к'янці, парк, палац. У рэстаране гатэля «Сан-Марка», дзе мы жылі ў Рэджа-Эміліі, на люстраной паверхні гольчастым контурам вымаляваны кіназоркі, каля майго месца быў люстраны Ален Дэлон.

Усюды — цішыня. Не выюць магнітафоны, не надрываюцца стэрэасістэмы (усё гэта ў Італіі надзвычай таннае, да ўзору: магнітафон «Sony» — 30 000 ліраў, 30 рублёў паводле курса 1987 года: 1 даляр — 60 капеек). Рэстаран — для адпачынку, для спакойнай гаворкі, для сустрэчы. Урэшце — дзеля таго, каб паесці ў спрыяльных умовах. Так растлумачылі, дарэчы, усё той жа нястрымнай аматарцы вакалу. Для танцаў ёсць дансінгі, клубы.

Харчавалі ўсюды смачна. І паўсюдна ў Італіі ў рэстаранах, вялікіх і малых, каля ўвахода — горы дымчастых сліваў, аграмадных персікаў колеру сонца, яблыкаў,

пра якія гавораць: наліўныя, ігруш, з якіх гатовы пырснуць сок, рудаватых бананаў, вінаграду, нават на выгляд спакусліва-салодкага. Нехта нясмела спытаў у Анны-Лізы, ці нельга замест шчодрай вячэры атрымаць некалькі гэтых пладоў, на выгляд — ці не з райскага саду. Анна-Ліза ўскінула рукі ў шырачэзных рукавах, нешта ўсклікнула па-італьянску, некуды пабегла... І з таго вечара на нашых сталах шыкоўныя вазы. На той момант з пладамі, якія сярэдні жыхар Беларусі, Расіі, Прыбалтыкі, мякка кажучы, не так часта бачыў на сваім стале. Персікі, апельсіны, бананы.

Увогуле на наш харч штодзённа выдаткоўвалася 50 000–60 000 ліраў (25–30 рублёў усё па тым жа курсе 1987 года). Грунтоўна. І не кожнаму патрэбна. Аднак змяніць нічога нельга. Так вызначана.

(Тады нават уявіць сабе было немагчыма, што неўзабаве нашы былыя суайчыннікі будуць здзіўляць ужо не дазволенай нішчымніцай — «совеціко морале», а неверагодным нарабаваным багаццем і роўнай яму безгустоўшчынай.)

Мы з цікавасцю прыслухоўваліся, прыглядаліся, каштавалі мясцовыя наедкі. Тартэліні — мясцовы гатунак пельменяў, пасатэлі — смажаніну з цяляціны, фаршыраванай артышокамі... Дарэчы, на італьянскай мове назвы самых звычайных страў гучаць, нібыта імёны оперных герояў. Рызота — рысавая каша, палента — кукурузная каша, ну, і знаёмая ў нас — кава «капучына» (пышная пена сапраўды нагадвае капюшон манаха-капуцына).

На што нельга было не зважаць, дык на тое, што і ў Італіі, і ў Францыі захаваўся свой стыль у рэстаранах, гатэлях, кавярнях. Своеасаблівы тэатр, са сваімі акторамі. Між іншым, у Францыі ў невялікіх мястэчках, вёсачках можа не быць нават крамы (яна паблізу), але кавярня ёсць заўсёды.

Дык а ў рэстаране «Да Беніта» (тым самым, дзе зала падобная да каса-марэ) ля ўвахода таямніча зіхцеў праз жардзіньеркі ліхтар, афіцыянт быў рэспектабельны не як сэрвіторэ, а ледзь не як англійскі лорд. Гэткі ўніфікаваны

міжнародны стыль. Затое ў «Эмбэсі-хаўс» у Фларэнцыі, у гатэлі, насуперак англізаванай назве, тайстры насіла вясёлая хударлявая італьянка, у фартушку: выкапаная гаспадыня хаты, нібыта толькі што адышла ад печы. І зала рэстарана таксама была па-хатняму ўтульная, ці больш справядліва, дзве залы — невялічкія круглыя сталы з бэзавымі абрусамі да падлогі, утульныя крэслы, са спінкамі да самай падлогі. Афіцыянтка з «Эмбэсі-хаўс» заўсёды нешта гаварыла — гучна, працягла, добразычліва. «Пэр фаворэ, пэр фаворэ, пэр фаворэ» — «Калі ласка, калі ласка, калі ласка».

А я згадвала эксцэнтрычную і вытанчаную француженку з Бардо. Тая нібыта дырыжыравала, энергічна робячы рукой прыгожыя, пластычныя жэсты: «Жю, ва, о» — «Аранжад, віно, вада». І вальсавала некуды ў глыбіню залы, каб зноў пераможна ўляцець, нешта прыбраць. І зноў пайсці каскадным крокам. «Уі?» — «Так?» Рабэр (імя француженкі) адчувала сябе галоўнай асобай гэтага спектакля — дзейства, феерыі... «Мерсі!» — яна не проста дзякавала, яна запрашала прыняць удзел у сцэнічным дзеянні. Дзе яна выпраменьвала мяккую гарэзію, какетавала, вяла сваю партыю з тайстрамі. Царавала. Зала рэстарана была вялікая і не вельмі ўтульная, падобная на нашы тых гадоў — ці то вагон-рэстаран, ці то вялікая стайня. Але Рабэр валодала ўмельствам падпарадкоўваць сабе прастору. Гэта была яе тэрыторыя, яе манеж, яе сцэна. Рабэр! Ваш выхад!

У Андаі прыносілі мноства страў — халодныя і гарачыя закусі, розныя вышукі баскскага кухарскага майстэрства (Андай — горад на поўдні Францыі, у краі баскаў, яго некалі вельмі любіў Хемінгуэй: танныя гатэлі, выдатныя кухары).

Іх умельству аддавалі належнае і мы. Марнавалі на тую салодкую атруту, здаралася, і гадзіны са тры, хаця, падобна, сапраўдных гурмэ — знаўцаў гастранамічных вышукаў, сярод нас не было, затое ў гурманаў — аматараў пад'есці — ператвараліся нават заклятыя аскеты і прыхільнікі розных дыет. А напрыканцы гасцьбы з'яўляўся кухар. Ён ведаў: галоўны персанаж тут ён,

і толькі ён. Загадзя ведаючы адказ, кухар хітравата пытаўся, ці спадабаліся ягоныя стравы.

А калі мы апошнім разам вячэралі ў рэстаране гатэля «Гарньe» ў Парыжы, нам прынеслі торт з бенгальскімі агеньчыкамі... Увогуле французы, нягледзячы на ўсе рэвалюцыі, не згубілі адчуванння не проста прыгожага і дыстынктоўнага, але і таго, што завецца смакам жыцця — мабыць, гэта мае пэўную назву на французскай мове, але я ці то не ведаю яе, ці то не ідзе на памяць.

Я не знаўца він, але згадваю, на сустрэчы з героямі макі, удзельнікамі французскага Супраціўлення, у Баёне (таксама паўднёва-заходняя Францыя, атабарыліся мы ў гатэлі ў Андаі, а адтуль выязджалі ва ўсе пазначаныя нам пункты маршруту), дык вось у Баёне прыём а ля фуршэт добра здзівіў вока нашых суайчыннікаў: бутэлькі, бутэлечкі, карафкі, фужэры, келіхі — вельмі прыгожыя, выштукаваныя, не тое каб твор мастацтва, але, безумоўна, аздоба — стала, бара, буфета. Тут былі ўсе знакамітыя напоі заходняга поўдня Францыі. Віны Бардо: Савэтэр, Монсэгур, Таргон, Крэон; Вэр, Кот ле Бур, Блай; Сатэрн, моцны арманьяк «пус-рапэр». І, і, і...

Тут, у Баёне, я магла зноў уведаць трывіяльную ісціну пра тое, што свет не такі ўжо вялікі. І які штукар — пан Выпадак. Тут я сустрэла дзяўчыну — мала што з Беларусі, мала што з Мінска, а з той вуліцы, на якой я жыла.

Распавяла мне рамантычную, а калі ведаць, адкуль яна, то і незвычайную гісторыю. Яна рабіла экскурсаводкай у адным з музеяў Мінска. Сярод наведвальнікаў адноечы трапіўся Жан-П'ер. І — усё адбывалася па шчаслівым варыянце рамантычнага сцэнарыя. Ён прыехаў яшчэ і яшчэ. І ўрэшце яны пабраліся шлюбам. Лена разам з мужам з'ехала ў Францыю. Калі ўлічыць, што нашы стасункі з замежжам у тыя часы не вельмі заахвочваліся, нават такія светлыя, учынак быў незвычайны. Леначка набыла французскі шарм і, здавалася, знайшла сваё асабістае шчасце.

Але... Я мела магчымасць зноў уведаць, што свет не такі ўжо вялікі, а шчасце — «самая дарагая і няпэўная

рэч у свеце». Ад адной маёй знаёмай, што мелася адпачываць улетку на адной дачы з дзецьмі той Лены з Баёны, я даведалася, што рамантычны шлюб пратрымаўся не так ужо і доўга, а дзяўчына з маёй вуліцы пераехала з Баёны ў Парыж і выйшла там другі раз замуж.

Вяртаючыся ж да далёкай Баёны і краю баскаў — тут ва ўсім адчувалася культура традыцыі, традыцыя культуры. Як ва ўсёй Францыі. Кожны падворак — не проста дагледжаны. Не толькі чысціня, а і хараство. Як і ў крамах. І ў крамах кошт — зусім не для крэзаў. Усё разлічана на звычайныя кішэні. І ў Бардо, і ў Баёне, і ў Андаі, і ў Парыжы... І ў Рыме, Рэджа-Эміліі, Фларэнцыі, Мілане...

Увогуле ў нас і да падзей кастрычніка 17-га года, а пасля іх — то найбольш, пра густ да нармалёвага жыцця вялі гаворку не інакш, як іранічна, пра звычкі нямецкіх бюргераў і французскіх буржуа выключна паблажліва і звысоку. Не кажучы пра ацэнку гістарычных падзей — тут размова была звычайна такая, нібыта прамоўцы валодаюць ісцінай у апошняй інстанцыі. З просталінейнасацыялагічным ухілам.

Цяпер «рэгістр адносін» іншы, ці, больш правільна, ракурс бачання, але танальнасць, на жаль, тая ж. Калі раней лічылі — вось крымінальны лёс вызначыў нарадзіцца і жыць да 17-га, значыць, амаль усе — царскія сатрапы, усё было пагана, усе вінаватыя, калі не маюць індульгенцыі — рабоча-сялянскага паходжання (ды і тут — з кім меў стасункі, што чытаў, якія думкі меў?), інакш, маўляў, на сметнік гісторыі. Мы свой, мы новы свет збудуем. Збудавалі. Агледзеліся. Ні Бога, ні цара, ні героя. Разбурым. Разбурылі. Адшукаем усіх, у каго хаця кропля блакітнай крыві, узновім лепшае з таго, што было да Кастрычніка... Уздымем. Увойдзем. Наперад, у новую светлую будучыню...

Калі на гэтую будучыню зірнуць сёння, так бы мовіць, з рэалій 2006 года. Рэчаіснасць пераўзышла чаканні... Толькі, падобна, усё ў рэжыме наадварот. Расія ператварылася ў алігархічную дзяржаву, дзе, мусіць, як і абяцаў галоўны «приватизатор», шасці працэнтам належыць усё

багацце краіны, дзікі капіталізм, мільёны беспрытульных дзяцей, большасць насельніцтва — у нішчымніцы. Сярэдняя Азія ці не вярнулася паводле сацыяльнага і дзяржаўнага статусу да сярэднявечча. У нас — абвясцілі кірмашовы сацыялізм. І, мабыць, ад вялікага набытку зранку каля сметніцаў — людзі, падбіраюць рэшты ад выкінутага аблашчанымі гандлёвым «сацыялізмам». (І ва ўсіх постсавецкіх краінах тыя, хто валодае капіталам, у асноўным — былыя крымінальнікі, зладзеі, былыя партакраты, досыць часта ўсе гэтыя паняцці тоесныя.)

У той часавы момант, калі ствараўся гэты матэрыял (1992), і ў блізкія гады (да і пасля), віравала духоўнае жыццё, вярталася духоўная спадчына, выдавалі кнігі забароненых і непажаданых раней аўтараў, а цяпер ці не ўсё культуровае і мастацкае жыццё паглынула камерцыйная плынь, а з ёю — пошласць, адсутнасць этычных норм і арыенціраў, ухвала агрэсіі і звярыных інстынктаў.

У момант напісання эсэ, паводле дэкларацый дзяржаўных кіруючых асобаў, павінны быў наступіць ледзь не ўсеагульны мір на планеце Зямля, а сённяшняя рэчаіснасць сведчыць зусім пра іншае: лакальныя войны, тэрарызм у шырокіх маштабах, бунты і закалоты ў самых, здавалася б, спакойных і ўладкаваных краінах Еўропы. Ну, а ў нас, у роднай краіне Беларусь, постфактум і дэфакта, да ўсяго дадалося ў самым горшым варыянце занядбанне карэннай, сваёй мовы... І не толькі...

Ну, а вяртаючыся ў Італію... Там было living рознае... На адной з сустрэч адзін з яе актыўных арганізатараў Рудольфа Курці, што некалі вучыўся ў Маскве і ведаў Саюз не паводле кніг, давёў: вы хочаце жыць, як мы. Дарэчы, кіраўнік групы падчас гаворкі адразу апынуўся побач, некага адпіхнуў, некага адсунуў: камандзёр, як яго называла наша Анна-Ліза, сімпатычна кантамінуючы словы камандзір і камандор. Але сіньёр Курці адразу перапыніў нашага начальніка: «Я хачу гаварыць з гэтымі жанчынамі, а не з вамі». Мы былі ўдзвюх з журналісткай з Эстоніі.

Камандзёр пайшоў шукаць суцяшэння неўнармаванымі дозамі напояў Эміліі-Раманы. (1987 год — разгар антыалкагольнай гарбачоўскай кампаніі.) Не стрымаюся, каб не згадаць, як падчас наведвання фірмы «Рыніта» (вытворчасць він) гэты ахоўнік палітычнай надзейнасці пагаспадарску прыхапіў з сабой падарунак, зроблены ўсёй групе: цэлую скрыню трохсотграмовых бутэлечак лёгкага віна з рознымі напаўняльнікамі з садавіны.

Зноў нагадаю: асабіста для мяне паперадзе ўсяго — Дзяржава Божая, Civitas Dei. Што датычыць астатняга — усё адносна. А справядлівасць, законы Божыя — вечныя.

Менавіта паводле гэтых законаў цікавіла мяне вандроўка. І яе пуцявіны.

**AREA DEL SOL**

Дарога Сонца — Area del Sol. Галоўная магістраль Італіі. Дзяржаўная аўтастрада, але платная. Аплата — у залежнасці ад працягласці маршруту і цыліндроўкі машын.

Мы ехалі з Рыма па Паўночнай Італіі. Менавіта гэтая Італія займае сваё месца сярод сямі самых развітых краін свету. Менавіта тут — Фларэнцыя, Венецыя, Верона, Перуджа, Сіена, Парма, Балоння, Мілан...

Паўночная і Паўднёвая Італія — гістарычна, эканамічна, сацыяльна — па сутнасці, дзве розныя краіны. Самі італьянцы гавораць: на Рыме заканчваецца Італія, пачынаецца Поўдзень. Сам Рым — у вобласці Лацыё. Поўнач: вядомыя нам Умбрыя, Таскана, Лігурыя, П'емонт, Эмілія-Раманья, Ламбардыя. Усё, што мы ведаем пра Італію па кнігах, па гісторыі, датычыць у асноўным Поўначы. Поўдзень — Кампанья, Базіліката, Апулія, Сіцылія, Сардзінія. Гэта тое, што старэйшыя пакаленні ведаюць па фільмах неарэалістаў.

Італьянцы з Поўначы гавораць: «Мілан працуе, Рым спажывае, Неапаль спявае, Сіцылія спіць». Жыхары Поўначы гавораць пра землякоў з Поўдня: гароні — гэта тыя, хто корпаецца ў зямлі. Тыя ж, што жывуць

на Поўдзень ад Рыма, таксама ўмеюць сплаціць доўг. Палента — памятаеце, гэта кукурузная каша — такую мянушку яны прыдумалі суседзям.

Мы ехалі ў напрамку да Мілана. Спачатку — у Фларэнцыю. І Поўдзень са ўсімі сваімі праблемамі, пра якія, дарэчы, у сваю пару распавёў мастацкую размову Лукіна Вісконці ў фільме «Рока і яго браты», дык вось Поўдзень застаецца там, у нас за спіной.

А мы нібыта глядзім прыгожы відавы фільм. Італійскія пагоркі... Хараство. І «другая прырода» — паводле Гегеля. Арв'ета — горад на скале. Спраўджанае майстэрства дойлідаў Сярэднявечча выкарыстоўваць ландшафт у сваіх задумах. Ці то пабудовы — працяг скалы, ці то наадварот. Хаця — Арв'ета пабудаваны на месцы старажытнага селішча этрускаў.

А ўвогуле ў Італіі шмат паселішчаў, дзе засталася структура гарадоў Старажытнага Рыма: квадраты вуліц, і пераважна лагчына.

Уздоўж аўтастрады — гарады. Згадваеш з удзячнасцю Арэа дэль Соль, едучы па Нямеччыне, дзе аўтабаны — бездакорная дарога і дзве высачэзныя глухія сцяны з двух бакоў. Шэрыя, цьмяныя. Едзеш, як у тунэлі. Затое, мабыць, зручна жыхарам гарадоў побач з аўтабанам.

І — не ведаю, як італьянцам, але нам Дарога Сонца падабалася. Назвы — нібыта пазыўныя вякоў. Гарады, пра якія ў нас традыцыйныя ўяўленні. Крэмона — горад, які ўславіў сябе скрыпкамі вялікага майстра Страдывары. Перуджа... Нашы гіды тут адразу арыентавалі нас на сучаснасць: лепшыя цукерачныя вырабы, універсітэт замежных студэнтаў. У тым годзе, калі мы праязджалі каля яго — самы багаты горад Італіі па колькасці даходаў на душу насельніцтва.

Санта-Крочэ — тут займаюцца вырабам камп'ютараў. Мадэна — вядомая тым, што тут школа карабінераў (афіцэрская школа). Карабінеры — італьянская жандармерыя. Частка карабінераў нясе службу на аўтамабілях, частка — конна. У гэтым жа горадзе — заводы фірмы «Ферары».

Ніна Аляксандраўна і Анна-Ліза адказваюць на нашы пытанні. Часам не адразу, але абавязкова.

...Анна-Ліза, нязмушана дэманструючы нам свой класічны профіль і не менш класічны фас, распавядае, што ў Італіі існуюць тры віды жылля. Хату або кватэру можна купіць, можна арандаваць, ёсць і муніцыпальная ўласнасць. Кошт арэнды ў невялікіх гарадах разоў у пяць меншы, як у Мілане або Рыме. Рост кошту арэнды абмежаваны ўладай, таму ўладальнікам жылля часам не выгадна працягваць кантракты, і яны аддаюць перавагу куплі-продажу, але часцяком бывае так, што ў дакументах фігуруюць адны лічбы, а кошт будынка зусім іншы.

Маладым сем'ям падабаюцца кааператывы. Першы ўзнос — ад двух да чатырох сярэдніх заробкаў. Растэрміноўка — 10–20 гадоў. Пра чэргі ніхто не чуў. Ёсць грошы — калі ласка, набывайце жытло.

Землякі Рамэа і Джульеты не спяшаюцца браць шлюб. Звычайна гэта адбываецца, калі ім спаўняецца 26–27 гадоў. Падзею прынята адзначаць урачыста. Прыгадваецца зноў-такі кінематаграфічная паралель. Фільм «Дні кахання» — з Марчэла Мастраяні і Марынай Уладзі. Трагікамічныя перыпетыі іх герояў — усё з-за таго, што няма за што набыць вясельнае ўбранне для нявесты, няма за што банкетаваць. Сукенка для нявесты і сапраўды каштуе не менш як 1 000 000 ліраў (500 рублёў паводле курса 1987 года). Вясельная вячэра або абед у рэстаране — не менш як 50 000 ліраў на чалавека. Вянчаюцца ў бажніцы, потым рэгіструюцца ў муніцыпалітэце.

Нявеста звычайна прыязджае да святыні са сваім бацькам, жаніх чакае яе са сваёй маці. Букет нявесты пасля вянчання кідаюць у натоўп, дзяўчына, якая паспее яго ўхапіць, неўзабаве, паводле павер'я, павінна выйсці замуж. А гальштук маладзёна шматкуюць на дробныя кавалачкі: на шчасце.

Пасля вяселля прынята выпраўляцца ў падарожжа. Паводле італьянскіх законаў даецца 15 дзён з захаваннем заробку, і паехаць можна на працягу месяца пасля рэгістрацыі.

Як і ў большасці краін, калі згадаць народныя звычаі, маладзён павінны мець жытло, нявеста — пасаг. Праўда, як і паўсюдна, цяпер дамаўляюцца так, як зручна абодвум. Але на выпадак разводу — а развод у Італіі ўчынак няпросты, калі гэта шлюб царкоўны, патрэбны дазвол самога Святога Айца — Папы, – дык вось на выпадак разводу закон Італіі абараняе інтарэс жанчыны. Былы муж павінны плаціць ёй аліменты, незалежна ад таго, ёсць у іх дзеці ці не.

Калі ў жанчыны, што працуе, з'яўляецца дзіця, ёй даюць аплочваемы адпачынак: 3 месяцы да нараджэння дзіцяці і 3 пасля. Пасля 4-месячнага ўзросту нованароджанага рабочае месца маці захоўваецца, але аплочваецца толькі 30 % заробку.

Ёсць у Італіі яслі і садкі. Муніцыпальныя, каталіцкія і прыватныя. Тое ж самае — школы. Абавязковая адукацыя — 8-гадовая. Да 3-га класа навучанне бясплатнае. Пасля 8-га класа працуюць або паступаюць у ліцэй: ёсць ліцэі класічныя, гуманітарныя і так званыя навуковыя, дзе выкладаюць прыродазнаўчыя і фізіка-матэматычныя дысцыпліны.

Тыя, хто працягвае адукацыю ва ўніверсітэце, паступаюць туды пасля ліцэя без экзаменаў, але ёсць гадавы ўзнос — прыблізна трэцяя частка сярэдняга заробку. Гэта заваёва 60-х гадоў, якая дала сябе адчуць, аднак, нерэгулюемым працэсам падрыхтоўкі кадраў: няма куды падзець юрыстаў і медыкаў. Ва ўніверсітэтах ёсць і завочнае аддзяленне, але ў дыпломе гэта адзначаецца, і да завочнікаў ставяцца больш падазрона, калі прымаюць на працу.

...Школа мастацтваў — Порта Рамана. Тут робяць копіі знакамітых карцін і скульптур. І чамусьці менавіта каля яе — не вельмі зразумелая сучасная кампазіцыя: жанчына нясе жанчыну.

Гэта ўжо Фларэнцыя. Фірэнцэ (Firence) — так гучыць назва па-італьянску.

Наш невялікі гатэль у самым цэнтры. Памянёны ўжо «Эмбэсі-хаўс». Тут больш сімпатычны, як у Остыі, ну-

мар — там быў доўгі, пусты, і недзе ў куточку хаваліся два ложкі. Тут — утульны стандарт. Два ложкі, столікі з люстрамі, ванная, крэмавыя шторы, крэмавыя пакрывалы. Уначы ў нумары чуцён скрогат — прыбіраюць Фларэнцыю. Потым, у Рэджа-Эміліі, будзе зацішны і амаль такі ж нумар. І ў кожным гатэлі мы наноў вырашалі «рэбус»: як «запусціць» душ, кожны раз новае прыстасаванне.

Увогуле ў Італіі ўвесь час быў прыдатны стандарт гатэляў. І як мне падалося, чатырохзоркавы гатэль «Аджып» у Мілане адзіна чым адрозніваўся, дык гэта халадзільнікам з напоямі, натуральна, для нас недаступнымі (згадаем — 31 рубель абмену). І тэлевізарам, які не было часу глядзець. Былі яшчэ аднаразовыя хатнія пантофлі і процьма рушнікоў. А так усё — стандарт.

Магутнай фірме «Аджып» («Agip») на тую пару належалі матэлі каля аўтастрад, крамы, комплексы санпаслуг. У матэлі можна было прыпыніцца, а можна і проста пакарыстацца яго паслугамі: прыняць душ, прывесці сябе да належнага стану і г. д. Усё гэта за грошы. Незадоўга да Фларэнцыі мы прыпыніліся каля аднаго з такіх комплексаў, адчулі карыснасць і зручнасць яго.

І вось — Фларэнцыя. Перш-наперш доўгая вячэра. Яшчэ адна лукулава гасцьба. Яно і цікава — спіцыката (тушанае, дробна сечанае мяса з грыбамі), салата з садавіны (ананасы, дыня, гарбуз), піцца... Але не дае спакою думка: раблезіянствуем другую гадзіну, а за вокнамі — Фларэнцыя, дзесяць хвілін хады — і Санта-Марыя дэль Ф'ёрэ. Нейкая дзіўная традыцыя. Ці гэта дадатковыя тэсты на палітычную надзейнасць і ідэалагічную вытрыманасць, ці то псіхоз калектывізму, ці яшчэ нешта. Ну, каб гэта вечар дзе-небудзь каля рэчкі Шчары ці Іслачы: схацеў — і прыехаў. А то ж на беразе Арно...

Высветлілася — такія думкі не ў мяне адной. І мы — некалькі чалавек — ідзём на сустрэчу з Санта-Марыя дэль Ф'ёрэ.

**«У ЛЁГКІМ ЧАЎНАКУ МАСТАЦТВА...»**

А Санта-Марыя дэль Ф'ёрэ надзвычай прыгожая ўвечары. Сабор падсвечваецца электрычным святлом, вельмі густоўна, здаецца, ружаваты мармур свеціцца сам, выключна Боскай воляй. Санта-Марыя дэль Ф'ёрэ... Я ведаю пераклад з італьянскай: Святая Марыя з кветкай, але ў перакладзе назвы губляецца магічнае сугучча галосных і лабіядэнтальных, губляецца хараство гучання, фанетычная гармонія... Як і ў перакладах П'яцца ды Навона — плошча ды Навона, палацца Век'ё — Стары палац, понта Век'ё — Стары мост...

Каля галоўнага храма Фларэнцыі згадваем Рым. Антычны, сярэднявечны, сучасны. А я пaглядаю на юнакоў, што вольна атабарыліся непадалёк ад святыні — як і ў Рыме: каля фантанаў П'яцца ды Навона, фантана Трэві, на лесвіцы плошчы Іспаніі... Калі трэба ехаць у Італію? У Рым, у Фларэнцыю, у Венецыю? У сямнаццаць — як гэтыя хлопцы з гітарамі? Як Блок — у дваццаць дзевяць, ужо набыўшы сваю долю скепсісу і расчараванасці, але не згубіўшы і рамантычную дзейснасць свядомасці? Як Гётэ — у трыццаць сем кінуўшы службу (пасаду першага міністра) і на два гады вызначыўшы статус вольнага мастака? Можа, прыязджаць трэба, калі сямнаццаць даўно міне і цяжар уласных гадоў адчувальны амаль так, як цяжар стагоддзяў?

Мабыць, трэба прыязджаць сюды неаднойчы? І быць тут доўга... Адчуваючы водар старажытнай зямлі, які моцны — па-рознаму — паўсюдна і які не назаляе. Што ў садзе, дзе ўсё выдае цветам у сваю пару, а квецень тая помніцца і ў голую стынь. Відаць, гэта невыпадкова — так часта паўторанае: дэль Ф'ёрэ?

Можа, таму, вяртаючыся з галерэі Уфіцы ў Фларэнцыі, я раблю зусім вар'яцкі крок з пункту погляду нашага бессярэбраніка-турыста: спрабую купіць кветкі. Мабыць, гэта ўздзеянне знакамітага к'яра скуры — спалучэння цёмнага і светлага. Таго самага к'яра скуры, што ёсць на карцінах Батычэлі і якое не пазначаецца нават на самых

лепшых рэпрадукцыях. «Прымавэра» — постаці жанчын, ад якіх, здаецца, зыходзіць нейкая флюарэсцэнцыя, на фоне аб'ёміста-цёмнага, таямнічага саду. Здаецца, фізічна адчуваеш яго глыбіню, нейкую ваблівую і вусцішную прастору Сандро, як называлі яго сучаснікі. Таго адзінага, каго ў сваім манускрыпце Леанарда да Вінчы згадаў асабіста: «Наш Батычэлі». Хацяя — калі ўглядаешся ў карціну, не згадваеш ні да Вінчы, ні тое, што была жывая мадэль гэтай жанчыны з кветкамі на карціне Батычэлі — Сіманета Катанеа. Ні пра тое, што ў яе быў муж — Марка Веспучы і амант — Юліян Медзічы. Рытм абрысаў і ліній і гэтага зваблівага святла падпарадкоўвае сабе, прыцягвае. Палоніць.

У галерэі Уфіцы можна было заставацца сам-насам з творамі вялікіх. Залы маюць нумарацыю, гатэль — пятнаццаць хвілін хады адсюль. І можна спакойна ўзірацца ў мадоннаў Рафаэля — цікава, ён так бачыў натуру, гэткай высакароднай і мяккай? Ці ў легкадумнай дачкі булачніка, звады і спакусніцы Фарнарыны, быў такі цнатлівы, хатні, пяшчотны выгляд?

Тыцыян і Кранах, хай мне даруюць знаўцы, нічога да майго ўяўлення іх не дадалі. Так, Тыцыян пачаўна-ўзвышана веляпышны, так, амаль манахромна скупы ў фарбах Кранах. І кваяціста-шчодры Рубенс, і таямніча-пранікілівы Караваджа... Хаця... Да Караваджа, як і да Батычэлі, цягне вярнуцца, угледзецца, адчуць... Дарэчы, нам пашанцавала — і «Прымавэра», і «Мадонна» незадоўга вярнуліся ў залы пасля рэстаўрацыі...

...Я выходжу на плошчу — гэта побач з палацца Век'ё, знакамітую вежу не відаць, бачная толькі неверагодна высокая сцяна колеру мёду (ці віна?). Тут многа народу, проста на плошчы стаяць столікі, і ідзе мой спакушальнік. Вазок поўны ружаў. Я важна дастаю тысячу ліраў (адзін рубель) і спрабую высветліць: «Чы по фарэ сконта?» («Колькі каштуе?») Але адказу на італьянскай не разумею, пачынаю тлумачыць на валяпюку, які можна лічыць англійскай, — ён не разумее. Пераходжу на прымітыўнае эсперанта жэстаў, але паспя-

ваю спахапіцца — напярэдадні наша Ніна Аляксандраўна тлумачыла: у італьянцаў свой код жэстаў, кожны жэст мае сваё значэнне. Паказваю гандляру сваю тысячу ліраў і разводжу рукамі. Ён смяецца, дае мне адну ружу — колеру мёду (ці віна?): «Рыкорда ды Фірэнцэ» — «На памяць пра Фларэнцыю». Я працягваю яму свае ліры: «Грацые». — «Грацые», — ён прымае позу ўладарнага сіньёра і вяртае мае ліры. Мусіць, недзе побач флюіды бескарыслівага Данатэла — ён пакідаў каля дзвярэй сваёй майстэрні гамалейку з грашмі: для сяброў і вучняў.

Быў у Фларэнцыі яшчэ адзін выпадак — цяпер ён здаецца смешным, на тую пару мне было не да смеху. Як і ўсе маламаёмасныя людзі ў Італіі, я зайшла ў UPIM — то самыя танныя ўнівермагі. Да гэтай пары памятаю наборы рондаляў, рондалек, місаў, місачак... На той момант для нас — раскоша, неяк знікла з продажу ўсё самае звычайнае і патрэбнае, а і падчас «рынкавага сацыялізму» тое, што неабходна, не знойдзеш. Там было ўсё, без чаго не абыдзешся ў побыце. Прыгожае, таннае, даступнае...

Я не аматарка «экскурсій» у крамы, трэба нешта набыць — ідзі, а так... чаго губляць час. Аднак тут было што паглядзець. І я глядзела.

Раптам заўважыла — нейкі маладзён сочыць за мной: універмаг пусты і гэта не можа не кінуцца ў вочы. Выпадкова зірнуўшы ў люстра, знаходжу пацвярджэнне таму, што я і так ведаю: узрост Джульеты ў мяне пэўна і надзейна мінуўся і цалкам неверагодна, каб гэты бландзін загарэўся на пяшчотнае пачуццё. Забыты знаёмы? Не выпадала — мяне там ніхто не ведаў. Выйшла з UPIMа, літаральна побач — кірмаш, проста на вуліцы. Развешаныя нейкія кофты, камізэлі, сукенкі, мне падалося, ці то зношаныя, ці то заляжалыя. На тую пару наша мінская «Алеся», Брэсцкая і Баранавіцкая фабрыкі рабілі больш цікавыя рэчы, не кажучы пра фабрыку мастацкіх вырабаў. Безумоўна, быў адзетак выкшталцоны і дарагі, але не тут, не ў гэтых прылаўках на вуліцы. Затое проста на ходніку — найпрыгажэйшыя

куфэркі, куфэрачкі, карабкі, хоўткі, бранзалеткі, камеі — знакамітыя фларэнтыйскія камеі. Лыжачкі з мельхіёру з патоўшчанымі напрыканцы тронкамі з выявамі слынных мясцін Фларэнцыі, у празрыстых футаралах. Усё таннае, даступнае нават мне. Я купіла камею, пару лыжачак, бранзалет. І — убачыла таго чалавека. Ён ва ўпор глядзеў на мяне. Што ён хоча? Зайшла ў будынак мясцовага харчовага рынку, сноўдалася каля зеляніны, садавіны, гародніны, каля паляндвіц і вяндліны, каля гораў розных прысмакаў. І гэты чалавек ішоў за мной. Пачалі свідраваць свядомасць словы папярэджанняў: магчымыя правакацыі, нечаканыя выпадкі... Цвярозы розум і логіка падказвалі: каму ты тут патрэбная? Я чамусьці кінулася да понта Век'ё, да яго знакамітых гандлярскіх галаў, замест таго каб бегчы напрасткі ў гатэль.

Пачала разглядваць аб'ёмісты залаты ланцужок (з надзіманага золата) — не лёгенькая прасцячка, складана-плецены, важкі ланцужок — ланцуг, падобны на тыя, што былі аздобай у фларэнтыйскіх нобіляў і венецыянскіх дожаў, якіх мы бачылі на старадаўніх партрэтах. Камеі на понта Век'ё — сапраўдныя творы мастацтва, хаця тыя, што прадаюць на ходніку, таксама вельмі прыгожыя. Разгледзела лёгкае, бліскучае, мройнае кальe. І... пачала адступаць. Да тых гандлёвых шэрагаў, на ходніку. Можа, ёсць хто з нашых? Днём раней тут мая суседка па пакоі хвацка гандлявала надзіманымі калмаценькімі жывёлінамі — цацкамі, а фотакарэспандэнт з Сярэдняй Азіі займаўся таямнічымі фінансавымі аперацыямі. Я, як чалавек законапаслухмяны і суцэльна бязладны ва ўсім, што датычыць камерцыі, не ўзяла з сабой нічога, хаця ўвогуле ведала, што ў Італіі да месца былі б рэчы з ільну (тады іх у нас было-было! і вельмі танных!), і «палех», і «хахлама». Але закон — гэта закон. І тыя самыя генетычныя і сацыяльныя карані — яны, мабыць, адчувальныя. Поўная адсутнасць прадпрымальніцкага таленту.

Затое я з задавальненнем спазнавала на справе, што такое dolce far niente (салодкае гультайства) і

сузіральнасць. Калі б не гэты суб’ект. Ён зноў узнікаў у полі зроку. Рабілася ніякавата. Я ўжо не проста ішла, а бегла подбегам, ляцела каля тых камізэлек, спадніц, караляў. Недзе зазнавала «смак» біжутэрыі: востранькія пацеркі хвасталі мяне па твары, недзе я скінула на асфальт доўгі стракаты шалік. Мне наўздагон нешта крычалі — мяркуючы па інтанацыях, не самае прыемнае. Але я бегла. Да самай віа Нацыянале, дзе была наша гасцёўня. Зірнула — якая яна вузенечкая, гэтая вулачка. Зараз запіхнуць у машыну... Аднак да гатэля літаральна некалькі крокаў. І чаму я так доўга сунуся па вуліцы? У «Эмбэсі-хаўс» у вестыбюлі — нікога. Ліфт. Хол паверха, у якім наш нумар. Нікога, акрамя парцье. Доўга разглядаю праспекты турысцкіх бюро Фларэнцыі і іншых фірмаў: ксераксы, камп’ютары (1987-ы!), машыны, інтэр’еры гатэляў. Час палуднаваць. Прыйшлі нашы. І я ўздыхнула з палёгкай.

Так і не ведаю, хто гэта быў. Ці то прыняў мяне за некага іншага, ці то зямляк, што пазнаў «сваіх», ці то вар’ят. І чаго так раптам збянтэжылася я. Сярод белага дня. У Фларэнцыі, вядомай як «месца, ахоўваемае Богам і ўлюбёнае багамі». Гэта ўвесь час паўтараў наш гід Лео Гірардоні. Анна-Ліза і Ніна Аляксандраўна з намі, аднак у Фларэнцыі дастачыўся яшчэ экскурсавод. Ён вёў нас у сад Бобалі, дзе любіў шпацыраваць Дастаеўскі. Як і большасць іншаземцаў той пары, ён усіх нас лічыў рускімі. І для яго гэта, можа, і даравальна, Але там, у Фларэнцыі, мне давялося пачуць зусім не ад чужаземца на той гістарычны момант: якія яшчэ беларусы, такой нацыі няма. Даказаць яму, як я зразумела, было складана. Хаця мяне падтрымалі эстонцы і малдаване. І калі ідуць бясконцыя інфармацыі расійскіх СМІ пра ўціск правоў рускіх у Прыбалтыцы, згадваю і тую спрэчку, і пафасныя сцвярджэнні тых жа СМІ пра вялікаросаў, вялікую Расію, вялікі народ, народ-месію... І робіцца ніякавата... Як і тады, калі адказныя дзяржаўныя асобы абвяшчаюць, што няма розніцы — рускія, беларусы... Чаго там — правінцыя Расіі...

Ну, а наш Лео Гірардоні... ён усё ведаў пра дзяржаву-горад Фларэнцыю. Бажніцы Una citta Firence: Сан-Ларэнца, Санта-Спірыта, Санта-Марыя Навэла, Санта-Крочэ, палацы Строцы, Медзічы-Рыкардзі, Ручалаі, Барджэла... Пагоркі Мікеланджэла, святыні Сан-Сальваторэ аль Монтэ, Сан-Мініята аль Монтэ...

Лео Гірардоні дае згоду — гэтага няма ў афіцыйнай праграме — паехаць на пагоркі Мікеланджэла, дзе тыя самыя святыні — Сан-Мініята і Сан-Сальваторэ і адкуль відаць уся Фларэнцыя. Фларэнцыя — ружова-бэзавая дахоўка, лёгкая, палётная вежа Палацца Век'ё (зблізу гэта магутны высачэзны гмах), востры шпіль Санта-Крочэ, ланцужкі мастоў над Арно. Усё гэта нібыта на фоне неабсяжнага блакіту неба. Дзякуючы Лео Гірардоні мы трапляем і ў Ф'езале, прадмесце Фларэнцыі. Уласна — Фларэнцыя пачыналася з Ф'езале. Але — так часта бывае ў жыцці — маёмасная і знакамітая Фларэнцыя паставілася паблажліва-высакамерна да сведкі свайго маленства. Хаця — і тым не менш — Ф'езале пазірае на Фларэнцыю са сваіх пагоркаў з годнасцю і адчуваннем сваіх пераваг: ведаючы, што менавіта ў Ф'езале цішыня, свежае паветра, выдатныя вілы. З нейкае пары якраз тут месцяцца тыя, хто можа набыць дарагое жытло: па-вясковаму зялёная трава, утульныя патыё, кветкі, кветкі, кветкі... Ф'езале... «Сон золотистый и старинный...» Вялікі паэт адчуў перавагі менш знакамітага, як горад, прадмесця... Леа Гірардоні, дарэчы, удзельнік Супраціўлення, і пра гэта ён мімаходзь, але важка згадвае, увесь час вельмі прафесійна чаргуе цікавыя факты з арыгінальнымі абагульненнямі і не абыдзе ўвагай якую мясцовую гістарычную плётку ці быль. Фларэнтыйскую! У тым ліку і папулярную легенду пра тое, як Напалеон, увайшоўшы ў горад, дзе ягоныя салдаты добра шышавалі, вырашыў папракнуць у нязмысных дзействах гаспадароў: «Італьянцы — усе грабежнікі!» А яму адпрэчылі: «Не, сір, толькі буона партэ» (гульня слоў — «добрая частка»). Фларэнтыйцы! Гонар і кеплівыя хітрыкі — тут яны майстры. І Лео Гірардоні — ветлівы, рэспектабельны

наш гід — хто ён? Нашчадак папаланаў — буржуа, або патрыцыяў — феадалаў? Хаця — у Фларэнцыі папаланы даўно ўжо зведалі смак улады. Яшчэ ў 1293 годзе тут была прынятая антыдваранская канстытуцыя «Устанаўленне справядлівасці», паводле якой феадалы страчвалі свае прывілеяваныя палітычныя правы. Гэта час, калі было прынятае і магдэбургскае права, да якога мы, беларусы, тады жыхары Вялікага Княства Літоўскага (гістарычна тымчасам часцей пазначаныя як русіны і ліцвіны), мелі самае непасрэднае дачыненне: ужо ў 1390 годзе прывілей на карыстанне магдэбургскім правам атрымаў Брэст, а да XVI стагоддзя амаль усе гарады і мястэчкі былі, як цяпер, мабыць, пазначылі б, паўнамоцнымі членамі эканамічнай супольнасці. А як у наш час?

Дарэчы, і тады ў Фларэнцыі, і пазней часта прыходзіла думка, што некаму падасца натуральнай, некаму — непамысным крыміналам. Вось мы прызвычаіліся ў сваю пару да адналінейнага ўспрымання выказвання Ф. Энгельса: «Межы ранейшага orbis terrarum былі разбітыя; толькі цяпер, па сутнасці, была адкрытая зямля і пакладзены асновы дзеля пазнейшага сусветнага гандлю». Ён меў, безумоўна, рацыю. Аднак ёсць тут і іншы ракурс. Вось як успрымаў той час аўтар знакамітай кнігі «Образы Италии» Муратаў: «Свет, у якім ён, фларэнтыец кватрачэнта (XV ст.), жыў, быў невялікі, і далягляд ягоны быў замкнёны лысымі Апенінамі Пістоі з аднаго боку і пакрыты вінаграднікамі пагоркаў К'янці з другога. Яшчэ не надышоў час для турботлівых і сябелюбівых душ, што лічаць Айчынай увесь свет, а па сутнасці ўсім чужых і ўсюды непатрэбных. Айчына — гэта Фларэнцыя, яна — новы Рым і новыя Афіны, яна — храм, майстэрня, месца, ахоўваемае Богам і ўлюбёнае багамі». «Лічаць сваёй Айчынай свет», «Мой адрес не дом и не улица, мой адрес — Советский Союз», «У Брытанскай імперыі ніколі не заходзіць сонца». Свет зведаў і вялікую, і малую цану гэтых паняццяў. Сапраўды, народы даведаліся, што там, за даляглядам, у эпоху так званых вялікіх адкрыццяў. Але зведалі і іншае: прыніжэнне залежнасці, таму што

гэта была эпоха не толькі адкрыццяў, але і заваёў. Калі карыстацца прынятай у раманскіх краінах тэрміналогіяй, эпоха Рэканкісты. Час людзей, «усяму чужых». Ці не таму Іспанская каланіяльная імперыя вярнулася да проста Іспаніі, і высакамерныя англічане ўжо не маглі дабраць гонару, і на месцы былой імперыі Габсбургаў узніклі суверэнныя дзяржавы...

Магчыма, таму ў Фларэнцыі так відавочныя знакі прысутнасці тых, для каго яна была не толькі часткай свету, але і светам, светам, які пакідалі і ў які вярталіся, свету, у якім Дантэ «пазнаваў знакі старажытнага полымя». Гэтыя знакі старажытнага полымя — яны прачытваюцца і ў нас. Тыя адзіныя, сакральныя — што ўваходзяць у сістэму знакаў і вымярэнняў, ведамых і іншым. Людзям чалавечай супольнасці, у іх раз'яднанасці і іх згодзе. Ці зможам мы ў гэтай супольнасці зноў сцвердзіць сябе як дзяржава, як роўныя з роўнымі? Ці зможам пазбавіцца ад фантомаў, комплексаў і варагавання? Ці пабудуем новыя і ці ўзновім старыя палацы? Прыгожыя, на хвалу Богу і хараству? Ці з'явяцца ў нас мецэнаты ўзроўню Медычы, Сапегаў і Радзівілаў?..

Пра гэта думалася ў Фларэнцыі. Колькі ўжо стагоддзяў па бруку ванцы горада заварожана ходзяць турысты, а будынкі трывалыя і дагледжаныя, колер палацца і бажніц застаецца спакойным, але не выцвілым, не бляклым — тэракотава-карычневым, высакародным: «плашч такога колеру быў бы да месца на плячах караля, што хавае свой лёс пад апранахай спадарожніка» (Бернсан). Высакапышна? Мусіць. Але Фларэнцыя настройвае на высокі лад. Тут з'яўляецца патрэба згадаць радкі Дантэ, зразумець, што меў на ўвазе Піко дэла Мірандола, калі разважаў пра тое, што ёсць годнасць, зразумець знаўцу класічнай латыні і аўтара трактата «Пра насалоду» Ларэнца Валлу.

**«ВЯКІ НАВЫЛЁТ...»**

Мы павінны былі ехаць у Балонню, мінаючы Парму, якая літаральна побач. У Балонню і яе прыгарад — на свята газеты «Уніта». Але гэты сканцэнтравана сацыялагічны напрамак мы скарэкціравалі. Трапіўшы і ў Балонню, і ў Парму, ну, і, вядома, на свята, пра якое ўжо згадвалася на старонках допіса.

І ў астральных інстанцыях відавочна спрыялі нам. Мы трапілі не проста ў la grassa (тлустую) і la dotta (вучоную) Балонню — яна заўсёды была вядомая сваім дабрабытам, практыцызмам, цвярозасцю, вучонасцю, але амаль што ў Балонню тых стагоддзяў, якія зрабілі яе знакамітай.

На плошчы каля бажніцы Святога Петронія — трывожны і выразна рытмічны гук. Бубны. І хлопцы, апранутыя ў адзетак сярэднявечных цэхаў. Яны падкідвалі высока два штандары і на меншую вышыню — астатнія. Рытуал? Гульня? Спаборніцтвы? Ні Анна-Ліза, ні наша Ніна Аляксандраўна не ведалі. І ў гэтым была свая акраса. Свой чар. Можна было даць волю фантазіі і дадумваць усё, што заўгодна. Лепш усё ж ведаць? Мабыць, мабыць... Што мы пэўна ведалі — у Балонні вельмі ганарацца тым, што сабор Святога Петронія большы за Санта-Марыя дэль Ф'ёрэ. Адценне суперніцтва прысутнічае не толькі ў гэтым.

Кожны ў Балонні ведае, што ў іх горадзе ёсць усё, чым знакамітая Італія, або амаль усё: свае пахіленыя вежы Торрэ Азінэллі і Торрэ Гарызенда, ёсць цэлы комплекс раманскіх бажніц — Сан-Стэфана, адпаведны пляц: пяці святыняў. Ёсць свой універсітэт. Ён, праўда, ніколі не быў такі знакаміты, як Падуанскі, але заснавальнікамі яго былі юрысты, людзі, якія ведалі цану рэчаў і з'яў. Між іншым, у XVIII стагоддзі, напрыклад, Балоння ўвогуле славілася сваім асяродкам і спосабам жыцця: прыгожымі жанчынамі, разумнымі размовамі, шчодрымі вячэрамі, канцэртамі знакамітых майстроў. Ва ўладаннях Святога Пасада яна лічылася другім горадам пасля Рыма, а мясцовы кардынал быў другой асобай пасля Папы.

З Балонняй так ці інакш былі сутычныя Рафаэль, Мікеланджэла, Карэджа, Гётэ, Стэндаль, Шэлі. Яна не мае таго рамантычнага мройлівага арэолу, як Фларэнцыя, няма тут манументальнай грунтоўнасці Рыма, але Балоння прыгожая цяжкаватай, устойлівай прыгажосцю — горад у лагчыне, вузкія прамыя вуліцы (планіроўка рымскага ваеннага лагера); будынкі з бясконцымі галерэямі (порцікамі) — тут, відаць, добра рабіць праходкі падчас дажджу. Усё надзейна, трывала, але не ўражвае аграмаднасцю і незвычайнасцю. Галоўны горад вобласці Эмілія-Раманья і правінцыі (раёна) Балоння. З 1943 года — адзін з цэнтраў італьянскага Супраціўлення.

А ў Парме, як і паўсюдна ў Паўночнай Італіі, усё дагледжана, уладкавана. Спакойна. У цэнтры горада можна толькі хадзіць пешшу або ездзіць на веласіпедах. Усё падобна на дэкарацыі са спектакляў паводле п’ес ці то Карла Гоцы, ці то П’етра Арэціна, ці то Джавані Ручалаі. Невераемнага хараства гаўбцы, адмысловыя ліхтары, франтоны — усё кідаецца на фотаплёнку. Але засяродзіцца на Рэнесансе, згадаць, параўнаць — гэтага мы сабе дазволіць не маглі. Подбегам — не інакш. Аднак мы паспелі пабачыць казачна прыгожы баптыстэрый (хрысцільню) з цёплага, ружовага мармуру, з венецыянскімі вокнамі, з галерэямі вакол усяго будынка. Брама ў рай, а не баптыстэрый. Бажніца — жаўтавата-халоднага тону, вельмі хораша глядзіцца побач з баптыстэрыем, але ўсё ж галоўнае ў ансамблі — хрысцільня і храм. Бажніца, дарэчы, толькі з адной вежай, на другую не хапіла грошай, у італьянскіх папаланаў і нобіляў бывалі нявыкруткі з грашмі, — знаёмыя абставіны.

А ўсяму свету вядомую пармскую цытадэль мы не пабачылі, яна на другім канцы горада, а нашы гіды саступалі нам да пэўных межаў.

Увогуле ж у нас пра Італію існуюць (ці да нядаўняга часу існавалі) выключна рамантызаваныя і залітаратураныя ўяўленні: Старажытны Рым, Высокае Адраджэнне, барока, Гарыбальдзі, «Маладая Італія»... Ну,

яшчэ абытоўленыя ўражанні паводле неарэалістаў, магнетызм экзістэнцыяльных празарэнняў Антаніёні, праўда і містыфікацыі «фільмаў-эпістал» Феліні, антрапамарфізм і высокі акадэмізм Вісконці... Складаныя псіхалагічныя высновы Васка Пратaліні, эксперыменты Таніна Гуэры... Гэткае карнавальна-святочнае бачанне: тэатр «Ла Скала», фестывалі ў Сан-Рэма, тэатр моды Ніны Рычы... Менш, і здаецца, не толькі я, мы ўяўляем будзённую Італію, Італію справы. Тую, што заняла апошнім часам устойлівае меца сярод сямі вядучых дзяржаў свету. (Хаця апошнім часам — сумесныя вытворчыя прадпрыемствы, гандлёвыя фірмы, экспарт, імпарт... Час змяняе многае, і змяняе істотна... Сёння вандроўка ў Італію, нягледзячы на чэргі-натоўпы ў італьянскай амбасадзе, зусім рэальная з'ява...)

## ЧЫ ПО ФАРЭ СКОНТА, АЛЬБО ШТО ЯКІ КОШТ МАЕ

А ў Італіі, краіне, пераможанай у Другой сусветнай вайне, было сваё эканамічнае дзіва. Як у ФРГ. Як у Японіі. Як сёння ў Кітаі.

Італія... Краіна, якая капітулявала. Краіна пераможаная. Але і краіна-пераможца: магутны рух Супраціўлення.

Прамысловая Поўнач. Адсталы Поўдзень. Высокая ступень манапалізацыі прамысловасці і архаічная аграрная вытворчасць. Пасля вайны — масавае беспрацоўе. Эміграцыя. (Праўда, скажам, на мяжы 50–60-х гадоў эміграцыя — гэта часовая праца паводле кантрактаў.)

Так званая мадэль эканамічнага росту мела на ўвазе тэхнічны прагрэс працазберагаючым шляхам і адначасова прадухіленне росту заробкаў. Прадукцыйнасць працы павялічвалася хутчэй за капіталаўзброенасць. На 9/10 павышэнне прадукцыйнасці працы было абумоўлена якасным павышэннем выкарыстання рэсурсаў працы і абсталявання і толькі на 1/10 — за кошт якаснага павелічэння тэхнічных сродкаў у разліку на аднаго занятага. Гэта дадзеныя вядомага італьянскага эксперта Руджэра Спеса.

Інтэнсіфікацыя працоўных працэсаў, выкарыстанне найноўшай тэхналогіі ажыццяўляліся ў першую чаргу за кошт набыцця патэнтаў і ліцэнзіяў за мяжой. (Менавіта тое, пра што мы шмат гаворым, але мала робім.)

Абмежаванасць унутранага рынку збыту пераадольвалася за кошт экспарту прамысловай прадукцыі. Мадэль развіцця абапіралася на танную сыравіну і паліва на сусветным рынку. (Гэта тымчасам у СССР гарэлі полымем вогнішчы з газу і білі фантаны з нафты — бяры, усім хопіць да скону веку. А і сённяшняя Расія, дзе столькі людзей гібеюць у нішчымніцы, аддала прыродныя рэсурсы ў рукі некалькіх людзей і плануе газа- і нафтаправоды, якімі збіраецца ашчасліваць ледзь не паўсвету...)

Аднак... Як і ў японскім цудзе, як у сённяшнім кітайскім, у італьянскім былі свае шчыліны. Аўтамабілі і мотаролеры з'явіліся шмат у каго раней за гарачую ваду і каналізацыю. Пра адукацыю і сацыяльнае забеспячэнне таксама асабліва не пякліся. Як і пра медыцынскае абслугоўванне. Да 1969 года 70 % насельніцтва было занята ў прамысловасці і ў сферы паслуг (згадаем, турызм у Італіі — гэта развітая гаспадарка, адзін з галоўных спосабаў прыбытку), 14 % — у сельскай гаспадарцы.

Увайшоўшы ў агульны рынак і ажыццявіўшы так званы план Пандольфі ў 1978 годзе (Пандольфі — на тую пару міністр фінансаў), Італія замацавала эканамічны цуд. Аднак адвечныя праблемы засталіся: адсталы Поўдзень, слабасць навукова-тэхнічнага грунту. Так, прынамсі, сцвярджалі італьянскія і замежныя спецыялісты. Цяпер, пасля ўзнікнення і пашырэння ЕЭС, узніклі свае праблемы. А тады — тое, што мы бачылі ў Паўночнай Італіі, сведчыла пра наяўнасць эканамічнага цуду. Пра крамы, лаканды і траторыі згадвалася, але гаспадары далі нам магчымасць даведацца тое-сёе пра вытворцаў. І мне здаецца, метады працы італьянскіх кааператываў цікавыя і сёння. Для нас у сённяшніх умовах — асабліва.

Сельскагаспадарчы кааператыў «Джыльё» (самая прэстыжная частка ў ім — выраб пармезанскага сыру), завод

сельскагаспадарчых машын фірмы «Фергюсон-Ландзіні» і вінаробчая кааператыўная фірма «Рыніта» — такія былі кірункі нашых пазнавальных маршрутаў.

На думку знаўцаў і сапраўдных гурмэ пармезанскі сыр — адзін з самых лепшых у свеце. Робяць яго толькі ў вобласці Эмілія-Раманья, у правінцыі Рэджа-Эмілія. Рэч у тым, што складнікі тутэйшай вады і яшчэ некаторыя мясцовыя кампаненты не маюць аналагаў у свеце. «Джыльё» — самы вялікі кааператыў па вытворчасці гэтага сыру. (Здаецца, і да сённяшняй пары.)

Сябрамі кааператыва «Джыльё» з'яўляюцца 110 сем'яў (звярніце ўвагу — сем'яў). Супольныя землі — 250 га: тут месцяцца і два жывёлагадоўчыя комплексы, па 450 кароў у кожным. Парода — сатанэйра, італьянская. Рацыён мясцовых карміцелек — сена, трава, канцэнтраты. Дарэчы, індывідуальны рацыён яшчэ тады (1987) вызначалі камп'ютары. У кожнай каровы — ашыйнік, індывідуальныя радыёпазыўныя, паводле якіх яны выходзілі на даенне. У ашыйніку ж знаходзіўся індыфікатар, па ім падаваліся дадзеныя на камп'ютар. Праграму набывалі ў шведскай фірмы «Альфа лаваль». Гэтая ж фірма забяспечвала і абсталяванне для комплексу.

Хімічныя дадаткі з рацыёну выключаныя, выключаныя і мінеральныя ўгнаенні на палях фірмы. Рэцэпт сыру «Пармезан-рэджана» цалкам выключае ўжыванне хіміі. «Пармезан-рэджана» вельмі далікатны сыр, малако для яго вытворчасці не вытрымлівае транспарціроўку больш як на 10 кіламетраў. Малако для гэтага сыру нельга перавозіць і ў цыстэрнах, таму вырабляюць сыр у асноўным у невялікіх сыраварнях. Марку фірмы, месяц стварэння сыру звычайна выпальваюць — і ніякія іншыя спосабы не ўжываюць, інакш сыр ужо не будзе адпавядаць прынятаму стандарту. (Тут можна згадаць чарнільныя знакі, немаведама калі і кім зробленыя на нашых сырах.) Падчас вытрымкі — на яловых дошках — сыр раз на тры тыдні пераварочваюць. Грузяць пазней выключна з дапамогай робатаў. (Тут я ўжываю

цяперашні час, таму што рэцэпт прыгатавання сыру няўхільна нязменны.)

Сыр экспартуюць ва ўсе краіны свету, дзе ёсць італьянскія рэстараны. «Джыльё» забяспечвала і мясцовы рынак: малаком, кефірам, ёгуртам, вяршкамі, маслам. Менавіта «Джыльё» вырабляла тыя масла, вяршкі і малако, што карысталіся попытам у кандытарскай прамысловасці Італіі. На той момант у нас не толькі вялі барацьбу з усімі напоямі, што мелі хоць які градус хмелю, і віно было, зразумела, найвялікшым дэфіцытам, але і з малаком і асабліва тварагом былі свае праблемы, то малако фірмы «Джыльё», якое можна было трымаць у пакеце 90 дзён, рабіла ўражанне на нас. Зноў жа ў тым далёкім 87-м, калі камп’ютары былі для нас ужо не дзівам, але і не сталі неад’емнай часткай жыцця, рабіла ўражанне і тое, што і тут, на ферме, усё кантралявалася камп’ютарам і перфастужка захоўвала даныя.

І ўжо тады фірма сельгасмашын «Фергюсон — Ландзіні» рабіла мінітрактары. І ўжо тады — быў рэальны ўзор разумнага гаспадарання. Недзе ў 1960 годзе дзве фірмы: «Фергюсон» і «Ландзіні» — апынуліся на мяжы банкруцтва. Злучэнне капіталаў, жорсткае ўлічванне кан’юнктуры рынку далі неблагія вынікі. 50 % створанага ішло на экспарт, у асноўным у Цэнтральную Афрыку і Паўднёвую Амерыку. На пытанне, як там ставяцца да тамтэйшых заводаў у Саюзе, у фірме адказалі: Мінск ім не канкурэнт, а пра Валгаградскі завод і зусім нічога не ведаюць.

80 % тых, хто рабіў на прадпрыемстве, былі забяспечаныя лічбавай сістэмай кіравання, уласна кажучы, ёю забяспечаныя ўсе цэхі, акрамя зборачнага. Давала свае вынікі і «размеркаванне роляў»: у зборачным цэху працавалі вопытныя рабочыя, а ў цэхах, дзе новыя тэхналагічныя працэсы, камп’ютарызацыя — маладыя.

І калі раней у фірме імкнуліся да падвышэння заробку ўсіх, дык з цягам часу сталі заахвочваць прафесійны ўзровень працоўных. Існавала 7 разрадаў для рабочых і службоўцаў і так званая перасоўная шкала заробку, якая

не залежала ад змен на рынку: паводле ўмоў кантракту, працоўнага і прафсаюзнага заканадаўства. Адміністрацыя працавала ў кантакце з прафсаюзамі, да прыкладу, у сталоўцы харчаванне каштавала 40 % рэальнага кошту. Была і свая крама, дзе рэчы больш танныя, як у звычайных магазінах. У фірмы існавалі свае дзіцячыя лагеры на моры і ў гарах. Дзеці ад 4 да 12 гадоў забяспечваліся пуцёўкамі, але аплата — 100 %, ні пра якія скідкі гаворкі не было.

Не ведаю, ці сёння мы наблізіліся да таго, каб быць канкурэнтамі такіх фірм, як «Фергюсон-Ландзіні». А вось кааператыву «Рыніта» мы наўрад ці калі-небудзь будзем канкурэнтамі — нават у самых спрыяльных умовах. Гэтая фірма «Рыніта», як ужо згадвалася, займалася вырабам вінаградных він. На тую пару тут перапрацоўвалася 2 000 000 цэнтнераў вінаграду ў год, 160 000 бутэлек. Гадавы абарот капіталу — 160 мільярдаў.

На прадпрыемстве было занята 400 чалавек. Змены — па 6 гадзін, але аплочваўся 40-гадзінны тыдзень. Члены кааператыву «Рыніта» былі па ўсёй Італіі. 4000 — у Рэджа-Эміліі.

У кааператыве працавала шмат жанчын. Для іх зручна мець 6-гадзінны рабочы дзень, для адміністрацыі выгадна, жанчыны на такой вытворчасці куды больш надзейныя за мужчын: няма спакусы (ці яна меншая) да дэгустацыі прадукцыі. Тут таксама дзейнічала сістэма аўтаматаў. Дарэчы, сістэму каркавання, прынятую на «Рыніце», выкарыстоўваюць і для амерыканскай кока-колы.

На «Рыніце» таксама абавязкова правяраюць, ці ёсць хімічныя кампаненты ў зыходнай сыравіне — вінаградзе. Праўда, умовы крыху больш мяккія, як у фірмы «Джыльё»: калі з аграрыем заключаны кантракт, вінаград прымаюць у любым выпадку, аднак калі выкарыстоўваліся хімікаты, аплата стане значна ніжэйшай.

Традыцыйныя віны «Рыніты»: ламбруска, з натуральнай, а не ўведзенай шыпучасцю, віно, якое вырабляюць

толькі ў Эміліі-Раманы; б'янка — белае віно «Рыніты»; мальвазія. 80 % выробленага ламбруска ішло на экспарт, асноўны экспарцёр — ЗША.

Усе гэтыя віны прадаюць і ў Італіі, зразумела. Нам у нашым гатэлі «Сан-Марка» ў Рэджа-Эміліі падавалі да абеду віно б'янка і ваду ў букатках — тую самую, з Апенінаў, з рымскіх старажытных акведукаў. У гатэль мы звычайна прыязджалі ледзь жывыя... Ва ўсе свае падарожжы — у Балонню, у Парму, на ўсе прадпрыемствы — мы выязджалі адсюль. І раніцай паспявалі пабачыць з акна гатэля ўтульныя жаўтаватакрэмавыя лоджыі будынка насупраць гатэля і — кветкі, кветкі, кветкі... А калі нам урэшце ўдалося пахадзіць па горадзе, дык пабачылі побач з гатэлем шматпавярховыя дамы з гаражамі, утульныя катэджы — каля аднаго з іх паспелі перакінуць масток прыязнасці праз плот прыгажуну-спаніэлю: ён так добра глядзеўся на лужку перад домам — ярка-карычневы на зялёнай траве, пешчана-добразычлівы.

А ў цэнтры горада было ўсё, што павінна быць у старым італьянскім горадзе. Палацца Сакраці, палацца дэль Капітана, палацца дэі Прынчыпе і іншыя палацца. Палацца з венецыянскімі вокнамі, з балконамі і зубчастымі дахамі — кожны зубец нібыта разламаны напалам: Рэджо-Эмілія падчас двухсотгадовага варагавання паміж гібелінамі (прыхільнікамі імператарскай улады) і гвельфамі (прыхільнікамі царкоўнай улады) была горадам гібелінаў, гэта ў іх былі такія знакі-сімвалы ў гарадах. (Крэмль у Маскве таксама будавалі прыхільнікі гібелінаў — прыгадайце зубцы яго вежаў і муроў.)

У Рэджа-Эміліі быў будынак гарадской управы, была плошча — П'яцца Тромбалі, дзе збіраліся мужчыны, каб абмеркаваць праблемы сусветнай і мясцовай палітыкі...

Быў у горадзе і оперны тэатр, які, дарэчы, на рахунку муніцыпалітэта. Гэта ў горадзе, дзе жыве толькі 130 000 жыхароў. Па сучасных маштабах урбанізацыі — зусім мала. Білеты на оперны спектакль каштавалі ў эквіваленце 30 рублёў на тую пару. У параўнанні з нашымі цэнамі ў тэатрах тых гадоў — неверагодна дора-

га, у параўнанні з Міланскім «Alla Skala» (менавіта так пазначана на афішах знакамітага тэатра, «Алла Скала», а не «Ла Скала», як прызвычаіліся гаварыць мы) гэта зусім даступная цана. Там, у Мілане, на тую пару, самы танны білет на шараговы спектакль — 80 000 ліраў. А на адкрыццё сезона (7 снежня) або на прэм'ерныя спектаклі білеты ў партэр роўныя сярэдняму месячнаму заробку — 800 000 ліраў. З таго часу шмат што змянілася, але білеты ў «Ла Скала» больш таннымі не сталі...

Але гэта ўжо Мілан.

**«ЗА ХАРАСТВОМ...»**

У гэтым горадзе перш-наперш мы былі ў знакамітым тэатры. Толькі ў будынку. Не на спектаклі. І ў музеі «Ла Скала».

Сцэна — і вельмі сімпатычныя лямпы з абажурамі над аркестровай ямай. Багемскі крышталь — у фае. Крышталь з Мурана — ў зале. Фае відавочна разлічана на вечаровыя строі дам, фракі, смокінгі, паважныя праменады. Белы карарскі мармур, матавае святло свяцільняў, высокія, ад падлогі да столі, люстры.

У музеі — бюсты вялікіх: Ліст, Глюк, Шуман, Моцарт, Бетховен, Мендэльсон, Расіні, Керубіні, Меербер, Бах, Гендэль, Гайдн. Але прыцягваюць увагу чамусьці не гэтыя парадныя скульптурныя партрэты...

...Злепкі рук... Тонкая, вытанчаная — рука Шапэна. Пухлаватая, цяжкая, працавітая — рука Вэрдзі... Маналог рук. Пра што распавядаюць яны? Пра смутак толькі што створанага вальса або накцюрна? Пра цяжкую працу маэстра, якому заўсёды спрыяў поспех? Пра лёс вялікага па-за сцэнай?

Пасля музея знакамітага тэатра мы настройваліся на пілігрымку — не інакш — да «Тайнай вячэры» Леанарда да Вінчы, але палац Сфорца быў зачынены: выхадны. Так што ні гэты роспіс, у сталавальні кастэла Сфарцэска, ні фрэскаў у зале дэллэ Ассэ па яго ж эскізах мы не пабачылі, паглядзелі толькі на вішнёва-цагляную забу-

дову Джаванні ды Мілана, Філарэтэ і Брамантэ. Замак-фартэцыя нагадвае Трокі. Насупраць яго — прапылены гарадскі сад, не тое каб засмечаны, але недагледжаны, ён нагадваў нашы раённыя, абласныя, сталічныя скверыкі, тыя самыя, дзе зусім незадоўга да таго часу абавязкова бранзавеў або выдаваў літой сталлю які-небудзь правадыр паслякастрычніцкіх часоў. Пацягнула на гэтыя параўнанні, можа, таму, што прыгадаўся Блок, яго з’едлівыя заўвагі: «Племя англійскіх турыстаў і турыстак вызначаецца відавочна парасячай пладавітасцю; «Тайная вячэра» Леанарда, напрыклад, ужо недаступная для гледача; пры ўваходзе ў сырую стайню, дзе змешчана карціна, натыкаешся перш-наперш на плот з пляскатых дошак: гэта — спіны англічанак, якія сядзяць на седалах, што куры на курасадні».

Якія словы прамовіў бы ён пра нас, гэты зрэдзьчасу бязлітасны геній? У кожным выпадку, мабыць, меў бы сумніў, ці здольныя мы «ўхапіць у часу хаця адно імгненне ні з чым не параўнанага захаплення».

Каюся — я добрасумленна глядзела на Міланскі сабор, але ні з чым не параўнанаму захапленню відавочна перашкаджалі будынкі, якія заціснулі з трох бакоў святыню. Відаць, будаўніцтва на працягу пяці стагоддзяў (пачаты ў 1386-м, скончаны на пачатку XIX стагоддзя) нават для готыкі, што стваралася звычайна доўга і грунтоўна, занадта вялікі тэрмін. Не, контрфорсы, аркбутаны, фіялы — ўсё бездакорна, але не хапае «паветра», прасторы, гістарычнага архітэктурнага і пейзажнага антуражу. Таго, што робіць ансамбль. А сама бажніца — грандыёзная, прыгожая. Велікомная...

І магчыма, гэта мой рассяроджана-развітальны погляд. З Мілана мы выпраўляліся дадому. І калі пісалася гэтае эсэ, многае ўяўлялася іншым... І на паперы з’яўляліся такія радкі...

Наперадзе — лета... І ў нас, і ў Італіі. І там будуць трымаць свой фантастычны маналог фантаны П’яцца ды Навона, весці глыбакадумныя размовы пахіленыя вежы Балонні і Пізы, перакідвацца рэплікамі масты і масткі

Венецыі; будуць трымаць сваю шматзначную паўзу палаца і бажніцы Фларэнцыі; шматгалосы, але не шумны харал Сіены, Пармы, Асізі засведчыць старую, але бессмяротную думку пра архітэктуру — застылую музыку. Арэа дэль Соль будзе ажыўленай і карнавальна-святочнай. І выправяцца куды-небудзь за акіян трактары фірмы «Фергюсон-Ландзіні», пармезанскія сыры і віно ламбруска. І нехта пройдзе ўпершыню абетаванай зямлёй Італіі. Наіўны і захоплены, або скептычна зацікаўлены. Як гэты лірычны герой:

> А я все тот же гость усталый
> Земли чужой.
> Бреду, как путник запоздалый,
> За красотой.

За хараством...

У звычайныя, неэпахальныя, пазагістарычныя імгненні. Дзе жыццё — «у вокамгненных драбніцах», дзе «гараць кветкі, запаленыя дажджом», дзе «ў бурштынoвым забыцці паўдзённых тых хвілін урачысты спеў вядуць фанфары Цьепала і флейты Джорджыёне».

*P. S.* Тады, у 1987 годзе, я і не спадзявалася, што траплю ў Італію зноў. А надарыўся такі падарунак лёсу. У 2000 годзе. Пілігрымка з нагоды беатыфікацыі 11 сёстраў-назарэтанак.

І была Венецыя. Сакавіцкая. Ветраная. Знакамітых гандолаў і гандальераў не было відаць. А хуткі параходзік — vaporetto — імчаў нас па лагуне да П'яцца Сан-Марка, да знаёмай да дробязяў па здымках і малюнках аднайменнай святыні. І была незабыўная імша ў санктуарыі бажніцы, а пазней — набажэнства ў Падуі.

І за вокнамі аўтобуса ўсё ружавела ад толькі што зацвіўшага міндаля, халодным блакітам пракідалася здалёк мора, выпрабоўвалі на дарожную трываласць серпантыны гор Італіі... І быў незабыўны горад Святога Францішка — Асізі...

І быў зноў Рым. Вечны горад. Апостальская сталіца. І тое, сакральнае, на плошчы Святога Пятра...

І зноў здавалася, нібыта перамаўляюцца яны паміж сабою — бажніцы Італіі. Спеўна і высока. Святыні Фларэнцыі і Пармы, Падуі і Анконы, Сіены і Равенны... А ўрэшце — як велікомны «Магніфікат». Святыня Сан-П’етро ў Рыме. Куды імкліва і натхнёна крочаць пілігрымы... Ad limini Apostolorum...

Да Апостальскіх парогаў...

# ІМПРАВІЗАЦЫЯ РАДКА
## *Дыялог з Галінай Шаблінскай*

**Галіна Шаблінская.** *Стварэнне, літаратурнае пісанне — і падсвядомасць. Як для сябе — імправізацыя радка...*

**Ала Сямёнава.** Чалавек існуе ў рэальнасці. У гэтай рэальнасці — прырода: найбольш дасканала выяўленая Задума. Створанае Першатворцам.

І ёсць створанае чалавекам. У адпаведнасці і зусім не ў адпаведнасці з той найвышэйшай Задумай.

*Сацыяльна-гістарычная і духоўная сітуацыя. Анархічная гульня рэчава-грашовых рэалій. Ідэалагічна-прапагандысцкая індустрыя, пад якімі б назовамі яна не выступала.*

Жывое жыццё — у яго сапраўднай канкрэтыцы, з яго фарбамі, пахамі, гукамі. Вызначаным і выпадковым.

Так ці інакш — усё гэта ўздзейнічае на свядомасць і падсвядомасць. І нешта — выбарачна, спарадычна — становіцца часткай духоўнага, інтэлектуальнага, эмацыянальнага вопыту, так ці інакш вымагае выяўленасці, асэнсавання, *прамоўленасці*. У сюжэтнай, фабульнай прозе — выразна прадуманай кампазіцыяй, характарамі, сітуацыйнай кампаноўкай.

У блізкай да эсэістыкі прозе — з выразнай схільнасцю да лірычна-філасофскага пісьма — тут не так каб бергсонаўска-джойсаўска-прустаўская плынь свядомасці, але *сплаў*, *магма* неўсвядомленых імпульсаў, рудыментарных і недаўгавекіх адчуванняў, вобразы, пачуцці, успаміны, схаваныя дробныя акты — усё гэта тоўпіцца на парозе свядомасці, і гэтая магма цвярдзее пад пяром (нават калі гэтае «пяро» — камп'ютар).

І жыццёва-гістарычныя відавочнасці спалучаюцца на пісьме з пакрыёмымі таямніцамі адзінкавага існавання, душэўнай сапраўднасці ў момант прасвятлення.

Падсвядомае, свядомаснае, лагічна вызначанае і імпрэсіяністычна адчутае спалучаюцца. Нешта шукае выйсця, вярэдзіць. Павінна быць выяўленым.

І ёсць тое, што Вы пазначаеце дамінантным: *імправізацыя радка*. Трэба не толькі *адчуць*, але і *пачуць* твор. Не толькі лейтматыў, кантрапункты, але і мелодыю, мелодыку, інтанацыі. Для мяне вельмі важна — пачатак. Першы радок. Як хвалі прыбою. Памятаеце, у Валошына: «Звучат пустынные *гекзаметры* волны».

Першы абзац апавядання «І даруй нам грахі нашы...» вызначыўся вельмі даўно. «Яно не паказвалася цэлых два месяцы. Нібыта перасялілася дзённае свяціла ў іншую галактыку. Дажджы — суцэльная заслона з вады: ці то тропікі, ці то пярэдадзень сусветнага патопу». Урэшце — чаканае сонца, цяпло — і трагічная вестка. І пачатак аповесці-эсэ «Святло загадкі» высвятліўся-пазначыўся неяк неаспрэчна: «Раней гэта быў горад рыцараў і герояў».

Хаця... Барыс Пастарнак сцвярджаў: «Ні ў якой сапраўднай кнігі няма першай старонкі. Як лясны шум, яна ўзнікае Бог ведае дзе, і расце, каціцца, абуджае запаветныя гушчары, і раптам у самае цёмнае, ашаламляльнае і панічнае імгненне прамаўляе ўсімі вяршынямі адразу...»

**Г. Ш.** *Кожны пісьменнік асвойвае эстэтычную і жыццёвую прастору. На якой мяжы ўзнікае мастацкі твор?*

**А. С.** Свядомасць сучаснага чалавека, які атрымаў пэўны мінімум ведаў і зацікаўленасць культурай — ва ўсіх яе праявах, — немагчымая без узаемаспляцення жыццёвага і эстэтычнага вопыту, культуровай традыцыі. *Існуе знакавая сістэма культуры, на розных узроўнях.* Нам знаёмая загадкавая ўсмешка Моны Лізы не менш, чым выраз твару суседкі. У кожнага з нас ёсць сваё ўяўленне пра Гамлета і рыцара з Ламанчы. «Яўген Анегін» Пушкіна ўваходзіць у школьныя праграмы. А там ёсць і гэта: «Латынь из моды вышла ныне: так, если правду вам сказать, он знал довольно по латыни, чтоб эпиграфы разбирать, потолковать об Ювенале, в конце письма поставить vale, да помнил, хоть не без греха, из “Энеиды” два стиха». Крыху далей: «Бранил Гомера, Феокрита, зато читал Адама Смита...» г. д. У нашага Максіма Багдановіча: «Прыгожы сад, які любіў Вато». І гэта: «Ажыў у ім твой вечны цэль, мадонн тварыцель, Рафаэль!» А Стральцоў, Караткевіч, Разанаў... Проза Джэймса Джойса, Томаса Мана, Жан-Поля Сартра, Германа Гесэ, Мілана Кундэры... Паэзія і эсэістыка Чэслава Мілаша...

Мяжу, на якой узнікае мастацкі твор, мне, прынамсі, вызначыць цяжка. Пэўна магу пазначыць, што мне асабіста заўсёды здаваліся досыць штучнымі абвінавачванні ў кніжнасці... Тысячагоддзі культуры — яны над намі, у нас... Без іх цяжка ўявіць сённяшнюю свядомасць.

Безумоўна, ёсць і ледзь не першаіснасныя, першародныя ўражанні. Мы глядзім на ўсход сонца або захад яго — дзе-небудзь у прыгожым месцы — напрыклад, пагоркі, возера ці рака — лукавіна — або сажалка, кустоўе, дрэвы. І нам гэта здаецца прыгожым, як у першы дзень стварэння свету. Памятаю пейзажы пары майго дзяцінства ў Наваградку — пра тое многа ў «Святле загадкі». Краявіды Балтыі — мора, паркі — з вышыні балкона дзявятага паверха, у полі зроку пешага хадака — апавяданне «Я кварту восені вып’ю...»

Ёсць літаратары, якія пішуць, так бы мовіць, з чыстага ліста. Аднак — там таксама, пакрыёма, ёсць спадчыннасць ад пэўных традыцый, пэўных тэндэнцый...

У кожным з нас — свядома і падсвядома — жывуць Моцарт і Бах, Шапэн і Вівальдзі, Шнітке і Свірыдаў... Як і светабачанне, зрокавае і эстэтычнае ўспрыманне — Леанарда да Вінчы і Сандра Батычэлі, Караваджа і Рафаэля, Вато і Каро, Клода Манэ і Альфрэда Сіслея... Бялыніцкага-Бірулі і Жукоўскага...

«Весь груз тоски многоэтажный, *сгинь в очиститель-ных* веках...» Ачышчальныя стагоддзі, катарсіс эстэтычна-гістарычнага ўплыву...

Але ў кнізе ёсць і *эстэтычная прастора*, так бы мовіць, канкрэтная, рэальная. *Прырода — і другая прырода, паводле Гегеля*, тое, што створана чалавекам: святыні, палацы, масты, помнікі, звычаёвая забудова, відарысы горада і ваколіц, пейзажы, архітэктурныя жыллёвыя ансамблі паводле канонаў некалі сярэднявечных гарадоў: радыяльная сістэма — плошча і ад яе вулкі. Пейзажы, дрэвы, сады, кветкі. Усходы, захады сонца. Зіма, вясна, лета, восень. Паркі вялікага горада... П’яцца ды Навона ў вечным горадзе, фантан Трэві, плошча Іспаніі... Усё ў фарбах, колерах, пахах. Палацца Век’ё і Понтэ Век’ё — у Фларэнцыі, «залацісты сон» Ф’езале, мройлівы Манмартр — у Парыжы, гіпноз высокага хараства Нотр Дам і Сент-Шапель... Et cetera. І гэтак далей. Усё гэта існуе аб’ектыўна, рэальна. І ва ўспрыняцці герояў. Гэта «*тэрыторыя духу*» — паводле Пастарнака. І персанажы кнігі існуюць у гэтай рэальнасці і пэўным чынам — гэтай рэальнасцю. Гэта пункцір высокіх імгненняў душы, імгненняў існавання, якімі жывіцца асоба ў будзённасці. «*Тэрыторыя духу*» і *ахоўная зона*. Тое самае хараство і вышыня, якія, пэўна, не выратуюць свет, але даюць сілы існаванню, азаніруюць паветра быцця. Судакрананне ўнутранага свету і знешняга. Дарэчы, калі чалавек абядняе свой унутраны свет, ён абясцэньвае і знешні свет, бо гэты чар надае свету і ўяўленне чалавека. Яго ўспрыманне свету. Яго вонкавы і ўнутраны зрок. Чалавек выходзіць на вуліцу. І нехта заўважае: кепскае надвор’е, слізка, ветрана. А другі на той жа жыццёвай прасторы пачуе шчэбет вераб’ёў. Дык вось: другі пачуе вераб’ёў, па-

бачыць, якія прыгожыя бярозы любою парой года — якія карункі на фоне неба, а вось выйшаў на шпацыр шчанюк з гаспадаром — прыгожы, пушысценькі, гуллівы... І ні з чаго — на душы хораша. Божы свет поўны чараў...

Удалося ці не — хацелася перадаць вось гэтую духоўную атмасферу, нябачны стрыжань жыцця...

**Г. Ш.** *Самы геніяльны твор — лёс. Лёс у жыцці творцы.*

**А. С.** «Перад геніем лёсу...» — «Пред гением судьбы» (Блок). Назва адной з маіх кніг...

Лёс — падзейны, сітуацыйны, лёс — як вызначанасць жыццёвага шляху. І лёс духоўны... Сервантэс, Франсуа Віён, Джордж Гордан Байран, Джэк Лондан, Антуан дэ Сент-Экзюперы, Эрнэст Хемінгуэй... Жыццё — як вострасюжэтны раман. Драма жыцця Пушкіна, Лермантава, Аляксандра Блока, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага...

І знешні абрыс жыццёвага шляху Флабэра, Эмілі Дзікінсан, Марсэля Пруста... Дзе ўсё — у духоўным, у свядомасці, у творчасці... «Падарожніца на прасторах вечнасці», — так будуць гаварыць пра Эмілі Дзікінсан.

Лёс — вызначанае звыш і патрактаванае ўласнымі высілкамі ці, наадварот, бяздзейнасцю ці нават разбэрсанасцю.

*Sic Fata Tulere*. Так было заўгодна лёсу. З той старажытнай высокай латыні. Аднак... Вышэйшы Провід пазначае шлях, дае здольнасці, талент. Адзінкам — тое найвышэйшае, што вызнаецца як геній. Геній — гэта ўжо ўсё ад Бога. І шчасце, і страты, і гора.

Аднак... Ёсць тое, што здаецца выпадковасцю, а вызначана Лёсам. Няма аніякай заслугі чалавека. Толькі Божы Провід. Ёсць моманты ў «Святле загадкі», дзе аўтар цалкам перадае фактаграфічнае, рэальнае. Месца і дом, дзе жыве гераіня. Насупраць вежаў замка і касцёла — Белай фары. Падарунак лёсу. Знаёмства з законніцай — сястрой-назарэтанкай Малгажатай Банась і пані Магдаленай Жукоўскай, якая дапамагала ва ўсіх

касцельных, духоўных справах сястры Малгажаце. А законніца была адзінаю з сёстраў-назарэтанак, якая засталася жывою: была ў шпіталі, калі адзінаццаць яе сёстраў у Хрысце арыштавалі фашысты і расстралялі. Тыя прынеслі сябе ў ахвяру дзеля ратунку мясцовых жыхароў. А і сястра Малгажата — *лёс!* — засталася, мабыць, невыпадкова жывою: яна ўратавала касцёл, жывучы там не адзін год у закрыстыі. У 2000 годзе ў Рыме адбыўся акт беатыфікацыі 11 сясцёр з найсвяцейшай Сям'і з Назарэта. Распачаты працэс беатыфікацыі сястры Малгажаты. Але хто тое мог ведаць ці здагадвацца на пару майго дзяцінства і юнацтва! І тут шчасце Выпадку — з вялікай літары! *Лёс!* Высокі яго *Дар*!

**Г. Ш.** *У аснове — чалавек. Прататып. Як спалучаецца рэальнае і дамысленае?*

**А. С.** Прататыпы, безумоўна, заўсёды ёсць. Аднак толькі ў «Святле загадкі» героі найбольш факталагічна аўтэнтычныя, нават пададзеныя пад сваімі ўласнымі імёнамі. Ужо згаданыя сястра Малгажана і пані Магда. І, напрыклад, настаўнікі. Найперш — найярчэйшая асоба, вельмі неадназначная і нестандартная, Ніна Рыгораўна Лівенцава (светлая ёй памяць). І — хай яго жыццё будзе доўгім і цікавым — Аляксандр Якаўлевіч Лівенцаў, да якога на сустрэчы дагэтуль злятаюцца выпускнікі розных гадоў, нават тыя, хто атрымаў атэстат 50 гадоў назад. Удумлівы матэматык, чалавек строгай лагічнай думкі, багата ўталентаваны мастак — займаецца жывапісам, спявак — мае выдатны, класічнага складу голас...

Але! Аповесць — гэта ўсё ж не мемуары. Найперш таму, што галоўная гераіня паводле шматлікіх варункаў не атаясамліваецца з аўтарам — ну, скажам, аўтар — не мастацтвазнаўца. І з іншымі персанажамі — другараднымі — досыць дамысленага.

А ўжо што датычыць астатніх літаратурных версій — апавяданняў ці нечага блізкага да іх, — зразумела, тут і кантамінацыі, і аберацыі, «выдумкі галавы». Аднак рэ-

альныя постаці, асобы, што далі штуршок фантазіі, — ёсць. Нават пэўныя рэплікі, выразы, слоўцы... Пачутыя...

Аднак... Зноў згадаю — атаясамліваць канкрэтных людзей з пэўнымі персанажамі, на падставе гэтага рабіць нейкія высновы — справа рызыкоўная. Ды і вобраз заўсёды большы за чалавека. *Мадэль існуе дзеля таго, каб мысліць з яе дапамогай.*

**Г. Ш.** *Суаднесенасць мастацкага ідэалу з рэчаіснасцю. Завершанасць формы і недамоўленасць думкі.*

**А. С.** Ну, мабыць, пару слоў, не паглыбляючыся ні ў праблему, ні ў гісторыю пытання. Класічнае, паводле Канта: мастацкі ідэал — адзінства этычнага і эстэтычнага. Потым Фіхтэ настойваў на прыярытэце маральнага, а Шылер — эстэтычнага. А Шапенгаўэр абсалютызаваў Шылеравы высновы. І г. д. Умоўна — усё ж ідэал — суадноснасць маральнага і эстэтычнага.

Тут — рэпліка ўбок. Датычна да пытання. Часопіс «Дзеяслоў» змясціў анатацыі-характарыстыкі на кнігі 2006 года. Мне там проста пашанцавала. Адзін невялікі абзац — але якое тонкае разуменне сутнасці кнігі! Ёсць тое, з чым я не згодна, але гэта выяўлена з вялікім тактам. Там ёсць такое: «І мы — якімі хочам стаць». Ну, у кнізе хапае амбівалентных герояў. Ёсць і зусім фарсава-скетчавы, «О’кэй!», і нам невядома, адкуль самаадстараненне героя апавядання «Тэрцыны траўня» — ці толькі іншыя вінаватыя? А магчыма, і ён сам... Не проста так вынесена ў назву твора — «І даруй нам грахі нашы...» Безумоўна, у параўнанні з сённяшняй, і не толькі сённяшняй, жорсткай, натуралістычнай, багатай на самарасправанне — у пераносным і прамым сэнсе — прозай і тым, што паказваюць па тэлебачанні, на дысках DVD, — кніга халаднавата-адстароненая, засяроджаная больш на рухах духоўных, з відавочным імкненнем да харaства, да дасканаласці — дык тут маюць рацыю...

А рэчаіснасць у чыстым выглядзе — тое «выдае» рэдка, аднак бываюць такія нечаканасці! Яны знаходзяць адбітак і ў творах.

Наконт зместу і формы. Трэба імкнуцца да *моцнай субстанцыі*, да больш дасканалай і яснай формы. Форму пажадана вытрымліваць у зададзеных эстэтычных каардынатах. Асабіста мне чужыя падрабязныя апісанні, расяроджанасць задумы... Ці ўдаецца вытрымаць пэўную вышыню формы — меркаваць не мне.

А думка павінна, як мне здаецца, даць магчымасць чытачу размысліць. «Шматкроп’і». У польскага пісьменніка Ежы Стэфана Ставінскага ёсць такое (не даслоўна, па памяці) з рамана «У пагоні за Адамам»: мінулае не любіць успамінаў. І аддае перавагу шматкроп’ям перад усімі кропкамі над «і». Не толькі мінулае... Недамоўленасць пазначае шматзначнасць, шматварыянтнасць. Вызначае таямніцу. Але ж адгадаць загадкі быцця немагчыма. І калі жыццё захоўвае і ахоўвае свае таямніцы — ёсць духоўная перспектыва.

А ўвогуле пра гэта найлепш прамоўлена ў Казіміра Сваяка: «Напаіўшы адвечнай тугой ідэалу...» Адвечная яна, туга па ідэале... Недасягальным, але тым, што вабіць, прыцягвае неадменна, вечна... У мяне так называлася, дарэчы, адно эсэ, змешчанае ў кнізе «Таямніцы пакутны колер».

**Г. Ш.** *Самасць, самадастатковасць аўтара — генетычная канстанта ці набытае праз гады?*

**А. С.** Мабыць, і тое, і другое. Ну, скажам, адчуваць сябе аднолькава духоўна камфортна ў розных сацыяльных статусах умее не кожны. І мне здаецца, гэта найперш *генетычнае* і выхаванае *не сацыяльна*, а вызначанае *пракрэацыйна*. Ёсць, паводле тэрміналогіі псіхолагаў, *нарматыўны канон чалавека*. І ёсць *імпліцытная тэорыя асобы*. Хто ён ёсць і кім ён можа быць, кім ён можа здавацца.

Чалавек можа мець сумніў. На што ён здатны. І наадварот — куды б яго абставіны ні занеслі, ён лічыць, што адпавядае той ролі, якая — чакана ці нечакана — дасталася яму. Нехта пакутуе ад адзіноты, а нехта не адчувае яе ці лічыць: як хораша можна папрацаваць. Нехта

заўважае кожную рэпліку ў свой бок, другі не звяртае ўвагі: «Хвалу и клевету приемли равнодушно». Праўда, тут, мне здаецца, гарт набываецца і з гадамі. З момантам самааналізу, уменне пабачыць і вызначыць для сябе сапраўднасць і аб'ектыўнасць ацэнак.

Калі весці гаворку пра літаратуру, тут узнікае яшчэ, акрамя маральнага, вось той самы эстэтычны момант. На мае кнігі «Святло загадкі» і «Таямніцы пакутны колер» былі водгукі, кожны з якіх сам па сабе, самадастатковы быў творам. У Алены Васілевіч (яна нават прэмію года ў «Полымі» за рэцэнзію атрымала), Янкі Саламевіча, Уладзіміра Арлова, Міхася Скоблы, Веранікі Стральцовай... Верш Ніны Мацяш — для мяне гэта асобая з'ява. Увогуле — калі ты адчуваеш, што цябе разумеюць, што ты не ў пустэльні, — гэта асобая атмасфера быцця... Лісты Ніны Мацяш, Алеся Каско, Аляксея Канстанцінавіча Каўкі, Юрыя Іванавіча Сураўцава, Івана Мікалаевіча Афанасьева... Званкі Алеся Разанава, Алеся Яскевіча. Удзел у творчым жыцці часопіса «Наша вера»... Творчае кантактаванне з часопісам «Тэрмапілы» ў Беластоку, дзе рэй вядуць паэты і літаратуразнаўцы Ян Чыквін і Галіна Тварановіч.

А да таго — «Крыніца», якую ўзначальваў Уладзімір Някляеў, «Нёман», на чале якога былі Анатоль Кудравец, а пазней Алесь Жук...

Усё гэта — аўра быцця... Але самота, адстараненне — неабходныя. Хаця яны ніколі не бываюць суцэльныя. Эстэтычная насычанасць духоўнай прасторы застаецца ў самых складаных жыццёвых сітуацыях. Пісьменнік Мікуліч згадвае, як на адным з этапаў, у адну з самых змрочных хвілін нехта з вязняў пачаў чытаць Блока: «Строен твой стан, как церковные свечи». І ён падтрымаў таго чалавека: «Взор твой — мечами пронзающий взор. Дева, не жду ослепительной встречи. Дай, как монаху, взойти на костер!»

**Г. Ш.** *Светлае і скрушнае ў душы мастака ў момант пісання.*

**А. С.** «Над вымыслом слезами обольюсь». Вядомае.

Але тут светлае, яснае. Калі я чытаю некаторых аўтараў, часам з чыста клінічнымі падрабязнасцямі або блізкіх да якога акта запісу крымінальнай справы, без асаблівых псіхалагічных паваротаў, у галаве думка: якія зайздросныя нервы ў чалавека. Глянеш на аўтара (ці аўтарку): спакойны, задаволены жыццём, у сваёй немалой фізічнай вазе... Або сённяшняе мастацтва — скажам, інсталяцыі — магчыма, гэта *спосаб выяўлення свядомасці*, *спосаб выяўлення асобы*, аднак — ці гэта *выяўленчае* мастацтва?

Ёсць тэмы, якія абысці немагчыма, — гэта быційныя каноны. Жыццё і смерць... Пакуты... Здрада... І шматвяковае вар'яцтва — войны... Забойствы... Рэзрух... Раней было мастацтва. Цяпер — шоу-бізнес.

Аднак вяртаючыся да пытання — светлае і скрушнае ў душы мастака падчас пісання. У кожнага, мабыць, паразнаму. Я, прынамсі, заўсёды адчуваю пэўнае «над» і «ад» — адстароненасць. І магчымасць выйсця... Вось тое самае шматкроп'е... Нават калі размова ідзе аб жыцці і смерці, як у апавяданні «In Te, Domine, speravi» («На Цябе, Пане, спадзяюся»). Вось гэтае спадзяванне і адчуванне — неадменнага — Быцця і Іншабыцця — дае тое спадзяванне. І светлату. Нягледзячы ні на што. Ды і *словы вызваляюць душу*...

**Г. Ш.** *Вызначэнне творчага лёсу і вяртанне мастака ў гады маленства.*

**А. С.** Існуюць два найбольш вядомыя метады падыходу да гэтай праблемы. Так? *Герменеўтыка* (ад грэчаскага — тлумачэнне) лічыць галоўным метадам разумення, інтэрпрэтацыі, расшыфроўкі схаванага ўнутранага сэнсу чалавечай дзейнасці біяграфію. *Псіхааналіз*, як зразумела, аддае перавагу *псіхафізіялагічнай* індывідуальнасці асобы. Так прыблізна. Хутчэй за ўсё, зноў жа, *дэтэрмінацыя падвойная*. І біяграфія, і абставіны гістарычна-сацыяльныя, і псіхалогія развіцця. Гады маленства, безумоўна, вызначаюць і структуруюць і далейшы шлях, і асобу.

Дзяцінства — *інтэграцыйнае ядро*. Некалі заштампаванае нават — «Усе мы родам з маленства» — Сент-Экзюперы — яно застаецца стрыжнявым, вызначальным. Безумоўна, усе вобразы дзяцінства непазбежна ўтрымліваюць у сабе праекцыю больш позняга, дарослага вопыту. Аднак памяць, эмацыянальная памяць захоўвае не толькі знешнія, падзейныя моманты, але і адчуванні, настроі, моманты ўзрушэнняў. У пару майго дзяцінства ў парках былі рэпрадуктары — і ніколі не забуду ўзрушэння ад Другой рапсодыі Ліста. Тады ў эфіры гучала шмат класічнай музыкі.

Наконт ролі дзяцінства Жан-Поль Сартр сцвярджаў нават так: «У кожнага чалавека свае прыродныя каардынаты: узровень вышыні не вызначаецца ні прэтэнзіямі асобы, ні вартасцямі яе. Усё вырашае дзяцінства». Хаця — у Бродскага, напрыклад, згадкі пра дзяцінства нібыта попелам пасыпаныя.

Так што і тут, мабыць, мае значэнне суб'ектыўны момант.

А вяртанне ў дзяцінства — гэта і прага першапачатковай свежасці, чысціні, незаплямленай свядомасці, да вытокаў, той чар і тая сапраўднасць, што пазначаюцца выдатным выразам — усё наперадзе. Наноў пачынаць жыццё — хаця б у пераносным сэнсе — калі ўсё было пярэдаднем, конаднямі. Чаканнем. А не здзейсненасцю, вельмі часта далёкай ад тых мараў.

Ёсць і яшчэ варыянт — калі тым, хто мроіць у аблоках, непазбежна наканавана нізрынуцца з нябёсаў, адны гэта прымаюць за жыццёвы крах, другія — за цыркавы нумар, трэція — за адкрыццё сапраўдных каштоўнасцяў. Ці нават — ісціны.

**Г. Ш.** *Сінтэз жанраў у сучаснай літаратуры і ў творчасці. Імправізацыя творчая.*

**А. С.** Жанр — гэта адзінства пэўных стылёвых з'яў, якія ў сваім спалучэнні выяўленыя як удалыя і маюць пэўную эмацыянальную афарбоўку і цалкам успрымаюцца як сістэма.

Сучасная літаратура даўно ўжо не ўяўляецца без сінтэзу жанраў. Аповесць-эсэ, раман-эсэ, кінааповесць, тэлераман... Сучаснае жыццё, рэчаіснасць прапануюць іншыя ракурсы бачання. Кіно, тэлебачанне, камп'ютарызацыя выяўляюць зусім новыя магчымасці, спосабы спасціжэння рэчаіснасці... Ну, напрыклад, тэарэтыкі кіно сцвярджаюць, што з'ява лепш за ўсё ўспрымаецца ў той момант, калі яна ўваходзіць у нашу свядомасць і калі яна знікае. На гэтым «факусіруюцца» прыёмы мантажу. Ну і, безумоўна, сярэдні план, буйны, агульны.

Усім вядомыя спрэчкі сярэдзіны — другой паловы XX стагоддзя пра лёс рамана. І — «Уліс» Джэймса Джойса, створаны напачатку XX стагоддзя, жыве, хай не для ўсіх, але ж як норма — эстэтычная — усё ж лапідарныя формы, сціслы, шчыльны стыль...

Асэнсаванне, аналіз — без іх немагчымыя сучасныя людзі.

Асабіста я вызнаю розныя спосабы светаспасціжэння: аналітычны і сюжэтны, спавядальны і нораваапісальны, пераключэнні з вобразнага плану ў памяційны, з адстароненага, абстрагаванага — у побытавы. Гэта, прынамсі, падкрэслівае літаратуразнаўца Вераніка Стральцова.

Ну, а якія б ні былі жанравыя варыяцыі, ёсць імкненне — наіўнае! — узвысіцца да пэўных узораў, ну, не так, каб у *topos uranios* — нябесную сферу ідэй, — але, адчуваючы час, выходзіць за яго межы ў духоўным вопыце. Згадваючы, скажам, дэвіз вялікага Леанарда: *«Hostinato rigore»* — «Упартая строгасць».

# *Раздзел III.*
# ДЛЯ ВЕЧНАСЦІ БЕЛАРУСЬ

## РЫЦАР СОНЕЧНАЙ СТЫХІІ
### *Уладзімір Караткевіч*

Самы канец 70-х гадоў. 1979-ы.

Заходжу да Рыгора Васільевіча Шкрабы, у «Полымя»: «Хацелася б напісаць пра Караткевіча». «Ужо ёсць дамоўленасць з Адамам Мальдзісам». Што тут скажаш? І — раптам увечары званок ад Шкрабы: «Давайце Караткевіча». Мабыць, як то здараецца (ці здаралася) у перыядычных выданнях, не было нічога ў нумар. «Два тыдні хопіць?»

Два тыдні... Уладзіміра Караткевіча можна даследаваць гады і пісаць пра яго — гады, можна — з лёту, перачытаўшы, перагартаўшы чытанае, пазначанае, падкрэсленае. Магчымы ўвогуле розныя падыходы.

Што неаспрэчна — эфект яго прысутнасці ў літаратуры, у культуровым асяроддзі, у жыцці (нават калі асабістых стасункаў з ім не было) — адметны, непаўторны, вызначальны. Тады, у 79-м, ужо цалкам было выяўлена тое, што два наступныя дзесяцігоддзі пацвердзілі, ператварылі ў неаспрэчнае — Уладзімір Караткевіч адчуваў, прадчуваў, шмат у чым прадвызначаў духоўную сітуацыю. Сваёй творчасцю спрабаваў адказаць на пытанні — як суаднесці той феномен, што носіць назву «агульначалавечая культура», з нацыянальным кантэкстам, з культуровым антуражам індывіда — у яго выяўленні, што пазначаны як «нацыянальны характар». Як акрэсліць каардынаты, дзе сышліся б сучасная рэчаіснасць і вопыт мінулага,

эмпірыка фактаў і падзей з мройнай ваблівасцю легендаў. Якую сістэму пісьма абраць — каб гэта была і школа духу, і жывая «повязь вякоў», і складаны ўзор драматычных супадзенняў і супрацьдзеянняў, і сутыкненне звычаёвага быцця і надсветавых сфераў, гістарычная рэальнасць і непаўторны свет мастацкай рэальнасці. Паэт, празаік, эсэіст, драматург, сцэнарыст, публіцыст, крытык — Уладзімір Караткевіч пачынаў як паэт. І ў паэзіі, па сутнасці, скандэнсавана вызначыў свае творчыя арыенціры, асноўныя канцэпцыі светабачання, свой будучы мастацкі свет.

Народ, нацыя, Айчына, родная мова — для многіх краін пытанні не тое каб рытарычныя, але такія, што атрымалі шматвекавое светапогляднае, мастацкае, палітычнае пацверджанні. Для беларусаў і дагэтуль — праблемы вострыя, актуальныя, найважнейшыя, так бы мовіць, адкрытыя. Тыя, хто побач з Уладзімірам Караткевічам вызначалі літаратурны працэс, давалі сваю мастацкую і свядомасную інтэпрэтацыі гэтым паняццям, нароўні са шматлікімі іншымі.

Ужо быў пачуты і ўспрыняты чалавецтвам голас Васіля Быкава з яго апасродкавана-філасофскім асэнсаваннем дабра і зла, маральнасці і справядлівасці, — не проста ў асноўным на матэрыяле мінулай вайны, але з тым свядомасным кодам, які прачытваўся і разгадваўся ў кантэксце трагічных падзей і перспектыў канца другога тысячагоддзя, дзе крызісная самасвядомасць і экзістэнцыялізм існавалі побач з хрысціянскім адраджэннем. Ужо існавала на правах твораў жывога класіка лірычна-філасофская проза Янкі Брыля, вызначалася як непаўторная пісьменніцкая індывідуальнасць Алена Васілевіч, з яе мастацкім сплавам думкі, лірызму, гумару і іроніі, улоўліваў кожны новы павеў рэчаіснасці ў яе арганізацыйна-вытворчым і побытавым выяўленні Іван Шамякін, выходзячы на неверагодныя тыражы. Зусім нядаўна (у 1976 годзе) адышоў з жыцця Іван Мележ, ускалыхнуўшы літаратурнае і нелітаратурнае асяроддзе сваімі творамі, найперш палескай дылогіяй,

дзе яго эпічны талент шчасліва спалучыўся з лірычным бачаннем.

Называю тут і далей толькі празаікаў — таму што шматжанравы пісьменнік Уладзімір Караткевіч найбольш вызначыўся ўсё ж сваёй непадробнай прозай.

Калі мецъ на ўвазе літаратурных равеснікаў і тых, хто быў паблізу, дык за невялікімі выключэннямі яны «прапрацоўвалі» — глыбока, таленавіта, запамінальна — вясковую і ваенную тэматыку. Жорсткі псіхааналіз і сітуацыйны драматызм раманаў Вячаслава Адамчыка; непадробная пластыка пісьма Анатоля Кудраўца, з яго маральнымі праблемамі і мяккай ironiяй; высокае майстэрства Івана Пташнікава; найтанчэйшая, чэхаўская нюансіроўка размаітых твораў Алеся Жука, што ніколі не быў пачаткоўцам, адразу — сталы празаік; маштабная, эпічная хада Івана Чыгрынава, якому не чужы быў і жанр апавядання... Адметны шлях Міхася Стральцова — празаіка, паэта, эсэіста, крытыка, што трымаўся толькі, і выключна, еўрапейскіх, сусветных арыенціраў.

Усе — майстры.

Сярод іх, а неяк сам па сабе — Уладзімір Караткевіч. У пару, калі беларуская мова амаль адышла са школ, калі міграцыя з вёскі ў горад усё пашыралася, і губляўся той, вясковы чытач. Новы гараджанін, рабочы, чалавек сферы абслугоўвання імнуўся да «невясковай культуры». Інтэлігенцыя — таксама тая, што прыйшла «з хат» — спасцігала розныя культуровыя каштоўнасці, з аднаго боку, з другога — адыходзіла ад каранёў у шырокім і вузкім сэнсах. З'явіліся новыя пакаленні: рознага сацыяльнага статуса, аднак з той зацікаўленасцю, якую абудзілі наступствы «адлігі» — у шырокім культуровым кантэксце. Кнігі, кіно, выяўленчае мастацтва, перыёдыка. Распаўсюджвалася літаратура андэграўнда. На фотаплёнцы, а пазней на ксераксах, з'яўляліся забароненыя выданні — беларускія таксама. Былі ўсё ж вернутыя, хаця не ўсе, многія імёны: Максім Гарэцкі, Андрэй Мрый, Лукаш Калюга... І іх творы...

Вытворчыя раманы чыталі ўжо, мабыць, толькі выдавецкія рэдактары і літаратуразнаўцы, сучасны ге-

рой з’яўляўся, як пазначалі крытыкі, найбольш амбівалентным.

Пераважалі прынятыя з канца 50–60-х гадоў прыцішаныя інтанацыі, паўтоны, мяккія ці жорсткія, але з адчуваннем абавязковага даверу да чытача і разумення, без кантрастаў.

І Уладзімір Караткевіч уварваўся — адначасова як рыцар, трувэр, трубадур, герольд. Са сваімі старасвецкімі — ярасцю і захапленнем, нянавісцю і неўтаймоўнай, вялікай любоўю, з вялікім каханнем, з бескампраміснымі ўяўленнямі пра дабро, справядлівасць. Ён вывеў сваіх герояў. Якая амбівалентнасць? Рыцары духу, ваяры, высакародныя, чыстыя. «І ўстаў з нябёс герояў строй...» Яго словы. І толькі так — з нябёс.

Гэта былі людзі з далёкіх вякоў і з сённяшняга дня, але паяднаныя яны былі вось тымі самымі, толькі што пералічанымі якасцямі. І — што было неацэнна важна: яны былі беларусы. Не французскія шэвалье, не нямецкія фюрсты ці бароны, не англійскія лендлорды. А сённяшні герой быў падобны да ідэальнага ўвасаблення тых, хто чытаў Уладзіміра Караткевіча. Гэты герой прагнуў прыгод, высокіх ідэй, насычанага зместам існавання.

Жанры? Тэмы? Калі ласка. Гістарычны раман, гістарыясафічны раман, гістарычныя аповесці і апавяданні, прыгодніцкія аповесці. Гісторыі кахання. Лірычныя прыпавесці. Філасофска-лірычныя і гістарычна-літаратурныя эсэ.

Уладзімір Караткевіч пісаў тое, што хацеў. І тое, што вызначыў. Для сябе і іншых. Трэба заваяваць чытача. Пісалі ж дэтэктывы чэхі. Трэба давесці пра тое, што мы, беларусы, не горшыя за іншых. Усё ў нас ёсць. Усё ў нас было. І павінна быць. Была свая гісторыя. Свая культура — не ад рэвалюцыі 1917 года яна пачалася, як сцвярджалі многія афіцыйныя крыніцы і папулярызатары гэтых ідэй — ад інструктараў дзяржаўных устаноў да людзей з навуковымі званнямі. Уладзімір Караткевіч быў не адзін на Беларусі. Над узнаўленнем гістарычнай праўды пра наш народ, нашу культуру

працавалі (і працуюць) многія. Гісторыя, літаратура, філасофія, мастацтва, архітэктура, музыка... На той момант многае было напрацавана філосафам Уладзімірам Кананам, літаратуразнаўцамі Адамам Мальдзісам, Генадзем Кісялёвым, Генадзем Кахаюўскім, Вячаславам Чамярыцкім, археолагам і мастацтвазнаўцам Міхасём Чарняўскім, гісторыкамі Анатолем і Валянцінам Грыцкевічамі, Міколам Ермаловічам (хаця яго працы пабачаць свет пазней)...

Справа рабілася неацэнная. Аднак жывое, мастацкае слова... Яркае, экспрэсіўнае... Мастацкі сусвет, дзе пануе і сонечная стыхія пачуццяў, і віхурна змяняюцца падзеі, і — вызначаецца таямніца вечных духоўных каштоўнасцяў. Уладзімір Караткевіч не проста заваяваў папулярнасць — для чытачоў, асабліва для моладзі, ён стаўся вызнаным аўтарытэтам, ганфаланьерам Беларускага Адраджэння. Кнігі яго — на беларускай мове — вокамгненна знікалі ў кнігарнях. Без рэкламы. Без «раскручвання» ў прэсе.

Публіка, абазнаная ў прыгожым пісьменстве, ставілася да яго больш патрабавальна. Рафінаваныя эстэты не прымалі ўвогуле — асабліва тыя, каму былі далёкія яго патрыятычныя, адраджэнскія ідэі. Калегі па цэху ўспрымалі яго па-рознаму. «Валодзя — белетрыст», — казаў пра яго адзін з найталенавіцейшых літаратурных равеснікаў, з лёгкай усмешкай і ведаючы слабыя бакі пісьменніцкага дару Уладзіміра Сямёнавіча.

Афіцыйна ж... Яму споўнілася ў 1979-м 49 гадоў, былі напісаныя, па сутнасці, усе галоўныя рэчы: «Каласы пад сярпом тваім», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Ладдзя Роспачы», «Дзікае паляванне караля Стаха», «Сівая легенда», «Блакіт і золата дня», ну, адным словам, аповесці, апавяданні, п’есы, эсэ (выдатнейшыя), нарысы, — аднак ніякіх узнагарод і прэмій на той момант не было.

Гэта я вяртаюся да таго, з чаго пачынала свой допіс, да рэдакцыйнага заказу.

Узнагарод не было. Але ж, думалася мне, талент дае Бог, а ўзнагароды і чыны — людзі. То талент не заўважыць

было нельга. У бібліятэку ішла з прадчуваннем, што патану ў бібліяграфіі і сур'ёзных артыкулах. І вельмі здзівілася, калі знайшла ў асноўным невялічкія газетныя выступленні, у тым ліку разгромныя. Сярод таго, на што абавязкова трэба было звярнуць самую пільную ўвагу: рэцэнзіі — Уладзіміра Калесніка на кнігу паэзіі «Матчына душа», Генадзя Кісялёва на раман «Каласы пад сярпом тваім» і водгук на аповесць «Чазенія» ў польскім часопісе «Przyjaźń» Фларыяна Няўважнага.

Свой матэрыял я рабіла ўзлётна, як на хвалі, адчуваючы «повязь часоў», «блакіт і золата дня», разумеючы «музыку слоў», вызнаючы глыбокую мудрасць пісьменніка, яго самаахвярную любоў да Беларусі.

**РУЖЫ КАРАТКЕВІЧА**

І выйшаў адзінаццаты нумар «Полымя». Ганарары тады атрымлівалі на другім паверсе Дома кнігі (на праспекце Пераможцаў, тады яшчэ — Паркавай магістралі). Пайшла і я атрымаць свае грошы. У чарзе да касіркі — мой герой: Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч. Нехта пытаецца ў яго: «Ты ўжо чытаў у «Полымі»? Пра цябе». Караткевіч не проста адказвае, а рыкае, што тур: «Чытаў! Буду я іх чытаць! Крытыканы! Крытыкі!» Ён раз'ятрана крычыць яшчэ нешта. Мабыць, даліся яму ў знакі аглабельныя практыкаванні Якава Герцовіча і да яго падобных.

Мне — хоць праз усе тры паверхі (каса змяшчалася на трэцім паверсе) праваліцца. Сітуацыя... Аднак я звычайна пішу, як думаецца, не чакаючы падзяк аўтараў. І ўсё ж крыўдна. Ведаю, што несправядліва. Няпросты герой майго эсэ. Адно суцяшае — бушаваў a priori, не чытаўшы. І ўрэшце...

...Назаўтра сяджу я ў сваёй рэдакцыі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Адна. Усе недзе разышліся.

Нечакана дзверы пачынаюць нібыта самі сабой расчыняцца. Паказваецца аграмадны букет белых ружаў. 79-ы год! Дастаць ружы ў снежні ў Мінску — усё роўна,

што зорку з неба ўхапіць. Але той, што нясе ў руках гэтае ўвасабленне хараства, здатны, мабыць, на ўсё — рыцар, паэт, чараўнік. Уладзімір Караткевіч.

Моўчкі ён кладзе кветкі на мой стол. А да іх — кораб (так!) цукерак, вялізны, што куфар з пасагам для нявесты. І яшчэ — кнігу пра Беларускі мастацкі музей і «Каляндар прыроды» на 1980 год. «Значыць, вы і ёсць Ала Сямёнава», — ён садзіцца за стол насупраць мяне. Я моўчкі раблю нейкі рух плячыма. «Маглі б і болей лаяць», — дадае Уладзімір Сямёнавіч. Такога намеру ў мяне не было, не люблю гэтае пратакольна-працэсуальнае дзейства: вось — станоўчыя якасці, вось — адмоўныя. Проста вяла гаворку пра творчасць Уладзіміра Караткевіча, імкнучыся не прамінуць ні вертыкаляў, ні гарызанталяў.

«Значыць, вы тут працуеце», — ён аглядвае наш пакой — рэдакцыі крытыкі і драматургіі, такое было спалучэнне. І мы доўга сядзім моўчкі. Я падпісваю яму сваю ксёнжачку — толькі што выйшла: «Гарачы след таленту». Там ёсць і эсэ пра Караткевіча: у кнізе яно пад назвай «Стагоддзяў срэбны звон», у часопісе — «Часоў жывая плынь».

Калі Уладзімір Сямёнавіч выходзіць з рэдакцыі, пачынаю разглядваць прэзенты. Ад Уладзіміра Караткевіча! На календары надпіс: «Альбіне Іванаўне Сямёнавай, каб пражыла год шчасліва і плённа і ў канцы года зрабіла мне справаздачу аб тым, што створана за гэты год. У. Караткевіч. 14 снежня 1979 г.».

Аднак шчаслівы год не прыпаў на долю — ні гэты, ні наступны... Абставіны майго жыцця склаліся так, што некалькі гадоў былі амаль што перакрэсленыя — справаздача не атрымалася. А пайшоў з жыцця Уладзімір Караткевіч крыху больш як за месяц да смерці маёй мамы і ў адзін дзень з маім аднакурснікам Алегам Сініцкім, эрудытам і парадаксалістам: яму не нашмат перайшло за сорак.

Такія былі перасячэнні паводле Провіду...

Аднак я маю спадзеў, што дзе-небудзь у «бязмежжы хвалюючай вечнасці» змагу справаздачу тры-

маць — ці давядзецца ў кніжным выглядзе, не ведаю: са 140 аркушаў напісанага (аркуш — прыблізна 24 старонкі машынапісу) — крытычная проза, эсэ, уласна проза — толькі 34 аркушы ўвасобіліся ў кнігі, астатняе — параскіданае па перыёдыцы (часопісы «Крыніца», «Нёман», «Полымя», «Тэрмапілы» (Беласток), «Наша Вера», штотыднёвікі «ЛіМ», «Голас Радзімы», матэрыялы канферэнцый і кангрэсаў — і г.д.), ляжыць у папках у шуфлядах пісьмовага стала і ў шафах, адданае немаведама на чыю волю...

Эсэ «Стагоддзяў срэбны звон» заўважылі: да 50-годдзя мне замовілі нататку ў адну з газет, у васьмітомніку (1987–1991 гг. — рэдактар тома Васіль Быкаў, выдавецкі рэдактар Святлана Прыгодзіч) яго змясцілі ў скарочаным варыянце, ЭЛІМБел прапанавала мне зрабіць артыкул пра Уладзіміра Караткевіча. Заўважылі эсэ і за межамі Беларусі: Юрый Сураўцаў — не так паводле пасады (ён быў тады першым сакратаром СП СССР), як па духоўнай і прафесійнай схільнасці і неабходнасці, ён умеў і ўмее не прамінуць нічога ў літаратуры, беларускай у прыватнасці, — тады вызначыў мой матэрыял.

Была і задума кнігі. Не спраўдзілася — не з маёй правіны. Ды такое бяды... З'явіліся шматлікія кнігі, безліч артыкулаў. Але — падчас і пасля юбілею. І — пасля смерці.

**СОНЦА ЗЯМЛІ**

Юбілей прайшоў хораша. У Саюзе пісьменнікаў, у Доме літаратара мала памятаю такіх неафіцыйна таленавітых, такіх цёплых вечарын. І юбіляр быў нейкі сцішаны, па-мойму, здзіўлены — ордэн Дружбы народаў, дружная ўвага.

Былі пазней і прэміі — Літаратурная імя Івана Мележа і Дзяржаўная імя Якуба Коласа.

Аднак колькі лаўрэатаў і якіх, як сёння мовілі б, прэстыжных прэмій, засталіся толькі на кніжных паліцах і ў пратаколах урачыстасцяў, на старонках старых пе-

рыядычных выданняў. Уладзімір Караткевіч усе гэтыя гады актыўна чытаецца, жыве ў памяці, сам ператвараецца ў легенду.

І я бяру з паліцы кнігі Караткевіча: васьмітомнік, двухтомнік, «Зямля пад белымі крыламі», «Чорны замак Альшанскі», «Нельга забыць», «Дзікае паляванне караля Стаха»... І зусім ужо зачытаныя — «Матчына душа», «Вячэрнія ветразі», «Блакіт і золата дня»...

Перагортваю старонкі...

Адчуваю магутны ўплыў сонечнай стыхіі таленту Уладзіміра Караткевіча.

Думаю — пра феномен творчасці Уладзіміра Караткевіча.

Заснавальнік беларускага гістарычнага рамана (спробы Б. Мікуліча «Адвечнае» і Б. Садковіча і Е. Львова «Францыск Скарына» — па сутнасці, толькі падыходы да асваення жанру). Раман «Каласы пад сярпом тваім», нават нясконччаны — шырокае сацыяльна-гістарычнае палатно пра пярэдадзень найважнейшай, этапнай падзеі ў гісторыі Беларусі: паўстання 1863 г. Гэта, дарэчы, і раман выхавання, што ўвабраў у сябе традыцыі такога жанру ў заходнееўрапейскай і рускай літаратурах.

Гістарыясофскі раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» — зусім новы для беларускай літаратуры стыль мыслення, стыль выкладання, стыль пісьма... Зусім новыя і разнастайныя сюжэтныя хады, новая гістарычная канцэпцыя, новы мастацкі рытм... Праўда і ілюзія... Упершыню ў мастацкі ўжытак шырока ўведзеныя матэрыялы хронік і летапісаў, парафразы біблейскіх тэкстаў, варыяцыі ў розных кантэкстах біблейскіх выразаў і народных выслоўяў.

А «Сівая легенда», «Цыганскі кароль», «Паром на бурнай рацэ»... Можна пералічваць доўга.

Глыбокае, дасканалае веданне фактаў, падзей, рэалій часу. Веданне мастацтва, архітэктуры, этнаграфіі, фальклору, літаратуры. Сусветных і беларускіх. Віртуознае валоданне сюжэтам, фабулай. І — мастацкая «рэканструкцыя» часу, сацыяльнага і побытавага каларыту, псіхалогіі

людзей, самасвядомасці. Жывы подых часоў, водар жыцця. Тое, што даецца творчай інтуіцыяй, мастакоўскім зрокам, слыхам, усімі чуццямі, культурай ведаў — і геннай памяццю, геннай культурай, генезісам маральнага «я». Тым, што не сёння з'явілася, мела гістарычны шлях, перадавалася гадамі, стагоддзямі, у пэўных свядомасных, сітуацыйных, падзейных, сацыяльных умовах. Як вядома, Уладзімір Караткевіч меў дваранскія карані і ганарыўся гэтым — у тую пару, калі ніхто яшчэ сутаргава не шукаў у сабе якой кропелькі блакітнай крыві, а наадварот — большасць імкнулася падкрэсліць свой рабоча-сялянскі патомны статус.

Ён быў эрудытам. Калі ведаў, дык ведаў дакладна. І пра Гарадзенскі замак, і пра ўсе гістарычныя перыпетыі горада Турава, і пра тое, якую зброю хто меў і ў якія часы, і хто як апранаўся, і якія рытуалы былі, а якіх не было (на розных сацыяльных узроўнях). Ніколі не пазычаў «рэквізітаў», не блытаў рэаліі гістарычныя з сённяшнімі. Веды былі цвёрдыя, спатрэбіліся — адразу на пяро. А пяро ва Уладзіміра Караткевіча было падуладнае магутнай, стваральнай — сонечнай стыхіі яго таленту. Жыццё грамадства, узаемаадносіны людзей, свядомасць тымчасовых насельнікаў Беларусі — усё гэта арганічна ўваходзіць у вобразную структуру твораў, на «зямлі пад белымі крыламі», дзе ў харастве сваім і непадробных фарбах мінаюць вёсны, леты, восені, зімы, дзе чутныя перагук званоў, гоман свят, спевы маладзіц, галасы люду размаітага.

Усё віруе, іскрыцца, усё поўнае жыцця. «Эмацыянальны дублікат» быцця, але і — «думак халодны пажар». І ўсё падсвечана, высвечана гумарам, іроніяй, часам сарказмам. Ну, вось хаця б некалькі радкоў з «Цыганскага караля»: «Так скончылася вялікая цыганская вайна, адна з самых славутых войнаў, якія вёў кароль Якуб Першы. Вялікую славу здабылі ў ёй усе мужныя змагары. Але і страты былі вялікія: адзін шляхцюк адбіў пячонкі, упаўшы з воза, два захлынуліся вінам у склепе; пяць чалавек забіліся да смерці. Яны загінулі за радзіму. Забітых вогнястрэльнай зброяй не было».

А ўвогуле шляхту — своеасаблівы сацыяльны пласт — ён умеў апісаць, як ніхто іншы. «Ён высакародна араў сваё поле...» Класіка! Лепш не скажаш! Нібыта мужык: сам за канём ходзіць, аднак жа — рыцар, абаронца, годнасць і высакародства — галоўнае! І так мог пазначыць толькі Уладзімір Караткевіч!

«Пісаць трэба хвацка!» — сцвярджаў ён у адным са сваіх інтэрв'ю. І — пісаў так. Сучасную прозу — таксама. «Чазенія», «Лісце каштанаў», «Дрэва вечнасці», «Залаты бог» і г. д. І, безумоўна, эсэ. Бляск думкі. Экспрэсія. Каскад слоў, яркіх, дасціпных, іскрамётных.

Працаваў Уладзімір Караткевіч, падпарадкоўваючыся толькі стыхіі свайго таленту — шмат, з імпэтам, узлётна. І — спрактыкаваны мастацкі густ мог і можа тут заўважыць, што недзе шторм высокіх слоў мог быць і суцішаны, недзе іх мнагавата, а дзе-небудзь і ўвогуле варта было б перайначыць, адшліфаваць. Аднак — Уладзімір Караткевіч іншым быць не мог. Такім яго прыняў і палюбіў чытач.

Палюбіў, мабыць, яшчэ і за тое, што пісьменнік разбурыў стэрэатып нацыянальнага характару. Не кажучы пра крыўднае, някрасаўскае: «высокорослый, больной белорус», але і пра распаўсюджанае ўяўленне: рахманы, ціхі, цярплівы, нікога не пакрыўдзіць, нікога не кране. Героі Уладзіміра Караткевіча людзі моцныя, таленавітыя, смелыя, яркія, разумныя; высакародныя! Алесь Загорскі, Раман Ракутовіч, Юрый Гораў, Андрэй Грынкевіч. Героі! І нават калі гэты так званы «жанравы чалавек» (Н. Бяркоўскі), дык якія ж гэта каларытныя, прыкметныя постаці! Жыццялюб, весялун, смяльчак, рызыкант Гервасій Выліваха («Ладдзя Роспачы»), відавочны беларускі сабрат Ціля Уленшпігеля і Кала Бруньёна, увасабленне сутнасці нацыянальнага характару! Або праўдашукальнік, узняты да вялікага разумення ісціны, хаця крочыць ён да яе надта пакручастымі шляхамі — Юрась Братчык. Той самы, згаданы вышэй сваімі выслоўямі шляхціц Багдан Роскаш.

Колькі іх усіх!

...Жанчына ў творчасці Уладзіміра Караткевіча — часцей за ўсё не так суб'ект дзеяння, як аб'ект кахання героя: кахання высокага, усёпаглынальнага, чыстага. Чароўная Дама — гераіня Караткевіча — увасабленне хараства, пяшчоты, цнатлівасці, вышыні пачуццяў. Іх неяк і памятаеш, што якіх гераінь куртуазнай паэзіі, па імёнах: Ірына, Гражына, Марыя...

...Пра што б ні пісаў Уладзімір Караткевіч, ва ўсім і заўсёды прысутнічаў адзіны, непаўторны, натхняючы вобраз — Радзімы. Не ў яго аднаго, вядома. Але, як у кожнага, тут было сваё. Асобае. Пранізлівае. Вызнанае ўсім зробленым, створаным.

«Радзімы твар, і горды, і суровы».
«Храм наш агульны і светлы...»
«На вуліцы першай радасці...»
«Твой дом і сабор...»

І гэтае, незабыўнае:

Каб плыў судоў уратавальны дым, —
А родны край знікаў навекі ў хвалях, —
Я б лепей згінуў з ім, з яго апошнім жалем,
Як жыў і мучыўся бязмерна — з ім.

Словы — не народнага пісьменніка, паводле табеля аб рангах. Аднак — народнага, паводле памяці пра яго.

Кніг Уладзіміра Караткевіча ў кнігарнях і цяпер няма. Не залежваюцца.

Людзі чытаюць яго і ідуць да яго. Да таго каменя з коласам, дзе знайшоў ён свой вечны спачын.

Каб ушанаваць памяць і выявіць сваю ўдзячнасць і любоў. Бо ён — «быў, ёсць, будзе».

Рыцар сонечнай стыхіі.

# «ДЛЯ ВЕЧНАСЦІ – БЕЛАРУСЬ...»

## *Алесь Адамовіч*

Гляджу на тэлеэкран. На лаўрэата прэміі Алеся Адамовіча. Акуратныя слоўцы, падкрэслена адстаронены твар, шаравата-бляклы позірк — паводле іміджа аб'ектыўнага інфарматара. Ужо нічога — ад палымянага барацьбіта. Усё — як трэба некаму. «Легко в студентах прогрессивничать, свободомыслием красивничать...»?

А лаўрэат яшчэ малады. Здаецца, і трыццаці няма. Калі яму ўручалі прэмію Алеся Адамовіча, вызначыўся: галоўнае, бадай, прафесіяналізм. Усё астатняе: этыка, мараль, розныя іншыя «састарэлыя» актуаліі — неістотна. Яму запярэчыў другі лаўрэат. І недзе знік. Таленавіты чалавек. Таксама малады...

Аднак я не пра лаўрэата (ён і больш прэстыжную ўзнагароду паспеў атрымаць) і не пра яго апанента. А пра таго, прэміі чыйго імя вызначаюць, так бы мовіць, пазіцыю, прыналежнасць да вызначальніка ў дэмакратыі, справядлівасці, маштабнага мыслення, пра таго, для каго лёс чалавецтва быў сваёй, крэўнай справай. Пра таго, хто і ў апошнюю хвіліну свайго жыцця — літаральна — быў абаронцам справядлівасці: памёр у судзе. Не памёр — загінуў. «На бестэрміновай перадавой» — яго словы. У адносінах да Васіля Быкава. Стасуюцца яны і да яго самога — Алеся Адамовіча. Цалкам. Пра яго размова.

Алесь Адамовіч... У чатырнаццаць — партызан, у дваццаць сем — кандыдат філалагічных навук, крыху за трыццаць — ужо доктар, ці не самы малады доктар філалогіі на тую пару на абшары Саюза, урэшце — прафесар, член-карэспандэнт АН БССР, дырэктар навукова-даследчага Інстытута кінамастацтва ў Маскве, член Камітэта савецкіх вучоных у абарону міру і супраць ядзернай пагрозы. Навуковец, празаік, публіцыст, драматург, кінадраматург, грамадскі дзеяч. Урэшце — проста Алесь Адамовіч. З тых, каго не трэба было прадстаўляць. Не прозвішча — імя. Нават — знак. Грамадскай пазіцыі. Часу. Калі хочаце — эпохі.

Таму і прыгадаўся лаўрэат. Адкуль такая метамарфоза ў чалавека, што мысліўся б паслядоўнікам Алеся Адамовіча? Час грошай? Час кампрамісаў? Час канфармізму? Ці — характар? А можа, адвечнае, пра што згадалася вышэй: напачатку грымлівая апазіцыйнасць, потым — самаахоўная асцярожнасць?

Алесь Адамовіч не набыў з гадамі гэтай ахоўнай рэакцыі. Нешта ў ім засталося на ўсё жыццё ад партызана, ад юнака. Адкрыты, парывісты, задзёрысты. Агонь — на сябе. Ці заўсёды ён меў рацыю? Ці — больш дакладна — ці ўспрымаю я асабіста ўсё ў яго паводзінах грамадзяніна, усё ў яго творчасці?Не, не ўсё — пра гэта пазней. Аднак павагу да сябе — сваёй пазіцыяй, імклівым інтэлектам, шырокім дыяпазонам зацікаўленняў, надзвычайнай энергіяй — ён выклікаў неаспрэчна.

Сёння, калі адны не ведаюць на ўласнай практыцы пра цэнзуру (Галоўліт), другія шчасліва забыліся на гэтую ўстанову, сёння — калі дырэктывы ЦК успрымаюцца толькі як гістарычная недарэчнасць, сёння — калі намаганнямі такіх, як Алесь Адамовіч, здабыта права на свабодную думку, на вольную прэсу, на размаітасць стыляў і жанраў, сёння — калі пасля літаратурнага і навуковага пачатку Алеся Адамовіча выраслі па сутнасці тры мастацкія і даследчыцкія пакаленні, можна паблажліва згадаць: шасцідзясятнік. Першая хваля перабудовы...

Нешта — адышло. Многае —засталося. Многае адваявана. Алеся Адамовіча нельга ўявіць па-за яго часам. Але ж і яго час немагчыма ўявіць без Алеся Адамовіча.

Праўда — пра вайну. Не толькі пра Айчынную, а пра другую сусветную, у кантэксце падзей і ўяўленняў на ўсіх кантынентах. Праўда — пра сталінскі рэжым і ГУЛАГ. Праўда — пра паслякастрычніцкі час увогуле. Праўда — пра Чарнобыль.

Алесь Адамовіч «логіку ядзернай эры» пачаў спасцігаць задоўга да Чарнобыля. Пісаў пра небяспеку для існавання ўсяго чалавецтва і літаральна напярэдадні катастрофы. («“Overkill”. Ці адэкватная рэакцыя?» — 1984; «Логіка ядзернай эры і літаратура» — 1985; «Ну, дык стварайце звышлітаратуру!» — 1984; і г. д.) Праўда, ён меў на ўвазе найперш ядзерныя ўзбраенні — «мірны атам» тады яшчэ не быў пад падазрэннем. Але новае, планетарнае мысленне, галоўная трывога часу — набывалі найважнейшы сэнс: «Ядзерная небяспека пераўтварае ўсіх нас, незалежна ад таго, ці будуць у нас уласныя дзеці ці не, у бацькоў усіх будучых пакаленняў. Калі, безумоўна, мы, што жывём цяпер, усяго толькі пасланыя ад імя ўсіх пакаленняў, былых і будучых, усяго толькі «дэлегаты» — калі не станем забойцамі тых, хто нас дэлегаваў».

Алесь Адамовіч у сваіх кнігах, артыкулах, выступленнях шырока выкарыстоўваў дадзеныя даследаванняў вучоных, зробленае і моўленае пісьменнікамі, журналістамі, грамадскімі дзеячамі. Даказваў, апеляваў, падпісваў звароты, удзельнічаў у сімпозіумах, кангрэсах, канферэнцыях і г. д. Яго абвінавачвалі ў пацыфізме, адсутнасці патрыятызму, песімізме, капітулянцтве, касмапалітызме. У тым, за што ў сваю пару абвінавачвалі і Уладзіміра Караткевіча, калі той напісаў, што зброя, ад якой пацярпела Хірасіма, пагражае ўсяму чалавецтву. «Як усяму? — пагрозліва пытаўся «ідэалагічна вытрыманы» апанент. — А хіба не вядома паэту Караткевічу, што прагрэсіўная частка чалавецтва загінуць не можа?» Выглядае як са-

мапародыя, аднак — факт. Фактамі — шматлікімі — былі і анафемы Алесю Адамовічу.

Да слова тут пазначыць, што сам ён ніколі не падтрымліваў ідэалагічных атак — ні маўклівай згодай, ні подпісам. Быў, напрыклад, знакаміты ліст супраць Сіняўскага і Даніэля — дысідэнты, здраднікі, зладзеі — дык вось пад гэтым «дакументам» Алесь Адамовіч адмовіўся паставіць свой подпіс. На тую пару ён вучыўся на Вышэйшых сцэнарных курсах у Маскве і аднача-сова выкладаў беларускую літаратуру ў Маскоўскім дзяржаўным універсітэце — зразумела, непадпісант тут жа быў пазбаўлены месца выкладчыка.

І яшчэ — да слова — актыўны грамадскі дзеяч, чала-век, што быў у складзе беларускай дэлегацыі на адной з сесій Генеральнай Асамблеі ААН, народны дэпутат СССР — таго, лёсавызначальнага, 1989 года склікання, не быў членам КПСС. Для таго часу непамысная неагляд-насць: наменклатура спрэс была партыйная, большасць пасад можна было займець толькі атрымаўшы чырво-ную кніжачку. Не збіраюся, як сёння модна, абавязкова вышмароўваць дзёгцем усіх былых партыйцаў, — сярод іх хапала прыстойных людзей, аднак смеласць пісаць у анкетах «б/п» і адначасова імкнуцца да актыўнага гра-мадскага жыцця мала хто меў.

Час не заўсёды справядлівы, але — суддзя. На многае прымушае паглядзець з адлегласці часу, скрозь прызму падзей, узрушэнняў, сэнсаў, адкрыццяў...

Сёння досыць распаўсюджанае меркаванне: Алесь Адамовіч — публіцыст, і толькі. Кагнітыўнае мыслен-не, г. зн. схільнае да абстрагавання, да катэгарыяльных вызначэнняў — не яго стыхія. З другога боку, яму заўсёды кідалі каменьчык: публіцыст, аналітык, а мастацкая пла-стычнасць — не яго дар.

Маюць рацыю. Аднак Алесь Адамовіч быў моцны іншым. І зрабіў неацэннае.

З першых літаратурных крокаў (літаратуразнаўчыя працы: «Шлях да майстэрства», «Культура творчасці», «Беларускі раман») — нестандартнасць мыслення, умен-

не даць агульны, але зусім не павярхоўны абрыс беларускай літаратуры: глыбіня даследавання, аналітычны роздум, яркая вобразнасць, трываласць думкі — і сапраўдныя азарэнні, бліскучая лёгкасць.

А гэта ж час, толькі пасля XX з'езда КПСС, калі крытыка пачынала існаваць не вульгарна-сацыялагічнымі, а першапачатковымі, філасофскімі і мастацка-эстэтычнымі вызначэннямі. Алесь Адамовіч паспрыяў вышыні свядомасных крытэрыяў, нязмушанасці думкі, пашырэнню дыяпазону мыслення. Тым часам вярнуўся са зняволення рэпрэсіраваны Рыгор Бярозкін, пачынаў свой творчы шлях Уладзімір Калеснік — людзі глыбінных высноў, ярка выяўленага індывідуальнага стылю. Крыху пазней абвесцяць пра сябе Віктар Каваленка, Міхась Мушынскі, Генадзь Кісялёў, Адам Мальдзіс і інш. Згадваю толькі некаторых майстроў крытычна-даследчыцкага цэха, толькі блізкіх па ўзросту Алесю Адамовічу і разам з ім пазначыўшых адраджэнне крытыкі, вяртанне да напрацаванага раней і ўваходжанне ў сучасны еўрапейскі працэс: на годным светапоглядным, аналітычным і эстэтычным узроўні. І калі, скажам, Рыгор Бярозкін і Уладзімір Калеснік заглыбляліся ў тэорыю, у індывідуальныя своеасаблівасці стылю і мастацкую прыроду асобы, то Міхась Мушынскі рупліва аналізаваў і пазначаў вехі і этапы развіцця беларускай літаратуры, Віктар Каваленка прымушаў згадваць пра тое, што крытыка — частка духоўнага быцця, духоўнай рэальнасці, што феномен крытыка — такая ж рэдкая з'ява, як любы іншы талент, што парадаксальнае мысленне — уласцівае і гэтаму віду мастацкай практыкі, Генадзь Кісялёў і Адам Мальдзіс адкрывалі свету, што пачатак беларускай літаратуры трэба шукаць у глыбі стагоддзяў: побач напрацоўваў стэрэаскапічную, шматкалёрную карціну мастацкай свядомасці беларусаў эстэтык Уладзімір Конан, дык Алесь Адамовіч пашыраў далягляды беларускай крытыкі, не правінцыйным вокам глянуў на стан беларускай літаратуры, надаў шырыню і маштабнасць даследаванню: беларуская проза на літаратурнай планеце. Пазней,

разглядаючы працэс развіцця беларускай літаратуры ў суадносінах з сусветнай літаратурай («Талстоўскі крок», «А што там, далей?» і г.д.), аддаючы шмат увагі, так бы мовіць, персаналіям (Максім Гарэцкі — «Браму скарбаў сваіх адчыняю», Якуб Колас — «Паэтычнае вярхоўе беларускай прозы», Янка Брыль — «Свет далёкі і блізкі», Васіль Быкаў — «На бестэрміновай перадавой», Іван Мележ — «Вяртанне наперад», Іван Шамякін — «Дзень бягучы»), Алесь Адамовіч імкнуўся прадставіць чалавецтву беларускую літаратуру ў яе лепшых выяўленнях.

І ў гэтым — яго найважнейшая на той час роля ў якасці літаратуразнаўцы і крытыка. Выхад на так званую «саюзную трыбуну» быў прыступкай да выхаду і ў больш шырокі свет. Непасрэдныя стасункі БССР мела хіба што з калегамі бліжэйшых краін — так званага сацлагера. (Ад лагераў не маглі адысці ні ў якіх вызначэннях.) Алесь Адамовіч скарыстоўваў даступныя на той час магчымасці. Свет павінен ведаць пра беларускую літаратуру!

Алесь Адамовіч эксперыментаваў як празаік. Стварыўшы амаль адначасова з першымі аналітычнымі працамі дылогію «Партызаны»: раманы «Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой» і прыблізна ў адну пару са з’яўленнем твораў пісьменнікаў, якія пазначылі першую хвалю прарыву пасля ХХ з’езда: Васіля Быкава, Янкі Брыля (як працяг яго пачатку), Івана Мележа, расійцаў — Рыгора Бакланава, Уладзіміра Багамолава, Віктара Астаф’ева і інш. (Зноў называю толькі некаторых і толькі блізкіх па ўзросту — пачынала ж і магутная чарада шасцідзясятнікаў, нараджэння саракавых — канца трыццатых гадоў. Дык вось, дылогія вытрымана ў найбольш распаўсюджанай на Беларусі на тую пару традыцыйнай манеры пісьма — апісальна-апавядальнай, — Максім Гарэцкі і Андрэй Мрый яшчэ не «адкрытыя».) Нават і «Хатынская аповесць» — канкрэтнае бачанне рэчаіснасці, аб’ёмны погляд на падзеі. А вось ужо «Карнікі» — «хірургічная проза», «супрацьлеглы рытм быцця», «інтанацыі нібыта ад імя зямлі». Так сцвярджаў расійскі крытык Леў Анінскі і, па-мойму, справядліва.

Паміж гэтымі аповесцямі — кніга «Я з вогненнай вёскі...», напісаная разам з Янкам Брылём і Уладзімірам Калеснікам, пазней — «Блакадная кніга» ў суаўтарстве з Даніілам Граніным. З аднаго боку, пераасэнсаванне жанру, які, здавалася б, адышоў у мінулае, — дакументальнага летапісу, з другога, сплаўлены з памяццю народа кандэнсат філасофскай думкі — і ўсё перастворанае на аснове ўласных перажыванняў разам з тымі, каго ўзяла жудасная смерць, пазбаўленая нават індывідуальнага шляху на Галгофу, смерць-вынішчэнне, смерць-спапяленне. З тымі, хто застаўся жыць і захоўваць перажытае ў памяці.

Тут мне згадваецца адзін запіс Алеся Адамовіча з яго нататніка 70-х гадоў. Жанчына, у якой загінула пяцёра дзяцей, — маладжавая, румяная, бадзёрая... Дзіўна... Недарэчна...

Недзе ў тыя ж гады, гледзячы на Алеся Адамовіча, — маладжавага, светлатварага, вясёла-ажыўленага, — я таксама заўсёды думала пра гэтую неадпаведнасць: піша ж пра ядзерную катастрофу, вайну, запісаў і суперажыў бясконцыя трагедыі, трагедыі за межамі чалавечага ўсведамлення, за межамі ўсіх уяўленняў этыкі, маралі... Пра эстэтыку і гаворкі няма...

Не ведала, што ў яго была язва страўніка, інфаркты... Непад'ёмны цяжар чужога болю...

...Імкненне вызначыць і вызначыцца... Быційны сэнс у ракурсе рэчаіснасці — рэальнай і замысленай. Аднак гэта не алхімія няспыннай фантазіі або мроі-казкі: пост'ядзерная «ідылія».

...«Апошняя пастараль»... Недзе там, далёка, дылогія «Партызаны», «Асія», «Апошні адпачынак»... Далёка — паводле ўсіх высноў, не толькі па часе.

У тых, даўніх творах ёсць яшчэ адчуванне добрапрыхільнасці быцця, — адвечнае імкненне чалавека да шчасця, усё адбываецца ў межах той разумовай плыні, калі стан узрушэння, няшчасця павінен быць у рэшце рэшт пераадолены — паводле бясспрэчнага здаровага погляду на жыццё, якое і карае, і даруе, і лекуе душы.

Што б ні адбывалася, застаецца зямля, глеба існавання і аснова духоўная, паводле традыцыйнага гуманістычнага светапогляду — ёсць мудрасць і дабрамыснасць светапарадку, ёсць натуральная разумнасць ходу жыцця на зямлі.

Апакаліптычная эмпірыка сусветных войнаў — асабліва другой, наяўнасць тэрмаядзернай зброі, відавочнасць таго, што цывілізацыя і сама планета Зямля — пад пагрозай разбурэння, знікнення, знішчэння, «страта самасвядомасці — той свядомасці, што была набытая стагоддзямі выпакутаваных злыбед, тысячамі найлепшых людзей, абставінамі геаграфічнымі, этнічнымі...» (Поль Валеры), сэнсастраты другой сусветнай вайны, рэальныя трагедыі Хірасімы і Чарнобыля, пагроза яшчэ большых няшчасцяў, экалагічная небяспека — пазначылі і вызначылі стыль пісьма Алеся Адамовіча. Мабыць, таму яго творы, як і створанае Васілём Быкавым, знайшлі такі водгук у свеце, на Захадзе. Апакаліптычнае мысленне, крызісная самасвядомасць, трагічнае светаадчуванне сталіся там штодзённым мысленным звычаем. У колах інтэлігенцыі — кожным разам творчай — асабліва.

Выкарыстаўшы ашаламляльнае ўздзеянне факту, яго значэнне, выявіўшы гэта ў рэальным пісьме, паспрабаваўшы нешта калі не растлумачыць, дык асэнсаваць, Алесь Адамовіч імкнуўся вызначыць нейкі іншы лагічна-мастацкі стрыжань, даць сюжэтную абалонку, аднак падкрэсліць аскетычнасць сімвала, схемы...

Пасляядзернае пекла. Ён, яна... Усё прадвызначана, зададзена. Як і стыль пісьма. Наўмысна непластычны, з жорстка выяўленай ідэяй. Алесь Адамовіч, безумоўна, мараліст, і загадкі нашага зямнога лёсу ён імкнецца разглядаць у тэарэтычна-пазнавальным ракурсе, нават калі ён надае сваім думкам сюжэтную форму — ён разлічвае на светапоглядную аснашчанасць чытача, акрэсліваючы кардынальна важныя пытанні не рацыянальна-лагічным шляхам, а ў іх відавочнай дадзенасці. Ён свядома ідзе ад «прыкладной маральнай мудрасці» (Альбэр Камю) і звяртаецца да «мыслення вобразамі», ідучы ад традыцыі «філасафічнай», «установачнай» аповесці.

...Трагедыя рэальнасці... Ці яна не адпускае яго ад сябе? Ці ён хоча «выбраць» усе магчымыя і немагчымыя пласты ў гэтай «шахце» (яго выраз)?

Пасля кнігі «Я з вогненнай вёскі...» ў Янкі Брыля з'яўляецца аповесць «Ніжнія Байдуны», твор, што, па вызначэнні Алеся Адамовіча, «быццам з вуснаў самога народа сарваўся», яркі, жыццярадасны; стварае лірычныя мініяцюры, вольна разгорнутыя ў філасофскія прасторы, ён нібыта «даследуе дабрыню — аграмадную дзялянку, дзе ўсё сціхае» (Гіём Апалінэр).

Уладзімір Калеснік прапануе чытачам нібыта персаналіі (Уладзімір Жылка, Максім Танк, Янка Брыль), аднак тэарэтычна высноўвае карані і своеасаблівасці рамантызму на беларускай глебе (амаль аднačасова з Рыгорам Бярозкіным і Уладзімірам Конанам), вызначае шляхі развіцця заходнебеларускай паэзіі, адкрывае філасофскі і эстэтычны грунт многіх праблем сучаснай літаратуры: як чалавек еўрапейскай культуры, вытанчаны знаўца эстэтыкі і паэзіі.

Яны абодва, так бы мовіць, перад прасторамі сусветнай бездані спрабуюць вярнуць логіку веры ў сэнс Провіду, сэнс Быцця, у сэнс існавання храма светастварэння.

Іх пазіцыя мне — суб'ектыўна бліжэй.

Аднак размова — пра Алеся Адамовіча. Ён сэнс свайго творчага наканавання бачыў у іншым. Слова — роздуму. Слова — факту. Апошнім часам ён сцвярджаў: варта даваць толькі мантаж фактаў, дакументаў, здаецца, гэта рабілі яго паслядоўнікі.

Рэчаіснасць тым часам выдала такі «мантаж фактаў»: інфаркт. І з'явілася «Vixi», аўтабіяграфічная аповесць, распачатая ім як «рэпартаж з бальнічнага ложка» і пазначаная пад загалоўкам: «Завершаныя раздзелы нязконачанай кнігі».

Алесь Адамовіч спяшаўся выславіць сваю, уласную споведзь...

Увогуле з яго асобай нельга было суаднесці вядомае: «Мая біяграфія — у маіх творах». Паміж біяграфіяй і

створаным была няпростая сувязь... А інфаркт здарыўся, калі Алесь Адамовіч жыў у Маскве...

Гэты ад'езд з Беларусі, у адрозненне ад таго, у 60-я гады, быў досыць драматычны...

Для многіх афіцыйных асобаў прозвішча Алеся Адамовіча заўсёды было што чырвоная хустка для раз'ятранага быка: памятаю многія эпізоды ў Галоўліце. Пасля ж яго ліста да Міхаіла Гарбачова пасля аварыі на Чарнобылі, якое было зачытана на Палітбюро ў Маскве, ён стаў на радзіме «персона нон-грата». У пісьме тым было: «...пад пытаннем само існаванне дзесяцімільённага народа», «занадта малая, як высветлілася, рэспубліка для такой вялікай бяды», урэшце — «не проста станцыя ўзарвалася, але і ўвесь той комплекс безадказнасці, недысцыплінаванасці, бюракратызму...». Выключная смеласць — ліст датаваны 1 чэрвеня 1986 года — той парой, калі першы сакратар ЦК КПБ Мікалай Слюнькоў адмовіўся ад дапамогі рэспубліцы: у нас усё цудоўна, якая катастрофа? Гэта было той парой, калі — з ласкі на пацеху — выпраўлялі ліквідатараў у забруджаныя раёны, у зону (каб пазней забыцца на іх), той парой, калі быў самы разгар шапказакідальнай кампаніі: у нас катаклізмаў не бывае.

Гэта пазней з'явілася столькі твораў, патрэбных і важных, прамоўлена шмат слоў — мудрых, а напачатку забілі ў званы Алесь Адамовіч, вучоны-атамшчык Васіль Несцярэнка (вокамгненна быў пазбаўлены пасады), пісьменнік Сяргей Залыгін... Гэта Алесь Адамовіч «пачаў абрываць тэлефоны і штрыфелі пінжакоў у маскоўскіх калегаў па Камітэце савецкіх вучоных: ну, ужо ж яны не разумеюць, што калі вецер дзьмуў не на Кіеў («на шчасце», як было ў газеце «Известия» напісана), тады — на Гомель, на Магілёў, на Беларусь...».

Алесь Адамовіч змагаўся.

І, як адзначыць сам пісьменнік у кнізе «Апакаліпсіс па графіку», «пачалася актыўная газетная і вусная кампанія, у выніку якой я апынуўся жыхаром Масквы».

Досыць напружанай на тую пару была і атмасфера ў літаратурным асяроддзі. Там, праўда, не ўсё было так

адназначна... Не маю намеру расстаўляць кропкі над «і». Ды і не маю права. Я не належала да блізкага пісьменніку атачэння, хоць ведала яго не так каб здалёк. Пісала пра яго. Ён часта друкаваўся ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», досыць многа — у рэдакцыі крытыкі, дзе на той момант працавала я. І хоць рэдактарам яго мне быць амаль не давялося (два-тры артыкулы ў зборніках), аднак кніжкі свае Алесь Адамовіч прэзентаваў паводле добрай завядзёнкі тых гадоў: з надпісамі, што палесцілі б любому літаратару. Пазней, калі я перайшла з выдавецтва ў часопіс «Нёман» — сустракаліся, абменьваліся думкамі, рэплікамі, меркаваннямі. Безумоўна, чытала і чула яго выступленні і аргументы яго апанентаў... Спрэчка была адчайная... І — наноў пазначу — усё было вельмі неадназначна... Зраблю толькі некалькі штрыхоў...

Алесь Адамовіч быў двухмоўным пісьменнікам. Пісаў на беларускай і рускай мовах.

Чаму? Мабыць, была рускамоўная сям'я... Але я магу назваць многіх беларускамоўных літаратараў, у якіх бацькі не ўмелі ані слова па-беларуску... Мабыць, было імкненне выявіць мастацкую думку на той мове, што найбольш прыдатная яму. Быў і гэты, ужо згаданы момант: у свет, у замежжа выходзілі на тую пару праз «саюзную браму».

І не толькі Алесь Адамовіч спрыяў выхаду беларускай літаратуры на сусветныя гарызонты, але і яна спрыяла яму. Да таго ж, як ужо згадвалася, Алесь Адамовіч — увесь у блізкай заходняму чытачу праблематыцы, у логіцы думак, у тыпалогіі дакументалізму, у экзістэнцыяльнай сур'ёзнасці і сэнсавай насычанасці, у яснасці і прастаце мовы (па-першае, расійскай, па-другое, досыць даступнай для перакладу) меў пэўныя перавагі перад беларускімі пісьменнікамі. Асабліва калі мець на ўвазе тых, чыя творчая манера — у суцэльнай узаемазалежнасці, узаемападпарадкаванасці сэнсу і формы, а галоўнае — у адметнасці стылю, у нюансах, у сэнсах-перадумовах, у мове — featuring рознакалёрнай, яркай, рэгіянальна пазначанай, ва ўсім, што цяжка паддаецца перакладу, зазвычай не дае адэкватнага ўяўлення

пра аўтара; гэтыя пісьменнікі заставаліся (і застаюцца, хоць цяпер шмат іншых праблем) невядомымі ці вядомымі вельмі вузкаму колу чытачоў. Калі ж узгадаць ТРАГЕДЫЮ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ з яе шматлікімі і крывавымі забаронамі, ТРАГЕДЫЮ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА, дык ёсць пра што задумацца...

Той самы выпадак, пра які красамоўна гаварыў Алесь Адамовіч. Сядзяць на тэрасе людзі, п'юць гарбату, а нейкі дзівак бегае і крычыць: «Ратуйцеся!» Не даслоўна, але змест такі. Дык вось — чаго крычыць? А пад домам — дынаміт. То не такі ўжо і дзівак...

Так і тут... Алесь Міхайлавіч, які так чуйна рэагаваў на ўсё, што датычылася яго Радзімы, лёсу яе людзей, які адчуваў сябе непасрэдна адказным за лёс планеты ўсёй, тут нечага не ўспрымаў... Як дэмакрат, барацьбіт, высакародны чалавек — адчуваў трываласць у абшарах Саюза. Не імперыі — дакастрычніцкай ці паслякастрычніцкай, — а супольнасці людства: з агульнымі выпрабаваннямі, болем, радасцю.

Алесь Адамовіч неяк пісаў, што, стоячы на варце ў партызанах, ён з радасцю адчуваў трываласць ад таго, што за ім — абшары Саюза, дзе няма фашыстаў... У мяне асабіста гэтыя прасторы неабсяжныя выклікаюць пачуццё трывогі: зусім блізкія мне людзі ведалі сібірскія «остроги» зусім не з малюнкаў пра дзекабрыстаў... Але ж і ў Алеся Адамовіча самыя блізкія сваякі «асвойвалі» Якуцію...

Усё неадназначна...

Было і такое: на адным пісьменніцкім форуме ў нас, у Беларусі, выступаў Алесь Адамовіч. Бліскуча, ярка, справядліва. Але... Было і яно. Ён гаварыў па-расійску — было досыць многа не проста прадстаўнікоў з іншых рэспублік і з Масквы, прыехалі яго сябры, блізкія па творчасці, па светапогляду людзі. «И все же, все же, все же...» Гэта было ўжо «на піку» спрэчак з апанентамі. І гэта быў выклік. А выступленне аднаго з яго супрацоўнікаў, да якога ў рэдакцыю сапраўды сунуцца з творам, не адпаведным эстэтычньм поглядам гэтага чалавека (надзвы-

чай таленавітага), было ўсё роўна, што запаліць запалку ў вадзе, прагучала з іншым рэзанансам: ён вёў размову з намі на нашай, беларускай мове.

Умеў Алесь Адамовіч і спарадзіраваць сітуацыю, пакпіць з правінцыйнасці — і навукова, і ненавукова, мог «правакаваць» пэўныя падзеі. Бліскучы прамоўца, чалавек імгненнай рэакцыі, ён любіў трыбуны і ўмеў сказаць сваё слова. «Dixi!»

...Ствараўся пэўны маральны клімат. Ішла тая «ланцуговая рэакцыя», калі кожны бок па інерцыі ўжо не хоча і не можа прымаць аргументы. Наэлектрызаванае паветра... Звычайная ўнутраная рэцэнзія Нічыпара Пашкевіча на рукапіс адной з кніг Алеся Адамовіча — учынак. Не абы-якой смеласці. Маё з Алесем Міхайлавічам наведванне хворай Веры Сямёнаўны Палтаран — у полі зроку. Юбілей — 60 гадоў — у роднай Глушы.

...Пераглядаю кнігі Алеся Адамовіча... Нават не думала, што ў мяне іх столькі. Перагортваю выняткі з газет, часопісаў. «Ідзі і глядзі» («Иди и смотри»). Сцэнарый Алеся Адамовіча і Элема Клімава. Залаты медаль кінафестывалю ў Маскве, аншлагі ў кінатэатрах свету.

Я нездарма назвала свой эскіз суб'ектыўным... Зусім неадпаведна поспеху і ўзнагародам, не прыняла эстэтыку і стылістыку фільма. Фантасмагарычная рэальнасць, фізічнае быццё персанажаў і іх фактура (фізічныя дадзеныя) не супадалі з маімі ўяўленнямі.

Знешняе аблічча акцёраў — ці гэта прафесіяналы, ці неакцёры — у нейкай ступені паказальнае для іх сутнасці. Кінаакцёр, як сцвярджаюць спецыялісты (Зігфрыд Кракаўэр, напрыклад), у пэўным сэнсе прыпадабняецца мадэлі фатографа. А фатаграфічны партрэт заўсёды выдзяляе тыповыя рысы натуршчыка — адбываецца самараскрыццё. І гэтае самараскрыццё дзеючых асоб — беларусаў — цалкам не супадае з іх абвешчанай духоўнай сутнасцю. Для мяне прынамсі.

І мая самасвядомасць, і нейкія культуровыя коды не даюць мне магчымасці прыняць таксама толькі мантаж фактаў, як прапануе Алесь Адамовіч. Прагну асэнсавання: мастацкага, лагічнага, эстэтычнага.

І — не магу зразумець: вось таго, пра што гаворка вялася вышэй: адчуванне трагедыі беларусаў, небяспекі планеты і небяспекі роднай зямлі... І... не магу знайсці слоў...

Таму што для мяне Алесь Адамовіч — чалавек планеты. Але і беларус. Не таму, што ён гаварыў па-расійску з невыкаранёным зацвярдзелым «ч», і не таму, што ў яго тэксце абавязкова сустрэнуцца беларускія «три грошика» і «колхоз «Червоны кастричник», і не таму, што вядомы маскоўскі крытык Леў Анінскі пісаў пра Алеся Адамовіча, што той адчувае сябе «спадкаемцам тысячагадовай, лясной, народнай Беларусі». Беларускае, нацыянальнае — у яго мянтальнасці, у героях большасці яго твораў (і мастацкіх, і крытычных), ва ўсім ладзе думак пісьменніка, у тым, пазначаным у «Vixi»: «Уся ісціна ў тым, што памерці я хачу ў Беларусі, а ляжаць у Глушы... Для вечнасці — Беларусь».

Беларусь... Дзе засталіся яго чытачы, сябры, вучні... Не буду згадваць планетарна вядомых, не хачу грузнуць у пераліку: некага не ведаю, некага забуду. Аднак адно настаўніцкае празарэнне хачу пазначыць: Іван Афанасьеў. Згледзеў у Гомелі яго Алесь Міхайлавіч: высокага тэарэтыка, літаратара яркай вобразнай думкі, навукоўца і пісьменніка еўрапейскага кшталту.

Беларусь... Алесь Адамовіч на прасторах сусвету быў і застаўся яе прадстаўніком. Талент. Працаўнік (нават у цягніку заўсёды пісаў). Дэмакрат. Не па швэдрыку і куртачцы, у якіх звычна было яго бачыць, па перакананнях, якім ён не здраджваў.

Алесь Адамовіч... Чалавек, якога нельга ўявіць па-за яго часам. Чалавек, без якога нельга ўявіць яго час.

Чалавек, якому многім абавязана Беларусь. Нават адсутнасцю АЭС пад Мінскам.

І які — усім — абавязаны Беларусі.

Таму і «для вечнасці — Беларусь».

# «АДДАВАЙСЯ ЖЫЦЦЮ СВЕТЛАНОСНА!»

## *Ніна Мацяш*

«Аддавайся жыццю светланосна!» У гэтых словах — чар Гармоніі... І накрэсленыя яны не атрамантам і не выштукаваннямі найноўшай тэхнікі — у іх «сок натхнення, залаты нектар белай лілеі» (Федэрыка Гарсія Лорка).

«Аддавайся жыццю светланосна!» — моўлена Нінай Мацяш. Для якой паэзія — Лёс, наканаванне, выяўленне Духа... Выяўленне высакароднай субстанцыі, непасрэднага спасціжэння Боскіх сутнасцяў, сакральная трансфармацыя...

А цытаваныя словы можна было прачытаць на запрашэнні на творчую вечарыну паэткі ў яе Белаазёрску... Запрашэнні — мастацкія творы: вызначаныя словы — акаймаваныя беларускім арнаментам, ледзь пазначаным, манахромным. На адвароце — вытанчана-высакародная графіка: партрэт Ніны Мацяш і перахопленыя ручнічком-пасачкам некалькі каласкоў і васількоў. І — гучнае прадстаўленне: заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова... Сведчанне ўвагі, афіцыйнага прызнання. Аднак... Што гэта ў параўнанні з галоўным — паэтка і перакладчыца... Ад Бога... Боскай міласцю... Які эквівалент тут раўназначны?

А вось у выпадковым, здавалася б, супадзенні дня нараджэння з Наталляй Арсенневай — 20 верасня — мабыць, ёсць знак Нябёсаў. Знак абраннiцтва.

І на сустрэчу з абраннiцай Высокай Музы, з Мастацтвам прыйшлi землякi. На вечарыну 20 верасня 2003 года прыехалi калегi: Нiл Гiлевiч, Анатоль Вярцiнскi, Васiль Жуковiч...

Здымак — кветкi, кветкi, кветкi... Нiна Мацяш — за столiкам з беларускiм абрусам... Вiншуюць паэты...

А неўзабаве, 12 лiстапада таго ж года, адбылася яшчэ адна iмпрэза ў гонар Нiны Мацяш. У Мiнску. Яшчэ ў Доме лiтаратара, яшчэ ў бiблiятэцы Дома лiтаратара... Неўзабаве ў Саюза пiсьменнiкаў Беларусi (Саюза беларускiх пiсьменнiкаў) экспрапрыiравалi Дом, разлаташылi бiблiятэку. Але тое адбылося пазней. А 12 лiстапада тут надзялялi сутнае формай, вызнавалi тоеснасць гукаў i сэнсаў, асабiстае перажыванне насычалi шматасабовасцю быцця — вялi размову пра творчасць i пра творчую асобу Нiны Мацяш. Гучала музыка... спевы... Адбываўся творчы акт — сутворчасцi, су-роздуму... Чытала свае вершы сама паэтка — так, як можа чытаць аўтар... I яе слухалi — так, як слухаюць «голас акрылены» (Франсiска дэ Кеведа i Вiльегас), ад гуку — да сэнсу, да глыбiнь пачуцця... Да вышынь сапраўднага, чыстага i яснага.

Слухаю дзiўную птушку.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
У напрузе салодкай лаўлю
Чысты-чысты,
Няведамна гарманiчны
Загадкавы голас.

Чыталася, можа, што iншае. Але пэўна — адчуваўся вобраз творчых паводзiн, вызначалiся ўзбуйненне, канцэнтрацыя галоўных, «ствалавых» уласцiвасцяў душы.

Свет чалавечы прагне людскасці,
Але хіба яе
Магчыма выняньчыць
У самаразбурэнні?

Вышыня мэтаў, рэальнасць слова ў гэтай выснаванай думцы. Неаддзельнай ад разумення існасці, адчування светапарадку — як уваходжання ў той вялікі свет, дзе сусветны Космас, вопыт гісторыі і культуры, эмпірыка асабістага існавання — і жывое хараство, значнасць кожнай праявы натуры, кожнай істоты, кожнага імгнення жыцця — у адзінай сувязі, непарыўнай, загадкавай і цудоўнай. «Калі зямля, як сонца, душу грэе», калі — «сіне-сонечны спеў пра вясну», калі «звон нябёсаў пяшчотны і тонкі»... І — калі ўзнікае натуральнае, як подых ветру, як ранішні прамень — пытанне:

Калі і як з нябёс вясёлка
Упала тут на мурагі?
Ды разляцеліся асколкі —
Цвітуць лугі, цвітуць лугі!

Тое, што называецца паэтычным светаадчуваннем... Спеўная быційная радасць.

Арабіны, арабіны, арабіны...

Усё ўспрымаецца нібыта проста — і мудра. Мудрасцю спракаветнай, лагічнай, Сэнсам, усім зразумелым:

Ёсць адзінае выйсце — жыць,
Кожнай хвілечкай даражыць...

І тым асаблівым, сваім сэнсам, не кантралюемым толькі развагамі, толькі розумам... Калі далучаюцца інтуіцыя, падсвядомае, фантазіі, прадчуванні. Перажытае і адчутае... Прастора аналогій і асацыяцый. Таямніцы і магія, чар рэальнага і ірэальнага. Смутак. Трывога. Спазнанае ў рэальным вопыце і згаданае ў патаемным, неспазнаным, загадкавым...

Узіраешся ў побыт —
бы расчытваеш почырк чужы,
незнаёмы.
Зноў і зноў намагаешся ўцяміць
сэнс кожнага знаку —
іначай
застанецца замкнёны
сэнс
і слова, і тэксту ўсяго.
Можа, гэтым хоць разам
патрапіш?

...«думак цьмянае, ухілістае, далікатнае прадзіва»... Паэтычная свежасць... Прыкметы свету... Знакі зямлі... У адстароненых, абстрагаваных выяўленнях, у канкрэтыцы пачуццяў, у еднасці з тым, што тваё, роднаснае, блізкае тым, хто побач — «суайчыннікі, сузямельцы»... У роздуме, што некаму «нетутэйшаму» падасца, можа, архаічна-высакапышным, зразумелым без слоў... А для беларусаў — на кожным гістарычным вітку — не губляе ні актуальнасці, ні балючага сэнсу... І магутным паўторам ідзе ад паэта да паэта:

О, нездарма яна, мая старонка,
Белым возерам глядзіць,
Як вечнасць,
І Чорным возерам глядзіць,
Як памяць.

Увогуле-то паўсюль ёсць свае праблемы. Аднак вось такое лірычнае прызнанне:

Усходзіла гарачай чыстай зоркай
Матулі мова, — і відушчаў зрок, —

на прасторах нашай Айчыны мае асобы сэнс, асобую вагу, асобае гучанне. Ужо якое стагоддзе (!) мы ўсё даказваем свету і самім сабе — жывём, існуём, будзем жыць! Vita brevis. Patria eternis.

Зорны цвет
Чалавечых дум аб шляху ў цернях,
Запавет.

І такі «зорны цвет» — імкненняў, жаданняў:

Твайго палону прагну я,
Не пакідай мяне, работа.

Творчасць — духоўная неабходнасць, выратаванне, абярэг, загадка духу.

Не заходзь,
Маё сонца,
За доўгія хмары маўчання...

А пейзаж душы гераіні паэзіі Ніны Мацяш — не ідылічны ландшафт з бязвоблачным блакітам нябёс. Хаця... троп распаўсюджаны, але не бездакорны. Як вызначыць гэтую высакародную годнасць:

Не хачу кахання рэдкі талент
Хітрыкаў бяздарнасцю губіць!

У жыцці, у творчасці — паэтка і яе, як прынята вызначаць, лірычная гераіня, існуюць толькі паводле найвысокіх ідэалаў. Чалавечых, хрысціянскіх...

Пад чыстым небам тых хвілін...

Толькі так. Сёння, у пару, калі побач з афіцыйным вяртаннем Веры хлынулі ўсе «даброты» дэмакратыі, што нагадваюць бязлітасную раскаванасць Старажытнага Рыму часоў яго распаду — толькі ўзмоцненыя тэхнічнымі здабыткамі сучаснай цывілізацыі, гэта гучыць асабліва прывабна — свежасць і цнатлівы гонар пачуццяў... Хараство... Таямніца таямніц.

...Цвілі так блізка вочы васількамі,
І жыта, жыта абступала нас...

Светлата і цнатлівасць — і горыч, адчай, той самы, Цвятаеўскі «вопль женщин всей земли», калі здаецца — застаўся толькі адзіны колер — чорны, і не будзе ўжо ні ўсходаў сонца, ні захадаў: толькі ноч — доўгая, безвыходная, глухая.

Не можа быць, каб ты не адазваўся,
Не можа быць, каб помніць перастаў,
Калі ў жыццё маё так уварваўся, —
Не памяццю — маёй крывёю стаў.

Горыч — і высакародны гонар. На прысуд учынкаў — прысуд учынкаў. І не інакш.

Памяць скручу ў вузел.
Забуду зусім. Разлюблю.

І як сумная развітальная кода — калі ноч усё ж мінулася, «лядовы перыяд» адышоў — настаў сезон аддаленай усмешкі... Надышоў час роздуму, халаднаватай раўнавагі, перамогі над сабой...

На лёс ці варта наракаць?
Ныццём нягоды не адужаць.
Жыццё заўжды — іспыт на мужнасць,
Яе ж не возьмеш напракат.

Мужнасць — у гераіні паэзіі. Мужнасць — у самой паэткі Ніны Мацяш. Цяжкая хвароба. І — пераадоленне яе. Годна. Высакародна. Прыгожа. Так, каб ніхто, ніяк, ніколі... Мы заўсёды бачым і чуем — Талент, Хараство, выкшталцоная дыстынктоўнасць. І толькі Пан Бог і сама Ніна Мацяш ведаюць, як тое ўтрымліваецца: якая сіла волі, які духоўны і душэўны гарт за гэтым.

Не рабіце мне скідак.
Ніколі. Ні ў чым...
Не рабіце...

Ёй і не патрэбныя скідкі. Сутыкненне волі і магчымасцяў. Засяроджанасць унутраная і разам адкрытасць

свету. Успрыманне ўсяго на пэўным, сваім узроўні. Дзе — духоўная вышыня, высокі інтэлект і высакароднасць пачуццяў, адукаванасць, эрудыцыя... Арыстакратызм натуры — залежны ад генаў і незалежны ад генеалогіі. Адчуванне найтанчэйшых нюансаў чалавечых адносін, мастацкі і жаночы густ, выкшталцоны такт і пачуццё меры.

Ці не класічны ўзор таму гэты верш:

На ваша «ты» сказаць вам «ты» не смею,
І калі позірк позіркам злаўлю,
Як птушанё, спалохана нямею.
Я не кахаю вас. Я вас люблю.

«Святла, што падарылі, не растрачу. І шчырых слоў ніколі не згублю. Нашто журба у цёплых зрэнках вашых? «Я не кахаю вас. Я вас люблю».

Быў ці не быў рэальны прататып? Па шчырасці, для мяне гэта ніколі не было прынцыповым. «Выдумка галавы» ці канкрэтны персанаж — усё роўна гэта літаратурная мроя і неаспрэчнасць духоўнага перажывання і суперажывання, рэалія духоўнасці. Заўсёдная яе прысутнасць. Вызначаная ў часе. І ў пазачассі. На працягу вечнасці, за межамі жыццёвых даляглядаў.

Мы стрэнемся, хоць нас ужо не будзе,
Не будзе ні мяне, ані цябе.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Нягучнай тою, запаветнай песняй,
Што болем адазвалася на боль,
Нябачана ў чужой душы ўваскрэслі.
...А тут я размінулася з табой.

Згадваецца Ахматаўскае: «Мы с тобой в «Адажио» Вивальди встретимся опять»...

Сапраўднасць і рэальнасць зямнога існавання — і няўхільны, непахісны, метафізічны Абсалют вечнага. Таямнічы сэнс сутнаснага... У розных праявах...

Воблака душы з улады тлуму
Вынесці пад воблака бярозаў,
Хай пагоіцца зялёным шумам,
Крыльцамі стракозак.

Бо пайшло яно ўжо процi ветру,
Бо грымотамі ўжо набракае,
Бліскавіцамі ў сцяжэлых нетрах
Ластавак лякае.

Пастаяць у верасня ў прысенках.
Неба ў крыжыках стрыжоў рахманых.
З воблака бярозаў спель насення
Сыплецца, як манна.

Усё ўжываю гэтае архаізаванае паняцце — герой, гераіня вершаў. Разумеючы, што, безумоўна, паэты больш як хто абапіраюцца на свой уласны вопыт, вядуць размову пра сябе ад сябе. Аднак матэрыялізуючы ў сваіх вершах тое з уласнай асобы, уласнай біяграфіі, што непасрэдна выяўляе іх натуру — паэта. Менавіта творцы.

Узыходзіць, як каліва, слова.
Не згубіцца яму ў шматгалоссі.

Не згубіцца і ў пестрадзі дзён, падзей, фактаў. Хаця — што ёсць факт для паэта?

Схмялелы ліпень, чабаровы свет,
І раптам — кропляю нябёс пагодных —
Званок світальны сон-травы ў траве.

Факт... Факт быцця. Для паэта. І для тых, чые думкі і пачуцці — не выслоўленыя, не матэрыялізаваныя — набываюць у радках паэта форму, прымушаюць здагадвацца пра сэнс патаемнага.

Быць залежнай ад поўні й завеі,
Ад чужога маршруту і руху,

Быць залежнай,
і помніць і верыць,
Што я — голас іх радасці й скрухі.

«Голас іх радасці й скрухі» — але прамоўлены тою (ці тым), хто захоўвае ў мастацкай натуры «свой этас (этыку), сваю маральную перавагу, сумленнасць перад сваім талентам», не сыходзіць са свайго «прыроднага шляху» (Барыс Асаф'еў). І тады, як вядзецца размова пра асоб гістарычных, і тады, як ствараюцца пераклады, і калі паэтка звяртаецца са сваім словам да сяброў ці распавядае пра іх.

А да таго ж — у паэмах і вершах гістарычнага кшталту, пра канкрэтных гістарычных асоб — падзея, драма: неаспрэчная дадзенасць, аднак кантрапункт не так у фабульным моманце, як у імкненні спасцігнуць ці хаця б наблізіцца да таямніцы духоўнай. Што за знешнімі фактамі? Як гэта ўсё ўпісвалася ў загадкі рэчаіснасці паза знешнімі «ўзорамі» жыцця? У быццё? У свядомасць? Хто б ні быў героем створанага Нінай Мацяш — Людвіг ван Бетховен, Алекса Доўбуш, Апанас Філіповіч, Казімір Лышчынскі ці каханая Кастуся Каліноўскага.

А з неба жніўеньскага
Шляхам Млечным
Вяла жальбу трэмбіта на гарах...

У ноч
ступілі з Доўбушам,
бы ў вечнасць.

Катэгорыі і паняцці: вечнасць, час, век, эпоха, цывілізацыя, культура — не толькі ўсвядомленыя паводле навуковых і мастацкіх кніг, твораў выяўленчага мастацтва, музыкі, архітэктуры. Паводле здабытага адукацыяй, выхаваннем, зносінамі з людзьмі і са светам. Паэтка Ніна Мацяш існуе, творча выяўляе сябе — арганічна адчуваючы прысутнасць гэтых высокіх знакаў

у сваім паэтычным свеце. І гэтым абумоўлена яе перакладчыцкая творчасць. Абсягі яе духу. Яе творчы выбар.

Паэты Французскай Плеяды, Антуан дэ Сент-Экзюперы, Нобелеўскі лаўрэат Віслава Шымборска, кніга паэзіі «Поры году» бельгійскага франкамоўнага паэта Франсуа Жакмэна, прызнаная лепшай у бельгійскай паэзіі другой паловы XX стагоддзя... Пераклады з французскай, нямецкай, польскай, украінскай і іншых славянскіх моў.

Выбар... Сам па сабе факт перастварэння твораў паэтаў Французскай Плеяды — безумоўна, з'ява ў беларускай літаратуры. П'ер дэ Рансар, Жаашэн дзю Бэле, Эцьен Жадэль, Жан Дара, Антуан дэ Баіф, Панцюс дэ Ціяр... Аліўе дэ Маны, Жан дэ Ляпяруз, Клод дэ Бютэ, Філіп Дэпорт, Жыль Дзюран... Большасць з іх так ці інакш прадстаўлены ў «Выбранай лірыцы Плеяды» — «Багаславі сустрэчу мне», кнізе, што выйшла ў свет на сутыку тысячагоддзяў.

Зварот да паэтаў Плеяды, што стварылі першую нацыянальную паэтычную школу эпохі Адраджэння — знак свядомага кроку паэткі, яшчэ адзін эстэтычны доказ магчымасцяў беларускай мовы, мастацкаасацыятыўнае пацвярджэнне вызнанага — былі часы: нават і французскую мову лічылі беднай у параўнанні з моднай на тую пару латынню. Дзю Бэле, як вядома, напісаў трактат пад назвай «Абарона і праслаўленне французскай мовы», і ўсе паэты Плеяды творчасцю, дзейнасцю, учынкамі садзейнічалі спраўджванню абвешчанага ў маніфесце.

Увёўшы, дарэчы, у французскую літаратуру такія жанры, як ода, санет, элегія, эклога... Перакладчыца ў сваёй невялікай, але сэнсава ёмістай прадмове, вызначыўшы асноўныя мастацкія і грамадскія пазіцыі паэтаў Плеяды, пераконана паўторыць за «плеядаўцамі»: «Любіць старажытныя мовы трэба, але не за кошт роднай!» І чытач разумее: паэтка мае на ўвазе не толькі французаў XVI стагоддзя, але і дарагіх суайчыннікаў, «сузямельцаў».

І хаця яна сціпла называе свае перастварэнні «кволым водсветам», мне хацелася б падкрэсліць і пацвердзіць тут іншае — так, «пабагацеў культурны абсяг Беларусі» пасля з'яўлення гэтай кнігі. Шкада, што мізэрным накладам. Але факт культуровы, з'ява — ёсць.

Тут, магчыма, нехта мне запярэчыць: што гэтыя развагі? Дзе навукова-лінгвістычны аналіз? Параўнальны дослед? Ён будзе правы, і не. Таму што мастацкую каштоўнасць даследчыкі пацвярджаюць, высноўваюць, «угрунтоўваюць», часам адкрываюць, аднак асноўная лінія лёсу кнігі: аўтар — чытач. Не той, якога штучна ствараюць, «раскручваюць», паводле сённяшняй моднай стылістыкі паводзін, а нармальнага інтэлекту і мастацкага густу індывідуум, выхаваны ў пэўных культуровых традыцыях. Сённяшні чытач ужо досыць дасведчаны ў веданні моў: спецшколы, ліцэі, магчымасць трапіць за мяжу. Аднак...

Не, лепей кніга, мой Жамэн,
Чым прага золата пустая:
Прад чытачом, амогшы тлен,
З кніг вобраз творцы ажывае.

Ці не праўда — уражанне, нібыта П'ер дэ Рансар не такі ўжо далёкі субяседнік, ды і беларускую мову засвоіў няблага. Занадта напраскі? А мы пачытаем яшчэ. Ніна Мацяш умее адначасова данесці водар эпохі, часу — і пазначыць сувязь жывых «клетачак» сусвету: адрозных і аднолькавых у працягу стагоддзяў.

З табой лячу над безданню і кручай,
А неба ззяе — аж вачам балюча,
Ды міг — і ў шчасця зломана крыло...

Гэта таксама Рансар. Ці не цалкам сучасны, неарэчаўлены і таму бессмяротны сэнс. Як і тут:

Канец. Я вычарпаўся: канаваны шлях
Прайшоў увесь, і ймя маё тут прагрымела.

Пяро ляціць да зор —
стаць зоркай ззалацелай
І сцерусіць зямных спакусаў зводны прах.

Шчаслівы той, хто не раджаўся;
шчаслівейшы,
Хто вернецца ў нішто, дзе й быў;
чый кон далейшы —
Анёлам бачыць воблік светлага Хрыста...

А далей чытаю Дзю Бэле. І зноў думкі ў галаве: мадэрнізм, постмадэрнізм. А вось не састарэла за пяць стагоддзяў... І неяк не згадваеш, што гэта беларуская версія французскага слова...

Разгадваць не хачу я таямніц прыроды,
Не мкнуся спасцігаць маркотны дух сусвету,
Не прагну вымяраць прадонняў пракаветных,
Ні высі маляваць у залатых разводах.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Калі тужліва мне, тугу распавядаю,
І радасць вершам я, і тайны давяраю,
Яны — душы маёй давернікі даўно.

Усё вешкі на шляху жывой думкі, аргументы ў такой загадкавай субстанцыі: лірычная магія...

Калі ў раўнанні з Вечнасцю, людское
Жыццё — дня карацей, і кожны год
Адкочвае дні нашы ў незварот,
Калі на тлен скарана ўсё жывое, —

Чаму ж, душа мая, з турмы такое
Не рвешся ты? Чым любы змрочны гнёт?

Змяняюцца часы, змяняюцца ідэі, змяняюцца эстэтычныя арыенціры. Застаецца бессмяротная творчасць жыцця...

З'яўляюцца новыя творцы... У новы час...

І — чалавек, паэтка, перакладчыца Ніна Мацяш — наноў — выбірае... Вось гэтае — дзе «ў цесным суплё-

це, у арганічнай плыні асабістае і грамадскае, сацыяльнае і філасофскае, этычнае і эстэтычнае, у гранічнай адэкватнасці мова, форма і змест». Так пазначае ў сваёй прадмове да кнігі перакладаў паэзіі славутай полькі Віславы Шымборскай Ніна Мацяш. Яна блізкая нашай беларускай паэтцы і сваёй «светлай энергетыкай», і «трагічным досведам спазнанага», і «збавенным духам волі і чалавечнасці» — гэта ўсё прычыны, з якіх даўно і стала, паводле слоў самой Ніны Мацяш, прыцягвае яе творчую і чалавечую ўвагу знакамітая лаўрэатка.

Іду схілам пагорка зазелянелага.
Трава, кветачкі ў траве,
Як на малюнку для дзетак.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Быццам і не было тут ніякіх кембраў, сілураў,
скалаў змрочна-бурклівых,
уздыбленых прорваў,
ніякіх начэй у агні,
дзён у месіве цемры.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Зараз дзевяць трыццаць па мясцоваму часу.
Усё на месцах сваіх і ў паважным даладдзі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Як акінуць вачыма, пануе тут ціша.
Адна з тых зямных хвіляў,
якіх просяць пабыць.

Выдавецтва «Кнігазбор» дало пераклады вершаў Віславы Шымборскай і іх польскія арыгіналы. Калі ласка, параўноўвайце, глядзіце, чытайце, прамаўляйце. Зноў дадамо — не маю гэта на мэце, тут вялікая прастора для даследчыкаў, тэкстолагаў і тэарэтыкаў перакладу, спадзяюся, некалі гэта будзе зроблена (а магчыма, і ўжо нешта робіцца), як і ўвогуле ў дачыненні да беларускай перакладчыцкай школы і яе прадстаўнікоў.

А вось што абавязкова хацелася б адзначыць мне — густоўныя, вытанчана-прывабныя вокладкі кніжачак

«Хвіля» Віславы Шымборскай і «Поры году» Франсуа Жакмэна (рэдактар Міхась Скобла) — таксама ў выдавецтве «Беларускі кнігазбор», з выкарыстаннем пёркаграфіі Ніны Мацяш — і тут непадробны яе талент, непараўнаны (спадзяюся, што неяк з’явіцца альбом гэтых яе твораў). Што датычыць выданняў, на мой асабісты погляд, кнігі недзяржаўных выдавецкіх структур — у мяккіх вокладках (там, у дзяржаўным — грунтоўны лідэрын: памятаю, як размяркоўваліся «паводле рангаў» аўтараў — балакрон, лідэрын, штапель, так званы чацвёрты нумар (кардон). Дык вось, параўнаю: салідны том паэзіі Ніны Мацяш «Паміж усмешкай і слязой», важкі, цяжкі, у шэрым лідэрыне, надзейным, на доўгі час карыстання разлічаным — і згаданыя кнігі... І кніга выдавецтва «Про Хрысто» «Богава дрэва» (рэдактар Хрысціна Лялько, тэхнічны рэдактар Алег Глекаў) — з класічным светлым беларускім краявідам і раскідзістым дрэвам на пярэднім плане... І кнігі берасцейскія: «Багаславі сустрэчу мне», з выкарыстаннем мастацкіх фрагментаў са старадрукаў, і «Я вас люблю...», з невялікім партрэцікам паэткі: такі светлы, незамглёны твар, і «Палёт над жытам»: адухоўленае аблічча Ніны Мацяш — погляд некуды далёка, за даляглядны, у эзатэрычныя вышыні.

А вяртаючыся да перакладаў — то, не ведаю, як мяркуюць франкалінгвісты, а для мяне, мабыць, і не толькі для мяне, з’яўленне Франсуа Жакмэна ў перакладах Ніны Мацяш было сапраўдным адкрыццём слыннага паэта. Менавіта ў яе перастварэннях Франсуа Жакмэна вызначыўся для мяне кандэнсат яго думкі, выштукаваная выбудаванасць вершава-паэтычнай плыні, метамарфозы самапачуцця.

Дух належна збірае ў сабе
Усе ўзнёсласці.
. . . . . . . . . . . . . .
Існаванне ўзвышаецца да
апантанага шчасця.

Або:

Жыццё адпачывае ў гронках
бэзу.

Якая слодычная ўяўнасць! Хвіліннае і вечнае... Паміж імі не такая вялікая дыстанцыя... Скачкі свядомасці. Усведамленне прыналежнасці да незваротнай плыні дзён...

Пачатак канца.

Яго дыханне чутно
ў маўчанні
птушак.
. . . . . . . .
І самае нязграбнае дрэва
ахлынута неразважлівай
элегантнасцю пусткі.

«Элегантнасць пусткі» — і сутнасць жыцця... Дух трагедыйнасці — і мудрае адчуванне наканаванасці быцця... Свайго неаспрэчнага і вызначанага кругабегам натуры шляхам... Судачыненні светаадчування бельгійца Франсуа Жакмэна і беларускі Ніны Мацяш. Чытаем ужо яе вершы:

Смерць — яна не ў кожным разе драма...
Родны дол — абдымкі расхіне,
І ступлю я ў ростул Вечнай Брамы
З краскай той, што мама рвала мне,
З тою песняй, што яна спявала.

...Толькі б ведаць, толькі ведаць мне б,
Што жывы і свет, і жытні хлеб.

Гэтая духоўная і душэўная раўнавага — набытая, выпакутаваная, выснаваная, «здабытая» напружанасцю думкі, працай душы і працай як лекуючай рэальнасцю. Былі ж і такія хвіліны:

...І ён прыйшоў, мой час круты, калі
Уласны цень —
і той мяне пакінуў.

Калі —

...вымерлі пеўчыя птушкі душы,
Сканалі.

«Вымерлі» — каб наноў ажыць, адчуць і пачуць гукі, згадаць, што лепшыя лекі ад цяжкіх рэфлексій — трывалы народны вопыт, вечны і крохкі «грунт» хараства, цвердзь нябёсаў і зямлі.

І выпростваецца сцябліна,
І разгортвае новае сакавітае лісце
У руху да Сутнага!

У тым неад'емным, з чаго — і высакародная дабрата: «Нянавісці ніколі не было», і светлае, узвышанае светаадчуванне: «...ўсё навакола мяне / і ўва мне / прайнялося / Нарэшце-ткі сонцам, / так з'яўленым, / а невідомым...». І ствараўся святочна-незямны настрой:

Ніхто не дзівуецца
лёту майму па-над жытам...

У тым, што ёй, Ніне Мацяш, адкрылася, з чаго: моц, унутраны спеў душы. Вера...

Божа,
Ты й дзеля мяне расхінуў белы свет:
дзякуй!
Вось, расхінаюся й я прад Табою,
растапляюся —
да самастраты...

З Вераю змяняецца карціна свету, асвячаюцца ўсе дробязі жыцця. Пераможная блізкасць Боскага... Вечнае з намі, сярод нас... Ён з намі... Гэта радасна і пераможна мацуецца ў нас, узгараецца нашай любоўю ў адказ.

I сад, і неба — усю раскошу
Пачуццяў, што мяне ўзнялі,
Усё, чым Ты так ухарошыў
Мой дзіўны побыт на зямлі,
Чым вечная душа Твая —
Вярнуць хацела б я ўдвая.

Вярнуць — спасцігаючы ісціны Веры, вызнаючы знешняе, вобразнае бачанне і чыста духоўнае, бязвобразнае, глыбока ўнутранае сузіранне, дзе ёй расчыняюцца вялікія глыбіні любові Божай... Ёй — і тым, за каго яе слова:

Божа Ласкавы, не адрынь,
прыгарні да сябе
нашых знічак!..

Хай набудзецца ім,
колькі схочацца,
у Тваіх іншасветах;
хай да шляху далейшага іхняга
шчодра прыточыцца
радасці
на ўсю скруху
непавянчанага з імі
беларускага лета...

Лета, сярод якіх было і тое, што помніцца толькі адным — адышоў з гэтага свету бацька:

Сягоння Твой апошні дзень зямны.
Тады, у тое нарванае лета
было яшчэ нам невядома гэта:
сягоння
Твой апошні дзень зямны.

І мысліцца гэтым днём — пра бацьку, яго лёс, што неадрыўнае ад яго:

Бы ў родным доме, ў наўскай старане
зноў папрыгадваем з Табой радзіну,

паўглядваемся ў лёс, у крыж Радзімы,
бы ў родным доме, ў наўскай старане.

Гэта прачытваецца як метафара лёсу, як простае, але ўстойлівае, сталае, трывала паяднанае — у акіяне рэчаіснасці, дзе ўсё — прымроенае і ўсё — рэальнае. Як матчыны калыханкі, што найперш помняцца і тады, калі маці, здаецца, ужо і без рэальнага ўзросту і статусу жыццёвага, выдаюць тым, што найперш хацелася б вярнуць маці, пра што згадаць іншым.

Быць разам выпадае нам так мала...
Забудзь трывогу вечную сваю...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Як некалі ты мне, табе спяю.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Любоў нябёсы над табой трымае,
Любоўю зораць дні ў тваім акне.
Прыляж, мая усмешлівая мама,
Спяю табе, як ты спявала мне.

Ніна Мацяш... Паэт, які патрабуе ўдумлівага, настраёвага чытання, падрыхтоўкі інтэлектуальнай і пачуццёвай, паэт нетрыбунны, інтравертны. Ніна Мацяш умее быць па-таварыску прыязнай, не так каб адкрытай, але высакародна-ўважлівай, правідэнцыяльна-мудрай. І да яе маюць сталую творчую, чалавечую, сяброўскую ўвагу... У светлыя і хмурныя гадзіны...

Відаць, з гадамі толькі спасцігаеш
Увесь бясцэнны скарб паняцця: друг.

А якія людзі надавалі ёй сталую ўвагу: Янка Брыль, Васіль Быкаў, Уладзімір Калеснік!

А з кім яна мае даўнія і сталыя творчыя і сяброўскія адносіны: Данута Бічэль, Анатоль Вярцінскі, Алесь Разанаў, Васіль Жуковіч, Уладзімір Арлоў...

«Сябры, мне добра з вамі», — будзе згадваць паэтка і прысвеціць цэлую кнігу вершаў сябрам. І згаданым

ужо, і яшчэ многім: брату Міколу, Алесю Каско, Сяргею Панізніку, літаратурным і нелітаратурным асобам.

Да 50-гадовага юбілею Анатоля Вярцінскага Ніна Мацяш так пачне свой верш:

Вам сёння скажуць шмат харошых слоў,
Для гэтага ёсць не адна прычына.
Прыйду і я — цераз маіх паслоў:
Світальны вецер, зорку, аблачыну.

І зусім іншых «паслоў» абярэ паэтка, віншуючы Алеся Разанава — адпаведна яго таленту надзяляць сутнае формай, яго паэтычным думкам:

Ты так бліскуча творчым шчыраваннем
Умееш земнаванню сэнс надаць!

А якія стасункі ў Ніны Мацяш з яе землякамі і зямлячкамі, са студэнтамі і школьнікамі, ліцэістамі, гімназістамі!

Зайздросная сувязь! З чытачамі! І Ніна Мацяш яе трымае, умацоўвае! Разумее яе неабходнасць і вагу. Ёй ёсць што сказаць ім пры сустрэчах. «Тое, што яны — беларускі народ, тое, што за імі будучыня, тое, што шчаслівым будзе толькі той, хто будзе шукаць сваё шчасце, хто будзе нацыянальна свядомым і годным, хто будзе ўмець пастаяць за сваю культуру і за сваю дзяржаўнасць, хто будзе цяміць, што ён нездарма нарадзіўся на гэтай зямлі, а прыйшоў у гэты свет, каб дасканаліць яго».

Гэта з інтэрв'ю карэспандэнту «Настаўніцкай газеты» Міколу Чэмеру.

Які грамадзянскі гарт, якая цвёрдасць, якая творчая і чалавечая ўпэўненасць! А я разглядаю адсканаваныя адбіткі яе выяўленчых пошукаў — фантазійны ўзор пёркаграфіі і ў нейкім вясновым карагодзе-кругаверці кветы бэзу... Які лірычны і крынічна-адасоблены настрой... Якая яна розная... Шмагранная. І як Пан Бог, выпрабоўваючы пакутамі сваю Абранніцу, надаў ёй не толькі мужнасць і трываласць. Але і ўзвысіў яе

Дарам Хараства, духоўнага і фізічнага, Талентам творчым, Чалавечай спагадай і дабрынёю. Высакароднай Відушчасцю. Кажу гэта, не толькі маючы на ўвазе аддалена-абстрагаваныя ўражанні. Але і — лісты, паштоўкі, адбіткі яе выяўленча-мастакоўскіх твораў. Як яна ўмее — нейкім асобым чуццём зведаўшы — падаць знак у самы роспачны, самы адчайны момант...

І раніцу я пачынаю — можа, і падсвядома — з малітвы і з сустрэчы з Нінай Мацяш: над пісьмовым сталом — вось тая кветка бэзу. А над ёю надпіс: «Ніна Мацяш. Аддавайся жыццю светланосна».

Дэвіз яе жыцця. Знак яе жыцця. Урок яе жыцця...

*P. S.* Якое раптоўна абарвалася ў ноч з 18 на 19 снежня 2008 года...

А на саракавіны мне ўдалося быць у Белаазёрску... Пакланіцца апошняму месцу на зямлі, апошняму прытулку... Сустрэцца з яе роднымі, сябрамі, прыхільнікамі... Наноў адчуць неўміручы чар яе Таленту... Яе прыцягальнасці...

Творчай і чалавечай... Чалавечай і творчай...

Пра гэта хацелася б асобна...

Галіна Скарына... Сяброўка, памочніца, паплечніца...

Творчая сябрына берасцейцаў: Алесь Каско, Мікола Пракаповіч, Генадзь Праневіч... Паспелі нават зрабіць фільм...

Родныя, сваякі... Не проста сёстры, брат, пляменнікі і пляменніцы — людзі духоўна блізкія... Сястра Алена... Якой — высветлілася — таксама Провід даў схільнасць да Паэзіі...

Даўнія сябры з Мінска...

А колькі яе сяброў, творчых прыхільнікаў, людзей, для якіх яе чалавечая годнасць і мужнасць і яе талент, адукаванасць, высакародства былі высокім узорам, вышэйшай мудрасцю...

Яны засталіся... З памяццю яе Паэзіі... Яе Хараства... Яе Незвычайнасці...

# «ХЛЕБ ДЛЯ ДУШЫ МАЕ...»

## *Рыгор Барадулін*

«Пазбягайце подмасцяў, амбонаў, трыбун і п’едэсталаў. Ніколі не адрывайцеся ад зямлі; таму што, толькі стоячы на зямлі, вы зможаце мець прыблізнае ўяўленне пра тое, якая ваша сапраўдная велічыня». Гэтую думку Антоніа Мачада, вымаўленую яго ўлюбёным персанажам, яго філасофска-дыдактычным alter ego, Хуанам дэ Майрэна, нібыта ўвесь час трымае ў галаве Рыгор Барадулін. Яго літаратурнае і грамадскае існаванне вымагаюць і трыбун, і сцэн, і падарожжаў. Але ён абавязкова вяртаецца да зямлі, ды вытоку, да кораня жыцця. «Я — сын зямлі, нашчадак хлебаробаў». Прамоўленае даўно. Дае першаштуршок усім паводзінам — заўсёды. Як жыхару планеты, грамадзяніну Беларусі і Віцебскага краю, як адданаму насельніку Ушаччыны. У які куток ні закіне паэта, адтуль — на Ушаччыну, дадому, да сваіх ваколіц, да сваіх людзей, знаёмых, крэўных, надзейных. «Трэба дома бываць часцей». Дзе «ні адзін не абміне, пагутарыць і распытае». Дзе «нават страшна дыхнуць — маладыя аблокі над Ушаччынай ціха плывуць». Дзе «нечапаныя вішні ў цвеце, якім нецярпіцца зірнуць у студню». Дзе пачыналася дарога... Шлях у жыццё. Шлях у вясёлую навуку паэзіі.

А навука тая пачалася ці не ад калыханак маці. Свядома — ад «галасоў жніўных песень». Ад жаўруковага

празрыста-звоннага спеву. Ад цішыні хутара Верасовачка. Ад водару вясны. Ад колераў восені. Ад Слова любімых настаўнікаў. Ад усяго, чым поўніцца беларуская зямля. Чым поўніцца свет. Ад лусты хлеба і студні пад гарачкай — да плёсаў, матылькоў, месяцовых начэй, зор, яблыневай квецені...

Рыгор Барадулін — пра гэта гаварылася, і неаднойчы, многімі — паэт імпрэсіянісцкага складу. Творца, чые эмоцыі, паэтычная логіка ідуць ад канкрэтыкі з'яў, падзей, асобаў, рэчаў. У гэтым — яго адметнасць, такое перажыванне светапарадку, калі кожны рух душы, кожная з'ява абавязкова набываюць права на пераладжэнне на мову паэзіі, лірычны ці апошнім часам лірычна-філасофскі водгук на жыццё ўкладваецца ў рытмічна-сэнсавыя модусы, а быццё асобы атаясамліваецца з жыццём творчым. У паэта ёсць нязбытная цікавасць да жыцця — ва ўсіх яго праявах. Ён радуецца, сумуе, гняўліва нечым абураецца, саркастычна нешта высмейвае, пакеплівае злёгку над сім-тым, задумваецца — глыбока, аднак, здаецца, не падвяргае сумніву сэнс існавання, не тое каб узносіцца над мітуслівай рэчаіснасцю, але ўмее пабачыць і не стамляецца любіць усё, што на зямлі. Звычайны для паэзіі антрапамарфізм? Ачалавечванне безасабовага? «Безличное — очеловечить...» Так. Але і арбіта паэтычнага існавання Рыгора Барадуліна, дзе свет стыхій і паняццяў, свет прыродных з'яў і побытавых рэчаў у нейкім даўнім суладдзі, паміж імі патаемная згода, нават нейкая дамоўленасць нібыта.

Прыроду ён любіць як паэт і як «сын зямлі», заўважыць і «лісток вушацкай восені», і «васільковы спакой, смутак верасу сіні», і адчуе, як «ціша мокрым аерным вузлом прывязана да возера Пліна», але для таго Рыгору Барадуліну не заўсёды трэба быць на самоце, ён умее адстараніцца, унутрана адасобіцца і на людзях і тут жа падзяліцца з імі сваёй радасцю. Радасцю, што вокамгненна высвеціцца выбухам вобразаў, кветнікам метафар. Моцартыянскі склад таленту... Памятаеце, у фільме «Амадэус» лёгкакрылага і легкадумнага свайго

зяца распякае цешча, а ён даўно не чуе — уся яе роспач, увесь гвалт ужо адышліся ад яго і віруюць у галаве новай мелодыяй. Радасцю — мовілася тут — дарэчы, зусім неабавязкова тою, што праменіць усмешкамі і іскрыцца шчасцем (хаця напачатку было менавіта так: «як захлынуўся ад радасці жаўранак»), дык вось — радасцю: у сэнсе светаадчування, разумення паўнаты быцця, што месціць у сабе многае... І яснату існавання, і горыч, і соль... Тая квінтэсенцыя быцця, што злучана і з рэчавай існасцю свету, і з тым духоўным, ідэальным, чаго прагне істота чалавечая, і са складанымі матэрыямі сусвету, і з Космасам нацыянальным... І з тымі катэгорыямі, што рана ці позна нагадваюць пра сваю неаспрэчнасць і моц: прасторай і часам. На пачатку творчага шляху паэта займала больш першая катэгорыя ва ўсім сваім шматаблiччы, сваёй шматкалёрнасці, бясконцасці варыяцый форм. А чым далей, чым бліжэй немінучая мяжа, калі ўжо зусім не здаецца, што «час — малады нігіліст», а бачны далягляд, «адкуль азірацца позна», тым больш відавочная сумна дыялектычная існасць часу, які ўжо можа дазволіць сабе чорныя жарты і «заўчасна ніцеючы, усміхацца здзекліва», а святочнасць існавання выдае сваю непазбежную наканаванасць: «зорнаю пацярухаю марнасць дзён ападае...».

Барадулін увесь час у руху, у дзеянні, у імклівым творчым імпэце. Ён змяняецца і застаецца верным сабе — як віртуоз-версіфікатар, лірычны філосаф, утаймавальнік слоў, яркі метафарыст. Няўрымслівы, лётны. Нібыта жывы доказ думкі Платона: «...творы разважна-цвярозых саступяць творам палка-няўрымслівых».

Хаця тут — ведаю — шмат хто мне запярэчыць: маўляў, метафарызм зжыў сябе, гэта ўжо ўчарашні дзень, «спакойна-стрыманы выраб узрушаных вершаў...», паводле Верлена, да ўзору. У літаратуры ўвогуле, а ў нас — з вядомых гістарычных прычын — асабліва ёсць гэтае імкненне: не асвойваць новую мастацкую пляцоўку, а будаваць там, дзе папярэдне абавязкова трэба разбурыць. На гэны конт мне ўжо даводзілася пісаць. І спадзяюся

тую гаворку яшчэ весці. Выдатна, што з'яўляюцца новыя школы, што «сусветнае падабенства» размаітае ў сваім выяўленні, а сакральная праўда ўсеадзінства набывае самыя розныя абрысы. У тым, што для беларускай паэзіі цалкам новае і ў тым, што ідзе ад адштурхоўвання ад спадкаемнага, спадчыннага. І — у традыцыйным, здавалася б, вядомым, таксама. Я наўмысля не хачу пазначаць імёны — гаворка сур'ёзная і асобая. А тое, што ў беларускай літаратуры з'яўляюцца грунтоўныя і менш грунтоўныя вопыты асэнсаваць «праўду» быцця, ставячы грунтам адкрыта філасофскі, светапоглядна-каштоўнасны кшталт, адмаўляючыся ад звычаёвага, «прыкладнога» мыслення, сцвярджае зусім не марныя намаганні сённяшняга Адраджэння.

Ведучы ж размову пра Рыгора Барадуліна, пасведчу толькі, з якой шчодрай радасцю ён вітаў таленты, што з'яўляліся на літаратурных даляглядах: Уладзіміра Някляева, Сяргея Законнікава, Леаніда Дранько-Майсюка, Уладзіміра Арлова... Прозвішчы падаюцца адпаведна храналогіі з'яўлення гэтых пісьменнікаў на літаратурных даляглядах. Ды хіба толькі іх...

Кожны з іх пазней па-свойму вызначае свой творчы шлях. Бо кожны па-свойму спасцігае таямніцы законаў свету. Кожны па-свойму меціць быццё і побыт, жыццё і творчасць.

У кожнага свае, толькі яму ўласцівыя адметнасці. У Рыгора Барадуліна — гэта яшчэ і артыстызм, адчуванне гарэзіі існавання, абаяльнасць — як статутная норма паводзінаў. Тое самае, пра што, перафразіраваўшы агульнавядомае, можна сказаць: «Поэт, до кончиков ногтей поэт». Як ён умее ўзрушыць залю, любое атачэнне — афіцыйнае і свойскае. Як ён гаворыць, як ён паводзіць сябе з жанчынамі! — старасвецкая гжэчнасць і сучасны кшталт. А прачытайце ягоныя надпісы на кнігах, якія ён прэзентуе сябрам і знаёмым. Дасціпныя, непадробныя, высакародныя подпісы. З іх можна скласці асобны том — будзе не горшы за іншыя. За яго эпіграмы, між іншым. А тут ён майстар — усім вядома. Прышпіліць — што матылька.

Зрок у Рыгора Барадуліна пільны, востры. Адразу ўхопіць нешта выразнае. «А вось тут яна ўжо не беларуска», — кіне, гледзячы на здымак паэткі-эмігранткі ў сталым узросце. Артыкуляцыя, манера паводзін, стыль жыцця — яны сапраўды паклалі свой выразны адбітак.

Рэакцыя ў паэта — вокамгненная. Часам не паспееш падумаць — а ў яго ўжо чатырохрадкоўе, што джалам пчалы выпісанае. Той самай пчалы, што некалі адзначыла сваё акмэ — «Свята пчалы». Было такое. І пасля таго не стамляецца ён поўніць соты, хаця было-было: і вехаў, і дарог.

І сяброў. За межамі Беларусі імя Барадуліна пасля Быкава — што пароль. «Рыгор!» — і твары свецяцца нейкім успамінам. Івана Антонавіча Брыля ведаюць, так бы мовіць, датычныя да вышэйшых каштоўнасцей хараства. Алеся Разанава — эрудыты і інтэлектуалы. Рыгор Барадулін вядомы прыязна-радасна: па жывых стасунках, па чыстай магіі слова, па мелодыцы вершаў. Па сяброўскай традыцыі шасцідзясятнікаў. Рыгор Барадулін — верны сябар. Згадаю хаця б ягонае сяброўства з Уладзімірам Караткевічам, Міхасём Стральцовым, Анатолем Анікейчыкам... Сяброўства даўжынёю ў жыццё. І даўжэйшае за іх жыццё — думкі, клопат, справы.

А стасункі з Васілём Быкавым... Ці адзін надарыўся «Апалонавы вечар», у якім «водар музыкі і раю» (Рамон Хіменэс)...

...Гледзячы на гэтую жанчыну, мне чамусьці згадваюцца вершы — таксама іспанца: «І пільнуе ружы мае чараўніца, што дыяментамі сны вышывае». Чаму іспанца? Можа, таму, што іспанцаў шмат перакладаў Рыгор Барадулін, — мабыць, бурапенны тэмперамент іх і метафарызм блізкія нашаму паэту. Хаця... Перакладаў ён многа. І Гарсіа Лорку, і Габрыелу Містраль, і Сяргея Ясеніна, і Амара Хаяма... І... Па працавітасці (неаднойчы «пяро... аскароміў прозай»: эсэістычнай, крытычнай, аўтабіяграфічнай) і выбуховай любові да жыцця блізкі быў яму, мабыць, Уладзімір Караткевіч. Літаратурны

равеснік, сябар, чалавек вялікага таленту, дзёрзкі, яркі. Зірніце на іх абодвух — на здымку! Ну, хто яшчэ здольны на такое? Яны нясуць на руках жанчыну — тую самую, што нагадвае мне іспанскія радкі — нясуць, як каралеву, трыумфатарку, валадарыню пачуццяў. У яе светлы, натхнёна-вясёлы твар. Твар жанчыны, якую кахаюць і любяць. І якая ўмее быць каханай і любімай. Больш таго — мае талент быць жонкай паэта. Такімі ж прасветленымі, як пры згадцы пра Барадуліна, рабіліся абліччы тых, хто гаварыў пра яе: «Валя!» — прамаўлялася з захапленнем, пяшчотай і трохі са здзіўленнем. Яна не губляла, па сведчанні многіх-многіх, ні сваёй звычайнай ветлівасці, шляхетнасці, ні іранічнай добразычлівасці — нават калі добрая чарада вясёлых, маладых дыянісійцаў, пасля «вакхических забав», з'яўлялася апоўначы ці ледзь не на золаку на кватэру паэта — у тыя гады, калі «сум яшчэ не прасіўся ў суседзі...». І ў іншыя часы, у зусім не вясёлыя і гуллівыя хвіліны, яна была побач.

Тады, калі была жывая мама Куліна. Галоўная гераіня паэзіі Рыгора Барадуліна. І тады, калі мамы Куліны не стала.

«А мама багіняй была...»

Я не ведаю паэта — прынамсі, у беларускай паэзіі, — які б столькі і так (!) сказаў пра маці. Небыццё і няпамяць — не пра яе. Пра яе — памяць. Матчыны песні, матчына мова, матчына хата. Матчын парог... Ад яго пачынаўся адлік часу.

А Рыгор Барадулін, безумоўна, чалавек часу. І гэта сувязь не толькі з псіхалагічным часам душы (найважнейшы момант!), але і з часам гістарычным, падзейным. І гэта натуральна. Нават такі, здавалася б, спадарожнік вечнасці, як Дантэ, быў гібелінам (прыхільнікам свецкай, а не царкоўнай улады), і паэт чыстай красы Блок спазнаў усе трагедыі свайго часу, і наш Багдановіч, якому заўсёды было цесна ў межах сваёй зямной біяграфіі, залежаў так ці інакш ад рэальнага, храналагічнага часу...

Рыгор Барадулін падкрэсліваў на самым сваім пачатку пантэізм і сваю палітычную незалежнасць. Калі і ёсць,

маўляў, нейкая прыстасаванасць, дык толькі такая: «у вясны палонны». Але ж — і яго «вагон таварны, дрогка тузаў» на цаліне, і ён браў удзел у розных мерапрыемствах і імпрэзах афіцыйнага кшталту. І ён — стаўся адным з актыўных дзеячаў Беларускага Адраджэння. І адным з заснавальнікаў і прэзідэнтам Беларускага ПЭН-Цэнтра. І адным з адданых сяброў БНФ — хаця яшчэ да выбараў прэзідэнцкіх 94-га года былі ўжо відавочныя (мабыць, і Рыгору Барадуліну) пралікі руху як сілы, што мае прыцэл на тое, каб весці палітычны рэй: няўменне расставіць акцэнты, каб мэты партыі былі зразумелыя тым, ад чыіх галасоў залежыць палітычнае лідэрства; чыста культуровы ўхіл, залішняя філалагізацыя: ну, што там сярэднестатыстычнаму грамадзяніну да таго, праз мяккі знак пішацца «свіння» ці не — паляндвіцы з той папяровай свінні не зробіш...

Але Рыгор Барадулін быў сябрам БНФ.

Паэту, чалавеку Рыгору Барадуліну блізкія і высакародныя ідэалы, і гарачы імпэт, і культуровы, філалагічны ўхіл. Чалавеку, для якога літаратура — жыццё, а мова — што «імя ўласнае», слова і пачатак, і канец... «... Адно магчыма — са словам ціха сустрэцца вачыма, чакаць, што на ростань скажа яно».

Зямля. Радзіма. Слова.

Святое. Сваё. Заўсёднае. Як спрадвечны закон жыцця. Дзе няма больш патрэбнага, больш старажытнага занятку, як земляроб. Нездарма сын зямлі Рыгор Барадулін і шлях свой меціць, як аратай, што зямны круг атаясамлівае з земляробчым, адвечным цыклам. «На таку свайго веку». І нездарма, падбіваючы папярэднія рахункі жыццёвыя, пазначаў: «Самым чыстым зернем, самым адборным засталіся маміны словы. З іх хлеб для душы мае...»

Што тут дадаць?

# ЦЯНЁТЫ ВЕЧНАСЦІ І ІДЭЯ БЫЦЦЯ

***Ян Чыквін***

Якая музыка гучыць у лабірынтах душы чалавечай? Якое Боскае майстэрства трэба мець, каб пачуць яе і пазначыць тайнапісам слоў, каб выявіць узніклую ідэю, падняць з глыбіняў свядомасці нейкую прасветленую ісціну?

І як імгненням быцця надаць значэнне мастацкага факта, а каштоўнасці ўсвядомленага сузірання — сутнасць арэчаўлёнага і вытлумачанага ў фразах, гуках, зрокавым выяўленні?

А тым больш — як адчуць чужую духоўную транспазіцыю? Як тоесную і адрозную ад сваёй уласнай? Як унутраны маналог душы і інтэлекту? Ці — хутчэй — як фрагменты, накіды, мастацкія шыфроўкі тых маналогаў?

І ўсё гэта — на фоне рэчаіснасці, складанай і прымітыўнай, прадвызначанай і непрадказальнай, існуючай паводле законаў натуры і гісторыі і паводле штуршкоў стыхій: прыродных катаклізмаў, грамадскіх выбухаў, свядомасных узрушэнняў. На перакрыжаваннях літаратурных рэалій, калі пра аўтара можна меркаваць паводле існуючых эстэтычных крытэрыяў і паводле ўласных законаў творчасці, бо нельга не згадзіцца з адным з вялікіх творцаў: «...кожны паэт будзе ўрэшце ацэньвацца па тым, чаго ён варты быў як крытык (свой уласны)».

...Корань і пачатак асобы Яна Чыквіна — у паэзіі і ў адносінах да сябе ён, падобна, суддзя жорсткі. Але парабалу яго творчасці нельга ўявіць без даследчыцкіх і культуралагічных вопытаў паэта, без разнастайных сведчанняў яго пранікнення ў духоўныя перыпетыі канца другога тысячагоддзя. Духоўныя перыпетыі, што ўвасабляюць у сабе і расклад быцця са спрадвечнымі чалавечымі ўяўленнямі пра дабро і шчасце, засяроджанасцю сэнсаў сусвету, маральнымі каштоўнасцямі, уяўленнямі пра Боскага Тварца, пра «класічны» гуманізм з яго нетрагічным складам — і трагічную, крызісную, катастрафічную свядомасць канца XX стагоддзя, трагічнае жыццеадчуванне, чуццё карэннай бяссэнсіцы існавання, апакаліптычныя знакі канца тысячагоддзя. Да таго ж — усведамленне існавання ў сучаснай цывілізацыі, у арэале культуры свету і Захаду найперш, і складанасць існавання ў памежжы нацыянальных культур, літаратур, моў. У існаванні — калі права на сваю крэўную, беларускую мову трэба абвясціць і адстаяць. І працаваць у тым няпэўным культуровым арэале, які асэнсавана чуе кожны беларускі літаратар: не толькі ў Польшчы, як Ян Чыквін, не толькі ў ЗША, Канадзе ці Брытаніі, але і ў сваёй, так бы мовіць, метраполіі. Бо гістарычная і свядомасная сутнасць нашай нацыі часам пачынае выяўляцца не мацерыковым грунтам, а плынямі, выспамі, ледзь не Атлантыдамі.

Але ж ёсць у нас і нешта вельмі трывалае, каранёвае і разам з тым вяршыннае, духоўнае, што ў самых неспрыяльных умовах усё ж не дае знікнуць таму, паводле Арыстоцеля, духоўнаму, неарэчаўлёнаму, тым эйдасам, ідэям, якія зусім знішчыць, мне здаецца, немагчыма. Але ж доўгія гістарычныя перыяды гвалтоўнага і напорыстага нацыянальнага ўціску прымушаюць кожным разам, з кожнай новай хваляй Адраджэння, даказваць, пераконваць — даводзіць філасофскім, публіцыстычным, мастацкім спосабам — што мы былі, ёсць, будзем.

Безумоўна, яскравае сведчанне трывучасці беларускага слова — не ў сэнсе ўпарадкаванага слоўнага россыпу, а

ў сэнсе існавання літаратараў у пэўнай адзінасутнаснай няўхільнасці, у сваім асабістым творчым быцці, звязаным, аднак, з нацыянальнай ментальнасцю — існаванне беларускіх пісьменнікаў за межамі краіны.

Існаванне Яна Чыквіна... У прыватнасці...

Як постаці самаадметнай, звязанай, згадаю зноў, з культурай Захаду і культурай Беларусі — і як асобы самотнай, самотнай па сутнасці сваёй, са спалучэннем у свядомасці сусветна-значнага і запаветна-асабістага, калі адчуваюцца конадні самаўсведамлення, якое забяспечвае чалавеку каштоўнаснае апірышча, нягледзячы на чараду дасягненняў-страт, збытых сэнсаў, беспрытульнасці ў сусвеце і душэўнай неўладкаванасці ў акаляючай рэчаіснасці. Мушу падкрэсліць — менавіта апірышча, таму што Ян Чыквін з яго пранікліваай увагай да зменлівасці сутнаснага, з яго насцярожанасцю да ўпартай відавочнасці з'яў, з яго даверам-недаверам да побытавага ў шэрагу быційнага, з наплывамі скрушнай трывогі, мае патрэбу — сцверджаную — у сувязі з жыццём сусвету, магчыма, не сусветнай гармоніяй, не ў свяце жыцця на зямлі, не ў светабудове, якую можна прыстасаваць для хатняга ўжытку, — але ў нейкім ураўнаважанні трагічнага і гуманістычнага ў светаразуменні, у пэўнай згодзе з існым.

Ян Чыквін умее шчасліва згадаць — аднлачасова з наівам звычаёвага чалавека і мудрасцю філосафа:

Мы жывём. Якая радасць гэта!  
Мы жывём, як антытэза  
да прадметаў.  
Адчуваючы, мы бачым, ходзім  
Па зялёнай сферы быту.

Разам з ім далучаемся мы да гэтай гадзіны быцця, якая не можа і не хоча змясціцца ў межах біяграфіі, у межах непасрэднага вопыту. Менавіта — быцця, таму што «светлы міг» абавязкова памятае і пра трагічны грунт светапарадку.

Брыдзе па свеце кульгавым
карэннем,
Як факт аўтэнтычны,
канкрэтнае здарэнне.

Ян Чыквін відавочна аддае перавагу нekананічнай прасодыі, а да таго ж выкарыстоўвае філасофскія палы, так бы мовіць, дзеля трываласці вершабудовы: у яго свядомаснае, быційнае і лагічна слоўна аформленае стварае самы стрыжань верша. А ён мае то мройную лірычную падсветку (ці водсвет), то ўспыхвае яснатою метафар, што не пераўтвараюцца ні ў арнаменталістыку, ні ў скамянелыя і самамэтныя версіфікацыйныя паэтызмы.

У звонкім небе дзень растаяў.
Вячэрнім сумам свет накрыты.
Ноч кнігу вечнасці чытае,
Хоць мы ёй пішам
манускрыпты.

Паэт Ян Чыквін не мітусіцца, каб як мага пашырыць кола чытачоў — падкруціць жвава актуаліі, вызначыць высокі публіцыстычны «градус», абавязкова трапіць пад святло крытычных і чытацкіх сафітаў. Ён вядзе размову — не раздумваючы пра мэтазгоднасць, пра непасрэдны водгук, пра вокамгненную рэакцыю. Яго светаканцэпцыя вымагае не просталінейнай логікі, не супастаўлення апавядальна-рацыянальных рэалій, не зверкі пароляў паэтычнага бачання. Тут — хутчэй — вера ў магутнасць Думкі, Пачуцця, Слова, упэўненасць у той магіі ўздзеяння, калі форма і сутнасць уплываюць на свядомасць і падсвядомасць:

Паспрабаваць бяздоння часу
У міг адзін, ў шчыліне-дні,
Калі жыццё стаіць у вачах
Глытком адвечнай цішыні...

Ян Чыквін не тое каб прабіваецца да светаглядна-га сонца Ісціны, але ў яго творчасці адчуваецца пошук

таго, што пазначаюць як вечны сэнс. Таму — і «адвечныя пытанні». Жыццё і смерць. Смерць — і ў тым, характэрным для Яна Чыквіна, абстрагаваным аспекце:

Усё было справядліва ў прыродзе,
Далёка дзесьці была недарэчнасць
Адвечнай смерці,
што прыйдзе і пойдзе,
А ўсё-такі нешта пакіне
на вечнасць.

І ў канкрэтызаваным, нават угрунтаваным у побыт поглядзе. Смерць — як даніна неабходнасці. Смерць — як водгалас паганскага культу. Смерць — як звычайны рытуал будзённшчыны дзён.

У беларускім фальклоры і літаратуры, увогуле ў паэзіі народаў свету нараджэнне, каханне, смерць былі і застаюцца з'явамі касмічнымі, іх нельга пераўтварыць у звычайныя паўсядзённыя з'явы. Народны светапогляд і творы літаратуры, што маюць сваёй перспектывай вечнасць, не ведаюць раздробненага, мізэрнага пачуцця.

У славянаў, у беларусаў у прыватнасці, у нашым прасторава-вызначаным свеце, са сваёй побытавай канкрэтыкай, адна з выяў смерці — смерць вепрука. Жыццёвая неабходнасць. Звычайная з'ява. Побыт. І — подых засвятовага, пазабаковага. Калі задумацца — з'ява, што цалкам пярэчыць натуры. Ян Чыквін задумваецца — не на ўзроўні ўчынкаў вегетарыянца, а як чалавек, што дапытваецца вышэйшай мудрасці і вышэйшай яснасці.

Смерць — што сталася будзённым дзействам. Недарэчнасць і неаспрэчнасць. Паэт не спрабуе выдаваць пратэсты гэтай завядзёнцы, гэтай няўхільнай неабходнасці, толькі цяжка і змрочна мысліць. Абрад (!) смерці — «сцякае кроў з галоў кароў», «дварняга пёс з чужых касцей злосна чытае свой лёс».

Тут можна прыгадваць, выстройваць доўгі шэраг асацыяцый — і з беларускімі, і з небеларускімі пісьменнікамі. Згадаць найперш класічнае «Смаленне вепрука» Міхася Стральцова з яго метафарай лёсу.

Аднак я гартаю старонкі кніг Яна Чыквіна. І цягну нітку яго роздуму: пра «траву забыцця», траву атруты памяці духоўнай, пра «сонечную дарогу змяркання», пра «паўднёвае сонца на плячах», пра тое, як «з неба знімем пазалоту» і «шэптам песціць будзем потым свае прывіды, мары, узлёты...».

Імкненне да чароўнай і трагічнай гармоніі сапраўднага жыцця, яго «цёплыя фарбы»...

А вось — тая ж і зусім іншая танальнасць, тое ж і іншае літаратурнае быццё:

...хтосьці магутнаю сілай
Ляскаў чужымі варотамі.

Быццам душу адчынялі,
Каб вытрасці голае цела.
Быццам сумленне ірвалі
Рукою здранцвелай.

Калі ўжыць спосаб эстэтычнага мадэлявання, які выкарыстоўвае сам Ян Чыквін, ідучы за Умберта Эка і маючы на ўвазе, як даследчык, што «адкрытае еўрапейскае мастацтва» — гэта «неакрэсленая шматразовасць значэнняў», «шматзначнасць паэтыкі», скарыстанне «ідэі аморфнасці, хаосу, выпадковасці, неакрэсленасці творчых намераў», дык ён, мабыць, як і згаданыя ім Алесь Разанаў, Надзея Артымовіч, Янка Юхнавец, ідзе ў гэтым «авангардзе беларускай паэзіі, сугучнай з магістральным шляхам развіцця “адкрытага еўрапейскага мастацтва”». На маю суб’ектыўную думку, блізкія да гэтай плыні і сённяшні Уладзімір Някляеў, і філасофска-лірычная рытмізаваная проза Уладзіміра Арлова, і многае з паэтычных вопытаў Людмілы Рублеўскай і Людкі Сільновай.

...Ян Чыквін адстараняецца ад прагматычна вызнанага, прыземленага, забытоўленага вопыту, эмпірычная тканіна свету для яго выдае чужым арыенцірам, каардынаты яго творчасці — у пошуку-вынаходніцтве, у разуменні перастварэння свядомасці, у «звышпрыроднасці» ўяўленняў. І рэаліі рэчаіснасці ўзнікаюць у яго паэзіі, але гэта не

традыцыйны пейзажны слоўны жывапіс. І хаця там прысутнічаюць лугі, кветкі, дрэвы — яны хутчэй знакі трывогі, горычы, разрыўковасці жыццёвых сіл: «Вечар вандроўны на дрэвах павіс, / Морак сабачыцца ў чэраве вуліц. / На вешалцы дзён у мой жыццяпіс / Сумненне ўпрадзе мо мысль-велямудрасць?»

Трывога, горыч — так, але гэта не тая імпульсіўная, узбуджаная нервовасць, уласцівая аўтахарактарыстычным паэтам, не тое, што можна было б прыняць за сканцэнтраванасць на стане сваёй душы — гэта нешта куды больш шматслойнае, шматзначнае, тут перакрыжоўваюцца і цяжкая структура свету, і законы светабудовы, і пункціры асобных лёсаў. І абыякава-адчужаная маўклівасць сутнага:

Старэе дзень! Як чарнавік,
гарыць
І спапяляецца ў труху
феномен дня.

І — «хвароба духу ўсяго XX стагоддзя» (А. Камю):

Ідэі пастарэлі, і пастарэла радасць,
боль душы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Старэе дзень! Старэе сон,
старэе дух...

Ян Чыквін відавочна перагукаецца думкай і адчуваннем са светапоглядамі М. Хайдэгера, А. Бергсона, Ж.-П. Сартра, А. Камю, Э. Фрома. Але, падобна, яму не чужы і гегелеўскі пастулат, паводле якога «схаваная сутнасць сусвету не валодае сілай, якая магла б вызначыць супрацьборства дзёрзкасці пазнання» Духу касмічнага станаўлення асобы, прыналежнай да роду людскога. Відавочна, таму ў паэта Яна Чыквіна «вада амывае душэўную непагоду», каб «развязаць вузельчыкі жыцця» ў эзатэрычнай прасторы паміж палюсамі: імкненне да яснасці — цемра сусвету. Расчараванне і адчуванне

няпэўнасці перад прасторай сусветнай бездані, што адвечна хавала і будзе хаваць свае недамоўкі і таямніцы, у паэта і даследчыка Яна Чыквіна маюць і іншы полюс: жаданне вызваліць ядро ісціны са шкарлупіння бачнасцяў.

Нашто, нашто ўзірацца
нам у вечныя агні,
Калі пайшоў ад нас Стваральнік
чыстай дабрыні?
Перад той вечнасцю — рухомай,
непасціжнай —
Збірае розум моц сваю і сілу...

А часам думка паэта прарываецца простым, звычаёвым сюжэтам, за якім, праўда, адчуваецца і ўнутраны, лірычны: «Як прыемна ісці па чужым горадзе без спеху, Спраў не маючы і ніякіх клункаў, Паддаючыся салодкадымнай плыні вуліц...»

Далягляды паэта Яна Чыквіна — няпэўныя, мройныя, гістарычны грунт культур пачынае раптам размывацца і расслойвацца, а свядомасць то задыхаецца ў разрэджаным паветры чыстай логікі, то патанае ў перанасычанай прасторы духоўна-ідэалагічных павеваў, то грузне ў магме сучасных і несучасных філасофскіх плыняў. Але паэта ніколі не прываблівае класавая, сацыяльная семантыка. Затое вольны Логас умее раптам выбухнуць нечаканым парадоксам:

Хацеў зрабіць крэсла —
Элегантны прадмет
Для вольнага чалавека.

Але выйшла шыбеніца.

Вечныя каштоўнасці не аспрэчваюцца, а гэтыя зрывы ўстойлівага жыццеадчування, безумоўна, маюць свядомасны грунт не толькі на агульным гістарычным і свядомасным фоне. І гэта не разгублены розум, які знянацку заспелі «праклятыя пытанні» побач з вечнымі ісцінамі і

неадкладным клопатам дня. І калі паэт Ян Чыквін рэзка мяняе рэгістры — гэта натуральная, унутраная кантраснасць адчуванняў, псіхалагічныя фрагменты светабачання, мысленне рознымі мастацкімі рэаліямі.

А вось як даследчык Ян Чыквін, здаецца, свядома ідзе на эксперымент. Даследчыка Яна Чыквіна чытач на Беларусі ведае па часопісных публікацыях, у прыватнасці, па адным з самых самахарактарыстычных дыялогаў, якія мне даводзілася чытаць, размове з польскай даследчыцай Тэрэзай Занеўскай — у часопісе «Крыніца». Па кнізе «Далёкія і блізкія». Шчыра кажучы, узялася за пяро з нагоды прачытання гэтай працы, аднак здарылася так, што амаль адначасова леглі на стол кнігі паэзіі Яна Чыквіна — «Кругавая чара» і «Odpoczynek przy wyschniętym zrodle» («Адпачынак каля высахлай крыніцы»), і ўладная мастацкая рэальнасць павяла за сабой, прымусіўшы зноў паглядзець і даўнія выданні паэта: «Светлы міг», да ўзору. І — распачаць вольны аповед. З нагоды. І з духоўнай патрэбы. Што з'явілася яшчэ да таго, як літаратурная постаць Яна Чыквіна апынулася ледзь не ў цэнтры ўвагі ўсіх друкаваных выданняў Беларусі.

Выбар праблематыкі кнігі «Далёкія і блізкія» — невыпадковы: беларускае замежжа. Яну Чыквіну цікавы гэты арэал нашага прыгожага пісьменства — як непасрэднаму прадстаўніку адной з беларускіх дыяспар, як чалавеку, што выхоўваўся на беларускім слове — і ў памежжы моў, на беларускай культуры — і ў сумежжы культур.

Невыпадковы і выбар персаналій — гэта перш-наперш тыя самыя, блізкія яму светапоглядна, ладам мыслення і вершаскладу Янка Юхнавец і Надзея Артымовіч. Наталля Арсеннева — адна з самых прывабных і вядома-невядомых асоб беларускага замежжа. Масей Сяднёў — літаратар, да якога проста цягнуцца журналісты і даследчыкі. Кастусь Акула — постаць каларытная, увесь — у таямніцах біяграфіі. Сакрат Яновіч — калега, саўдзельнік па дзейнасці ў літаратурным аб'яднанні «Белавежа» ў Беластоку. Ларыса Геніюш — драма жыцця і творчасці якой не можа нікога пакінуць абыякавым.

Творчы партрэт — жанр, што ў нечым абмяжоўвае, а ў нечым дае шырокія магчымасці. Магчымасці — выявіць свае схільнасці і даць характарыстыку чужой творчасці, адначасова нібыта аналізуючы і ўласныя паэтычныя вопыты. Грунтоўна разглядаючы творчасць, кінуўшы позірк, даўшы пуантылісцкі абрыс... Нарыс, замалёўка, эстэтычны экспромт...

Ян Чыквін — з прагай даследчыка і аднаго з першаадкрывальнікаў, з імпэтам чалавека, што чуе роднасную душу і радуецца перагуку настрояў, з натхненнем паэта, што спрабуе падысці да чужога з такімі ж высокімі крытэрыямі, як да сваіх уласных твораў, вядзе гаворку пра Янку Юхнаўца і Надзею Артымовіч. Гаворку, дзе відаць эрудыцыя, тэарэтычна-філасофская заглыбленасць Яна Чыквіна, які адмаўляе спосаб лінейных, спрошчаных уяўленняў пра літаратуру і творчую асобу і ідзе ад стэрэаскапічнага, аб'ёмнага асэнсавання. Ян Чыквін бачыць паэзію Янкі Юхнаўца — як выяўленне свядомай філасофіі паэта, як спраўджванне яго мастацкай натуры, як пошук «жывой еднасці ўсяго з усім». І — як драму творцы, для якога заходнееўрапейская філасофія (прынамсі — экзістэнцыялізм, шапенгаўэраўская вітальнасць, ідэі Тэяра дэ Шардэна) і літаратура (Ш. Бадлер, В. Шэкспір, Г. Гейнэ, Э. Паўнд, Р.-М. Рыльке) былі вызначальнымі, але творчыя ідэі выяўляліся ў родным слове і ў сваім вызнаным напрамку, званым паэтам асацыізмам, — гэтыя творчыя спробы адразу зазналі неразуменне суайчыннікаў за мяжой. Паэт застаўся па-за ўвагай складальнікаў анталогіі беларускай эміграцкай паэзіі «Ля чужых берагоў»: «...не ўпісалі», бо, мабыць, «замадэрны».

Я нездарма прыпынілася менавіта на гэтым творчым партрэце. Памятаю, як цяжка прабіваўся ў нас Алесь Разанаў, калі насмеліўся «перакрэсліць і нанава пачаць». Прыгадваю свае «штудыі» эміграцкай прэсы — мяне здзівіў, калі мець на ўвазе эстэтычныя варункі, нават не традыцыяналізм, а нейкі закаснелы кансерватызм.

Таму гэтыя масты паміж Алесем Разанавым — у нас, Янам Чыквіным — у Польшчы, Янкам Юхнаўцом — у Амерыцы — надзвычай важныя свядомасна. Як і паралельнае «адкрыццё» Янкі Юхнаўца часопісам «Крыніца», а да таго — выдавецтвам «Мастацкая літаратура», дзе пад рэдакцыяй Уладзіміра Арлова выйшла кніга паэта «Сны на чужыне».

Гэта важна — як і ўваход у літаратурны ўжытак паэзіі Надзеі Артымовіч, «адной з арыгінальнейшых беларускіх паэтэс нашага часу», як пазначае Ян Чыквін, грунтуючы доказамі гэтую немаргінальную літаратурную з'яву.

А на фоне чыста эмацыянальных допісаў — з пафасам піэтызму ці адмаўлення — выразна вылучаецца нарыс Яна Чыквіна пра Наталлю Арсенневу — акадэмічна грунтоўны, глыбока аналітычны, з пачуццём такту і дакладнасцю думкі. Гэта духоўны партрэт паэткі, дзе даследчыка перш-наперш цікавіць мастацкая прырода асобы.

У выпадку ж з Кастусём Акулам, допісы пра якога багатыя на рызыкоўныя здагадкі і нараканні, Ян Чыквін выкарыстоўвае досыць спрэчны, але фактаграфічна пераканаўчы метад: ён дае слова самому пісьменніку і адыходзіць ад падсумоўвання ці аналізу звестак творчай біяграфіі і жыццяпісных варункаў.

Ян Чыквін эксперыментуе — і яго цікавяць перыпетыі творчага лёсу суайчыннікаў-літаратараў за межамі Беларусі. Ён дапытліва ўзіраецца — як удаецца спраўдзіць сябе і як проста застацца незаангажаваным: сам-насам з сабою, сваім творчым вопытам. І паэт і даследчык Ян Чыквін распавядзе пра няспраўджанасць творчых магчымасцяў сына Ларысы Геніюш — Юркі Геніюша, пра яго загадкавы лёс. Згадвае і аб няпростых творчых пуцявінах паэтаў Яшы Бурша, Міхася Шаховіча, пра «самотніка ў свеце рэчаў» Уладзіміра Гайдука... Нешматслоўна, накідам — нібыта запрашаючы звярнуцца да старонак вершаў гэтых паэтаў. І проста — нагадваючы, як цяжка быць беларускім паэтам... У пэўных абставінах,

на пэўным гістарычным і геаграфічным фоне... Фон, праўда, Ян Чыквін падае больш штрыхамі, аднак ён адчуваецца — часам як прастора для выяўлення духоўных магчымасцяў, часам — як цяжар і няўладзіца абставін і жыццёвых варункаў...

Можа, ад таго, ад радаснай здзіўленасці жыццястойкасцю Масея Сяднёва, ад самаахвярнай вернасці пісьменніка беларускаму слову — і такая высокая ацэнка Яна Чыквіна: «непераўзыдзены»? Хаця — тое ж сцвярджаюць многія... Магчыма, тут нейкая мая асабістая эстэтычная глухата — чытала тое, што было надрукавана ў нас: хоць памры, не магу знайсці тэкстуальнага пацвярджэння таму месцу на беларускім Парнасе, куды настойліва ўзносяць яго калегі-літаратары. Верагодна, тут яшчэ і ўплыў асабістай абаяльнасці чалавека? Але я не ведала асабіста Масея Сяднёва.

Больш па друку я ведаю і Сакрата Яновіча — хаця яго вострыя выступленні даводзілася чуць, меліся і сякіятакія дзелавыя кантакты, больш пражэкты. І тут, мабыць, партрэт, створаны Янам Чыквіным, неяк размываецца ў калектыўнай выяве «польскіх» беларусаў. Хаця, на маю суб'ектыўную думку, Сакрат Яновіч — чалавек надзвычай выразнай, яркай, саркастычнай вобразнай думкі — прадстаўнік той плыні, дзе ў беларускай літаратуры асабліва таленавіта выявіў сябе Андрэй Мрый і так удала пачынаў Рыгор Семашкевіч.

Аднак гэта мае прыватныя ўражанні, эстэтычныя несупадзенні.

А парабала творчасці Яна Чыквіна вымалёўваецца вельмі цікавая, і ён застаецца для нас (як ён згадвае, і для сябе) «фенаменалагічнай загадкай», асобай, што, змяняючыся, «захоўвае ўсё-такі нейкую канстанту, нейкі стрыжань тоеснасці, што распаўсюджваецца... таксама на ўяўленне і ўражлівасць».

Увага ж да яго творчай асобы вельмі розных літаратараў, узровень гаворкі сведчаць пра тое, што ён заняў сваё месца ў нашай духоўнай прасторы. Яго

літаратурнае быццё, светапоглядная споведзь — у вершах і даследчыцкіх вопытах, вольны, ненаўмысны лад яго творчасці, без вузка зразуметай традыцыйнасці і без прынукі адваротнай логікі, якую абвяшчаюць мастацкім прынцыпам, — яны відавочна запаўняюць прагалы нашай культуры. Дзе — пад знакам пярэчання, дзе — толькі нагадваючы пра вопыт душы, але заўсёды адчуваючы цень і святло цянётаў вечнасці і спрабуючы выснаваць сваю ідэю быцця.

## ШЛЯХ У НЕАБСЯЖНАЕ

### *Алесь Разанаў*

Вялікая сусветная сувязь з'яў і рэчаў... Не тая сувязь абставін атачэння і лінейнага часу, што падпарадкоўвае сабе чалавека абыдзённай свядомасці, не прыватнае ўзаемаспалучэнне ўчынкаў і падзей, не эмпірыка жыццёвага шляху, а выснаваны асабовасцю і адметнасцю творцы перагук з неабсяжнасцю светабудовы, з пазасветным («запредельным»), з глыбінямі пазнання і эзатэрычнымі вышынямі сусветнай думкі.

Менавіта гэтая сувязь адчуваецца ў творчасці Алеся Разанава. Менавіта такія каардынаты быццам пазначыў ён сабе. Хаця — пазначыў — не зусім дакладна. У творцы гэтага складу адчужанасць, адстароненасць духу даюць такую волю выяўлення і самавызначэння, што часам яны атаясамліваюцца з поўным адстараненнем асабістай волі ў творчасці, калі факт пазнання і чыннік дзейснасці сыходзяцца ў адным стваральным моманце. Калі мастак — не толькі суб'ект, што выконвае нейкае дзейства, але і аб'ект, рухомы моцай свайго дару. Памятаеце, у фільме Формана «Амадэус» ёсць такі эпізод: цешча распякае Моцарта, той спачатку слухае яе, а потым у галаве яго ўзнікае вірлівая арыя. І ён чуе толькі яе, арыю.

Прырода дару А. Разанава, безумоўна, зусім іншая — калі згадваць вяршыні, ён бліжэй да Гегеля ці Баха, аднак

гаворка не пра тое: пра сутнасць творчага выяўлення. Выяўлення, для якога ўласцівы не эмпірычны, а розумаспасцігальны характар засваення рэчаіснасці. А суадносіны паміж гэтымі формамі засваення, паводле Канта і Шапенгаўэра, павінны адпавядаць адносінам свету вопыту да свету магчымага. І гістарычная рэчаіснасць у лінейным часе ніколі не выяўляе эпоху так, як гэта дадзена тварэннем духу. А якія б драмы ні адбываліся на падмосцях сусветнай сцэны, гэты творца застаецца залежны не ад гістарычных сюжэтаў і фабул, а ад схем касмічных эпох.

Калі не безумоўна, дык хутчэй за ўсё А. Разанаў ніколі не будзе тым паэтам, якога чытаюць шырокія масы, але станецца — стаўся — праявай духу, што пазнавальная і вызначальная для тых, каму наканавана адчуваць увасобленую ў мастацкай тэкстуры волю Творцы сусвету. Для тых, хто шукае Ісціну, для каго мастацтва, Art — вышэйшае празарэнне, а паэзія — спасціжэнне свету праз спазнаванне чалавека, далучэнне да сусветнай таямніцы. У сваёй Айчыне і за яе межамі.

Зазвычай прынята, ведучы гаворку пра А. Разанава, пазначаць рэзкі паварот у яго творчасці, падмацоўваючы думку словамі паэта: «перакрэсліць і нанава пачаць». Мне ўжо даводзілася згадваць — А. Разанаў сапраўды ўвесь час шукае спосабы свайго быційнага, свядомаснага і мастакоўскага выяўлення. Аднак — у рэчышчы сваіх філасофскіх і паэтычных прынцыпаў. Яго цікавіць сэнс рэчаў, рэчываў і з’яў, іх магутная і адчужаная сутнасць. Ён не бярэ ў разлік не толькі паэзію дыдактычную, гістарычную і этычную (тое, што можна распавесці прозай), але і паэзію чыста лірычнага кшталту, дзе эмпірычнае пазнанне спалучаецца з эмоцыямі і гармоніяй класічнага вершаскладання.

Ад самага пачатку А. Разанаў рыхтуе прарыў у іншыя вымярэнні, салідарызуючыся з творцамі, што высвечваюць патаемныя нетры сутнаснага. Так, яшчэ рыфмаваны радок, паводле ўсіх канонаў рэгулярнага верша. Аднак — не ад маладога наіву або стыхійнага пачуцця ці

выштукаванай фантазіі. Моўленае — хутчэй ад навукі, ад законаў фізікі: «І білі звонкія ранеты, / Па выпадковай галаве. / А адкрыццё брыло начамі / Пад гонам рэчак і асін / У выпадковасці адчайнай / Невыпадковае зусім».

Знешне тут нібыта няма адкрытага выкліку Арыстоцелевай выснове «прыпадабнення прыродзе», што стагоддзі лічылі адзіна магчымым мастацкім законам для літаратара, мастака, кампазітара. Ды і А. Разанаў, зразумела, у 70-я гады XX стагоддзя быў ужо далёка не першы, хто парушыў класічныя каноны. Ад канца XIX — пачатку XX стагоддзя складана нават пералічыць творцаў, што так званы рэгулярны верш лічылі толькі адным з магчымых. Вольны верш, белы, версэт, верш у прозе — варыяцый безліч. Безліч і творцаў — Шарль Бадлер, Арцюр Рэмбо, Блэз Сандрар, Гіём Апалінэр, Велімір Хлебнікаў, Сальваторэ Квазімода, Нурдаль Грыг... Пералік можна доўжыць і доўжыць...

З А. Разанавым, дарэчы, адбылося тое, што здаралася з многімі творцамі. Яго абвінавачвалі ў несамавітым праходжанні даўно зведанага еўрапейскімі літаратарамі, у зламыснай нетрадыцыйнасці (маўляў, беларускай літаратуры не ўласцівы такі стыль мыслення і пісьма), у вандраванні па цёмных лабірынтах і закутках хворай свядомасці. (Гісторыі літаратуры гэта вядома — згадаем хаця б творчы лёс «праклятых» паэтаў, закіды Буніну ў перайманні Тургенева, парады Чэхаву мець за ўзор Патапенку, трагічную лінію шляху Хлебнікава...)

Сёння ў А. Разанава вызначыліся не толькі быційныя каардынаты, але і каштоўнасныя значнасці творчага і жыццёвага накірунку. Вядомы паэт, мэтр, пачынальнік пэўнай школы ў беларускай літаратуры (усё змяняецца — некалі яго незабыўны настаўнік Уладзімір Калеснік упэўнена гаварыў, праўда, трошкі ў іншым кантэксце: сам сабе школа, сам сабе напрамак), А. Разанаў — мысляр, філосаф, дзеяч Адраджэння, асветнік... Быў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Крыніца», віцэ-прэзідэнтам Беларускага ПЭН-цэнтра. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы... Перакладае ён, перакладаюць яго...

Згадаць тымчасовыя жарсці імкнуся не толькі таму, што А. Разанаў мае цвёрды характар — выстаяў, перамог. Не толькі таму, што яго падтрымалі самыя розныя літаратары і дзеячы культуры, чытачы — найбольш мастакі, навукоўцы, студэнты, што ў падтрымку паэта наладжваліся імпрэзы, і змястоўныя.

Мелася адбыцца вось тое неадпрэчнае, вызначальнае — пра што вялася гаворка напачатку: як творца ён падпарадкаваны Вышэйшаму Інстынкту (Наитию), яго літаратурнае быццё выснавана ім, але і шчасліва залежнае ад яго духоўнага, мастакоўскага складу.

Кірунак сваёй творчасці А. Разанаў пазначыў адразу. Створанае — павінна быць тоеснае асобе. А асоба — згадаем — глыбокая, шматаблічная. Асоба, у якой крытычны розум спалучаны з паэтычным дарам, разлік — з містыкай, нюансіроўка здагадак з жорсткай інжынерыяй дакладнасці.

Вызначальным і неадменным стаўся для творчасці А. Разанава і нацыянальны аспект. Але гэты нацыянальны аспект мае на ўвазе знаходжанне ў кантэксце еўрапейскай, у кантэксце сусветнай літаратуры.

Калі мы прасочым шлях А. Разанава — пазначым мноства эксперыментаў, ад творчай супольнасці думкі, выявы і слова — разам з мастаком Віктарам Маркаўцом да перастварэння паэтычных тэкстаў Веліміра Хлебнікава і Надзеі Артымовіч на мову сваіх уяўленняў, аднак заўсёды заставалася глыбінная, сталая зацікаўленасць нацыянальным, беларускім. Ад волескіраваных, пазбаўленых механікі эфектаў згадак пра Максіма Багдановіча, Цётку, Лазара Богшу ў «Каардынатах быцця» і «Шляху-360» і ўтварэння традыцыйна-нетрадыцыйных постацяў Тэклі і паляўнічага Сурмача (тамсама) да перастварэння старапольскіх і старабеларускіх тэкстаў Мялеція Смятрыцкага, Васіля Цяпінскага, Францішка Скарыны, Кірылы Транквіліёна-Стаўравецкага на сучасную беларускую мову і пазначэння словам месца і значэння ў беларускім свядомасным і культуровым абсягу Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча і іншых.

Арганічнае існаванне беларускай думкі і слова ў еўрапейскай і сусветнай культуровай супольнасці А. Разанаў найперш даводзіць сваім уласным паэтычным вопытам, а таксама перакладамі найбольш блізкіх яму па стылі мастацкага мыслення паэтаў: Чэслава Мілаша, Басё, Ёжэ Удовіча, Элькэ Эрб, Улдыса Берзіньша, Марцэліуса Марцінайціса, Сігітаса Гяды і інш. І, безумоўна, былой практыкай часопіса «Крыніца», дзе межавалі творы старадаўнія і сучасныя, замежныя і беларускія, дзе падавалася своеасаблівая панарама існавання і суіснавання літаратур. Пазней ён дачыніць да гэтага пераклады з нямецкай мовы і *свае* творы — на нямецкай.

Хачу спасцігнуць сэнс
Нябыту і быцця і прызначэння, —

абвясціў некалі ў «Паэме жніва» (зб. «Каардынаты быцця») А. Разанаў. Прызнанне досыць адкрытае і патрабавала падмацавання вопытам. І паэт вызначае каардынаты існавання: «Наблізілася рэчаіснасць, узноўленая праз мяне», «Няўжо рэчаіснасць — толькі дрэвы і небасхіл, замкнёныя кругазваротам». Не, гэта «назыўны» свет відавочнага, берагі чалавечага светаўспрымання — толькі сыравіна назіранняў, дакументальна-інфармацыйная зрокавая рэальнасць. Гэта аднапалінейны і аднанакіраваны свет, законы якога цікавыя А. Разанаву толькі побач з іншымі, з касмічным самаажыццяўленнем жыцця, з метафізікай існага, з мудрым наканаваннем нябёсаў.

«А там... як мог яго раней не заўважаць я, чаму не заўважаў яго раней?! — свяціўся незнішчальны голас Сэнсу...» А. Разанаву сямідзясятых гадоў чуўся не толькі «голас Сэнсу», паэт улоўліваў пазыўныя рэчаіснасці, часам нават публіцыстычна канкрэтна: «экскаватарнае нашэсце», «рассякаюцца краявіды, выпрамляецца кожны штрых», «у балоце глухім валхвуе экскаваташчык Абравец», хаця паэт імкнуўся перавесці мову вершаванай дакументалістыкі на мову філасофскага

роздуму: «Наганяючы небыццё, навастрыліся аэрадромы...», «Сітуацыя разбурэння», «Як пакутна ісці па сапраўднасці».

Сапраўднасць выяўляецца вопытам перажыванняў, якія, аднак, не вынікаюць лірычным сэнсавыпраменьваннем, рухі душы выяўляюцца напружаным рытмам свядомасці: «Я прагнуў дасканаласці тваёй, адданасці тваёй, адданасці — не мне: ідэі... тайне... — якую у вачах тваіх чытаў...» І далей: «... у зялёна-жаноцкай вёсцы расце дзяўчынка мая вучаніца, расце, пакідаючы: не застане... к чаму вяртаецца — не застане... І так глядзяць вочы блакітна, быццам са смерці, на вольнае ззянне плыні...».

Каб выратавацца, трэба пашырыць межы свядомасці, зірнуць на свет у іншым ракурсе. Інакш непазбежны такі трагедыйны варыянт: «Мёртвыя зоры звалены ў лабірынце. Цёмна і страшна. Малітвы спазняюцца». І несупынна вярэдзіць пытанне: «Кім я ёсць?! І кім не ёсць?!». Класічная антыномія ад першасутнаснай быційнай няўхільнасці. Дарэчы тут згадаць, што А. Разанаў, безумоўна, глыбока і творча займаўся філасофіяй: і антычнымі школамі, і старажытнаўсходнімі вучэннямі, і класічнай нямецкай філасофіяй, і філасофскай думкай часоў Класіцызму і Асветніцтва ў Францыі і Англіі, і сучаснымі філасофскімі плынямі (маю на ўвазе XX стагоддзе)... Меў схільнасць да ідэй Рэрыха... Падобна, заўсёды меў у сваім інтэлектуальным і пачуццёвым вопыце Біблію. Сцвярджаю гэта — перш-наперш паводле яго творчых учынкаў і прыхільнасцяў, а таксама з пэўнага ведання кругу чытання А. Разанава ў нейкія перыяды яго жыцця: шляхі нашы перасякаліся і на працы ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» (працавалі ў адной рэдакцыі), і ў бібліятэках (давялося неяк амаль адначасова чытаць на польскай мове Кіркегора, якога пераклаў — не больш і не менш — Яраслаў Івашкевіч). Некалі А. Разанаў меў на мэце і прафесійныя заняткі філасофіяй; тут наша навука шмат згубіла, затое набыла літаратура. Зрэшты — і навука таксама.

А паэт Алесь Разанаў і мысляр Алесь Разанаў замест таго, каб ствараць катэгарыяльныя каркасы вучэнняў у

чыстым выглядзе або высноўваць чыстыя канцэпцыі, ён, як большасць творцаў нашага стагоддзя, задумваецца над спрадвечнымі чалавечымі пытаннямі, над самавызначэннем асобы ў свеце, над надсветна-сакральным засяроджаннем сэнсаў сусвету — словам, па-філасофску не выкрышталізаваным, мройліва-шматзначным, адчуваючы сябе вольна ў духоўнай прасторы часу. «Пайшоў адзін, але не адзінокі», «Я той, хто шлях і хто па ім ідзе», «Я не адзінокі, Я адпаведны...», «Час завязаўся ў паўтор», «У снега прысмак тугі; ён мамаю асаблівы. Ён асаблівы мной: блукаю ў яго завеі...».

А. Разанаў карыстаецца словам. Адчувае ён яго шматзначна, шматгранна, імкнецца вылушчыць са звычнага семантычнага і фанетычнага раду, адчуць яго ў патаемнай сувязі псіхічных і слыхавых раздражняльнікаў, у спалучэнні гукаў і сэнсаў, выявіць у ім нейкую асобую сістэму, якая можа ствараць паэзію. Ён імкнецца раскрыць у слове яго патаемныя магчымасці, адгадаць, адчуць сутнасныя аналогіі. Гук — і Думка, Думка — і Сэнс Гука.

І паэт аддае перавагу магіі слова, а не чару яго, не чароўнасці гучання. (Нездарма А. Разанаў так пільна цікавіўся фальклорам, чарадзейным уплывам замоў). Адзін з яго твораў так і называецца — «Вучань чараўніка»: «Не ўтрываўшы, я адгарнуў наступную старонку... «Ліхнаэль, Весмалон, Гермашур, Мэмрагай...» — я чытаю, спяшаюся, няўцямныя словы-імёны той старой таямнічай кнігі, якую на часіну даверыў мне мой настаўнік... А на дварэ раптам цямнее, як пры змярканні... Я баюся таго, што ведаю. За вокнамі маёй свядомасці цёмныя крыкі».

Аднак найперш А. Разанаў усё ж імкнецца да засяроджанасці Ісціны і стрыжнявога Сэнсу, спрабуе суаднесці яго, гэты сэнс, з асабіста-быційным.

> «Па крутой, стромкай лесвіцы я ўздымаюся ўсё вышэй і вышэй, каб дасягнуць нарэшце той апошняй, той завяршальнай прыступкі, з якой можна было б рынуцца ў неабсяжнасць —

і апярэдзіць самое жыццё,
і апярэдзіць самую смерць...
Колькі прыступак я ўжо мінуў?

Вышэйшы за дрэвы, вышэйшы за гнёзды, вышэйшы за воблакі, вышэйшы за вышыню, — я слухаю-чую, як мне паўтарае ўпарта мой пакінуты ўнізе двайнік:

«Вяртайся!»

Прыступка апошняя тут. У неабсяжнасць трэба ўздымацца адгэтуль».

У неабсяжнасць паэт хоча ўздымацца, спазнаўшы пераўвасабленні ўспрымаючай свядомасці. Прыроду рэчаў. Прыроду рэчываў.

Ён не спыняецца на першаэлементах: вада, паветра, агонь, зямля. Яго ўяўленне ўвесь час вярэдзяць дзве праявы матэрыі: гліна і камень. Яшчэ ў даўніх яго творах мы сустрэнем гэтыя згадкі: «А на дошцы — выразныя літары, і ўсе сэнсы і ўсе бяссэнсіцы — быццам лялькі адна ў адной, і замешана гліна, каб вылепіць творцу...» («Паэма незавершанага сказа») або «дзе пуста было — ўзышлі камяні» («Паэма палявання»). І, мабыць, тут і ключ да адгадкі: «гліна, каб вылепіць творцу...» Паэта цікавяць тыя праявы матэрыі, што маюцца быць матэрыялам творцы: ганчара, скульптара, архітэктара... І больш глыбінна — насельнікаў быційнага «сабора».

А. Разанаў спрабуе высветліць — ці падуладна канкрэтнаму ўвасабленню тое, што не ўвасабляецца? Матэрыя стваральнага... Матэрыял творцы... Нездарма ж ва ўсіх, здаецца, еўрапейскіх мовах творца-мастак мае тое ж найменне, што і Перша-Творца. І вечная таямніца, што ўвасоблена ў бясконцых варыяцыях Адстаронеых Ведаў, якія месцяцца ў матэрыяле, што абавязаны стаць Сэнсавай Сітуацыяй, Сэнсавай Падзеяй. Розныя выяўленні. Розныя іпастасі. «Ніцма ляжыш І ў глыбокім сненні Хаваеш сваю душу. Загавару з табою — адкажаш, Але не пачуеш».

Раптоўныя асацыяцыі ідэй, унутраныя адчуванні і стыхійныя парывы, веды, што не залежаць ад улас-

нага вопыту, і назіранні, вольныя ад зрокавых выяў. Магчымыя аб'екты паэтычнага свету і формы пераствараэння абстрактных думак. Адно і тое ж «Я», што ператвараецца ў розныя сэнсавыя фігуры ў залежнасці ад змены камбінацый слоў і гарманічных або дысанансных варыяцый гукапісу. «Захоўваешся ў цяні Усіх рэчаў І ўсіх істот І ў сабе Захоўваеш сэнс, Ім яшчэ невядомы».

Патаемная сувязь ідэй і слоў... Сістэмы сугуччаў, матэрыя слоў — і матэрыя паняццяў, законы і правілы — і выключэнні з іх. Інтэлектуальны свет XX стагоддзя. Ускладнены свядомасным і падсвядомасным веданнем, трывога перад прасторамі сусветнай бездані і разуменне розумаспасцігальных счапленняў прычын, вынікаў і мэт. І нідзе няма забабонаў «меркаванняў» абыдзённай разважлівасці. Не ад высакамернасці — ад існавання ў пэўных паняційных пластах, ад адчування зямлі, вады, агню, прасторы, аднак ніколі — ад адчування заземленай жыццёва-будзённай глебы.

«Наблізілася рэчаіснасць, узноўленая праз мяне», «Цяпер я сам твару свой жыццяпіс», «вартаўнік лёсу» — таямніца асабістага, што праз розумаспасцігальную і сакральна непрадбачную ісціну імкнуцца да метафізічнай уладкаванасці сутнага, да мудрасці Боскага творцы. Выяўленне свайго невыпадковага месца ў прыродным і чалавечым распарадку, праўда маралі і этыкі, філасофія ведаў і няведання, спрадвечныя антыноміі быцця: «існуем знікаючы». Урэшце — метафізічнае асвячэнне Ісціны, сэнсавыпраменьваючая Ісціна — ад гэтага высновы мысляра і паэта Алеся Разанава. Кандэнсат думкі, імкненне калі не спасцігнуць, дык дакрануцца да звышразумнага наканавання: «Сабранае траціцца, І рэчаіснасць Разгортваецца ў здагадку, каб адшукацца З таго боку слоў», «А тое, Што мусіць адбыцца з намі, Само настае І само вытлумачваецца», «Гліна тлумачыць пісьмёны Забытых тысячагоддзяў».

Часам паэт чуйна пацвярджае «неўладкаванасць» і крохкую існасць, здавалася б, вельмі трывалага і надзейнага: «Попел абагульняе і ўраўноўвае ў правах усё,

што вылучала і чаму спявала хваласпеў полымя і што палегаваў дым...», часам спадзяецца на каштоўнаснае апірышча духоўнай працы, ніколі не спадзеючыся на карысць злабадзённага «сёння» і «тут». «У левую руку мне даюць паражэнне, але ў правую я пасляваю ўзяць перамогу. Тады ў Правую руку мне даюць радасць, але я працягваю левую руку і бяру скруху... У мяне пытаюцца: хто ты? — і хочуць спыніць. Я не адказваю і не спыняюся. Засяроджанаю душою я намацваю дрогкую лінію сэнсу, па якой мушу ісці дарэшты».

А. Разанаў — геній самаспазнання, ён самавызначыўся і самавызначаецца: у сваіх паэмах, філасофскіх мініяцюрах, версэтах, пункцірах, квантэмах... Ён спасцігае свет — у маштабах — адвечна вечнага, у адстароненасці і набліжанасці чалавечых істот да быційнага лона, ва ўсёмагутнасці быцця і небыцця. Зорка валхвоў-вешчуноў для яго заўсёды наперадзе...

Па-ранейшаму постаць А. Разанава ва ўсіх іпастасях і прыцягвае многіх, прымушае насцярожана не прымаць іншых. Будаўніцтва Сэнсу, пошукі Апошняга Сэнсу, быційная накіраванасць — яны заўсёды ўспрымаюцца складана, асабліва калі не пераўтвораны ў дактрыну і маюць загадкава-шматсэнсавую недамоўленасць. Але — гэта не перашкода да вызвалення ядра Ісціны са шкарлупіння бачнасцяў (кажимостей). «Прамудрасць праславіць сябе і сярод народа свайго будзе ўхвалена» (Сірах. 24, 1).

...Тым часам набліжаюцца і адыходзяць даты ў календары — з тых, што адзначаюць. Даты Алеся Разанава... Але на шляху ў бязмежнасць каляндарны ўзрост не мае значэння, вечнасць абыякавая да звестак у пашпарце. У яе свае каардынаты...

# РАНДЭВУ З ГІСТОРЫЯЙ І СУЧАСНАСЦЮ

***Уладзімір Арлоў***

Ёсць тут свой творчы сюжэт. Заўважыла апавяданні Уладзіміра Арлова ў «ЛіМе» — у 1984–1985 гадах. Не звярнуць на іх увагу было немагчыма. То і вяла размову. А тымчасам — у яго была першая кніга, прэмія, у адным сур'ёзным выдавецкім доме рыхтавалі сур'ёзны зборнік прозы палачаніна Арлова, што час ад часу выдае суцэльным інсургентам. Прынамсі, так здалося вельмі кваліфікаванаму аўтару замоўленай выдавецтвам прадмовы. Тэкст той быў патрэбны, як кажуць, яшчэ ўчора, тэкста не было, і я выпраўляла тэрмінова напісанае з цягнікам, праз кандуктара (электронных цудаў і зручнасцяў яшчэ не было). Потым я зацікаўлена-дзейсна сачыла за кожнай кнігай пісьменніка. Пра многае пісала. Былі і спробы літаратурных партрэтаў: друкаваныя і не друкаваныя.

...Змяняўся час... Змяняліся ўмовы грамадзянскага, культуровага і літаратурнага існавання. Змяняўся Арлоў... І, можа, гэта адзін з тых выпадкаў, калі варта азірнуцца — у часе і прасторы... Размысліць пра «выпадковасці ўзвышанага розуму» (Поль Валеры), пазначыць абрысы архітэктуры пачуццяў, падзей і з'яў...

«Таямніца не з'яўляецца ў створаным вобразе свету, яна ўжо існуе і пульсуе ў ім». Гэта словы мастацтвазнаўца Франца Ротха, якому належыць аўтарства тэрміну «магічны рэалізм». І прыгадаліся словы менавіта ў сувязі з тым вызначэннем. Бо Уладзімір Арлоў заўсёды падкрэслівае сваю прыхільнасць да лацінаамерыканскай школы пісьма. Не толькі да яе, вядома...

Таямніца — тое, ад чаго любіць адштурхоўвацца пісьменнік у сваіх творах. Недзе гэта глыбінная сутнасць з'яў, што трапляюць у поле мастакоўскай вызначанасці аўтара, недзе — гэта код рэальнасці, што вызнаецца як повязь часоў, як знакавая сувязь сучаснага, як чаргаванне самарэфлексій, звычак, ушчыльненасці фантазій... Гэта і магія рэальнасці, у яе прасвятленнях і дакладнасцях, прадвызначанасці і непрадказальнасці... Сутыкненне высокага і зямнога, часам нават знарочыста прыземленага, адстаронена-эзатэрычнага і будзённа-канкрэтнага, узвышанага і іранічнага. Кантраснасць адчуванняў, маштабна-сацыяльнае і лірычна-інтымнае... Магчыма, нешта ад таго, што некалі Федэрыка Гарсія Лорка згадваў, як «...пыл, перац і соль». Пыл стагоддзяў-тысячагоддзяў, пыл шляхоў-вандровак, зорны пыл — недзе там, на ўскрайку бясконцасці, як іранічна пазначыць Уладзімір Арлоў: «шэрая чапля вечнасці». І задумаецца: «Нешта дзеецца з часам: стагоддзі набываюць розную прыцягальнасць і шчыльнасць і, што самае небяспечнае, пачынаюць дыфузаваць, у выніку чаго твой 1994-ы можа апынуцца дзе-небудзь паміж Вялікай французскай рэвалюцыяй і Луі Філіпам...»

«Перац і соль...»

Некалі ў дыялогу з адным празаікам Уладзімір Арлоў даводзіў: «...дамінантай гэтага свету з'яўляецца хаос. Але я ведаю, прынамсі, два сродкі змагання з гэтым хаосам і абсурдам: каханне і творчасць». Мне здаецца, ратунак свой Уладзімір Арлоў знаходзіць і ў вандроўках, і ў занятках, неад'емных ад яго творчасці: калі ён чытае-гартае тэксты «на ломкіх аркушах і ў сціплых томіках», і ў «экспедыцыях» паводле матэрыялізаваных жыццёвых

даброт, менавіта ў яго, канкрэтызаваным успрыманні: «пара пляшак чырвонага і порцыя здаровага цынізму», а часам той «здаровы цынізм», той «перац з соллю» пераствараюцца ў бунтоўны лірычны пасыл, у логіку алагізму, у нематэрыяльнасць матэрыяльнага: нечаканы «кактэйль» — «шампанскае з світаннем, часам з дажджом».

...Стос кніг Уладзіміра Арлова. Проза сучасная, проза гістарычная, вершы ў прозе, вершы, эсэ, гістарыяграфічныя і гістарычныя нарысы, сцэнарыі, артыкулы. Пералічваю зноў, памятаючы пра даўнюю сваю згадку...

Сур'ёзны момант: Уладзімір Арлоў умее не толькі пісаць. Ён спрактыкавана друкуецца ў самых розных выдавецкіх структурах. Кажу гэта, канстатую — не маючы тут ані ценю дакору. Ёсць і такая здольнасць. Выдатная. Бо талент і практыцызм не так часта супадаюць у адной асобе. Ёсць у яго і здольнасць папулярызатара. Некаторыя іранізуюць — самога сябе. На мой погляд — беларускай літаратуры, культуры, гісторыі — праз свае творы.

...За гады творчай працы Уладзімір Арлоў зазнаў і водар рамантыкі, і выпрабаванне эзатэрычнымі варыяцыямі на розныя тэмы, і кшталт «празаізаванай рэальнасці», і прастору гістарычнага часу. Зазнаў і аўру містычных уплываў, і смак змены шырот і мерыдыянаў, і асаблівы настрой вяртання да звычнага і знаёмага — пасля прыгод на Пятай авеню або на ўзбярэжжы Пірэнейскага паўвострава.

Уладзімір Арлоў умее злучыць ёмістасць, сэнсавую важкасць тэксту з інтрыгай сюжэту: і ў гістарычных нарысах, дзе вастрыня фабулы абумоўлена «гульнёй» гістарычных «дзействаў», і ў мастацкіх творах (аповесцях, апавяданнях, эсэ). Сёння Арлоў — аўтар тэкстаў, перакладзеных на дваццаць пяць моваў свету, як паведамляе біяграфічная даведка.

Ёсць кнігі, ёсць чытач...

Уганараванне (пашанота) мацуе мастацтвы. Сапраўды. І не тая вонкавая пашанота (прэміі, медалі — хаця і яны

ёсць), а сапраўдны гонар, вось тое: выданне за выданнем. Безумоўна, гэта жывіць талент. Не ў пясок зробленае ідзе. Выдрукаванае ў кніжным фармаце — грунтоўна і надзейна. Зноў жа — насуперак наступу Інтэрнэта, на ўсё большую вагу электронных СМІ. Матэрыялізаваныя думкі і пачуцці. Ды і як выдадзеныя кнігі Уладзіміра Арлова! «Краіна Беларусь», «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі» ў суаўтарстве з Генадзем Сагановічам (кніга вытрымала чатыры выданні), «Таямніцы Полацкай гісторыі» (чатыры выданні), «Адкуль наш род...» (тры выданні), у серыі «Беларуская проза XX стагоддзя» —«Сны імператара», у бібліятэцы «Нашай Нівы» — падарожныя эсэ з эпатуючай назвай «Адкусі галаву вароне...».

Ды ўрэшце — не так шыкоўна аздобленыя выданні вершаў у прозе «Там, за дзвярыма», «Фаўна сноў», «Паром праз Ла-Манш» — усе яны цікавыя сэнсам. Ды і сам па сабе выхад кнігі — важны факт. Яго не аспрэчыш.

Майстар... Аўтар, якога чытаюць, ведаюць, пытаюцца ў кнігарнях. Чамусьці, праўда, у найноўшай «Гісторыі літаратуры» яму месца пакуль што не знайшлося. Але ёсць чуткі —плануюць дадатковы том... Ды і літаратурная рэальнасць у адносінах да тых, хто актыўна і плённа працуе на ніве прыгожага пісьменства, вызнае свае правілы.

...Больш за трыццаць гадоў у літаратуры. Уладзімір Арлоў пачаў друкавацца ў 1976 годзе, а так бы мовіць, заўважаны кніжны старт — першая кніга «Добры дзень, мая шыпшына» — адбыўся ў 1986 годзе. І менавіта пачынаючы з гэтага года бярэ адлік перыяд яго напружанага, уплывовага жыцця ў літаратуры. Гады перабудовы, гады, калі была абвешчаная незалежнасць Беларусі, калі знікла цэнзура, з'явіліся прыватныя выдавецтвы, недзяржаўныя перыядычныя выданні...

Па сутнасці, цалкам змяніліся ўмовы існавання літаратараў, існавання творчага і пазатворчага...

Гістарычныя аповесці і апавяданні, што найперш, можа, акрэслілі цікавасць да Уладзіміра Арлова (хаця тут ёсць суб'ектыўны момант): «Пяць мужчын у леснічоўцы», «Місія папскага нунцыя», «Пакуль не згасла

свечка», «Сны імператара», «Час чумы», «Дзень, калі ўпала страла», «Каханак яе вялікасці» і г.д. Ідэі і ідэалы, персанажы гістарычныя — найбольш з падсветкай рамантызму, што пазначаны рэальнасцю рэчаіснасці, і героі, так бы мовіць, негераізаванага плана (у больш позніх творах). Выдатнае веданне гісторыі, веданне рэалій апісваемай пары, адчуванне аўры старадаўніх часоў, старажытнасці, ментальнасці людзей мінуўшчыны, іх спосабу мыслення, адметны стыль — выдатная мова, выразная; іронія, гумар: як бліскаўкі. Словам, майстэрства — тое, што выдзяляе Арлова сярод шматлікіх сёння аматараў выкарыстання гістарычнай тэматыкі ў сваіх творах. Уладзімір Арлоў мае той мастацкі зрок, які дазваляе яму вызначыць духоўныя каштоўнасці, унутраны, псіхалагічны лад быцця ў гістарычнай прасторы, неадменную маральную тэму, дзе праглядваецца і яшчэ гэты пункт адліку — «вечны сэнс».

Хаця... пэўнае веданне рэалій побыту, фактаў — тыя «азы», без ведання якіх гістарычная проза ператвараецца ў збор недарэчнасцяў і памылак, таксама надзвычай важнае. Паводле некаторых твораў беларускай гістарычнай прозы можна выдаваць зборнікі анекдотаў: то ў аповедзе пра Францыска Скарыну згадваецца Гарвардскі ўніверсітэт, што быў адчынены праз трыста год пасля таго часу, калі жыў беларускі першадрукар, то ў XI стагоддзі героі сваім наедкам маюць дранікі... І г. д.

Ва Уладзіміра Арлова — трывалы фактаграфічны грунт, выдатнае веданне гістарычных рэалій. Калі будзе згаданы трактат Катарыны Сфорца «Як стаць прыгожай», дык можна быць упэўненым, што тыя меркаванні шаноўнай сіньёры не з'явіліся стагоддзі праз чатыры пасля згаданых пісьменнікам дзействаў. Калі будзе весціся гаворка пра дашчатыя броні, дык так яно і ёсць: даспехі накшталт кальчугі, зробленыя з металічных пластачак. Калі герой лье ў кубак мёд-трайняк — то ўжывалі менавіта такое пітво... І г. д.

Арлоў адчувае і стыль, стылістыку эпохі, яе мову, лад, спосаб мыслення: «Беларусінаў прыйшло ў тым

войску лікам да пяці тысяч, і ўсе біліся мужна, і многія заручыліся там з зямлёю». Або: «...дайшлі да нас чуткі, нібыта атабарыўся ў месцы гэтым вучоны немец Ёган Гутэнберг, што вымысліў варштат дзеля перапісвання кніг без пёраў і атраманту. Калі праўдзівая гэтая пагудка, падамся я да яго ў навуку, бо не пагас яшчэ ў душы лятунак паслужыць асвеце люду нашага паспалітага».

Усё пералічанае стала як бы неад'емным і безумоўным для пісьма Уладзіміра Арлова, зрабілася адзнакай яго стылю. Ужо сталі ледзь не хрэстаматыйна вядомымі героі твораў Арлова. Вольналюбівы пісьменнік Незабытоўскі, што (як ужо згадвалася) даводзіць свайму пляменніку: «Адзін разумны чалавек сказаў, што ў Расіі ёсць два праваднікі: язык —да Кіева, а пяро —да Шлісельбурга». Нарадаволец Ігнат Грынявіцкі, што ахвяруе ўласным жыццём, каб, як яму здаецца, пазначыць шляхі да светлай будучыні іншым. Асветнік Мікола Гусоўскі, што ў далёкім Рыме адстойвае годнасць чалавека з зямлі пушчаў і зуброў, выяўляе высакародства і шляхетнасць, якія зрабілі б гонар любому з самай вядомай і рыцарскай на тую пару краіны Еўропы. Уладзімір, князь зямлі Полацкай, мудры і смелы... І г. д.

Персанажы гістарычныя, з падсветкай таго рамантызму, што вызнаецца рэальнасцю рэчаіснасці. Як і тыя ідэалы і ідэі, якія адстойваюць героі кніг. «Ідэалы жывыя, пакуль яны жывуць у сэрцах. Калі яны застануцца толькі ў старых кнігах, яны памруць...» Уладзімір Арлоў сцвярджае за Уладзімірам Караткевічам, за іншымі адраджэнцамі — нацыянальную ідэю, ідэю нацыянальнай годнасці. Гэта — творчы і грамадзянскі набытак пісьменніка.

Ужо вызначылася шмат у чым яго творчае аблічча. Адметнае, сваё. Адрознае і ад Уладзіміра Караткевіча. Мне даводзілася пра тое пісаць. Аднак згадаю наноў.

Гістарыясофская проза Уладзіміра Караткевіча... Яго цікавяць дынаміка падзей, светасузіранне часу, памкненні людзей, характары, разгортваюцца шматпланавыя карціны рэчаіснасці і лірычна-камерныя, моц-

ныя магутнай, стыхійнай хваляй думак, эмоцый, слоў, уздзеяннем характараў гераічных, яркіх, незвычайных. Уладзімір Караткевіч — увесь у палёце, у буйным ветравароце задум, сюжэтаў, у іскрыстай плыні вобразаў, іскрамётнай стыхіі слоў... Ён імкнецца паказаць рэальнасць — гістарычную ў тым ліку —шматколерна, шматпланава, шматаблічна... Часам сам захлынаючыся ў сонечнай стыхіі свайго таленту і творчага тэмпераменту, але — магічна! — уздзейнічае на іншых. На моладзь, на падлеткаў — неадбойна! І я не стаўлю мінулага часу — ён сённяшні і заўтрашні, ніякіх плюсквамперфектумаў!

Уладзіміра Арлова плынь не падхопіць. Ён кіруе сваёй творчай ладдзёй, недзе выкарыстоўваючы інерцыю плыні, недзе абмінаючы віры і бездані... Стрыманы, спакойны, іранічны, часта — саркастычны, сарданічны нават, калюча-ўшчыплівы. Ён уважліва сочыць за кампазіцыяй, архітэктонікай твора, дапасоўвае словы — што кладку кладзе. Свае перавагі. І свае страты. Інакш не бывае.

Зноў нагадаю — напачатку, у сярэдзіне 1990-х, гэта было ўжо яго творчым набыткам. І пачалі з'яўляцца гістарычныя постаці не рамантычнага плана (Напалеон Банапарт, Кацярына II). А герояў — носьбітаў нацыянальнай ідэі — чытачу прапаноўваюць уяўляць праз успрыманне галоўных персанажаў, людзей пэўнага ідэйнага кірунку, настраёвасці, аднак не гераізаванага кшталту.

...Застаўся, напрыклад, нашчадак старажытнага роду, паляўнічы, што неаднойчы на мядзведзя хадзіў, у памяці імператрыцы Кацярыны II як увасабленне дрымучай, неўтаймоўнай сілы; пакінуў нават яе пярсцёнак, не ўзяў прэзэнта ад... Згадвае імператрыца — не назваў «зоренькой», хаця, прынамсі, ведаў: ёсць такая завядзёнка ў яе алькове... А ўсё ж... Прыйшоў да царыцы сярод процьмы іншых... Не адхіліў увагі... Хаця... выбару не было... Аднак Незабытоўскі наўрад ці стаў бы цешыць царыцу... Можна, безумоўна, зірнуць і інакш: для мужчыны — аднoй кабетай менш, адной — больш... І ўсё ж...

І гіпатэтычная каханка Напалеона — ліцвінка, якую ён нібыта згадвае на далёкім востраве Святой Алены... Тут таксама самаахвярнасць і высакароднасць, так бы мовіць, з чарвяточынай. І патрыятычны такі ўчынак у гэтых мясцінах Еўропы ўсё ж ва ўсіх асацыіруецца з Марыяй Валеўскай, прыхільнасці якой Напалеон дабіваўся напорыста і да пэўнага моманту — беспаспяхова.

Аднак... Новыя творы Уладзіміра Арлова так ці інакш уводзяць нашыя нацыянальныя турботы ў больш шырокі — еўрапейскі і не толькі — кантэкст. Напалеон, Кацярына II. Лёсавызначальныя і, здавалася б, прыватныя моманты, што тым не менш даюць магчымасць зірнуць на гісторыю больш шырокага арэала — геаграфічнага і светапогляднага —праз светафільтры нашага нацыянальнага ўспрымання і ўводзяць разуменне абавязку і наканаванасці, асабістай свабоды і гістарычнай прадвызначанасці, драмы бескампраміснасці і кампрамісу.

Уладзімір Арлоў па-ранейшаму аддае перавагу маналогу, унутранаму маналогу, монадзеянню і дыялогу. Ён імкнецца запаўняць пэўныя ўчасткі «контурнай мапы» гістарычнай памяці, спасцігаючы гістарычную рэальнасць, але і ствараючы свой мастацкі свет, дзе ёсць унутраная, сталая тэма, якая дэтэрмінуе, вызначае сюжэт, падпарадкоўвае сабе фактары знешнія, падзейныя.

А тымчасам — ужо Беларусь становіцца асобнай дзяржа-вай, тут, як і на ўсёй постсавецкай прасторы, адменена цэнзура, з'явіліся прыватныя выданні і выдавецтвы, з'яўляецца такая постаць, як спонсар, мецэнат... Адным словам, нечуваныя і не бачаныя раней магчымасці. Пакаленне Уладзіміра Арлова — у найвыйгрышнай сітуацыі: атрымана адукацыя, хай сабе і з усімі хібамі савецкага часу, але бясплатная, набытыя веды — у бясплатных бібліятэках, набытыя кнігі — у параўнанні з іх коштам у іншых краінах свету — дармавыя, прачытваецца перыёдыка, надзвычай насычаная зместам у гады перабудовы, ды і з цікавымі прарывамі — да таго. Пакаленне Уладзіміра Арлова досыць сур'ёзна і адважна абвясціла пра сябе і многае паспела ўжо спраўдзіць.

Час адкрывае неверагодныя магчымасці. Нечаканыя свабоды. Неймаверныя спакусы. Мажлівасць не толькі ісці за сітуацыяй ці супрацьстаяць ёй, але і фарміраваць яе. Можна выявіць сваё «я» ў якіх заўгодна іпастасях. Якія хочаш ролі і антыролі, якія заўгодна вандроўкі — у знешнім свеце і ў глыбінях самасвядомасці. Ідэя маналітнага субстанцыяльнага «Я», дэперсаналізаванага «Я» і канкрэтнага, у гістарычным часе і пэўнай рэчаіснасці — гэтага самага «Я».

Шматлікія карціны і вобразы персаналізаванага «Мы». Шматлікія вобразы і карціны «Я». З'яўляюцца згаданыя вышэй «Там, за дзвярыма» і «Фаўна сноў», а пазней — «Паром праз Ла-Манш»... Выходзіць у свет кніга «Рэквіем для бензапілы», дзе, дарэчы, ёсць і аднайменнае апавяданне, і «Сібірская аповесць», і «Краявід з ментолавым пахам». Друкуюцца шматлікія эсэ паводле вандровак. Англія, Нямеччына, ЗША, Беларусь... Італія, Каталонія...

Не атаясамліваю герояў і аўтара, аднак, якая б ні была дыстанцыя, ёсць пазіцыя, ракурс бачання. І ў гэтым ракурсе — герой. На фоне, у экстэр'ерах і інтэр'ерах, у часе і прасторы. З тым гранічным адкідваннем усіх недамоўленасцяў, вуаляў, эўфемізмаў, з нечаканай грубаватасцю і зрываннем усіх заслонаў.

...Нейкія павароты ў творчасці час ад часу непазбежныя.

Інакш не бывае. Асабіста я не здзівілася б гістарычна-філасофскаму, накшталт пісьма Томаса Мана, раману. Але займеўшы вядомасць і, мабыць, адчуваючы асабістую адказнасць за нашыя мінулае і будучыню, Уладзімір Арлоў стварыў шэраг пазначаных вышэй кніг пра гісторыю Беларусі — розных жанраў.

Тут быў і культуровы высокі прыцэл. Асветніцтва — яно ў нас патрэбнае, як нідзе, у нашай культуровай і грамадзянскай сітуацыі. Тут меўся, мабыць, і больш практычны момант. Ну, дзе ты знойдзеш спонсараў на інтэлектуальны, філасофскі раман, хай сабе нават геніяльны? А вось «Падзеі. Даты. Ілюстрацыі» — зусім

іншая рэч. Тым больш калі гэта не нудотная «сухотка»-пералік, а сур'ёзна, дасведчана асэнсаваныя, вобразна, белетрызавана падсвечаныя празаікам і гісторыкам Уладзімірам Арловым гістарычныя сюжэты...

Кнігі, дзякуючы фінансавай падтрымцы, выдадзены шыкоўна і з густам. Попыт на іх вялікі. Сам Уладзімір Арлоў не шкадуе ні сілаў, ні часу на выступленні, вандроўкі — дзеля асветніцкіх мэтаў.

Асветніцтва, культуровы, паэтычны, літаратурны кшталт — у традыцыі ўсёй сям'і Арловых, з той няпростай, мабыць, жыццёва-сюжэтнай лініяй, якая пазначае звычайна шлюбныя саюзы самадастатковых асобаў, у дадзеным выпадку — Валянціны Аксак, паэткі, што ўмее правесці душу жывую па прасторы імгненняў, сэнсаў, самаспасціжэння і самапаглыблення ў прасторы духоўнага часу, а да таго ж вядомай і таленавітай журналісткі — і пісьменніка Уладзіміра Арлова.

...А вяртаючыся да размовы пра кнігі Арлова па гісторыі Беларусі, можна дадаць, што ў іх колькі прыхільнікаў, столькі ж і ворагаў. Асобнікі выданняў набываюць і тыя, і другія. Мабыць, паводле гамбургскага рахунку, у сур'ёзных даследчыкаў ёсць і пярэчанні, і нязгода.

Я не гісторык, таму нешта мне здаецца, чыста суб'ектыўна, больш доказным, нешта — менш. Але ўсё — чытаецца! І як!

...А гартаючы кнігі Уладзіміра Арлова, узяла і перачытала яго апавяданне з першай кнігі «Клён».

Не магу сцвярджаць, што я такі ўжо сентыментальны чалавек, аднак ёсць з'явы, якія заўсёды вяртаюць нейкую свежасць душы. Ну, скажам, мройныя карункі вясновых бяроз, водарна-кароткае хараство бэзу, урачыстае святло вясновых каштанаў, развітальная, уладарная, яркая краса восеньскіх клёнаў... А знікненне гэтага хараства — заўсёды балючае, успрымаецца часам як драма... Не ў сэнсе вокамгненнасці гэтых з'яў, але ў тым разбуральным, знішчальным, што так часта нясе з сабою чалавек.

А драма асуджанага на пагібель клёна ў апавяданні Арлова — пранізлівая, безвыходная... І — бессэнсоўная.

Вось проста захацелася «ўладару прыроды» — чалавеку — і суседзям насаліць, і самому дурнотную сваю натуру выявіць. Гісторыя вярэдзіць розум яшчэ таму, што ненавязліва «таніруецца» драмай іншай: быў у клёна адзін гаспадар, другі... А трэцяга не прадбачыцца... І тут клён-сімвал, знак... Адыходзіць з вёскі існае, карэннае, сапраўднае, прыгожае... Што застанецца?

Апавяданне гэтае — у тых традыцыях, якімі моцная беларуская проза. З пакаленняў, больш-менш храналагічна блізкіх Уладзіміру Арлову, — Вячаслаў Адамчык, Іван Пташнікаў, Іван Чыгрынаў, Віктар Карамазаў, Анатоль Кудравец, Алесь Жук... (Імкнуся прытрымлівацца парадку з'яўлення ў літаратуры гэтых аўтараў.)

...Для творчай манеры Уладзіміра Арлова гэтае апавяданне хутчэй выключэнне, а не правіла. І справа не ў тым, што выключэнні пацвярджаюць правілы. Гаворка пра тое, што ёсць і вось гэты матыў — пэўнага сэнсу і пэўнай мастацкай формы, пэўнай лірычнай канцэпцыі ў творчасці Арлова. Калі ўзяць больш высокую танальнасць — ёсць такая струна душы. Нездарма пісьменнік уключыў апавяданне ў многія кнігі сваёй прозы, змешчана яно і ў выданні 2001 года ў серыі «Беларуская проза XX стагоддзя». Мабыць, не толькі пачаткоўцу Арлову, але і Арлову — вядомаму аўтару мноства кніг, нечым важны гэты матыў, ён хоча, каб той прагучаў у шматгалоссі яго цяперашняга творчага існавання: самадастатковасць і вызначальнасць прыроды ў кожнай яе праяве, значнасць бескарыслівага жыццёвага ладу, рытму існавання.

Рытму існавання ўвогуле. І рытму існавання творчага. І ў тым пульсуючым заканамерным чаргаванні сэнсаў, гукаў, вызначэнняў, самарэфлексій, звычак, містэрыяльных дзействаў, ушчыльненых фантазій, эсхаталагічных бачанняў, «арфічных» прасвятленняў і дакладнасцяў эзатэрычных мэтаў — неабходна пабачыць, адчуць, прадвызначыць у лірыка-філасофскіх штудыях кніг «Там, за дзвярыма» і «Фаўна сноў» многае з таго, што канкрэтызавалася ў творчасці ў розных жанравых і сэнсавых увасабленнях і што толькі шукае выйсця, фармуецца ў нейкія мастацкія вопыты.

Пачынаю чуць чужыя думкі—
яны ўрываюцца ў маю свядомасць,
як ластаўкі ў разнасцежаныя вокны.

Пачынаю бачыць чужыя сны —
раніцою гляджу ў люстэрка: хто гэта?
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Думаю неадчэпна: да чаго рыхтуе
мяне Ён?

Для чаго? Усё няпроста, размаіта, недзе перанасычана знешнімі эфектамі, недзе пераважаюць вонкавая вастрыня і кідкасць, а недзе — намацваецца сутнасць, існасць, выпрацоўваецца сістэма ідэй.

Малюю сястру маю яблыню...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Малюю каханку маю яблыню...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Малюю варагіню маю яблыню...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Малюю душу маю — яблыню.

Запаветна-асабістае, спробы вызначыць корань рэалій, немудрагелісты, як быццам лірычны «рэквізіт» — і парадоксы, анамаліі сэнсаў з простым, ясным і значным, выніковым і ледзь не справаздачным.

Што раптам абарочваецца саркастычным, двухсэнсоўным і адназначным адначасова, калі вокамгненнае і, здавалася б, з прыцэлам на вечнае аказваюцца аднолькава ўяўнымі і надзейнымі.

Помнік,
глухі, невідушчы, глядзіць ён на
горад, у якім нарадзіўся...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Яны прыносяць яму кветкі, не ведаючы, хто ён;
яны прысягаюць імем ягоным, за-

быўшы сапраўднае імя яго;
яны славяць яго, не ведаючы, чаму
вучыў ён.

Ці тут нарадзіўся я?—у роспачы
думае ён.

...Вось тут я бачу і чую сваіх апанентаў — пра што гаворка? Не тым вядомы, не з-за таго вядомы Уладзімір Арлоў.

Вядомасць яму далі, і сапраўды, іншыя творы. Аднак свядомасны, псіхалагічны, канцэптуальны код яго творчасці — тут. Мне здаецца, тут і адбітак пошукаў Арлова — на творчым раздарожжы, у дадзеным выпадку, да таго ж, пад уплывам Янкі Юхнаўца, Алеся Разанава, Міхася Стральцова, больш далёкіх і больш шматлікіх аўтараў, дзе пералічваць можна доўга. Юнга і Шпэнглера, Джойса і Апалінэра, Борхеса і Маркеса... Etc. І найбольш, зноў жа, іспанамоўных аўтараў:

Так я гутару з табою,
адважна здымаючы двукоссі
з цытатаў лацінаамерыканскіх
раманістаў...

Калі я пазначаю «на раздарожжы», маю на ўвазе зусім не тое, што Уладзімір Арлоў апантана мітусіўся, кідаўся ад адной творчай плыні да другой... Не.

Ён ужо меў трывалы творчы грунт. Празаік гістарычнай і сучаснай тэматыкі, творца, што працягвае, не эпігонствуючы, а працярэбліваючы свой шлях, традыцыі Уладзіміра Караткевіча і Міхася Стральцова.

Вершы і вершы ў прозе — тут запаветна-асабістае, унутраныя законы свядомасці, таемныя глыбіні прадчуванняў, ушчыльненасць сэнсу, духоўныя празарэнні, структура ўмоўнасцяў, сістэма адносін, што мае сувязь і не мае сувязі са светам практычнага вопыту... Паводле нейкіх рытмаў творчага існавання да гэтых твораў дастасоўваецца і аповесць (?) «Краявід з менто-

лавым пахам». Боль духа, што сутыкаецца з матэрыяй? Расслаенне містычнага і рэальнага? Загадка незвычайнай сітуацыі — узвышэнне духу над матэрыяй? Ці супрацьстаянне «вечнага» і будзённага? Бездань хвіліннага забыцця і адвечных каштоўнасцяў?

...Ён вельмі розны, Уладзімір Арлоў. Эпік і лірык. Філосаф і даследчык. Эмпірык і містык. Разважлівы, спакойны, іранічны. Вытанчаны і гжэчны. Рамантычны і ўзвышаны. Часам — прасветлена-высокі, як у кнізе з распачатай было ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» серыі «Святыя зямлі Беларускай» — «Еўфрасіння Полацкая» (свядома не пастаўлю гэтую кнігу ні ў які шэраг — гэта асобна). Чытаем: «У святле нямесячнай ночы ідзеш ты ў сваю галубніцу, і нашы дзённыя пацеры шапацяць у цябе пад нагамі апалым лісцём і ўспыхваюць халоднымі агнямі. (...).

Кожны дзень малюся тваім вачам. Кожную ноч спадзяюся, што ты пачуеш мой голас. Кожнае світанне чакаю, што ты пройдзеш скрозь мяне і — застанешся ўва мне».

А «Сібірская аповесць», «Полацкія апавяданні», падарожныя нататкі, згаданае ўжо — «Рэквіем для бензапілы» — яны напісаны нібыта іншым чалавекам: здзекліва-ёрніцкім, грубавата-саркастычным. Грубым і з'едлівым знарочыста, з выклікам — маўляў, і Генры Мілеру не саступлю. (Як вядома, трылогію гэтага аўтара, створаную ў 1934, 1936, 1939-м, на радзіме, у ЗША, не друкавалі да 1961 года як амаральную.)

...У Арлова можна выбіраць, што чытаць. Ёсць з чаго.

Галоўнае, што беларус Уладзімір Арлоў выйшаў на Рандэву з Гісторыяй і Сучаснасцю ва ўзбраенні таленту, ведаў, інтэлекту. Не спрачаючыся з Часам і не аспрэчваючы яго — занятак марны, — а спрабуючы спасцігнуць розныя бакі Быцця. У фактах і паміж імі, у падзеях і ў тых высновах, што ўзнікаюць неабвержна і мройна мігцяць недзе на даляглядах.

А мы разам з аўтарам дачыняемся да таямніц гісторыі і магіі рэальнасці!

## ЗНАК ЛЁСУ

### *Сяргей Дубавец*

Адзін з былых «Тутэйшых». Сяргей Дубавец. Постаць яркая, дзейсная, адна з самых заўважных, на мой погляд, у Беларускім Адраджэнні канца XX—пачатку XXI стагоддзя.

Скептычны крытык, разумны палітолаг, сур'ёзны мысленнік, цікавы празаік, яркі эсэіст, грунтоўны даследчык, паслядоўны краязнаўца... Журналіст, выдавец...

Даў пачатак існаванню трох беларускіх незалежных выданняў: «Навіны Адраджэння», «Свабода», «Наша Ніва»... Спрабаваў і спрабуе асэнсоўваць грамадзянскую, культуровую, літаратурную сітуацыю ў Беларусі — у агульнаеўрапейскім кантэксце.

Пісала пра яго неадноечы... Яшчэ часцей спрачалася з ім — у друку. Наша завочнае знаёмства так і распачалося — са спрэчкі. А было і некалькі гадоў працы ў часопісе «Неман». Як іранічна заўважаў літаратуразнаўца і драматург Пятро Васючэнка, рэдкі выпадак, калі літаратурныя дуэлі мелі б такі мірны працяг. Не проста мірны. Сяргей Дубавец — генератар ідэй. Працаўнік таленавіты, дасведчаны: жорсткая дысцыпліна думкі, уменне, неабходнае ў рэдакцыйнай штодзённасці — рабіць прафесійна і хутка. А быў час перабудовы — з усімі яго наяўнымі і падманнымі акалічнасцямі. Потым Сяргей Дубавец

пераехаў у Вільню — аднаўляць «Нашу Ніву». І зноў спрачаліся ў друку, сустрэліся ж на з'ездзе Саюза пісьменнікаў у Мінску, пасля ўладнага цкавання Саюза пісьменнікаў: з ім і яго жонкай — таленавітай паэтэсай і выдатным тэлежурналістам Таццянай Сапач... Згадалі і «дот», «дзот»: так іранічна некалі пазначаў Дом літаратара Сяргей Дубавец. Яго ў той якасці ўжо не існавала — як высветлілася, на жаль... Сустрэліся — займаючыся кожны сваёй і агульнай справай... Беларушчына...

...А пазней з'явілася эсэ «Краіна Ікарыя» — пра Ігара Герменчука, пра іх стасункі... Пра трагічны лёс асобы... Лёс нашага друку... Нашай культуры... Пра лёс Беларусі... І чытачы даведаліся пра таго Сяргея Дубаўца, якім ён паўставаў вельмі рэдка (а ў друку да таго, можа, і ніколі)...

Некаторыя моманты не тое каб здзівілі, але адчынілі заслону, за якую ў мяне ніколі не было ахвоты зазірнуць: не з-за боязі, з-за нейкай перасцярогі — магчыма, генетычнай, а можа, таму, што добра ўяўляўся, так бы мовіць, «пейзаж стагоддзяў» (Шатабрыян)... Але гэта асобая гаворка — і вельмі няпростая... А ў згаданым эсэ Сяргея Дубаўца размова — пра боль пошукаў, пра страты, пра тое, што не адбылося, і пра тое, што адбываецца... З той мерай адкрытасці, калі з «рэштаў расчараванняў» «будуецца жыццёвая сістэма» (Жорж Дзюамель). Каб дасягнуць непахіснай мудрасці? Або — каб толькі заўсёды імкнуцца да яе?

Ці не пра тое — два даўнія допісы, якія, мне здаецца, вызначаюць пэўныя рысы творчага почырку, творчай асобы Сяргея Дубаўца.

Бяздзейнасць ператварае моц у атруту. Словы Герцэна.

Пакаленне Сяргея Дубаўца пазбегла гэтага пакарання лёсу. Сацыялогія жыццёвага шляху, выяўленне творчай і псіхафізічнай індывідуальнасці асобы, духоўнае выяўленне суб'екта супалі з часам карэнных перамен у грамадстве. Калі з'явіўся вольны друк, калі знікла цэнзура, калі слова стала вольным. Яны скарысталі шанец.

Займеўшы перад тым вопыт быцця, вопыт думкі. І вопыт супрацьстаяння. Дзёрзкай нязгоды.

Падчас з'яўлення на культуровых даляглядах літаратурных равеснікаў Сяргея Дубаўца ў беларускай літаратуры вялі рэй прадстаўнікі плыні, што аб'ядноўвалася пад сціпла-кідкім вызначэннем — «усе мы з хат». Упэўненая гэтая першаасnова дала грунт і плён некалькім літаратурным пакаленням, што таленавіта пісалі вясковую прозу (і гарадскую таксама — але тым жа падрабязна-апісальным метадам). Было зроблена многа, але нібыта існавала мяжа-агароджа. «Гэны можа», — такое мог пачуць у рэдакцыі выключна прадстаўнік пазначанай літаратурнай тэндэнцыі. Усё астатняе было — эклектыкай, сэнсавымі, зместавымі, слоўнымі выкрунтасамі, пазалітаратурным непаразуменнем.

Іншы склад мыслення, іншы спосаб пісьма спрабавалі зразумець выключна са свайго, суб'ектыўнага пункту погляду. Міхась Стральцоў, Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі, Алесь Разанаў былі хутчэй дазволена-недазволенымі выключэннямі, як правіламі. Слава Васіля Быкава па сутнасці прыйшла з-за мяжы...

На мой суб'ектыўны погляд, вызначыліся два цэнтры прыцягнення: Уладзімір Арлоў і Сяргей Дубавец. Дзякуючы свайму асабістаму, суб'ектна-дзейснаму пачатку, спалучэнню творчых магчымасцяў і здольнасці генерыраваць ідэі з жорсткай самадысцыплінай, уменню не толькі рэагаваць на сітуацыю, але і самім фарміраваць яе. Ім удалося спалучыць тое, да чаго імкнуліся творчыя асобы, для якіх выяўленне мастацкіх здольнасцяў неад'емнае ад канкрэтызацыі іх у рэальнай друкаванай існасці: кнізе, часопісе, альманаху, газеце.

...Адна газета, другая, трэцяя... Гэта не лічачы працы ў дзяржаўных установах: у гомельскай газеце і часопісе «Неман». Магчымасці часу ён скарыстаў адразу — пачаў выдаваць незалежныя недзяржаўныя газеты, яшчэ працуючы ў «Немане». Потым з'ехаў з сям'ёй у Вільню, каб узнавіць газету «Наша Ніва». «Як люстэрка дзён і

жаданняў...» Пазначаючы, што «людзі, якія стварылі яе ў 1906 годзе, разлічвалі не на нейкі перыяд, ці этап [...], але на ўсю перспектыву беларускага нацыянальнага жыцця». Я не буду тут сцвярджаць ці абвяргаць сувязь гэтай «Нашай Нівы» з той, уласава-купалаўскай, пазначаць спектр грамадскай, навуковай, мастацкай тэматыкі і праблематыкі, зазначаць яе аўтараў.

Выданне сталася з'явай, і прыкметнай. Нешта з абвешчанага ўдалося ажыццявіць, да нечага не ўдалося і наблізіцца. Так ці інакш, больш за чатыры гады выходзіла выданне, больш альманах, як газета, па прызнанні самога Дубаўца. Наконт «люстэрка» рэдакцыя робіць заўвагу, што выданне было ім у тым сэнсе, што «нібы дазваляла часу рабіць з імі ўсё, што заўгодна, спакушаць іх, уваходзіць да іх у любым выглядзе і з любым выразам твару...».

Чытачы «Нашай Нівы» былі розныя. Але, мабыць, усе ў першую чаргу звязвалі яе існаванне з вымогамі рэдактара, атаясамлівалі выданне з асобай Дубаўца. Для адных Сяргей Дубавец стаўся выроддзем пекла, для іншых — ледзь не месіяй, для адных — крытэрыем усіх літаратурных дабрачыннасцяў, для другіх — суцэльным здзекам літаратуры: вочы б не бачылі яго разам з яго газетай, вушы б не чулі...

Проза, паэзія, паліталагічныя, гістарычныя, філасофскія, культуралагічныя нататкі, інфармацыя, у тым ліку замежная, пераклады, літаратурна-кніжны раздзел, эсэ — на самыя розныя тэмы, вольныя, адвольныя, бліскучыя, эпатажныя, спакойна-разважлівыя, больш таленавітыя і менш... Вольныя варыяцыі на самыя розныя тэмы...

Тымчасам беларускае чытацкае атачэнне было пазбаўлена звычайнай польскай і маскоўскай прэсы. «Twórczość», «Życie literackie», «Иностранная литература», «Вопросы литературы», «Новый мир» — за гэтымі выданнямі трэба было ісці ў Нацыянальную бібліятэку. І тут «Наша Ніва» ў нейкай ступені кампенсавала страты. Хаця б невялічкія фрагменты, урыўкі — але ж нешта з

нованапісанага Міланам Кундэрам, Чэславам Мілашам, Марыянам Брандысам.

Што датычыць палітычнага і культуровага жыцця Беларусі — «традыцыйны для «Нашай Нівы» суб’ектывізм» — галоўны прынцып, вызначаны рэдакцыяй. Цікава, хаця, калі пачынаеш праглядаць падшыўку «Нашай Нівы» — да ўзору, «Дзённік прыватнага чалавека», адчуваеш, што, можа, суб’ектывізму аж занадта, хаця ён напорысты, жорсткі, часам асляпляльна-афарыстычны, амаль заўсёды — ад радасці адмаўлення, ад дзелавой звычкі здабываць мастацкі сэнс парадоксамі, лагічным шокам, падкрэсліваннем важкасці сваіх стратэгічных духоўных мэт, адметнасці выбранага кірунку.

Ёсць матэрыялы — розных жанраў, — якім можна знайсці аналагі ў сусветнай літаратурнай практыцы. Але яны відавочна падкрэсліваюць антыэстэтызм, антыэтыку, не толькі сітуацыйную раскаванасць, іншыя пункты адліку, а, так бы мовіць, «выпадкова-знікомы» («случайно-бренный», паводле Леконта дэ Ліля) сэнс, ці нават прыём — як сэнс. Яны свядома не падпарадкоўваюцца правілам гульні, што маюць на ўвазе мастацкую свядомасць. І хаця матэрыялізацыя задум, дзякуючы знакавай сістэме літаратуры, не мае таго эпатуюча-здзеклівага эфекту, як, да ўзору, на тэле- або кінаэкране, але мастацкае быццё тут выдае рэальнасцю-хваробай, рэальнасцю-недарэчнасцю, часам — рэальнасцю-памылкай.

Сяргей Дубавец — а гэта ён вядзе (вёў) «Дзённік» і яшчэ некалькі раздзелаў, падпісваючыся і псеўданімамі, спрачаецца з іншымі і з самім сабой.

Падвяргаецца сумніву і беларускі шлях — «філязофія бадзякоў. Незалежнасць на маршы. Шлях, рух, фронт... Вечныя вандроўнікі». «Не дом, а гасцінец, брук, бальшак». Не дом... Але ж — тут, непадалёк, за некалькі радкоў аўтар пярэчыць самому сабе: «...закладзеныя падваліны Мёртвага дому беларускай ідэі». Значыць, усё ж — калі і не святыня — дом.

І з рэнаме Купалы Сяргей Дубавец жорстка пацвельвае: «...найвялікшы пясняр нацыі й адначасова — галоўны

ідэолаг руціны» (варта параўнаць светлую, жывую «Нашу Ніву» А. Уласава з сухой пратакольнай газетай, рэдактарам якой стаў Купала). «Але перачытваць вершы пра «долю беларускага мужыка», напісаныя ў раскошным віленскім рэстаране, не хацелася ніколі».

Тут ёсць пра што паспрачацца, хаця «Наша Ніва» змясціла матэрыял, чыста ўхвальны, дзе стыль мыслення вельмі нагадвае саркастычныя сентэнцыі аўтара «Мёртвага дому». Ці не — зноў — спрачаецца аўтар з самім сабою, і ці не пацвярджае ён уласныя ідэі? Складваецца ўражанне — аўтары (ці аўтар?) свядома балансуюць на мяжы пазалагічнага, свядома зацямняючы яснасць і свядома паварочваючы аналітычнае джала на самыя балючыя пытанні, знарочыста маючы на ўвазе казытанне свядомасці чытачоў: калі ласка, зірніце! Дубавец неяк нібыта і забываецца на ўсё астатняе, зробленае Купалам, на вопыт «Тутэйшых», роўнага якому ў нас, здаецца, і няма — трагіфарс беларусаў, адвечны, нязменны. Між іншым, мне тут згадваецца, як Дубавец у сваю пару пісаў пра трагічнасць постаці Мікіты Зносака... Тут нібыта практыкаванне ў нестэрэатыпнасці, у нехрэстаматыйнасці, у абавязковым сэнсавым каламбуры, у разбурэнні традыцыйнай, класічнай і рамантычнай «арматуры». Скінуць ланцугі звычнага вопыту! Мне гэта прачытваецца так. Метадам ад абсурду? Таксама магчыма. Тут — метадам адмаўлення — нават і таго, што зусім незадоўга сам Дубавец адстойваў, прапагандаваў, падтрымліваў.

Змяняецца час, трансфармуюцца паняцці, не змяняецца саркастычная танальнасць і катэгарычнае адмаўленне Сяргея Дубаўца. І яго — мяркую, свядомае, калі не з прынцыпу абсурду, дык з намеру сутыкнуць свае ж высновы тэарэтычныя і сваю практыку, імкненне да інтэлектуальнага прэсінгу: «Літаратура наша хворая. І, можа быць, нават смяротна». «Рэдакцыйныя тэчкі («Нашай Нівы») разбухлі ад тэкстаў, г. зн. у нас ёсць з чаго выбіраць. Няма — што. Прозы на Беларусі цяпер няма». Выцінкі такога кшталту з тэкстаў Сяргея Дубаўца

можна рабіць ледзь не бясконца. Яму некалі слушна запярэчыў Юрась Залоска: калі ёсць Дубавец, дык ужо няма літаратурнага вакууму. Пярэчыць гэтым пастулатам і літаратурная практыка «Нашай Нівы»: і сваімі публікацыямі тэкстаў, і сваімі сцвярджэннямі, найперш самога Дубаўца.

«“Смерць нацыяналіста” — ці не апошняе істотнае слова ў беларускай прозе. Так называецца новая кніжка Анатоля Кудраўца, якога нехта некалі мімаходзь назваў беларускім Марыякам». «Леанід Галубовіч друкуе “Зацемкі з левай кішэні”. Ад Галубовіча заўсёды чакаеш меншага. Так было з вершамі, так цяпер з гэтымі зацемкамі... Рэч, мабыць, у тым, што Галубовіч як бы на ўсе сто не належыць літаратуры, а ягоныя творы не належаць імю “Галубовіч”, ён гуляе сам па сабе». «На развітанне ў мяне няма слоў. Ёсць апошні зборнік паэзіі Глёбуса “Скрыжаванне” — як апельсін, кінуты ў шыбіну Мёртвага дому».

Пра палітыку Сяргей Дубавец вядзе гаворку з тым жа з’едлівым адчуваннем неаспрэчнай рэчаіснасці сённяшніх дзён гісторыі... У адрозненне ад палітыкаў літаратар — тэарэтык і практык — мае магчымасць практыкай абвергнуць свае высновы, што і робіць Дубавец-літаратар. Складана, — і ў аснове сваёй супярэчліва, — спалучыць эгаізм экзістэнцыі, больш спрыяльны творцам на самоце, і неабходнасць дзейснай актыўнасці, неад’емнай ад практыкі чалавека Адраджэння, перадусім — выдаўца газеты.

Да таго ж «Дзённік прыватнага чалавека» і іншыя выказванні Сяргея Дубаўца, што таксама падаюцца фрагментарна, тэзісна, стаката (палітычны, філасофскі роздум, літаратурныя разважанні) — у нейкім сэнсе споведзь. А споведзь, паводле думкі сучасных псіхааналітыкаў і сацыёлагаў, — найвышэйшая форма самападману. І — пацвельвання з чытацкай свядомасцю. І — нашымі ўяўленнямі. Сцвярджэнне ў імя адпрэчвання і адпрэчванне ў імя сцвярджэння.

Гэтае адпрэчванне-сцвярджэнне адчуваецца ў Сяргея Дубаўца ва ўсіх жанрах. Надае паскоранасць рытму

годнасці, рытму імкнення да славы, але і дае адчуць ціск часу ў крыві.

Сяргей Дубавец не пазбягае выдаткавання мысліцельнай энергіі, наадварот, ён канцэнтруе, спрасоўвае, нават кандэнсуе яе. На пісьме выкарыстоўваючы сінкрэтычны метад. Калі грамадска-публіцыстычныя, публіцыстычна-філасофскія нататкі набываюць форму прозы, а ў прозе ён высвятляе для сябе і іншых пытанні быційныя, філасофскія. Да ўзору, апавяданні «Зімняя муха», «Немач», «Кліч мора» — думкі іх ці не ад хайдэгераўскага «быццё-да-смерці» або ад адваротнага «быццё-супраць-смерці» паводле Андрэ Мальро? Альбо «Збор творцаў» — ці не пра сусветны хаос, бяссэнсіцу, нясткладзіцу чалавечай натуры гэтая аповесць? І апавяданне «Стома» — хіба не працяг (ці пачатак?) роздуму Дубаўца пра самавызначэнне і самарэалізацыю асобы творцы, пра цану самаажыццяўлення, пра тое, што самавыяўленне адначасова і набытак, і страта.

У беларускім пісьменстве тут, у шматжанравасці, літаратурнае пакаленне Сяргея Дубаўца — не выключэнне.

Рэальнасць нашага грамадскага і культуровага жыцця вымагае гэтага.

Дубавец увогуле схільны да стэрэаскапічнага ахопу. І, па шчырасці, цяжка сабе ўявіць, што яго вострае і імклівае пяро раптам надоўга знікне з літаратурнага далягляду і будзе належаць выключна задумам доўгатэрміновага пісьма. Тут, мабыць, дзейнічае тое, неадольнае: «...асаблівасць... унутранай істоты складае... рок; таму што яна ёсць той аракул, ад высноў якога залежаць усе рашэнні індывідуума; яна стварае тое аб’ектыўнае, што знаходзіць сваё значэнне, сыходзячы з унутранай сутнасці характару». І мне здаецца, вось гэтая, паводле Гегеля, «унутраная сутнасць характару» і вызначае стыль і кірунак творчых паводзін Дубаўца, стратэгію і тактыку яго літаратурнага і грамадскага існавання. Неабыякавага для іншых. Памятаю, як пасля ад’езда Дубаўца ў Вільню адзін чалавек яго творчага

пакалення, зусім не сентыментальны і мэтанакіраваны, вёў размову пра тое, што «Наша Ніва» не замяняе непасрэдных стасункаў з Дубаўцом. Мабыць, было нешта незаменнае для яго першаснага самавызначэння ў размовах з рэдактарам «Нашай Нівы».

Тых, для каго Сяргей Дубавец — гістарычная і літаратурная недарэчнасць, таксама хапае.

Для мяне асабіста бясспрэчна тое, што асоба Сяргея Дубаўца і час выяўлення яго асобы — супалі. І ён выкарыстоўвае гэта. Выкарыстоўвае творча.

Заўсёды застаюцца выспы, незацярушаныя крынічкі, падземныя плыні...

Увогуле Сяргей Дубавец пеpажыў узрост, калі зусім не выключаны так званы «крызіс сярэдзіны жыцця». Я не стала б згадваць гэты тэрмін, каб не апавяданне «Кліч мора» і настойлівае паўтарэнне Дубаўцом слоў аб руціннасці — адраджэнцкай справы, літаратурнай, навуковай. Руціннасць узнікае не толькі на грамадскім узроўні, міжвольная руцінізацыя непазбежная ў пэўным узросце, знікае невымоўнае хараство жыцця ў сённяшнім дні дзеля дня наступнага, дзень наступны, пра які вялася гаворка ўчора, ужо надышоў, стаўся сённяшнім. Змяняюцца часавыя параметры, звужаецца часавая перспектыва, сацыяльна-гістарычны кантэкст дае неабвержныя доказы ціску знешніх сіл і абставін. Аднак — не забудземся і на момант «адзінства душы з самой сабой» (Гегель), нават калі ўлічыць і дваістасць душэўнага жыцця індывідуума, і хранічны крытыцызм Сяргея Дубаўца. Скепсіс ягоны — не ад выбуховых імпрэсіяністцкіх рэфлексій. Ад ракурса бачання свету. І ёсць у яго тая самая, згаданая процівага зніштажальнаму абвяржэнню: робячы рытм, тонус інтэлекту (найбольш устойлівыя рысы асобы), урэшце — дыспазіцыя лёсу.

А Сяргей Дубавец умее ствараць свой лёс. Мэтанакіравана, настойліва, у вызначанай ім самім дынаміцы. Якую ўспрымаюць ужо наступныя пакаленні — тыя, што ідуць за былымі «тутэйшымі». Яны ўспрымаюць існаванне БССР як гісторыю, растуць на суцэльнай этыч-

най, эстэтычнай раскаванасці, гатовыя да ўспрыняцця, здаецца, любых навін, чыталі і чытаюць «Нашу Ніву» і іншыя выданні — не як выключэнне з агульнай друкаванай плыні, а як нармальнае: адно з выданняў. Здзівіць іх і жорсткасцю — у сённяшняй рэальнасці і з поглядамі, сфарміраванымі СМІ, звышканкрэтыкай пазнавання рэчаіснасці, і безданню паражэнняў і перамог немагчыма. Ці будуць яны ведаць «тарашкевіцу» ці хаця б «наркамаўку»? Таксама пытанне. І ці будзе для іх істотная розніца?

Зноў — новая культуровая сітуацыя... Яшчэ не пазначаная, здаецца, нейкімі пэўнымі мастацкімі зрухамі (хаця прозвішчы — не імёны — ёсць).

Ёсць сітуацыя і ёсць быццё... І адно без другога не існуе... Хаця не кожная сітуацыя канцэнтруецца ў быццё...

І ў існаванні — па гамбургскім ці яшчэ якім рахунку? — губляюцца прыватнасці, але нюансы застаюцца... Быўшы генератарам ідэй і тэарэтыкам, які кандэнсаваў у канкрэтныя допісы погляды сваіх паплечнікаў, — ён не грэбаваў ніякай працай, калі тое датычыла справы: набор на машынцы і на камп'ютары, вёрстка, друк. Што не любіў — пляжна-авантажнага адпачынку, аддаючы перавагу вандроўцы на байдарках — з сябрамі і заўсёды з жонкай: прыгажуняй і паэткай ад Бога Таццянай Сапач. Што ўмеў, скрыжаваўшы слоўныя рапіры ў спрэчцы, глянуць на момант адстаронена: як прафесіянал, як чалавек, што мае магчымасць узняцца над causa occasionalis (выпадковай прычынай). Як яму ўдасца ўзняцца над трагічным «выпадкам» лёсу — стратай, гібеллю Таццяны, — не ведаю...

Як ужо згадвалася, даводзілася ў сваю пару мець завочныя стасункі ў друку з Дубаўцом (досыць жорсткія), рабілі разам у «Немане», ладзілі розныя «круглыя сталы», рыхтавалі і заказвалі матэрыялы. Часам, як загадчык аддзела, я падпісвала і матэрыялы Сяргея Дубаўца, вельмі небяскрыўдныя, падзяляючы рызыку, ворагаў і няславу і не маючы дачынення да ўстойлівага

літаратурнага рэнаме Дубаўца. Звычайная рэдактарская практыка.

Звычная для мяне. Як стала для мяне звычным латраванне людзей, якіх я лічыла сваімі сябрамі. Але — тым больш я стала цаніць высакародства і сталую годнасць. І з непавагай ставіцца да смеласці прадбачліва-аперадажальнай.

Аднак усё гэта ўжо не датычыць постаці Сяргея Дубаўца.

Што ён — у бесперапынна зменлівай структуры свету? Дзе ўсё можна абвергнуць і амаль усяму знайсці пацвярджэнне? Дзе так цяжка і неабходна трымаць узровень, вызначаны самім аб'ектам нашай гаворкі. Якому сумна, калі няма з кім спрачацца, хаця ён заўсёды знойдзе, з кім і пра што. З ім не пагаджаешся, пасля прачытання створанага Дубаўцом складана адчуць той хрэстаматыйны катарсіс. Але ёсць адчуванне недасяжнасці. Для нас, для яго, для ўсіх. Тое самае імкненне — да вышыні, да ісціны, да ідэалу. Метадам ад адваротнага? А чаму б не?

## КРУГ ЛЁСУ

### *Алесь Пашкевіч*

Урачыстая вечарына з нагоды юбілею малдаўскага кампазітара Эўжэна Догі мела назву: «Лёс у до мажоры». А які лад вызначыць да жыццёвага шляху выдатнага беларускага паэта Уладзіміра Дубоўкі, кніга пра якога — перад вамі?

Зорны пачатак-узлёт — той творчы набытак, што меўся «прыносіцца ў скарбніцу літаратуры з глыбінь сучаснасці, узброенай ведамі, воляю, шчырым жаданнем і энтузіязмам вялікай творчасці». І прыносіўся... А потым — чвэрць стагоддзя: турмы, этапы, высылкі... Маўчанне... Прадчутае... Прадказанае... Не толькі яго асабістае... «Прыціх наш край: ад гутарак аскома... Прыціх наш край: маўчаць, усе маўчаць. Свабодай карыстаюцца сачкомы, Каб тых, хто мысліць, у астрог саджаць».

Урэшце — сярэдзіна 50-х... XX з’езд... 55-ы — вызваленне... 57-ы — рэабілітацыя... Вяртанне... Куды? Нягледзячы на новыя павевы — у рэчаіснасць, дзе тыя, хто цкаваў яго публічна і хто пісаў на яго даносы, займелі высокія пасады, гучныя літаратурныя імёны, пачалі вызначаць літаратурныя густы, меліся ацэньваць мастацкую вартасць творчасці іншых...

Круг... Кругі, што вызначыў у свой час вялікі фларэнтыец, кругі, пра якія распавёў у XX стагоддзі ў ад-

найменнай паэме, глыбінна-змястоўнай, прарочай паэт Уладзімір Дубоўка. «Круг» — так назваў свой раман-біяграфію пра Уладзіміра Дубоўку Алесь Пашкевіч: паэт, празаік, даследчык, чалавек немалога грамадзянскага гарту. Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў... У час, калі гэтая ганаровая пасада ператварылася ў небяспечную. Адстойваючы духоўны лёс Бацькаўшчыны, грамадзянскія і творчыя прынцыпы сваіх калег і свае, ён не адзін год змагаўся за лёс СБП — у бясконцых дзяржаўных інстанцыях, судах... Адказваючы на шматлікія чыноўніцкія каверзы... Ахвяраваў многім у сваім жыцці... Чырвоны дыплом БДУ, чырвоны дыплом аспірантуры, бліскуча напісаная доктарская дысертацыя — і звальненне з пасады дацэнта ў БДУ...

Узор Уладзіміра Дубоўкі — жыццёвы і творчы — меціць многае ў жыцці Алеся Пашкевіча.

У сваім рамане ён паяднаў у тэкставай прасторы твора паэтычна-філасофскае, свядомасна-заглыбленае, аналітычнае і белетрызавана-фактаграфічнае пісьмо. Зрабіўшы гэта таленавіта, трывала, ярка. Надаўшы нават ужо вядомаму асаблівую вастрыню, увёўшы ў зварот новыя факты, прымусіўшы задумацца наноў пра творчы, дзейсны пачатак чалавечага існавання, пра натуральна-стыхійную, прыродную духоўнасць. І — пра згаданую трагедыю творцы, асобы. Трагедыю часу. Трагедыю Беларусі.

Паэт Уладзімір Дубоўка... Што зазнаў высокую эстэтычную рэальнасць, роўную этычнай высакароднасці, духоўнай традыцыі народа — сфарміраваўся гэтым... Вызначыў, як тое можна перадаць Словам — і трапіў пад «кола гісторыі», пад жорны таталітарна-рэпрэсіўнага рэжыма. Чытач адчувае гэта як чыстую сутнаснасць, як эпізод быцця, не замглёнага стракатым смеццем будзёншчыны — адчыняючы кнігу, дзе напачатку ў кожным радку адчуваецца — паэт. Той, пра якога вядзецца размова. І той, што вядзе яе. Скандэнсаваная думка, афарыстычнае пісьмо: «Учора і заўтра — гэта памяць і праўда. Сёння — іхняе злучво... Калі да праўды дадаць памяць — атрымаецца ісціна».

Алесь Пашкевіч стварае нібыта паэтычны прэлюд. Дае магчымасць адчуць «інтэграцыйнае ядро» жыцця (паводле Барыса Пастарнака) — яго дзяцінства, юнацтва. Умацоўвае факты ў паэтызаванай рэальнасці, дае адчуць узнікненне, фармаванне паэта, усведамленне ім свайго дару і сваёй місіі. Мелодыя прыроды — калі «залюструюцца на вазёрнай роўнядзі сонцавы ўсмешкі», тыя «вазёры», у якіх «неба ранкам магло памыцца»... А яшчэ — матэрыялізаваныя ў слове думкі, пачуцці, веды: кнігі. І — урэшце — разуменне таго, што ён, Уладзімір Дубоўка, — чалавек з гэтага азёрнага краю, з гэтай краіны — Беларусі. Грамадзянін краіны...

Прыходзіць і разуменне «бяскрайнасці беларускай душы», таго, што — «і дух наш будзе праз наша Слова схіляць да нас прасцягі і шляхі». У кнізе Алеся Пашкевіча цытуецца, праўда, многае іншае, але канцэнтрацыя сэнсу моўленага — менавіта ў гэтым.

У рамане-біяграфіі мы бачым незвычайную постаць — паэта, які марыць пісаць не на пралеткультаўскім узроўні, а на тым, што адпавядаў бы эстэтычна-свядомасным, сусветным крытэрыям. Бачым чалавека, які спрабаваў выснаваць тое тэарэтычна, абапіраючыся на думкі Шлегеля, Арніма, Шэлі. Бачым зачараванага хараством свету і пекнатою жаночай юнака — закаханага і каханага. І — бясспрэчна і найперш — бачым грамадзяніна, патрыёта Беларусі. Сумленнага, адданага, нязломнага.

У рамане Алеся Пашкевіча ёсць яшчэ і тая неацэнная эстэтычная і этычная раўнавага, якой бракуе сённяшняму, не толькі раскаванаму, але часам і проста ўшчэнт распаразанаму прыгожаму пісьменству. Ранейшую жалезна-партыйную «маральную ўстойлівасць» з неадчэпнымі прынцыпамі замоўчвання часта імкнуцца замяніць то лёкайскімі «назіраннямі»-падглядваннямі, то такім смакаваннем распусты і разбэшчанасці, перад якімі блякнуць выявы нораваў часоў Нерона.

Ёсць і лінія лёсу. Няпростая лінія. Высокі ўзлёт — зорныя часіны ўзвышанскага перыяду творчасці. Кнігі вершаў — «Строма», «Credo», «Наля». Паэмы — «І пурпуровых ветразяў узвівы», «Там, дзе кіпарысы», згаданыя

«Кругі». Артыкулы, вершы, сярод якіх і такія, як «За ўсе краі, за ўсе народы свету...».

Узлёт... І трагічная бездань, у якую нізрынула творцу сістэма... Чвэрць стагоддзя — адзін этап за другім, адна высылка за другой... Ланцугі, абцугі... Алесь Пашкевіч нешматслоўна, але па-мастацку пераканальна перадае гэты шматгадовы боль, пакуты, здзекі з чалавечай годнасці... І — нязломнасць. Годнасць. І маўчанне. Маўчанне на допытах, падчас катаванняў... І — маўчанне творчае...

І тое вяртанне, пра якое вялася гаворка... Не на Беларусь. У Маскву... Кнігі для дзяцей, пераклады, аўтабіяграфічная проза. «Это многих славный путь...» Барыс Пастарнак, Ганна Ахматава, Карней Чукоўскі... (Які, між іншым, да часоў ідэалагічна ўнармаванай думкі быў бліскучым крытыкам — ах, як ён таленавіта пляжыў дарэвалюцыйных данцовых — Вярбіцкую і Чарскую!)

Уладзімір Дубоўка не вярнуўся да сваіх «пурпуровых ветразяў». Вызначаў сябе ў літаратурным свеце адстаронена і па-чалавечы, па-хрысціянску высакародна. Ён — вышэй за тых, хто некалі паклёпнічалі на яго. Ён — вышэй за даброты мітуслівага свету. Часам досыць адчувальныя... Як тая персанальная пенсія, што яму не далі... Горшае — у іншым... У тым, мабыць, пра што ён прамовіў словамі Шэкспіра — перакладаў яго.

Скажы ўсім ім: «Калі б мой друг не згас І за жыццё спазнаў бы ліха меней, Не горш бы ён тварыў за многіх з вас, Не горшы быў бы ў вашым пакаленні...».

Не горшы... З самых лепшых. Вартых пашаноты, павагі, памяці. Памяці найперш такой, якой ён успрымаў свет, як паэт. Свет, з якога ён адышоў, паводле ўяўлення Алеся Пашкевіча, так: «Ён — на горцы. На іскрыстым белым узвышэнні. Узлятае — і становіцца лёгкім, як аблачынка над хатай. Пэўна, расцерушыла-раздала ўвесь снежны запас — і таму такая светлая... таму такая лёгкая... Таму — такая... Таму...»

Гучыць гэта як кода, як перазоў з прэлюдам-пачаткам, са шматлікімі старонкамі кнігі. Якую будуць чытаць.

Раздумваючы. Параўноўваючы. Згадваючы.

# «...З ГЛЫБІНЯЎ СВЯДОМАСЦІ...»

## *Барыс Пятровіч*

...неба пачынаецца ля воч
і цягнецца
з глыбіняў свядомасці
у цемрыва сусвету
і там, далёка, ты сёння
не знойдзеш сябе...

Менавіта так. У недасягальную прастору быцця імкне герой Барыса Пятровіча, вызнаючы адначасова логіку і алагізм сэнсаў...

...Блуканне ў абшарах сусвету, няпэўнасць, пытанні... Беспаветраная пустэча... І адначасова няўмольная ўключанасць у матэрыяльны кругазварот... «Мроіва душы», мроіва свядомасці, высокія вышукі інтэлекту — у адных творах, знарочыстая прыземленасць, будзённасць, самарэфлексія, рудыментарныя адчуванні, неўсвядомленыя імпульсы — у другіх.

Аналітычнае мысленне, вызначанасць каштоўнасцяў надасабістым, надсусветным — і містычнае адчуванне ад уласнай сутнасці. Вяршыні і бездані свядомасці — эмпірычная тканіна свету, з узмоцненай матэрыяльнасцю рэчаў, нават іх агрубленасцю...

Абсурд рэчаіснасці — і гармонія сутнага...

Барыс Пятровіч схільны да парадоксаў... На вокладцы адной з яго кніг абвешчана: «Жыць не страшна». А тэкст — на фоне выяў з карцін Босха, дзе непрыгожае (безобразное) зусім не былая прыгажосць, а разнастайнасць брыдоты... Рэчаіснасць, дзе існуюць толькі людзі хваравітыя, скалечаныя, пакутныя... Ды і рэчаіснасць, якую рэальнай не пазначыш... Сон розуму... Паводле вядомага...

Анамалія існага, дзе фантазія выдае змрочна-стратнай...

И бездна нам обнажена
С своими страхами и мглами...

*Ф. Цютчаў*

Жыць не страшна? Трэба быць вельмі моцным, каб не зважаць на гэтыя безданi. І каб зважаць. Трэба быць моцным інтэлектам, набытымі ведамі. Засвоенай чалавечай думкай. І — уласнаю.

Засвоена — многае. Безумоўна, чыталіся і Джойс, і Кафка, і Булгакаў, а не засталіся ўбаку і Гофман з Гогалем... І экзістэнцыялісты і іх папярэднікі... Выпрацаваны свой мастакоўскі стыль. Ёсць свой узровень. Адметнасць. Нездарма гэты пісьменнік прыцягнуў увагу творчых асобаў з падкрэслена своеасаблівым мастацкім кодам: Валянціна Акудовіча і Ірыны Шаўляковай... Такой актыўнай пісьменніцы, як Людміла Рублеўская (здаецца, не засталося ніводнага літаратурнага жанру, не засвоенага ёю — тым больш, што друкуюць яе і ў афіцыёзным дзяржаўным друку, і ў незалежным. Ну, але гэта да слова).

У творах Барыса Пятровіча адчуваецца рэальнае духоўнае быццё — менавіта гэта прыцягвае і толькі што названых асобаў, і чытачоў. Быццё —і пазачасавае, так бы мовіць, спрасаванае ў імгненнях вечнасці, і ў канкрэтна пазначаным часе, у сучаснасці, пазнавальнай і відавочна рэальнай. Хаця пісьменнік умее рэальнае выштурхнуць

у закрэсавае, няўстойлівае, прапануе адчуць бязмежнасць праяў, думак, мрояў... І ўмее даць узор дакладнага рэалістычнага пісьма з сюжэтна-фабульнай пабудовай, не спакушаючыся, аднак, шматходавай кампазіцыяй з мноствам дзейных асобаў.

Ну, і відавочна аддае шмат увагі так званым «фрэскам» — як ён сам сцвярджае, стараюцца яны менавіта такім спосабам: «пішуцца за адзін раз, як і малююцца ў храме — пакуль не высахла тынкоўка». Пісьменнік адразу і жорстка падступае да галоўнага, сутнаснага. Як быццам на адным дыханні, але ж размова тут пра існае, стрыжнявое, тут вось важны той самы час у бясконцасці быцця, пытанні, што ўзніклі даўно і наўрад ці маюць адказ...

Вечныя пытанні... Адвечныя...

...Для пісьменніка цікавая лінія асобы, загадка асобнага чалавека. Вось тое, пра што распавядае герой з фрэсак: «для мяне любое быць — шчасце: птушкай, травінкай, мурашом, тым болей — чалавекам...» Калі ёсць магчымасць зведаць радасць: «сонца ва ўсе вочы», «прастора — ад краю да краю родная-палеская роўнядзь з вочкамі азёрцаў, копанак, балацінак, са стужкамі рэчак на зялён-зялёным дыване», «колер — светлы», «настрой — пад колер. Але адназначна — з «адценнем весялосці». Шчасце — калі ёсць дрэва, і дрэва — абавязкова як адзнака моцы і хараства — высокае і раскідзістае». А яшчэ абавязковая адзнака радасці быцця — «кніга... Ну, як без яе, ну як без кнігі выпраўляцца ў свет...» Безумоўна, і мары. «У кожнага — кожныя. Асабістыя з асабістых» («Гэта няшчасце?»)

Вось такі імператыў, такія парадыгмы светаўспрымання... У выверанай кантрапунктна, як музычны твор, дакладна вызначанай стылёва, прозе Барыса Пятровіча. Гэта найчасцей чалавек у рэальнасці, але часам па-за абставінамі, сітуацыямі, па-за вызначанай канкрэтыкай учынкаў і падзей. І пісьменнік спрабуе ў простым, відавочным знайсці каштоўнаснае. І спрабуе вызначыцца ў тых пластах свядомасці і падсвядомасці, дзе — згадаем класічна выверанага Гегеля — «ёсць тое выза-

ленчае імкненне, якое душа павінна правесці супраць непасрэднасці свайго субстанцыяльнага зместу, каб цалкам авалодаць сабой і адпавядаць уласнаму ўяўленню, — каб стварыць сябе тым, што яна ёсць у сабе...» У ідэале? Магчыма. Але — у імкненні(?) да яго? Марным? Гіпатэтычным? Не выключана. Так можна прачытаць.

Аднак пэўна — Барыс Пятровіч супраць адаптацыі ідэй, пачуццяў, думак, супраць сярэднестатыстычнай абыдзёншчыны існавання, супраць маральнай «зношанасці» жыцця. Супраць адсутнасці ўстаноўкі паводзін — калі дыялог з лёсам заканчваецца ціхамірнай капітуляцыяй. Вось, аказваецца, персанажу фрэскі ўжо нецікава ў жыццёвых сітуацыях «гол забіць», выйграць, пражыць ярка, дзейсна. Яго цягне да кампрамісна-канфармісцкага «пас аддаць». Не патрапіць той, іншы, у вароты — што ж, не яго, героя фрэскі, віна. Ён ціхенька зрабіў сваю справу. Якія да яго прэтэнзіі («Пас аддаць»)?

Тэкст Барыса Пятровіча спрацоўвае і лінейна, і логікай таго, што па-за ім. Нешматслоўна, лапідарна. Амаль знакава. Пісьменнік любіць гэты прыём, гэты метад пісьма. Не «растекается мыслию по древу». І герой яго — найчасцей неперсаніфікаваны індывід, які ведае, што «шчасце быць» можа ператварыцца ў нудотную задаволенасць ці шэрую незадаволенасць існаваннем... Супраць гэтага, а найперш супраць «абыякавасці і несправядлівасці, супраць хлусні і падману» («Плошча») на ўсіх узроўнях выступаюць тыя, хто наважыўся — асмеліўся атрымаць хрост у купелі волі...

Як пазначалася, Барыс Пятровіч не так часта выкарыстоўвае фабульна выснаваны, адкрыты прыём. (Наўмысна не ўжываю тэрмін «традыцыйны», досыць умоўны. Плынь свядомасці, спосабы пісьма Джойса і Пруста, па-мойму, даўно ўжо і стала творча засвоены іх паслядоўнікамі. У пэўным сэнсе — традыцыя, толькі адрозная ад выснаванага Бальзакам ці Талстым (якога Талстога мы не згадвалі б).) У такой, фабульна пазначанай тэкставай фактуры задума выяўляецца больш пэўна, хаця гэта таксама ні ў якім выпадку не

паслядоўна адналінейны ланцуг канклюзій-вывадаў, хутчэй філасофска-сузіральны роздум пераведзены ў сферу ўчынкаў і дзеянняў, вызначанай канкрэтыкі існавання.

Але самастварэнне, самавыснаванасць праз учынак не адбываецца. Што ёсць — самавызначанасць? Што ў жыцці абавязкова, немінуча? Спачатку мары, вера, надзея, потым — расчараванне, шэрань, абыдзёншчына? І гэта абавязкова з тым самым — «пас аддаць»? І «шукаць зярняткі там, дзе іх няма?» Засвоіць сумнае правіла: «ад перамены месцаў складаемых сума не змяняецца («Аднаразовасць»).

І нават сімвалы з шэрагу вечных катэгорый можна ўспрымаць па-рознаму: для некага крыжык — гэта крыж, і «ўсе мы нясём крыж» («Аднаразовасць»), а ёсць і такія, хто прымае гэты знак пакуты за зручны плюс. І зноў жа нейкі рахункавод жыцця і быцця замест «падобнага да крыжыка» знака памнажэння × вызначыў ставіць кропку». Дык што бясконцасць свету перад гэтай кропкай? Такая разлікова-прыбытковая кніга існавання? Ці кропка ў «блуканні з шматзначнай назвай жыццё»? «Але тады бясконцасць стане вечнасцю, што, па сутнасці, тое ж самае». Але можна разважыць і так, лічыць Барыс Пятровіч: «...ёсць толькі Бог, які і ёсць кропка. Адліку».

Пачатку і канца? Ці бясконцасці, дзе няма пачатку і канца?

Ад фрэскі да фрэскі (а гэта не толькі проза) — напружанае супрацьстаянне няпэўнай нявыказанасці сутнага згушчанаму, але слоўна не заўсёды выяўленаму ладу мыслення, дзе пераплавіліся духоўныя дасягненні, духоўныя запыты, навуковы і маральны вопыт, звычаі, скарбніца ведаў... Урэшце — стрыжнявы сэнс. Калі не набліжэнне, дык імкненне да гэтага сэнсу. Метафізічная патаемнасць загартаванага інтэлекту... Герой фрэсак раздумвае, вызначае, адчувае... А часам, як пазначалася, бавіць дні ў гэтым свеце выключна на ўзроўні самарэфлексій, для яго — у безнадзейна памарачнай рэчаіснасці. Кожны дзень тупа ўжывае алкаголь, кожнадзённа звычна сварыцца з жонкай... Існуе нават не на прымітыўна-жывёльным узроўні,

а недзе па-за ім. Бессэнсоўна, шэра... І бессэнсоўна, выпадкова памірае («Сямён»). Дзеля чаго жыў? За што памёр? Чаму?

Пісьменнік не судзіць, не абвінавачвае, не выкрывае... Сведчыць... Гэта знешняе... Не дачыненне нават... Дотык... Да чужой свядомасці. Наўмысна агрубленыя дзейныя асобы, атачэнне, абставіны. Узмоцнена матэрыяльнасць рэчаў.

Аповед бывае часам надзвычай адкрыты, нават напрасткі фізіялагічны. Часам Барыс Пятровіч выкарыстоўвае прыём, досыць выпрабаваны самымі інтэлектуальна аснашчанымі літаратарамі XX стагоддзя — манціруе, спалучае высокае з нізкім, філасофска выштукаваны роздум з фізіялагічнымі момантамі. Углядаецца ў рэчаіснасць, канструіруе рэчаіснасць, дае волю фантазіі... Вызначае неразгаданую ісціну, але не спрабуе яе разгадваць... Ставіць пытанне...

Дарэчы, вось тыя абвешчаныя імператывы — «шчасце», «радасць» — яны не так часта падмацоўваюцца мастакоўскай палітрай Барыса Пятровіча. Ну, не так каб, як у чорным гумары яго персанажа: «Мы рождены, чтоб Кафку сделать былью», аднак на пяшчотна-светлыя ці святочна-сонечныя фарбы пісьменнік не вельмі шчодры. Гэтыя колеры — мае як быційны эталон, эстэтычны, этычны. І менавіта яго, празаіка і паэта Барыса Пятровіча эталон. Ён прапануе жорсткія мадэлі рэчыўнай рэчаіснасці і не менш бязлітасныя канструкцыі розумаспасцігальнай, свядомаснай плыні жыцця. Ствараючы часам такі вобраз свету, калі фантазія неадрозная ад праўды, ілюзіі ад рэальнасці, мары ад явы. Дарэчы, вось той самы неперсаніфікаваны індывід у Барыса Пятровіча — не стэрэатып, не знешняе, створанае імкненнем стандартызаваць сваё «я», а вызначанае філагенезам, арганікай існага: архетып.

Існуе ён то ў зусім канкрэтных гістарычных абставінах, нават у пэўным моманце, у сферы дзеянняў і ўчынкаў, то ў нейкім бясконцым перфектууме ці, можа, кантыніуме... То ў метагістарычным абшары — як у фрэс-

цы «Карчмапрыдарозе», дзе герой павольна шпацыруе па часе... То — у бясконцасці быцця...

Барыс Пятровіч спрабуе — і ўмее гэта рабіць — глядзець на чалавека ў розных ракурсах, розных сістэмах успрымання, розных свядомасных сферах. Вось нічога не засталося ад знакамітага опернага спевака — у яго фізічным і духоўным існаванні. Усё сублімiравалася ў адно жаданне — паесці. Такі «метафізічны хранатоп». Але... На гэтую даведзеную да гратэскавага самаадмаўлення сітуацыю накладваецца вызначальная папраўка: застаўся голас спевака. Засталася — сутнасць. Галоўнае, што вызначала яго жыццё. Яго асобу. Чым ён быў цікавы людзям. Увасобленае ў гукі, словы, тое, што належыць яму, а ў пэўным сэнсе ўжо і не належыць, адстароненае, адасобленае...

Голас, гук, музыка — тое, на што рэагуе нешта ў кожным з нас, што аб'ядноўвае, хаця і ўспрымаецца пароznаму і ў розных сітуацыях... І такія пазнавальна-непазнавальныя моманты суіснавання ў сваіх суб'ектыўных адасобленасцях і судакрананнях, сутыкненнях —магчымасць і абавязковасць дамысліць, давызначыць — прыцягваюць да творчасці Барыса Пятровіча. Ён запрашае да су-размовы, су-роздуму... Суперажывання...

І, безумоўна, разлічвае на падрыхтоўку чытача. Інтэлектуальную, эстэтычную, этычную.

Гэта няпроста — прайсці сцяжынамі творчасці Барыса Пятровіча. Што пачынаў у суполцы «Тутэйшыя». І меціў свае шляхі ў рэчышчы беларускага прыгожага пісьменства — у кантэксце літаратуры еўрапейскай. Відавочна і акрэслена, як і ўсе сябры суполкі, супрацьстаўляючы сябе вузкасці і прасталінейнасці ідэалагічных і эстэтычных устаноў афіцыёзу. Пазней імкнуўся пацвердзіць свае прынцыпы ў творчасці і ў працы намесніка галоўнага рэдактара штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». І асабліва — заняўшы пасаду галоўнага рэдактара ў новастворан ым часопісе «Дзеяслоў». І намесніка старшыні СБП. І тое, і другое — у час няпросты. Уладныя структуры рабілі ўсё магчымае, каб перашкаджаць і

дзейнасці СБП, і выданню часопіса. У Саюза гвалтам адабралі Дом літаратара, бібліятэку, маёмасць... Зацягалі па судах... Рабілі і робяць перашкоды нармальнаму існаванню СБП і часопіса. Часопіс выходзіць. У ім друкуюцца і сталыя майстры, і маладыя літаратары, знаходзіцца месца і для спадчыны. Ёсць падпіска, але часопіс нельга набыць у шапіках Белсаюздруку і Белпошты, яго амаль няма ў бібліятэках...

Аднак ёсць галоўнае — часопіс, які трымае мастацкі ўзровень...

Мастацкі ўзровень трымае і пісьменнік Барыс Пятровіч... І кожны прачытае ў яго сваё. Што супадае ці не супадае з чытацкім светапоглядам. Але — адчуе быційную скіраванасць яго пісьма.

Відавочны і патаемны змест.

# НІЦЬ АРЫЯДНЫ

## *Арыядна Ладыгіна*

Habet mortalia casum — усё, што мінае, не абыходзіцца без выпадку.

...Быў такі casus у сярэдзіне 70-х гадоў мінулага стагоддзя... Рыхтавалася да друку кніга ўспамінаў аднаго акцёра. З ілюстрацыямі. Аднымі з самых значных эпізодаў былі згадкі пра Ларысу Пампееўну Александроўскую. І — ніводнага яе здымка.

Я была выдавецкім рэдактарам гэтай ксёнжачкі. І не проста здзівілася — абурылася. Як? Легенда беларускай опернай сцэны! Адметная постаць нашай культуры! Актрыса! І — ніводнага фотаздымка?

І я зрабіла тое, што ў маю кампетэнцыю ніяк не ўваходзіла: патэлефанавала Александроўскай, без асаблівай надзеі. І пачула: «Я, праўда, хварэю. Але я актрыса. Прыязджайце сёння ж». І мы пасля заканчэння працоўнага дня паехалі да Александроўскай, разам з Таняй (Таццянай Аляксееўнай) Зарыцкай. Дачка вядомага беларускага паэта, сама перакладчыца, рэдактар, яна на тую пару таксама рабіла ў выдавецтве і з ахвотай адгукнулася на маю прапанову —а мне, зразумела, было лацвей візітаваць у кампаніі.

Адчыніла нам сама Ларыса Пампееўна — цэлая сістэма замкоў: у нас тады гэта было навіною. Прыглядацца да

інтэр'ера ў дэталях мне не ўласціва, але не звярнуць увагу на раяль і бярозку ў кадцы было немагчыма. Ну, раяль — зразумела. Спявачка! Але бяроза! Не які-небудзь модны на пару росквіту тэатральнага жыцця Александроўскай фікус ці пальма. Бярозка! Пушыстая, бела-зялёная. Узорыста-свежая, светлая блаславёным водсветам таленту і мройлівай фантазіі гаспадыні...

І здымкі месціліся не ў альбоме ці нават не ў якім куфэрку. У валізцы, у чамадане. Бярыце! Выбірайце! Было з чаго! І быў каментар. Каментар актрысы! Мала што тэрмометр паказаў трыццаць восем...

Некалькі здымкаў мы адабралі для кнігі...

...Але пачала я з гэтага здарэння, выпадку (хай мне даруюць таўталогію) невыпадкова. Ужо ў новым стагоддзі, новым тысячагоддзі пабачыла ў кнігарні цікавае выданне: пра Ларысу Пампееўну Александроўскую. Аўтар — Арыядна Барысаўна Ладыгіна. Эстэтык, музыказнаўца, скрыпачка. Доктар філасофскіх навук, прафесар. Пляменніца Ларысы Пампееўны.

Кніга яркая, цікавая спалучэннем навуковага, музыказнаўчага грунту і мастацкай вобразнасці, сур'ёзнасці аналізу і ўзлётнасці думкі, адмысловасці яе выкладання. Спалучэннем размовы пра асобу і пра час, пра залежнасць і незалежнасць творчай асобы ад часу, абставінаў, атачэння. Спалучэннем адстароненасці погляду спецыяліста і чалавека, асабіста і генетычна блізкага асобе, пра якую распавядае «дакументальна-тэатралізаваны раман», «з пралогам і эпілогам».

Адметна вызначаная постаць гераіні аповеду. І не менш выразна выяўленая — думкай, манерай пісьма: постаць аўтара кнігі. Гэта ж заўсёды ўзаемазалежна. Тут, у Арыядны Ладыгінай, згадаю наноў: навуковы грунт — і эмацыянальны, вобразны, зацікаўлены, з добрай раўнавагай суб'ектывізму і аб'ектыўнасці аповед... Кніга ў творчай біяграфіі навукоўцы Арыядны Ладыгінай асобая. Гэта і даследаванне пра адну з самых прыкметных на Беларусі постацяў няпростага часу ў сённяшні, яшчэ больш складаны час: пераацэнак,

адмаўленняў, скасаванняў — і захоўвання, зберажэння лепшага, важнага, важкага... Гэта і сведчанне пра эпоху, больш дакладна — эпохі... Гэта і мемуары (адначасова і даследаванне, росшукі) пра сям’ю Александроўскіх–Ладыгіных–Дашчынскіх... Лёс яе ў стракаты гістарычны час. Лёс, залежны, а ў нечым важным і незалежны ад часу. Лёс, непарыўна звязаны з гісторыяй Мінска. Гісторыяй Беларусі. Гэта і жывы, вобразны, эмацыянальна насычаны мастацкі твор.

...Замыслена і нават замоўлена Беларускім тэатральным таварыствам кніга была даўно, яшчэ ў 1962-м годзе...

Але спатрэбіўся час асэнсавання. Дыстанцыя часу, каб зрабіць гэты «партрэт на фоне». Партрэт легендарнай спявачкі, таленавітай актрысы, грамадскай дзяячкі, чалавека шчодрай душы. Прыгожай жанчыны, якая заўсёды мела свой гонар не толькі ў сцэнічным і грамадскім, але і ў асабістым жыцці, няпростым і не самым шчаслівым.

Партрэт створаны таксама асобай незвычайнай. Зноў нагадаю — падвойны партрэт: бо аўтарка тут вымалёўваецца не менш, як вызначаная персаналія мастацкага досведу.

Так. Даследчык, вучоны, прафесар кансерваторыі — Арыядна Барысаўна Ладыгіна. Але — і асоба! З якою мне надарылася сустрэцца паводле службовых заняткаў у сярэдзіне 60-х гадоў. Надзвычай актыўная, абаяльная...

Імпанавалі эрудыцыя Арыядны Барысаўны, дысцыпліна і адначасова раскаванасць думкі, логіка высноў і патрабавальнасць эстэтычнага густу... Былі і меты часу — без іх мала хто абыходзіўся... Аднак першаасновай, апірышчам былі класічныя ўяўленні пра хараство і мастацтва, цвёрды прафесійны грунт і зацікаўленасць у вызначаных дамінантах размовы...

Было і гэта — спадчыннае, родавае: артыстызм і адначасова шляхетнасць і вытанчанасць, выхаванасць карэннай мінчанкі (хата яе прадзеда Дашчынскага, якая згарэла падчас Айчыннай вайны, месцілася на рагу былых Правіянцкай і 3-га Шпітальнага завулка —сённяшняе

перасячэнне вуліцы Захарава і Бранявога завулка, а воляю лёсу тут быў пабудаваны дом, дзе атрымала апошнюю сваю кватэру Ларыса Пампееўна Александроўская). Заўважалася адразу і самавітая годнасць моцнага, угрунтаванага кораня... Дашчынскія — паходжаннем з Заслаўя, карэнныя беларусы, у сям'і, дарэчы, усе размаўлялі пабеларуску.

Арыядна Барысаўна — высокая, ладная, прыгожая своеасаблівай, нестандартнай прыгажосцю.

Імя, якое сведчыла зусім не пра рабоча-сялянскае паходжанне (тады яно было ў пашане): бацька — інжынер-пуцеец, маці — скончыла гімназію і была курсісткай знакамітай вышэйшай навучальнай установы. Арыядна — імя, ад якога бясспрэчна патыхала міфам, легендай. Адразу згадвалася тая нітка, якая выратавала Тэзея, а паводле згаданага «варыянту» — Арыядны Барысаўны, — мусіць, вызначала шляхі ў лабірынтах жыцця. І нешта супадала, а нешта пачыналася, вызначалася падзеямі, учынкамі, стылем жыцця, прынцыпамі жыцця яе цёткі.

Якая, паводле сямейнай традыцыі, вызнавала вось тыя, пазначаныя вышэй каштоўнасці: мастацтва, веды, інтэлект, сумленнасць, добразычлівасць...

Усё гэта падмацоўвалася і геннымі пачаткамі мужа дачкі Дашчынскага (маці Ларысы Пампееўны) — сынам святара з расійскай «глыбінкі» — Пампея Васільевіча Александроўскага, які, скончыўшы толькі духоўнае вучылішча (семінарыю?), працаваў кантралёрам-дырэктарам чыгункі Волагда-Архангельск, меў незвычайныя матэматычныя здольнасці, а да таго ж — моцны, сакавіты голас: бас.

Добра спявалі і ўсе яго дочкі, а Ларыса змалку навучылася і акампанаваць на гітары, дзяўчынкай нават аднойчы мела, так бы мовіць, выкладчыцкі вопыт: з просьбы суседзяў перадавала сваё ўменне іх хлопчыку. Дарэчы, безумоўна, гэты факт, як і першыя спробы музычнай адукацыі — спачатку ўсё ад шчаслівых выпадкаў: здольнасці, талент Ларысы Александроўскай

кідаліся людзям у вочы, — гэта ўсё з сямейных «архіваў»: успамінаў, дзённікаў... Як і каларытныя замалёўкі жыцця Мінска (Менска) пачатку XX стагоддзя — неацэнны матэрыял у спазнаванні побыту, культуровага жыцця, мастацкай, ды і ў пэўным сэнсе грамадзянскай свядомасці...

А гэтыя лініі лёсу... Эвакуацыя сям'і ў Першую сусветную вайну ў Пецярбург. 1914-1918-я гады... Дзе, між іншым, Ларыса Александроўская вучылася ў адным класе з Алілуевай. І — не паміж іншым — была заўважана знакамітай Аленай Серна-Салаўёвіч, якая прапанавала бліскуча адоранай дзяўчыне бясплатныя заняткі...

А потым — ужо ў Мінску — тэатр... Вучоба... А ўжо ёсць муж і сын... І — мастацтва, мастацтва, мастацтва... Усёпаглынальная любоў жыцця... Пакліканне...

Заснаванне Нацыянальнага, Беларускага опернага тэатра! Падзея! Для рэспублікі! Для Ларысы Пампееўны Александроўскай! У рэпертуары якой і адказныя оперныя партыі, і народныя песні, і вакальныя творы сучасных кампазітараў.

У спявачкі вакал шырокага дыяпазону — партыі драматычнага сапрана і меццa-сапрана. Толькі апошнюю частку жыцця, пасля таго, як Александроўская адхварэла на астму (а яна мела сур'ёзныя праблемы і з сэрцам, і з лёгкімі), актрыса перайшла выключна на партыі меццa-сапрана: «верхняе сі-бемоль не гучала»...

Але як гучаў некалькі дзесяцігоддзяў голас Ларысы Пампееўны Александроўскай — дарэчы, таксама заўважце: якое імя! Якая мелодыка вымаўлення! Не кожны замыслены і прадуманы псеўданім мае такі каларыт!

І як чытаюцца старонкі кнігі! Адчуваеш дынаміку часу, падзей, своеасаблівасць і моц характару знакамітай беларускай актрысы! Якія моманты жыцця Александроўскай дае нам адчуць Арыядна Ладыгіна!..

...Ларыса Пампееўна ў складзе савецкай дэлегацыі на святкаванні 8 Сакавіка ў Лондане... Жыве ў адным нумары і выпраўляецца на сустрэчы з карэспандэнтам газеты «Правда» Вольгай Чачоткінай. З ёю і спускаецца ў за-

бой нейкай англійскай шахты. У адпаведным адзетку — рабочых робах... І шахцёры глядзяць на іх з недаверам. Няўжо адна з іх актрыса? І Александроўская — спявае... А па твары мужчыны вельмі не сентыментальнага занятку цякуць чорныя слёзы... Іх назаўсёды запомніла спявачка... Як і выступленні з франтавымі брыгадамі падчас Другой сусветнай вайны... Як словы знакамітага дырыжора Пакроўскага ў тую ж пару. Оперны тэатр эвакуіраваўся, мяняў месца знаходжання. А Пакроўскі безапеляцыйна абвясціў: «Калі ёсць Александроўская, то ёсць і тэатр!». А да таго, у 1940 годзе, былі трыумфальныя выступленні Беларускага тэатра оперы і балета ў Маскве. І ці не галоўным трыумфатарам Дэкады была Александроўская!

А яшчэ да таго адбылося выступленне Александроўскай на XVIII з'ездзе партыі. Сёння можна, безумоўна, колькі заўгодна мусіраваць пытанне, і ў прыватнасці тое, чаму прамаўляць прывітальнае слова адмовіўся Янка Купала. Тут хацелася б адзначыць такі факт. Тэкст быў на рускай мове. А прэзідыуму заманулася: хай чытаюць пабеларуску. І Александроўская «з ліста», як кажуць, перакладала на беларускую мову, вырашыўшы: беларусы даруюць, а расіяне наўрад ці пачуюць памылкі. І прачытала — з бляскам. А час быў, калі, як вядома, было не да жартаў...

І Александроўская спрабавала дапамагчы калегам. Кампазітару Туранкову, напрыклад, якога закранула хваля рэпрэсій...

Увогуле нідзе не займала пасадаў, так бы мовіць, намінальна. Ні як вядучая актрыса, ні як галоўны рэжысёр Беларускага тэатра оперы і балета... Ні як прэзідэнт Беларускага тэатральнага таварыства: менавіта яе намаганнямі быў адчынены Дом адпачынку «Тэатральны» ў Астрашыцкім гарадку і Дом мастацтваў у 1966 годзе.

А дзе толькі не давялося ёй удзельнічаць у канцэртах і наладжваць сольныя! Сольны канцэрт для пераможцаў

у 1945 годзе ў Берліне, на якім прысутнічалі маршалы Ракасоўскі і Жукаў. Тры аддзяленні: руская і замежная класіка, масавыя савецкія песні і беларускія народныя песні.

Канцэрт нават у шпіталі ў Грузіі, хаця сам па сабе тэрмін знаходжання ў лякарні —чатыры месяцы — сведчыць пра тое, што самаадчуванне зусім не спрыяла канцэртнай дзейнасці.

У кнізе ідзе размова і пра асабістае жыццё актрысы, нават пра яе таемнае каханне... І тут знойдзена тая танальнасць, тая мера разважанняў на гэты конт, такт, якія падобраму адрозніваюць кнігу і ад аповедаў савецкай пары кшталту: «слухалі — пастанавілі» і — ніякага асабістага жыцця, ніякіх лірычных адступленняў (гэта было катэгарычнай нормай) — і ад «стрыптызаў» найноўшай пары, калі даводзяцца факты, пра якія, можа, варта было б і змоўчаць і даецца такая воля фантазіі і неўтаймоўнасці самых неверагодных гіпотэз, што з’яўляецца адзінае жаданне — не прысутнічаць пры гэтым «дзействе», хай сабе і толькі ў выглядзе друкарскага пісьма. Не кажучы пра здымкі...

На так званы іканаграфічны матэрыял кніга надзвычай багатая. Усе этапы жыцця актрысы і жанчыны... Прыгожай, яркай, своеасаблівай. Экспрэсіўнай, дзейснай, імклівай. Рознай. Запамінальнай. Яна — у памяці слухачоў і гледачоў. Якія не ведалі яе хіба што толькі пасіўнай. Невыразнай. Адчувалі — яе пячатку індывідуальнасці.

Але... Лёс акцёраў... Пакідаюць яны сцэну — і сцэну жыцця таксама... Адыходзяць у іншы свет іх прыхільнікі, паклоннікі, сведкі іх славы, сведкі неаспрэчнасці іх таленту. І застаюцца аўдыёзапісы, плёнкі хронік і — набываюць неацэнную каштоўнасць успаміны, рэцэнзіі, даследаванні... І, безумоўна, вось такія творы, дзе ёсць сінтэз абстракцыі, тэарэтычных разважанняў і яркіх эмацыянальных уражанняў.

Як кніга «Ларыса Пампееўна Александроўская» Арыядны Барысаўны Ладыгінай. Асобы, што ўмее на

ўзроўні сэнсорным, пачуццёвым успрыняць музыку, выкананне вакальнае і драматычны малюнак роляў — і адчуць і давесці чытачу суадпаведнасць разумовай канцэпцыі чалавека і мастацтва. Таленавіта, вобразна. Як на лекцыях і семінарах па эстэтыцы, якую яна некалькі дзесяцігоддзяў выкладала ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі (сёння — Акадэмія музыкі). І быў таксама своеасаблівы дыялог — выкладчыка і студэнтаў. Музыканта, тэарэтыка мастацтваў, выдатнага лектара, удумлівага педагога, добразычлівага, сумленнага чалавека... Даць веды, падтрымаць любоў да мастацтва канкрэтнымі ведамі, дапамагчы таленавітым не проста ўладкавацца, а — знайсці свой шлях.

Дасведчаная, энергічная, артыстычная, выспартаваная, своеасаблівая — Арыядна Барысаўна прыцягвае да сябе людзей. Студэнтаў — безумоўна.

Яшчэ, між іншым, і такім стылем паводзінаў. У тыя, 60-я гады, напрыклад, яе не вабіў агульнапрыняты варыянт вакацый: пляж — мора — харчэўня. Яна разам з мужам і двума дзецьмі выпраўлялася ў вандроўку на матацыкле. Як сёння пазначылі б — «перазагрузка мазгоў»: з кніг — увечары каля вогнішча, калі абіралі бульбу, «Прыгоды Тома Соера і Гекльберы Фіна». Яе калега, эстэтык Мікалай Ігнатавіч Крукоўскі, між іншым, на тую пару захапляўся падводным плаваннем.

Стандарты не былі ў пашане — ні ў спосабе мыслення, ні ў спосабе жыцця. У пашане, дарэчы, былі прыгожыя жэсты, добразычлівасць, шчодрасць душы...

Дарэчы, калі кніга Арыядны Барысаўны Ладыгінай 1964 года «Мастацтва і сучаснасць» выйшла з друку, неўзабаве мне на працу затэлефанавала незнаёмая жанчына. І давяла, што памылкова ёй прынеслі кошык з кветкамі (гэта 64-ы год — кошык з кветкамі «не ў сезон»: фантастыка!) і каробку цукерак. Адвечная блытаніна — мне ад пачатку працоўных дзён і ў друку (з першых вопытаў), і ў паўсядзённасці вызначылі варыянт скарочанага імя — Ала замест «Альбіна». І паводле даных гарадской даведкі (была такая) Арыядна Барысаўна і

даслала свой прыгожы сюрпрыз. Кветкі завялі, а з прыгоды мы доўга смяяліся. (Да слова, мой рэдактарскі і аўтарскі шлях не быў закіданы ружамі, але з тым большым імпэтам прыгадваюцца нячастыя сюрпрызы: кветкі ад Уладзіміра Караткевіча, Арыядны Ладыгінай...) Потым была прапанова Арыядны Барысаўны: я год выкладала эстэтыку ў кансерваторыі (лекцыі і экзамены ў завочнікаў і семінары ў скрыпачоў, «струннікаў» і вакалістаў). Потым нашы шляхі разышліся.

Я чытала створанае Арыяднай Барысаўнай, дасылала свае першыя кніжкі...

І — вось сустрэлася зноў...

Магчыма, толькі цяпер усвядоміўшы значэнне нашых сустрэч...

Аднак здаўна добра ўяўляючы сабе значэнне гэтых асобаў, перастварэнне магутных і адстароненых сутнасцяў у чар канкрэтыкі мастацтва і ў цуд чалавечых узаемаадносін. І ў працягласці і нязменнасці — дасканаласці і эстэтычнай чысціні ў чыстым і апасродкаваным выглядзе.

Ніць Арыядны... Якая вядзе да той старадаўняй, але неаспрэчнай ісціны: «Ars longa, vita brevis».

# «НА КОЖНЫ ГУК ЁСЦЬ РЭХА НА ЗЯМЛІ...»

***Ірына Шуміліна***

Памятаю — гукі, гукі, гукі... Без пачатку і канца... Водсветы, адбіткі, россыпы... Перазоў гэтых мройных, няўлоўных адценняў бемоляў і дыезаў з лёгкай гульнёй месяцовага святла і ценю — на лістоце дрэў парка, подбегу блікаў ад ліхтароў на воднай паверхні ракі... Музычныя фразы — нібыта і напаўслых, і поўным гукам, размова — як быццам працяг даўняга дыялогу... Аўра незабыўнага рамантызму, ад якога павявае клёнамі Жэлязовай Волі і ліпамі Наана XIX стагоддзя і які так адвечна свежы ў ліпеньскі вечар канца XX стагоддзя...

...Шапэн... Нездарма, мабыць, Гейнэ заўважыў: «...чалавек, для якога зразумелая размова толькі сам-насам...». Менавіта гэта адчувалася ў тым таямнічым і натхнёным дзействе, што адбывалася за раялем у Доме літаратара (калі ён яшчэ быў — недзе ў сярэдзіне 80-х...).

...Магнетызм і чар мелодый, туга раздумлівага мінора, светлае ўзвышэнне элегічнага настрою... Настрою, што надаў тон усёй вечарыне, павёў, узвысіў... Панаваў... Хаця гэта была імпрэза аднаго з самых тонкіх і таленавітых літаратараў Беларусі... І прымалі ўдзел самыя лепшыя, най-, звыш-...

Але — панаваў Шапэн...

І яна — Ірына Шуміліна... Раздумлівая, засяроджаная, паглыбленая ў найвышэйшы транс натхнення, адстароненая і набліжаная да ўсіх геніем Фрыдэрыка Шапэна...

І такой самай яна падалася мне праз шмат год — у Доме культурных сувязяў з замежжам (здаецца, так ён называецца). Музыказнаўцы тут пазначылі б, можа, большую прафесійную ўпэўненасць, знакі выканаўчай трываласці, нейкія канкрэтныя асаблівасці выканаўцы. Маё ж суб'ектыўнае ўспрыманне ўлоўлівае найперш агульнае — настрой. Блізкі да таго, даўняга. Зноў — адухоўленая засяроджанасць. Без позы, без мітусні. Без моднага сёння імкнення неяк «асучасніць», падкіраваць пад густы нейкага слухача, якога чамусьці называюць «масавым»...

Ірына Шуміліна — сучасная ў лепшым сэнсе гэтага слова, але яна ўмее адчуць водар, шарм той пары, калі стваралася музыка, якую яна выконвае... Разумее... Інтэрпрэтуе... І ўмее гэта перадаць...

Так, давяральная старасвецкая атмасфера, якой відавочна спрыяюць і невялікая ўтульная заля, і вокныэркеры, і дрэвы за гэтымі вокнамі... Нібыта гасціная ў якім старадаўнім маёнтку... І зноў плывуць гукі, у якіх мне ў першую чаргу чуюцца рэмінісцэнцыі з Шапэна... А вядомаму музычнаму крытыку Святлане Берасцень — яшчэ і водгукі Бетховена, Чайкоўскага... Як заўважыць яна, у пэўным сэнсе — «музычны антыкварыят»... І адначасова пазначыць: «...Але хто сказаў, што антыкварыят — гэта кепска?..»

Асабіста я да антыкварыяту ва ўсіх яго праявах маю даўнюю схільнасць... Больш, так бы мовіць, чыста сузіральную. І сугучную? Таму для мяне гэты новаадкрыты Віктарам Скарабагатавым і інтэрпрэтыраваны Ірынай Шумілінай беларускі кампазітар Ян Тарасевіч — асабісты прэзэнт.

І мая, ды і не толькі мая, думка: чаму? Чаму мы, беларусы, не бедныя на таленты, але не такія ўжо бязмежна багатыя (колькі наша зямля «аддала» суседнім культурам! — хаця б рускай і польскай), так запознена «знаходзім» тых, хто склаў бы гонар любой нацыі...

Пра тое прафесійна вядзе размову Віктар Скарабагатаў — і тыя, хто за ім. Ірына Шуміліна дае нам магчымасць пачуць, адчуць гэтыя настальгічныя ноты, перажыць яркае ўражанне... Чыста відарысна гэтае ўражанне блізкае да таго, што ўзнікае каля карцін Станіслава Жукоўскага... Адыходзячы свет маёнткаў і фальваркаў... Прысадаў ліп і бяроз, зараснікаў бэзу і шыпшыны... Альтанак, лёгкіх масткоў, арак, арэляў... Ратондаў, мезанінаў... Пакручастых лесвічак, выкшталцоных ганкаў... Пенкных салонаў... Заляў... Чароўных дам... Гжэчных кавалераў...

Першыя музычныя фразы, подых ветру — і лёгка калыхнуліся белыя шторы, за якімі — тэраса і сходы ў парк... Туга па страчаным... Немагчымасць утрымаць... час, эпоху, каларыт культуры шляхты, сумоўя, сугучча беларускай, польскай, рускай культур... У розных выявах... У складаным псіхалагізме дзейных асобаў гэтага свету — рэальнага і прымроенага... У эцюдах, накцюрнах, вальсах... У гарэзліва-гуллівых фартэп’янных варыянтах «музычнай табакеркі»... Казачны, цацачны свет — успамінаў, згадак дзяцінства.

Гэтае сумоўе, сугучча культур, музычных напрамкаў, што вабіла і жывіла творчасць Яна Тарасевіча, — і як непасрэдная спадчына кампазітара, і як творчы «арсенал» піяністкі Ірыны Шумілінай, непасрэдна блізкія ёй. У яе рэпертуары — і Бетховен, і Брамс, і Шуберт, і Шуман, і Ліст... І Чайкоўскі, і Мусаргскі, і Рахманінаў, і Пракоф’еў...

Падчас юбілею Глінкі Ірына Шуміліна дадала ў свой творчы скарбнічак цікавую праграму, што мела вялікі поспех у нас, на Беларусі, у замежжы — найперш, вядома, у Расіі.

А ўвогуле геаграфія яе гастрольных вандровак шырокая. Рэспублікі былога Саюза, Італія, Германія, Польшча, Індыя і г. д...

А той дыялог выканаўца–слухачы матэрыялізаваўся дыпломамі пераможцы нацыянальных і міжнародных конкурсаў. Выступаць з сольнымі канцэртамі яна пача-

ла яшчэ студэнткай. Ці не студэнтку чула я ўпершыню? Прадстаўніцу музычнай школы В. Сафраніцкага і С. Саўшынскага. Беларускую дзяржаўную кансерваторыю яна скончыла па класу прафесара Г. Шарашэўскага, вучня тых самых знакамітых віртуозаў. А потым была аспірантура ў Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі (клас прафесара Л. Уласенкі). А да таго — музычная школа. І ўвесь час — атмасфера зацікаўленасці мастацтвам, захопленасці музыкай. Бацька — кампазітар. Маці... Не проста музыка. Мілітэна Ясонаўна (згадваюцца старажытныя эліны) жыве, існуе, дыхае — музыкай. Паветрам філармоніі, Творчасцю дачкі. У гэтым — сутнасць яе жыцця, калі хочаце — канцэпцыя яго. Перастворaная, трансфармаваная, вызначаная талентам Ірыны Шумілінай. Яе непаўторнай індывідуальнасці.

Што пацвердзіла яе вызначанасць на фестывалі Тальберга ў Італіі. А слухачы роднага горада мелі магчымасць дачыніцца да яе адкрыццяў гэтага кампазітара ўвосень 2010 года.

Зноў дачыніцца да адкрыццяў прыроджанага таленту Ірыны Шумілінай. І як тут не ўзгадаць Барыса Пастарнака, што ў лісце да аднаго вядомага паэта пісаў: «...прыроджаны талент ёсць дзіцячая мадэль сусвету [...], школьны падручнік для спасціжэння свету знутры з яго лепшага і найбольш ашаламляльнага боку»...

То — будзем спасцігаць свет...

# ЦУД РАДАСЦІ

## *Тамара Кур’яновіч*

«Якая асалода — паважаць людзей!» Словы Антона Паўлавіча Чэхава. Пісьменніка. Урача. Лекара. Чалавека.

Паважаць... Любіць... Як пазначана Натурай. Наканавана Лёсам.

Выяўлена ў прафесіі — лекара. І ў другой прафесіі — пісьменніка.

Ці не ад такой павагі — любові — талент самога Антона Паўлавіча? Міхаіла Булгакава, Сомерсэта Моэма, Вікенція Верасаева...

...Мне, дарэчы, заўсёды здавалася, што на ўступных экзаменах будучых медыкаў і педагогаў павінны быць яшчэ нейкія іспыты. На прафесійную здатнасць. Не ведаю — якія. На любоў да ўсяго роду чалавечага? Добразычлівасць? На ўменне адгукнуцца на чужы боль? І адначасова — на талент не разгубіцца, не енчыць, а цвяроза зразумець і з розумам — дапамагчы?

...Такіх экзаменаў няма. І наўрад ці будуць... Іх потым учыняе само жыццё. Праца. І пра гэтыя таленты ведаюць многія. І жывуць з гэтага. Хто — удзячны. Хто — не. А які гэта цуд радасці, якое шчасце, высокі жыццёвы шанц — у самы крытычны момант сустрэць такую асобу. Прафесіянала. І — добрага чалавека.

...Некалі пашанцавала маёй маме. Мне. Нашай сям'і. І яшчэ — сотням? Тысячам? — пацыентаў урача-тэрапеўта Тамары Васільеўны Кур'яновіч.

...Напачатку 70-х гадоў мінулага ўжо стагоддзя маю маму «хуткая дапамога» адвезла ў 2-ю клініку Мінска ў стане клінічнай смерці. І рэаніматар Кукушкін (нізка схіляю перад ім голаў) вярнуў яе да жыцця.

...А потым мама трапіла да Тамары Васільеўны. У яе палату. На паслярэанімацыйны перыяд. І на ўсё жыццё, якое ёй засталося. І якое працягвалася найперш намаганнямі Тамары Васільеўны.

...Дзесяць адваяваных гадоў...

...А тады памятаю сваю радасць — мама будзе жыць! Памятаю матчына добрае здзіўленне — яшчэ жыву! І яе захапленне: «Каб ты ведала, які ў мяне доктар!» Я пагаджалася: «Толькі што бачыла яго!» Мама ківала галавой: «Так!» І тут жа дадавала: «Але ж ты не бачыла галоўнай маёй лякаркі!»

...Я нешта даводзіла маме — перад тым у мяне быў канфлікт з загадчыкам аддзялення... А тымчасам у палату ўвайшла... Таццяна Шмыга. На тую пару ў самай сваёй лепшай сцэнічнай і жаночай форме зорка аперэты. Што яна тут робіць?

Ажно гэта і была доктарка мамы. Знешне — як выкапаная вядомая акторка. Ва ўсім астатнім... Заўсёды, як кажуць, ва ўзбраенні ведаў: усіх найноўшых дасягненняў медыцыны і фармацэўтыкі. Заўсёды — ва ўзбраенні сваёй падрыхтаванасці: дапамагчы, супакоіць, лекаваць. Таблеткамі, працэдурамі, уколамі, капельніцамі. І — любоўю. Павагай. Самаахвярнасцю. Увагай.

...Тамара Васільеўна стала матчынай выратавальніцай. Яе ўрачом. Сябрам. Матчыным. І ўсёй нашай сям'і.

Не, яна працавала зусім не ў той паліклініцы, да якой былі аднесены мы. А ездзіла ледзь не праз увесь горад — паглядзець, параіць, выпісаць лекі. Змераць ціск — на тую пару танометры адсутнічалі ў продажы. Урэшце яна недзе здабыла для мамы той неацэнны апарат. Прыязджала — і каб зрабіць маме ўнутрывенныя ўколы. Гэта было не так

проста. Падчас вайны — донар-патрыёт, як даводзілі тагачасныя мясцовыя газеты. Чатыры прамыя пераліванні крыві — у мамы была вельмі «зручная» група крыві: першая. Пасля ўсіх гэтых маніпуляцый вены ў мамы былі такія, што мала хто з медыкаў умеў трапіць шпрыцам як след. Тамара Васільеўна гэта рабіла (і робіць), як усё астатняе, з уменнем. Да мединстытута і падчас вучобы — яшчэ і праца фельчара... Пазней — заняткі з інтэрнамі...

Любым надвор'ем — марозам, спёкай, восеньскай слотай — Тамара Васільеўна наведвала маму. Уколы — уколамі, агляд — аглядам, але мама проста яснела з твару, калі чакала — сваю лекарку. Сваю Тамару. Калі тая прыходзіла — было не тое каб свята... Але адбываўся вось той самы цуд — цуд радасці. Ад той магіі дабраты, ад чару невытлумачальнага, але дадзенага Панам Богам: шчасце любіць, паважаць людзей.

...У нас машыны не было. І часам муж Тамары Васільеўны, Сцяпан Рыгоравіч, вывозіў маму за горад (яна вельмі сумавала па родным Навагрудку, па вольным наваградскім паветры — пераехала выключна з-за крытычнага стану здароўя). Вярталася мама з аграмадным ахапкам бэзу або чаромхі, з букецікамі васількоў...

На тую пару ў нас яшчэ не было прынята весці размову пра эстэтычную, этычную тэрапію... Ажно Тамара Васільеўна ўсё гэта ператварала на практыцы...

...А калі ўсё ж зямное існаванне мамы скончылася, дык Сцяпан Рыгоравіч пасадзіў каля помніка маме бярозку — выструнілася высока... А нашы ружы — колькі ні садзілі — усе павыкапалі... Бог гэтым людзям суддзя... Сцяпан жа Рыгоравіч неўзабаве, яшчэ маладым, знайшоў вечны спачын на тых жа могілках, што і мама... Светлая яму памяць...

...Сяброўства з Тамарай працягвалася. І неяк, не ў самы лепшы момант майго жыцця, не хто-небудзь, а менавіта Тамара сама прапанавала мне пазычыць грошы на выданне кнігі. І кніга выйшла — «Святло загадкі». На яе былі па-мастацку таленавітыя водгукі Алены Васілевіч, Уладзіміра Арлова, Веранікі Стральцовай...

З «падсветкай» гэтай ксёнжачкі з’явіліся допісы Янкі Саламевіча і Міхася Скоблы... І — прэзэнт Лёсу: верш Ніны Мацяш...

З той кнігай быў спраўджаны мой духоўны доўг перад людзьмі, якія адыгралі найважнейшую ролю ў маім жыцці, перад маімі землякамі... Духоўны доўг — увогуле... Тамара Васільеўна гэта адчула... Выдаць гэтую кнігу для мяне — лёсавызначальна...

А колькі за пару нашага знаёмства было светлых, добрых святаў! Юбілеяў. Пачостак. З абавязковай прысутнасцю Тамары Васільеўны. Прыгожай. Радаснадобразычлівай. Шчодрай. Нягучна-яснай. Спрытнай. Імклівай.

Як быццам бесклапотна-вясёлай. Але падрыхтаванай да розных нечаканасцяў.

«У які б дом я не ўвайшоў, я ўвайду туды дзеля карысці хворага...» З клятвы Гіпакрата...

Ёй зноў давялося прыйсці ў наш дом з гэтай нагоды...

...Напярэдадні Нараджэння Хрыстова, 24 снежня 2009 года я забрала з анкалагічнага цэнтра майго мужа... Ніякіх надзей... Усё — на валаску... Нас лёгка выпісалі — напярэдадні свята... Паліклінікі зачыненыя. У шпіталях рэцэпты не выпісваюць, лекаў з сабой не даюць... Кожную хвіліну «хуткую» выклікаць не будзеш...

...Рэцэпты выпісваць нельга... А выпісаць безнадзейна хворага без абязбольваючых — можна... Без аніякай дапамогі — можна...

Што б я рабіла без Тамары Васільеўны — не ведаю... Яна з’явілася. Добры геній. З прыветнай усмешкай. З лекамі. З аднаразовымі шпрыцамі. Са сваім прафесійным уменнем. А я даведалася яшчэ і аб педагагічным таленце Тамары Васільеўны: навучыла мяне рабіць уколы. Цярпліва, разумна паказала мне кожны рух... І я сама 35 дзён і начэй рабіла ўколы...

Тамара Васільеўна прыязджала, як толькі магла... А праца, хатні клопат, дзеці, унукі... Дапамагала яна і як урач, і дарадчыца, і медсястра... І санітарка... Ляцела ў дзень урачыстага юбілею нявесткі праз увесь горад, каб

правільна паставіць майму мужу пластыр з наркатычным уздзеяннем: дзюрагезік...

І — была з намі канца...

І — пасля канца...

Кожны дзень — тэлефонны званок... Калі б у мяне была сястра, я не ўпэўненая, што яна зрабіла б больш...

«Мне, што непарушна выконвае клятву, няхай будзе дадзена шчасце ў жыцці і ў майстэрстве і слава за ўсіх людзей на вечныя часы...»

Так заканчваецца клятва Гіпакрата... Паводле якой жыве і правіць сваю святую справу — урач, лекар, добры геній многіх — Тамара Васільеўна Кур'яновіч.

Для якой асалода — паважаць людзей: цуд радасці!

Дапамагаць, лекаваць, вяртаць жыццё і надзею... Памятаючы пра гаючую сілу чалавечай спагады — калі чалавек чалавек ужо нічога не можа зрабіць, нічым дапамагчы...

Тут мне прыгадваецца думка старажытнага паэта Менандра, якую дарэчы, вельмі шанаваў Мішэль Мантэнь: «Шчаслівы той, каму давялося сустрэць хаця б цень сапраўднага сябра».

Мне — пашчасціла.

І не толькі мне.

Усім, хто ў жыцці сустрэў яе — Тамару Васільеўну Кур'яновіч!

# «РАСЧЫНІЦЦА СРЭБНАЯ КНІГА...»

## *Анатоль Варава*

Каб паслухаць яго, запісваюцца за некалькі месяцаў. А некаму Провід дасылае нечаканы выпадак, і тады можна пачуць: «Незабыўнае ўражанне!» І прамаўляецца маналог ледзь не з адных клічнікаў. Чуем тое з вуснаў людзей адукаваных, дасведчаных... І скептычных.

Хто ён? Спявак? Акцёр? Вучоны? Экстрасэнс? Ні тое, ні другое, ні трэцяе... Хаця — у пэўным сэнсе: і вучоны, і акцёр, і маг...Род яго заняткаў гучыць нават празаічна: экскурсавод. Чалавек, які водзіць экскурсіі. Як вядома, excursio — вандроўка, шпацыр, што мае найбольш пазнавальную або навуковую мэту. Экскурсавод, гід... Досыць часта гэта бывае адносна камунікабельная асоба, што хуценька «адбывае рату», немаведама якім разам распавядаючы пра палацы, пра былое хараство, пра славутасцяў, што меліся тут нарадзіцца, або ўладарыць, або проста праяздджаць. Усё правільна, усё паводле фактаў. Культуровае мерапрыемства. Наведалі, пабачылі...

А здараецца вось тое, пра што размова: аднáчасова і пазнавальная лекцыя, і інтэлектуальнае свята, і сцверджанне перамогі Хараства-гармоніі прыроды і створанага чалавекам. А яшчэ і спектакль аднаго акцёра... Не. Дзейства са шматлікімі «акцёрамі» і дзейнымі асобамі, з «дэкарацыямі», якія стварае рэчаіснасць, з сюжэтамі, якіх хопіць для безлічы тэатраў і драматургаў.

«Разгортваецца срэбная кніга вякоў» — у пестрадзі падзей, у сутыкненні светапоглядаў, у светлых і змрочных старонках гісторыі... У высокіх дасягненнях чалавечага розуму, таленту, умельства, майстравітасці, у матэрыялізаваных палётах фантазіі.

Матэрыялізаваных... Але часта ад той гарманізаванай матэрыі засталіся рэшты або ўвогуле толькі сведчанні, апісанні, меркаванні... І тут трэба давесці, упэўніць, зацікавіць, абудзіць фантазію слухачоў. А экскурсанты бываюць розныя... Тым больш у тым варыянце, які сёння практыкуе лепшы экскурсавод Беларусі (што было засведчана афіцыйна ў не такія ўжо даўнія часы), спецыяліст па субкультуры турызму, менеджар-экскурсавод турысцкай фірмы «Віаполь» — Анатоль Варава. Пра яго размова.

А варыянт экскурсій менавіта гэтай фірмы — тут практыкуюць не толькі распаўсюджаныя і зручныя калектыўныя экскурсіі, а працуюць і з індывідуальнымі заяўкамі. Складана, рызыкоўна — для фірмы. Зручна — для патэнцыяльных кліентаў. Найбольш — аматараў даўніны, людзей, прагных да ведаў. Бо, мабыць, для іх, як для Анатоля Варавы, паняцце «культура» — не абстракцыя, а ўвасабленне ў канкрэтных рэаліях: архітэктуры, мастацтва, літаратуры — у тым, што Гегель вызначаў як другую прыроду. У атачэнні першай прыроды — той красы, што ведае толькі аднаго Творцу... Прырода — у яе непарыўнай сувязі з тым, што было зроблена чалавекам...

Зацікавіць, даць відавочнае і розумаспасцігальнае ўяўленне пра нашу краіну, звярнуць увагу на яе духоўныя, культуровыя скарбы, асаблівасці яе гісторыі, архітэктуры, мастацтва, каму нагадаць, а каго і пазнаёміць са славутымі людзьмі нашай гісторыі. Прыблізна так вымалёўваецца роля, значэнне гэтага чалавека. Анатоля Варавы.

Які нарадзіўся ў славутым горадзе Навагрудку (як у нас кажуць — Нава́градку), скончыў школу ў Мінску, захапіўся хіміяй: атрымаў дыплом БДУ (тады адзінага ў Беларусі ўніверсітэта) — і ўсе ўяўлялі яго вучоным у гэтай галіне, у хіміі...

І тут... вецер вандраванняў... паклікаў яго ў зусім іншы бок... «Вецер вандраванняў» — у прамым і пераносным сэнсах. Была пад такой назвай перадача на Беларускім тэлебачанні, недзе напрыканцы 70-х гадоў ужо мінулага стагоддзя. «Залаты пояс Беларусі» («Золотое кольцо Беларуси») — пад такой агульнай назвай прайшла серыя перадач Анатоля Варавы пра славутыя мясціны краіны: Нясвіж, Мір, Навагрудак... Цыкл перадач адразу заўважылі, вызначылі гэтую дамінанту: «шлях да хараства», добрае валоданне матэрыялам і ўменне — хаця ўжо і тады майстэрства — распавесці пра мінулае, выкіраваць слухачоў і гледачоў «за ўражаннямі розума і сэрца». Так выявіць даслоўна мэту падарожжаў Анатоль Варава пазней. Тады аўтару амаль адразу прапанавалі надрукаваць тэксты на старонках газет. А вядомая пісьменніца Алена Васілевіч (на тую пару загадчыца рэдакцыі літаратуры для дзяцей і юнацтва ў выдавецтве «Мастацкая літаратура») уключыла кнігу нарысаў маладога аўтара ў тэмплан.

Але — ці то канкрэтыка вандровак адымала ўвесь час і творчыя магчымасці, ці то абставіны асабістыя (цяжка і доўга хварэў бацька), ці то адточваліся і збіраліся матэрыялы, а магчыма, усё разам — кнігу ў выдавецтва ён не прынёс.

Аднак у 2002 годзе пабачыла свет выданне: Анатоль Варава. Эцюды аб Беларусі («Этюды о Беларуси» — на рускай мове). Тымчасам з'яўляюцца брашуры, буклеты, паштоўкі з тэкстамі Анатоля Варавы. Хацелася б, каб у бліжэйшы час выйшла яго новая кніга пра Беларусь. Багата ілюстраваная, на добрай паперы, салідным тыражом. Не альбом з падтэкстоўкамі, а менавіта кніга. Ды і цыкл перадачаў на тэлебачанні быў бы з'явай высокага мастацкага кшталту.

З тых даўніх дзён — творчага пачатку — адбылося столькі падзей... Памяняўся сацыяльны лад, Беларусь стала незалежнай дзяржавай, замест былога афіцыйнага і ваяўнічага атэізму ў рэспубліцы стварыліся ўмовы, спрыяльныя для любога веравызнання...

...Турызм тымчасам перажываў розныя калізіі. Быў момант, калі Анатоль Варава друкаваў допіс «Развітанне з прафесіяй», потым займаўся субкультурай турызму, быў менеджарам у фірмах, што наладжвалі розныя замежныя турыстычныя маршруты (быў, напрыклад, цікавы і змястоўны па Іспаніі). Пісаліся ім таленавітыя эсэ — пра тую ж Іспанію, Канарскія астравы, Швецыю, Грэцыю... Было паломніцтва на Святую Зямлю, на Дзень праваслаўнага Вялікадня (Анатоль Варава належыць да гэтай канфесіі). А Дзень гэты — вызначальна — супаў з днём яго першага юбілею. Як і наступны юбілей адбыўся на Дзень Вялікадня...

...А развітанне з прафесіяй — на шчасце для нас і для яго — адбылося толькі на паперы. Анатоль Варава вярнуўся да ранейшых шляхоў. Абагаціўшы свой вопыт і новымі ведамі, і эмпірыкай бачанага. Не перапыняючы сваёй працы над гісторыяй Беларусі, гісторыяй беларускай архітэктуры, мастацтва, гісторыяй літаратуры. Вывучаючы творы этнографаў, фалькларыстаў, музыказнаўцаў. Пільна сочачы за навінкамі навуковай і мастацкай думкі. А тымчасам абуджэнне цікавасці да гісторыі — у розных выяўленнях — набыло незвычайны характар. З розным поспехам і рознай доляй таленту і валодання матэрыялам спрабавалі сябе ў гістарычных жанрах многія... Сур'ёзна і выразна прапрацоўвалі гістарычную ніву ў розных напрамках вучоныя...

...Паглыбіліся веды. Пашырыліся далягляды. Але засталося неадменнае для Анатоля Варавы: спалучыць у экскурсіі амаль энцыклапедычную сцісласць, дакладнасць фактаў і светапоглядную шматзначнасць, змястоўнасць, веданне архітэктуры і мастацтваў, літаратуры — і мастацкую вобразнасць, яркасць аповеду... І — захаваць незамглёнасць погляду... Адчуванне здзіўлення... Адкрыцця...

На маршрутах, якія не стамляецца прадстаўляць Анатоль Варава.

«Па абодва бакі "беларускага экватара"» — так, выкарыстоўваючы тэрмін, уведзены аўтарамі даведніка

81-га года, назаве адзін з самых папулярных маршрутаў аўтар экскурсій. Менавіта так. Аўтар. І вусных аповедаў. І друкаваных эсэ. Як пазначае друкаваны варыянт сваіх досведаў Анатоль Варава — падарожных нататкаў. Нясвіж... Мір... Лаўрышава... Сынкавічы... Жыровіцкая святыня...

...Нясвіж... Былая галоўная рэзідэнцыя Радзівілаў... Роду, пра які знакаміты паэт Уладзіслаў Сыракомля пісаў, што яны «валодалі паловай княства, а на другую палову мелі ўплыў як найвышэйшыя чыны дзяржавы» (маецца на ўвазе Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае — ВКЛ).

Замак і ландшафтава-паркавы ансамбль... Загарадная сядзіба Радзівілаў Альба... Паркі і замак — якія нягледзячы на ўсе высілкі вынішчальнікаў гісторыі ўсё ж захавалі архітэктурныя абрысы і, ёсць такая надзея, пасля рэстаўрацыі калі не былыя хараство і раскоша, дык аблічча, блізкае да гістарычна аўтэнтычнага, будзе вернута аднаму з галоўных гістарычна-архітэктурных помнікаў Беларусі. Што датычыць Альбы, тут такіх спадзяванняў пакуль што няма. Аднак і тут, і там — аповед грунтуецца на ведах і інтэлектуальна-эмацыянальнай упэўненасці краязнаўцы.

І мы нібыта на свае вочы бачым раскошу заляў: Каралеўскай, Гетманскай, Залатой, Мармуровай, Паляўнічай... Наборны дубовы паркет, кафляныя і фаянсавыя печы — кожная як мастацкі твор, мэбля выштукаваных ракайльных формаў, якую рабілі ў Слоніме... Саксонская парцаляна і посуд з геральдычнымі знакамі Радзівілаў... Галерэі жывапісу... Галерэі партрэтаў роду Радзівілаў...

Прыёмы і ўрачыстасці, дарагія забаўкі... Знатныя госці, каранаваныя асобы...

Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка — першы нясвіжскі ардынат, пры якім будаўніцтва замка вялося пад апякунствам архітэктара-езуіта Джавані Марыя Бернардоні... Пане Каханэк — Караль Станіслаў Радзівіл — і яго дзівосныя гульбішчы і ўяўленне жыцця як

бясконцага свята... Марыя Дарота Радзівіл, народжаная дэ Кастэлян, унучатая пляменніца Шарля Талейрана... Яна паставіла сабе мэту ўзнавіць лепшыя традыцыі роду беларускіх магнатаў і дасягла яе: Нясвіж у канцы XIX—пачатку XX стагоддзя вярнуў сабе значэнне важнага міжнароднага культуровага цэнтра.

...Навагрудак... Былая сталіца Вялікага Княства Літоўскага.... Гара Міндоўга, заснавальніка княства... Касцёл Перамянення Пана — Белая фара... Касцёл дамініканаў — Святога Міхала... Барысаглебская царква... Курган бессмяротнасці — у гонар вялікага земляка: паэта Адама Міцкевіча... Шляхамі паэта: Завоссе, Туганавічы, Шчорсы... Возера Свіцязь...

...Мір... Кветка Сярэднявечча... Замак, што занесены ў Спіс сусветнай культуровай спадчыны... Помнік, якому пашанцавала: ён паспяхова рэстаўрыруецца... Гродна... Слонім... Ліда... Шчучын... Косава... Ружаны...

Палессе... Пінск... Тураў... Давід-Гарадок...

«Свет беларускіх мястэчкаў»... Ашмяны, Астравец, Валожын...

Нарачанскі край... Беларускае паазер’е... Браслаў... Смаргонь... Глыбокае...

Беларуская святыня — Будслаў...

Мінск... Міншчына...

Кожная мясціна мае свае адметныя рысы, свае вызначэнні. Але ёсць і, так бы мовіць, абумоўлены традыцыяй «фармат». Гістарычны экскурс... Тапанімічны досвед — версіі геаграфічных назваў... Легенды, былі, гісторыі... Знакамітыя асобы... Канкрэтыка архітэктуры... Падзеі... Факты...

...Сам па сабе выгляд архітэктурнага помніка ўражвае сваім выглядам, гэтая, паводле сведчання Анатоля Варавы, «сілуэтная выразнасць» стварае пэўны настрой... А дакладнасць каментару надае трываласць успрымання, памяць сінтэзуе зрокавы і семантычны вобразы. Архітэктурны ансамбль кляштараў: езуітаў, брыгітак, бернардынаў — у Гродне... Касцёлы пры іх... Урачыстая пластыка барока гродзенскай катэдры, непадробнасць

скульптурна-дэкаратыўнага ансамбля Ларэтанскай капліцы ў касцёле Набыцця Святога Крыжа...

Анатоль Варава вылучае тут галоўныя штрыхі, каб азначыць менавіта архітэктурны ансамбль, яго выразную ролю ў абліччы аднаго з самых старажытных і прыгожых гарадоў Беларусі. А, напрыклад, ведучы размову пра каменны цуд Сынкавіцкай святыні, ён з любасцю знаўцы і ахоўніка хараства будзе спыняць погляд на кожнай архітэктурнай дэталі святыні абарончага тыпу, шэдэўра беларускай готыкі. І экскурсанты будуць углядвацца ў трохнаўную базыліку, у яе аркатурны пояс, што сцягвае ўсе апсіды храма, у байніцы і машыкулі — навесныя байніцы... Будуць дзівіцца на гармонію агульнага і прыватнага: кожная дэталь — неад'емная частка цэлага, гэтага каменнага цуда...

У экскурсіях і на старонках кнігі «Эцюды аб Беларусі» мы даведаемся пра гістарычных асобаў, што спрыялі стварэнню пэўнай эстэтычнай культуры, эстэтычнага побыту, абумоўленых светапоглядам і рэальнымі гістарычна-матэрыяльнымі ўмовамі, падзеямі і фактамі.

У аповедах Анатоля Варавы мы сустрэнем і валадароў Вялікага Княства Літоўскага: Міндоўга, Ягайлу, Вітаўта і іншых, няпростыя, часам велічныя і значныя, часам крывавыя і поўныя падманаў і здрад... І каралёў Рэчы Паспалітай, у склад якой (сёння пазначылі б — на парытэтных пачатках) увайшло ВКЛ, у прыватнасці — Стэфана Баторыя, Станіслава Аўгуста Панятоўскага... І бясконцую чараду магнатаў, чыёй воляй і фантазіяй узнікалі гарады, селішчы, замкі, маёнткі... Бібліятэкі, тэатры, мастацкія галерэі... Памянёныя ўжо Радзівілы... Сапегі, Храптовічы, Валовічы, Агінскія... Саламярэцкія, Вішнявецкія... Безумоўна, ідэйна і матэрыяльна ўсе гэтыя дзівосы дойлідства і архітэктуры былі спраўджаныя талентам мастакоў і майстроў...

Анатоль Варава не ставіць сабе за мэту распавесці пра ўсіх ці пра многіх славутых людзей Беларусі — і тых, хто нарадзіўся тут, а вядомасць і славу атрымаў за яе межамі. Найперш — ён вызначае маршруты, кіруючыся значнас-

цю і адметнасцю гістарычных шляхоў, архітэктурных помнікаў мінулага і сучаснага — іх наяўнасці, рэштаў былога або гістарычна-эстэтычнай памяці. Хаця ёсць і выключэнні — памянёны ўжо экскурс «Шляхамі Міцкевіча» (выдатна, дарэчы, распрацаваны). Аднак, плануючы пэўныя маршруты, ён абавязкова зазірне, скажам, на радзіму Тадэвуша Касцюшкі і паведаміць слухачам і чытачам, што ў неагатычнай бажніцы ў Косаве, збудаванай на ахвяраванні Вандаліна Пуслоўскага, 12 лютага 1746 года быў ахрышчаны Анджэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка, які з'явіўся на свет у маёнтку Марачоўшчына, на паўночнай ускраіне Косава. І распавядзе пра «пераможцу дэспатызму на двух паўшар'ях» — героя Польшчы, барацьбіта за вызваленне ў арміі Джорджа Вашынгтона, ганаровага грамадзяніна Францыі.

Не абміне ўвагай і выпускніка Шчучынскага калегіума Ігнацыя Дамейку, матэматыка, філосафа, які пасля падаўлення паўстання 1830 года апынуўся ў эміграцыі. І — па той бок Атлантычнага акіяна, у Чылі, спраўдзіў сябе як вучоны і грамадзянін. Аўтарытэт яго ў гэтай краіне быў бясспрэчны. «Дон Ігнацыё» — так звалі яго чылійцы...

Тымчасам Анатоль Варава распавядзе і пра навучальную ўстанову, якую заканчваў Дамейка: калегіум піяраў, і пра лёс гэтага закона (ордэна) на Беларусі, і пра тое, што ў Шчучынскім калегіуме выкладаў знакаміты філосаф Анёл Доўгірд, а прайшлі курс навук тут многія сур'ёзныя навукоўцы.

Сцежкі экскурсій Анатоля Варавы пралягуць і праз радзіму вядомага рэвалюцыйнага дзеяча, паплечніка Кастуся Каліноўскага, генерала-камунара Валерыя Антонія Урублеўскага... І самога нацыянальнага героя, барацьбіта за вольную Беларусь Кастуся Каліноўскага...

Тыя шляхі супадуць з былымі шляхамі Мацея Бурачка (Францішка Багушэвіча), Станіслава Манюшкі, Міхала Клеафаса Агінскага... Янкі Купалы, Максіма Танка...

Etc., etc., etc. ...

...Шляхі экскурсій Анатоля Варавы пройдуць бясконца прыгожымі дарогамі краіны Беларусь... Ужо памянё-

ныя — Наваградчына, возера-легенда Свіцязь, ваколіцы Нясвіжа, краявіды ўздоўж Шчары, азёры Віцебшчыны, незабыўнае Палессе... Непаўторнае хараство местачковай Беларусі... Са своеасаблівым побытам, культурай, традыцыямі...

Пачуццё гісторыі, пачуццё змястоўнае і шматзначнае... І адчуванне яе повязі з сучаснасцю... І ўменне заўважыць хараство ландшафтаў Беларусі і звярнуць увагу экскурсантаў і чытачоў, усхваляваць іх уяўленне прыгажосцю, тым, што створана «тысячагоддзямі нястомнай працы Прыроды...».

Каб стварыць пэўны настрой, настроіць на пэўную «хвалю прыёму», неабходны асобы стыль выкладання.

Можа, нават крыху стылізаваны — спалучэнне высокага стылю, паэтычна вобразнага, сухавата-акадэмічнага, фактаграфічнага — і выкшталцона-іранічнага... Нешта ад стылю былых вякоў, нешта ад летапісаў, ад белетрызаваных нататкаў... на экскурсіях і на пісьме. У кнізе, у прыватнасці, гэта часам досыць вялікія эсэ, часам — кароткія, амаль мініяцюры... Але заўсёды змястоўныя і яркія.

А колькі паданняў, звестак, сведчанняў...

Ну, хаця б канкрэтыка апісання Варшаўскага тракту... Даўніх «паштовых станцый»... Або гісторыя гуты — шклозавода ў Бярозаўцы, што для некага — непадалёк ад Навагрудка, а для некага — непадалёк ад Ліды... Або апісанне лямуса ў Гродне: драўлянай забудовы, якой 370 гадоў, — свіран унізе, жылое памяшканне на другім паверсе.

А колькі легенд, міфаў, быляў...

Колькі дакументальна пацверджаных фактаў, якое ўменне перадаць атмасферу былога, той ментальнасці, натурфіласофскіх уяўленняў, рытуалаў, гістарычных наслаенняў, якое ўменне асацыятыўна мысліць... А часам, дзякуючы свайму таленту і фантазіі, «з нематэрыяльнага ствараць існуючае» (Эмануэле Тэзаўра)...

Бібліяграфія першакрыніц, мабыць, была б грунтоўная... Для такога выдання, а тым больш для экскурсіі то

яна непатрэбная. На некаторых аўтараў Анатоль Варава спасылаецца непасрэдна. Нехта ўгадваецца. Многае, многае застаецца ў памяці і свядомасці Анатоля Варавы. Засвоенае, пераўвасобленае, творча выяўленае...

І перададзенае слухачам і чытачам — імпэтна, з настроем... З адчуваннем сваёй прафесійнай адказнасці. Кожная экскурсія — падрыхтаваная, наноў выверaная... Хаця, здавалася б, усё даўно паўторанае і вядомае, неаднойчы апрабаванае на розных экскурсантах... Ён не можа падмануць чакання тых, хто выправіўся ў вандроўку...

Гэта — яго, уласнае. Дадзенае Богам і набытае. І — спадчыннае. У сям'і Анатоля Варавы сумленнасць, гонар і дабрыня былі неад'емнымі якасцямі. І бацькі — вайскоўца, чалавека разумнага, дзейснага, актыўнага, як сёння пазначылі б — харызматычнага. І маці —настаўніцы не толькі паводле прафесіі, а паводле пакліканне. Прыгожая, блакітнавокая (такі ж тыповы славянскі тып у сястры Анатоля Варавы — Алы, па мужу Вапнярскай, выдатнай выкладчыцы БДУ)... А тыя блакітныя вочы нібыта выпраменьвалі дабрыню... Нездарма навагрaдскія так і тоўпіліся ў хаце Варавaў — нікога не выпраўлялі з гасціннай хаты і ў Навагрудку, і ў Мінску... Усіх частавалі — тым, што было ў хаце... Для ўсіх мелі добрае слова... Кожнаму імкнуліся дапамагчы... «Цёця Шура» — так усе клікалі Аляксандру Міхайлаўну... Усім родная, усім добрая... Як і яе муж — Георгій Рыгоравіч Варава.

...Сёння, мабыць, многім цяжка і ўявіць... Даведаўшыся, што дачка іх сяброў жыве на кватэры ў Калодзішчах і кожнага дня чакае з паўгадзіны на марозе аўтобуса, каб трапіць на працу ў Мінск (гэта пачатак 60-х гадоў XX стагоддзя), бацька Анатоля Варавы, ні хвіліны не раздумваючы, прыехаў на машыне і забраў дзяўчыну ў свой дом. А там — жонка, двое дзяцей і сястра жонкі. І ўсе ўспрынялі гэты ўчынак гаспадара як адзіна магчымы... Хіба магло быць інакш?

Высакародства... Спадчыннае. Крэўнае. Неад'емнае.

Нездарма Анатоль Варава вызначае экскурсію, згадаю наноў, як падарожжа «за ўражаннямі для розуму і сэрца», калі «мёртвае мінулае — жыве. На мяжы з наступным. А мяжа гэтая — нашае сёння...».

І ў гэтым «сёння» Анатоль Варава наноў і наноў «расчыняе срэбную кнігу вякоў»...

Каб наноў згадаць вось тое, пра што Уладзімір Караткевіч пісаў:

Гэты край —
Твой дом і сабор...

І падарыць светлыя гадзіны сустрэчы — у гэтым храме: землякам і гасцям...

# НА ЛІНІІ ДАЛЯГЛЯДУ, НА ВЫШЫНІ ПАЛЁТУ...

«Малады чалавек на лініі далягляду, вярніцеся!» — неслася з радыёрубкі выратавальнай станцыі.

Галава плыўца некалькі хвілінаў па-ранейшаму пагойдвалася на хвалях, а потым стала набліжацца да берага.

«Шаленства! — нервавалася побач са мной жанчына. — Куды ён выправіўся? Потым сям'і адно няшчасце!»

«Сям'я», гэта значыць я, адчувала сябе спакойна і ўпэўнена. Маладзён на лініі далягляду быў мой муж. І ў мяне не было сумніву: неўзабаве ён апынецца побач.

Так яно і сталася. Ён, пафыркваючы, выйшаў на бераг — высокі, загарэлы, прыгожы. Увасабленне жыццёвай сілы і маладосці. Кінуўся проста на кактэбельскую гравейку: не любіў лежакоў.

...А дзень быў з тых, калі здаецца, што ва ўсім свеце толькі сонца, свежы зюйд-вест і блакіт мора. І ўсім добра. І паўсюдна пануе радасць. І ўсе шчаслівыя...

## 1

Паводле вядомага — усё існуючае разумнае, а ўсё разумнае — існуе. Свет — гэта толькі Гармонія, Хараство, Святло. І так станецца заўсёды.

Увосень весела павядзе свой карагод, ападаючы, лісце клёнаў, выдадуць высокім сэнсам плады зямлі. Першы снег уявіцца ўвасабленнем цноты і чысціні... А ўвесну ўсцешыць вока зяленіва, урачыста будуць панаваць свечкі каштанаў... Нагадаюць пра салаўіны сад Паэта лірычна-раздумлівыя фарбы бэзу.

...А на той момант, на моры, той чалавек, якому крычалі з выратавальнай станцыі, адчуваў кожнай клетачкай сваёй істоты вось гэтую радасць быцця. І сваю моц. І сваю маладосць.

І быў упэўнены ў сабе. Калі плыў далёка ў мора і вяртаўся назад. Калі надвячоркам «выбіваў» аднаго за адным гульцоў у настольны тэніс на пляцы Дома творчасці. Пісьменнікі не надавалі асобай увагі гэтай гульні — іх можна было ўбачыць хутчэй на кортах. Тут вялі рэй дзеткі і ўнукі. Усё больш з белакаменнай і з тым адчуваннем самапавагі, што чамусьці заўсёды больш уласцівае не самім славутым, а іх сямейнікам...

## 2

Што ластаўчыны гнёзды... Адразу згадваецца, як муж цягнуў мяне ледзь не на аркане ў плюс 30 градусаў паводле Цэльсія да знакамітага палаца «напаўмілорда». Не, геніі таксама не заўсёды маюць рацыю. Быў густ у графа.

«Ластаўчына гняздо». Матэрыялізаваны прытулак мары. І мы —як мноства турыстаў і наведвальнікаў — не пазбеглі спакусы: застылі перад фотаапаратам...

Засталася памяць... Як і пра вулачкі Львова і Стрыйскі парк, пра перавалы Карпатаў, пра нашых адналеткаў каля дома Валошына ў Кактэбелі, якія выпявалі: «Сегодня ходишь в бороде, а завтра где? В энкаведе...»

Памяць пра мора, якое было роднай стыхіяй для майго Марта —так называлі яго мы з маёй мамай. Хрышчаны ён быў паводле праваслаўнага абраду (я — каталічка), а ў дакументах і сярод знаёмых ён быў Марат. Некалі яго бацькі, з вёскі Лявонцавічы, прыехаўшы ў горад, у

Мінск, былі ўражаныя ладам вялікага места. Аднак кожны па-свойму.

## 3

Бацька, Павел Канстанцінавіч, так да скону і трымаўся беларускай мовы, рабоча-сялянскага гонару, традыцый гаспадара зямлі. Маці мужа, Праскоўя Фёдараўна, адразу мелася стаць «сталічнай дамай» (яе словы) і, мабыць, ніякавата адчувала сябе са сваім, на яе погляд, не самым арыстакратычным імем. Таму і сыну яна дала імя, якога ніхто і ніколі ў іх вёсцы не чуў: Марат.

Мора было яго роднай стыхіяй. І служыў ён на флоце. У Піцеры — Ленмарпагранпорт...

Скончыўшы 10 класаў, на энергафак політэхнічнага не прайшоў па конкурсе з адной чацвёркай. Скончыў тэхнікум, адслужыў армію і ўрэшце той самы энергафак.

Рыцар — па натуры, працаўнік — таксама паводле натуры і

## 4

паводле выхавання...

Ён меў тонкі густ, надзвычай адчуваў усё прыгожае. Мора, лес, пагоркі, палі... Краявіды...

Марат любіў паэзію. Была ў нас звычка абменьвацца ў дні нараджэнняў, у святы вершамі-віншаваннямі. Запазычанымі ці сваімі.

А томікі вершаў на нашых паліцах — дзе з яго, дзе з маімі ўкладышамі, адзнакамі алоўкам...

Любіў музыку... Апошнім часам накупіў дыскаў Хварастоўскага, слухаў. Надаваў увагу Марыо дэль Манака... Плачыда Дамінга... Апошнія свае дні, калі ўжо неяк адышоў ад усяго, дык вось адным днём папрасіў паставіць яму Шапэна... «Толькі не жалобны марш», — пажартаваў сумна...

## 5

Любіў вытворчасць, калектыў. Быў завадатарам розных імпрэзаў. Як пісалі раней у характарыстыках, «карыстаўся павагай калег». Некалькі гадоў быў старшынёй прафкама. Нічога — для сябе. Толькі для іншых. Мы займелі кааператыўную трохпакаёўку, здаўшы дзяржаве нашую ўтульную кватэру на Карастаянавай і шыкоўную матчыну кватэру ў Навагрудку, з відам на замак, але без выгодаў...

Хварэла мая мама... І пытанняў не было. Абмяняць — трэба было мець немаведама колькі часу, пасярэднікаў — розных дылераў, маклераў тады не было... Вырашылі — здаваць. І на першы ўзнос — год мы ў Мінску, а мама ў Навагрудку, — збіралі, седзячы ледзь не на адной вадзе, але не пазычалі, сабралі. І плацілі 15 гадоў па 45 рублёў кожны месяц: за такую ж дзяржаўную людзі не аддавалі і 10. І ніколі я не чула ніводнага слова папроку... І ніякіх спробаў нешта перайграць у зручны момант свайго старшынёўства... Сумленнасць — як аснова жыцця...

## 6

Да маіх творчых памкненняў ставіўся з павагай і разуменнем, часам знешне нібыта і крыху іранічна, аднак заўсёды прыходзіў на дапамогу. Ну, напрыклад, ён пакепліваў з ідэі займець камп’ютар, аднак калі я набыла гэтую «прыладу» з выпадку, ён тут жа ўстанавіў яе, змайстраваў сам спецыяльны стол і ахвотна даваў парады...

Да майго дня нараджэння Март зрабіў вельмі сімпатычныя візітоўкі — з маёй улюбёнай Афінай Паладай... Дапамагаў — заўсёды і надзейна. Прадумваў «варыянты»...

Як некалі, у першы месяц нашага знаёмства, ён вышукваў варыянты маршрутаў для нашых шпацыраў. І з тым жа непадробным імпэтам, як рашаў задачы, танчыў са мною на розных пляцоўках. Грошай у яго

не было, але на тую пару, у канцы 50-х — пачатку 60-х, танцы наладжвалі і на вуліцы каля інтэрната БДУ на Бабруйскай, і ў нейкіх дварах так званага прыватнага сектара. Уваход свабодны, усё бясплатна.

«Мне сегодня так больно, слёзы взор мой туманят», — пакутаваў голас з дынаміка. А нам было добра, мы танчылі і хадзілі па горадзе — ап'янелыя ад шчасця сустрэчы, шчаслівыя ад прадчування радасці...

Шлюб мы ўзялі праз пяць гадоў, але вось тое даўняе, ранняе, незабыўнае Март умеў вяртаць, трансфармуючы ў знакі канкрэтызаванай увагі, дапамогі, павагі...

## 7

Была такая звычка ў Марта — прыходзіў дадому і з парога з лагодна-хітраватай усмешкай гаварыў: «Нештачка дам». І даставаў пакункі: першыя трускаўкі, чарэшню, персікі... Любіў і ўмеў рабіць запасы на зіму — тут ужо актыўна падключалася і я.

Апошнім часам часцей хадзіў на кірмаш: «Пакуль ты тут збіраешся, дык я вярнуся». Гэта было праўдай, хаця ў параўнанні з большасцю жанчын я збіраюся хутка. Ён імкнуўся прынесці нешта цяжкое нават у апошняе сваё лета, а калі ўжо не мог гаспадарыць, вельмі перажываў: усё ты і ты... І ён, і я лічылі — часова...

Увогуле — не тое, каб жылі адным днём, аднак глядзелі на жыццё па-філасофску... 30, 40, 50... Што ж... Адмервае Пан Бог...

Юбілеі, дні нараджэння, святы сустракалі заўсёды. Па-рознаму. Дома і ў кавярнях, на працы... Заўсёды — святкавалі з настроем, весела, з тымі, хто быў нам цікавы, а не з «патрэбнымі людзьмі»... Помняцца мае даты: Алена Васілевіч, Ян Скрыган, Рыгор Барадулін са сваёй жонкай Валяй, Алесь Разанаў, Віктар Карамазаў, Генадзь Шупенька са сваёй Галяй... Тамара Васільеўна, сябра нашай сям'і, з мужам, Анатоль Варава з мамай — таксама даўнія сябры... Можна многіх згадваць...

У Марта асабліва помніцца 60-годдзе... «Апошні баль»... Было ці не паўсотні народу... Быў прыгожы стол...

...Нараджэнне Хрыстова, Новы год, Вялікдзень часта сустракалі і ўдваіх, аднак урачыста — касцёл (для мяне), царква (для яго), а потым урачыстая пачостка: святочны стол, святочныя ўборы: не мела значэння, што мы ўдваіх...

Таксама загадзя рыхтаваліся, імкнуліся павіншаваць блізкіх і сяброў, зрабіць, калі магчыма, некаму добрае...

«Любі бліжняга, як самога сябе...»

...Запавету гэтага ён трымаўся... Больш першай часткі... Самога сябе ён любіць і берагчы не патрапляў... Ці маглі берагчы яго іншыя?

Даўнавата пачаў скардзіцца на глухія, але сталыя болі ў сэрцы. Зрабілі кардыёграму — норма. Набыў электронны танометр: ціск падвышаўся. Гэта яго ўпэўніла — нешта з сэрцам.

Хвароба падышла да яго ўпрыцён. Болі ў пазваночніку... Дыягназы: радыкуліт, артроз... Масажы, магніты, фізіятэрапія... Накіраванні на аналізы ў 4-ю клініку... Усё амбулаторна...

А з 6 на 7 снежня, амаль апоўначы — неяк дзіўна, кульгаючы, здзервянела дабраўся да ложка... І больш з яго не ўстаў... 52 дні і 52 ночы...

У тую ноч «хуткая» прыехала — дзве субтыльныя дзяўчаткі. «Клічце суседзяў!» Яго трэба несці на насілках, каб везці ў шпіталь. Урэшце прыехалі нейкія мужчыны...

...У тую снежаньскую ноч яго кулялі з насілак на насілкі. Менавіта так — кулялі. Дзе яны, санітары? Дзе альтэрнатыўная служба? Урэшце — дзе платная служба? Потым высветлілася — ёсць такая. Аднак для гэтага трэба было ехаць на Захарава, на станцыю хуткай дапамогі, пісаць там — ад рукі! — ці не пяць асобнікаў нейкіх паперак, потым ісці ў банк аплочваць, зноў вярнуцца на тую станцыю, атрымаць паперку, а ў прызначаны час чакаць... Для гэтага трэба мець неблагое здароўе і сабачую вытрымку... Да таго ж — у тым медсервісе — урачы, суправаджэнне, санітараў зноў няма... Ну, урачы бяруць

насілкі самі... Але... У мясцовых правілах занатавана — вага павінна быць не болей за 70 кг... Дзе вы бачылі мужчыну нармальнага росту з такой вагой?

Яго кулялі з насілак на насілкі, караценькія, таксама разлічаныя на вельмі субтыльных пацыентаў... Я трымала яго галаву, нешта спрабавала дапамагаць... Пакуль у 5-й клініцы я голасна і жорстка не абвясціла: «Усё, больш з гэтага прыёмнага пакоя мы нікуды не паедзем»...

Зноў — каталкі... Зноў — жанкі... Злосныя, азвярэла-нядобразычлівыя... Нешта разам з імі спрабую рабіць і я. На мяне крычаць, як на рабыню... Ноч... З шостага паверха — у падвальны... Адзін рэнтген, другі... Ён маўчыць... Мужна, цярпліва... І так 52 дні і 52 ночы... Мужна і цярпліва маўчыць... Ці просіць: «Дастань мне атруту. Які сэнс у такім жыцці...»

Жыццё сапраўды нечакана і неабвержна падышло да свайго краю... У 5-й клініцы... Дзе ён спачатку меў надзею... Ён, а не я... Мне адразу, у першы ж дзень абвясцілі — катэгарычна, неабвержна — прысуд... Позна... Неаперабельны... Але ж... Можа, толькі ў нас, а магчыма і ва ўсім свеце — панаваў і пануе прынцып абсурду. Каб канчаткова зацвердзіць бясспрэчнае, трэба яшчэ зрабіць тое, тое, тое... Немагчыма без такіх кансультацый... Патрэбна канчатковае слова анколагаў... І г. д.

«Што мы тут робім? — пытаўся Март. — Што?»

## 8

У мяне была першая, нармальная рэакцыя — вырваць яго адтуль, завезці дадому. Усё, што рабілася, — гэта толькі для пацвярджэння ўжо вызначанага дыягназу. Чалавека прымушаюць пакутаваць, каб паставіць усе патрэбныя «галачкі». Аднак пакуль ён не атрымае патрэбных паперак: эпікрызаў, сведчання пра інваліднасць, нам не выдадуць лекаў: абязбольваючых, а пазней наркотыкаў...

О, гэтыя дакументы! Потым з-за іх трэба было яшчэ патрапіць на чатыры дні ў анкалагічны цэнтр пасля двух

тыдняў блуканняў па пакутах у 5-й клініцы. А потым (ужо мне) лётаць у МРЭК (Мінская гарадская медыкарэабілітацыйная экспертная камісія) і чакаць іх дома... А яны «праявіліся» знянацку — у МРЭКа ў гэты дзень была машына... Рэжым эканоміі... Што ж там такая дробязь, як чалавечае жыццё? Дзяржава эканоміць...

...А два тыдні кожнага ранку я бегла, ці, больш дакладна, прабачце, цёглася — праз увесь горад у 5-ю клініку... Мокры снег. Хлюпата. Слота. Як на той грэх, зламалася «маланка» на боціках...

Ад хаты да метро — паўгадзіны, на метро — восем прыпынкаў, сорак хвілін — ад метро да шпіталя. Там курсіраваў нейкі аўтобус, але яго чакаць — таксама ці не з паўгадзіны, ды не летнім днём... У мяне ў руках — посуд з журавінавым морсам, бярозавым сокам, яшчэ нейкімі сокамі... Фрукты...

Прылятаю ў палату — ён яшчэ ружовенькі, у бялюткай маечцы, такі на выгляд здаравячок... (Пазней ён схуднеў і стаў падобны да вядомага ідальга з Ламанчы...)

...Паміж намі — як сцяна... З маім пакутным веданнем прысуду — і яго няведаннем... З яго безапеляцыйна кароткім шляхам да іншабыцця і маім — пакуль невядомым...

...Зрушылася скала... Яго моц... Яго непахіснасць... Яго здароўе... У яго яшчэ была вера, але ён засяродзіўся на нечым сваім, патаемным, запаветным... Прынесла яму кнігі — не. Біблію — не. Газеты — адрынуў. Транзістар — выправіў дадому.

«Усё прайшло», — час ад часу паўтараў Март.

...Паміж намі —сцяна... І адначасова мы — як адно... З болю, адчаю, смутку... Кажуць: «Мая палавіна...» Мне здаецца, з 7 снежня ён — як тры чвэрці мяне... Ці наадварот...

Усё ў жыцці, рэчаіснасці сублімiравалася ў гэты куток — палата № 2. А ўсё астатняе — гэта іншае... Іншае існаванне, іншая свядомасць... Іншая планета...

Часам мне здавалася — гэта жудасны сон. Прачнуся — і ўсё, як раней. Не хацелася верыць — вось ён, рэальны, прыгожы, у цвярозым розуме... І ён — ужо як быццам і

не ён... Асуджаны лёсам. Да абавязковага. Да таго, што ніхто з нас не міне. Не пазбегне. Не ўратуецца. Нават самы шчаслівы. Самы разумны. Самы таленавіты. Аднак, калі... усё прапісана... Неаспрэчна... Ён яшчэ тут — і яго ўжо як няма...

*Мой конец предначертанный близок...*

...Мяне не пакідала адчуванне недарэчнасці, несправядлівасці... Гады немалыя... Аднак ён быў яшчэ поўны энергіі, нерастрачанай сілы... Зусім толькі што...

...Голас жыцця, прага жыцця — нібыта ўжо за межамі рэальнасці...

«...адгэтуль шчаслівыя мёртвыя, што ўміраюць у Пане. Сапраўды, кажа Дух, каб супачылі ад прац сваіх, і ўчынкі іх ідуць следам за імі» (Адкр. 14,13).

Замаўляла імшу ў царкве і ў касцёле... Не спадзеючыся на цуд... Ці яшчэ спадзеючыся...

...Ён, мой Март, яшчэ тут, рэальны — і ўжо недзе там, на нязбытным, няўмольным шляху... А я была ўпэўненая, што гэта ён будзе праводзіць мяне... Па-мойму, ён таксама прытрымліваўся пра сябе такой думкі... Паводле задумы натуры, паводле генетыкі — цёткі яго ледзь не да ста гадоў дажыліся, дзед, бацька яго маці, на якога Март быў падобны, таксама меў пад дзевяноста...

...Праўда, да адказу дактарыцы, што яго курыравала і па іроніі лёсу мела імя па бацьку «Маратаўна», дык да гэтага яе «звышпрафесійна-этычнага» фартэля ён неяк трымаўся...

«Доктар, ну, хаця б адну нагу мне вернеце?» — «Речь идет не о ноге, а о жизни и смерти!» — безапеляцыйна фыркнула дактарыца. І потым, як не спрабавала хаця б змікшыраваць афронт сваёй падначаленай загадчыца аддзялення Наталля Мікалаеўна Гола, добры ўрач і сімпатычны чалавек, ёй гэта не ўдалося...

Март зніякавеў пасля гэтай праўды... А трэба было чуць, у якой танальнасці тая рэпліка была вымаўлена... Якая там клятва Гіпакрата...

Март пасля выпаду дактарыцы больш нікому не тэлефанаваў па мабільніку, але ў шпіталі яшчэ адказваў на званкі... Пасля вяртання дадому ён не расставаўся толькі з гадзіннікам... А яго звышдакладны «камандзірскі» перастаў адлічваць час праз пару дзён пасля таго, як перастала біцца сэрца гаспадара... Містыка? Ці ён яго скінуў няўрокам ці ўдарыў? У любым выпадку не адношу наладжваць...

## 9

Кожнага дня я ўраніцы глядзела на гэты гадзіннік. З адчуваннем канца ранейшага жыцця... І з нейкай асобай пэўнасцю разумеючы: заканчваецца ноч (перажылі), пачынаецца раніца, ранішняе ўзнаўленне сувязі са светам. Прычынна-выніковыя сувязі імпульсаў і ўчынкаў... Перажыванне разбурэння часу... Незаўважна кароткае цяперашняе — з яго аграмадным, жудасным зместам, доўгія-доўгія пакуты... Смерць — з яе неспасцігальнай эмпірыкай... Абстракцыя — іншабыцця... Небыцця... Неўяўляемых уяўленняў... Існаванне ў крохкай, даўкай, рэальнай і ўяўнай рэчаіснасці... Рэальнасці, у якой нібыта скандэнсаваліся трывога, чаканне, безнадзейнасць, страх... І яшчэ амаль радасць — ад маленькіх, дробязных прыемнасцяў: вось яму спадабаўся прынесены сок, вось у яго палату, хоць на пару гадзін, падсялілі не чалавека ў безнадзейнай коме, не спінальнага хворага, а пацыента, што досыць свабодна перасоўваўся ў прасторы і мог падтрымаць гаворку, не абавязкова пра хваробу... Вось прыходзіць пасля выхадных санітарка Раіса Сямёнаўна — заўсёды ў гуморы, добразычліва-ўмелая, гаваркая... Пасля суботня-нядзельнага дыктату гарылападобнай садысткі, старшай медсястры Ларысы, якая асуджанаму на смерць хвораму пашкадавала шклянку вару, — гэта ўжо цешыць і амаль радуе...

А наконт шклянкі кіпяточку... Потым я прынесла і тэрмас, і кіпяцільнік... Кухні ў шпіталі не было, сняданкі-абеды-вячэры прывозілі аднекуль... У даўнія

часы ў шпіталях і, дарэчы, правінцыйных раённых гасцёўнях стаялі старарэжымныя бачкі з кіпяточкам... Ну, у век Інтэрнэту і камп'ютараў іх ужо няма... Але ж і на замен ім нічога няма. Халадзільнікі — у наяўнасці. А тут... Аказваецца, у вестыбюлі былі аўтаматы з кавай (у шпіталі!) — і ўсё. Электракіпяцільнікі — таксама кантрабанда...

Увогуле — чаго толькі не давялося чуць у той 5-й клініцы! Даведацца пра гэты асобы від чалавека (ці недачалавека?) — санітарка... Чаму яны, ненавідзячы і сваю працу, і калі не ўвесь род людскі, дык хворых — пэўна, не кінуць гэты занятак і не пойдуць у гандаль, на кірмаш, на вытворчасць? Гэта так і засталося для мяне загадкай...

...А забрала адтуль майго Марта напярэдадні Нараджэння Хрыстова, паводле ўсіх, здаецца, хрысціянскіх канфесій, акрамя праваслаўнай артадоксіі. 24 снежня...

...Навучылася рабіць уколы. Карміць яго з лыжачкі. Слухаць яго балючае пытанне: «За што?» — і не ведаць на яго адказу.

...Бог вызначае пакуты абраннікам сваім? Сапраўды, ёсць «малітва аб захаванні ад раптоўнай смерці»... «Прашу Цябе, каб у гадзіну смерці маёй Ты меў ласку захаваць мне свядомасць, мову, шчыры жаль за грахі, сапраўдную веру, моцную надзею і дасканалую любоў да Цябе».

Усё гэта Найвышэйшы захаваў Марту, які меў тую сапраўдную веру, дарэчы, ніколі не расставаўся з абразком Святога Марка (гэты абразок пайшоў з ім і ў іншабыццё)... Але ўцаркоўленым вернікам не быў — не ведаю чаму... Для мяне Касцёл — увасабленне і сімвал Веры і касцёл — бажніца, куды мне неабходна хадзіць да Святой Імшы і ў светлыя і горкія гадзіны...

Наканаваўшы вялікія пакуты Марту, Пан Бог даў яму найвялікшае цярпенне і мужнасць... Ніводнага стогну, скаргі... Хіба што просьбы — самыя простыя...

...Боль яму сцішвалі ўколамі... Пачыналі з так званай «трайчаткі»: анальгін, папаверын, дымедрол... Потым — рознае... Найперш — трамадол... Страшэнна пакутаваў ён

ад нязручнасці стану, ад параплегіі... Часта задыхаўся... Уколы я рабіла яму і раннім ранкам, і некалькі разоў на дзень, і ўвечары... І ўначы... Звычайныя «хуткія» і спецбрыгады (паводле яго хваробы ці, больш дакладна, паводле спадарожных анамаліях) былі ў нас ледзь не кожны дзень.

...Бездапаможнасць... Гэта найбольш прыгнятала яго. І безнадзейнасць... Пасля той рэплікі-«эпікрызу» доктаркі ў яго з'явілася спадзяванне, калі павінны былі перараправіцца ў іншую клініку: анкалагічны цэнтр. «Знайдзі Сашу. Патэлефануй яму...» Саша — мой зямляк, наш агульны добры знаёмы, яго бацька і мая мама мелі стасункі ў працы, паважалі адзін аднаго як прафесіяналы і як сумленныя людзі... Цяпер Саша, Аляксандр Васільевіч, — сур'ёзны медык, на высокай пасадзе... Адразу адгукнуўся... Як зямляк... Высакародны чалавек... Дастойны сын свайго бацькі... Дарэчы, ганаровага грамадзяніна Чэхаславакіі, дзе ён падчас Вялікай Айчыннай вайны быў у партызанах...

Аляксандр Васільевіч адгукнуўся... Але было позна...

Не ўмеў Март сябе любіць... Не ўмеў...

Пасля вяртання дадому з анкалогіі ў яго было, мабыць, падвойнае адчуванне: трывога — нічога ж не рабілі: ні аперацыі, ні абпраменьвання... Светлата — ад вяртання ў родную хату, у любімы пакой, які ён зваў «святлічкай». Родныя сцены, звычная атмасфера, любімыя рэчы... Прыгожа, светла... У суседнім пакоі, сумежным, два ражкі люстры гарэлі ўсю ноч — ён не хацеў цемнаты...

25 снежня ён нават крыху паеў і зрабіў глыток каньяку... Пасля гэтага — толькі булёны з лыжачкі, ёгурты, зялёная гарбата, спачатку журавінавы морс — пазней ён і ад яго адмовіўся — і вада, вада, вада... Бона аква... Я на яе цяпер глядзець не магу...

Аднаго разу схамянуўся: «Чым вы мяне лечыце?» Я добрасумленна прачытала яму анатацыі...

У асноўным ляжаў з напаўпрыкрытымі вачыма...

«Што ты мне тэмпературу мераеш? Я ціха паміраю...»

## 10

*«Мой конец предначертанный близок...»*

...Ён губляў сілы... Нават дужыя, прыгожыя рукі яго сталі губляць сваю моц...

Часам спрабаваў жартаваць... У 5-й клініцы: «Звані, прыходзь, я нікуды не пайду...» Дома, калі паклікалі суседа, каб ён дапамог крыху змяніць пазіцыю цела: «Заходзьце, у карты згуляем...» Гэтая рэпліка — літаральна за пару дзён да яго апошняга дыхання...

А я і ў апошні дзень бегала па аптэках... Ледзь не праз дзень выстойвала чэргі ў паліклініцы, каб выпісаць лекі...

«Пасядзі са мной», — усё часцей прасіў Март. І ніколі, мабыць, не было паміж намі такой бездані і такой паяднанасці і разумення, як у гэтыя апошнія 52 дні і 52 ночы. Час безнадзейнасці... І нейкай надзеі... Хаця б на месяцы жыцця... Дні... Гадзіны...

...Залатыя кроплі жыцця...

«Пасядзі са мной...»

...Тэлефанавалі многія... І калі не ведалі. І калі даведаліся. На званкі не адказвала. Што гаварыць? І калі? У мяне была занятая кожная хвіліна... Падтрымлівала сувязь толькі з некалькімі людзьмі — тымі, дзе ўсё таксама трымалася «на тонкім лёдзе».

Прыязджала праз дзень-два Іна, надзейна дапамагала «трымаць вахту» каля брата... Яе мужа і дачку Верачку мы «вызвалілі». Яго — паводле стану здароўя, яе, студэнтку, з-за экзаменацыйнай сесіі, ды і з этычна-эстэтычных меркаванняў: хай застанецца ў любімай пляменніцы памяць пра здаровага, вясёлага і моцнага дзядзьку... Ён сам найперш не хацеў, каб яго бачылі ў такім, мякка кажучы, не лепшым стане... Ні сваякі, ні калегі, ні знаёмыя... Калегі па апошняй яго працы акуратна тэлефанавалі... І падчас хваробы, і пасля таго апошняга дня...

...Мае землякі... Навагрудскія...

...Мае калегі... Па Саюзу пісьменнікаў... Па рэдактарскай працы... Хто пісаў мне, хто званіў... Уладзімір Арлоў, Уладзімір Васілевіч, Таня Зарыцкая...

А ўрачы «хуткай»... Былі такія дасведчаныя, уважлівыя... Адна з доктарак зрабіла патрэбныя ўколы Марту і сказала мне: «Увяла яму добрую дозу — будзе спаць. У вас жа твар...» Тамара, прыйшоўшы, праясніла: «Што з Асвенцыма».

Былі медсястрычкі ў анкалагічным цэнтры, якія вярнулі забыты мабільнік...

І, безумоўна, была фірма «Белрэквіем». На фоне ўсіх выпрабаванняў на трываласць, калі чалавек памірае, так бы мовіць, на агульных падставах: не ў лечкамісіях, не ў прывілеяваных шпіталях, гэта быў відавочны дарунак Провіду. Усё — пачынаючы ад першапачатковага рытуалу да апошніх крокаў (нават паперка-сведчанне пра смерць, прынесеная ў суботу), дык усё было зроблена на самым высокім узроўні і за тую ж цану, як у дзяржаўных установах рытуальных паслуг. Высокапрафесійна, дакладна, карэктна. Нават — выдатны святар. Нават — белыя ружы назаўтра раніцай...

Дзякуючы гэтай фірме мы — я, яго сястра, швагер, пляменніца — маглі па-хрысціянску, з малітвай, па-чалавечы развітацца з ім. Апошнія імгненні разам з ім, каля яго...

Адчуць сумную непаўторнасць гэтых гадзін, хвілін... Ужо няма пакут, яшчэ не зусім усвядомленая бездань адчаю, спустошанасці... Страты... «Усё прайшло», — як прамаўляў Март... Да апошняй хвіліны ён быў у прытомнасці, але ўжо не зусім тут, ужо недзе на мяжы зямнога быцця... «супачылі ад трудоў сваіх, і ўчынкі іх ідуць следам за імі»...

## 11

...Пражыў ён не так мала... Але быў поўны планаў, надзей... Моцы... Не зжыў сябе...

Фартуна дапамагае моцным?

...Ён быў моцны... А пані Фартуна...

...Гляджу на неадпрэчнае шэсце вясны... Расцвіла пад акном ігруша... Распачалі свой маёвы баль каштаны...

...Апошнім часам у нас з Мартам усталяваўся звычай: калі нехта з нас адзін адыходзіць з дому, праводзіць з лоджыі. Вось ён рабіў знак рукой, шыбаваў па сцежцы... І знікаў за дрэвамі — летам... А зімою — нібыта за небакраем...

«Малады чалавек на лініі гарызонту, вярніцеся!» За небакраем...

«Вярніцеся!»

...Не вяртаецца...

...Не вяртаюцца... Ні ён... Ні маладосць... Ні жыццё...

...Толькі распушыліся бярозы, у тым ліку і пасаджаныя асабіста ім каля нашага дома — ужо ці не ўпоравень з дзевяціпавярховікам... На вышыні палёту ластавак...

...Некалькі гадоў таму падчас урагану, які не адно дрэва знёс у горадзе, Март з трывогай глядзеў на свае бярозы... Выжылі... Выстаялі... Зноў высяцца ў сваім карункавым харастве... Ягоны след...

Ўсё знікае, праходзіць, як дым,
Светлы ж след будзе вечна
жывым...

Ці не пра тое — галасы птушак, што прыляцелі да змайстраванай Мартам кармушкі?

# ЗМЕСТ

**Раздзел II.Genius saeculi**



**Раздзел III. Для вечнасці Беларусь**

**Сямёнава, А.**
C99 У святой краіне выгнання : імпрэсіі, адлюстраванні / Ала Сямёнава. — Мінск : Кнігазбор, 2011. — 488 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 10).
ISBN 978-985-6976-84-4.

У кнігу ўвайшлі роздумы пра адухоўленае верай і думкай існаванне чалавека, пра сэнсавыя рытмы жыцця. Пачуццё і факт, эстэтычна-філасофскія разважанні і побытавыя замалёўкі, лірычныя споведзі і лёгкая іронія спалучаюцца ў адзіную плынь – спробу спасціжэння Часу і Вечнасці, Гісторыі і Быцця.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84 (Беи)**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 10

**Сямёнава Ала Іванаўна**

# У святой краіне выгнання

Імпрэсіі, адлюстраванні

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Алесь Пашкевіч
Вёрстка Людмілы Фомчанкі, Ларысы Ваўчок
Карэктура Вольгі Рухлевіч, Алены Спрытніч

Падпісана да друку 26.04.2011. Фармат 84х108 1/32.
Папера афсетная. Друк на рызографе.
Ум. друк. арк. 25,62. Ул.-выд. арк. 20,49.
Наклад 300 ас. Зак. 321.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.